Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Лявона Вольскага:
на 1-й стар.: «Напярэдадні», 2017;
на 4-й стар.: малюнак з нізкі «Гравітацыя», 2019 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 26.02.2021 г. Падпісана да друку 25.03.2021 г.
Фармат 70х108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 500 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№2 (111)
/сакавік-красавік/ 2021

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Андрэй Хадановіч.**
Калі дажывем да адлігі... *Вершы.* / 5
**Ігар Сідарук.**
Нам дротам зашывалі рот. *Вершы.* / 140
**Зміцер Захарэвіч.**
Белая музыка. *Вершы.* / 170
**Валер Ягораў.**
Палёты ў сне. *Паэтычныя мініяцюры.* / 201

**Проза**

**Уладзімір Някляеў.**
Гэй бэн гіном. *Раман. (Працяг).* / 15
**Уладзімер Арлоў.**
Лета. *Фрагмент рамана.* / 149
**Віктар Казько.**
Сімка-Серафімка-2.
*З цыкла "Лёнькі, Ваські, Валодзькі".* / 179
**Марыя Сцяфанава.**
Верачка і Ганначка. *Апавяданні.* / 204

**Дэбют**

**Настасся Казак.**
Лічбавая Ева. *Вершы.* / 210

**Пераклады**

**Крысцінэ Нёстлінгер.**
Конрад, альбо Хлопчык з кансервавай бляшанкі.
*Урывак з рамана.*
*Пераклад Арцёма Арашонка.* / 214

**Мастацтва**

**Адам Глобус.**
Лявон.
*Словы пра рокера Лявона Вольскага.* / 233

**Запісы**

**Уладзімір Ліпскі.**
Каранацыя душы. *Споведзі. (Пачатак).* / 241

**Эсэ**

**Уладзімір Мароз.**
Новая зямля Якуба Коласа і Новае неба
Казіміра Малевіча. / 249

**Павал Абрамовіч.**
“Баравікі мне часта сняцца...”
*Якуб Колас на грыбных ростанях.* / 254

**Кнігапіс**

**Васіль Жуковіч.**
Сёмая вышыня.
*Рэцэнзія на кнігу Леаніда Левановіча.* / 259

Андрэй Хадановіч



...Не выбіралі радзім.
Проста – месца і час,
дзе ў бяздонне глядзім,
а бяздонне – у нас...

# Калі дажывем да адлігі...

* * *

У Чарэі вечарэе,
ноч над Сэйнамі ўстае.
Вершы Мілашаў Андрэю
будуць сніцца, як свае.

Над Царквою Белай ветах
стаў, як вартавы ўначы.
Ходзяць вершы па сусветах
і спяваюць, ідучы.

Проста з возера сузор'і
ў два каўшы пілі святло.
Памянялася надвор'е –
і сузор'і замяло.

Кніга снегу – і заечы
след, як дарчы надпіс там.
Дзяцел трохі недарэчы
грукае анапестам.

Не пытайся, дзе і хто ты,
бо ў нябёсах не да нас:
проста ў белыя сумёты
з неба выпадае час...

Глуха, людзі, ў Краснагрудзе
і ў Чарэі ні душы.
Іншых Мілашаў не будзе,
прачынайся – і пішы.

* * *

Памяць блытае сцежкі,
вабіць на тонкі лёд.
Лепіць з аблокаў снежкі,
цэлячы ў твой самалёт.

Дражніць. Драпае. Глючыць.
Кашляе давідна.
– Больш не будзе балюча?
– Будзе, кажа яна.

З намі ў кожным дакоры –
імі паўзверх турмы
дыхаюць на ўсе зоры
поўныя грудзі зімы.

З намі ў бальнічных чэргах.
З роднымі лічыць дні.
Вучыць на саўндчэках
крыку і цішыні.

Мае ключы й паролі.
Смерць абжывае ў сне.
– Мы не памрэм? Ніколі?
Абяцае, што не.

* * *

Калі дажывем да адлігі
і трапіць шампанскае ў кадр, –

чытаць будзем лепшыя кнігі,
хадзіць у сапраўдны тэатр.

Загояцца шнары і раны,
закончацца ганьба і трэш.
Расхлёбвае кашу абраны –
той/тая, каго абярэш.

Мільгне навіна-бліскавіца:
за ўсё атрымаў ліхадзей.
І едуць турысты дзівіцца
на неверагодных людзей.

Выгнанцы – адкрыта мяжа ім! –
вяртаюцца валам сюды.
І самі сябе паважаем,
бо выстаялі ў халады.

Зноў бачыць феміда сляпая,
праслаўлены кожны герой.
...Ды ўсё-ткі чагось не хапае,
па чымсьці сумуем парой.

Даўно прышчапілі заразу,
не чуем гранатаў і куль.
...Схаваўшы нянавісць пакуль
ля сэрца, да іншага разу.

* * *

Снег засыпаў адлігу,
выпаў на галалёд,
бы апрануўшы кнігу
ў футравы пераплёт.

Завіруха сляпая,
несучы халады,
крок за крокам ступае
проста ў твае сляды.

Вучыць, пакуль сумёты
вешае на камлі,
што няма без сумоты
й радасці на зямлі.

Колерам пазначае
кожныя паўствала:
чорны бок – для адчаю,
белы бок – для святла.

Сыпле ў тваю кармушку
жменьку новых радкоў.
Бел-бела-белую стужку
вяжа на вейкі вякоў.

Робіць дрэвы і дровы
пушчаю белых веж.
Радая, што здаровы.
Больш за тое, жывеш.

### *НАЧНАЯ ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА*

Выйду з гасцей апоўначы ў двор:
цёмна, толькі ўгары
хтосьці ўключыў ліхтарыкі зор,
быццам пяюць "Муры".

Дзяцел збег у Літву, як шпег,
сочыць сава, як віж.
Добрае ночы, леташні снег,
дзякуй, што так рыпіш.

Тут халадэча з вады чужой
снежны пляце вянок
і замярзае па-над мяжой
тэлефонны званок.

Тут удыхаеш горкі дымок
з думкай: "А як твае?" –
там, дзе людзей забірае цмок,
і не ўсіх аддае.

Там на губах застывае крык
з мацернай лічбай пі...
Так што давай, шукай сакавік,
рыпайся, снегам рыпі.

За паваротку – і проста ісці
праз пагорак і стаў,
праз надзею, што ўсё ў жыцці
будзе, як ты загадаў.

Проста крочыць да сонца, каб
святаў сакавіка
з песнямі котак і танцамі жаб
дачакала дачка.

Травеньскі дзьмухаўцовапад
спусціцца на зямлю.
Ну, а пакуль – ні кроку назад:
рыпаюся, рыплю.

### *ДРУГАЯ ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА*

Калі накрывае боязь
і зябкая цішыня,
і снегу набраў па-пояс,
і больш дарогі, чым дня.

Калі вузее сцяжына
й губляецца ля мяжы, –
здаецца, што свет – чужына,
і ты ў ёй захрас, чужы.

Бо хутка – цемра глухая,
і ўжо не мінуць бяды
таму, хто ідзе і махае
рукамі – у такт хады.

Не ведаеш, ці сагрэе
паэзія хараством,
ды проста ў рытме харэя
чапляеш бок рукавом.

“Ф’юць-ф’юць” – як голас птушыны,
рыпенне курткі твае.
Як раптам з-за белай альшыны
сініца ў адказ пяе.

І значыць, трапіш дадому,
бо спеў – тутэйшы цячэ.
А дзень даўжэе, вядома.
І заўтра – даўжэйшы яшчэ.

* * *

Цемра, вецер і снег.
Студзень загнаў у кут.

Хто захацеў – збег.
Хто не хацеў – тут.

Не выбіралі радзім.
Проста – месца і час,
дзе ў бяздонне глядзім,
а бяздонне – у нас.

Дзе ў папяровым лісце –
скрэсленыя тамы,
дзе завіруха мяце
пад фанаграму зімы.

Крапае страхам ноч,
кратае вокны стынь,
кажа смеламу: “збоч”,
кажа ўпартаму: “кінь”.

Селіць у сны кашмар,
топіць святло ўначы,
марнасці ўласных мар
не разумеючы.

Як патлумачыць тым,
з ядавітым хвастом:
той, хто будуе дым,
больш не збудуе дом.

Як ні катуй дзіця
ў страшнай казцы айчым,
наша казка жыцця
скончыцца ясна чым.

Дыхай на пальцы зімы,
покуль сонца ў грудзях.
Над мурамі турмы
заўтра вывесяць сцяг.

* * *

Сонца спрыяе сонным,
трохі марудзіць зноў,
покуль пад парасонам
мружыцца пара сноў.

Памяць падслепавата
ў сэрца ўганяе шып –
снег ля вокнаў, як вата
між бабуліных шыб.

Па-над страхой гаркавы
пах пералётных дроў.
Рэкі ранішняй кавы
упадаюць у кроў.

Дзень пачаўся сняданкам,
штось раблю пакрысе.
Дзень пачаўся світанкам –
і мінуў, як усе.

Сонца знікае, знікла
ў прыцемкі ды імжу.
Вокам праводжу звыкла –
і наўздагон кажу:

“Дзякую вам, зямля і
неба, за хлеб і жытло;
што блукаць дазваляе
і знаходзіць святло –

той, хто снегам надзённым
беліць свет на дварэ,
хто падарыў жыццё нам,
а пасля забярэ”.

Поўнач крочыць па сходах,
пара гусцее на шкле.
Дзякуй за кожны подых
у цяпле і святле!

* * *

Слова “шчасліўчык” – нібы дакор.
Боль стаў вышэйшай асветаю.
Так, але неба збярэ вольны хор
зорак, якіх я не ведаю.

Сон у калючы звіваецца дрот,
ноч калыхае жуду маю:
сню сябе ветрам, што ломіць чарот,
бо толькі я слушна думаю.

Так, але колькі ні плач у лістах
расчараваннем і стомаю, –
раніцай з выраю вернецца птах
з назвай, табе невядомаю.

## *СНЫ АБ БЕЛАРУСІ*

Бачыў заўчора сон –
апакаліпсіс now:
бег за малечай амон.
Дзякуй, што не дагнаў.

Сніўся ўчора патруль –
біў па нашых дамох
градам гранат і куль.
Дзякуй, забіць не змог.

Сёння сніў, як маньяк
слухаў оперных дзіў, –
цягнучы ў аўтазак.
Дзякуй, крык абудзіў.

Пра сяброў на вайне.
Пра суды і турму.
Хай бы ўсё толькі ў сне.
Хай бы мне аднаму.

* * *

*Падае снег зранку...*

**Міхал Анемпадыстаў**

Падае снег, падае,
як на зямлю чужую.
Быццам бабуліна радыё
з Новым годам віншуе.

На бульвары й завулкі
сыпле мяхі белі,
цёплыя сны сцеле
тым, каму сон – мулкі.

Выпаў, як выхадныя.
Выпаў, як суцяшэнне.
Тым, хто плача і ные, –
за каўнер і ў кішэні.

Падае, нібы з горкі.
Кружыцца ў рытме вальса.
Быццам запальвае зоркі
тым, хто й не спадзяваўся.

Вечнасцю барадатай,
што на вачах маладзее.
П*а*дае з неба цытатай –
і пада*е* надзею.

* * *

Вучымся жыць з болем,
што прарос і паспеў.
Полем яго, колем
сэрца аб вечны спеў.

Дні – як дзесяцігоддзі,
а хвіліны – як дні.
Боль, супыніся, годзе.
Пашчу сваю заткні.

Радасць у чорным спісе,
з'ехала за мяжу.
Прэч. Сыходзь. Адчапіся.
Хопіць, каму кажу.

Простых правіл бяспекі
больш не будзе, стары.
Дзе вы, новыя лекі,
новыя дактары?

Вучымся жыць з болем,
сціснуўшы між зубоў.
Полем яго, колем
сэрца аб дзіды шыпоў.

Боль не літаратура,
проста ўголас крычу.
І зелянее скура,
і чарнее ўваччу.

З клеткі сябе самога
як ні рвіся, – дарма.
Мроіцца перамога,
каб адступіў – і няма.

Толькі радасць, якая
закіпае ў крыві:
Госпадзе, адпускае.
Ён сыходзіць. Жыві.

### *ТРЭЦЯЯ ПЕСНЯ ВАНДРОЎНІКА*

Падарожнік едзе дадому:
як сустрэне дом, невядома.
Край цяпер – паўстаюць карціны –
непрыветны і негасцінны.

Тут працуе канвеер завеі,
тут валоссе хутчэй сівее,
тут вылазяць з бярлог мядзведзі,
тут не кожны дадому едзе.

Тут па дворыках ходзяць пешкі,
тут гуляюць з фартунай у снежкі,
тут знікаюць мірныя людзі.
Ды без нас тут нічога не будзе.

Бо інакш – халера і трасца.
Ён прыедзе – і ўсё нам удасца,
бо за першым – другі і трэці,
пяты, шосты і ўсе на свеце.

Хай не згубіцца падарожны,
хай вясны дачакае кожны,
хай праб'юцца праз холад і стому
дзівакі, што едуць дадому.

*Студзень-люты 2021, Краснагруда-Менск*

Уладзімір Някляеў



...кахаць – гэта камень жыцця твайго
ў неба ўзносіць...

# Гэй бэн гіном

***Раман***

*Працяг. Пачатак у №1 (110).*

## XXI

– Бачыце: спачатку лопаюцца вочы, потым праз вачніцы, праз рот, праз вушы пачынае выкіпаць кроў, галава адкідваецца назад, шво чэрапа разыходзіцца і запальваюцца мазгі, бачыце зеленаватае полымя? – не гледзячы ў круглую адтуліну печы, перад якой пасадзіў Купалу, падрабязна распавядаў пра тое, што ў печы адбывалася, дырэктар крэматорыя, які, знаёмячыся, назваўся палкоўнікам Несцярэнкам, а Спагада прасіла, за спінай стоячы: "Не глядзі, Янка, не глядзі..." – і далонькай спрабавала засланіць яму вочы. – Такім зеленаватым полымем толькі мазгі гараць, усё астатняе звычайна, як дровы, – голасам экскурсавода казаў палкоўнік Несцярэнка, і Купала адводзіў руку Спагады, не мог адарвацца ад жахлівага відовішча, якое магнетычна прыцягвала. – Верхняя частка тулава прыпадымаецца, скрыжаваныя рукі раскідваюцца... Во, вы ажно

адхіснуліся. Сапраўды, здаецца, нібы жывы згарае... У геене вогненнай... Нас палохаюць, што па смерці ў ёй гарэць будзем, а мы пры жыцці ў ёй гарым... Прагарае грудная клетка, пачынае гарэць сэрца. Шкілет дагарае, але захоўвае форму, пакуль не дагараць вантробы... Лёгкія, страўнік, ныркі, печань... Чамусьці печань апошняя спапяляецца. Прычым, і ў цвярэзнікаў, і ў п'янтосаў, хоць у апошніх мусіла б раней згараць, праспіртаваная... Вы як, дарэчы, да гэтага? Можам у маім кабінеце вас памянуць.

На прапанову палкоўніка Купала ніяк не адрэагаваў. Маўчаў. Сядзеў і глядзеў на прах. На попел. На тое, што засталося ад жыцця.

– Што ж, пасядзіце, – сказаў палкоўнік. – Гэта ўражвае, я вас разумею.

Купалу ўспомнілася, як у Сеніцы, куды пераехалі ягоныя бацькі, калі яму гадоў сем было, захварэў іхні сабака. Дні тры праскавытаў, бедны, і як Янка з маці ні даглядалі яго, чым і як ні лекавалі, спруцянеў. А ў суседа якраз гусі задралі лапы ад нейкай заразы – і ён павёз іх пад вечар за вёску, каб спаліць. Кінулі на воз і спруцянелага сабаку. Выкапалі яміну, наклалі дроў, і калі ўзялося полымя – сабака ўскочыў і пабег. На ім гарэла поўсць, з яго кавалкамі злятала спаленая скура, а вогненны сабака бег, бег і бег, пакуль не ўпаў клубам агню на сваім падворку.

– Ты глянь, – выдыхнула маці. – Мёртвы, спалены, а вярнуўся...

Пазней Янку і маломy, і даросламу не аднойчы снілася, што і гусі ўскрылілі – і ляцелі, вогненныя, рассыпаючы іскры, у вечаровых нябёсах.

“Мусіць, я не памру, пакуль не вярнуся на свой падворак”, – падумаў Купала, гледзячы ў печ, дзе, астываючы, сівеў ягоны попел, які ўскідваўся раз-пораз, нібы намагаўся ўзляцець, і ападаў бяссільна. “Рассыпаючы іскры ў вечаровых нябёсах...”

Падняўшыся, ён адчуў, што хістка стаіць на нагах. Вогненнае відовішча моцна ўразіла яго.

– Трэба неяк на свой падворак вяртацца, – сказаў ён дырэктару, які не зразумеў: “Што?..”

“Позна... позна... позна... – ціха заплакала Спагада, якая, з'явіўшыся на пахаванне, ужо не пакідала Купалу. – І гэта праз мяне, праз мяне, бо я позна прыйшла да цябе, бедны мой, бедны, бедны...”

– Чуеце? – спытаў дырэктар. – Так бывае. Попел, калі астывае, плача. А вось тут попел ужо астылы, – павёў ён позіркам па сценах, у якія былі ўмураваныя шыльдачкі: “Большевик-чекист товарищ...”, “Член ВКП(б), стойкий большевик...”, “Один из старейших деятелей большевистской партии...”

Прозвішчы стойкіх бальшавікоў нічога Купалу не казалі. Апроч аднаго: “Усевалад Мяркулаў”.

– Зарэзервавана, – сказаў дырэктар на здзіўлены позірк Купалы. – Яго расстраляюць і ў гэтым крэматорыі спаляць у снежні 1953-га. Разам з Берыем.

– А Берыя дзе? – спыніўся Купала каля шыльдачкі, на якой надпісу не было, але дырэктар крутнуў галавой: “Не. Таварыш Берыя не рэзерваваў. Не верыць. Зрэшты, як усе, пакуль мазгі не загарацца”.

Крэматорый на Данской, куды прывезлі Купалу з Саюза пісьменнікаў, месціўся ў былым храме святых Серафіма Сароўскага і Ганны Кашынскай, збудаваным на колішніх гародах Данскога манастыра. Храм быў двухпавярховы. Верхні паверх, царкву Серафіма Сароўскага перарабілі ў рытуальную залу, а ў сутарэннях храма, у царкве Ганны Кашынской паставілі на месцы алтара прывезеную з Нямеччыны крэмацыйную печ.

Выйшла тое, што трэба.

“У нас раз – і з пекла ў рай, – жартаваў дырэктар, прапаноўваючы Купалу паглядзець, як ён будзе згараць. – Зручна і хутка. Для мужчын вашай камплекцыі час у дарозе займае гадзіну і дзесяць хвілін. Жанчыны згараюць хутчэй. Хоць жывуць даўжэй. Вашы ўсе жывыя?..”

Так. Ягоныя ўсе жывыя. І Уладзя, і Паўліна, і жанчына з імем Спагада, і дама з Кацельніцкай з імем святой.

Вось што яго найбольш здзівіла. Ён меў столькі фантазій, але ўявіць не мог, што ў самым канцы шляху, там, дзе супадаюць жыццё і смерць, супадуць імёны святой і грэшніцы. Што ён згарыць, што яго спаляць у храме яе імя.

На іх апошняе спатканне яна прыйшла нервовая. З парогу кінула: “Хачу выпіць!” І калі выпілі, спытала: “Ты ведаеш святую Ганну, якую пры цару Аляксею Міхайлавічу кананізавалі?” Ён адказаў, што каталік, таму праваслаўных святых не ўсіх ведае, але гэтую – так, бо яна адзіная святая, якая падпала пад анафему за тое, што двума пальцамі хрысцілася, а пасля зноў была прызнаная святой. “Дык вось і я святая была, а цяпер пад анафему падпала, – сутаргава абняла яго Ганна. – І святой мяне зноў наўрад ці прызнаюць. Хоць двума пальцамі перахрышчуся, хоць трыма”. Ён сказаў іранічна, падумаўшы пасля, што дарма так сказаў: “Можа, цар зміласцівіцца...” – і яна паднялася: “Толькі не гэты! Пайду я, нельга мне тут!”

Ён трымаў яе, яна рукі заломвала: “Ты разумееш, што гэта канец?..” Дайшло да істэрыкі: “Госпадзі! Якога д’ябла, на якое ліха ты прыпёрся? Клікалі цябе?..” І калі ён сказаў, што клікалі, істэрыку з яе як рукой зняло. Села, закурыла і спытала: “Хто?..”

Яны пазнаёміліся тры гады таму, калі яму ўручалі ордэн. Быў банкет, і на банкеце яна падышла да яго. Уся бліскучая, пад руку са старшынёй прэзідыума Вярхоўнага Савета Калініным: “Віншую!” Ён падумаў: “Што за краля такая, якая пад руку з усесаюзным старастам?..” – а яна, выпіўшы шампанскага, спытала: “Праводзіце мяне дахаты?.. ”

“Гэтая актрыска шалёная, – шапнуў яму, калі выходзілі, Асееў, ягоны добры знаёмец, паэт, вершы якога ён любіў і перакладаў. – На яе спектаклі Сталін ходзіць, так што глядзіце...”

Што глядзець?..

Быў люты, было па-лютаўску зімна, і нават пытацца не трэба было, ці можна зайсці, каб сагрэцца. “Ты згарыш у маіх палымяных абдымках”.

Ён спытаў: “Такія ў Малым тэатры прамаўляюць тэксты?..” – і яна сказала, што ў Вялікім таксама.

Раніцай папрасіла: “Напішы для мяне п’есу”.

“Вось так, – ён падумаў. – Акторы на сваіх месцах. Усё, як заўсёды. Што ў Мінску, што ў Пецярбурзе, што ў Вільні, што ў Маскве...” Спытаў: “Каго б ты сыграць хацела?” – і яна не сказала, як іншыя найчасцей казалі: “Ну, не ведаю...” – і на пальцах невядома што паказвалі, а ўскочыла ў ложку: “Каханку Бога!.. – І ўпала на яго, да крыві цалуючы, проста ўгрызаючыся ў вусны. – Ці каханку д’ябла!”

Ён здзівіўся: “Табе ўсё адно?..”

– Або тваю каханку, – сказала яна, калі праводзіла. – Але напісаную так, каб усё гарэла... Я гатовая дзеля кахання жывой згарэць.

Малы тэатр.

– Вось, глядзіце: гэта паўднёвы морг, – наладзіў яму экскурсію па

крэматорыі дырэктар. – Тут секцыйны пакой, але нам сюды не трэба, вас сказалі не рэзаць.

Чаму?.. Зрэшты, не важна, чаму. Добра, што не рэзаць сказалі. Ён помніў нежывое адчуванне нажа, калі ўзразаў жывот.

За дзвярыма морга чуўся голас. Нібы знаёмы.

– Адтуль голас чуваць...

– Хіба? – прыклаў вуха да дзвярэй дырэктар. – Сапраўды. Паталагаанатамаў сёння няма. Значыць, былыя гаспадары завіталі. Колькі ім ні кажы, што тут не храм, а крэматорый, усё адно прыходзяць. – І ён дастаў ключы. – Што ж, экскурсія дык экскурсія!..

Збоку ад печы ў зусім голым з адной паўкруглай сцяной пакоі за доўгім, засцеленым цыратай сталом сядзелі манах і манахіня. На стале ляжала кніга, з якой манахіня, не зважаючы на нечаканых гасцей, уголас чытала:

“Перад канцом свету Расія зліецца ў адно мора вялікае з усімі землямі і плямёнамі славянскімі, і будзе грознае і непераможнае Царства Усерасійскае, Усеславянскае Гога і Магога, перад якім схіляцца будуць усе народы. І ўсё гэта праўда будзе, як двойчы два чатыры, і непазбежна, як Бог святы, што з даўніны прадракаў яго і ягонае грознае валадарства над зямлёю...”

– Усё, як Бог мне адкрыў, – перахрысціўся манах. – Толькі неяк блытана пад канец напісана. Можна падумаць, нібы Гасподзь прадракаў не царства Усеславянскае, а сябе самога. Хто гэтак напісаў?

– Вы, вялебны, – пасунула кнігу бліжэй да яго манахіня. – Вось і партрэт ваш на вокладцы. У мантыі, епітрахілі і поручах, са срэбнай барадой. І падпісана: Святы Серафім Сароўскі... Ці не падобны? – раптам хітравата зірнула яна на Купалу. – Ды вы прысядзьце, Іван Дамінікавіч, лепш відаць будзе.

“Скуль яна імя маё ведае?.. Дырэктар крэматорыя сказаў?..” – з цікавасцю глядзеў Купала на манашку, якая не толькі голасам, але і тварам падобная была да Ганны. І размаўляла па-беларуску. Як і манах. Ці ўсё ж гэтак яму толькі чуецца?..

Можа, у Бога ўсе чуюць па-свойму? Каб зразумела было.

Чаму тады ў жывым свеце інакш? Жывы свет не ў Бога?..

Купала сеў.

– Пры чым тут падобны ці не падобны? – узнерваваўся святы Серафім. – Я за ўсё жыццё не напісаў ні слова!

– Як гэта вы ні слова не напісалі, вялебны?.. – пляснула ў далонькі і наўмысна для гасцей, як здалося Купалу, здзівілася манахіня. – А кніга чыя?

– Кніга мая.

Манахіня зноў зрабіла выгляд, нібы дзіву далася.

– Бачыце, кніга ягоная. Ні слова не напісаў, а кніга ягоная! І верхні храм ягоны. А мая царква ніжняя.

У яе словах была двухсэнсоўнасць, манах па стале стукнуў.

– Так Бог уладкаваў!.. А што да кнігі, дык Гасподзь прамаўляць мяне паклікаў, а не пісаць. Я казаў – за мной запісвалі. Не ўсе разумелі... Боскай мовы не разумелі, – павярнуўся ён да Купалы. – Некаторыя перакручвалі мае словы, як ім хацелася. А нехта пасля яшчэ й свае дадаваў. Хіба я ў тым вінаваты?

Ён спытаў: “Хіба я ў тым вінаваты?” – не чакаючы адказу, у голасе ягоным не чулася ніякай віны, і Купала раптам падумаў, што мог не пісаць. Упершыню ў жыцці гэтак падумаў. Ні паэм не пісаць, ні п’ес, ні

ココ вершаў. Ні па-польску, ні па-руску, ні па-беларуску. Ні пасля рэвалюцыі, ні да яе – ніколі і нічога не пісаць. Ні слова.

І што тады? Ні ў чым не вінаваты быў бы?.. Бязгрэшны?.. Святы?..

– Не, – сумнавата ўсміхнулася манахіня. – Бязгрэшных не бывае. Калі б я святая была, Бог не даў бы ворагам маім забіць майго мужа і дзяцей. Значыць, у нечым вінаватая.

Святы Серафім зірнуў на яе незадаволена.

– Не трэба было мужу твайму з Масквой ваяваць, княгіня. Ды яшчэ Літву ў дапамогу клікаць. І сам бы жыў, і дзеці.

На твар княгіні нібы аблачынка набегла.

– Можа быць, – сказала яна. – Але памяць была б іншай. – І павярнуўшы руку Купалы даланёю ўверх, паклала сваю нечакана гарачую, нібы ў печы распаленую, даланю на ягоную. – Як там цяпер літвіны?

Яна павяла даланёй па далоні знізу ўверх, зверху ўніз – і ён успомніў гэты рух... Можа быць, гэтыя святыя падрабляцца ўмеюць, пад каго захочуць? Хоць навошта святой падрабляцца пад грэшніцу?

Гэтак Ганна гладзіла яму руку, калі яны развітваліся пасля сустрэчы. Той, першай, тры гады таму... “Мы б маглі не спаткацца ў гэтым жыцці, – казала яна, – і ўсё было б тое самае. Толькі я не гладзіла б тваю руку, і памяць пра жыццё была б іншай”.

Так. Яна не гладзіла б ягоную руку, і памяць пра жыццё была б іншай. Толькі і ўсяго.

– Мы даўно не літвіны, беларусы... – асцярожна пачаў вызваляць ён руку з-пад гарачай рукі княгіні – і раптам адчуў апёк. Зірнуў: на далоні ляжаў залаты медальён, на якім, нібы кропля крыві, чырванеў маленькі рубін.

– Праўда? – нібы не паверыла княгіня. – Не літвіны?.. Шкада, вам пасавала. Зрэшты, як чалавек імя змяніць можа, гэтак і народ. Вось я нарадзілася Ганнай, потым пострыг прыняла і стала Соф’яй, цяпер, у схіме, я зноў Ганна. І што? Якой была, такая ёсць. Нідзе і ні ў чым не помню сябе іншай.

– Я таксама іншым сябе не помню, – празвінеў ключамі Несцярэнка, і Купала пачуў тое, на што раней увагі не звяртаў: палкоўнік таксама прамаўляў па-беларуску. – Таму яшчэ раз нагадваю вам, што тут даўно не храм Серафіма Сароўскага і Ганны Кашынскай, а крэматорый імя таварыша Сталіна. Рэжымны аб’ект. Хочаце мошчы свае спаліць, калі ласка. А так няма чаго тут па начах швэндацца. Бо я магу, хоць вы і святыя... – пакруціў дырэктар ключы на пальцы, прыдумваючы, мусібыць, што ён можа зрабіць са святымі, якія начамі па крэматорыях швэндаюцца, але нічога не прыдумаў. – Зараз часу няма, нас чакаюць.

Святы Серафім загарнуў сваю кнігу, паклаў на яе руку. Зірнуў на дырэктара крэматорыя пранізліва:

– Вас чакае пекла... Вунь там, у Данскім манастыры, – кіўнуў ён за спіну, – канаў патрыярх Ціхан. Вернікі хавалі яго ў сутарэннях, каб вы яго не забілі. Ён памёр уночы, выдыхнуўшы: “Ноч будзе цёмная, доўгая, доў-га-я...” І нікому з тых, хто ноч гэтую, цём-ну-ю, доў-гу-ю ноч наслаў, Бог не даруе. Не даруе, не даруе, не даруе!..

Палкоўнік Несцярэнка ў пранізлівыя вочы святога Серафіма глядзеў спакойна.

– Можа быць. Калі Ён ёсць. Але мяркуючы па тым, чаго я тут, у бо-о-жым храме наглядзеўся, наўрад ці. Да таго ж... Да таго ж часам мне

здаецца, што я ў пекле і нарадзіўся. У геене вогненнай. Больш і не жыў нідзе. Так што... – рушыў ён да дзвярэй. – Так што, Іван Дамінікавіч, чакаюць нас.

"Медальён ад Ганны, – хуценька падсунулася да Купалы княгіня. – Развітацца з вамі цар яе не пускае. Гэтак злуе, што звесці са свету можа, уратуй яе Божа..."

Купала сцінуў руку ў кулак, запякло яшчэ мацней.

"Яна сказала, што гатовая за вас... не, гатовая з вамі жывой у агні згарэць".

Ён не стаў удакладняць: з ім, ці за яго?..

Манах зірнуў на княгіню незадаволена. Відаць было, што яны не ў простых адносінах, святая Ганна Кашынская і святы Серафім Сароўскі. Зрэшты, як кожны мужчына і кожная жанчына. Хоць грэшнікі, хоць святыя, калі такія бываюць.

– А чаму Царства Усеславянскае, якое вы прарочыце, будзе Усерасійскае, – падняўшыся і пацалаваўшы руку святой Ганне, спытаў Купала святога Серафіма, які проста не зразумеў, пра што ў яго спыталіся: "А якое яшчэ?" І дырэктар крэматорыя палкоўнік Несцярэнка, расчыняючы дзверы, паглядзеў няўцямна:

– Праўда што...

Вось у гэтым яны згодныя. Поп з палкоўнікам.

"Відаць, – падумаў Купала, выходзячы, – і ў Бога не ўсё, як у Бога".

## 22

Віктар патэлефанаваў Ганне на выхадзе з Палаца з'ездаў. Ніхто не адказаў ні ў яе дома, ні на лецішчы. Маўчаў тэлефон і ў ягоным нумары гатэля.

Пайсці ў гатэль і аднаму напіцца?.. Ці з буфетчыцай, у яго была ў гатэлі знаёмая буфетчыца.

Ішоў па марознай вуліцы расхрыстаны, яму было горача. Наўрад ці ад трох кілішкаў каньяку.

«Ну, добра. Няхай Грачына ад пачатку выступу ў прэзідыуме не было, прыйшоў толькі пад канец. З гэтым як бы ўсё нармальна. Не было – не бачыў, прыйшоў – убачыў. Але ж бачыў і дырэктара крамы. Ці дырэктара цырка. На месцы Грачына. Гэта таксама нармальна?..»

Ён шыбаваў наўскасяк па Манежнай плошчы да вуліцы Горкага, на тым баку якой быў гастраном: нават з буфетчыцай у буфеце напівацца яму не хацелася. Хацелася аднаму.

Перайшоў вуліцу на чырвонае святло – засвістаў міліцыянт. Віктар тыцнуў яму пад свісток пасведчанне дэлегата, міліцыянт казырнуў. Угледзеўся: «Гэта вы на з'ездзе выступалі?..» І тут пачулася: «Віця! Я толькі што бачыла, толькі што бачыла! Гэта геніяльна, Віця! Супер! Ты даўно ў Маскве? Чаму не званіў? Мне кажуць: Маргер у Маскве! А я кажу: не можа быць! Пазваніў бы! Ты куды ідзеш? Давай да мяне! Ты ж ведаеш, я тут побач! Каго-небудзь з нашых паклічам! Адзначым! Як Леанід Ільіч расцалаваў цябе! Як расчуліўся! Гэта геніяльна, Віця! Супер!..»

Люся Бурсіна, аднакурсніца ягоная па літінстытуце павісла на шыі, кінуўшы пад ногі гаспадарчую сумку, і вішчала ў вушы, цмокаючы ў адну шчаку, у другую, цмокала і вішчала – у яе была шырокая задніца і вузенькі галасок. Таленту не было ніякага, але яна і без яго не сумавала, прабаўляючыся ў

«Піянерскай праўдзе» вершыкамі пра піянерскія горны, барабаны, гальштукі, піянерскія кастры.

Лахудра.

Вось яна, слава. Сярод міліцыянтаў і лахудраў.

Ён ледзьве адчапіўся ад Бурсіной, якая стала сунуць яму свае кнігі: «На, пачытай… Мне важна, вельмі важна тваё меркаванне…» – і ўбачыўшы, што ён ні чытаць яе вершы, ні казаць нешта пра іх не мае асаблівага жадання, дастала з сумкі бутэльку: «Табе, Віця! Толькі для цябе! Замежная. Ад майго знаёмага астролага…» – «Ад каго знаёмага?..» – «Астролага. У мяне знаёмы астролаг ёсць, пра мінулае ўсё ведае і будучыню прадказвае. Калі хочаш, і табе… Хоць што табе прадказваць? Ты сам сабе сёння ўсё прадказаў. Геніяльна, Віця, геніяльна!..»

Узяўшы ў Бурсіной, бо не адчаплялася, бутэльку астролага, ён купіў у гастраноме яшчэ пляшку гарэлкі. «Маскоўскай». Ніякай закускі не браў. Напіваўся ён, што зрэдку здаралася, не закусваючы. Чысты алкаголь.

У нумары гатэля чакала Ганна. Чамусьці, нібы яна ў жалобе, уся ў чорным. Прыклала палец да вуснаў, паказала на тэлефон. Ён зразумеў: жучок. Праслухоўка.

Выйшлі на вуліцу, на якой было ўжо цёмна, марозна. Самы той час і тое надвор'е, каб напіцца – абедзве пляшкі ён узяў з сабой. Ягоная капота, што ў Балгарыі купіў, была з такімі кішэнямі – на любую кампанію пітва ўлазіла. Адкаркаваў бутэльку, якую Бурсіна дала, глынуў. Не гарэлка… Але нешта моцнае. «Дай і мне, – папрасіла Ганна. – Спадзяюся, гэта не кальвадос з Рагожскага рынку?»

Выпіла: «Па смаку нагадвае…» – «Што?..» – «Тую атруту, якой частаваў нас дырэктар антыкварнай крамы. Толькі мацнейшая. Дзе ты яе ўзяў?.. – І не чакаючы адказу, сказала, стаўшы твар у твар на Краснай плошчы каля з'інелага Маўзалея. – Давай з'едзем адсюль, Віця. Нічога добрага тут ніколі не будзе. Толькі атрута».

Ён забраў у яе бутэльку, зрабіў яшчэ глыток. Так, нагадвае напой Вензеля, толькі мацнейшы… «Куды з'едзем? І як? Асабліва ты, дачка члена Палітбюро. Мой бацька неяк перажыве, а што з тваім будзе?» – «А майму ёсць што перажываць і без гэтага. Калі мяне ў Крэмль не пусцілі, я з грачынскім ахоўнікам, ён кеміць у такіх справах, дахаты з'ездзіла і на лецішча. Потым да цябе ў гатэль. Паўсюль "жучкі" праслухоўкі. Ахоўнік сказаў не здымаць, бо без толку. Паставяць новыя. Проста не трэба гаварыць дома пра такое, што гэбістам не трэба чуць. І яшчэ ахоўнік здзівіўся. Сказаў, што цэкоўскім ад часоў Сталіна "жучкоў" не ставяць. Увогуле за імі не сочаць. Таму дзіўна, што Грачына "зажучылі..." – І калі спусціліся да Аляксандраўскага саду, дзе цепліўся на марозе Вечны агонь, Ганна прысела, каб пагрэць рукі, і спытала: – Ты нічога мне сказаць не хочаш?..»

Ён хацеў ёй сказаць усё. Дзеля гэтага тэлефанаваў ва ўсе месцы, дзе яна магла быць, шукаў… Але як сказаць? І гледзячы на яе, ад холада сцятую, скурчаную каля агню, на якім грэла рукі, зразумеў, што ніяк. Тым больш цяпер, калі яна думае, што страчвае, ці ўжо нават страціла абаронцу-бацьку, і спадзяецца, мусіць спадзявацца, жанчыны не могуць не спадзявацца на гэта, што абаронцам стане ён. І калі гэты абаронца пачне распавядаць, як ён надзімаў шчокі, якія смелыя намеры меў, ідучы на з'езд, да якога быў прыстроены яе бацькам – і як здзьмуўся, пшыкнуў, калі ўбачыў, што бацькі яе на з'ездзе няма, як спалохаўся тым жа страхам, якім

зараз напалоханая яна, дык што яна падумае пра яго?.. Што ён падставіць хацеў яе бацьку і, мусібыць, падставіў, – вось што яна пра яго падумае. І не паверыць, што нутро яму выкручвае сорам, што ён прызнаецца ёй у гэтым, бо яна адзіная, каму ён у гэтым можа прызнацца. Пазней, можа быць, паверыць, а цяпер – не.

І не сказаў ён тое, што хацеў. Ні Ганне, ні свету. Глынуў: "Госпадзі! Чаму мы ўсе, – так лягчэй было думаць: чаму мы ўсе? А не чаму я?.. – заўсёды кажам не тое, што хочам?" – нібы ў тым, што ён зрабіў... ці не: у тым, што не зрабіў, на што яго не хапіла, – Бог вінаваты.

– Да мяне сёння адзін таварыш падыходзіў, – сухім голасам, хоць і глынуў, прамовіў ён і ўбачыў, як Ганна напружылася. – Пасля выступу.

– Хто?

– Прадставіўся Рутневічам Алегам Дзмітрыевічам. Палкоўнікам КГБ. Ведаеш такога?

– Не. Я не ўсіх палкоўнікаў ведаю. І што ён хацеў?

– Угадай.

– Завербаваць.

– Чаму завербаваць?

– Бо што яму яшчэ хацець? Чаго падыходзіць?

Сапраўды.

– Так. Завербаваць.

– І ты не згадзіўся. Сказаў, што... – Яна паднялася – і агонь падняўся за яе далонямі, за ёй, але тут жа апаў. – Зрэшты, не важна, што ты прыдумаў, каб адмовіцца. Важна, што адмовіўся.

Ён злавіў сябе на тым, што яму прыемна было гэта пачуць. Прыемна было падумаць, што яна пра яго так думае.

– Чаму ты так думаеш?

– А як яшчэ мне думаць? Калі б ты згадзіўся, ты б не сказаў, што цябе вербавалі. Маўчаў бы як рыба аб лёд.

"Калі б згадзіўся, маўчаў бы..." Сказала так, быццам наскрозь яго бачыла. І гэта яго разанула. Моцна. Яна, пэўна, заўважыла, як яму забалела, і спытала: "Ці не?.. Які ў нашых адносінах узровень праўды?"

Які ўзровень?.. Крытычны. Бацька яму казаў, малому: "Усё, што не праўда, мана". Сказаць бы ёй зараз... Не пра тое, што хацеў... Пра тое ўжо не... Сказаць бы: "Ведаеш, чаму ты ўся сцялася, скурчылася? Не таму, што холадна. І не таму, што табе страшна за бацьку. Ты баішся, што забяруць кватэру на Малой Броннай, у якой зменіцца, а, можа, застанецца той самы нумар тэлефона, па якім будуць званіць, але ўжо не цябе запрашаць у 300-ю секцыю. І ўжо ніколі: «Я дачка Грачына!» – не пусцяць у Крэмль".

Як вам такі ўзровень праўды, Ганна Васільеўна?.. Ці Ганна Іосіфаўна, Ганна Лаўрэнцьеўна, Ганна Іванаўна – як вас там?..

Але так ён не скажа.

І ўсё ж, дапусцім, сказаў бы... А калі яно не так? Калі яна любіць бацьку – і начхаць ёй на Крэмль. На 300-ю секцыю. Скуль ён ведае? Ні скуль. Але думае, што так, і кажа, што думае. Бо гэта, ён думае, праўда. Такі праўдадумец.

А якую праўдадумцы думаюць праўду? Не пра сябе – пра іншых. Што ім дарагія бацькі, а не кватэры? Не. Яны думаюць, што ім дарагія кватэры, а не бацькі. І тыя, пра каго яны так думаюць, гэтаксама думаюць пра іх.

Чаму ён ніколі не размаўляў з Ганнай пра тое, што ёй даражэй? Бацька ці 300-я секцыя? Як яна пачуваецца дачкой ЦК КПСС?.. Пра што толькі ні

гаварылі, абы пра што, а пра гэта – не. Дык якую ён можа ведаць пра яе праўду?.. Ці яна пра яго.

Нешта ведае пра яго, сына свайго Віктара, хіба ягоны бацька. «Ты больш за мяне любіш дзеда, які зрабіў цябе вернікам, – казаў той, калі Віктар счапіўся з ім праз веру, праз Бога, існавання якога, прайшоўшы праз вайну, бацька проста не дапускаў. – Дзед зляпіў з цябе чалавека, які не можа ні слова сказаць, ні кроку ступіць, не падумаўшы пра Госпада. Павер мне: ты будзеш мець праз гэта праблемы. Бо ў табе няма веры ў сябе. А без веры ў сябе вера ў Бога – слабасць чалавечая, а не сіла. Бог любіць моцных. Так, ён шкадуе слабых, але любіць моцных. Бо на іх трымаецца вера ў Яго. Моцныя змушаюць слабых верыць, бо ім гэта выгадна. Бо тады і на гербе імперыі, і на спражцы дзягі, якой падпярэзваецца жаўнер, пасланы імператарам ваяваць, забіваць, можна напісаць: “Gott mit uns”. З намі Бог. А калі жаўнер загіне, пахаваць яго з Богам».

У тым, што бацька казаў, таксама не было ўсёй праўды. Толькі частка. Пра Віктара. І не было праўды пра Бога. Бо выходзіла, што вера ў Бога трымаецца на тых, хто ў яго не верыць. На такіх моцных, як бацька. Ці як Грачын.

– Калі я выступаў, твайго бацькі ў прэзідыуме не было...

– Ён быў.

– Пад канец з’явіўся...

– Ад пачатку быў! Я глядзела па тэлевізары ў тваім нумары.

Глядзела яна... Дык і ён глядзеў. І не па тэлевізары.

– Магчыма, – згадзіўся ён, каб не распавядаць, каго бачыў на месцы Грачына, бо тады трэба распавядаць і пра ўсё астатняе – так яно адно за адно і пацягне. – Магчыма, я не заўважыў...

– Як не заўважыў? Ты ж павярнуўшыся да прэзідыума стаяў.

– Да Брэжнева...

– І нікога, апроч Брэжнева, не бачыў?

Тут можна было б сказаць: бачыў. Дырэктара цырка. Але Віктар гэтага не сказаў.

– Бацьку твайго ўбачыў, калі выходзіў. Ён абняў, павіншаваў. Не відаць было па ім, што ёсць нейкая праблема. А Рутневіч намякнуў, калі ўжо запрашэнне даваў, што праблема ёсць.

Ганна кінула на яго хуткі позірк... такі, нібы ён не сказаў пра праблему, а стварыў яе.

– Якая праблема? І якое запрашэнне?

– На дзве асобы, – палез Віктар у кішэнь, дзе, прыціснутае пляшкай гарэлкі, ляжала запрашэнне. – На заўтрашні банкет па завяршэнні з’езда. А праблема...

Ганна перапыніла.

– А палкоўнік гэты не сказаў, чаму запрашэнні ад ЦК раздае ЧК? Калі ўсё маё жыццё гэтым займаўся Смірцюкоў!

Для яе жыццё з запрашэннямі ад Смірцюкова – усё яе жыццё.

– Палкоўнік гэты сказаў, што сёння дэлегат з Новасібірска, блізкі сябар твайго бацькі, рваўся да трыбуны, каб прапанаваць Брэжневу падаць у адстаўку. Каб параіць яму тое, што, калі верыць Смерці, Брэжнеў сам хацеў зрабіць, – нагадаў ён Ганне пачутае ёй ад Смірцюкова, а тая забрала ў яго запрашэнне, парвала, кінула ў Вечны агонь і спытала: “Тое самае, што ты хацеў прапанаваць?..”

Гэтага ён зусім не чакаў. Не таго, што запрашэнне парве, а што так спытае.

Ведаць пра выступ яна не магла. Наўздагад спытала? Ён паводзіў сябе, выглядаў так, што можна было ўгадаць? Ці таму ўгадала, што ён толькі пра тое і думаў – і неяк яно перадалося?..

Віктар не аднойчы заўважаў, што людзі кантактуюць не толькі звыклым: адзін бачыць, што іншы робіць, і чуе, што іншы кажа, – але і незвычайным, таямнічым нейкім спосабам, пра які мы нават не здагадваемся, што ён ёсць, і здзіўляемся, калі ў сабе яго знаходзім. І калі тое, што нехта заспявае сам у сабе нейкую песню, а той, хто побач, тут жа пачынае спяваць яе ўголас, зразумець яшчэ можна, дык тое, як падуманае табой адразу становіцца тэмай размовы людзей, у кампаніі якіх ты пра гэта падумаў, прычым не толькі тых, хто цябе ведае і можа ўгадаць, пра што ты думаеш, але і людзей незнаёмых, выпадковых спадарожнікаў у цягніку, немагчыма зразумець.

Мы зусім мала пра сябе ведаем. Амаль нічога. Пра космас ведаем болей, чым пра сябе. Дык як мы можам ведаць пра сябе праўду? Якім веданнем – і якую? Ці тое, што сёння ты зmаладушнічаў, пабаяўся заспяваць уголас тую песню, якую ў сабе спяваў, і ёсць уся праўда? І калі Ганна менавіта яе дамагаецца, і калі ўжо дамагаецца не звыклымі спосабамі, а тым таямнічым, пра які мы не здагадваемся, што ён ёсць... калі так... калі такім спосабам... калі такая сувязь паміж намі... – замітусілася ў ягоных мазгах, і ён, ужо наважыўшыся сказаць усё, як было: няхай сорам... няхай нават яны разыдуцца... што заўгодна няхай, – спытаў... нібы не ён, а нехта іншы... хтосьці за яго спытаў, ці гукарэжысёр Дэблікаў фанаграму ўключыў:

– З чаго ты ўзяла, што нешта я прапанаваць хацеў?..

Гэта быў кашмар. Ён абвальваў сябе ў сабе самім, як шахцёр-самагубца, які забраўся ў шахту і абвальвае на сябе пароду. Ён гінуў, а Ганна, не зважаючы на гэта, зусім не таямнічым, а самым звычайным спосабам паведамляла яму, што бачыла ў тэлевізары, як ён раптам узнерваваўся перад самым выступам, замітусіўся на сцэне, і падумала, што замітусілася нешта ў ягонай галаве, а што магло замітусіцца? “Не вершык жа, – падумала я. – Не восем радкоў, якія на магнітафон запісаныя. Вось і падумала, што ты вырашыў...”

Яна змоўкла, убачыўшы, як ён, закінуўшы галаву, п’е, нават не п’е, проста залівае ў сябе з бутэлькі “напой астролага”, і пырскі ляцяць, бліскаючы іскрамі, зіхатліва пыхаючы, рознакалярова, як феерверк, згараючы, у Вечны агонь, на які ён раптам сеў, пустую пляшку адкінуўшы, у крамлёўскую сцяну шпурнуўшы: “Што вырашыў? Выявіць смеласць?!.” – а яна схапіла яго за капоту, якая знізу задымілася, рванула за плечы так, што капота па шве затрашчала, падняла, адкуль столькі сілы ў ёй узялося: “Ты што?! Ашалеў? Бяжым!..” – і яны пабеглі, добра, што паставы якраз адышоў, можа быць, у прыбіральню, ці куды там адыходзяць паставыя, якія пастаўленыя каля Вечнага агню, каб ніхто не ўздумаў задніцай на яго сесці, затушыць ці закуску на ім засмажыць, добра, што ён закуску не купіў...

Віктар самым простым спосабам, азадкам уцяміў, пра што крычыць яму Ганна, за якой бег ён, азіраючыся: “Толькі б не дагналі!..” – бо за імі ўжо свісталі, тупалі, і што будзе, калі затрымаюць, арыштуюць, таксама можна было здагадацца нават азадкам – без ніякіх таемных спосабаў. Ён думаў, што Ганна паверне да Манежу, каб нырнуць за ім у які-небудзь двор, а яна пабегла туды, адкуль яны прыйшлі: на Красную плошчу. На плошчы таксама стаялі паставыя, адзін засвістаў, і Ганна кінулася наўпрост да ўваходу ў маўзалей, дзе два салдацікі ганаровай варты гэтак разгубіліся, што, хоць для экскурсій быў ужо не час, прапусцілі яе, і Віктар за ёй паспеў праскочыць, а тыя, хто іх даганяў, нерашуча спыніліся...

## XXIII

Каля лесвіцы на другі паверх, да якой дырэктар крэматорыя правёў Купалу, іх чакала Спагада. Гайдалася на вянку паміж лесвіцай і пад’ёмнікам, на якім нядаўна спускаўся Купала ў труне.

– Цяпер «узнясецеся», – усміхнуўся дырэктар. – Можна і па лесвіцы, але лепш, думаю, на пад’ёмніку. Эфект большы. Вас Горкі збіраецца вітаць, будзе ўрачыста.

– Хто вітаць збіраецца?

– Максім Горкі. Яго ж таксама ў гэтым крэматорыі спалілі. Маякоўскі тут, Чкалаў, Кіраў... Слаўная кампанія. Дапамажыце труну вашу з пад’ёмніка ссунуць... Вось так... А што рабіць з вянком?.. Шкада такі паліць.

– І не трэба, – сказала Спагада. – Мы на ім дахаты паляцім.

– А-а-а... – працягнуў дырэктар, глянуўшы на Спагаду. – Жанчына, значыць. Як ва ўсіх.

Купала здзівіўся, бо звык, што жывыя Спагаду не заўважаюць, а Несцярэнка нібы дзеля таго, каб паказаць, што заўважыў, падаў Спагадзе руку, каб дапамагчы стаць на пад’ёмнік, але яна не прыняла ягонага жэсту.

– Дзякуй, я на вянку. – І спытала з’едліва. – А вы?.. Горкі вас таксама вітаць будзе?

“І гэтая з характарам...” – падумаў Купала, а па твары дырэктара нешта падобнае на канвульсію прабегла.

– Не. Я па лесвіцы. Дваццаць дзве прыступкі. Пятнаццаць – першы пралёт, сем – другі. Усяго – дваццаць дзве. Вось я й прайграў... – І паглядзеў на Купалу. – У нас абодвух перабор.

– Што? – не зразумела Спагада.

Дырэктар уздыхнуў.

– Нічога... Я не паэт, а палкоўнік, які зрэдку ў карты гуляе. Мяне Горкі вітаць не збіраецца. Тым больш, што ўсе лічаць, што мяне расстралялі правільна.

Ён сабраўся ўключыць пад’ёмнік, Купала спыніў яго:

– Дык вы... не жывы? Ажыўлены?

– Як і вы, – абыякава сказаў дырэктар. І ўбачыўшы, што Купалу стала ніякавата, дадаў. – У гэтай краіне даўно ўжо не разабрацца, хто жывы, хто мёртвы.

– Так, – згадзіўся Купала. – Даўно не разабрацца... А што значыць правільна расстралялі?

– Ну, некага расстралялі няправільна, а мяне – правільна. На тутэйшым сходзе гэтак пастанавілі, бо сам я многіх пастраляў. З Лубянкі іх прывозілі, і я тут... А пасля мяне. Год таму, у сорак першым. Не за расстрэлы, не. Проста ўспомнілі, што я быў палкоўнік. Быў, але белы. Быў эмігрантам. У Францыі выпадкова прыстроіўся да пахавальнай канторы. У крэматорый. Гадоў праз пяць ведаў пра крэмацыю ўсё. Жыў добра, толькі сумна. І раптам мяне чэкісты праз аднаго знаёмца знаходзяць, прапануюць вярнуцца. Маўляў, Маскве патрэбны крэматорый, а няма адмыслоўцаў. Праца цікавая, вось я й спакусіўся, – націснуў ён кнопку пад’ёмніка і паглядзеў на Спагаду, якая падымалася на вянку. – Ва ўсіх свае жанчыны, ва ўсіх свае спакусы.

– Яно так, – кіўнуў Купала. – Але не ва ўсіх жанчыны, якія лятаюць. – І пацікавіўся. – Вы беларус?

– Чаму?

– Па-беларуску размаўляеце.

– Я?.. – не зразумеў таго, што пачуў, палкоўнік. – Па-беларуску?.. Па-якому беларуску?..

Пад'ёмнік плаўна рухаўся ўверх, і, падняўшыся, Купала апынуўся ў рытуальнай зале, дзе паўдня таму з ім развіталіся тыя, хто ў кабінеце старшыні Саюза савецкіх пісьменнікаў вырашаў, ды так і не вырашыў, жывы ён паэт ці мёртвы? Але на памінкі з крэматорыя ў рэстаран Дома літаратара паехалі ўсе.

Цяпер рытуальная зала выглядала хутчэй актавай: у ёй праходзіў сход. На дыване, пасцеленым у апсідзе ўсходняй сцяны, дзе ў хрысціянскіх храмах алтар, роўненька над печчу крэматорыя мясціўся невялікі, з трох чалавек прэзідыум, справа ад якога ўзвышалася вузкая, падобная да труны трыбуна, а ў нефе, раздзеленым калонамі, што падпіралі арачны звод, цясніліся хто седзячы, хто стоячы, бо ўсім не хапала месцаў, нябожчыкі. Купала адразу зразумеў, што гэта нябожчыкі, бо першым, каго ўбачыў, быў пралетарскі пісьменнік Горкі, які радасна падняўся яму насустрач: "А вось, нарэшце, наш дарагі госць!.. – і павёў Купалу да прэзідыума. – Прапаную адкласці абмеркаванне наступнага пытання, каб прывітаць як ганаровага госця нашага крэматорыя народнага паэта Беларусі, чарговую ахвяру..."

– Не даказана! – ускочыў у прэзідыуме сухенькі дзядок у глуха зашпіленай гімнасцёрцы, падперазанай шырокай дзягай з меднай зоркай. – Не даказана, што ахвяра! Што нябожчык – факт, а што ахвяра – не!

– Дый тое, што нябожчык, не факт! – крыкнуў нехта з залы. – Калі ён з 1-й лабараторыі!

– Таварышы! Таварышы! – празваніў званочкам вайсковец у цэнтры прэзідыума, пэўна, старшыня сходу. – Давайце не парушаць парадак! І вы, таварыш Горкі, не парушайце. Пастанавілі заслухаць і абмеркаваць пытанне пра крэматорый, значыць, заслухаем і абмяркуем. А пасля ўжо пытанне таварыша Купалы. – І вайсковец павярнуўся да круглатварай, смуглявай жанчыны ў сіняй блузцы і чырвонай касынцы, якая разам з ім і дзядком сядзела ў прэзідыуме. – Калі ласка, таварыш Коган.

Горкі, якога Купала звык бачыць выключна ў прэзідыумах, а тут ён чамусьці сядзеў разам з усімі, азірнуўся па баках, чакаючы, што вайскоўцу нехта запярэчыць: "Давайце госця ўважым!" – але ніхто не запярэчыў. "Прысядзьце пакуль, Іван Дамінікавіч", – ніякавата прапанаваў Горкі, уціснуўшы Купалу паміж Маякоўскім і Куйбышавым, аднаго з якіх Сталін назваў найлепшым паэтам савецкай эпохі, а іменем другога назваў горад, у які Берыя саслаў Мяркулава.

– Яшчэ ў мінулым годзе, 11 лістапада была прынятая пастанова №114 выканкама Массавета "Аб працы моргаў горада Масквы", дзе гэтая праца прызнаная цалкам нездавальняючай, – замахала кулачком з трыбуны таварыш Коган, і Куйбышаў з гонарам, як здалося Купалу, шапнуў яму на вуха: "Мая другая жонка. Грамадзянская. Як вайна". – І я хачу спытаць, – набірала звону ў голасе другая жонка Куйбышава, – куды глядзіць загадчыца гарадскога аддзела аховы здароўя таварыш Левант, якую Массавет абавязаў на працягу пяці дзён палепшыць працу моргаў? Больш за пяць месяцаў прамінула, куды яна глядзіць?

Таварыш Коган, сціснуўшы кулачок, паглядзела на Куйбышава, на Купалу, якому не надта спадабалася, як яна паглядзела, а сухенькі дзядок у гімнасцёрцы ўскочыў: "Ёсць таварыш Левант?" – і нехта з залы сказаў: "Сёння яе расстралялі, заўтра прывязуць".

– Нарэшце, – паправіла касынку, што на бровы з'ехала, таварыш Коган. – Столькі часу расстраляць не маглі! А начальніка трэста пахавальных паслугаў таварыша Шорына прывезлі?..

Нябожчыкі закруцілі галовамі, каб паглядзець на начальніка трэста пахавальных паслугаў, бо ў кожнага, мусібыць, былі да яго свае прэтэнзіі, але ў зале ніхто не падняўся.

– Няма яго! – счакаўшы паўхвіліны, стукнула кулачком па трыбуне таварыш Коган. – Усе ёсць, а яго няма! Яму з дырэктарам крэматорыя таварышам Несцярэнкам даручана абсталяваць памяшканне для прыёмкі трупаў да 100 чалавек, запусціць другую і трэцюю печы, перавесці крэматорый на трохзменку, а яго няма! Дык, спадзяюся, хоць хто-небудзь з тых, хто за гэта адказны, прысутнічае? Таварыш Несцярэнка тут?..

– Несцярэнка расстраляны! – крыкнулі з залы. – Лебедзеў цяпер дырэктар.

Таварыш Коган ніколькі не збянтэжылася.

– Ну і што, што расстраляны? Я таксама расстраляная! Але гэта не здымае з мяне адказнасці за справу, якую даручыла мне партыя! І з таварыша Несцярэнкі не здымае! Павялічваецца інтэнсіўнасць расстрэлаў – і партыя даручыла яму павялічыць прадуктыўнасць крэматорыя! Калі ён не здольны выканаць адказнае даручэнне, яго трэба гнаць з партыі! Прапаную выключыць! Хто за?..

Адна за адной пачалі падымацца рукі, і Куйбышаў, які ўсё ж быў старшынёй Камісіі савецкага кантроля, а не проста намеснікам старшыні Массавета, як ягоная другая жонка, якая пачала тут камандаваць, раптам (можа быць, праз рэўнасць) запярэчыў: "Чакайце! Яго ўжо выключылі з партыі перад расстрэлам. Каб другім разам выключыць, трэба нанава прыняць..." – і ў самым канцы залы, каля выхаду, дзе тоўпіліся тыя, каму не хапала месцаў, і дзе на лесвіцы, што вяла на першы паверх, стаяў палкоўнік Несцярэнка, чарнявы з сівізной нябожчык у кіцелі пракурора падтрымаў Куйбышава: "Правільна! Другім разам у партыю прыняць і другім разам расстраляць".

– Як гэта?.. – спытаў Купала Маякоўскага, і той сказаў ціха: "Вам трэба было застрэліцца, Іван Дамінікавіч. Тых, хто сам застрэліўся, яны не расстрэльваюць".

– І тых, хто павесіўся, не вешаюць, і тых, зарэзаўся, не рэжуць – весела дадаў Куйбышаў, і Купала падумаў, што нейкі ён завясёлы для нябожчыка.

Горкі згодна паківаў. Купалу здалося, што ён згодны з тым, што Куйбышаў для нябожчыка выглядае занадта вясёлым, але аказалася, што Горкі згодны з тым, што сказаў Маякоўскі, побач з якім Аляксей Максімавіч прысеў, крыўдліва зірнуўшы на прэзідыум.

– І ніхто б тады не вінаваціў вас у здрадзе паэзіі, – усё яшчэ нервуючыся праз нахабства старшыні прэзідыума, які асадзіў яго, як школьніка, пачаў і тут жа засумняваўся ў тым, што правільна падтрымаў Маякоўскага, Горкі. – Хоць наўрад ці... Вось Уладзімір Уладзіміравіч застрэліўся, а толку? Усё адно вінавацяць. Маўляў, бальшавікам прадаўся.

– Большасць за тое, каб прыняць і выключыць! – кінула лічыць паднятыя рукі і не стала пытаць, хто супраць, таварыш Коган. – Пытанне вырашанае.

З крэсла ўперадзе Купалы ўзвіўся, як загарэўся, імпазантны мужчына.

– Добра. Выключылі. Але як выключэнне з партыі таварыша Несцярэнкі вырашае праблему? Як яно падымае прадуктыўнасць крэматорыя? –

павярнуўся ён да залы, і Купала пазнаў “любімца партыі” Кірава, якога таварыш Коган, відаць, усё ж не надта любіла, бо замахала кулачком:

– Я б на вашым месцы такіх пытанняў не задавала, Сяргей Міронавіч! Бо мы можам спытаць, як падымалі прадуктыўнасць насельніцтва Ленінградскай вобласці, дзе вы былі першым сакратаром абкама партыі, вашы адносіны з Мільдай Драўле? І можам пацікавіцца: за што вас застрэліў муж гэтай дамы?

– Пры чым тут Мільда?.. – як загарэўся, гэтак патух Кіраў, а Маякоўскі ціха спытаў Купалу: “Яго праз Мільду, а вас праз каго?”

Купала не адказаў. Не таму, што не паважаў Маякоўскага, а проста не ведаў, праз каго яго...

“І гэтак мы жылі?.. – сціскаў і расціскаў ён кулак, у якім апякаў скуру рубінавы агеньчык. – Як я гэтага не заўважаў? Хоць чаму не?.. Заўважаў. Але неяк так незаўважна. Каб не заўважылі, што заўважаю...”

– Цяпер галасуем за другую частку прапановы таварыша... як ваша прозвішча?.. – паспрабавала дазнацца ў нябожчыка ў кіцелі пракурора ягонае прозвішча таварыш Коган, але той не назваўся, і яна махнула рукой... – галасуем за прапанову таварыша нябожчыка ў кіцелі пракурора: хто за тое, каб яшчэ раз расстраляць таварыша Несцярэнку?.. – уважліва паглядзела яна ў залу, дзе толькі нябожчык у кіцелі пракурора прагаласаваў “за”, і тады дзядок у гімнасцёрцы перагаварыў пра нешта з вайскоўцам, старшынёй прэзідыума, які адразу ж празваніў званочкам: “Таварышы, таварышы, пытанні расстрэлаў сходамі не вырашаюцца, гэта прэрагатыва “тройкі”! А ў “тройку”, як мы пастанавілі, уваходзіць прэзідыум. Я, таварыш Коган і таварыш Кашкадамаў. Вось мы зараз прылюдна і прагаласуем: хто за тое, каб яшчэ раз расстраляць дырэктара крэматорыя за невыкананне пастановы Массавета...” – падняў ён руку разам з дзядком Кашкадамавым, і яны ўдвух чакалі, калі падыме руку таварыш Коган, а тая ўсё не падымала, глядзела ў залу, дзе ніхто з нябожчыкаў не хацеў ніякіх расстрэлаў, бо ўсе ўжо былі расстраляныя, і таварыш Коган напружана пра нешта думала, а потым спытала гэтак разважліва: “А як расстрэл таварыша Несцярэнкі вырашае праблему?.. Як гэта падымае прадуктыўнасць крэматорыя?..” – і падняла руку, калі дзядок і вайсковец рукі апусцілі: “Я супраць!”

– Ай ды Коган! – пляснуў сябе па каленях Куйбышаў. – Дарма я кінуў яе ў Самары!

Дзядок з вайскоўцам пераглянуліся разгублена... “Танную папулярнасць сабе зарабляеце, Яўгенія Саламонаўна...” – пачаў вайсковец, а дзядок, нібы раптам душна яму стала, каўнерык гімнасцёркі рвануў: “Вы болей не ў «тройцы»! І не ў прэзідыуме!” – ды таварыш Коган не стала іх слухаць.

– А што да прапановы таварыша Горкага... – не сышла яна з трыбуны, хоць дзядок з прозвішчам Кашкадамаў, разззлаваўшыся, цягнуў яе за блузку – ...што да прапановы вітаць таварыша Купалу як ганаровага госця нашага крэматорыя, дык я “за”! Бо чаму не? Таварыш Купала паэт. У мяне муж быў паэтам, пакуль не кінуў мяне ў Самары.

Вайсковец не вытрываў:

– Пры чым ваш муж? Пры чым Самара? Пытанне трэба разгледзець! Зачытаць характарыстыку!.. У вас характарыстыка, таварыш Купала, ёсць?

– У мяне ёсць, – падняўся Горкі. – У мяне, таварыш Тухачэўскі, ёсць характарыстыка на нашага ганаровага госця, – дастаў ён паперу з кішэні мешкаватага пінжака. – Магу зачытаць.

Купалу няёмка стала: як гэта ён не пазнаў у вайскоўцы аднаго з першых чырвоных маршалаў?

Маршал павярнуўся да Кашкадамава: “Паслухаем?..”

Кашкадамаў, не здолеўшы адцягнуць ад трыбуны другую жонку Куйбышава, вырашыў праблему іначай: адцягнуў ад яе трыбуну, якую тут жа заняў.

– Не трэба, таварыш Горкі! Сядзьце з вашай характарыстыкай! Ведаем мы вашы характарыстыкі: “Ёсць у Беларусі два паэты, Колас і Купала, вельмі цікавыя хлопцы”. Ну і што?..

Горкі сеў.

– У нас тут усе цікавыя, нецікавых тут няма, яны там засталіся, – паказаў пальцам спачатку ў адзін бок, пасля, падумаўшы, у другі, Кашкадамаў. – Я, да вашага ведама, першае таварыства аматараў крэмацыі стварыў, першым старшынёй ягоным быў, мяне тут адным з першых расстралялі і спалілі – вось гэта характарыстыка! Ці вось гэта... – дастаў старшыня таварыства аматараў крэмацыі паперыну з кішэні гімнасцёркі. – Мне толькі што адтуль, – падняў ён палец уверх, – перадалі. І што тут напісана?.. “Можна быць у жыцці падонкам і пісаць знакамітыя кнігі! Пісьменніку можна выбачыць здраду калегаў і таварышаў, можна выбачыць здраду ідэалаў, але нельга выбачыць здрады літаратуры. А Янка Купала здрадзіў літаратуры!...” Вось што тут напісана, – страсянуў паперынай Кашкадамаў, старшыня таварыства аматараў крэмацыі. – І напісана адмыслоўцам! Я не хачу сказаць, што таварыш Горкі не адмысловец, але таварыш Горкі адмысловец старарэжымны, а гэтая характарыстыка сучасным адмыслоўцам складзеная. Нават звышсучасным! Чалавекам з нашай светлай будучыні, дзеля якой нас расстралялі. І гэта гонар, таварыш Горкі, – склаў паперыну Кашкадамаў, – быць расстраляным па волі таварыша Сталіна дзеля нашай светлай будучыні! Па партыйнай лініі! А то з’яўляюцца тут некаторыя! Скончаць жыццё праз усялякія амуры і ў ахвяры лезуць! Ды яшчэ ёсць таварышы, – азірнуўся Кашкадамаў на другую жонку Куйбышава, якая як стаяла, гэтак і засталася стаяць на тым месцы, дзе ў яе трыбуну забралі, – якія ў ганаровыя сябры нашага крэматорыя прыняць іх прапаноўваюць! Гэта ўжо, ведаеце... – развёў ён рукамі, паказваючы, што такія прапановы ў галаве ягонай не месцяцца, і, сышоўшы з трыбуны, важна сеў у прэзідыум побач з Тухачэўскім.

Таварыш Коган адразу заняла пакінутую непрыяцелем пазіцыю.

– Таварышы! Паслухала я таварыша Кашкадамава і вось што хачу сказаць, таварышы... Таварыш Кашкадамаў – гэта...

З залы засвісталі.

– Досыць пра Кашкадамава! Увогуле досыць! Вы ўсё сказалі! Таварышу Горкаму слова!..

– Таварышу Горкаму дык таварышу Горкаму, – на дзіва лёгка сышла гэтым разам з трыбуны “грамадзянская вайна”, другая жонка Куйбышава, і Горкі, які, пакуль прамаўляў Кашкадамаў, сядзеў унураны, цяпер з цяжкасцю, як здалося, Купалу, падняўся. Да трыбуны не пайшоў, стаў каля Маякоўскага.

– Маякоўскі стрэліў сабе ў сэрца. Я таксама страляў сабе ў сэрца. Купала спрабаваў зарэзацца... Як вы думаеце, чаму?

– Праз амуры! – падскочыў Кашкадамаў. – Ведаем мы!..

Горкі не стаў спрачацца.

– Няхай праз амуры... А вось вы, таварыш Кашкадамаў, спрабавалі

зарэзацца? Думалі стрэліць сабе ў сэрца? Ну хоць праз што-небудзь? Калі яно невыносна баліць?

– Што ён нам тут... – павярнуўся Кашкадамаў да Тухачэўскага, – літаратуру разводзіць?.. – І ўбачыўшы, што Тухачэўскі гатовы слухаць Горкага, крыкнуў: – Здаровае ў мяне сэрца! Не балела і не баліць! Калі расстрэльвалі, у патыліцу стрэлілі! У галаву!

Нехта крыкнуў: “Яно й відаць!” – і ў зале засмяяліся. Кашкадамаў хацеў нешта адказаць, але Горкі так зірнуў на яго, што ён сеў, а смех у зале абарваўся.

– Слухаў я некалі таварыша Кашкадамава на сходзе таварыства аматараў крэмацыі. Цяпер вось на сходзе нябожчыкаў... – Горкі гаварыў так, нібы не хацеў гаварыць, бо ўсё адно без толку, але трэба. Памаўчаў і памкнуўся да залы. – Ведаеце, чаму я ў крэматорыі спаліўся?.. Не таму, што ў таварыстве аматараў крэмацыі мяне з’агітавалі. Я сам сябе з’агітаваў. Я падумаў, што ў агні перайначыцца тое, з чаго мы створаныя. Склад рэчываў зменіцца. Але, як бачыце, не. Мы і ў попеле тыя самыя. Нас хоць праз агонь, хоць праз зямлю ці ваду, праз землятрус, патоп, вайну, хоць праз што – усё тое самае. Кашкадамаў ва ўсім Кашкадамаў...

Дзядок зноў ускочыў.

– Я папрасіў бы выбіраць словы! Што значыць – Кашкадамаў ва ўсім Кашкадамаў?

– А тое й значыць, што значыць... – безнадзейна сказаў Горкі, і тут нябожчык у кіцелі пракурора падняў руку: “А можна мне сказаць? Па партыйнай лініі. Па даручэнні таварыша Сталіна...”

## 24

У маўзалеі побач з саркафагам, у якім ляжаў Ленін, стаяў стол, за якім сядзелі дзядок з бабуляй, камендант Крамля, ён жа начальнік 9-га ўпраўлення КГБ СССР генерал-лейтэнант Шырокаў ва ўсёй форме з ордэнам Леніна, і сам Ленін, якому сядзець за сталом побач з генералам насупраць дзядка з бабуляй ніяк не замінала тое, што ў саркафагу, у труне з празрыстымі бакавінамі ён ляжаў забальзамаваны.

– Калі ласка, сядайце, – запрасіў Ленін, і задыханыя Віктар з Ганнай прыселі на зэдлікі ў тарцах труны: ён у нагах, яна ў галаве.

Генерала Шырокава, які не раз прыходзіў у Палац з’ездаў на рэпетыцыі, апошні месяц увогуле не вылазіў з Крамля, Віктар ведаў. А дзядок з бабуляй, мусібыць, хадакі?

– Дык якая ў вас праблема, таварышы? – спытаў хадакоў Ленін, і па тым, як спытаў, відаць было, што нечага ён не можа ўцяміць. – Чым я магу дапамагчы?

– Мы святыя. Святая Ганна Кашынская і святы Серафім Сароўскі, – сказаў дзядок, і на тварах жыхара маўзалея і каменданта Крамля няўцямнасць змянілася на заклапочанасць: так, гэта праблема – і трэба яе вырашаць.

Ленін падсунуў да сябе дзве паперкі, што ляжалі бліжэй да каменданта Крамля.

– У вашых пропусках...

– Гэта ў свеце мы Машнін і Цвярская. А ў схіме Ганна і Серафім. Я з 1754 года, яна...

Святы Серафім наморшчыў лоб, забыўшыся, пэўна, у якім веку святая Ганна? Паглядзеў на Леніна, той узяў адзін пропуск, другі:

– Тут не напісана. З якога вы, Ганна Дзмітрыеўна, года?

Ганна Дзмітрыеўна пакасілася на Уладзіміра Ільіча: маўляў, выхаваныя людзі не пытаюць пра ўзрост жанчын.

– Яна зусім старая, – не стаў разводзіць цырымоніі святы Серафім. – Старэйшая за мяне гадоў на пяцьсот. А някепска выглядае, бо, як я ўжо сказаў, святая. У нас з ёй нават царква свая да рэвалюцыі была, у якой таварыш Сталін крэматорый зрабіў. Уяўляеце: у царкве крэматорый! – раскінуў рукі да Леніна святы Серафім, на што правадыр сусветнага пралетарыяту неяк так паківаў, што не зразумець было, як ён сабе гэта ўяўляе, і тады шорхатным, за стагоддзі высушаным голасам загаварыла, павярнуўшыся да каменданта Крамля, нібы менавіта яму распавесці хацела пра ўсё, што было далей, святая Ганна Кашынская.

– Мы ў тым крэматорыі і жывём, бо дзе нам яшчэ жыць? Ціха жывём, таемна. Ніхто, апроч каменданта крэматорыя таварыша палкоўніка Несцярэнкі, пра тое не ведае. І аднойчы ён прыходзіць да нас і кажа, што ў крэматорыі будзе суд. Што будуць масавыя расстрэлы нябожчыкаў, і нас расстраляюць разам з імі як сяброў “Саюза вызвалення Беларусі”. Контррэвалюцыянераў і польскіх шпегаў. Адказваем яму, што ні да таго саюза, ні да Беларусі, ні тым больш да яе вызвалення мы ні сном, ні духам, а ён: “Вы з кіраўніком таго Саюза сустракаліся!” – “З кім?” – “З Купалам!” – “Дык вы ж самі, – кажам, – яго да нас прывялі! Хто ж ведаў, што ён контррэвалюцыянер і польскі шпег?” А таварыш палкоўнік Несцярэнка нам: “Вось і дакажыце суду, што не ведалі, дакажыце таварышу Сталіну, што вы не контррэвалюцыянеры і не шпегі!” – “Як даказаць”? – “Дакументамі”. – “Якімі?” – “Напрыклад, такімі, якія засведчаць, што вы найстарэйшыя члены партыі. Найстарэйшых членаў партыі, можа быць, не расстраляюць”. Я спытала, хто нам такія дакументы можа даць, і ён сказаў, што толькі Ленін. Дык мы і прыйшлі да вас.

– Цікава, – прыжмураным левым вокам, пра якое адны казалі, што яно сляпое, а іншыя, што бачыць усё наскрозь, зірнуў Ленін на каменданта Крамля. – Праваслаўныя святыя хочуць стаць членамі бальшавіцкай партыі. Гэта вельмі цікава! Сімвалічна! Гэта важна, таварыш Шырокаў, бо можа стаць канцом рэлігіі з яе біблейскімі казкамі! – І раптам, тыцнуўшы пальцам у бутэльку з віном, што на стале стаяла, спытаў: – А опіум навошта прынеслі? Хабар? Таварышу Леніну, правадыру сусветнага пралетарыяту – хабар?

Святая Ганна разгубілася, не знайшла, што адказаць, а святы Серафім прамармытаў: “Гэта не опіум, кагор... Царкоўнае віно... Кроў Хрыста...”

– Вось! – падскочыў Ленін. – Вы бывалі ў царкве, таварыш Шырокаў? Я ведаю, што бывалі. Памаліцца на ўсялякі выпадак, бо раптам на тым свеце ёсць той свет. Вы бачылі, як у царкве ядуць цела Хрыста, п’юць ягоную кроў? Канібалы! А пасля прыходзяць да нас і кажуць, што святыя! І каб мы іх, святых канібалаў, прынялі ў бальшавіцкую партыю. Вам не здаецца, што гэта нонсэнс?

– Так, здаецца, што гэта... што... – пачаў камендант Крамля, які, відаць, упершыню пачуў незнаёмае слова і не змог зразумець, што яму здаецца ці не здаецца, а Леніну нецікава было, зразумеў яго генерал ці не зразумеў.

– Здаецца, што нонсэнс! – перапыніў ён каменданта. – А вось, таварыш Шырокаў, і не! Бо партыя таксама паядае мяса і п’е кроў! І гэта на-ту-раль-на! Бо без крыві нічога не бывае. Вось што было б, калі б не пралілася кроў Хрыста? Адказ адзін: ні-чо-га! А пралілася – і калі ласка, хрысціянства. І што яно найперш пачало рабіць, куды рушыла? У крыжовыя паходы! Есці мяса і піць кроў!

Ленін сеў, задуменна глянуў на самога сябе ў саркафагу.

– Хрысціяне кажуць, што яно, хрысціянства, вучыць чалавецтва любові. А як яно можа навучыць любові, калі яно ўсё ў крыві? Ці кроў і ёсць любоў? Так, таварышы святыя?.. І таму ў гэтай манашкі, – кіўнуў ён у бок Ганны, якая сядзела ўся ў чорным, як манашка, каля труны ў ягонай мёртвай галаве, – крывавы каменьчык на медальёне любові?

Святая Ганна Кашынская здзіўлена паглядзела на Ганну Трубяцкую і папрасіла:

– Пакажы, калі ласка.

Расшпіліўшы ланцужок на шыі, Ганна зняла медальён. Віктар не бачыў яго з той ночы, у якую сталі яны блізкімі ў качагарцы, ды і зараз медальёна не відаць было пад апраткай, – як Ленін яго ўгледзеў? Ён і праўда сваім прыжмураным вокам бачыць усё наскрозь?

Не. Не ўсё і не наскрозь. Вось жа палічыў Ганну манашкай...

Ці ў яе лёс такі?

Ганна падняла вечка – і з медальёна, з каляровага партрэта на эмалі глянуў Купала.

– Я так і падумала, – паківала Ганна святая. – Так і падумала, надта ж вы падобныя... Маці твая часта бывала на магіле тваёй прабабкі, заходзіла ў нашу царкву. Распавядала, што яна літвінка, што род яе паходзіць ад унука вялікага князя Гедыміна. А я бачыла таго ўнука, калі ў Літве была. Мой муж, цвярскі князь Міхаіл Яраслававіч ваяваў з маскоўскім князем Юрыем Данілавічам і ездзіў у Літву прасіць дапамогі. Мяне ўзяў з сабой, каб свет паглядзела. Вось тады я першародзіча вашага і ўбачыла. І адразу закахалася ў яго. А ён – у мяне. І калі вялікі князь запрасіў майго мужа на паляванне, мы... – святая Ганна ўсміхнулася. – Не, нічога такога між намі не сталася, бо гэта грэх, ён жанаты, я замужам, але, каб нас ні ў чым не западозрылі, мы селі на коней і кінуліся даганяць паляўнічых. А там мясціна такая, лясы густыя ды пагоркі крутыя, і – не ведаю, як – у лясах між тых пагоркаў мы згубіліся. Я заблукала. У які бок ні рушу – усё не туды. Думала, не знайду дарогі, не выберуся. І раптам бачу хаціну. Дзіўную такую, пустую. Нічога ў ёй – толькі дзве лесвіцы, адна з якіх уніз, а другая ўверх вядзе. Гэткая высокая, што канца ёй не відаць. І канца той, якая ўніз, не відаць таксама. У хаце ні столі, ні падлогі, невядома, як і на чым лесвіцы трымаюцца. Проста вісяць паміж небам і зямлёй. Я прысела на парог, да вушака прыхінулася і, стаміўшыся, прыснула. І тут нехта будзіць мяне, нечы голас пытае: “Цябе ўверх павесці ці ўніз?” Я адказваю: “Правядзі мяне да дарогі”. А ён: “Гэта і ёсць дарога”. У сне я не ўцяміла, пра што ён, а калі прачнулася, зразумела. Няма ў чалавека дарогі ані ў якія бакі – толькі ўніз ці ўверх. Ці ўверх да святла, да Бога, ці ўніз да д’ябла ў цемру. Так, Серафім?

Мусібыць, гэтая тэма была ў іх дыскусійнай, бо святы Серафім буркнуў: “Яно так і не так, бывае ўсяляк”, – а святая Ганна сказала, як пастанавіла: “Толькі так”.

І далей казала.

– У тым сне я высока паднялася. Ажно да аблокаў. Лесвіца хістаецца, з кожнай прыступкай стаяць на ёй усё цяжэй. Адчуваю, што вось-вось сарвуся, не ўтрымаюся, і раптам хтосьці мне зверху, дзе няма нікога, апроч Бога, руку падае. Хто гэта, я не бачу, ён у воблаку, а ў руцэ ягонай нешта, як зорка, бліскае. Я ўзяла тую зорку, яна прыпякла мне скуру, таму я прачнулася і ўбачыла, што ў руцэ маёй не зорка. Залаты медальён з такім чырвоным, нібы распаленым, рубінам. Гэты самы, які зараз у тваёй руцэ, Ганна. У яго доўгая

гісторыя была да таго, як трапіў ён да тваёй маці, а яна праз мяне перадала яго свайму каханаму. А пасля медальён да яе вярнуўся – вось якімі кругамі ходзіць любоў. І ў вас ён быў, – зірнула святая Ганна на Леніна. – Я ведаю, ведаю... Толькі шчасця не прынёс, бо для шчасця вашага быў ён украдзены.

Ленін пад яе позіркам спахмурнеў, а святая Ганна памаўчала і дагаварыла.

– Там, у Вавуках, а мясціна, дзе хаціна стаяла, блізка ад Крэва была і Вавукамі называлася, мне адкрылася тое, з чым я далей жыла. З любоўю, у якой няма граху, бо граху ў любові не можа быць. Ён можа быць у чым заўгодна, але не ў ёй. І мне адкрылася маё прадвызначэнне: узыходзіць да любові і любові служыць. А калі я выйшла з той хаціны, у якой былі лесвіцы ў неба і пад зямлю, да мяне падбеглі два ваўкі, белы і чорны, і правялі да дарогі. Я пайшла па ёй і, каб служэнне чыстым было, прыняла пострыг. Спачатку пад імем Соф'я, а пасля, у схіме, зноў стала Ганнай. Прайшоўшы круг жыцця, вярнулася да сябе. – І яна, яшчэ раз усміхнуўшыся, перахрысціла Ганну. – І ты вернешся.

Дзіўна... Яна распавядала гісторыю, якую Віктар ведаў. Яму не помнілася, адкуль, але ў памяці ягонай была хаціна ў Вавуках з дзвюма лесвіцамі. І жанчына з іменем Ганна ў той хаціне. Больш за тое: ён сам быў там, падымаўся па лесвіцы ўверх, якая гэтак хісталася, што на ёй было не ўстаяць. І вось тут у памяці быў прагал. Ці ўстаяў ён, ці зрынуўся, чым усё скончылася, Віктар не помніў. Не падаўся ж ён у манахі...

– Гэта ваша біяграфія для ўступлення ў партыю? – з'едліва, бо святая Ганна звінавасціла яго ў тым, што ён прысвоіў скрадзеную ў яе рэч, спытаў Ленін. – Без біяграфіі вы лепш выглядалі. Спадзяюся, – нервова прастукаў ён пальцамі па бутэльцы з кагорам, – таварыш Машнін раскажа нам біяграфію, а не меладраму.

Святы Серафім паківаўся над сталом, узяў з-пад рук Леніна бутэльку, адкаркаваў, разліў кагор па шклянках:

– Давайце вып'ем.

Выпілі. У Леніна рукі ўздрыгвалі, шклянка ледзь не ўпала, калі ён, выпіўшы, на стол яе ставіў.

– Я, калі малы быў, гадоў сямі... – выцер святы Серафім рубінавыя, як каменьчык на медальёне, вусны, – са званіцы зрынуўся. З самага верху. І хоць бы што. Рос я цікаўным хлапчуком, таму спытаў: "Госпадзі, чаму Ты не даў мне забіцца?" І пачуў: "Каб ты з маленства ведаў, што Бог ёсць, і каб любіў Бога".

Святы Серафім перахрысціўся.

– Дык вось ёсць людзі, якія не паглыбляюцца ў веданне Бога, а толькі любяць яго. І я таксама яго толькі любіў, калі на камені жыў.

– Як жыў на камені? – спытаў камендант Крамля, на якога, у адрозненне ад Леніна, аповеды святых не наганялі суму. – Хата на камені стаяла?

– Ніякай хаты. Проста камень – і я на ім. Так Бог жыць сказаў, каб я яго ўведаў. І было ў мяне толькі тое, што на сабе меў. Болей анічога мне і не трэба было. Але аднойчы падыходзіць да каменя Ганна. Не гэтая! – махнуў святы Серафім у бок святой Ганны. – Дачка званара, якая нарадзілася ў той дзень, калі я са званіцы зваліўся. Кажа: "Бог не даў табе забіцца, каб ты мог са мной злучыцца". Нібы яна гэта ведае. І падае руку: "Пайшлі на званарню!" А мне голас: "Калі пакінеш камень, цябе, як камень, пакіне Бог!" Я Ганне: "Будзь са мной тут", – дык яна: "Не! Толькі на званарні! Каб кахаліся мы з табой высока, каб пад самымі званамі!" І прыспешвае, няўсцерп

ёй, калоціцца ўся: “Хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!” Мне таксама няўсцерп, але як камень пакінуць, Бога аслухацца? І я ўзваліў камень на плечы, панёс на званіцу! Яго і тузін такіх, як я, не паднялі б, калі б не каханне, а тут я адзін – во якую сілу каханне дае! Іду я, прыступкі пад нагамі трашчаць, праз адну ламаюцца, лесвіцы канца няма, званы недзе ў нябёсах гойдаюцца, і нарэшце я пад імі – і мы з Ганнай на камені. І нам мякчэй, чым на пярыне...

Кахаць – гэта камень жыцця твайго ў неба ўзносіць. Не кожнаму яго падняць.

Не помню, колькі мы на званіцы прабылі, але ж не пражывеш увесь век пад аблокамі. На зямлю трэба вяртацца. З тым, з чым на неба прыйшоў. А прыйшоў я з каменем. Паспрабаваў яго падняць – не магу. Ці сам ён цяжэйшы стаў, ці сіл маіх маладых не стала. Ганна кажа: “Ён цябе мацней за мяне трымае. Нібы ён табе бацька, а ты яму сын. Але ж твайму сыну не з каменя, з мяне нарадзіцца”. І стары званар, бацька яе знізу крычыць: “Кінь камень у зямлю – і камень народзіць камень!” Тут Ганна, адкуль толькі сілы ўзяла, камень падхапіла, са званіцы скінула, ён прабіў зямлю да самага яе чэрава, але нічога не нарадзіў. А дачка званара нарадзіла хлопчыка, якога маім іменем, Прохарам, я ў свеце Прохарам быў, назвала, і які ў сем гадоў са званіцы зваліўся і забіўся.

Памаўчаўшы, святы Серафім, самаўзрушаны сваімі ўспамінамі, аднаму сабе наліў віна, выпіў.

– Такая біяграфія.

Усе з хвіліну памаўчалі.

– Да маёй падобная, – нечакана сказаў генерал КГБ Шырокаў, – таксама сам сабе наліўшы. – Нонсэнс, але падобная. Толькі ў мяне камень іншы. – І выпіўшы, паглядзеў на Леніна. – Маўзалейны.

Ленін падхапіўся, засунуў левую руку ў кішэнь камізэлькі, а правай замахаў, як з трыбуны выступаючы.

– Так! Нонсэнс! Усё, што вы кажаце, нонсэнс! Які камень я мусіў з гары скінуць? Той, з якім на гару ўзышоў? Камень пралетарскай рэвалюцыі! І кім бы я быў? Што б я меў пад гарой? Элізабэт д’Эрбанвіль? Француначку, з якой прылёг на камені? Каб усе пыталіся: «А хто гэты ляжыць з Элізабэт?»

Так, я кахаў яе! Гэтак, як больш нікога! Па-сапраўднаму. Таму і называў яе ў каханні сапраўдным іменем, а не Інэсай Арманд. І бываў я з ёй высока. І на лесвіцы ў небе, і на званіцы пад званамі. Зведаў, што гэта такое. Але заўсёды, калі спускаўся ўніз, здавалася, што званы звоняць па мне.

Яна падаравала мне гэты медальён перад ад’ездам на Каўказ. Сказала банальна: «На памяць». Я сам выправіў яе падлячыцца. Хто мог ведаць, што выпраўляю ў смерць? У халеру. А пасля вінаваціўся. Бо перад тым мільгалі думкі вызваліцца ад яе. Яна мне і патрэбная, як ніхто, была і, як ніхто, замінала. Таму першае, што я адчуў, была палёгка. Потым ужо віна. І цяжар такі, хоць Фані Каплан ажыві, каб застрэліла. Дарэчы, Элізабэт падобная была да Фані. Магла застрэліць.

Калі ўжо я сам захварэў, жонка мая знайшла медальён. Давай дапытваць: адкуль ён у цябе, чаму? Нібы не ведала. Усё яна ведала і маўчала. Бо разумела: калі стане раўнаваць, калі сямейныя сцэны пачнуцца – развітаемся. А развітвацца яна не хацела. Ды і я не хацеў, Надзя файнай жонкай была. Так мы ўтраіх і жылі. Элізабэт хоць бы што, прывыкла, а Надзя пакутавала. Не француначка. Але трывала. І толькі калі Элізабэт не стала, раптам адкрыта ўзраўнавала. Я не вытрываў: “Ды што гэта такое?! Рэўнасць да мёртвай?”

А яна давай плакаць. “Ты не ведаеш, бо не можаш ведаць! Не кахаў, бо не можаш кахаць! Таму і раўнаваць не можаш!” Проста захлёбвалася слязьмі, я не ўяўляў, што ў яе столькі слёз, за ўсё жыццё слязінкі з яе не выціснулася. І мне шкада стала! Яе шкада, сябе шкада, нашага маладога, працяганага па ссылках, па эміграцыях жыцця! Так шкада – хоць самому плач... Тады і сказаў ёй, падмануў яе, разумеючы, што гэтага падману яна ад мяне і чакае, нібы знайшоў медальён у таемным схове гаспадыні дома. У купчыхі Марозавай, якая з рэвалюцыянеркай Арманд, французжанкай Элізабэт д’Эрбанвіль сябравала, і тая ці падаравала, ці прадала купчысе медальён... Надзя не паверыла, але зрабіла выгляд, быццам верыць, і я падумаў: якое падманлівае і якое эгаістычнае гэтае пачуццё: каханне! З усімі жарсцямі вакол яго! Як яно зацямняе розум, адцягвае ад вялікіх ідэй! І яшчэ раз пераканаўся ў гэтым, калі разам са Сталінам у маўзалеі ляжаў. Жонка ягоная нібыта застрэлілася, але ўсе казалі, што ён забіў яе, дык я толькі і чуў днём і ўночы: “Уладзімір Ільіч, я Надзю не забіваў!” Што мне да таго: забіваў, не забіваў? Троцкага забіў – не праблема, а жонку – праблема! Якая праблема, калі ў мяне свая Надзя? Вось жа трэба было так, каб і ў мяне, і ў яго! Я нават стаў думаць, што, можа быць, і я сваю забіў? Не куляй, а тым жыццём, якое яна пражыла са мной, хоць магла з некім іншым пражыць іншае. Не забітае. А Сталін сваё: не забіваў, не забіваў!.. Урэшце я не стрываў, напісаў запіску ў ЦК, каб вынеслі яго адсюль. Яго вынеслі, але ўсё падалі так, нібы зрабілі гэта праз палітыку. Маўляў, не месца яму побач з Леніным, бо не сапраўдны ён ленінец. Якраз сапраўдны, калі б не жонка. А ён яшчэ і да маёй, калі я памёр, прычапіўся: мы замест вас, Надзея Канстанцінаўна, можам Леніну новую ўдаву знайсці! Хто ты такі, каб мне новую ўдаву шукаць? Хоць старая, праўду сказаць, залішне сабе дазваляла: “Я выконваю волю Ільіча!” Калі б маю волю выконвала, не скандаліла б праз Элізабэт...

Пачаўшы распавядаць сваю гісторыю кахання палымяна, як з трыбуны, Ленін пад канец сцішэў. Відаць было, як глыбока ўдаўся ён ва ўспаміны і як соладка мучылі яны яго. “А партрэта Элізабэт, калі медальён вам дастаўся, у ім не было? – спытаў ён Ганну, і калі тая паківала, што не, падышоў, працягнуў руку, у якую Ганна паклала медальён, і Ленін сціснуў кулачок. – Яшчэ прыпякае...”

Віктару здалося, што і яму прыпякло.

Той свет, як і гэты, быў поўны ўспамінамі... Зрэшты, пры траіх жывых і траіх нябожчыках не разабраць было, які гэта свет, ды Віктар і не спрабаваў у тым разбірацца. Слухаючы гісторыі кахання мёртвых, ён узрушана зразумеў, чаму і чым яны жывыя. Глядзеў на святую, глядзеў на грэшную Ганну і бачыў, як яна, грэшная, але падобная да манашкі, узвышаецца ў святой...

– Дык гэта... – устрапянуўся, успомніўшы, дзеля чаго прыйшоў, святы Серафім. – Дакумент які-небудзь, каб не расстралялі...

Ленін пастаяў, пра нешта яшчэ ўспамінаючы, прыжмурана паглядзеў на Шырокава.

– Што вы думаеце як сакратар партарганізацыі маўзалея?.. Хрысціяне ж таксама пачыналі як рэвалюцыянеры. Імі жывымі звяроў кармілі, а яны былі верныя ідэі. Няхай ідэі цемрашальскай, але верныя... Дык вось я думаю, што ў ідэі галоўнае вера ў яе! Як і ў каханні. Верыш – яно ёсць, не верыш – няма. Так?.. – вярнуў ён медальён Ганне. – У што верыш, тое і святое?.. – І ні ад каго не чакаючы, бо сам усё ведаў, ніякага адказу, правадыр сусветнага пралетарыяту загадаў генералу Шырокаву: – Выдайце святым партбілеты,

я падпішу! І будзем мець найстарэйшую ў Еўропе партыю! – замахаў ён зноў, як з трыбуны, кулачком. – Заткнем за пояс немцаў з ангельцамі! Дый французаў, у якіх з каханнем лепш выходзіць, чым з рэвалюцыяй... І яму, – кіўнуў Ленін у бок Віктара, – таксама выдайце. А то дэлегат партыйнага з'езда – і не ў партыі!..

Камендант Крамля, начальнік 9-га ўпраўлення КГБ СССР, сакратар партарганізацыі маўзалея генерал-лейтэнант Шырокаў дастаў з кішэні мундзіра тры чырвоныя кніжачкі. Патасаваў іх, як карты, – і адну зноў схаваў у кішэнь.

– Не! – сказаў ён, і Віктар падумаў, што гэта першы савецкі генерал, які ў нечым не згадзіўся з таварышам Леніным. – Няхай спачатку паэму напіша пра...

Ён не паспеў сказаць, пра што?.. “Таварыш Ленін! Дазвольце звярнуцца да таварыша генерала!” – раптам паўстаў над саркафагам, казырнуўшы, чырванатвары, з шэранню на шапцы міліцыянт, мусібыць, паставы каля Вечнага агню, і Віктар не стаў чакаць, калі яго ці арыштуюць, ці выдадуць яму партбілет, кінуўся ў правыя бакавыя дзверы, у якія выходзілі звычайна экскурсанты, і Ганна кінулася за ім, яны выскачылі на Красную плошчу і на яліне, якая была не блакітнай, як усе крамлёўскія яліны, а звычайна зялёнай, лясной, убачылі ўказальнік на Вавукі, каля якога, невядома скуль узяўшыся, нібы за ялінай хаваўся, рэзка затармазіў “Масквічок”, нехта крыкнуў ім з машыны: “Сядайце!” – і калі яны селі, убачылі за стырном Віктара Маргера, рускага паэта, які на “Масквічку” гэтым забіўся і які ўсю ноч, везучы іх да Вавукаў, не сказаў, апроч “сядайце”, ні слова, і яны таксама нічога яму не казалі, проста не ведалі, што казаць, а калі даехалі раніцай, ён спыніўся каля хаціны, у якой, здавалася, ніхто не жыў, высадзіў іх, развярнуўся і рушыў назад, а яны доўга стаялі і глядзелі яму ўслед, нібы чакаючы, што ён вернецца і растлумачыць, што адбываецца, але ніхто да іх не вярнуўся і нічога не растлумачыў, а калі нарэшце зайшлі яны ў хату, дзе не было нічога, апроч дзвюх лесвіц, адна з якіх вяла ў склеп, другая на дах, і абедзве, ні на чым не трымаючыся, віселі, здавалася, у паветры, а на прыступках іх, раскіданыя, нібы ветрам у хату занесеныя, ляжалі спісаныя аркушы паперы з паэмай, пра якую Віктар не помніў, калі і дзе яе напісаў, і, сеўшы на парог, схапіўшыся рукамі за галаву, прасіў адчайна: “Скажы мне, што гэта я, скажы мне, што гэта не ён, скажы мне, што гэта ты, Ганна!..”

Я ў Крэва ехаў. Да сябе самога.
Была мне звыклай крэўская дарога,
Было спакойна, ціха на душы, –
І раптам хатку я каля шашы
Убачыў недалёка ад Вавукаў,
Дзе не было раней яе... Пастукаў,
Спыталі: «Ганя, мы яго чакалі?»
«Не, – адказала Ганя. – Не яго».

«Ты ўжо сама не ведаеш, каго
Чакаеш...» – за дзвярыма прабурчалі.
І запрасілі: «Вы заходзьце ў хатку.
На Ганю не зважайце, бо вар'ятка».

Я на парог ступіў. Вялі з парога
Дзве лесвіцы. Уніз і ўверх вялі.
А больш у хатцы не было нічога.

«Так, не зважайце, – быццам з-пад зямлі
Сказала Ганя. – Бо стралой параню
Я сэрца ваша, а душу згублю,
Калі вы закахаецеся ў Ганю.
Не пакахайце! Я не вас люблю».

«Таго, каго ты любіш, ці забілі,
Або яшчэ не нарадзіўся той...» –
Сказаў старэчы Голас, і ў пустой
Хаціне пад Вавукамі завылі,
Нібы зімой галодныя ваўкі,
Завеі, сцюжы, ветры, скразнякі,
І так узвыў галодны голас Гані,
Як з голаду ваўчыца вые ўранні
Ва ўсе нябёсы і зямныя далі:
«Нікога ва ўсім свеце не кахалі
Так, як сябе кахаю я сама
Каханнем тым, што не мінае марна,
І як высока, як самаахвярна
Мяне кахае той, каго няма!»

«Я ж вам казаў – вар'ятка», – мовіў Голас.
І раптам я адчуў ваўчыны голад
І ў горле боль такі, што ледзь стрываў,
Каб не завыць!.. «Дык я яго спаткаў», –
Сказаў скрозь боль.
«Каго?» – спытала Ганя.
«Таго, каго няма».

Стары спытаў: «Каго?..» –
А Ганя закрычала: «Ты яго
Не мог спаткаць, бо не спазнаў кахання,
Не зведаў вышыні, якая ў ім,
Якая з небам, як адно ў адным,
Дзе так высока, што не розніць вока
Пачатак і канец, дзе зліты даль і блізь,
І дзе ідзеш не блізка ці далёка,
А толькі знізу ўверх – і толькі зверху ўніз!»

«Заўсёды і паўсюль, – пачуўся Голас зноў, –
Ёсць даль для чарвякоў і высь для каршуноў,
І ці кахаеш ты, ці ненавідзіш,
Калі ідзеш да небасхілу, прыйдзеш
У рэшце рэшт туды, адкуль пайшоў.
Такі твой шлях зямны...»

«Ты можаш выбраць зорны...
Ці белы коршун ты, ці коршун чорны,
Ці чорны коршун ты, ці коршун белы, –
Заваражбіла Ганя і ўзляцела... –
Ступі на лесвіцу!..»

«Скажы мне, на якую?!.»
«Любую выбірай!..»

І я ступіў на тую,
Што ўверх вяла...
О, як яе хістала!..
Як быццам ні на чым яна стаяла –
На тым, чаго няма!..

«Так свет увесь стаіць, –
Сказаў стары. – Нібыта ні на чым.
І ўсе мы ў ім як ні на чым стаім».

«Ступіў, дык падымайся!» – падала
Руку мне Ганя...
Лесвіца вяла
Вышэй, вышэй – канца ёй не было...
«Вунь там, наверсе, дзе ў святле святло,
Ён адпусціў руку маю, сарваўся, –
Сказала Ганя. – Там ты з ім спаткаўся,
Калі напраўду ты спаткаўся з ім».

«Чаму ён адпусціў?.. Ён пабаяўся
Вышэй падняцца?..»
«Не, не пабаяўся.
Там не ўстаяць было ўжо нам дваім.
Ніхто яшчэ ўдваіх на месцы тым
Не выстаяў. Адзін – або адна!..»
І вырвала сваю руку
з маёй рукі
яна!

«Ён быў найлепшы з тых, хто быў табой! –
Яна крычала з лесвіцы пустой,
З якой уніз услед за мной злятала. –
Я ведала! Я ад пачатку знала,
Што гэтым скончыцца!..»

«Адкуль ты знаць магла?!.»

«Бо ў ім жыла! Пасля ў табе жыла!
І ўбачыла, што ты не станеш ім,
І што не жыць вам аднаму ў адным!
І ты забіў яго! Забіў яго ў сабе!..»
«Яна ўвесь час, – сказаў стары, – дзяўбе
Адно і тое. Не перадзяўбаць...
Народжаныя мы, каб забіваць
Сябе ў сабе раней, чым прыйдзе смерць,
Але нашто праз гэта вар'яцець?
Найпрасцей жыццё ў сваёй аснове,
На выбар – толькі два шляхі ў жыцці:
Уверх – каб падымацца да любові,
І ўніз – каб да нянавісці ісці».

Я ўжо спускаўся ўніз. Глыбока пада мной
Цямнела дно – і дно было зямлёй,
І Ганя ёй была, і з дна, з яго цямна
Цяжарнай падымалася яна,
І, як Зямля, жывот яе круглеў,
Якім яна казала нараспеў:
«Я думала: каханне нас міне,
Ды не мінула, вось яно ўва мне,
Мы ў вышыні яго шукалі не дарма,
Цяпер яно там ёсць, хоць нас з табой няма...»

Я вар'яцеў!.. Не, так не можа быць!..

«Народжаныя мы, каб нарадзіць
Сябе ў сабе раней, чым прыйдзе смерць,
Але нашто праз гэта вар'яцець? –
Пачуўся ў Гані Голас. Слова ў слове!.. –
Найпростае жыццё ў сваёй аснове,
На выбар – толькі два шляхі ў жыцці:
Уверх – каб падымацца да любові,
І ўніз – каб да нянавісці ісці».

Спрэс тое самае! Зямля і неба спрэс!..
Але ў тых самых словах іншы сэнс
Так праступаў, нібы расток, калі
Ён праступае з таямніц зямлі,
Ці як дзіця з'яўляецца з улоння...

«Даволі, Ганя... Досыць на сягоння, –
Зямля сказала Голасам спрадвечным. –
Амаль усё, што ў сіле чалавечай
Адчуць і вытрываць, адчуў ён і стрываў...»

«Не ўсё яшчэ... Яшчэ ён не сказаў...»
«Чаго ён не сказаў?..»
«Ці так мяне жадаў,
Ці так кахаў мяне, як я яго кахала?..»

Я выйшаў з хаты...
Сцюжа замятала,
Дарогі – не праехаць, не прайсці!
«На выбар – толькі два шляхі ў жыцці», –
У скронях білася. Кружылася завея,
І я кружыў, не помніў: хто я, дзе я? –
З пагоркаў падаў, па лагчынах бег,
Кідаўся зверху ўніз і знізу ўверх,
Адчаю поўны, поўны жалю, скрухі,
Як снегам поўныя завеі, завірухі,
І ў тых завеях, сцюжах, завірухах
Услед мне вылі ўсе ваўкі ў Вавуках.

## XXV

У рытуальнай зале крэматорыя, дзе сабраліся мёртвыя, настала мёртвая цішыня.

“Прашу... Прашу... Прашу...” – падняўшыся, дробна заківаў галавой Тухачэўскі, і чарнявы з сівізной нябожчык у кіцелі пракурора няспешна прайшоў да трыбуны. Пастаяў і пачаў нетаропка, голасам, падобным да сталінскага.

– Памятаеце, што вы напісалі ў дваццатым годзе, таварыш Тухачэўскі? – спытаў ён, не гледзячы на Тухачэўскага, і той увабраў галаву ў плечы. – Не памятаеце?.. Шкада, бо правільна напісалі. Як бальшавік! – узняў кулак над трыбунай нябожчык у кіцелі пракурора, і чырвоны маршал прыпадняў галаву. – Вы напісалі, што цераз труп белай Польшчы ляжыць шлях да сусветнага пажару. Што на штыках мы панясем шчасце працоўнаму чалавецтву. На Захад. На Мінск, на Вільню, на Варшаву!.. Вось што вы пісалі ў дваццатым годзе. А што ў гэты час пісаў рабочы паэт Дзям’ян Бедны?.. “Изменил поэт народу, Заплясал панам в угоду, Да, в угоду. Янки посвист соловьиный Превратился в шип змеиный, Да, в змеиный...” А чаму так пісаў рабочы паэт Дзям’ян Бедны? Бо сялянскі паэт Янка Купала вітаў у Мінску крэўнага ворага нашай рабоча-сялянскай дзяржавы Пілсудскага! Запрашаў шалёнага сабаку польскага імперыялізму і каланіялізму на ўладарства ў Савецкую Беларусь: “На Ўладара жджэ Беларусь даўно. І жджэ цябе ўладарства Божы дар, Вялікае, магутнае яно. Пад беларускі сцяг прыйдзі, Уладар!..” І чалавека, які напісаў такое, нам прапануюць прыняць у ганаровыя сябры крэматорыя імя таварыша Сталіна?.. – зрабіўшы эфектную паўзу, зірнуў нябожчык у кіцелі пракурора на Горкага, на Коган, на прэзідыум, паглядзеў у цішыню залы...

– Расстраляць! – істэрычна крыкнуў нехта каля лесвіцы, і зала падхапіла: “Расстраляць!.. Горкага расстраляць!.. Коган расстраляць!.. Куйбышава!.. Тухачэўскага!.. Прэзідыум!.. Расстраляць усіх!..” – і ніхто не пачуў у лямантце разгублены голас Горкага: “Ён жа народны паэт, лаўрэат Сталінскай прэміі...” – а нябожчык у кіцелі пракурора голас Горкага пачуў.

– Так, – падняўшы руку, вярнуў цішыню ў залу пракурор. – Ён народны паэт, нацыянальны кадр, але паглядзіце, як мясцовы нацыяналізм зліваецца з карычневай чумой. Калмыкі, чачэнцы, інгушы, балкарцы, крымскія татары пайшлі ў паслугачы да фашыстаў! А пасля яны яшчэ крыўдаваць будуць, што мы іх дэпартавалі. У Кіеве ўкраінскія нацыяналісты сустрэлі немцаў хлебам-соллю! А пасля яшчэ яны прэтэнзіі прад’яўляць будуць, што мы ў іх Крым забралі. Наш Крым! У Мінску фашысты назвалі вуліцу іменем... – запаволіўся нябожчык у кіцелі пракурора... – іменем каго б вы думалі фашысты ў Мінску вуліцу назвалі, таварыш Коган?..

Таварыш Коган падхапілася, счырванелая, і раптоўна збялела. Купала здзівіўся, што нябожчыкі гэтак чырванець і бялець могуць, але голасу колішняя грамадзянская жонка Куйбышава не страціла: “Я прызнаю сваю памылку, таварышы! У той час, калі партыя, калі таварыш Сталін заклікае да барацьбы з мясцовым нацыяналізмам, які зліваецца з фашызмам, калі наш народ патрабуе бязлітаснага суда над здраднікамі, мы павінны не шкадаваць не толькі іх, але й нашых бацькоў, братоў і сясцёр, саміх сябе не шкадаваць, і я лічу, што расстраляць за гэта мала! Кара для паслугачоў фашыстаў мусіць быць такая, каб яны ўсё жыццё і ўсю смерць пра гэта помнілі, і я прапаную... – прыпынілася таварыш Коган, не прыдумаўшы, відаць, што прапанаваць замест расстрэлу... – прапаную...”

“Хто ў каго Крым забраў?..” – з неразуменнем у голасе спытаў, пакуль таварыш Коган абдумвала сваю прапанову, нехта ў канцы залы, а тут ускочыў Кашкадамаў, пырснуў слінямі:

– Раскрыжаваць!.. Мы аднаго такога, калі яшчэ я старшынёй таварыства ваяўнічых бязбожнікаў быў, раскрыжавалі, дык навек!

Па зале прабег шумок. Ці як марская хваля пракацілася, ці як праляцелі птушкі.

– Што навек?.. Каго навек?.. – спытаў ад лесвіцы палкоўнік Несцярэнка, а таварыш Коган, убачыўшы, што нябожчык у кіцелі пракурора зірнуў на Кашкадамава ўхвальна, крыкнула коратка, як адным ударам цвік увагнала: “На крыж!”

І чырвоны рубінчык на медальёне, які сціскаў у руцэ Купала, гэтак апёк далонь, нібы ў яе распалены цвік увагналі.

“Ай да Коган!..” – зноў пляснуў сябе па каленях Куйбышаў, але гэтым разам не сказаў, што дарма яе ў Самары кінуў. Мусібыць, вырашыў, што кінуў не дарма.

– А гэта па-бальшавіцку будзе? – асцярожна спытаў Тухачэўскі, які зусім не выглядаў на чырвонага маршала, што 20 год таму збіраўся распаліць сусветны пажар, жалезнай рукой загнаць чалавецтва да шчасця, а пазіраў на нябожчыка ў кіцелі пракурора лісліва, знізу ўверх, гатовы зняць і паслаць яму пад ногі свае маршальскія галіфэ. – Расстраляць – гэта я разумею. Гэта па-бальшавіцку. А раскрыжаваць...

“Чаго ён, чаго Куйбышаў, чаго Коган, чаго і каго ўсе яны, – намагаўся зразумець Купала, – баяцца? Яны ж мёртвыя! Хто і што з імі можа зрабіць? Хіба Бог... А Бога ім чаго баяцца, калі атэісты? Дык каго? Чаго?..”

“Яны ідыёты, а не атэісты, – шапнуў яму на вуха Маякоўскі. – Я праз тое і застрэліўся, што яны ідыёты”.

– Правільна гэта будзе! – цвёрда сказаў Кашкадамаў. – Нашы ворагі ўзнялі яго на абраз, а мы яго на крыж! Правільна, таварыш... таварыш Ляплеўскі?..

“Во!.. Намеснік Вышынскага! Нейкі не падобны...” – шапнуў Купалу Куйбышаў, а Кашкадамаў не сядаў, чакаў, і зала чакала, што скажа таварыш Ляплеўскі, намеснік пракурора СССР, які дасюль па-беларуску прамаўляў, а цяпер спытаў па-руску, ці Купала пачуў па-руску, ён ніяк не мог улавіць, з чаго і як такія перакіды здараюцца: “А почему у вас, товарищ Купала, нет ни одного масштабного произведения о товарище Ленине? Вот у товарища Маяковского есть, а у вас нет. По какой причине?..”

– Па той, што не напісаў! – нечакана для самога сябе весела адказаў Купала, і Куйбышаў трэці раз пляснуў сябе па каленях.

Перад прэзідыумам узвілася, проста ластаўкай узляцела і таксама па-руску зашчабятала таварыш Коган.

– Это не ответ, и нечему тут, товарищ Куйбышев, аплодировать! Советский поэт не может, не имеет права не написать масштабное произведение о товарище Ленине, потому что...

Пакуль яна шчабятала, тлумачачы колішняму мужу і сакратару Ленінградскага абкама партыі, чаму савецкі паэт не можа не напісаць пра Леніна, Купала ўспомніў, як два гады таму, калі ў Маскве была дэкада беларускага мастацтва і яны з Ганнай сустрэліся ў другі раз, у яго таксама пыталіся, чаму ён не напісаў паэму пра правадыра?.. І як Ганна даймала з п’есай для яе, у якой яна магла б сыграць каханку д’ябла ці каханку Бога... І як жанчына, якая яе чула, спытала, уражаная: “Табе ўсё адно?..”

Было гэта ў музеі Леніна ў Горках, куды яны заехалі, калі Ганна запрасіла Купалу да сябе на лецішча: "Там нас ніхто не знойдзе!.."

## 26

На дзяржаўнай дачы Грачына гарэла святло, у падворку стаялі машыны. Пяць. Адна ўрадавая, "ЗІЛ-117", дзве міліцэйскія і дзве невядома якія, у якіх сядзелі незнаёмыя людзі.

– Што тут робіцца? – занепакоілася Ганна. – Гэта не бацькавы машыны. І ахова не ягоная, – падбегла яна да дзвярэй, каля якіх стаялі два таварышы ў цывільным. – Што тут такое?

Адзін з таварышаў, у дублёнцы, лысаваты, падобны да маладога Хрушчова, ступіў ёй насустрач, нібы не пусціць у дом хацеў, другі, у паліто і пыжыкавай шапцы, яго спыніў.

– Нічога такога, Ганна Васільеўна... У вашага бацькі госць. Зараз мы спытаем, ці можна вам?

– Які госць? Як гэта ці можна мне? Гэта не Крэмль! Гэта наш дом, я тут жыву!

Пра Крэмль таварыш у паліто, пэўна, не зразумеў, пацепнуў плячыма: маўляў, пры чым тут Крэмль? – але перапытваць не стаў, кінуў лысаватаму ў дублёнцы, які на такім марозе красаваўся без шапкі: "Ідзі скажы, што дачка з..."

Ён паглядзеў на Віктара і не сказаў, з кім. Відаць было, што ён ведае, хто перад ім, але не ведае, як таго, хто перад ім, назваць, а Віктар падумаў: "Так і буду з..."

– Зараз спытаем, ці можна, – паўтарыў таварыш у пыжыкавай шапцы такім голасам, якім звычайна прабачаюцца, бо яму, мусібыць, стала няёмка перад Віктарам, а Ганна крыкнула: "Ды пайшлі вы!" – і ламанулася за лысаватым у дзверы. – Тата!.. Ты дома, тата? Чаму мяне да цябе не пускаюць?"

Па тым, як яна ламанулася, як закрычала, ніяк нельга было падумаць, што ўзнервавалася яна праз тое, што ў яе забяруць кватэру на Малой Броннай. Яна вырашыла, што забіраюць бацьку.

"А гэта ж было... Было... – перадалася яе нервовасць Віктару. – І зусім нядаўна. Вось так прыязджалі і забіралі. Толькі не на ўрадавых машынах. Хаця, калі паслухаць палкоўніка Рутневіча, дык гэбэшныя машыны і ёсць урадавыя. Але ўсё ж не такія ўрадавыя, як пры Сталіну. Не такія. Ці гэткія самыя, толькі выглядаюць інакш?"

– Што за крык?.. – пачуўся з расчыненых дзвярэй трохі п'янаваты голас Грачына. – Ганя?.. Ты дзе была, Ганя? І хто гэта з табой? Віктар?.. Давай яго сюды, ён малайчына! Я думаў, што проста бульбаш, а ён не проста!.. Во і Леанід Ільіч яго хваліў...

Госцем Грачына быў Брэжнеў, які сядзеў з гаспадаром на кухні. На дачы была гасціная, сталовая, а яны сядзелі на кухні – і на кухонным стале стаяла гарэлка, ляжалі на газеце "Праўда" пакроены хлеб, парэзаныя цыбуля і селядзец.

– Чытаем, – пасунуў Брэжнеў шклянку па газеце. – Бачыце: даклад таварыша Брэжнева пра чарговыя задачы партыі ў знешняй і ўнутранай палітыцы... Не паспеў выступіць, а ўжо надрукаваць паспелі. Вось гэта ўмеюць. А ўсё астатняе... – І, зірнуўшы на амаль пустую пляшку, ён павярнуўся да Грачына: – Збегаць трэба, Вася. Госць прыйшоў.

Віктар дастаў з капоты і паставіў на стол "Маскоўскую".

– Ну, малайчына!.. – шчыра ўзрадваўся Брэжнеў. – Вось я, Вася, што заўважаў? Калі чалавек малайчына, дык малайчына ва ўсім! І паўсюль! А не тое, што недзе малайчына, а на з’ездзе...

Брэжнеў не дагаварыў, не сказаў, хто той чалавек, які недзе малайчына, а на з’ездзе – не. Ён не назваў імя, але ў Віктара мурашы прабеглі па шыі. Халодненькімі ножкамі.

Грачын прынёс са сталовай яшчэ адну шклянку. Сеў і спытаў Ганну, якая, убачыўшы Брэжнева, застыла, як укапаная: “Ты ж, Ганя, гарэлку не будзеш піць? Вазьмі келіх і віно ў буфеце. Яшчэ там печыва ёсць, не селядзец жа табе з газеты есці”.

Брэжневу тое, што Грачын сказаў Ганне, не спадабалася.

– А чаму не? Чаму мы з табой можам селядзец з газеты есці, а яна не?.. Вось ты можаш? – спытаў ён Віктара, і калі той, не разумеючы, як гэта так... адзін – першы чалавек у краіне, другі – таксама не апошні, а п’юць і закусваюць на газеце, як муляры пасля змены ў бытоўцы, кіўнуў: маўляў, так, магу, – Брэжнеў наліў яму рэшткі недапітай гарэлкі. – Я ж казаў, што малайчына! З гранёнай шклянкі п’е і селядцом з газеты закусвае. А чаму?.. Бо не сын генеральнага сакратара, як мая дачка. Дык не была б яна дачкой генеральнага, каб я заявіў пра адстаўку, – прыстукнуў ён кулаком па стале. – І селядзец бы з газеты ела!

Ганна нарэшце “выкапалася” з падлогі, паздароўкалася: “Добры вечар, Леанід Ільіч”, – і той падняўся: “Ідзі, Ганечка, я цябе пацалую... Даўно... даўно не бачыў... Прыгажуня ты якая, уся ў маці... Касманаўт твой з космасу прывітанне мне перадаваў... З ім, Галя сказала, у цябе ўсё? Цяпер за паэта выходзіш?.. Правільна, што не за мянта, як Галя...”

Грачын адкаркаваў “Маскоўскую”, наліў сабе, Брэжневу: “Давай, Лёня, скончым сённяшні дзень. Надта цяжкі ён, каб доўжыць...” – і Брэжнеў, разоў пяць цмокнуўшы і нарэшце адпусціўшы з абдымкаў Ганну, узяў шклянку.

– А як, Вася, скончым? Як і пачалі?.. Як і не было нічога?.. Ведаеш, – паглядзеў ён на Ганну, якая вусны абціралa, і Брэжнеў зрабіў выгляд, нібы не заўважыў, як яна вусны абцірае, – што мне твой бацька сказаў?.. Лепшае, што можа быць, гэта тое, што было. Філосаф.

Грачын чокнуўся з ім.

– Ды кінь! Абгаварылі мы ўсё з табой. Двойчы. Усё, што чалавек робіць да смерці, ён робіць правільна. Пасля смерці ўжо не. Будзь!

Брэжнеў не спяшаў выпіваць. І наўрад ці таму, што быў захмялелы болей за Грачына. Відаць было, што нешта прыгнятала яго, і ён не ведаў, што з гэтым рабіць. Таму спрабаваў піць пад селядзец і філасофію.

– А Берыя казаў, што пасля смерці.

Грачын выпіў адзін. Спытаў, папярхнуўшыся:

– Што пасля смерці?..

– Чалавек правільна ўсё робіць... Неяк мы размаўлялі пра чалавечую дасканаласць: на якой ступені яна спыняецца?.. Я сказаў, каб не прагаварыцца, ён у любой размове пасткі ставіў: “Бывае так, што і не спыняецца, як у таварыша Сталіна, які для мяне ўзор дасканаласці”, – дык Берыя тады: “А ведаеш, які чалавек найдасканалы, абсалютна дасканалы?..” Я не прыдумаў, каго, апроч Сталіна, можна пры Берыі найдасканалым назваць, а ён сказаў: “Мёртвы. Мёртвы чалавек – абсалютная дасканаласць”. Потым, калі мы яго арыштоўвалі і я вёў яго з Крамля, ён спыніўся ў дзвярах: “Імкнешся да найдасканаласці, Лёня?.. Дык вершы пісаў бы...”

Так і не выпіўшы, Брэжнеў сеў.

– Дарэчы, Вася, ты вершы ў маладосці пісаў? Мусіць, не. Нейкі ты для вершаў сухаваты. А я пісаў. Толькі ніхто пра тое не ведаў і не ведае.

– Чаму ніхто? – падумаўшы, што калі ён не хоча, як у кабінеце Суслава, прастаяць усю размову нямком, дык самы час падаць голас, знайшоў, што сказаць, Віктар. – Вы ж друкаваліся. Я чытаў. Нават пераклаў.

Брэжнеў не зразумеў.

– Што пераклаў?

– Верш ваш адзін...

– Куды?

– Па-беларуску пераклаў. На беларускую мову.

– А нашто? Навошта мяне на беларускую мову?.. Гэта Сталін з Берыем любілі ў такія гульні гуляць. У нацыянальныя. Бо грузіны. А я не люблю. “Па нацыянальнасці я савецкі”, як Ружэвіч напісаў. Гэта ён пра сябе, але і пра мяне. Вось так вершы пісаць трэба. Каб пра ўсіх. І каб правільна. А ты неяк не ў той бок... Васіль Дзям’янавіч, калі распавядаў, з кім Ганя цяпер, сказаў, што ты нават ад кнігі рускай адмовіўся. Таму і кажу, што не ў той бок. Рухаюцца ўсе, калі нечага дасягнуць хочуць, ад меншага да большага. У гэтым логіка. А ты ад большага да меншага. У гэтым логікі няма. Паэт... ды хоць не паэт, хто заўгодна... мастак, сакратар ЦК – гэта не толькі тое, што ён мае... талент, здольнасць кіраваць, але і тое, што і каго ён прадстаўляе. Вось я, калі вершы пісаў, быў землямерам. Дык што: усю зямлю прадстаўляў? Ды я нават вёскі той не прадстаўляў, у якой мераў зямлю. Між іншым, у вас, пад Оршай. Пасля ў Дняпроўску, дзе быў інжынерам, я ўжо прадстаўляў завод. У Днепрадзяржынску, калі працаваў у гарвыканкаме, горад. У Запарожжы, куды прызначылі сакратаром абкама, вобласць. Потым, стаўшы сакратаром ЦК, прадстаўляў рэспубліке. Спачатку ў Кішынёве – меншую, потым у Алма-Аце – большую. А цяпер – СССР! І табе я, бо Васіль Дзям’янавіч папрасіў, прапаную прадстаўляць СССР. А ты куды? Назад у Беларусь? Пад Оршу?.. Інструктарам у ЦК камсамола не пайшоў – землямерам у вёску пойдзеш? З медалём за вызваленне Балгарыі ад ярма Асманскай імперыі... Дзе, дарэчы, медаль? Чаму не носіш? Мяне ўзнагародзілі – я нашу. Бо паважаю ўзнагароду, паважаю Балгарыю...

– І Асманскую імперыю? – не стрывала, каб не спытаць, Ганна, і Брэжнеў, увешаны ўзнагародамі, як калядная яліна цацкамі, ці не зразумеў, ці не захацеў зразумець гумару, прамаўчаў, а Грачын зірнуў і на Ганну, і на Віктара касавата:

– Вам усё жарцікі... Ён, Леанід Ілыч, намеснікам загадчыка аддзела не пайшоў, а яна...

– Кім?.. – перапыніў Брэжнеў? – Вось гэта, Вася, ты дарма. Растуць ад меншага, а не ад сярэдзіны. Бо калі не будзеш ведаць, што і як там, на меншым, на большым не ўтрымаешся. – І нечакана ўзяў шклянку, адпіў палову. – Мне ўжо штаны баляць – так насядзеўся на гэтым большым.

Грачын падсунуўся да яго разам з крэслам, прыабняў.

– У землямеры хочаш, Лёня? Не дадзена табе ў землямеры. Не пусцім. Так вырашыла Палітбюро – і вырашыла правільна. А я, цябе паслухаўшы, няправільна вырашыў. І давай мы на гэтым нарэшце сыдземся, перш чым сёння разыдземся.

Брэжнеў зняў з пляча руку Грачына, нахіліўся да стала, паклаў селядзец на хлеб, на селядзец цыбулю, смачна закусіў.

– Ну ты, Васіль Дзям’янавіч, і накруціў. Я ж казаў: філосаф. Сыдземся, разыдземся, правільна, няправільна... А няхай моладзь скажа, правільна ці не? Распавядзі нашай маладой змене, пра што мы з табой філасофствавалі. Каб не падумалі, што проста пілі.

Грачын паглядзеў на Ганну, на Віктара: “Чаго вы, як слупы? Сядайце”. І калі яны селі, доўга глядзеў на Брэжнева, потым паспрабаваў наліць сабе: “Давай, лепей я проста вып’ю”, – але Брэжнеў перахапіў ягоную руку: “Давай, лепей распавядзі!” – “Ты гэтага надта хочаш?” – “Надта, не надта... Распавядзі! І няхай скажуць! Хоць і я магу ім сказаць, каб ведалі... Як вы думаеце: якая самая храновая штуковіна ў свеце?.. Прымаць, а потым адмяняць рашэнне – вось якая! І не таму, што рашэнне храновае, яно якраз не храновае, правільнае рашэнне, а таму, што ты...”

– Добра! – падняў рукі, зрабіўшы выгляд, нібы здаецца, Грачын, хоць заўважна было, што ён зусім не супраць, нават для нечага яму трэба, каб Ганна і Віктар гэта пачулі. – Хочаш дык хочаш, надта дык надта, – падышоў ён да дзвярэй, зазірнуў за іх, зачыніў. Вярнуўся да стала, сеў насупраць Брэжнева. – Цябе цягне пагаварыць пра гэта пры іх? Пры сведках? Не баішся, што яны засведчаць не тое, што ты хочаш, каб засведчылі? Як мы пра Сталіна, якога прадалі.

Сур’ёзная ў іх тут размова была. Нездарма гэбісты панаехалі.

Брэжнеў адарваў шматок газеты, выцер рукі.

– Сталіна няма... І я не прадаваў яго. Берыя прадаў. Няма Берыі. Хрушчоў прадаў. Няма Хрушчова. Тады чаго мне баяцца? Каго? Генеральнага сакратара Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева? Дык я і ёсць Генеральны сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза таварыш Леанід Ільіч Брэжнеў. Мне баяцца сябе самога?.. – кінуў ён у сметніцу скамечаны шматок. – Я не для таго ў генеральныя сакратары праз усё жыццё, як з сякерай праз лес, прабіваўся, каб самога сябе баяцца, Вася.

Прагаварыў ён гэта з такім жалезам у голасе, што Віктар падумаў: “Шмат каго ён скамечыў і ў сметніцу кінуў”, – а Грачын нават адсунуўся ад яго, інстынктыўна адсунуўся, не думаючы, бліжэй да Віктара, нібы менавіта яму захацеў усё распавесці.

– Так дык так... Перад з’ездам Леанід Ільіч папрасіў Палітбюро адобрыць ягоную адстаўку. Палітбюро не адобрыла. Аднагалосна, – падняў Грачын, як пры галасаванні, руку: маўляў, я таксама не адобрыў. – Паседжанне скончылася, Леанід Ільіч папрасіў мяне застацца. Даўно, сказаў, па-сяброўску мы не размаўлялі. Паехалі да яго на дачу. Не даязджаючы, спыніліся, зайшлі ў лес. Там ён вярнуўся да таго, што было на Палітбюро. Сказаў, што іншага не чакаў, але ўсё адно хоча сысці. І просіць мяне, як даўняга сябра, дапамагчы. Выступіць на з’ездзе. Прапанаваць яму гэта зрабіць. Даць магчымасць заявіць пра адстаўку. Маўляў, узрост, хваробы... А ён прапануе на сваё месца мяне.

Грачын памаўчаў, Брэжнеў слухаў яго, як упершыню чуе...

– Я спытаў, як ён такое ўяўляе? На Палітбюро я галасую супраць адстаўкі, а на з’ездзе выступаю за яе. Хто ж за мяне, хамелеона, прагаласуе? Што ўвогуле ад мяне пасля гэтага застанецца?.. Ён згадзіўся, што, бадай, так. І, калі ўжо я падумаў, што размова скончаная, раптам спытаў, ці няма ў мяне каго-небудзь на прыкмеце, хто б мог такое зрабіць? Можа, ёсць такі чалавек, прынцыповы, з амбіцыямі, які лічыць, што ў партыі наспелі перамены, і рвецца ў бой. Гэтакі герой, якому аднаму, можа, кідацца ў бойку страшнавата,

але калі хаўруснікам ягоным выявіцца нехта з Палітбюро, хто пагаворыць з ім, параіць гэта зрабіць, дык і не так страшна. А перад тым я ў Новасібірску быў, там мой даўні сябар сакратаром абкама, Леанід Ільіч яго добра ведае. Дык вось ён, мой сябар даўні, мне якраз пра гэта... Усю ноч пра тое, мы ў яго дома былі, што ў дзяржаве наспелі перамены, што так, як жывем, болей мы жыць не можам, і калі партыя не выступіць з праграмай перамен, яна страціць сваю кіруючую ролю. Уладу страціць. Не сёння, дык заўтра. І персанальна вінаваты ў гэтым будзе Леанід Ільіч, бо хто яшчэ? Гэта ён давёў партыю да застою, не прапануе, не можа прапанаваць, бо не адчувае, як змяніўся час, выйсця – і таму мусіць сысці. А я мушу, гэта мой партыйны абавязак, сказаць яму, каб сышоў. Тады я, каб скончыць размову, прапанаваў яму самому ўсё сказаць. Гэта ж, сказаў, і твой партыйны абавязак. І ён згадзіўся. Запрасіце мяне на Палітбюро – паўтару тое, што сказаў тут. Ну, тут я і сказаў яму, што Палітбюро супраць. Паседжання, на якім галасавалі, яшчэ не было, але я ведаў, якім яно будзе. І меркаваў, што, дазнаўшыся пра гэта, мой сябар звяне, а то гэтак распусціўся – не спыніць. А ён: у такім разе я выступлю на з'ездзе...

Вось пра яго я і сказаў Леаніду Ільічу. А Леанід Ільіч сказаў: давай яго і скарыстаем. Сустрэнься з ім, паабяцай падтрымаць. Намякні... – закашляўся, падсунуўся да стала, наліў гарэлкі Грачын. – Намякні, што ты не адзін... Няхай выступае. І хоць я сумняваўся... – выпіў ён паўшклянкі, – але папярэдне дамовіліся. А перастаў я сумнявацца, калі ў першы ж дзень з'езда па настроях убачыў, што такіх, як мой сябар, хапае. Але ім і хочацца – і колецца. Перагаварыў з сябрам. Так, маўляў, і так. Падумаў я і вырашыў, што ў Новасібірску ты ўсё слушна казаў. І не толькі я так вырашыў. Са мной згодны Андропаў. Яшчэ таварышы. Так што давай. Мы цябе падтрымаем.

– Канкрэтна ты яму толькі Андропава назваў? – спытаў Брэжнеў, і калі Грачын адказаў: "Так, падумаў, што дастаткова..." – Брэжнеў паківаў: кажы далей.

– Вызначыліся з днём і часам, – працягваў Грачын. – За два дні да закрыцця з'езда перад прывітаннем моладзі. Бо калі пасля антыпартыйнага выступу пачнецца вэрхал, дык камсамольскае прывітанне – самае лёгкае, што можна ці перанесці, ці ўвогуле адмяніць. З раніцы сёння ўсё заставалася, як дамовіліся, а ў абед Суслаў кажа: давайце збярэмся вузкім колам. Сабраліся. Леанід Ільіч, Суслаў, Андропаў...

У дзверы асцярожна пастукалі.

– Сабраліся Леанід Ільіч, Суслаў, Андропаў, я... – паўтарыў Грачын, якому відавочна хацелася, каб тое, пра што ён кажа, Ганна з Віктарам пачулі менавіта зараз, пры Брэжневе, і калі яшчэ раз, ужо мацней, пастукалі, ён ускочыў раздражнёны: "Ну, хто там? Што?.."

Дзверы расчыніліся: у парозе стаяў падобны да Хрушчова лысы ў дублёнцы. "Выбачайце, Васіль Дзям'янавіч, у вас тэлефон у кабінеце разрываўся, я зняў трубку: таварыш Андропаў... З таварышам Леанідам Ільічом Брэжневым пагаварыць хоча".

Брэжнеў, слухаючы Грачына, сядзеў ківаючы галавой: маўляў, усё так, – і гэтаксама ківаючы галавой, падняўся, прайшоў да дзвярэй, у якіх, перастаўшы ківаць, спытаў лысага: "А скуль ён ведае, што я тут? Я не казаў яму. Дык скуль ён ведае?.." – і калі лысы адскочыў: "Не магу знаць!" – Брэжнеў скончыў. – "А я магу... Ты і даклаў яму, засранец!"

Яны пайшлі. Ганна выйшла следам за імі, вярнулася з вінам і келіхам. Віктар адкаркаваў, наліў, яна выпіла, села на калені Грачына: "Тата!.. Я так

спалохалася, тата... Так спалохалася... Я так цябе люблю... Як я люблю цябе, каб ты толькі ведаў!..”

Яна ціха, пакуль чакалі Брэжнева, сядзела ў бацькі на каленях. Віктару здалося, што ў Грачына выступіла сляза. У куточку аднаго вока, але выступіла.

– Трэба ехаць, бо ён закапае яго, – вярнуўся ўжо ў паліто Брэжнеў. І падышоў да Грачына. – З сябрам тваім на Лубянцы Юрый Уладзіміравіч сам-насам. І той нібыта шмат цікавага распавядае яму. Змова супраць мяне, аказваецца... Сказаў, што і ты можаш паслухаць, бо не ўсё ведаеш.

Грачын сядзеў, не адпускаючы Ганну.

– Магу ці мушу?

– Што ты можаш п’яны?

– Паслухаць Андропава п’яны магу.

– Цвярозы паслухаеш. Паспееш. Ён цяпер на гэтага каня надоўга сядзе. Мала яму, што замах прыдумаў. Яшчэ і змову...

Дзіўна, але пасля размовы з Андропавым п’яным Брэжнеў не выглядаў. Зусім. Нібы і не піў.

– А ўвогуле ён чакае, калі памру, – падышоў да стала і пастаяў, нібы раздумваючы, дапіць яму тое, што ў шклянцы засталося, ці не, Брэжнеў. – Калі, як Берыя казаў, стану абсалютна дасканалым. Дык, можа, я ўжо такі і ёсць? Помніш, пяць гадоў таму ў мяне была клінічная смерць? Ажыўлялі... Дык, быць можа, не ажывілі? Я так сябе пачуваю, нібы не. Нібы мёртвы. Як думаеш: такое можа быць?

– Калі яшчэ вып’еш, можа быць і такое, – павёў яго ад стала Грачын. – Перагулялі мы з табой, Лёня. І не толькі сёння.

Брэжнеў вызваліў сваю руку з-пад рукі Грачына, спыніўся пасярод кухні, паглядзеў на стол з аб’едкамі на газеце “Правда”, на спусцелыя бутэлькі.

– Пеажыў я, Вася, сваё. Стаміўся. Вось ты мне пра смерць філасофію разводзіў... Не смерці трэба баяцца. Трэба баяцца жыцця пасля смерці. Уяві сабе: жыць, жыць і жыць… І быць, быць і быць Генеральным сакратаром ЦК КПСС… Гэта і будзе, калі яно ёсць, пекла. Найстрашная кара гасподняя.

Пайшлі праводзіць. “Гэта не я, гэта ты філасофію разводзіш, – казаў па дарозе Грачын. – Генеральны сакратар – і кара гасподняя... Дзякуй Богу, што не на Палітбюро...”

Падобны да Хрушчова лысы ў дублёнцы кінуўся да машыны – і Віктар спытаў, калі ўжо Брэжнеў мёртвы, проста вырвалася гэта з яго, бо не забываліся галюцынацыі ў кватэры Кручы:

– Леанід Ільіч, а вы з таварышам Хрушчовым калі-небудзь на Кацельніцкай...

Брэжнеў спыніўся каля машыны.

– Ага!.. А то я ўсё ўспамінаў: што гэта я хачу ўспомніць?.. Не з Хрушчовым, а з ім, – кіўнуў ён на лысага. – Як прыставілі яго да мяне, так ён ад мяне ні на крок. І да Галі са мной. Яна пазваніла: Круча зноў мяне заліў! Ну, думаю, расстраляю! Трэці раз рамонт рабіць! А прыехаў, бачу: каго расстрэльваць? Круча ніякі, ты сам застрэліцца гатовы. І гэта з такімі дзеўкамі! – усклікнуў ён, згадаўшы, мусібыць, Сюзану з Люцыяй, і тут жа, глянуўшы на Ганну, стаў выкручвацца. – Як твая Ганна, як Галя мая...

– Можа, мне ўсё ж з табой? – спытаў хутчэй для таго, каб выручыць яго ў размове пра жанчын, чым для таго, каб з ім паехаць, Грачын. Паціснуўшы яму руку, Брэжнеў сеў у свой эксклюзіўны ЗІЛ: “Андропаў таксама вершы пісаў. Так што пагаворым з ім, як паэт з паэтам, а ты не ўпісваешся...” – і кавалькада машын, засігналіўшы, заміргаўшы ў ноч, рванула з дачы.

## XXVII

На лецішча паехалі на машыне, на якой нейкі маўклівы чалавек падвозіў да Горак, непадалёк ад якіх было лецішча, знаёмую Ганны: старэйшую і за Ганну, і за Купалу, але ўсё яшчэ даволі прыгожую і ганарлівую ў сваёй восеньскай, нават ужо зімовай прыгажосці жанчыну, якая назвалася, падаючы для пацалунку руку ў пальчатцы: “Зінаіда Рыгораўна Марозава-Рэйнбат-Рэзвая. Тая самая, у якой шлейф сукенкі быў даўжэйшы, чым у імператрыцы Аляксандры Фёдараўны”.

Не зразумеўшы, пра што яму сказалі, Купала паглядзеў на Ганну, тая засмяялася: “Потым усё зразумееш...”

Знаёмая Ганны аказалася ўдавой некалькіх мужоў, у тым ліку фабрыканта Савы Марозава, “які даваў Леніну грошы, а Ленін мой дом у Горках забраў і камунарам аддаў, якія дом разрабавалі, а пасля ён сам там жыў і памёр, цяпер у маім доме музей ягоны робяць, і мяне паклікалі, каб сказала, што камунары скралі. Стрыечная сястра яе, – абняла Зінаіда Рыгораўна Ганну, і Купала заўважыў, што яны падобныя, абедзве з гэтакай цёмнай цыганшчынай у вачах, – у музеі за лектарку, дык папрасіла прыехаць, і я згадзілася, каб апошні раз зірнуць, бо наўрад ці яшчэ калі-небудзь паклічуць...”

Стрыечная сястра Ганны, Лізавета, запрасіла ў флігель, дзе жыла, гарбатай пачаставаць, на што колішняя гаспадыня ганарліва ўскрыўдавала: “Вы мяне ў флігелі прымаць будзеце?..” – і пайшла да параднага ўваходу, ахоўнік каля якога глянуў на яе і адступіў, і яны пілі гарбату ў гасцёўні, дзе колішняя гаспадыня распавядала, са сподка гарбату сёрбаючы:

– Смаката! Даўно так не піла!.. А вы што думалі? Я купчыха!.. Купіла сабе блакітную кроў, за Рэйнбата пайшоўшы. А ён, генерал мой, пракраўся, злодзей! На ўсю Маскву сорам. Я й выгнала яго... А людзі, якія людзі тут бывалі!.. Шаляпін, Собінаў, Качалаў... Між іншым, ведаеце, Качалаў з беларусаў?.. З пародай, – глянуўшы на Ганну, сама падліла яна гарбаты Купалу. – А пра вас мне Горкі казаў. Толькі я не люблю Горкага. Ён Саву майго з рэвалюцыянерамі звёў і з Андрэевай. Сам з гэтай сучкай звёўся, дык і Саву звёў... Сава праз яе, праз усіх іх розум страціў – гэтакія грошы аддаць!.. А я аднойчы паказала Горкаму... так выйшла... сваю спальню, дык ён напісаў, што мая спальня падобная да крамы посуду, – дапіла яна, можа, дзясяты сподак. – Хадземце глянем, якая там крама і які посуд... Я Горкага пасля таго Горкім і не называла, толькі Пешкавым.

Са спальні, дзе не было ніякага посуду, дзе ўвогуле нічога, апроч ложка, не было, колішняя гаспадыня маёнтка павяла іх па пакоях, два з якіх былі ўжо музейныя, і ў адным, дзе памёр Ленін, каля ложка, на якім ён памёр, стаяла тумбачка, і на ёй ляжалі дзве кнігі, “Любоў да жыцця” Джэка Лондана і “Сутнасць хрысціянства” Феербаха, чырвонай стужкай закладзеная на раздзеле “Таямніца пакутніка Бога” з падкрэсленымі ў самым пачатку словамі: “Любоў выяўляе сябе ў пакуце. Хрыстос – чыстая пакута. Нішто гэтак не ўздзейнічае на людское сэрца, як пакута, а тым больш пакута істоты, вольнай ад пакут. Хто пакутуе за іншых, ахвяруе сабой дзеля іх – той і ёсць Бог для людзей”. І далей гэтак, што ў адным месцы папера надарвалася, падкрэслена было двойчы: “Той, хто непазбыўна нясе ў сабе вобраз раскрыжаванага, адчувае натуральную патрэбу раскрыжаваць сябе ці іншых”.

– Дырэктар музея хацеў яшчэ “Кароткі курс гісторыі ВКП (б)” пакла-

сці, – сказала Лізавета, – але камісія пастанавіла, што ўсё ж не мог Ленін у 1924 годзе чытаць тое, што напісана ў 1938-м.

“Баяўся смерці... Баяўся, бо не ведаў, што пасля... Як усе баяцца, не ведаючы...” – глядзеў на старонку, прадраную на словах “раскрыжаваць сябе ці іншых”, Купала, а колішняя гаспадыня маёнтка спытала: “Якая камісія?.. Камунараўская?..”

– Сакрэтная, Зінаіда Рыгораўна. Якая яшчэ ў такіх справах камісія можа быць? Старшыню яе расстралялі, але рашэнне не адмянілі.

– А пра гэтыя кнігі, – пагартала Ганна “Любоў да жыцця”, – таксама камісія пастанавіла?

– Не. Жонка. Таварыш Крупская. Мінулай зімой яе сюды прывозілі, і яна сказала, якія кнігі чытаў Ленін апошнімі. Дырэктару музея гэта не спадабалася, але, паколькі старшыню камісіі расстралялі, настойваць на сваім дырэктар не стаў.

Лізавета казала неяк так, што не зразумець было, як яна лічыць: правільна расстралялі старшыню камісіі, ці ўсё ж можна было інакш яго пакараць?..

– У гэтым пакоі малельня была, – уздыхнула Зінаіда Рыгораўна. – Абразы віселі. Старадаўнія. Вось тут – святы Пётр са святым Паўлам. А цяпер... – падышла яна да фотаздымка ў раме. – Што гэта, Лізавета?

– Фота таварыша Леніна з таварышам Сталіным. Тут, у Горках. На лаўцы за флігелем. Таварыш Крупская прывезла.

На твары Зінаіды Рыгораўны адбілася ўсё, што яна падумала, убачыўшы на месцы святых Пятра і Паўла Леніна са Сталіным.

– Дык няхай бы Крупская і вісела. Жонка ўсё ж. Навошта Сталін над ложкам Леніна? – сказала яна, відавочна стрымліваючыся, каб не сказаць усё, пра што падумала, і зноў скрушна ўздыхнула. – Дзіўна, што ён выбраў менавіта гэты пакой, каб памерці. Ён атэіст, я стараверка... Дзіўна.

– Ён не ведаў, – пад руку ўзяла Зінаіду Рыгораўну, выводзячы яе з пакоя, Лізавета, а Купала сказаў: “Ніхто не памірае атэістам”, – і Зінаіда Рыгораўна перахрысцілася на яго: “Так. Але адны проста паміраюць, іншыя – на крыжы”.

Некалі гэтаксама перахрысцілася на яго княгіня Магдалена Радзівіл, якая ўспомнілася Купалу, калі ўдава Марозава без аніякай ніякаватасці сказала, што купіла сабе блакітную кроў, за генерала Рэйнбата пайшоўшы. “Як розніцца ўсё ж купленая кроў з той, якая ад продкаў дасталася, – думаў ён, гледзячы, як Зінаіда Рыгораўна пасёрбвае гарбату са сподка. – Гэтак талент, дадзены Богам, розніцца з умельствам, здабытым прафесіяй. Хаця вунь Аляксей Талстой, па чутках, ніякі не граф, сын гувернёра, а выглядае графам. А Дзям'ян Бедны, пра якога кажуць, што ён пазашлюбны сын вялікага князя Канстанціна, князем не выглядае. Толькі Дзям'янам Бедным”.

Ён успомніў, як Бедны ў Крамлі, дзе ў яго кватэра была, хваліўся перад ім перапіскай са Сталіным. Моцна выпіў, кінуў на стол лісты: маўляў, глядзі, колькі... І раптам пачаў жаліцца: “Мяне з Крамля высяляюць, а Сталін... Мой вагон у мяне забіраюць, а ён... З ЦК выводзяць, а ён... Я столькі напісаў, столькі зрабіў... Мы сябры з табой, дык вось слухай, што ён пасля ўсяго піша... «Десятки раз хвалил Вас ЦК, когда надо было хвалить. Десятки раз ограждал Вас ЦК от нападок отдельных групп и товарищей из нашей партии. Десятки поэтов и писателей одергивал ЦК, когда они допускали отдельные ошибки. Вы все это считали нормальным и понятным. А вот когда ЦК оказался вынужденным подвергнуть критике

Ваши ошибки, Вы вдруг зафыркали... И Вы хотите после этого, чтобы ЦК молчал! За кого Вы принимаете наш ЦК?.. Как Вы наивны и до чего Вы мало знаете большевиков!»"

– Мы іх насамрэч мала ведаем, – зашаптаў Бедны, азіраючыся па кутах, на вуха Купалу. – Ім колькі ні зрабі, што ні напішы... Так што ты глядзі, – азіраўся ён па кутах, – ты глядзі... Асцерагайся...

– Асцярожна ідзіце, сцямнела ўжо, – абнялася з Ганнай, развітваючыся, Лізавета, а Зінаіда Рыгораўна ўзяла Ганну пад руку: "Не ідзі нікуды. Я з табой пабыць хачу. Такое адчуванне, быццам больш не давядзецца".

Вярнуліся ў гасцёўню.

– Выгляд у вас, Іван Дамінікавіч, як у Маякоўскага, калі ён паэму пра Леніна пісаў, – нечакана сказала Зінаіда Рыгораўна. – У вас, дарэчы, ёсць пра яго паэма?

Пытанне было як пытанне, тым больш у музеі Леніна, але праз інтанацыю, з якой было яно зададзенае, Купала адчуў сябе няёмка.

– Не. Чаму вы спыталі?

– Ды так... Ва ўсіх ёсць – вось і спытала, – тым жа, сярэднім паміж іранічным і здзеклівым голасам прагаварыла Зінаіда Рыгораўна, а Ганна, убачыўшы, што Купалу няёмка, абняла колішнюю гаспадыню дома: "А які ў Маякоўскага выгляд быў, калі ён пра Леніна пісаў, Зінаіда Рыгораўна?" – і тая сказала: "Не бачыла".

Лізавета засмяялася. Смех Лізаветы быў лепшы за яе.

Па вокнах закрапала, Ганна зноў зазбіралася: "Пайшлі мы, пакуль залева не пачалася, іншым разам пасядзім..."

Лізавета ўстала, каб праводзіць, дала парасон, а Зінаіда Рыгораўна зноў не пусціла: "Куды ў дождж ды на ноч гледзячы?.." Змусіла Лізавету накрыць стол, і яны сядзелі да поўначы, папіваючы гарбату і слухаючы Зінаіду Рыгораўну, якая хоць і не бачыла, як выглядаў Маякоўскі, калі пісаў паэму пра Леніна, але бачыла шмат чаго іншага, і якая пад канец сваіх расповедаў сказала: "Вось даў Бог багацце, а шчасце – не. Ні мне, ні Саву, ні дзецям. І я спытаць хачу Госпада: чаму?.. Адчуваю, што хутка ўжо спытаю, таму і прыехала. Дзякуй табе, Ганна, што ўгаварыла Лізавету паклікаць. Я ведаю, што гэта ты ўгаварыла, вось табе, мая дарагая, на памяць..." – і яна падала Ганне залаты медальёнчык, на якім кропелькай крыві чырванеў маленькі рубін.

– Яго з грабніцы святой Ганны Кашынскай укралі, калі мошчы яе ўскрывалі, – казала яна, ужо спаць збіраючыся. – І прадалі знаёмаму ліхвяру, у якога я медальён перакупіла. Не пашкадавала грошай, бо святая Ганна – заступніца ўсіх старавераў. Але не здолела яна ні за мяне, ні за сябе заступіцца, калі, як чэрці ў чорных скуранках, прыпёрліся сярод ночы чэкісты: іменем савецкай улады ўсё ваша цяпер народнае! І так неяк выйшла, што і ў мяне нічога не стала, і народу не дасталося нічога.

Не ведаю, як, але потым медальён у Горкага, які нейкую камісію па каштоўнасцях ачольваў, аказаўся. Горкі падараваў яго Інэсе Арманд, палюбоўніцы Леніна. Ён падліза быў, Горкі, дык каб падлізацца. А Інэса, кажуць, хоць я не веру, бо ведала яе, блудніца французская яна была, Леніна напраўду кахала. І падаравала яму медальён са сваім партрэтам. Ён насіў яго ў кішэньцы для гадзінніка. Раз-пораз даставаў, пазіраў на партрэт, нібы на гадзіннік глядзеў. Можа, і ён яе напраўду кахаў. Хоць наўрад ці. Ён быў фанатык, кахаў толькі рэвалюцыю. Але ўсё магчыма. І вось гады праз два пасля таго, як Інэса на Каўказе ад халеры памер-

ла, мяне Крупская ў Горкі запрасіла. Я прыехала, селі абедаць, я пачала Леніна дакараць: маўляў, муж мой на вашу рэвалюцыю грошы даваў, а рэвалюцыя дом у ягонай удавы забрала, – і тут ён, Ленін, кажа, што ў маёй былой малельні сякія-такія рэчы мае знайшліся. “Дык мы цябе, – кажа, – запрасілі, каб вярнуць”. І падае медальён. Як той медальён мог знайсціся ў маёй малельні, калі яго нехрысці забралі? Ніяк. Значыць, здагадалася я, што было не цяжка, Крупская ўбачыла яго ў Леніна, пачала дапытваць, адкуль ён у яго, і ён прыдумаў, нібы ў схове былой гаспадыні дома, у мяне, значыць, знайшоў. Не казаць жа, што гэта падарунак палюбоўніцы. А мы з ёй, з Інэсай, з гэтай французжанкай Элізабэт д'Эрбанвіль не тое каб моцна сябравалі, але дома ў мяне яна даволі часта бывала. Ну, і магла медальён падараваць, ці я магла яго ў яе купіць. Вось Ленін і прыдумаў гэткую гісторыю, мужыкі ўсе ў такіх справах не надта вынаходлівыя. А як ён глядзеў жаласліва: ты ж мяне не прадай! І я ўзяла медальён. Папершае, бо ён мой, я за яго заплаціла. Па-другое, падумала: калі да мяне медальён святой Ганны вяртаецца, дык, можа, вернецца яшчэ нешта з мінулага жыцця? Але не, нічога не вярнулася. Эх, нічога не вяртаецца і не вяртаецца ніхто! Бярыце ўсё, мілыя мае, тут і цяпер, цяпер і тут!.. Хай беражэ цябе твая святая заступніца, Ганя!

Колішняй гаспадыні Лізавета паслала ў былой яе спальні, Ганне з Купалам, выпраўляць якіх было ўжо, як выганяць, – на канапе ў гасцёўні, але Ганна не стала там класціся, павяла яго за руку, шапнуўшы горача: “Цяпер і тут!.. Была ў сталінскім ложку, а ў ленінскім не была”, – і ён успомніў Асеева: “Гэтая актрыска шалёная, так што глядзіце...”

Са сцяны на іх глядзелі Сталін з Леніным.

Матрац і падушка на музейным ложку былі набітыя свежымі сасновымі габлюшкамі. Смалянiстыя, яны так заблыталіся ў валасах Ганны, што нейкія было не выбраць, і, калі раніцай прыйшла з флігеля Лізавета, яна падціснула вусны, моцна вусны падціснула, а Зінаіда Рыгораўна ўздыхнула: “Эх, дарма я жыццё пражыла стараверкай!..” І спытала, калі снедаць селі:

– Скажы мне, Ліза, гэтага Феербаха перад смерцю Ленін чаму чытаў? Ён чаго хацеў?

– Хто чаго хацеў?.. – здзівілася, бо ніяк не чакала ад Зінаіды Рыгораўны, як і Купала не чакаў, такога пытання Лізавета. – Феербах ці Ленін?

– Абодва.

– Феербах казаў, што хоча з хрысціян зрабіць людзей.

У Зінаіды Рыгораўны срэбная лыжачка з рук выпала.

– А што: хрысціяне не людзі?

– Ён лічыў, – падціснутым позіркам зірнула Лізавета на Купалу з Ганнай, – што напалову анёлы, напалову жывёлы.

Зінаіда Рыгораўна таксама паглядзела на Ганну і Купалу, і па тым, як яна паглядзела, не сказаць было, што яна, ва ўсякім разе ў гэты момант, зусім не згодная з Феербахам.

– Няхай так. Але ж Бог...

– І абодва яны, – падала ёй чыстую лыжачку Лізавета, – і Феербах, і Ленін лічылі, што не Бог стварыў чалавека, а чалавек Бога.

– Напалову анёла, напалову жывёлу? – перапытала Зінаіда Рыгораўна Марозава-Рэйнбат-Рэзвая і, сама спалохаўшыся таго, што прамовіла, тройчы перахрысцілася двума пальцамі. – Даруй, Божа! Стварылі яны... Храмы ўсе пабурылі, царкву святой нашай заступніцы Ганны ў крэматорый, у паганскае капішча перарабілі – вось што яны стварылі! Веру парушылі

нават у стараверах... Я колькі разоў Саву казала: ахвяруй на царкву! Дык не, ён – то на рэвалюцыю, то на тэатр... – Яна кінула лыжачку на стол, тая падскочыла, плёхнула ў сподку. – Вось і пісаў Горкі то для рэвалюцыі, то для тэатра. Не для Бога... Правільна яго адлучылі ад царквы.

– Горкага? – ускінула бровы Лізавета. – За што?

– За спробу самагубства, – хуткім позіркам слізнула Зінаіда Рыгораўна ў бок Купалы. – Ён страляўся. Даўно, калі яшчэ Пешкавым быў. І ведаеце, што на развітанне напісаў?..

Зінаіда Рыгораўна зрабіла паўзу, як актрыса ў спектаклі перад фразай, разлічанай на эфект, і Ганна, як актрыса актрысе, ёй падыграла:

– Што?..

– Што ў смерці ягонай вінаваты нямецкі паэт Гейнэ, які прыдумаў зубны боль у сэрцы! І прасіў па смерці яго ўзрэзаць, каб паглядзець, які ў ім чорт сядзіць! Як вам такое ад пралетарскага пісьменніка?.. А ён расказвае мне пра гэта і смяецца. Пытаю: што ж смешнага, калі ў вас чорт? А ён: дык у кожным! І ў вас чарціха сядзіць, купчыхай называецца. Я, кажа, для чарцей і пішу, анёлы кніжак не чытаюць. – Яна яшчэ раз перахрысцілася. – А вы для каго пішаце, Іван Дамінікавіч?.. Для актораў у тэатры рэвалюцыі?..

Ганна паглядзела на Купалу і сказала: “Для мяне”.

– Праўда?.. – шчыра здзівілася Зінаіда Рыгораўна. – Добра, калі так. Ты акторка сапраўдная, мала такіх. Абы-што граць не будзеш. – І спытала, дапіваючы гарбату, што ў сподачку засталася. – А якую ролю, Іван Дамінікавіч, вы ёй выпісалі?

Купала чакаў, што Ганна зноў, калі ўжо выдумляць пачала, нешта за яго адкажа, але тая маўчала, таму ён прамармытаў, няёмкасць адчуваючы: “Яшчэ не прадумаў, ведаеце, да канца, але гэта роля каханкі...” – і Ганна дагаварыла за яго, смалячок з валасоў выдзіраючы: “Ці каханкі Бога, ці каханкі д’ябла”.

Папярхнуўшыся апошнім глытком гарбаты і проста кінуўшы на стол сподачак, які ўпаў уверх дном і задзінькаў, закруціўшыся, удава фабрыканта Марозава спытала Ганну, уражаная: “Табе ўсё адно?..” Потым, пачакаўшы, пакуль каханка Бога ці каханка д’ябла яшчэ з адным смалячком у валасах справіцца, перавярнула сподачак і, не гледзячы ні на Ганну, ні на Купалу, а ўтаропіўшыся некуды паміж іх і нешта там, паміж імі ўбачыўшы, параіла: “На вашым месцы, Іван Дамінікавіч, я ўсё ж пра Леніна што-небудзь напісала б... Ну, калі не хочаце, як Маякоўскі, пра ягоную рускую рэвалюцыю, дык хоць бы пра ягонае каханне з француженкай. На ўсялякі выпадак.”

## 28

У Мінску, калі нешта ў яго не складвалася, не ладзілася, не пісалася, калі ўпіраўся ў непрасветнасць, на тле якой немагчыма было што-небудзь напісаць, апроч таго, што яна непрасветнасць, калі шукаў выйсця з яе, – Віктар ехаў у Крэва. У роднае мястэчка. Хадзіў па ягоных пагорках, падымаўся ўсё вышэй – і ўрэшце перад ім адкрываўся далягляд. Тое, што здавалася непрасветнасцю, аказвалася звычайным зацямненнем. Прычым, штучным: трэба было проста адшморгнуць шторку.

З Масквы такім мястэчкам бачыўся Мінск – і Віктар сеў на цягнік. Бачыць некага, размаўляць з кімсьці ў дарозе не хацеў, таму не пашкадаваў гро-

шы, білет купіў, каб да мінімуму звесці магчымасць займець у спадарожнікі знаёмца, у мяккі вагон, у купэ на дваіх. І на табе: другім у купэ аказаўся Глеб Лугунец, колішні ягоны аднакашнік па літінстытуце з мянушкай Крыванос, якому ён, Віктар, некалі нос і скрывіў.

У Маскве амаль дзесяць мільёнаў чалавек, у Мінску амаль два! Разам – дванаццаць! А лёс выбраў Крываноса! Ну ў якую рулетку гэтак выйграеш?..

Глеб быў нападпітку, а таму вясёлы. Зрэшты, ён і цвярозы ў гэтым жыцці не сумаваў, браў ад жыцця, што мог. "Дурны ды вясёлы пражыве і голы", – казала пра такіх маці.

– Я заўсёды кіраваўся і кірууюся логікай, – адразу бахнуў на стол Лугунец дзве бутэлькі віна, гарэлкі ён не піў. – Калі некага я сустрэў, дык для нечага, правільна? І давай, Віця, разбярэмся, для чаго я цябе сустрэў? Не для таго ж, каб ты мне вершы пачытаў...

З вершамі ў Крываноса не пайшло, з прозай таксама, але ён праз гэта не застрэліўся, што раіў яму Шкляр, а, як Глеб сам казаў, пераставіў стрэлкі на дарозе жыцця – і стаў літаратурным крытыкам, літаратуразнаўцам, кандыдатам філалагічных навук.

– Вось ты займаешся Купалам, – казаў пасланы лёсам спадарожнік, папіваючы сталовы, кіслы, як воцат, "Рыслінг", ад якога Віктар адмовіўся, а Лугунец не стаў настойваць, каб выпіў, ён ніколі ні на чым не настойваў. – У гэтым няма логікі, бо Купалам займаюся я. Бо я кандыдат навук – і ў гэтым ёсць логіка. Ты хочаш давесці, што Купалу забілі, і ў гэтым таксама логіка ёсць. Невялікая, выключна твая, асабітая, але ёсць. Толькі на яе ёсць большая. Яна ў пытанні: каму і нашто было яго забіваць? Ці не, спытаем трохі інакш: ці трэба было некаму забіць Купалу? Лаўрэата, ардэнаносца... І дрындушніка!.. "Партызаны, партызаны, беларускія сыны!.." Прызнай, Віця: калі адказаць, што камусьці яно трэба было, у гэтым не будзе логікі. Нават партызанскай. А я не партызан, я вучоны. І, калі я шукаю логіку ў самагубстве чалавека, які ў час вайны, калі партызаны галадаюць у лесе, жыве на ўсім гатовым у гатэлі "Масква" разам з сакратаром ЦК, я, Віця, яе, логікі, не знаходжу... Дарэчы, Віця, пра сакратара ЦК... – з горла, хоць на століку ў купэ шклянкі стаялі, дапіў бутэльку і змяніў тэму Лугунец. – Калі ты думаеш, што ў Мінску ці ў Маскве толькі і гаворкі, што пра цябе ў звязку з тваёй апошняй паэмай ці з тваімі публікацыямі пра тое, як Сталін забіў Купалу, дык, Віця, не. Ты ж сам разумееш, што ў гэтым няма логікі. Усім напляваць на тое, што Сталін забіў Купалу, нават калі забіў. А вось на тое, што ты дачку сакратара ЦК закадрыў, не наплюеш. Ды яшчэ ты, кажуць, у Суслава бываў. І ўвесь у брэжнеўскіх, гэта ўжо я сам бачыў, пацалунках. Дык вось у гэтым, Віця, твая логіка! Тут табе капаць. А ты да магілы Купалы з рыдлёўкай. Што там выкапаеш? Яго ж спалілі. Нават костак няма.

"Отречемся от старого мира! Отряхнем его прах с наших ног!.." – раптам заспяваў, адкаркоўваючы другую бутэльку, – як ягоны страўнік столькі воцату вытрымлівае? – Лугунец. – Ты на сябе ягоную ролю прымяраеш? Ягоны касцюм? На храна, калі на табе вунь які?! Калі не патрэбны – давай памяняемся. Я табе Купалу з усім тым, што я пра яго ведаю, што яшчэ не надрукаваў, а ты мне – касцюм. І Грачына з дачкой. Чаму яна табе дасталася, дзе логіка?.. Столькі лаўцоў на гэтую залатую рыбку ў Маскве, дзе я тры гады ў аспірантуры прашвэндаўся, дзе процьма народу, а прыязджае нейкі вершаплёт... выбачай, ты паэт, паэт... нават без вуды – дзе логіка?.. Навошта табе ў ЦК камсамола Купала?..

Пра ЦК камсамола ён спытаў, мусіць, прагаварыўшыся, бо скуль ведае? І таму, стукнуўшы горлачкам бутэлькі аб зубы, змоўк. Але не надоўга.

– Такія чуткі, Віця. Масква чуткамі поўніцца. Я буду толькі рады, калі ты станеш на такі трамплін. У мяне таксама, між іншым, ёсць магчымасць...

Цяпер ён прымоўк, чакаючы, што Віктар спытае: якая? Не пачуў пытання – і вярнуўся да Купалы.

– Мне прапанавалі артыкул у энцыклапедычны даведнік напісаць. Ведаеш, што купалаўскі даведнік выдаваць збіраюцца? Дык калі адкінуць тое, пра што я ўжо сказаў, што не мае логікі, забойства і самагубства, застаецца трагічны выпадак. Пра яго і збіраюся напісаць. Напіўся і зваліўся. Гэтак банальна. Але калі...

Лугунец зноў змоўк. Зразумела было, што ён хоча нешта прапанаваць. Чакае, калі Віктар спытае: што?.. І Віктар, пра купалаўскі энцыклапедычны даведнік упершыню пачуўшы, спытаў:

– Што “але калі?..”

– А тое, што ў Інстытуце літаратуры... не ў нашым, тутэйшым, а ў Маскве вымалёўваецца вакансія намесніка дырэктара. І калі б ты пагаварыў з Грачыным... што для яго такая пасада?.. тое самае, што дырэктару жылканторы прызначыць дворніка... тады, Віця, я прыняў бы тваю версію. Напісаў бы, што такая ёсць, што яна доказная – і яна твая.

Наўрад ці забыўшыся, што між імі было, Глеб на ўсялякі выпадак пасунуўся бліжэй да дзвярэй, але паколькі Віктар, успомніўшы Посуха: “Калі б ты закінуў за мяне слова Грачыну...” – не кінуўся біцца, нават не стаў лаяцца, Крыванос, які дапіў віно, зрабіў выгляд, што пасунуўся, каб пайсці да праваднікà па гарбату.

– Давай мы хоць гарбаты з табой вып’ем. Зрэшты, – падаўся ён назад, – праваднік прынясе... І гэта, Віця, яшчэ не ўсё. Калі я займею пасаду намесніка дырэктара Інстытута літаратуры, а пасля, можа быць, і дырэктара, ты займееш не менш. Я з цябе раздзьму такога беларускага савецкага паэта, што твае партрэты ў залатых рамах вісець будуць! І табе дзеля гэтага нічога рабіць не давядзецца. Ні-ча-гу-сень-кі! Таго, што напісаў, хопіць. Кайфуй, Віця! Вунь Купала колькі панапісваў, а што ведаюць? Хто там ідзе ў чарадзе? І то не да канца. Не ведаюць, ці дойдзе... Нобелеўскую прэмію не абяцаю, гэта прэмія варожая, не ў нашых сілах, але ўсе нашы... Ленінскую, дзяржаўную... Калі хочаш, магу даць распіску. – І не разумеючы, чаму Віктар, рассунуўшы фіранкі на вакне, нічога яму не кажа, не адказвае, глядзіць у ноч, у якой не відаць нічога, яшчэ раз паспрабаваў пажартаваць. – Хоць крывёй, якую ты некалі мне пусціў.

Праваднік пастукаў у дзверы, адчыніў: “Чай будзеце?” – “Нясіце”. – “З цукрам?” – “З цукрам”. – “Два?” – “Два”. – “Што-небудзь да чаю?” – “Не”. – “Тады ўсё?” – “Усё”. – “А гэта...” – “Што гэта?..” – “Гэта вы выступалі? З Брэжневым цалаваліся?..”

Во каму зубы выбіць!.. Але Віктар і на гэты раз стрымаўся. Бо трэба прывыкаць. Бо пераведзеныя стрэлкі дарогі жыцця. Бо далей так і будзе: з Крываносам размаўляць і з Брэжневым цалавацца.

Што ж: так – дык так.

– Прапанова вартая, Глеб. І я згадзіўся б, калі б мне раней не паабяцалі...

– Што?

– Тое самае. Прэміі. Ленінскую, дзяржаўную. І, магчыма, нават Нобелеўскую.

– Хто паабяцаў?

– Посух. Калі я закіну за яго слова Грачыну.

Лугунец не стаў пытаць, што хацеў ад Грачына за прэміі для Віктара Посух. Хоць відаць было, што спытаць яму карцела.

– Як ён мог паабяцаць Нобелеўскую?.. Як ты можаш яе атрымаць?

– Як Пастэрнак.

– Пастэрнак антысаветчык.

– А я не?..

Лугунец глянуў на яго кісла. Так, як дзве бутэлькі сталовага “Рыслінга” выпіўшы.

– Які ты антысаветчык? Ты, Віця, нармальны савецкі паэт. Толькі франдзёр. І ўбачыўшы ў табе фронду, а галоўнае, тое, што далей за яе ты не йдзеш і не пойдзеш, партыя, якую вітаў ты на з’ездзе, вырашыла: няхай пагуляецца. Трэба ж праз некага пару выпускаць. І дазволіла табе трохі болей, чым іншым. Як раней за цябе твайму сябру Кручу, якому таксама дазволена трохі болей, чым іншым. Яму ў Маскве, табе ў Мінску – паўсюль павінны быць паравыя свісткі. А ты, як і ён, вырашыў, што гэта твая смеласць. Я не кажу, што ўсё толькі так, – убачыў Крыванос, як спадылба глянуў Віктар. – Мы даўнія сябры, я добра цябе ведаю. Не заб’еш, не ўкрадзеш жонку бліжняга свайго... – паспрабаваў пажартаваць, калі ўжо яны даўнія сябры, Лугунец, але асекся: якраз за жонку бліжняга яму скрывілі нос. – Я ведаю, – сышоў ён з небяспечнай сцяжыны, – што ты не мог бы прапанаваць мне тое, што я табе прапанаваў. Яно не ў тваёй натуры, не ў тваім разуменні прыстойнасці. Але ва ўсім нармальным свеце, Віця, тое, што я прапанаваў табе, нармальна. Яно ў натуры свету. Людзі дапамагаюць адзін аднаму рухацца ўверх, і той, хто падымаецца, аддзячвае таму, хто дапамог. І гэта прыстойна, што тут непрыстойнага? Калі ты мне не дапаможаш, дык нехта іншы дапаможа іншаму, і будзем мы абодва знізу глядзець, як наверсе яны шампанскае п’юць ды баб дзяруць... – шморгнуў носам Лугунец: гэта ўжо ў яго, відаць, рэфлекс. – У цябе такія магчымасці, Віця! Большыя, чым у Купалы, які зараз, я добра яго вывучыў, проста схапіўся б за маю прапанову. Чаго ён з Казані ў Маскву прыпёрся, калі не па прэмію? Ці па бляшку на грудзі – на сваю галаву. Так што паэт ён, вядома, паэт, але не ляпі з яго героя. Баязлівы быў, як заяц. Нават харакіры сабе зрабіў са страху, баяўся, што на допытах яйцы заціснуць...

Праваднік прынёс гарбату, дзве шклянкі ў мельхіёравых падшклянніках і сподак з цукрам-рафінадам у абгортцы, паставіў адну шклянку: “Асцярожна, гарачая!” – перад Лугунцом, другую перад Віктарам, са сподачкам і шклянкамі яму не надта зручна было ўпраўляцца, мог бы спачатку гарбату прынесці, а потым цукар, але ён хацеў дагадзіць, і Віктар прыўстаў, нібы для таго, каб дапамагчы яму, пацягнуўся па сподак, зрабіў выгляд, што яго хіснула, схапіўся за руку правадніка і ягонай рукой скінуў шклянку, якая стаяла перад Лугунцом, уніз, пад дзягу на портках Лугунца. На тое, што маглі б заціснуць, калі б са страху ён харакіры сабе не зрабіў, Купалу. Хацеў сказаць: “Гэта табе за яго, а не за мяне”, – але глянуўшы на Лугунца і ў наступны момант пачуўшы яго, падумаў, што гэта ўжо лішняе.

“Ой, прабачце... выбачайце...” – вінавата, не зразумеўшы, як яно сталася, прабачыўся праваднік, і гэта вырашыла справу па наўмысным нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў, на чым з енкам настойваў Лугунец, на

карысць Віктара. Двум міліцыянтам, якія дзяжурылі ў цягніку, праваднік засведчыў: "Так, я з гэтым таварышам... таварышам Маргерам па неасцярожнасці", – а міліцыянты, пазнаўшы Віктара, вырашылі глыбака ў справу не ўлазіць і згадзіліся з праваднікам. Лугунец усю ноч стагнаў і енчыў, Віктар, дзякуючы сабе за тое, што не сказаў апошнюю фразу, перад ім прабачаўся, а з вакзала на таксоўцы завёз яго ў шпіталь.

У Маскве ён нікому, нават Ганне, не сказаў, што з'язджае. Ніхто, апроч Лугунца з праваднікам і двух міліцыянтаў, не ведаў, што ён у Мінску. Але як толькі дабраўся дахаты, зазваніў тэлефон.

Трубку не браць?.. А калі бацькі? Маці? Апошнім часам яна кепска пачуваецца, ціск ды ціск... Трэба наведацца да іх, абняць, пашкадаваць: родныя вы мае...

"Віктар Паўлавіч, гэта памочнік Ціхана Якаўлевіча". – "Чый памочнік?.." – "Разумею, вы з дарогі... Памочнік першага сакратара ЦК". – "І што?" – "Мы б хацелі, каб вы зайшлі да нас. Заўтра з раніцы, а 8-й. Дня вам хопіць, каб адпачыць?"

З'ехаў ад аднаго сакратара ЦК – прыехаў да другога. Во абклалі. І як дазналіся? Не Крыванос жа ім са шпіталя вестку перадаў. Сочаць яны за мной ці што?..

"Выбачайце, я заўтра сабраўся..." – "На малую радзіму? Дык мы вас завязем. Адразу пасля сустрэчы і паедзеце. Ціхан Якаўлевіч проста пагаварыць з вамі хоча – ніякіх спраў".

Проста пагаварыць... У першага сакратара ЦК з раніцы ніякіх іншых спраў.

"Пра што пагаварыць? Каб я ведаў, каб падрыхтаваўся". – "Не трэба вам рыхтавацца. Вы ўсё і так ведаеце". – "Што я і так ведаю?" – "Пра сябе. Пра вашы творчыя планы. Можа, ёсць праблемы нейкія..."

Праблемы нейкія былі.

Вось, за што ён Крываносу яйцы абварыў?

Толькі за Купалу?..

"Добра, а 8-й".

"Дзякуй, чакаем".

"А пропуск?"

"Вас сустрэнуць. Прыйдзіце хвілін за пятнаццаць".

Хвілін за пятнаццаць... Хвілін пятнаццаць прастаяў ён на сцэне Палаца з'ездаў – і колькі цяпер яны будуць цягнуцца? Праз усё жыццё?..

Крыванос праўду сказаў. Тое сказаў, што ўсе думаюць, і што ён сам ведае. Вось, за што ён яйцы яму абварыў. Ва ўсякім разе адно. А ўжо другое за Купалу.

Але хто – усе? Хто яны, усе, якія думаюць так, як казаў Крыванос?

Крываносы.

Тады чаму ты пераконваеш сябе, даводзіш сабе, што з імі згодны?

Гэта рэфлексіі. Слабасць. Не можа быць згоды з крываносамі, якія і заб'юць, і ўкрадуць, і жонку бліжняга свайго згвалцяць, а цябе будуць папікаць тым, што з некім пацалаваўся...

Ды хоць з д'яблам!

"Ну ды што ж... – спусціўся ён, узяўшы ключ, на першы паверх да паштовай скрыні, якая была забітая гэтак шчыльна, што ў яе ўжо нічога не магло ўлезці. – Ці мала што людзі кажуць. Глянем, што людзі пішуць".

Забраў пошту, падняўся, пачаў перабіраць. Пісьмы, паштоўкі, тэлеграмы. Столькі пісем з тэлеграмамі ні на адно свята яму не дасылалі.

Тэлеграмы ўсе віншавальныя. Такія, нібы ён у космас замест Рыленкі злятаў. І з большага ад людзей незнаёмых. Як і лісты. “Шаноўны Віктар Паўлавіч! Мы, выкладчыкі і студэнты тэхнікума, у якім вы...” – “Мы, улюбёныя ў вашы вершы і песні работніцы камвольнага камбіната...”

Улюбёныя работніцы камвольнага камбіната...

Рэня Варанец з прафкама камвольнага камбіната, якая за культурны сектар адказвае і якой ён грошы на культуру дапамагае спісваць, у яго ўлюбёная. Бо калі прафкам не патраціць усе грошы, якія ў гэтым годзе яму планава пералічылі, дык у наступным годзе зменяць план і меней дадуць. На столькі, колькі не патрачана. Таму Рэня штомесяц тэлефанавала: “Прыедзь. Вазьмі з сабой брыгаду. Толькі не забудзь: такіх, у каго дыхавіца, не бяры ў наш пыл”.

Ён збіраў “брыгаду” – двух-трох паэтаў. Такіх, у каго дыхавіца, не браў, бо адным разам паэтку з дыхавіцай “хуткая дапамога” з камбіната забрала. Брыгаду прыводзілі ў цэх, і паэты чыталі вершы. Маглі і не чытаць, бо ў пыле і шуме ніхто іх не чуў, а пуцёўкі бюро прапаганды савецкай літаратуры, якія аплочваў прафкам па 25 рублёў, Рэня Варанец ужо адзначыла прафкамаўскай пячаткай.

Во сістэма... Чым болей грошай на вецер кідаеш, тым болей іх маеш. Ідыятызм. А Брэжнеў кажа: “Эканоміка павінна быць эканомнай”. Дык з чаго ён узяў, што Брэжнеў не ідыёт? Мудрая чарапаха.

З набліжэння да ўлады – вось з чаго. З набліжэння да ўлады.

Ён колькі разоў заўважаў па сабе, па іншых: на аддаленасці ад улады з яе будуць кпіць, расказваць на кухнях анекдоты, а як толькі ўлада руку падасць – будуць цалаваць.

Круча называе гэта “священным трепетом”.

У Кручу таксама работніцы камбіната ўлюбёныя. Не аднаго камвольнага. Так што ўсё яму знаёма.

І вось гэта таксама…

У канверце без маркі быў ліст без подпісаў: “Маргер! Ты больш не паэт! Ты прыдворны блазен! Пацалуйшчык старога пердуна! Сапраўдныя Паэты”.

Якія паэты, невядома. Але не прыдворныя блазны. Не пацалуйшчыкі старога пердуна. Сапраўдныя нейкія. З вялікай літары.

Колькі яму ананімак за жыццё даслалі?.. У паштовую скрыню ўсе не ўлезлі б.

Сярод усяго – некалькі запрашэнняў. Адно на сёння. З Дома літаратара. У Маскве свой Дом літаратара, большы, у Мінску свой, меншы. Ад большага да меншага... “Запрашаем вас на вечарыну да 100-годдзя Народнага паэта Беларусі Янкі Купалы”.

Сто гадоў яму. Амаль сто. І амаль 40 гадоў яго няма.

Каб не забілі, мог бы жыць. Язэпу Бытьняку з ягонага мястэчка сто чатыры. Праўда, толку з таго, што яму сто чатыры, ніякага. Не ўсведамляе ўжо Язэп Быльняк свайго жыцця. Але жыве.

А хто ўсведамляе? Шмат у ягоным мястэчку тых, хто ўсведамляе? Шмат іх у Мінску, у Маскве? У свеце?..

Напрыканцы вучобы ў тэхнікуме, з якога ліст віншавальны прыйшоў, ён быў на практыцы. На ваенным заводзе, дзе стаяла сакрэтная па тым часе ЭВМ. Наймагутная ў СССР электронна-вылічальная машына “Мінск”. І кіраўнік ягонай практыкі, Марат Цапман, інжынер, які ў 25 гадоў, бо надта спяшаўся жыць, стаў доктарам навук, прапанаваў яму напісаць дыпломную

працу па ўдасканальванні гэтай, цяпер ужо пячорнай, ЭВМ. “Да такога ўзроўню, каб яна магла пралічыць верагоднасць нашага з табой з’яўлення ў Божым свеце. А пачні з верагоднасці нашага знікнення”.

З верагоднасцю знікнення праблем не было. 100% выдала ЭВМ. А на верагоднасці з’яўлення загрузла. Нічога не выдала. Колькі ні спрабаваў Віктар нешта з яе выціснуць, кожны раз яна знаходзіла памылку ў заданні. “І што гэта значыць?” – спытаў Марат. – “Машына слабая”. – “Не. Гэта значыць, што верагоднасць нашага з’яўлення ў свеце такая, што мы не павінны былі ў ім з’явіцца. Машына не ўяўляе колькасці супадзенняў, якія мусілі быць, каб ты ці я з’явіліся. Бо гэта цуд, а які можа быць цуд для машыны? Яго не можа быць. Таму для машыны нас няма. А для Бога мы ёсць. Разумееш?..”

Ён зразумеў. І не стаў пытаць Марата, чаму той даў яму некарэктнае заданне.

Пасля яны пасябравалі. “Глядзі: выйграў чалавек у латарэю тры рублі, – часцяком казаў Марат. – І шчаслівы да смерці. Пайшоў, прапіў, прагуляў, прасвістаў. А праз жыццё, якое выйграў у Бога, як бы ніякага яму шчасця. На неверагодны цуд яму напляваць. Займеў, прапіў, прагуляў, прасвістаў. Вось у чым жах чалавечага быцця! А не ў Пампеі ці Армагедоне!..”

Марат вершы пісаў. Калі прыдумаў вершаскладальную праграму для машыны, і яна напісала санэт – перастаў вершы пісаць. Сказаў: “Жыццё – жанр дакументальны”.

Патэлефанаваць трэба: як ён? Па чутках, сабраўся за мяжу. Выступаючы на агульным сходзе Акадэміі навук, сказаў, што адна з уласцівасцяў любой эфектыўнай сістэмы – імкненне да кампактнасці. Чым яна менш груваст-кая, тым больш эфектыўная. Гэта адносіцца да ўсіх сістэм. І тэхнічных, як сістэма ЭВМ, і гуманітарных, як сістэма кіравання. Якраз гэтая сістэма ў нас груваcткая і неэфектыўная.

Ён не сказаў, якую сістэму меў на ўвазе, але ў даносе напісалі, што савецкую, і Марата папёрлі з Акадэміі. Ён псіхануў, вырашыў з’ехаць. “Хоць куды, абы адсюль”. Яго доўга не выпускалі, бо меў доступ да нейкіх сакрэтаў, але сакрэты, відаць, былі не надта вялікія – і ўрэшце яму далі дазвол на выезд.

Хоць куды, абы адсюль.

Зноў тэлефон.

Зняў слухаўку – цяпер ужо ўсё адно. У ЦК ведаюць, дык не схаваешся.

“Ты ў Мінску? – не вітаючыся, спытаў Барада. – Ведаеш, што даведнік купалаўскі надумалі выдаць? У рэдакцыі энцыклапедыі абмяркоўвалі канцэпцыю. І ўзнікла пытанне смерці. Яны хочуць, каб ніхто Купалу не забіваў. Каб ён напіўся і зваліўся. Таму абавязкова сёння прыйдзі. Трэба выступіць. – І Барада, ужо кладучы трубку, Віктар не раз быў сведкам таго, як ён гэта робіць, паказваючы дулю ў слухаўку, пацікавіўся. – Як ты ўвогуле? Бачыў цябе па тэлевізары. Касцюм файны”.

Касцюм файны... Так яно і пойдзе. “А што яшчэ табе далі?.. Кашулю?.. Чаравікі?..”

“Надзеўшы белую кашулю з цёмна-чырвонымі агатавымі запінкамі, ён апрануў цёмна-карычневы, тонкага сукна ангельскі гарнітур, абуўся ў новыя, карычневыя на тонкай скуранай падэшве чаравікі, павязаў светла-шэры з цёмна-чырвонай агатавай шпількай гальштук, сунуў у заднюю кішэню штаноў карычневую з чырвонай аблямоўкай насоўку, у левую ўнутраную

кішэню пінжака – чорны скураны партманэт з пасведчаннем сябра Саюза савецкіх пісьменнікаў і харчовымі карткамі на ліпень, у правую – яшчэ адзін скураны партманэт, нататнік з алоўкам у пазалочаным наканечніку, размеркаваў па бакавых кішэнях партабак з тытунем «Эліт», пушачку з папяроснай паперай, запальнічку, пачаты пачак ізафеніну і выправіўся ў Саюз савецкіх пісьменнікаў, каб паглядзець, як там яго будуць хаваць…” – адкуль гэта ў ягонай галаве? І словы, як камары ў цёмным лесе на сонечнай выжарыне, таўкуцца, таўкуцца, тоўпяцца… Яшчэ з дарогі, з цягніка, з бяссоннай ночы – праз енкі Крываноса.

“Пайшлі вы!..” – адкінуў ён запрашэнне. Але Бараду не адкінеш. Калі такіх, як Барада, адкідваць, хто тады застанецца? Сябры Саюза пісьменнікаў? Дэлегаты XXVI з’езда КПСС?..

Нікога. Як у Купалы, у якога былі ўсе – і нікога не было.

У гэтым праблема. Калі б яго не забілі, ён бы сам забіўся. І не было б праблемы ў рэдакцыі энцыклапедыі.

Трэба ў Дом літаратара ўсё ж пайсці. Тады падрыхтавацца трэба. Бо задзяўбуць.

Ён сеў да стала, узяў паперу, асадку... Абазначыць трэба самыя важныя моманты выступу.

Калі яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў, Барада на банкеце прамаўляў. “Віншую цябе з уступленнем у нашу дружную творчую сям’ю. Купі бронекамізэльку”.

Барада ведаў, што казаў. Браты і сёстры па пяру ўмелі страляць. Нехта праз рэўнасць, праз зайздрасць, а нехта так... Бо патроны ёсць. Тым не менш ён і праўда адчуваў іх, як сям’ю. І любіў. Асабліва, калі яны выступалі. “Мы, нашчадкі вялікага Купалы...”

Пра ледакол напісаў – і нашчадак Купалы! А калі Купала вялікі, дык і нашчадак...

Чакай, ты чаго сам па сабе страляеш? Не страляй сам па сабе – знойдзецца каму. Браты і сёстры не ўсе патроны патрацілі.

На магілу трэба схадзіць. Даўно я на вашай магіле не быў, Іван Дамінікавіч.

За што яго забілі?.. Што Купала зрабіў, каб казаць, што лепш бы ён зрабіў харакіры?..

Танкевіч, а ён паэт, ды яшчэ які паэт, кажа, што нічога такога, каб казаць, што лепш бы ён зрабіў харакіры, Купала не зрабіў. Трэба зайсці, дарэчы, да Танкевіча – з ім у Польшчу ехаць. Ведае ён, не ведае?.. Танкевіча за паляка “нашчадкі” лічаць, дык як яму будзе ў Варшаве агітаваць сваіх да вяртання ў братнія абдымкі?.. У жалезныя... А як Купалу было ў Празе агітаваць сваіх вяртацца ў савецкую Беларусь? У свабодную... І як глядзець было на тое, што ўрэшце з сябрамі ягонымі, якія вярнуліся, стала? Дык каб не глядзець, трэба было адмовіцца, не ехаць у Прагу? У 30-я гады. Вось цікава: Танкевіч у 80-я адмовіцца?..

Барада, а ён проста шалёнага таленту паэт, кажа: я хацеў бы быць Купалам па духу. Па высокім служэнні Беларусі. А “нашчадкі” кажуць: Купала пайшоў служыць уладзе.

Так, пайшоў, але...

Але што?

Але пайшоў – вось што. Ад гэтага нікуды не дзенешся. За дух не схаваешся.

Ці ўжо не Купала пайшоў, а нехта іншы? А хто іншы? Як той Купала, які

быў, стаў іншым? Яго забілі яшчэ да таго, як забілі? Да лесвіцы ў гатэлі “Масква”? Забілі, а пасля ажывілі?..

“1 ліпеня 1942 года, прачнуўшыся з ранішнім сном, у якім убачыўся яму Хрыстос, Іван Луцэвіч чыста пагаліўся, папырскаўся адэкалонам «Духмяны гарошак», надзеў белую кашулю з цёмна-чырвонымі агатавымі запінкамі...» – самі па сабе пачалі класціся словы на белы аркуш паперы… як даўно, Госпадзі, як даўно не адчуваў ён гэты стан, у якім нібы не сам пішаш, а нехта за цябе піша ці дыктуе, а ты толькі паспяваеш запісваць, і ўсё без ніякіх высілкаў, без натугі, з якой па-за гэтым станам звязваюцца адно з адным, сцягваюцца словы, а лёгка ўсё, лятуча, светла, нібы закружыўся ў табе чаромхавы цвет і зайграла музыка: «Толькі б не абламаў ніхто чаромху, не раструшчыў кружэлку!» – ускочыў ён з-за стала, кінуўся да тэлефона, адключыў яго, падскочыў да дзвярэй: ці замкнёныя? – і тут у іх пазванілі. Віктар не помніў, ці замкнуў дзверы, калі з поштай вярнуўся, застыў, не дыхаючы, чакаючы, што зробіць той, хто за дзвярыма, паторгае ручку, або павернецца і пойдзе, а той яшчэ раз націснуў кнопку званка, і Віктар, злавіўшы сябе на тым, што думае пра госця як пра злодзея, які прыйшоў абакрасці яго, асцярожна зірнуў у дзвярное вочка: Марат! Цапман! Горш, чым злодзей, бо на злодзея ёсць міліцыя, а на Марата Цапмана, даўняга сябра, нікога няма, зойдзе і будзе сядзець невядома колькі, хутчэй за ўсё доўга, бо даўно не бачыліся, а сядзець доўга, значыць, выпіваць, а выпіваць, значыць, размаўляць, прычым, абы пра што, бо якія за п’янкай размовы, ніякія, так, шум дажджу, хоць не, шум дажджу лепш, гэта хораша, амаль як музыка, Шкляр праўду напісаў, хоць я і напаў на яго, прачытаўшы: «Друзья мешают слушать шум дождя…» – паціху адышоў Віктар ад дзвярэй да пліты, каб запарыць каву, бо калі пачаўся дыктант, дык трэба ў тонусе быць, энергію мець, каб запісваць, а ён не спаў у цягніку, крываносаўскія енкі слухаў ды пра ўсялякіх брэжневых думаў, знайшоў, пра каго, да д’ябла, калі ўжо Цапмана ў хату не пусціў, усіх брэжневых, суславых, грачыных, андропавых, ён зараз, што захоча, можа з імі зрабіць, не Купалу забіць і ўваскрасіць, а іх пазабіваць, не ўваскрашаючы, бо для чаго яны патрэбныя, хіба для сюжэту… падышоў ён з кавай да вакна на кухні: Марат стаяў у двары з валізай, азіраўся, нібы не ведаючы, што яму рабіць, куды ісці... – можа, яго не толькі з працы выгналі, але і з хаты выкінулі, у Марата не было сваёй, пры разводзе жонцы пакінуў, кватэры, туліўся ў ведамасным, ад акадэміі, жытле, дык тут хацеў пажыць, але пасля, Марат, пасля пажывеш, выбачай, не магу адчыніць, бо мяне тут няма, я ў іншым месцы, я толькі што апрануўся і выйшаў з гатэля «Масква» – сеў Віктар за стол, схапіў асадку, бо дыктант гучаў, не сціхаючы, роўна, як дождж шуміць, не спыняючыся, і нешта ў ім ён ужо прапусціў, а прапускаць нельга было, бо дыктавалася важнае пра чалавека, які ішоў на сваё пахаванне і думаў пра вечнасць… «Як раней, так і цяпер ён уявіць не мог, што яна такое, вечнасць, але думаў пра яе, бо, мусіць, толькі ў вечнасці можна было гэтак сябе пачуваць. Ясна і бясстрашна.

Усе апошнія гады ён пражыў у страху, які цінуў то мацней, то слабей, але не адпускаў. Гэта высмоктвала, выбірала ўсе сілы, і ўрэшце ён адчуў, што ўжо не столькі збаяўся, колькі стаміўся баяцца. Вось тады і стала яму ўсё адно, што з ім будзе далей.

А што далей будзе?..

Хрыстос, які ўраніцы прысніўся яму, казаў, што таксама не ведаў, што з Ім будзе далей. Бо да таго, як стаць Богам, быў паэтам.

Калі становішся Богам, паэтам быць ужо не можаш?..”

Стоп!.. Што гэта табе прадыктавалі? Які тут сэнс?.. Якая метафара?.. Можна было б падумаць, але, калі дыктант, не думай, не задавай пытанняў таму, хто дыктуе, знойдуцца потым адказы на ўсе пытанні – так заўсёды было.

“Ён спусціўся ўніз на ліфце. Яму падабаўся ліфт у гэтым гатэлі: хуткі, мяккі.

«Іван Дамінікавіч! – гукнула яго адміністратарка і падала газету “Известия”. – Тут пра вас».

«Дзякуй, – сказаў ён. – Я чытаў».

Такая ж газета з некралогам “Памяці Янкі Купалы” засталася на тумбачцы ў 414-м нумары.

Трызна была прызначаная на тры гадзіны, але ён вырашыў выйсці раней, прагуляцца па Маскве – калі яшчэ давядзецца?..”

Чакай, чаму некралог у “Известиях”, а не ў “Правде”? Скуль я гэта помню? Ні скуль не магу помніць, бо не ведаў і не ведаю. Але той, хто дыктуе, ведае. І не было такога, каб памыліўся.

“Дзень быў па-летняму ўтульны. Ён любіў такія ўтульныя летнія дні, калі сонца не пякло, а лашчыла, і паветра, прахалодна-празрыстае, пераламлялася, як крынічная вада ў крышталёвай шклянцы, і ўсё наўкол іскрылася, і ясным было ўсё да донца.

Колькі ў яго такіх дзён было?.. Палова? Траціна?.. Дзе там!.. На той зямлі, на якой пражыў ён свае шэсцьдзесят гадоў, не надта сонечна. Так што ясных дзён выпала ў жыцці няшмат. А па смерці такі першы выпаў. І добра, што серада.

Ён не задумваўся над тым, чаму добра, што серада – проста з усіх назваў дзён тыдня яму найбольш падабалася гэтая. І ён крочыў скрозь ясны дзень, скрозь сераду, і радаваўся, не задумваючыся, з чаго, чаму?..

Пры жыцці гэтак радавацца рэдка яму ўдавалася, бо амаль заўсёды з радасці ўзнікала вострае адчуванне імгненнасці, матыльковай мімалётнасці жыцця, а праз тое страх, што яшчэ адзін матыльковы ўзмах – і ўсё скончыцца. Страх смерці. А тут вось яна, смерць, у табе, ты ў ёй – і няма чаго баяцца”.

Трохі рана пра смерць у ім, трошкі рана, ён яшчэ з жыццём у сабе не разабраўся… Прыспешваю. Можа, таму, што стаміўся?..

Віктар адкінуўся на спінку крэсла, паглядзеў на стол, убачыў, колькі спісаў паперы, і, зразумеўшы, што піша раман, адчуў голад. Па тэксце голад, па тэксце – колькі яго наперадзе! Але ж і не снедаў, і не абедаў. У хаце, каб з’есці, нічога. Падумаў пра кавярню ў Доме літаратара і ўспомніў, што там вечарына.

Было каля шасці вечара. Прыехаў ён а дзявятай раніцы. Значыць, прасядзеў за сталом, не заўважаючы часу, амаль паўсутак. Дзякуй, Божа!..

Склаў паперы, хуценька пагаліўся, сабраўся. Падышоў да дзвярэй – яны не былі замкнёныя. Марат мог увайсці, штурхнуўшы іх. Нехта б так і зрабіў. Але не Марат.

Пад праводку дзвярнога званка была засунутая паперка. “Жыццё – дакументальны жанр. Заўтра ўвечары самалёт. А там – як Бог дасць”.

“Марат!.. Ёрш тваю дваццаць, Марат!..” – кінуўся Віктар да тэлефона, падключыў, набраў нумар калішняй маратавай жонкі: “Зоя! Дзе Марат?” – “А ён мне не брат, не сват...” – “Ён з’ехаў? Куды?” – “А куды ўсе жыды...”

Рыфмуе. Вершы піша. Курва! І як Марат з ёй ажаніўся? Трэба было спачатку дзверы адчыніць! Паглядзець трэба было, Марат, ёрш тваю дваццаць!..

## XXIX

– Купала пісаў пра Леніна... – усхліпвала, лятаючы на вянку пад самай столлю рытуальнай залы, Спагада. – Вось паслухайце: “Ленін на сэрцы шчаслівым, Леніна ў сэрцы заветы, Ясныя думак парывы Песняй імкнуцца над светам...” – а таварыш Коган, якая яшчэ гадзіну таму заступалася за Купалу, цяпер разам са старшынёй таварыства аматараў крэмацыі таварышам Кашкадамавым патрабавала яго раскрыжаваць, кулачкамі сатрасала: “Гэта ён пра сябе, пра ордэн свой напісаў, а не пра Леніна!..” І дачытала верш, не даплаканы Спагадай: “Вочы мне з часам самкнуцца, Жвір мяне ўхутае цвёрды, Жыць між людзей застануцца Песня і Леніна ордэн!”

– Ну, Коган! – у каторы раз пляснуў сябе па каленях Куйбышаў, нібыта зноў пашкадаваўшы, што кінуў у Самары такую жонку, якая на памяць усе, нават беларускія вершы ведае, а яна тут жа павярнулася да яго: “Вам бы, таварыш Куйбышаў, не ў ладкі пляскаць гэтаму нацыяналісту, да якога чамусьці вы блізка прысуседзіліся, а спытаць прыслужніка нашых ворагаў: што ён напісаў, каб стаць ганаровым сябрам крэматорыя таварыша Сталіна?!” – і Куйбышаў, якога колішняя жонка звінаваціла ў блізкасці да ворагаў, трохі, наколькі змог у цеснаце, ад Купалы пасунуўся...

“Ён ужо не чалавек, горад, а таксама, як і ўсе, баіцца”, – падумаў Купала, згадаўшы, як падобная да жонкі Куйбышава, толькі светлавалосая сакратарка старшыні беларускага саўнаркама дапытвалася ў яго: “Дык што вы напісалі, каб стаць удзельнікам дэкады беларускага мастацтва ў Маскве?..” – і сама пазначыла ў спісе ўдзельнікаў: “Купала І.Д., аўтар песень”.

“Якіх?..” – пацікавіўся ён, бо ніякіх песень да дэкады не пісаў, і сакратарка сказала: “Народных”.

Што ж, з паэмай “На куццю” ў Маскву не паедзеш. Толькі з песнямі.

Ён, можа, і не паехаў бы, калі б не Ганна. “Я не ведаю, што яно такое, адно ведаю, што гэтага не трэба ні табе, ні мне, і нават не таму, што небяспечна, проста ні мне, ні табе не трэба, але я невыносна, нясцерпна хачу цябе ўбачыць, няхай нават праз гэта мяне спаляць, як ведзьму, я гатовая за цябе жывой згарэць...” – напісала яна ў лісце, перададзеным праз “даўняга вернага сябра”, рэжысёра, якога паслалі з Масквы ў Мінск “кансультантам па падрыхтоўцы да дэкады беларускага мастацтва”, і той кансультант, выпіваючы дома ў Купалы, нахіліўся блізка-блізка да вуха: “Вас арыштаваць могуць... А яна гуляе з агнём. Скажыце ёй пра гэта, напішыце...”

Арыштавалі, як толькі ён вярнуўся ў Маскву, “даўняга вернага сябра”.

“На вакзале яго чакалі, знайшлі і забралі твой ліст, – казала Ганна, калі яны сустрэліся. – Што ты там напісаў? Будзеш цяпер на Лубянцы з ім у кампаніі!”

“У Мінску няма Лубянкі”.

“Лубянка скрозь...”

– Вось вы ў якой кампаніі! – падала Купалу “Спіс пісьменнікаў, удзельнікаў дэкады беларускага мастацтва ў Маскве”, сакратарка старшыні саўнаркама. – Сем чалавек. – І даверліва кіўнула на дзверы кабінета начальніка. – Там сказалі, што квота шэсць. Дык адзін лішні. Вы каго б выкраслілі?

“Мусіць, яна ва ўсіх пра гэта пытае?..” – прабег Купала позіркам па спісе, дзе насупраць кожнага прозвішча было пазначана, хто над чым працуе, хто і што стварае. Колас – п’есу “Вайна”, Бядуля – аповесць пра рэва-

люцыйную барацьбу гішпанскага народа, Лынькоў – раман “Кастрычнік у Беларусі”, Броўка і Глебка – лібрэта оперы “Кветка шчасця”, Міронаў, пра якога да таго, што пісьменнік, было дададзена, што ён як чалюскінец узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, рыхтуе да дэкады беларускага мастацтва арктычныя апавяданні, – і Купала сказаў: “Я б выкрасліў Купалу І.Д., аўтара народных песень. Бо такога не ведаю”.

“Жартуеце, – уздыхнула сакратарка. – А гэта ж Масква!..” І па яе лыпаючых вачах, па ўздыбленых грудзях, па ўсёй ёй чыталася, што з Масквой не да жартаў.

“Масква, наша доля і воля...”

Так, з Масквой было не да жартаў, а Ганна (Купала зноў успомніў Асеева: “Гэтая актрыска шалёная!”) прыйшла, хоць яны дамовіліся спаткацца пазней, на балет “Салавей”, якім сканчалася дэкада беларускага мастацтва ў Маскве, і, калі ў фінале балета дзве сотні танцораў і танцорак таптали “Лявоніху”, да Ганны падсеў кінарэжысёр Чыаўрэлі, нешта сказаў ёй, кіўнуўшы на ложу, дзе сядзеў Берыя, і Ганна ўскочыла, села, зноў ускочыла, села – з боку можна было падумаць, што яна таксама “Лявоніху” танцуе. Урэшце яна паднялася і сышла, нічога не сказаўшы Купалу, а пад апладысменты танцорам да яго падышоў строгі малады чалавек: “Товарищ Купала, прошу со мной”.

Са службовага ўваходу ў тэатр стаяла машына, з якой Купала, думаючы, што выйдзе на Лубянцы, выйшаў на Цвярской каля рэстарана “Арагві”. Яго павезлі, хоць ад тэатра да рэстарана пешшу было дзесяць хвілін.

Не эканомяць у Маскве бензін.

## 30

Да Дома літаратара найбліжэй было прайсці праз парк Горкага. “Гэта лагічна, – сказаў бы Крыванос. – Да Дома літаратара праз парк Горкага”.

Але чаму парк Горкага ў Мінску? Горкі тут не жыў. У парку не гуляў – прычым тут Горкі? Хіба пры тым, што пра беларускіх паэтаў Купалу і Коласа сказаў, што яны файныя хлопцы?..

У-у-у, колькі файных хлопцаў на ганку! Вунь і Барада сярод іх рукой махае. Зараз здароўкацца ўсе будуць. “Які ў цябе файны касцюм!..”

– Пасля перакусіш, – сказаў Барада, не пусціўшы яго ў кавярню. – У Навума паямо, тут пачалі ўжо. Лугунец выступае. Ты не ведаеш, чаго ён за яйцы трымаецца? Нос крывы, за яйцы трымаецца, а пра Купалу кажа, што той быў п’яніца, таму з лесвіцы зваліўся.

Яны ўвайшлі ў залу, калі Лугунец скончыў выступаць. Убачыў Віктара, павярнуўся і сышоў са сцэны ў бакавыя дзверы.

Вось чаго ён прыпёрся са шпіталя ў жыццёва важнае месца паранены? Мусіць, сказалі, каб выступіў. Гэта таксама жыццёва важна.

Дык і табе ж сказалі. І ты выступіў. Але Лугунец сказаў тое, што хацеў сказаць, а ты – не. Так што яшчэ пытанне, хто каму пад дзягу кіпень мусіў выліць...

– Віктар? Ты чуеш? Што з табой? – тузануў яго за рукаво пінжака Барада і павёў на сцэну – ён, аказалася, быў вядучым вечарыны. – Паслухалі вы мал*а*йца Лугунца, – наўмысна змясціў Барада націск у слове, – а цяпер паслухайце малайц*а* Маргера. – Ён толькі-толькі з Масквы, што-кольвечы вызнаў там пра Купалу, зараз распавядзе.

Калі Лугунец – малаец, значыць, не беларус, – вось што азначала наўмысна зробленае Барадой змяшчэнне націску. – Па пашпарце, магчыма, беларус, але па сутнасці – не. Малаец.

Пасля таго, як адзін прысланы з Масквы начальнік, папрасіўшы памочніка напісаць у дакладзе некалькі слоў па-беларуску, выгукнуў пад канец даклада: “Вы, беларусы – малайцы!” – думаючы, што называе беларусаў малайцамі, назва ні ў чым не вінаватых жыхароў паўднёва-ўсходняй Азіі стала ў пісьменніцкім, увогуле ў беларускамоўным, не такім ужо вялікім у Мінску асяродку назвай тых, хто выракся беларушчыны. Вядома, тычылася гэта толькі беларусаў. Малайцы тут ні пры чым.

– Ды ўсё мы ведаем пра Купалу! – крыкнуў у зале нехта з малайцаў. – Пра ледакол прачытай! Як з Брэжневым цалаваўся, раскажы!

Хтосьці запляскаў. Не ўся зала запляскала, але і не адзін чалавек. І яшчэ некалькі засмяяліся.

Ён глядзеў у залу – амаль усіх ведаў. Іх каля чатырохсот – сяброў Саюза пісьменнікаў. Сапраўдных літаратараў сярод іх, можа, сорак. Дваццаць празаікаў, дваццаць паэтаў, пара драматургаў. Яшчэ крытыкаў адзін-два. Выходзіць сорак тры – сорак чатыры. Добра, няхай сорак чатыры. Трыста пяцьдзясят шэсць астатніх – графаманы. Не паэты. І нават не таму, што пісаць не ўмеюць, а таму, што не паэты. Па нутры, па жыцці, па спосабе існавання, праз які пазнаеш паэта. Як таго ж Бараду... Танкевіча, Пімена, Стральца, Бура... Ці Каралевіча... Ды калі б Каралевіч пісаць не ўмеў, ён усё адно быў бы паэтам! А гэтыя не будуць па прыроднай прычыне. Па той, што не паэт быць паэтам не можа. І хоць яны ўсе разам не напішуць нават пра ледакол, ва ўсіх і ў кожнага будзе цяпер над ім перавага: яны не выступалі на з’ездзе і не цалаваліся з Брэжневым! Больш ніякіх пераваг не будзе, толькі адна, але неаспрэчная: не цалаваліся і не выступалі! І гэтага ім дастаткова, каб падпісвацца пад ананімкамі: “Сапраўдныя Паэты”. Ніхто іх, праўда, на з’езд не клікаў, і Брэжнеў з імі цалавацца не збіраўся, але, каб паклікалі, яны б усе адмовіліся, а калі б Брэжнеў цалавацца палез, кожны з іх плюнуў бы яму ў морду.

Ці ў задніцу.

“Ды вы сраку яму б цалавалі!” – можна было – і трэба было сказаць. Барада тузаў пасля: “Чаму не сказаў? Няхай бы самі сябе панюхалі!” – а ён падышоў да мікрафона і прачытаў пра ледакол.

Ніхто не запляскаў. Але і не выгукнуў ніхто нічога. Ён спытаў у цішы: “Яшчэ да мяне ёсць што-небудзь?.. Няма? Тады што да Купалы. Яго забілі. Пра тое, хто, чаму і як, мне ўпершыню расказала Перапёлка, якая блізкая была да сакратара ЦК кампартыі Беларусі Панамарэнкі і якая разам з ім была ў гатэлі «Масква», калі Купалу скінулі ў лесвічны пралёт...”

Вечарына цягнулася доўга. Пачалі спрачацца: “Доказы! Дзе доказы?..” – і калі ўсё стала патанаць у гвалце, у тлуме, Барада сказаў: “Тут больш няма чаго рабіць. Няхай самі скубуцца. Пайшлі да Навума, нашы ўжо там”.

Паэт Навум Масляк жыў у доме побач з Домам літаратара, у які амаль ніколі не заходзіў. Не меў патрэбы. Бо ўсе, каго ён хацеў там бачыць, заходзілі пасля сходаў з вечарынамі да яго. А там, куды ён не заходзіў, заставаліся тыя, каго бачыць Навум не хацеў.

Менавіта так, хоць можна было прасцей, тлумачыў Масляк прычыну, па якой добраахвотна падпісваўся на немалыя, як для паэта, матэрыяльныя (стол накрыць) і сякія-такія маральныя (на тое, каб стол накрыць, Соф’ю Саламонаўну ўгаварыць) страты.

Соф'я Саламонаўна, маці Масляка, з якой жыў ён у двухпакаёўцы насупраць парка Горкага, адчыніла дзверы.

– Вой, хто да нас! Віцечка!.. Ты чаму не нарадзіўся габрэем, Віцечка, калі гэтакі разумны? І так добра віншавальныя вершы пішаш! – раскінула яна, калышачы грудзямі, абдымкі. – Можа, яшчэ і на скрыпцы граеш, а мы не ведаем?

З тым, як ставяцца да ягонай славы ў гэтым доме, усё было ясна. Навум мог нічога не казаць, але сказаў:

– Мама, прынясі скрыпку.

– На, – падаў яму Барада прынесеную пляшку. – І досыць. Пайгралі – і хопіць.

Але пайграць хацеў не толькі Навум. За сталом сядзелі Бычык з Дымовічам, Бур, Стралец, Каралевіч, Тарасюк і чалавек, да якога ў гэтай кампаніі адносіліся не кепска, хоць і не быў ён у ёй сваім: галоўны рэдактар энцыклапедычнага выдавецтва Гарымякін. Запрасілі яго, мусібыць, каб распытаць пра купалаўскі даведнік: што там і як? Пра гэта якраз з такімі паўзамі, нібы ў носе калупаўся, Гарымякін і казаў.

– Хлопцы, мы ж толькі пачалі. Там працы яшчэ на пяць гадоў, а вы: забілі, не забілі, што будзе, як будзе? Скуль я ведаю?

– Як адкуль ведаеш? – аж падскочыў Дымовіч. – Ты ж галоўны рэдактар! Ці ты там – генерал на вяселлі, а даведнікам купалаўскім займаецца ЦК?

– ЧК, – сказаў Бур. – Купалам як займалася, гэтак і займаецца ЧК.

– І яшчэ Маргер, – уставіў сваё, бо не мог не ўставіць, бо тады ён не быў бы ён, Барада. Але тут жа зрабіў выгляд, нібы гэта не падкол. – Ён жа казаў сёння, хто забіў, чаму? Ці вы не чулі?

Гарымякін, які быў някепскім празаікам, мог бы пісаць дэтэктывы, але збіўся на раманы, у якіх сакратары райкамаў партыі перавыхоўвалі старшыняў райвыканкамаў, зноў калупнуўся ў носе.

– Ён хіба быў там, дзе забівалі? Бачыў забойцаў і можа іх апазнаць? Усё гэта з нечых слоў. А тое, што са слоў, – гэта літаратура. Не дакумент для навуковага даведніка. І не для даведніка я вам магу сказаць, што сын Якуба Коласа казаў мне, а яму казаў бацька ягоны, што якраз Перапёлка, словы якой для Маргера дакумент, і спіхнула Купалу. Ён быў нападпітку, пачаў да яе чапляцца – яна адштурхнула. Выпадкова, вядома, усё выйшла, але… Дык што: пісаць пра гэта ў энцыклапедыі?

– А чаму не? – спытаў Дымовіч. – Калі Колас казаў.

Каралевіч, які не ўмеў хаваць ні таго, што яму весела, ні таго, што сумна, засмяяўся. Бо ў тым, што спытаў Дымовіч, была падначка: Гарымякін любіў расказваць, як хваліў яго Якуб Колас.

– Казаў, – не надта прыязна зірнуў Гарымякін на Дымовіча. – Але фотаздымка не даслаў, на якім Купала чапляецца да Перапёлкі. Ці да Мядзёлкі, пра якую таксама кажуць, што гэта яна Купалу скінула.

Так, такое казалі. І кажуць. І пра Мядзёлку, і пра Перапёлку. Калі Перапёлка распавядала пра смерць Купалы, пра тых, хто яго забіў, Віктар нават падумаў, што яна ўсё выдумляе. Засыпае сцежку, якая магла прывесці да яе, пясочкам прыдуманых успамінаў.

Соф'я Саламонаўна прынесла смажаную рыбу: "Правільна, жанчыну шукайце, жанчыну… Во табе, Віцечка, хвосцік, галаву ты, мусіць, у Маскве з'еў…"

З'еў дык з'еў. Жарцікі Соф'і Саламонаўны – такой бяды. Абы астатнія не

чапляліся з гэтым, як Перапёлка з Мядзёлкай да Купалы. І ён сказаў, пакуль налівалі пад рыбу:

– Калі шукаць жанчыну, дык у самым канцы Купалавага жыцця іх было чатыры. І ўсе акторкі. Так што любая ў ягоным лёсе магла якую заўгодна ролю прыдумаць.

Тарасюк, які сядзеў насупраць, глянуў на яго, паківаў.

– Магла. Але мы не французы. Навошта нам шукаць жанчыну, калі чалавек загінуў за ідэю?

Бычык, Дымовіч, Бур з Масляком таксама паківалі: маўляў, так, – а Каралевіч, як толькі Барада наліў яму кілішак, тут жа ўстаў.

– Можаце лічыць, што я француз! Я не разумею, чаму за ідэю лепш загінуць, чым за жанчыну? Па-мойму, наадварот. Прапаную выпіць за ўсіх жанчын Купалы. Хоць іх чатыры, хоць сорак чатыры!.. – І спытаў, выпіўшы: – А хто чацвёртая?

Распавесці ім пра акторку Ганну Трубяцкую? Пра яе дачку, якая таксама Ганна, і бацька якой, можа быць, ці Сталін, ці Купала?.. Каралевічу можна было б расказаць. Стральцу таксама, Барадзе... Гарымякін спытае: дзе дакумент? Без дакумента – літаратура. А калі і літаратура, дык што? Вы ж літаратары…

– У мяне ў Маскве знаёмая была. Мімалётная такая… Таксама, дарэчы, акторка, – падняўся і прайшоў да вакна, каб закурыць, Стралец, які ў кампаніях звычайна больш курыў, чым гаварыў. – Неяк яна сказала, што сябруе з дачкой Купалы. Я падумаў, як Віктар: акторка. Якую заўгодна ролю можа прыдумаць. Калі не дачкі Купалы, дык яе сяброўкі. А яна мяне з ёй пазнаёміла. З той дачкой. Выпадкова, у тэатры. У антракце. Ні пра што такое не размаўлялі, коратка ўсё. Дый не спытаеш: чыя ты?.. Не ведаю, ці дачка, але да маладога Купалы падобная. Калі ўзяць яго фотаздымак і яе, дык можна было б і ў энцыклапедыю.

– Яе Ганнай звалі? – спытаў Віктар, і Стралец глыбока зацягнуўся дымам цыгаркі: “Не помню. Можа, Ганнай. Не назвалася”.

Гарымякін узвіўся.

– У якую энцыклапедыю? Не магло ў Купалы быць дзяцей! Проста не магло, спытайце Чужаніна! – і Бычык спакойна, як заўсёды, спытаў: “Чужанін уролагам быў да Купалы прыстаўлены?”

Пра паэта Чужаніна, які быў нейкі час сакратаром Купалы, казалі, што ён быў прыстаўлены да яго энкавэдыстамі. Так яно, ці не, але…

– Я казаў Віктару, каб не браў гэтую прэмію, – працягнуў без ніякага пераходу Бычык, і Віктару падумалася: “Ну вось. Скончылася там – пачынаецца тут. І ад гэтых не адмахнешся, як ад тых, каго не хоча бачыць Масляк. Бо свае”. – Бо давядзецца, – казаў Бычык, – адрабляць. Савецкая ўлада не тая ўлада, каб нешта даць і забыць. Па сабе ведаю. Дый ты, Алесь, ведаеш, і ты, Генадзь, і Валодзя, і Рыгор, і Валянцін, і Міхась – усе вы. Ніхто не без граху, бо ў такім часе жывем. Грахоўным. Але гэта не апраўданне. І тое, што прапанову сваю ўлада можа гэтак зрабіць, што не адмовішся, таксама не апраўданне. Мы не мусім дапускаць, каб да нас звярталіся з сумнеўнымі прапановамі. Каб ва ўладзе думка ўзнікла, што нешта такое нам можна прапанаваць. А раз узнікла, калі дапусцілі… Тады прапануюць напісаць прывітанне Сталіну. Ці Брэжневу. І можна, вядома, паспрабаваць апраўдацца, што Брэжнеў – не Сталін. Але няма...

Бычык паглядзеў на ўсіх па чарзе, падціснуў вусны, у яго звычка была ў

напружаныя моманты вусны падціскаць, і не сказаў, чаго няма? Мусібыць, апраўданняў.

– З Купалам параўнаў Маргера, – з падробнай зайздрасцю ў голасе, можа, для таго, каб зняць напружанне, сказаў Бур. – Мяне дык не, хоць даўней сябруем. – "Ты вершаў пра Сталіна не пісаў", – паспачуваў яму Тарасюк, і Барада тут жа ўставіў: "Не паспеў. Затое паспеў пра Леніна", – на што Тарасюк рукой махнуў. – "Ды хто з нас пра Леніна не пісаў…" – "Я не пісаў", – прынёс, дапамагаючы маці, яшчэ нейкую страву на патэльні Масляк, а Соф'я Саламонаўна зняла накрыўку: "Бліны са скваркамі... Ты не мані пры маці, Навуме. Пісаў у школе. Ці ў навучальнай установе не лічыцца? Тады можна і ў інстытуце не лічыць, таксама навучальная ўстанова".

– Нікога Васіль ні з кім не параўноўваў, – цягнучы блін з патэльні, патлумачыў, як дурням, Дымовіч. – Ён пра прынцыпы паводзінаў. Ці ёсць яны, ці не. Як бліны. Ёсць – ядзім, няма – сядзім. Але з прынцыпамі часцей сядзім, калі яны ёсць.

Вось з кім Віктару было заўсёды лёгка размаўляць пра самае цяжкае, дык гэта з Дымовічам. Той прапанаваў, калі пазнаёміліся: "Давай мы з табой пагадненне заключым. Дамовімся, што мы абодва – прыстойныя людзі. І не будзем разбірацца, так ці не? А таго, хто табе пра мяне ці мне пра цябе скажа, што не, пасылаць як найдалей. Гэта будзе апошні, але самы важны артыкул нашай дамовы. У мяне заключана некалькі такіх, і павер: няма нічога лепшага, што гэтак бы дапамагала, вымагала захоўваць прыстойнасць. Вядома, пры ўмове, што ты заключаеш дамову з прыстойным чалавекам. З такім, які яе не парушыць. А не такіх я абыходжу – і ты абыходзь".

Вось што зараз Дымовіч думае? Што парушыў я дамову? Ці не?.. Каб думаў, што парушыў, сказаў бы. Ён не з тых, хто прамаўчыць.

Віктар не пытаў Дымовіча, з кім, апроч яго, заключаў ён такія пагадненні, але з Бычыкам за доўгія гады сяброўства яны не маглі пра гэта не дамовіцца. І калі ў Бычыка ўзнікла праблема з прыстойнасцю, Дымовіч усіх, хто яму пра гэта казаў, пасылаў па апошнім артыкуле дамовы. Яму паказвалі: "Глядзі, непрыстойны тэкст, пад ім подпіс Бычыка", – а ён пасылаў…

Нават сваіх.

Можа, лепш іх не мець, сваіх, каб не пасылаць?..

Подпіс Бычыка значыўся пад адкрытым лістом савецкіх пісьменнікаў, якія закляймілі акадэміка Сахарава і пісьменніка Салжаніцына. Асудзілі іх. "Паводзіны такіх людзей, як Сахараў і Салжаніцын, не могуць выклікаць ніякіх іншых пачуццяў, апроч глыбокай пагарды".

Бычык казаў, што гэтага ліста не падпісваў, што подпіс з'явіўся пад лістом без яго ведама.

Ліст падпісалі найзнакамітыя пісьменнікі. Лаўрэаты ленінскіх і дзяржаўных прэмій, героі сацыялістычнай працы. Абы-якія шараговыя сакратару ЦК КПСС таварышу Суславу былі без патрэбы.

Быў сярод падпісантаў яшчэ адзін беларус. Іван Межак. Ён падпісаў ліст і не заяўляў, што не падпісваў. Але ягонага подпісу як бы ніхто і не заўважыў – усе ківалі ў бок Бычыка.

"Як ты думаеш, – спытаў Віктара ў самы разгар шуму вакол гэтага ліста Круча. – Падпісаў Бычык?" – "Я думаю, калі б падпісаў, дык не казаў бы, што не. А ты падпісаў бы?" – "Мне не прапаноўвалі". – "А калі б прапанавалі?" – перапытаў Віктар, і Круча паўтарыў: "Мне не прапаноўвалі".

Бычык дапусціў, каб прапанавалі.

“Не ў тым праблема, – як дурню, тлумачыў яму Дымовіч. – Каб прапанавалі, ён бы адмовіўся, і ўсё. Яго мучае якраз тое, што не прапанавалі, а проста подпіс паставілі. Не сумняваліся, што ён падпіша. Бо вінны. Маўляў, ёсць час браць – і час вяртаць. Таму ён і сказаў табе: не бяры!”

Так, ёсць час браць – і час вяртаць. І заўсёды знойдуцца тыя, хто скажа табе: не бяры. А ты ім у адказ: “У мяне кута свайго няма, а вы мне пра ідэалы”.

– Вось Васіля пытаюць: падпісваў ліст супраць Салжаніцына і Сахарава, не падпісваў? – нібы ўгадаўшы, пра што ён думае, зняў акуляры, працёр і зноў начапіў Бур, і Віктар успомніў, як тое самае зрабіў, зняў акуляры, працёр і зноў начапіў Сахараў, калі Круча спытаў: “Андрэй Дзмітрыевіч, а што вы пра тых, хто падпісаў ліст супраць вас, думаеце?” – “Нічога”, – працёршы акуляры, сказаў Сахараў.

Яны выйшлі ў той вечар з Тэатра на Таганцы, са спектакля па вершах Вышэнскага. Спектакль паказвалі ў шасцісоты раз, і ў шасцісоты раз Высоцкі спяваў: “Пошли мне, Господь, второго аукаться через степь”, – а Гасподзь усё не пасылаў. Круча, якому зноў грузіны віна прывезлі, вясёлы быў, напрасіўся ў госці да акторкі, што жыла непадалёк, разам з сяброўкай наймала кватэру на вуліцы Чэхава, і якая сказала, на вокны глянуўшы, калі ў двор іх дома ўвайшлі: “Сахараў яшчэ не спіць”. – “А давай зойдзем!” – раптам загарэўся Круча. – З Нобелеўскай прэміяй павіншуем!” – “Дык амаль два гады прамінула, – засумнявалася ў прычыне візіту акторка. – Але калі хочаце...”

Без той акторкі іх, можа, і з грузінскім віном не прынялі б у доме – было ўсё ж пазнавата. Але аказалася, што гаспадыня дома апекавалася той акторкай, сустрэла прыязна: “А, Тамара!..” – і павяла яе ў пакой нешта паказаць. – А вы праходзьце на кухню, там акадэмікі чай п’юць”. Вось за тым вечаровым чаем Сахараў і сказаў, калі Круча спытаў яго, што ён пра падпісантаў ліста супраць яго думае: “Нічога”.

Сядзелі нядоўга. Размова не складвалася. “Выбачайце, што позна, мы з Таганкі, са спектакля па вершах Вышэнскага”, – пачаў з выбачэнняў Круча, і госць Сахарава адразу Вышэнскага працытаваў, прачытаў з паэмы, што гучала ў спектаклі: “Школа Ленина продолжается, черт возьми!” – прычым, так прамовіў гэта чорным ротам, што на спектакль той болей Віктар не хадзіў.

Госць гэты, таксама акадэмік, у якога былі не толькі зубы чорныя, але і вусны, рот, Віктар цынгі такой не бачыў ніколі, адсядзеў, як потым акторка сказала, амаль 15 гадоў недзе ў Запаляр’і, навучыўся там з людзьмі не цацкацца, таму як толькі Круча пачаў віншавальную песню Сахараву спяваць, падняўся: “Я, Андрэй, бадай, пайду, а ты паслухай”. Сахараў не стаў яго затрымліваць, як хвілін праз дзесяць не стаў затрымліваць і Віктара з Кручам, які ўжо відавочна шкадаваў, што прамяняў акторку на акадэміка: “Можа, мы таксама, позна, Андрэй Дзмітрыевіч, іншым разам”, – і калі гаспадар праводзіў іх, Віктар спыніўся ў дзвярах: “Андрэй Дзмітрыевіч, пад лістом стаіць подпіс Васіля Бычыка, але ён ліст не падпісваў”, – на што гаспадар кватэры сказаў: “Не магу знаць”, – і зачыніў за імі дзверы. У адрозненне ад Дымовіча, ніякіх пагадненняў з Бычыкам ён не заключаў.

– Сказаў Васіль, што не падпісваў, а ўсё адно пытаюць, ці падпісаў? – доўжыў Бур. – Ну і што будзе, калі дазнаюцца? Дапусцім, Суслаў возьме і скажа, што не. Ці наадварот: подпіс пад лістом пакажа. Дарэчы, чаму не паказаў?.. Нецікава гэта ўсім стане, вось што будзе. І, дапусцім, Віктар дазнаецца, што Купала скончыў самагубствам. Прадсмяротную запіску знойдзе. Ці наадварот: дазнаецца, што Купалу забілі. Знойдзе фотаздымак, – па-

вярнуўся ён да Гарымякіна, – на якім відаць, як Мядзёлка з Перапёлкай, ці хто там яшчэ з чатырох акторак, можа, нават жонка ягонага сябра мастака Елісеева, якая гасцявала ў Купалы ў той вечар, куляе яго ў лесвічны пралёт. І што?.. Нецікавай трагедыя Купалы стане, вось што. Самагубства – банальна, жанчына, няшчасны выпадак – банальна, а вось тое, што паміж імі – не. Тое, што паміж імі, – літаратура. І калі ты, Віктар, хочаш зрабіць з гэтага літаратуру, тады я цябе разумею. А калі літаратуразнаўчае адкрыццё для Гарымякіна, тады не. Бо навошта? Каб у Гарымякіна, у ягонага выдавецтва праблемы не было?..

Гарымякін падняўся. Маленькі, а тут як бы разросся, раззлаваўшыся.

– Гарымякін, Гарымякін!.. Вы для чаго мяне запрасілі? Я столькі ж ведаю, колькі вы! І кажу, як ёсць. Энцыклапедыя не раман. У ёй не пішуць або так, або гэтак. Забілі, забіўся! Праз акторку, праз Сталіна! Калі Маргер пра гэта дазнаецца, я “дзякуй” яму скажу. А раман ягоны чытаць не буду, мне сваіх хапае. Літаратуру ствараюць з жыцця, а ў яго адны выдумкі. І ты, Генадзь, – насупіўся ён на Бура, – яго яшчэ і падбухторваеш. Разам з Каралевічам: “Выдумляй, Маргер, літаратуру, а не шукай дакументы для энцыклапедыі”. Любы дакумент, калі хочаце ведаць, важней за любую літаратуру.

Бур ні ў чым Віктару не патакаў. З ім у Віктара, у адрозненне ад Дымовіча ці Барады, адносіны звіліста складваліся. Бур быў рэдактарам часопіса, у які Віктар прынёс, прыехаўшы з Масквы, вершы – раней ён у беларускіх часопісах не друкаваўся. Бур прачытаў, сказаў: “Чакаў большага”. Як бы і нічога ў тым крыўднага не было, усе мы большага чакаем, а Віктара заела. “Я ад вас увогуле нічога не чакаў і не чакаю”, – сказаў ён і, не развітаўшыся, сышоў.

Не думаў, што Бур пасля гэтага вершы ягоныя надрукуе. А Бур надрукаваў. Даў зразумець: гэта – над асабістым. І, калі патэлефанаваў: “Бухгалтэрыя пытае, чаму ты па ганарар не прыходзіш?” – Віктар прыйшоў да яго з тэкілай. Купленым у Маскве ў 300-й секцыі, рэдкім па тым часе для Беларусі пітве.

Пагулялі яны пад тэкілу слаўна... З песнямі. “У Барады такое рыла, нібы не маці нарадзіла, а вылез з бацькава дупла, яго тэкіла разлюбіла, яму тэкіла не дала”.

Усе п’яныя – ідыёты. Але думаюць, што геніі.

Барада, які ў маладосці так тэкіліўся, што ледзьве з глузду не з’ехаў, з гэтым завязаў, дык яны гулялі і за яго. А ў Барады з тых “тэкілаўскіх” часоў звычка засталася: наліваць. “Не трываю, – кажа, – дзве рэчы: пустых людзей і пустых кілішкаў”. Вось і зараз: сам не п’е, а налівае.

– Ёсць падзеі, адной версіі якіх не існуе і ўжо ніколі не будзе, – пачакаўшы, пакуль Барада налье, узяў кілішак і ўстаў Віктар. – Смерць Купалы з такіх падзей. Як і смерць таго, хто ў Купалавай смерці вінаваты. А тое, што Сталін вінаваты, для мяне бясспрэчна. Незалежна ад таго, аддаў ён загад ці даў згоду, ці не аддаваў загаду і не даваў згоды, ён вінаваты ў смерці Купалы гэтаксама, як і ў смерці ўсіх, хто знішчаны ў гады тэрору. Таму я магу сказаць, напісаць: Купалу забіў Сталін – і гэта будзе праўда. Але гэта праўда, якая тычыцца мільёнаў. Такая агульная праўда. А там, дзе праўда мільёнаў, там няма праўды аднаго. І гэта лепш за ўсіх нас Бычык адчувае, ён пра гэта і піша. Яго цікавіць адзін з мільёнаў. І мяне таксама. Мяне цікавіць адзін Купала з усіх паэтаў. Чаму? Бо з ім сталася ўсё, што з паэтам можа быць. Што можа быць з усімі паэтамі. З табой, Барада, з Бурам, з Каралевічам – з кожным. Што ўжо адбываецца з намі – ва ўсякім разе са мной. Я не раўняюся з Купалам, але нібы паўтараю ягоны шлях. Вінавачу яго ў тым, што

раблю сам. Вінавацячы, раблю тое самае, разумею, што раблю, і не магу не рабіць, не стае мяне на гэта – дык чаму яго ставаць мусіла? Не мусіла ставаць, дастаткова таго, што яго хапіла на тое, што ён напісаў, апраўдваю я Купалу і разумею, што апраўдваю не яго... – адчуў Віктар, як спазмам перахоплівае горла, як наплывае слабасць, усё ж далася ў знакі бяссонная ноч, нервовая напруга апошняга часу, і ён, кульнуўшы кілішак, паспрабаваў дагаварыць тое, што хацеў сказаць ім, сваім, ледзьве пракаўтнуў разам з гарэлкай... – апраўдваю не яго, а праз яго сябе... – і Соф'я Саламонаўна бразнула накрыўкай па патэльні: "Не распранайся, Віктар, тут жанчына! І не ўсе свае".

Стралец, які стаяў каля вакна, падышоў, узяў за плечы: "Сядзь", – а Гарымякін сказаў: "Глядзі ты: новы Купала. Вось што трэба ў энцыклапедыю запісаць. – І спытаў крыўдліва. – Чаму я, Соф'я Саламонаўна, не свой? Бо не паэт? Думаеце, у мяне такога не бывае?.."

Віктар сеў. Што гэта з ім? Стаміўся? Так, але гэта не толькі стома... Гэта нейкае адчуванне сябе не сабой, і ў сабе не сабой няўтульна, як сірацінец, цяжка, як хворы, пачуваешся. Трэба выходзіць з гэтага стану, трэба выходзіць, трэба сядаць і пісаць, бо толькі тады, калі пішаш, ты такі, які ёсць, што б пра цябе ні казалі, і што б ты сам пра сябе ні выдумляў.

У вакно ўляцеў верабей. Звычайны. Шэранькі. У пакоі кніжная паліца злева ад вакна была, на якой партрэт Купалы стаяў, – верабейка сеў на раму і паглядзеў на ўсіх. Не адзін Віктар, усе, мусіць, падумалі, што гэта нейкі знак. Каралевіч сказаў: "Знак нейкі... Купала любіў верабейкаў. Карміў іх..." – а верабейчык раптам кульнуўся з рамы на падлогу. Стралец, які каля вакна стаяў, падскочыў, падняў яго: мёртвы.

Паклаў на падваконне.

Застолле было разбуранае. Раскіданае, як купалаўскае гняздо. Маленькай птушкай. Адзін за адным усе зазбіраліся, раптам паўспамінаўшы, на ноч гледзячы, што ў іх не дароблены нейкія важныя справы, а Масляк стаў каля дзвярэй: "Чакайце... Я не магу гэтага вераб'я проста ўзяць і выкінуць. Іншага б выкінуў, а гэтага, не ведаю, чаму, але не магу. Што мне рабіць з ім?.."

– Пахаваць трэба, – сказаў Каралевіч і павярнуўся да Віктара. – Ты ж на могілкі да Купалы збіраўся. Калі хочаш, я з табой. Пахаваем, хаўтуры справім. Да раніцы справімся.

– Раніцай мне ў ЦК. Так што без хаўтураў.

Каралевіч пачухаў патыліцу. Ён кожны раз чухаў яе, калі хацеў паказаць, што моцна задумаўся.

– Куды табе раніцай?.. У ЦК? Дык нармальна. З могілак у ЦК – нармальна. Зрэшты, як і наадварот.

## XXXI

Купалу правялі не ў залу рэстарана "Арагві", а ў асобны кабінет над залай, сказалі: "Пожалуйста..." – і зачынілі дзверы.

Яму распавядалі ў Маскве пра жарты Берыі. Адзін з іх, рэдкі, для абраных: перад арыштам пабаляваць з арыштантам. І з балю – за краты. На допыты. У цемрадзь камеры.

Берыя любіў літаратуру. Асабліва гістарычную. Але, у адрозненне ад Мяркулава, сам не пісаў. Яму больш падабалася ствараць сюжэты ў жыцці, а не на паперы.

Хвілін дзесяць Купала стаяў каля дзвярэй, чакаючы, што яны адчыняцца, нехта ўвойдзе.

Ніхто не ўваходзіў.

Ён сеў на крэсла пры дзвярах, яму не хацелася ад іх адыходзіць.

Дзверы не адчыняліся.

Ён сам іх прыадчыніў. За імі стаялі двое. З абодвух бакоў. Не тыя, што яго прывезлі.

“Мне доўга чакаць?..” – спытаў ён.

Яму не адказалі. Быццам не пачулі. Глядзелі, як у пустэчу. Такія позіркі, пэўна, наўмысна выпрацоўваюцца. Пад імі пачуваешся, нібы цябе не існуе.

Ён зноў сеў.

Колькі яму сядзець?..

Насупраць дзвярэй, на тарцовай сцяне кабінета вісела карціна. Рака ў гарах. Мусібыць, Арагві.

Ён любіў Грузію. Штогод ездзіў туды. Тбілісі, Кутаісі, Мцхэце. Найчасцей у Цхалтуба. Там...

“Эліко, маё світанне...”

Эліко, Эліко!..

Мімалётнае...

Там яму грамату далі. За прапаганду грузінскай літаратуры.

Ён падняўся, падышоў да стала з пітвом і закускамі, выбраў паміж віном, каньяком і гарэлкай каньяк, наліў кілішак, выпіў. Дастаў з кішэні партабак з тытунём “Эліт”, пушачку з папяроснай паперай, скруціў цыгарку, запаліў. Дым колцамі паплыў да яшчэ адной карціны, што вісела над сталом і на якой быў намаляваны гэткі самы, толькі не з лёгкімі закускамі, а ўжо застаўлены чырвонымі і белымі місамі, талеркамі з рыбай, мясам, завалены зелянінай і садавіной стол.

У кабінеце быў невялікі гаўбец, што выходзіў у залу. Купала прайшоў на яго, зірнуў уніз – і адхіснуўся. Ён не чакаў, што гаўбец так высока...

Зала была пустая. Вечарам у рэстаране ў цэнтры Масквы – нікога.

Ён не баяўся. Дакладней, ён баяўся, ці ва ўсякім разе разумеў, што яму страшна, бо ўздрыгвала цыгарка між пальцамі, але там, дзе звычайна адчуваўся страх, злева пад сэрцам, страху не адчувалася. Гэта было дзіўна, баяцца і страху не адчуваць, але гэта было так – і ён, вярнуўшыся да стала, наліў яшчэ кілішак.

– Падаваць? – адчыніў дзверы і ступіў у кабінет грузін у двухбортным, зацёплым, як для лета, гарнітуры. – Маё імя Лангіноз, я дырэктар. – І кінуў некаму за спіну. – Падаваць!

Дзверы расхінуліся насцеж – і два грузіны ў кухарскіх апратках падкацілі да стала вазок. На вазку ўнізе стаялі белыя і чырвоныя місы з садавінай і зелянінай, а зверху на вялізным срэбным падносе ляжаў засмажаны баран.

– Калі ласка, – падышоў да стала Лангіноз. – Лаўрэнцій Паўлавіч прасіў сказаць, што калі баран вам не спадабаецца, вам пададуць кухара. Засмажанага. – І кіўнуў на аднаго з кухараў. – Вось гэтага. Ён галоўны. Зваць Мікалай. Прозвішча Кікнадзе.

Кухары паставілі місы па краях стала, барана на падносе паклалі ў цэнтры. Кікнадзе, галоўны кухар, спрытна адрэзаў барану галаву, паклаў на талерку. Лангіноз пажадаў смачна есці – і ўсе трое выйшлі.

Купала выпіў наліты кілішак. Закусваць не стаў. Наліўшы яшчэ, глядзеў на адрэзаную галаву.

– Можна глядзець на гэта, як на метафару, – сказаў нехта з залы, і

рэха пракацілася па пустым рэстаране. – Як на тое, што з кожным можа быць. І ніхто з нас, ні вы, ні я не выключэнне... А можна, як на звычай. На даўні звычай падаваць галаву барана самаму ганароваму госцю.

Купала прайшоў на гаўбец. У зале сядзеў Берыя. Народны камісар дзяржаўнай бяспекі СССР. Адзін за сталом, на якім стаяла бутэлька віна і два бакалы.

– Каб бачыць далей і болей, трэба стаяць вышэй, – падняў Берыя руку ўгору. – Я люблю стаяць там, дзе зараз вы. Гэта не так высока, але ўсё ж... Тут п'юць, ядуць, танцуюць, а я зверху пазіраю. І ведаеце: іншым разам спакойна... Людзі, думаю, як людзі, якімі яшчэ ім быць?.. А іншым разам, ведаеце, нянавісць... Без усялякай прычыны, проста сядзіць нехта і чмякае, сёрбае, свіння такая, сёрбае і чмякае, чмякае... Вось так, над сталом, – нахіліўся і пачмякаў Берыя, узяў і адкінуў, як бы выцершы рот, сурвэтку. – Проста свіння!.. І я не вытрымліваю. Хоць па характары мяккі чалавек. Гуманны. Як па сённяшнім часе, дык нават занадта. Не верыце? А дарма... – Ён зняў, працёр насоўкай і зноў начапіў пенснэ. – Зрэшты, ніхто не верыць. Нават тыя, хто, дзякуючы мне, жывы. Вось як вы... Хоць вы жывы, дзякуючы не столькі мне, колькі Хацкевічу. Памятаеце Хацкевіча?.. Ну як жа... Другі сакратар, ваш нацыянальны кадр. Ён, калі ў Грузіі гасцяваў, шмат мне пра вас распавядаў. Хваліў. "Гэта, – казаў, – як ваш Табідзе..." Ну, наш Галактыён, як мы яго без прозвішча ў Грузіі называем, таксама народны... І таксама выпівае. Інакш як напішаш такое:

"І закідваў локаць па-жаночы
Снег каля расстайнага маста..."

Вы ж выпіваеце?.. Выпіваеце, я ведаю. Налівайце, там у вас, на вышыні, ёсць што наліць.

Насоўка ў Берыі была карычневая з чырвонымі кантамі, і ён, працёршы пенснэ, расправіў яе і акуратна склаў.

– Не хочаце?.. Ці пабойваецеся?.. Не рабіце выгляд, нібы Хацкевіча не ведаеце! Яго не расстралялі як ворага народа. Напісалі, што расстралялі, а насамрэч забілі выпадкова. Не за нацыяналізм. Ды ён і не быў нацыяналістам. У вас, у беларусах, увогуле гэтага мала. Так, хіба пагаварыць... Хоць у чалавеку гэта вызначальная сіла – нацыянальнае пачуццё. Такое ж моцнае, як каханне... Увогуле, што такое чалавек, калі ён мужчына? Мужчына – гэта жанчына і Айчына. У вашых вершах шмат пра гэта, вы разумееце... А вось Хацкевіч зразумець баяўся. Я пытаю: а ведаеш, што мяне за нацыяналізм ледзь не зрабілі брытанскім шпіёнам? Што я Закаўказскую федэрацыю хацеў стварыць, ледзьве не ўгаварыў Сталіна?.. Не, кажа, не ведаю. І глядзіць спалохана. Вось як зараз вы... Думаеце: як гэта таварыш Берыя, які разам з таварышам Сталіным вынішчае ўсялякую нацдэмаўшчыну, можа быць нацыяналістам? Пастку таварыш Берыя ставіць, не йначай...

Купала не думаў пра тое, чаму раптам Берыя стаў строіць з сябе нацыяналіста? У краіне, дзе, прачнуўшыся ранкам, ніхто не ведаў, ці ляжа ў свой ложак вечарам, кожны з сябе некага строіў, ніхто не быў самім сабой. Кожнаму здавалася, што ў іншага, не такога, які ён ёсць, шанец выжыць большы.

А вось пра пастку Купала думаў. І адчуваў, што патрапіў у яе так, што наўрад ці ўдасца вырвацца. Хіба толькі па-звярынаму лапу сабе адгрызці.

– Ты маленькі, дробнабуржуазны нацыяналіст! – раптам рэзка падняўся Берыя. – І мысліш дробнабуржуазна, па-маленькаму! Вось так... – склаў

ён два пальцы ў дзюбку, паказваючы, як дробязна, па-маленькаму мысліць Купала. Пастаяў гэтак, гледзячы ўверх і любуючыся эфектам... Сеў, засмяяўся двума кароткімі смяшкамі. – Гэта не я кажу вам, гэта Сталін мне так казаў, калі з Тбілісі ў Маскву паклікаў. А трэба, сказаў, калі некім быць, няхай сабе нацыяналістам, дык вялікім. А як ім быць, як ім стаць?.. Вы не думалі... гэта я ўжо да вас, Іван Дамінікавіч... што такое вялікі палітык, палкаводзец, паэт? Чым вымяраецца веліч? Самім палітыкам, палкаводцам? Самім паэтам, ягоным талентам? Вядома, не без таго, але ведаеце, колькі таленавітых у якім-небудзь Ліхтэнштэйне? – з цяжкасцю вымавіў Берыя назву маленькага еўрапейскага княства, і Купала падумаў, што назву Манака, княства, не большага за Ліхтэнштэйн, вымавіць яму было б лягчэй. – Дзяржавай, Іван Дамінікавіч, веліч вымяраецца! Краінай, якая стаіць, якая высіцца за палітыкам, палкаводцам, паэтам! Вось адкуль веліч! Параўнайце: што такое Купала, за якім Беларусь, і што такое Купала, за якім Савецкі Саюз?.. Вы падыходзіце для Савецкага Саюза, вы яму адпавядаеце, таму мы вас і цягнем! Перад вамі гара, узыходзьце! На ёй кедры, дубы, над ёй сокалы, арлы – я вам потым, калі дазволіце, легенду пра арла распавяду... А вы ў беларускія кусты, у хмызняк, дзе ўсялякая драбяза пасецца. Нацыянальныя мышы ды тхары. Толькі піск ды смурод...

Берыя ўзяўся за бутэльку, віна наліць хацеў, але не наліў. Можа, не прыдумаў, за што выпіць? Не за мышэй жа з тхарамі...

– Сталін папрасіў мяне прыгледзецца да Хацкевіча: можна яго на гару, у Маскву, ці ён тхор? Толькі смярдзець будзе... Мне здалося, што не тхор. І можна падняць... Калі не на гару, дык на пагорак. Але яго забілі. Мы ў горы ездзілі, ён горы захацеў паглядзець. Вярталіся, калі ўжо звечарэла... На Каўказе хутка вечарэе. Вельмі хутка. Вось яшчэ нібыта дзень – і ўжо ноч. Месяц то з хмары, то ў хмару. І зырка так... А ў гэтага Хацкевіча, як і ў мяне, пенснэ было. У месячным святле паблісквала... І раптам стрэлы. З ночы, з цемры. А ў машыне жонка мая з намі, сын... Сасо мне пасля гэтага браніраваную машыну прыслаў. Такі самы “Пакард”, на якім сам ездзіў... Але тады, у гарах на ваенна-грузінскай дарозе зратавала мяне не браня. У Хацкевіча пенснэ бліснула – у яго і стрэлілі. Пераблыталі мяне з ім. Выйшла, што ён мяне ўратаваў. Беларус грузіна. Хіба не так?.. Выпадкова, але так. І я не тое каб пакляўся, не, проста сказаў сабе... мы, грузіны, мегрэлы, а я яшчэ й мегрэл, удзячныя людзі і ўмеем трымаць слова... дык вось я сказаў сабе, што пры выпадку ўратую некага з беларусаў. І ўспомніў, як Хацкевіч распавядаў пра вас. Вось вы й жывы...

Берыя ўстаў, пайшоў па зале. Дакрочыў да дзвярэй, прыадчыніў іх і, пакінуўшы прыадчыненымі, рушыў назад.

– Але часова. Пакуль жывы. Бо ўсё можа памяняцца... Вось зараз нехта падыдзе і штурхне вас у спіну. І вы ўніз на скрут галавы. Мне пад ногі... – спыніўся Берыя. – А я вось так... – выцер ён ногі аб дыван на тым месцы, дзе мог ляжаць са скручанай галавой Купала. – І пайду далей. Да стала з вінам. Можа быць, налью віна і вып’ю за вечную, так бы мовіць, памяць, а, можа, і не. Бо нічога вечнага няма. Нічога, апроч аднаго. Вечнай адсутнасці. Уяўляеце? Вы ўніз сторч галавой – і вас няма, няма і няма... Вечна. Гэта ж страшней за смерць... Таму думаць трэба, Іван Дамінікавіч, не пра тое, як у вечным застацца, а як у імгненным пражыць.

Берыя пастаяў яшчэ, гледзячы пад ногі, уздыхнуў і падняў галаву.

– Толькі тут, дзе імгненнае, ёсць у нас магчымасць пра вечнае думаць. Вершы пра вечнае пісаць. Сесці за стол, абняць сябра, выпіць... – зірнуў ён

на дзверы. – Сустрэць жанчыну... – І працягнуў без ніякага пераходу. – Я спытаў неяк: “Сасо, што ты ўсё дома сядзіш? У Крамлі ды на лецішчы. Людзей не бачыш...” І прывёў яго сюды. Угаварыў прыйсці. Ён стаяў там, дзе цяпер вы, і глядзеў. Без асаблівай цікавасці. Нават раздражняўся: “Ты для чаго мяне сюды прывёў?..” Злаваць пачаў, але тут адчыніліся дзверы – і ўвайшла яна. З ягоным сынам і... Зрэшты, не важна, з кім яшчэ. Важна, што гэтак увайшла, што... – Берыя вярнуўся да стала, сеў, закінуў нагу на нагу і гукнуў у прыадчыненыя дзверы. – Пакажы, як ты ўвайшла!..

Увайшла Ганна.

– Вось, глядзіце, Сталін тое самае ўбачыў! – казаў Берыя, пакуль Ганна ў белай сукенцы пад чырвонай пелярынаю крочыла цераз залу па сінім дыване. – Белыя плечы пад пелярынаю... Як яна плыве, як уздымаюцца дыханнем грудзі, як перакочваюцца, напоўненыя жаданнем, клубы. Яшчэ б!.. Як не жадаць, калі спатоліць тваё жаданне можа той, каго жадае ўвесь свет! Калі ўся зямля жадае, каб ён яе ўзяў, хоць як, ласкай ці гвалтам, а ён можа ўзяць цябе адну, ён сярод усіх цябе выбраў, дык як тут не будзеш жадаць, я так кажу, Ганна?!.

Ён падвысіў голас, і Ганна ўскінула галаву. Ганарліва гэтак ускінула – і ў той жа час не без страху.

– Так, – сказала яна, сядаючы да стала. – Вы ўсё кажаце так. І нават Табідзе слова ў слова цытуеце. “Белыя плечы пад пелярынаю...” – узмахнула яна рукамі да гаўбца, на якім стаяў Купала, і чырвоная пелярына зляцела з яе плячэй, якія бліснулі беллю. – Але пры чым тут гэты чалавек на гаўбцы?

Берыя не падняўся, каб падаць пелярыну. Толькі рух зрабіў, але не падняўся. І Ганна толькі рух зрабіла, але пелярыну не падняла.

– Прычым тут гэты чалавек на гаўбцы? – зрабіў выгляд, нібы задумаўся, Берыя. – Можа, і ні прычым... Вось няхай ён і скажа, а я паслухаю... І падумаю, як падаць галаву барана? Як метафару, ці як пачастунак...

Купала глядзеў на пелярыну. Яна ляжала, чырвоная, на сінім дыване пад нагамі Ганны – здавалася, плыве па сіняй рацэ, на беразе якой Ганна сядзела, падабраўшы падол сукенкі, каб не замачыць, і ён успомніў маці, якая сядзела вось так, падабраўшы падол сукенкі, над ракой, толькі ён забыўся праз іх частыя сямейныя пераезды, дзе: у Вязынцы, Сеніцы, Селішчы?.. – і была маці падобнай да Лёлі, багіні прыгажосці, якой яе ўяўляў ён, маленькі Ясь, і думаў, што калі вырасце і ажэніцца, дык ці з маці, ці з Лёляй, і сказаў пра гэта маці, крыкнуў цераз раку, бо на другім беразе быў: “Калі вырасту, я ці з табой ажанюся, ці з Лёляй!” – на што маці засмяялася, а тут да ног яе падплыло нешта чырванаватае, не разабраць было, што, можа, толькі што знятая, не выскрабаная скура барана, якую маці, нагнуўшыся, паспрабавала вылавіць, бо ніякая скура ў гаспадарцы не лішняя, але не ўтрымалася і сарвалася з берага пад скуру галавой, ніяк не магла, перапудзіўшыся, з галавы тую скуру сцягнуць, нарэшце вынырнула, закрычала, захлынаючыся: “Я-я-яська!.. Я-я-ясь!..” – і ён кінуўся ў раку, вада ў якой здалася яму чамусьці такою ж, як кроў, чырвонай, не відаць дна – вада Айчыны...

– Вы сказалі, што мужчына – гэта жанчына і Айчына, – нахіліўся з гаўбца, раптам адчуўшы жаданне зляцець з яго, Купала. – Мне няма чаго дадаць.

Ганна павяла плячамі, Берыя ўсё ж падняўся на гэты жэст, падаў пелярыну. Сеў, наліў у бакалы віна. Купалу зверху здалося, што сабе белага, а Ганне чырвонага. З адной бутэлькі.

– Гэта адказ. Наўрад ці яму спадабаецца, але гэта адказ. – І падняў бакал. – Вып'ем!.. Як там у вас, на вышыні?..

Купала схадзіў па свой кілішак, Ганна таксама бакал падняла, спытала напружана, відаць было, што ў фінале гэтай рэстаранна-тэатральнай пастаноўкі яна не чакала нічога добрага: "За што?.."

Берыя сабраўся нешта сказаць, без тоста грузіны не п'юць, але перадумаў. Змаўчаў і паглядзеў на Купалу.

Купала зразумеў, што тост чакаюць ад яго. І нічога, зусім нічога ў галаву не прыходзіла. Мітусліва ўспамінаў Грузію – колькі там гэтых тостаў наслухаўся! І хоць бы адзін...

– У мяне знаёмая ў Грузіі... Эліко... – пачаў ён, не ведаючы, чым скончыць. – Мы з ёй... З боку выглядала, што ў нас раман, а да яе сватацца прыехалі. Не мае сваты. І жаніх, між іншым, мегрэл, калі ў застоллі сядзелі, легенду распавёў...

Усё ж успомнілася. Хай не тост, але нешта грузінскае.

– Жыла ў гарах прыгажуня. Прышоў да яе сватацца джыгіт. І ў гэты ж час яшчэ адзін. Сталі спрачацца: каму першаму сватацца? Пачалі біцца – і забілі адзін аднаго. І сталі праз гэта біцца іх родныя, крэўныя – і пазабівалі адзін аднаго. І пазабівалі праз гэта адзін аднаго ўсе жыхары іх паселішчаў. Застаўся жывы толькі адзін сівы, мудры горац, які й пакінуў свету гэтую легенду...

Давайце вып'ем за...

Берыя падняўся – і Купала змоўк.

– За дружбу народаў! – сказаў Берыя, хоць Купала чакаў, што скажа: за мудрага горца! Сам ён збіраўся менавіта так сказаць.

– За рускіх, – чокнуўся Берыя з Ганнай, – за беларусаў, за грузінаў... Ва ўсіх народаў шмат мудрых легендаў, і я абяцаў вам распавесці, калі дазволіце, легенду пра горнага арла. Таксама грузінскую. Яна не зусім супадае з тым, што кажа пра сямейства арліных арніталогія, але я не доктар біялагічных навук... Дык вось, калі арол пачынае старэць, ён кіпцюрамі сваімі, якія стачыліся за доўгія гады, ужо не можа схапіць здабычу. Дзюба ягоная з узростам загінаецца, і не ўдаецца яму, як раней, адным ударам забіць ворага. Крылы ягоныя абрастаюць, як імхом, старэчымі пер'ямі, робяцца цяжкімі і не даюць яму высока ўзняцца, каб далёка бачыць. Што ж рабіць горнаму арлу? Паддацца старасці, здацца смерці? Скласці крылы і кінуцца са скалы? Нейкі птах гэтак і зрабіў бы, але не горны арол. Ён узлятае на вяршыню скалы і дзяўбе, дзяўбе гэтак, што іскры ляцяць, цвёрды, як жалеза, камень, пакуль старая дзюба не раструшчыцца. Дачакаўшыся, калі вырасце новая, ён вырывае ёю свае сточаныя кіпцюры. Нанава выраслымі кіпцюрамі арол выдзірае старое, сцяжэлае пер'е на крылах – і зноў высока ўзлятае, зноў далёка бачыць. З вострых кіпцюроў ягоных зноў не вырвацца здабычы, ад жалезнай дзюбы ягонай не ўратавацца ворагу!.. Дык вып'ем за... – вышэй падняў Берыя келіх, пастаяў з ім, высока ўзнятым, і паставіў на стол. – Зрэшты, Іван Дамінікавіч, выпівайце за каго ці за што хочаце. Зараз Лангіноз адчыніць рэстаран – і можаце зверху глядзець. На ўсё і на ўсіх. Калі захочаце некага забіць, скажыце Лангінозу. Ён заб'е і засмажыць. А калі не захочаце, можаце пра гэта не казаць, бо не паверу. – І ён падсунуў келіх да Ганны, якая нервова, пакуль Берыя легенду распавядаў, выпіла свой. – Ты застаешся?

– Фу!.. – выдыхнула тая і, выпіўшы віно з келіха Берыі, пацепнула

белымі плячыма пад чырвонай пелярынай. – Дзякуй, я ўжо нагледзелася. Усіх бы пазабівала! І тых, хто ўнізе, і тых, хто зверху.

Шалёная.

“Шенма сурвілма дамліа

Шензе фікрма да севдама

Шорс цасвлам, хшірад гакрама

Гуліс твалебіт мхедвама,

Гуліс твалебіт мхедвама...” – насцеж расчыніліся дзверы, у якія ўляцеў, як горны арол з новымі крыламі, Лангіноз з музыкамі і, пакуль тыя спявалі, як каханая страціла каханага, нібы чаркес стралу, Лангіноз паказваў, як выходзіла ў Берыі з адной бутэлькі і белае, і чырвонае віно наліваць: “Тут перагародка, дзве бутэлькі ў адной. Фокус просты, але, калі не ведаць, уражвае. Ён Сталіну, калі знаёміліся, гэтаксама наліў. Той не ведаў і ўразіўся. У Маскву Берыю ўзяў. А ён мяне паклікаў... Вы таксама можаце каго хочаце паклікаць. Калі няма гаспадара, гэта не забараняецца. Увогуле ўсё можна, калі гаспадара няма... Гуліс твалебіт мхедвама, гуліс твалебіт мхедвама...”

Купала не стаў нікога клікаць. Табідзе ў Маскве не было, а некага іншага... Можна, вядома, некага... Таго ж Асеева, Ціханава... Але ён падумаў: “Мяне б яны паклікалі?..” Стаяў на гаўбцы, папіваў каньяк, падыходзіў да стала, закусваў смачна, кухара Кікнадзе не трэба было засмажваць, глядзеў з гаўбца ўніз, дзе ўсё болела шуму, звону, людзей, жанчын у шыкоўных строях і мужчын у ладна скроеных касцюмах, фрэнчах і кіцелях, якія коратка, так, каб было незаўважна, кідалі, калі прыкурвалі, позіркі наверх, і па тварах іх прабягала то недаўменне, то разгубленасць: хто там, на гаўбцы Берыі, дзе выпадковых не бывае? – і гэтая невядомасць выклікала ў іх адчуванне небяспекі, шмат хто відавочна нерваваўся, вунь тыя два вайскоўцы амаль пад самым гаўбцом, абодва з пятліцамі палкоўнікаў, якія налівалі і выпівалі, налівалі і выпівалі, не закусваючы, пакуль адзін не з’ехаў з крэсла тварам у талерку з кабачкамі, а потым стаў выцірацца сурвэткай, як нядаўна паказваў Берыя, так, што стала гідка, і ўжэрты палкоўнік адчуў гэта, крайком вока ўбачыў позірк Купалы, які свідраваў яго зверху, ускочыў і застыў рукі па шве з кабачковымі семкамі на падбароддзі, з боку ў бок хістаючыся, пакуль хаўруснік не ўзяў яго пад пахі і не пацягнуў у прыбіральню, чапляючыся за ножкі крэслаў, за сталы, устаўленыя, як на карціне, бутэлькамі, чырвонымі і белымі місамі, талеркамі з рыбай, мясам, завaленыя зелянінай і садавінай, і ўсё гэта пад музыку з танцамі, пад “Барыню” і “Лезгінку” пілося, елася, жавалася, жэрлася ў сталіцы краіны, на прасторах якой смерць пажынала людзей, старых і дзяцей, галадаморамі, знішчала іх ссылкамі, лагерамі, генацыдамі – Купалу невыносна захацелася забіць і тых, хто ўнізе, і тых, хто зверху, дзе ён быў адзін...

Чужы чужым – яны знайшлі свайго,
Не свой сваім – яны пайшлі з чужымі,
Не тузайся ні з тымі, ні з другімі.
Як ты адзін – ты больш за аднаго.

У высі птушка,
Рыба ў глыбіні,
Вандроўнік на фантомным небакраі,

Як ты адзін – ты не змарнуеш дні
На тое, каб спазнаць законы зграі.

Як ты адзін – аднойчы ўночы ты,
Угледзеўшы імгненны след каметы,
Уцяміш таямніцу пустаты,
З якой Гасподзь саткаў усе Сусветы.

Як ты адзін – ты боскай тканкі ніць
У вушка голкі зловіш і, быць можа,
Пустое станеш ткаць, пустое шыць, –
Як ты адзін,
Як Бог у тым паможа.

## 32

Пасля пасядзелак у Маслюка на могілкі да Купалы сабраўся з Віктарам і Каралевічам яшчэ й Стралец. Яго таксама ўразіла смерць вераб'я і, мусібыць, не менш за іншых, але калі іншыя ўбачылі ў гэтым, кожны для сябе, нейкае трывожнае прадказанне, знак, дык ён убачыў тое, што было. Смерць. Няхай маленькую, вераб'іную, але смерць.

Стралец загарнуў вераб'я ў сурвэтку, паклаў пад кашулю на грудзі – і так трымаў. Каралевіч узяў з багажніка Бычыкавай "Волгі" рыдлёўку. "Падвезці?" – спытаў Бычык, які ні ў якія прымхі не верыў, а тут таксама ўспомніў пра важныя справы і дахаты заспяшаўся. – "Не трэба. Пройдзем".

Пайшлі на могілкі. Стралец і Віктар маўчалі, а Каралевіч маўчаць не мог. "Вы бачылі калі-небудзь, як птушкі паміраюць? – пытаў ён па дарозе. – Я не бачыў. Можа, яны так і паміраюць. І нічога тут дзіўнага. Але чаму, калі мы размаўлялі пра Купалу, верабейка прыляцеў на ягоны партрэт? Можа, гэта душа Купалы прыляцела? Тады чаму памерла? Душа ж не можа памерці, яна несмяротная. Дык што гэта было?.."

"Так, душа не можа памерці. Але верабей памерці можа. А калі можа памерці верабей, значыць, можа памерці і чалавек", – думаў Віктар пра смерць, як талстоўскі Іван Ільіч, каб не думаць так, як думалася самому: "Ён сам скінуўся! І паказаў, што сам!.."

Так думаць не хацелася, нельга было так думаць, бо калі так, тады што з гэтым рабіць? Пісаць у энцыклапедыі, што напіўся і зваліўся?..

– Бачыў, – сказаў ён Каралевічу. – Бачыў я аднойчы, як птушка памерла. У палёце. Юнаком яшчэ быў, падлеткам. Бацька на паляванне ўзяў. Упершыню. На качак. Я не хацеў. Але бацька, ваяка: "Пайшлі! Ты хоць раз, ды стрэліш! Мужчына мусіць!.." Што ж, мусіць дык мусіць. Але нават мусячы пайсці туды, дзе забіваюць, ты не мусіш забіваць. Неяк жа можна схітраваць, знайсці спосаб, каб не забіць. І як толькі паказалася чарада, я ўскінуў стрэльбу. "Рана, надта далёка і высака, зараз да возера пачнуць зніжацца, тады..." – казаў бацька, але я ведаў, што рабіў. Калі ты хочаш, каб хоць адзін раз, дык на табе: раз! – і, не цэлячыся, я стрэліў. У паветра, туды, дзе чарада ўжо праляцела. А птушка кульнулася ў паветры і ўпала. Так далёка ўпала, што мы яе, сабакі з намі не было, не знайшлі. Першая, тая, што ляцела паперадзе. Качар. Важак. "Ну ты даеш!" – у захапленні схапіў у абдымкі бацька, нават гарэлкі пасля наліў, як роўнаму. А я ведаў, што не пацэліў. Не мог я, страляючы туды, дзе чарада праляцела, пацэліць у птушку паперадзе

чарады. Каб яшчэ ў апошнюю, дык неяк магло быць. Але не ў першую. Не ў качара. Дык вось што гэта было, калі не смерць у палёце?..

– Шрот ветрам знесла, – сказаў Каралевіч. – Неверагодная гісторыя, таму цікавая. У жыцці ўвогуле цікавае толькі неверагоднае. Гэта і ёсць жыццё – адзіная ў свеце неверагодная рэч. Нічога болей неверагоднага ў свеце няма.

Тое самае казаў Віктару некалі Марат Цапман. Пасля таго, як яны паспрабавалі пралічыць на ЭВМ верагоднасць іх з'яўлення ў гэтым свеце. Пастраляць па качках, якія так далёка і высока, што іх не відаць.

– А далей яшчэ цікавей. Больш я на паляванне не хадзіў, але бацька пасля пры любым зручным выпадку ўсім распавядаў: "Неяк мы з сынам, ён яшчэ малы быў, на качак пайшлі. Ну, не на кабана ж малога браць. Бачу: чарада. Высока яшчэ, далёка. Я ведаю, што да возера, што будуць зніжацца. Чакаю. А сын, ёрш яго дваццаць, бац! – і адным стрэлам качара зразае. Важака, уяўляеце? Ну, хто з вас калі-небудзь вось так: бац!.."

Вядома ж, ніхто і ніколі, толькі ці ён, ці сын. І я праз гады, калі стаў чарсцвець, грубець, паціху верыць пачаў, што зрэзаў. І аднойчы ў лазні, дзе мужыкі звычайна хваляцца ці колькасцю жанчын, ці колькасцю пляшак, дзе трэба нечым такім пахваліцца, расказаў... Як я качара, важака. Калі чарада яшчэ высока была – адным стрэлам. Тады яшчэ вагаўся, распавядаючы: зрэзаў, не зрэзаў? – а цяпер паспрабуйце мне сказаць, што не...

– Навошта я буду казаць, што не? – шчыра здзівіўся Каралевіч. – Калі сам пры кожным зручным выпадку нешта такое расказваю.

Яно так. Каралевіч мог выдумаць што заўгодна. Але лепш за ўсё выдумлялася ў яго прыўкрасная Беларусь.

Ён любіў гэтае слова: прыўкрасна, прыўкрасны, прыўкрасная...

"Разумееш, – казаў ён, пачухваючы патыліцу, – я магу зразумець усё і ўсіх, апроч чалавека, якому распавядаю прыўкрасную гісторыю, і ён слухае, разявіўшы рот, а пасля кажа, што гэта няпраўда. Ды якая табе розніца, праўда гэта, няпраўда, калі гэта прыўкрасна! Я ж табе не пра жонку тваю распавядаю, якую з іншым бачыў. Не ў судзе сведкам выступаю. У судзе сведчыў бы толькі папраўдзе. Пра жонку... Не, пра жонку нічога не сведчыў бы, самі разбірайцеся. І кожны са мной, як з чалавекам, які прыўкрасную жонку мае, можа разбірацца, але навошта кожнаму разбірацца з прыўкраснай гісторыяй, якую я расказаў, напісаў? Калі яна падабаецца, значыць, усё ў ёй праўда. Калі не, значыць, усё мана. Праўда літаратуры і мана літаратуры – гэта яе якасць. Вось і ўсё! І ўсё прыўкрасна!.."

Гэтак і Віктар лічыў. Магчыма, не без уплыву старэйшага за яго на 15 гадоў Каралевіча. Яны і зблізіліся гадоў праз 15 пасля знаёмства.

Каралевіч быў не меней, а нейкі час нават больш папулярны, чым Бычык, але, бо нацыяналіст, не меў ніякіх прэмій, званняў, і, калі ўжо дажыў да паўвека, партыя, у якой інструктарам па літаратуры быў зямляк Каралевіча, вырашыла ўсё ж нечым яго ўзнагародзіць. І ўзнагародзіла ордэнам "Дружбы народаў" – гэтакай узнагародай ні за што. Не за кнігі, не за працу, не за творчасць – за сяброўства. Каралевіч той ордэн свайму земляку-інструктару хацеў аддаць: "Вазьмі, ён твой!" І дарма зямляк не ўзяў, бо заслужыў. Яго ананімкамі закідалі: "Вы каго ўзнагароджваеце? Нацыяналіста?" У Саюзе пісьменнікаў хуценька прыдумалі абмеркаванне апошняй кнігі Каралевіча з дакладам "Небяспечная гульня ў праўду". Дакладваў дырэктар Інстытута гісторыі. Ён сыпаў імёнамі, падзеямі, датамі таго часу, пра які напісаў Каралевіч, зачытваў абзацы з ягонай кнігі і пытаў: "Дзе тут праўда? Партыя вучыць

нас, што літаратура мусіць адлюстроўваць праўду жыцця, а дзе тут праўда?” Нарэшце Віктару, якога нядаўна прынялі ў Саюз пісьменнікаў і які яшчэ не ведаў, што гэтакі маразм тут – звыклая рэч, слухаць усё гэта абрыдла, ён падняўся: “Я ўражаны вашай эрудыцыяй! Фенаменальнай памяццю! Але ці не маглі б вы на ўсё забыцца і пакінуць нам тую версію гісторыі, якую прапануе Каралевіч?..”

Потым у бары Каралевіч падышоў да яго: “Файна ты фарсануў. Умееш...” Папрасіў бармена наліць, падняў кілішак: “Будзьма!”

– А ў Кітаі, – сказаў маўклівы Стралец, – знішчылі два мільярды.

Ён умеў гэтак. Ні з сяго, ні з таго.

Каралевіч спыніўся.

– Іх усяго мільярд. Як маглі знішчыць два?

– Вераб’ёў. Мао Цзэдун на VIII з’ездзе партыі заклікаў знішчаць вераб’ёў – і кожны кітаец знішчыў двух. Выйшла два мільярды.

Каралевіч, відаць было, не ведаў, што на гэта сказаць. Спытаў:

– Дакладна на восьмым?

– Дакладна. У 1958 годзе. Такой парой, у сакавіку. Магу газету паказаць, я выразаў. Скаланула мяне гэта. Бо з маленства лічыў, што беларуская птушка не бусел, не бацян. Верабей. Я скакаў на падворку, ён скакаў... І раптам – два мільярды. Ды яшчэ гэтакім спосабам. Ведаеце, колькі верабей можа прабыць у паветры? Не больш за 15-20 хвілін. Дык і дарослыя, і дзеці бралі барабаны, вёдры, тазікі, залазілі на дахі і грукалі, грукалі, грукалі, не даючы вераб’ям сесці. У птушак разрываліся сэрцы, яны сыпаліся з неба мёртвымі. А пасля аказалася, што ўсё гэта дарма.

– Што дарма?

– Знішчалі іх дарма, – уздыхнуў Стралец. – І нечакана скончыў: – Як і нас.

Каралевіч перакінуў рыдлёўку з рукі ў руку.

– Так. Лятаем, не ведаючы, дзе сесці. Нідзе не даюць.

Дарога да Вайсковых могілак, дзе пахавалі дваццаць год таму перавезены з Данскіх могілак Масквы прах Купалы, была нядоўгая. Карацейшая за шлях Купалы дамоў.

– Трэба было б кветкі прынесці, – сказаў Каралевіч. – Але дзе ты іх возьмеш пад ноч у нашым прыўкрасным горадзе. Гаўняны горад, калі праўду казаць. Кіеў лепшы.

Каралевіч вучыўся ў Кіеве. Ва ўніверсітэце. Там ён дазнаўся, што ёсць такая рэч як украінскі нацыяналізм, і стаў беларускім нацыяналістам. Без Кіева гэтага магло і не быць.

– А Масква?

– Што Масква?.. Масква – імперыя. Што тут раўняць?.. Барада кажа, што ты ў Маскве царэўну сабе знайшоў. Крамлёўскую.

– Пляткар Барада.

– Не знайшоў?

– Знайшоў. Але Барада – пляткар.

– Ёсць трохі, – дастаў Каралевіч з кішэні насоўку, пахукаў на шыльдачку на надмагіллі, працёр. Сказаў: “Верабей абасраў”.

Ён да Купалы па-рознаму ставіўся.

Насоўка ягоная была з чырвонай аблямоўкай. Ён склаў яе, схаваў. Спытаў, хаваючы:

– Ты пагаварыць пра гэта яшчэ хочаш?

– Пра што?.. Пра Маскву з царэўнай?

– Не мая справа. Пра твае адносіны з Купалам. Хоць і гэта не мая справа, але ў мяне таксама было такое. І ў Стральца. Было, Міхась?

Стралец кіўнуў:

– У мяне ўсё было.

– Бачыш... Ва ўсіх нешта падобнае бывае. У некага з Купалам, у некага з Пушкіным. Ён чаму да Сенацкай плошчы не даехаў, на якую сябры ягоныя, якіх пасля павесілі, выйшлі? Пабаяўся. Потым зайца прыдумаў, які дарогу перабег. Але ўсё адно Пушкін гэта Пушкін, Купала гэта Купала. І ведаеш, што я раблю, калі чалавек, якога люблю, робіць нешта такое, за што любіць яго нельга? Падключаю інфернальныя сілы. Усялякіх чарцей з ведзьмамі. Нібыта не ён сам, які ёсць, гэта робіць, ілжэ, крадзе ці жадае жонку бліжняга свайго, а яны спакушаюць яго, змушаюць гэта рабіць. А ён па слабасці сваёй сілам гэтым, іх спакусам не здольны супрацьстаяць. Дык за што яго не любіць? А тым больш судзіць? За слабасць? Слабых якраз любяць. І, калі і судзяць, дык апраўдваюць.

Стралец, слухаючы Каралевіча, на ўсё згодна ківаў, а калі той скончыў, ні з чым не пагадзіўся.

– Я б судзіў. І без апраўданняў. Бо чалавек па слабасці робіць тое самае, што і па подласці. А паколькі слабых шмат, дык і подласці хапае. І чэрці з ведзьмамі мы самі. Іншых няма.

Абодва яны казалі яму тое ж, што і ён ім казаў бы.

Трэба выгаварыцца перад імі. Дарэшты. Калі не перад імі, тады перад кім?..

“Я не падключаў нікога, – сказаў ён. – Яны самі падключыліся”. – “Хто?” – “Сілы інфернальныя. Чэрці з ведзьмамі”. І каля бронзавага Купалы, які сядзеў на сваім надмагіллі так, нібы прах свой вартаваў, каб яго зноў кудынебудзь не перанеслі, Віктар распавёў Стральцу з Каралевічам пра дырэктара антыкварнай крамы, які быў яшчэ і дырэктарам цырка, пра паэта з ягоным, Маргеравым прозвішчам, які гэткі самы, як і ён, але не ён, бо рускі паэт і да таго ж загінуў, толькі неяк так выйшла, што не той паэт загінуў, а загінуў ён сам, Віктар, ці дырэктар крамы іх аднаго з адным неяк падмяніў, так што ён цяпер не ён ці не зусім ён, а той Віктар, які загінуў... дык вось гэта той Віктар, той несапраўдны Віктар Маргер не сказаў тое, што сказаў бы ён, сапраўдны Віктар Маргер, выступаючы на з’ездзе КПСС, на які прыстроіў яго сакратар ЦК КПСС Грачын, дачка якога не ягоная дачка, а дачка ці Сталіна, ці Берыі, ці Купалы, які Віктару сніцца, сніцца і сніцца не загінулым, а жывым, бо яго ажывілі па загадзе Сталіна ў 1-й лабараторыі, каб асудзіць як нацдэма, а пасля спалілі ў царкве Данскога манастыра, але ён усё адно не памёр, можа, таму, што спалілі ў тым месцы, дзе быў алтар, у царкве, з якой Купалу, раскрыжаванага разам са Сталіным, святыя пакутнікі панеслі на Красную плошчу, дзе чакаў іх Хрыстос з апосталамі, дзе пачаўся Страшны суд, на якім Хрыстос апраўдаў Купалу, а сам Купала сябе не апраўдаў. Дык калі не апраўдаў сябе Купала, які нічога такога не зрабіў, каб быць не апраўданым, ва ўсякім разе не зрабіў нічога такога па злой волі, хіба па слабасці, тады як можа апраўдаць сябе ён, Віктар Маргер, калі нават ён не ён, скажыце?.. Няхай сабе гэта інфернальныя сілы, нейкі фокус дырэктара цырка, трызненне, галюцынацыі, але як ён можа сябе апраўдаць, калі слабасць, тое самае, што подласць?..

– Ты чуў? – спытаў Каралевіч Стральца, калі Віктар адспавядаўся.

– Чуў.

– І ты ў гэта верыш?

– Веру. Што тут такога, каб не верыць?

Каралевіч паглядзеў на Стральца так, як глядзяць на чалавека, пра якога ведаюць, што не падвядзе.

– Вось і я думаю: што тут такога, каб не верыць? Наадварот! Тут такое ўсё, што не паверыць немагчыма! – абняў Каралевіч Віктара. – Прыўкрасная літаратура! Толькі табе трэба адпачыць.– І прапанаваў: – Паехалі да мяне на лецішча!

Стралец засмяяўся.

– На тое самае?

– На якое тое самае?

– На якое ўжо вазіў.

– А… – успомніў Каралевіч. – А што? Прыўкраснае лецішча!.. Можам гэтым разам усе з’ездзіць. Утрох.

Стралец тым разам паехаць не змог.

Яны пілі. Барада, Каралевіч, Стралец. Гаўрусь, Нядзведзь… Старэйшыя, Бычык, за якім фронт, Дымовіч ці Тарасюк, якія партызанілі, хто болей выпіваў, хто меней, хто зусім не, а гэтыя, якіх назвалі пакаленнем, апаленым вайной, адзін з якога напісаў: “Я вырас пад гарматнымі ствaламі”, – пілі. Але талент не прапівалі, моцныя мелі таленты. Адно што пісалі меней за цвярозых графаманаў, вершаваныя складанкі якіх друкаваліся замест ненапісаных вершаў таго ж Стральца. Ці Барады, Каралевіча, замест якіх атрымлівалі званні ды прэміі літаратурныя ашавуркі, якім Стралец кінуў аднойчы: “Дзякуй нам скажыце, што мы пілі!”

Неяк Віктар зайшоў да Барады – у яго Стралец і Каралевіч. Барада са Стральцом спяць, Каралевіч ляжыць у ванне. Без вады, апрануты. І ў трубку душа выклікае хуткую дапамогу. “Алё! Хуткая? Гэта хуткая?.. Забярыце мяне адсюль, я пamру з гэтымі п’янтосамі”. – “Выклікалі? – спытаў Віктар, зайшоўшы ў ванну. – Падымайцеся, паехалі”. – “Не магу падняцца, хворы… А ты праўда хуткая?” – “Хуткая, хуткая...” – спрабаваў Віктар падняць не такога й лёгкага хворага, які паглядзеў на яго і, пэўна, не ўбачыў таго, што чакаў убачыць. – “А на табе крыж ёсць?” – “Няма на мне крыжа”. – “Тады ты не хуткая”. – “Без крыжа, але хуткая. Ці ў вас ёсць хутчэйшая за мяне?..”

Хутчэйшай не знайшлося. Віктар зрабіў беспаспяховую спробу падняць Бараду са Стральцом, не змог, выклікаў таксі і павёз дахаты Каралевіча.

“На лецішча паехалі! – раптам вырашыў па дарозе Каралевіч. – Ты ж не быў, не ведаеш, якое ў мяне лецішча! Які цуд! Не ўяўляеш, як там прыўкрасна! А самае найпрыўкраснае тое, што гарой пад вокны насыпаліся з дубоў залатыя жалуды!”

Што ў Каралевіча ёсць лецішча, Віктар упершыню чуў. Залатыя ці медныя там жалуды, яму было ўсё адно. Ён падумаў, што на лецішча павезці Каралевіча лепш, каб дома яго прыўкраснага такога не бачыла ягоная прыўкрасная жонка, і да апошняга трываў, пакуль ехалі спачатку ў бок Віцебска: “Гэтая дуброва за Раўбічамі...” – пасля ў бок Магілёва: “За Каралішчавічамі...” – з магілёўскай шашы звярнулі на лясную дарогу, якая ў лесе і скончылася. Каралевіч вылез з таксі: “Трохі заблукалі, але недзе тут... – хадзіў ён ад сасны да бярозы, ад бярозы да сасны. – Вунь там, за тым пагорачкам, за выжарынай...” – шукаў Каралевіч сваё лецішча, якое сярод дубоў, пад вокнамі якога высяцца горы залатых жалудоў, дзе такі цуд, якога, што Віктар даўно зразумеў, ні за Раўбічамі, ні за Каралішчавічамі, ні за пагоркам, ні за выжарынай, ні ў лесе, ні за лесам няма, але ўсё гэта ёсць у ім, у Каралевічу,

як тое, што мусіць быць! І Віктар зразумеў, як Каралевіч піша, як яму ўдаецца самыя фантастычныя сюжэты выпісваць, нібы рэальныя, і ён гатовы быў шукаць тое лецішча пад дубамі, якіх у лесе тым не было, хоць да ночы, але не вытрываў таксіст – сказаў ім усё, што пра іх думае.

Таксіст думаў пра іх, што яны прыдуркі. Сказаў, што ўсіх нармальных вызвалялі ад беларускай мовы яшчэ ў школе. А калі яны не вызваліліся, дык прыдуркі. І калі, як прыдуркі, пішуць па-беларуску, дык хто іх чытаць будзе?

Каралевіч не захацеў вяртацца з тым таксістам, і яны пайшлі напрасткі праз лес у бок горада, па дарозе да якога Каралевіч пытаўся, спыняючыся то ў нізіне, то на пагорку: “Для каго я пішу?.. Для каго пішу?..”

Пытанне гэтае было большым за пахмельнае пытанне да таксіста – Віктар сам задаваўся ім не аднойчы.

У тым мястэчку, у якім пайшоў ён у першы клас, была адна школа, і ягоны настаўнік, габрэй Цукерман, не ведаў ніякай іншай мовы, апроч беларускай. Ці, можа, і ведаў, але ні на якой іншай мове, апроч беларускай, у беларускім мястэчку Крэва ні з кім ён не размаўляў.

У Смаргоні, горадзе, у які сям’я Віктара пераехала з Крэва, было ўжо дзве школы. №1, якую называлі “беларускай”, і №2, якую называлі “рускай”. У рускую аддавалі сваіх дзяцей усе гарадскія начальнікі і вайскоўцы.

У беларускай школе таксама былі дзеці вайскоўцаў, бо ісці да яе ад ваеннага гарадка было ўдвая бліжэй. Па заявах бацькоў дзеці іх вызваляліся ў беларускай школе ад беларускай мовы.

Настаўнік Міхась Язэпавіч Сыракваш, які вучыў Віктара беларускай мове і літаратуры, абураўся: “Ну, як так? Гэта ж знявага! Прыніжэнне не толькі мовы, але і нас як беларусаў! Калі не патрэбная мова, дык, выходзіць, і мы непатрэбныя?..”

Дырэктар рускай школы, выступаючы на раённай нарадзе па адукацыі, назваў Сыракваша, які быў проста настаўнікам беларускай мовы, нацыяналістам – і настаўніку Віктара не далі дапрацаваць да пенсіі. Калі Віктар з аднакласніцай, сяброўкай ягонай Зойкай Ермалінскай, пайшлі да дырэктара сваёй беларускай школы, каб свайго настаўніка беларускай мовы бараніць, дырэктар выклікаў іх бацькоў і сказаў, што, як настаўнік беларускай мовы ў школе да пенсіі не дапрацаваў, гэтак і вучні ягоныя, вашы дзеці, могуць у школе не давучыцца.

Рускі бацька Віктара па-руску паслаў дырэктара, а беларускі бацька Зойкі, калі яна прыйшла дахаты, узяў дзягу.

Рускі бацька Віктара сказаў: “Ты ўсё зрабіў правільна”. А беларускі бацька Зойкі, калі яна, пабітая, сышла з хаты і яе не маглі знайсці, сказаў: “Ну і халера з ёй, нацыяналісткай!”

Беларускі бацька Зойкі Ермалінскай хацеў быць рускім бацькам. З таго часу Віктар на ўсё жыццё ўсвядоміў, што няма праблемы нацыянальнасці. Ёсць праблема годнасці.

Калі Віктар скончаў беларускую школу, яна ўжо была напалову рускай. Руская напалову беларускай не стала.

“Для каго я пішу?..” – думаў ён, стаўшы пісьменнікам, выступаючы ў школах, дзе беларуская мова ўжо вывучалася як замежная, і ён бачыў: новыя дзеці ў новых школах яго не разумеюць. І не таму, што ён складанае нешта казаў. Ён казаў проста і простае. Але не на іх мове. Беларускія кнігі яшчэ завозілі ў школьныя бібліятэкі, але, пастаўленыя на паліцы ў самыя дальнія куты, там яны і пыліліся.

“Дык што будзе? – пытаў ён невядома каго. Бацьку Зойкі Ермалінскай з дзягай. – Для каго я пісаў? Дзеля чаго з’явіўся ў Божым свеце? І не толькі я. Бычык, Дымовіч, Танкевіч, Каралевіч, Барада, Стралец, Бур, Гарымякін... – усе мы? І не толькі мы, але і тыя, што да нас? Адмяняецца мова – адмяняюцца яны. Багдановіч, Колас, Чорны, Гарэцкі – той жа Купала. Адмяняецца лёс ягоны. Ягонае жыццё. Дзеля чаго ён жыў? Дзеля таго, каб у лесвічны пралёт зляцець?..

Мы лятаем, не ведаючы, дзе сесці? Нідзе не даюць – і падаем?..

Думаць так было страшна – і як тут не запіць?.. Можа быць, думаў ён, яны, Барада, Стралец, Каралевіч, і п’юць, бо страшна? Бо нічога страшней за будучыню, у якой ты станеш пылам на паліцы, няма і не можа быць. Гэта страшней, чым прахам стаць.

Неяк ён пагаварыў пра гэта з Ганнай. У ёй, калі нават яна не дачка Купалы, праз маці адчувалася крывіцкая кроў – і яна не была да гэтага абыякавай. “Ведаеш, што адбылося ў гатэлі «Масква» познім вечарам 28 чэрвеня 1942 года? – спытаў ён, калі Ганна ўпершыню ўвайшла ў нумар, у якім жыў Купала, і сказала, што ў ім пахне згубай. – У гатэлі «Масква» познім вечарам 28 чэрвеня 1942 года быў скінуты ў лесвічны пралёт гісторыі не толькі беларускі паэт Янка Купала. Была скінутая нацыя, быў скінуты народ, была скінутая Беларусь – толькі яна даўжэй за свайго паэта падае... Вось, што адбылося познім вечарам 28 чэрвеня 1942 года ў гатэлі «Масква». І я пасяліўся ў ім, каб, можа быць, тут зразумець, знайсці адказ на пытанне: што мне з усім гэтым рабіць?”

Ён казаў так і сам адчуваў, што залішне пафасу, што пра такое кажуць спакайней, і Ганна, каб збіць яго ў пафасным палёце, як ён некалі качара ў небе, спытала: “А Беларусь ужо ляснулася ці яшчэ ляціць? Калі яшчэ ляціць, дык якраз ты можаш злавіць яе. Зратаваць. Толькі для гэтага трэба выбраць правільную пазіцыю. Не ўніз бегчы, на першы паверх, дзе зрабіць ужо нічога нельга, апроч як разам з Беларуссю, якая прыплюсне цябе да падлогі, загінуць, а падымацца ўверх, дзе штаб кіравання палётамі. І калі ты станеш начальнікам штаба, а ў цябе такая магчымасць, шанец гэтакі ёсць, ты націснеш кнопку – і падзенне спыніш. Выступіш на з’ездзе, які ўжо сам прызначыш, у прэзідыуме якога будзеш сядзець у першым шэрагу ў цэнтры, з дакладам пра новую нацыянальную палітыку, вернеш у Беларусь беларускае – і не станеш пылам на паліцы. Толькі такі шлях, Віктар, толькі такі. Праз уладу. Усё астатняе – маргінальшчына. Дысідэнцтва, якое ні на што не здольнае паўплываць. Гэта як Саюз пісьменнікаў ці як літаратурнае аб’яднанне на тытунёвай фабрыцы “Дукат”, дзе пра пісьменнікаў, якія прадаліся ўладзе, могуць казаць што заўгодна, але вызначаць, чые кнігі выдаваць, як і вырашаць усё астатняе, будуць яны. У тым ліку і тое, што рабіць з літаб’яднаннем на фабрыцы “Дукат”.

– Добра, – зірнуў на гадзіннік Каралевіч. – Давайце рытуал пачынаць, мая прыўкрасная царэўна зачакалася. Не засне, пакуль на парозе не ўбачыць. І ты, дарэчы, – падаў ён рыдлёўку Віктару: маўляў, я прынёс, а ты капай, – дарма пра сваю гэтак кажаш...

– Як гэтак?

– Так, нібы табе няёмка, што знайшоў царэўну ў Крамлі. Быццам хацеў знайсці кандуктарку ў трамваі. Масква – гэта казка. А ў казках каго шукалі? З кім жаніліся? Толькі з царэўнамі. Хіба аднойчы нейкі няўдаха з жабкай ажаніўся, дый тая царэўнай аказалася. І яшчэ ты дарма... Ты чаму не капаеш?

– Дзе? Тут? На магіле? Я думаў: за агароджай.

– Верабейка гэты не самагубца, каб за агароджай. Капай давай... І дарма ты распрануўся сёння. Калі б яшчэ ўсе свае... Гарымякін пачне чуткі разносіць. Казаць, што ты каяўся.

– У чым?

– У тым, што на з'ездзе выступіў. Заклікаў два мільярды вераб'ёў знішчыць.

– Я не каяўся...

– Я ж кажу: чуткі пойдуць... Ты будзеш капаць?

Віктар капануў. Раз, другі. Рыдлёўка шкрабнула аб камень.

– Тут камень. Пліта. Давайце ўсё ж за агароджай. Ці пад ёй.

– Тут Купала, а не пліта. А гэта, можа, ягоная душа. Ты ж таксама гэтак падумаў? І хочаш пахаваць душу чалавека ад яго асобна?

– Душу не хаваюць.

– Не хаваюць, калі яна не верабей. Ну, добра, трохі далей капні. Дай мне!.. – не вытрываў Каралевіч, якога царэўна дома чакала, без яго спаць не клалася, а ён вераб'я ўсё ніяк пахаваць не мог, схапіў рыдлёўку, і тут верабей, якога Стралец, разгарнуўшы сурвэтку, дастаў з-за пазухі, пырснуў крыламі, узляцеў і сеў на бронзавае плячо Купалы.

Усе трошкі прыслупянелі.

Яны стаялі – ён глядзеў на іх.

– Во, – нарэшце сказаў Стралец. – З парваным сэрцам. Неўміручая душа. – А Каралевіч з размаху ўвагнуў у зямлю рыдлёўку, у камень увагнаў:

– Міхась! Калі я памру, калі парвецца сэрца, пакладзі мяне за пазуху, Міхась...

## XXXIII

– Так, чэкісты любяць гуляцца, – пацёр скроні, нібы галава забалела, Маякоўскі, калі "тройка", пракурор Ляплеўскі, Кашкадамаў і Тухачэўскі, абвясціўшы перапынак у судзе, пайшлі раіцца, які вердыкт вынесці Купалу, а нябожчыкі заняліся хто чым, пераважна ўспамінамі, і Купала распавёў Маякоўскаму пра рэстаран "Арагві" з гульнямі Берыі. – Са мной таксама гуляліся. Якаў Арганаў гуляўся, начальнік сакрэтнага аддзела ГПУ. Я ўсё не мог дапяць, чаму ягоны аддзел сакрэтны? Нібы там нейкія не сакрэтныя ёсць... Ваш, між іншым, зямляк. Як і Дзяржынскі. Нешта шмат гэтых вашых... Больш, чым паэтаў.

Так. Больш. Прычым шмат іх стала неяк адразу, як толькі летам 1920 года ў Мінск увайшлі чырвоныя.

Перад тым, зімой, прыехалі ягоныя даўнія, яшчэ па Пецярбурзе, знаёмыя Зінаіда Гіпіус з Дзмітрыем Меражкоўскім. Мароз той зімой быў люты, ледзьве ён іх адагрэў... Калі праз пару месяцаў яны з'язджалі ў Парыж, спыталі: "Застаешся?.." Казалі яму, што тут з ім, калі застанецца, будзе. "А там... Ты поўны сіл, табе яшчэ сарака няма, у цябе жонка з французскай крывёй, французскую мову ведае..."

Ці мала хто ведае тую французскую...

Праз год, вясной 1921-га, ён ужо быў пад хатнім арыштам. Нехта данёс, што ён працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце. І па сутнасці не пад арыштам, ці ва ўсякім разе не пад наглядам, ён ужо ніколі не быў.

Так яно й цягнулася з вясны 1921-га па лета 1942-га... І скончыцца мусіла гэтак, як скончылася. Інакш не магло. Напісаў бы Качарыга данос, не напісаў бы – скончылася б так.

Гэта ён наперад ведаў. Разумеў. Не разумеў іншага: што яму ў замежжы рабіць? У той жа Францыі, калі нават сам будзе размаўляць ці пісаць навучыцца па-французску?.. Казаў Меражкоўскаму: “Ува мне адчуванне, што ёсць шанец! Што можа быць Беларусь! І дзе мне гэтае адчуванне падзець? Тут, з’ехаўшы, кінуць? З чым тады жыць?..”

Зінаіда, слухаючы, вочы круглiла, у яе прыгожыя вочы былі: “Дмитрий, ты понимаешь, о чем он говорит? Тут России может не стать – какая Беларусь? Некому здесь становиться ей – да и незачем...” І Меражкоўскі ківаў: “Она права. Никогда этого не будет, незачем и некому. Я это знаю, мой прадед из малороссов, Мережко. А где они, Мережки? Нет их, есть только Мережковские...”

– Вось чаму абруселыя немкі і колішнія маларосы гэтак Расію любяць?.. – раптам спытаў Горкі Маякоўскага. – Яно й з гісторыі відаць, і сам я не раз заўважаў...

Маякоўскі не зразумеў: “Вы гэта, Аляксей Максімавіч, да чаго? Я не абруселы немец і не колішні маларос, а люблю...” І Кіраў, які сядзеў паперадзе, хмыкнуў, пачуўшы яго: “Ага. Таму й застрэліўся. А вы чаму, – павярнуўся ён да Купалы, зарэзацца спрабавалі? Гэтак Расію любіце?..”

Куйбышаў сабе па каленях пляснуў.

«Я не понимаю, что здесь любить, – казала Купалу, ад’язджаючы з Мінску, абруселая немка Гіпіус. – Приехала – не понимала, и уезжаю – не понимаю”.

Што ў Расіі любіць, яна разумела. «Если кончена моя Россия – я умираю».

Шмат хто вярнуўся ў савецкую Расію з эміграцыі. Меражкоўскі і Гіпіус не вярнуліся.

“Не любіць Расію не значыць яе ненавідзець”, – казаў Купалу, развітваючыся, Меражкоўскі, і гэта было блізка да таго, што адчуваў Купала, калі пісаў: “У твой ланцуг былі, о Русь, Уплецены з усіх бакоў Украйна, Польшча, Беларусь...” – і думаў, што ланцуг парваны.

Вясной 21-га, у сакавіку, вярнуўшыся з Масквы, з партыйнага з’езду, раптам завітаў да яго Аляксандр Чарвякоў, якога ведаў Купала яшчэ па Смаленску і якога, захапіўшы Мінск, бальшавікі паставілі начальнікам над усёй Беларуссю. Узнёслы, узрушаны: “Давайце з’ездзім да мяне ў Дукору!”

Ледзь дабраліся да ягонай вёскі па вясновай гразі, а ён той гразі як бы й не заўважаў. Горача даводзіў: “Вы ў сумневах, я ведаю. Нядаўна Уласаву казалі, перад тым казалі Лёсіку: не будзе з бальшавікамі ў нас ніякай Беларусі! Дык вось будзе! І яшчэ якая! На з’ездзе ў Маскве па нацыянальным пытанні Сталін выступаў... Я запісаў, – дастаў ён з-пад прыадпоратага падклада шапкі, нібы тое, што сказаў на партыйным з’ездзе Сталін, хаваць ад некага трэба, складзеную паперыну. – Слова ў слова, слухайце...”

Чарвякоў паветра ў грудзі набраў, як спявак сабраўся, урачыстасць на сябе напусціў... “Я имею записку о том, что мы, коммунисты, будто бы насаждаем белорусскую национальность искусственно. Это неверно, потому что существует белорусская нация, у которой имеется свой язык, отличный от русского, ввиду чего поднять культуру белорусского народа можно лишь на родном его языке. Такие же речи раздавались лет пять тому назад об Украине, об украинской нации. А недавно еще говорилось, что украинская республика и украинская нация – выдумка немцев. Между тем ясно, что украинская нация существует, и развитие ее культуры состав-

ляет обязанность коммунистов. Нельзя идти против истории. Ясно, что если в городах Украины до сих пор еще преобладают русские элементы, то с течением времени эти города будут неизбежно украинизированы. Лет сорок тому назад Рига представляла собой немецкий город, но так как города растут за счет деревень, а деревня является хранительницей национальности, то теперь Рига – чисто латышский город. Лет пятьдесят тому назад все города Венгрии имели немецкий характер, теперь они мадьяризированы. То же самое будет с Белоруссией...”

– Вы разумееце? – горача нахіліўся Чарвякоў да Купалы. – Сталін – нацыянал! І набірае сілу. Пабачыце, будзе першым у партыі. І будзе не адзін цэнтр, Масква, а Тбілісі, Мінск, Кіеў... Мы паразмаўлялі, ён сам падышоў, кажа: толькі вам кадры патрэбныя, каб Маскву ўраўнаважыць. Вяртаць трэба тых, хто ў эміграцыю з’ехаў, вы гэтым займіцеся...

– І вы паверылі? – спытаў Купала, калі ўжо выпівалі ў Дукоры, у бацькоўскай хаце Чарвякова, які адказаў: “Паверыў. І вы паверце. Інакш...” І дастаў, нібы жартуючы, пісталет.

– Мы на чым згуляць можам? Толькі на любові да Беларусі, – разважліва казаў Купалу Міхась Чарот, разам з якім восенню 1925 года выправіліся яны нібыта ў Парыж на выставу мастацтваў, а па дарозе аказалася, што іх вязуць не ў Парыж, а ў Прагу – угаворваць беларускіх эмігрантаў вяртацца ў Савецкую Беларусь. “Вось ты й гуляй на любові”, – кінуў ён Чароту...

Але ж з цягніка не кінешся.

Яшчэ двойчы пасля Прагі ездзіў ён за мяжу. У 1927-м і 1935-м. Да вяртання нікога не з’агітаваў – і больш яго ў замежжа не выпраўлялі.

Паэта Міхася Чарота, хоць ён і верна служыў, знішчылі. Як і многіх іншых, хто служыў і не служыў, верна і няверна.

Знішчылі амаль усіх, хто вярнуўся. Не адразу, каго раней, каго пазней, але амаль усіх. А яны былі калі не сябрамі ягонымі, калі не блізкімі людзьмі, дык і не далёкімі...

У тым, што Сталін будзе першым у бальшавіцкай партыі, Чарвякоў не памыліўся. А ва ўсім астатнім... А ў астатнім пісталет яму самому спатрэбіўся. Абвінавачаны ў тым, што падыграе мясцоваму нацыяналізму, пакрывае ворагаў народа, ён застрэліцца ў сваім кабінеце кіраўніка ўсёй Беларусі.

У Празе Купалу было няёмка, няўтульна. Вярнуўшыся, ён запіў. Хоць нікога не агітаваў вяртацца, але быў там, калі агітавалі. Паказваўся: вось, глядзіце, які я ёсць! Народны паэт! І вы такімі будзеце, калі вернецеся.

– Праз мяне таксама шмат хто з эміграцыі вярнуўся, – пасунуўся да Купалы Горкі. – Я не ўгаворваў, не. Але сам у Маскву падаўся – і яны следам. Хадзіў да Сталіна прасіць за іх. Ён абяцаў: “Я разберуся”, – і з імі разбіраліся. З некім адразу, з кімсьці пасля... На людзях не паказацца было. Схаваўся дома, запіў...

Купала схаваўся ў вёсцы, у Акопах. Блукаў па ваколіцах і ўспамінаў, якім шчаслівым тут было лета 1913 года, у якое вярнуўся ён з Пецярбурга! Як глыбока дыхалася, як лёгка пісалася! За месяц – тры паэмы! “Куды ўсё падзелася?..” – жаліўся ён маці. Яна не суцяшала. “Я казала табе...” Толькі аднойчы, калі заплакаў у яе на падоле, на каленях, як маленькі, пагладзіла па галаве: “Я казала табе трымацца палякаў... Ну, паплач... Памятаеш, як ты з Яхімоўшчыны, з бровара прыехаў? Скардзіўся, што бровар, дзе хочаш не хочаш, а выпіваеш, замінае вершы пісаць. І Антон табе сказаў: трэба нешта кідаць. Ці бровар, ці вершы. Тое самае і цяпер: трэба нешта кідаць. Нічога не змянілася, сыне, толькі Антон памёр...”

Так, нічога ў свеце не змяняецца, толькі нехта памірае. Вось і Антона Лявіцкага, пісьменніка Ядвігіна Ш., які любіў яго і якога ён любіў, не стала. Гэта ён, Антон, якому паказаў Купала свае першыя вершы, спытаў: “А чаму ты размаўляеш па-беларуску, а пішаш па-польску?” – “Бо калі размаўляю, проста кажу...” – “Дык і калі пішаш, проста пішы...”

Антона ў Вільні хавалі, ён хацеў з’ездзіць на пахаванне, але ў Вільню палякі яго не пусцілі. Яны ўвогуле пасля таго, як паміж Вільняй і Мінскам паклалася беларуска-польская мяжа, не давалі яму магчымасці пабываць у горадзе, які яму сніўся. Паўліна казала: “Помсцяць за тое, што ты кінуў па-польску пісаць”.

Хто іх ведае, тых палякаў... Хутчэй за ўсё яны лічылі яго чырвоным. Ды на іх месцы ён і сам бы чырвоным сябе лічыў.

Гарэлка не суцяшала... Не ведаючы, што рабіць, ён пачаў вінавацiцца. Ва ўсім перад усімі, перад светам і сабой: “І засумуецца патомак, Калі дазнаецца аб нас, Што нейкі з нас хоць быў не зломак, А плечы гнуў у крук не раз. Не йшоў з адкрытымі вачыма У свет і сцежкі не прастаў, А ўсёй магчымасці магчымай Таптаў сляды, сябе таптаў”.

– За ўсё, што чалавек бярэ, ён плоціць сабой, – уздыхнуў Горкі, і Маякоўскі раптам сказаў рэзка: “Я браў сваё!”

Горкі паківаў.

– Кожны з нас гэтак думаў. А насамрэч мы падаравалі сябе ўладзе. Самі сябе ўпакавалі, перавязалі чырвонай стужкай і падаравалі, – доўжыў ён, чакаючы, што на гэта скажа Маякоўскі, але той нічога не сказаў. Адвярнуўся.

Як пры жыцці паміж імі ладу не было (“Алексей Максимович, как помню, между нами что-то вышло вроде драки или ссоры”) – гэтак і па смерці.

“Які лад! – казала яму Зося Шамардзіна. – Калі б не Горкі, я нарадзіла б Маякоўскаму сына. Але Горкі напляткарыў, нібы ў Маякоўскага брыдотная хвароба. Я пабаялася: раптам перадасца? І выкінула з сябе ягонае дзіця”.

– Пайшлі да Шамардзіной! – прапанаваў Маякоўскі, калі апошні раз яны сустрэліся ў Мінску. Аднаму мне няёмка, у яе муж. А з вамі...

Мужам Зосі быў старшыня Савета народных камісараў Язэп Адамовіч. Купала з ім хай не блізка, але сябраваў, так што не надта яму ўтульна было выпіваць у кампаніі Зосінага мужа і яе каханка, які ўзняў кілішак за гаспадыню, сказаўшы гаспадару: “Я нікога так не кахаў, як вашу жонку”, – і Язэп чокнуўся з ім, выпіў: “Я вас разумею”.

– Які чалавек! Сапраўдны мужык! – захапляўся Маякоўскі Адамовічам ужо на вуліцы. Добра, што ў вас такія ёсць. І добра, што ёсць у вас, – яны праходзілі паўз дом, дзе мясціўся ўрад, – Цэнтральны выканаўчы камітэт Беларусі. Раней не было, а цяпер ёсць! Пайшлі, – цягнуў ён Купалу ў гатэль, – яшчэ за гэта вып’ем. За Зосю, за Язэпа, за Беларускі цэнтральны выканаўчы камітэт!..

Яны зайшлі ў “Еўропу”, гатэль, у якім жыў Маякоўскі, замовілі ў нумар віна, сыру з аліўкамі. “Сыр з аліўкамі ўжо не Зося, Ліля мяне навучыла да віна браць, – казаў, наліваючы, Маякоўскі. – Давайце за ўсіх іх, за вашых і за маіх!.. І за сапраўднага мужыка Адамовіча!..”

Хто мог тады падумаць, што абодва яны, і сапраўдны беларускі мужык Адамовіч, і сапраўдны рускі паэт Маякоўскі застрэляцца? Паверыўшы, як і Чарвякоў, які Купалу пісталетам палохаў, Сталіну. А Зося, каханкамі якой былі і паэты, і чэкісты, і вайскоўцы, і партыйцы, будзе ўспамінаць пра іх у сібірскіх лагерах...

Яна шмат чаго там пабачыла. Вярнулася сівая.

– Я, можа быць, і насамрэч кахаў яе больш за ўсіх, – зусім іншым голасам, нібы нешта летуценнае ўспамінаючы, ціха сказаў Маякоўскі. – Ліля – жарсць, а Зося... Ёй было дзевятнаццаць, мне дваццаць... А вы, Аляксей Максімавіч, каго?.. Муру? Закрэўскую? Гэта яна вас атруціла?

Горкі паружавеў. Трохі, як могуць паружавець нябожчыкі.

Марыя Закрэўская, апошняя каханка Горкага, на руках якой ён памёр, незадоўга перад тым сустракалася са Сталіным, і хадзілі чуткі, нібы той сказаў ёй, развітваючыся: "Максіму Горкаму, каб застацца Максімам Горкім, трэба памерці цяпер – інакш будзе позна".

– Зося мне ні атруту не падсыпала, ні даносы на мяне не пісала, – не стаў чакаць Маякоўскі адказу Горкага. – І спытаў Купалу. – А вы каго найбольш кахалі? Ганну?.. Ці Паўліну? Я помню яе ў Пецярбурзе...

Купалу здзівіла, што Маякоўскі яе ўспомніў. Бачыў толькі аднойчы ў "Бадзяжным сабаку", кавярні паэтаў, дзе на вечарыне Ігара Севераніна, пра якога Маякоўскі спытаў Зосю, якая на вечарыну яго зацягнула: "Гэта што за псаломшчык?.." – была даволі шумная кампанія, а вось запомнілася яму Паўліна.

А Севераніну – Шамардзіна. "Ее глаза смелы и дики".

Не без таго. Паўліна яе пабойвалася. "Гэта не беларуская татарка, праўду пра яе Северанін напісаў, дзікая нейкая..."

І цягнулася да яе.

Паўліна, Паўліна...

Праз усе трыццаць тры гады іх сустрэч і расстанняў, праз Вільню і Пецярбург, праз Мінск і Маскву яна прабегла, каб у апошнюю сустрэчу сказаць задыхана: "Я для цябе нарадзілася, а ты для мяне памёр".

Вось пра што трэба было напісаць паэму...

Калі ён п'есу пісаў, якую назваў "Паўлінка", пра Паўліну і думаць не думаў. А вось жа як супала... І яму не магло не прымроіцца, што супала не выпадкова, не проста так. Што лёс.

У нечым яно так і выйшла. Нездарма ж яна прыдумала, што для яго нарадзілася. А, можа, і не прыдумала. З часам яму ўсё болей здавалася, што тую Паўліну, якой яна была, ён так і не ўбачыў. Не разгадаў, не зразумеў. Няхай не была яна такой, як Ганна, актрысай, і не была такой жанчынай, як Ганна, але ёй, калі яны пазнаёміліся ў Вільні, не споўнілася й сямнаццаці – і яна магла такой, якой ён хацеў, стаць.

– Калі б магла, дык стала б, – казала яму княгіня Магдалена Радзівіл, гаспадыня маёнтку ў Кухцічах, дзе пасля спектакля "Паўлінка", на пастаноўку якога ўгаварыла яе Паўліна, раптам завяла размову пра іх адносіны. Прычым, як пра свае з ім, гэтак і пра ягоныя адносіны з Паўлінай, пра якія, бо размова даверлівай была, збольшага ён распавёў.

Асабліва й распавядаць не было пра што. Так, яны былі блізкія, і якраз тады, калі сустрэліся пасля Вільні ў Пецярбурзе, дзе ставіўся спектакль "Паўлінка", у якім Паўліна грала галоўную ролю, але нічога з таго не вынікла. Ні на сцэне, ні ў жыцці. "Бо яна, – казала на гэта княгіня, не тая актрыса, якая марыць пра ролю жонкі, і не тая жанчына, якая шукае сям'ю і дзяцей. Яна жанчына, якая шукае прыгодаў. І яны ў яе, павер мне, будуць".

Магдалена казала так, нібы сама прыгодаў не шукала...

Яна моцна ўразіла яго, княгіня Марыя Ева Магдалена Завіша-Красінская-Радзівіл. У першую ж хвіліну іх знаёмства здзівіла: "Вы беларускі паэт – я

беларуская княгіня. Ведаеце, чаму беларуская? Не толькі таму, што польскіх ці рускіх княгінь хапае – я паўсюль сядзела б у чырвоным куце. Але я адчуваю, што я не польская і не руская. Іншая – і ўсё тут. Вось і вы – іншы. І не па-польску, – падала яна газету з ягоным санетам “Przestańcie marzyć o sławnej przeszłości...” – гэта напісана. Калі глядзець, дык нібы па-польску, але не. Бо вы не паляк, мысленне ў вас іншае. “Sercem poddajcie się losów swawoli...” – прыцягальным голасам, у гэтай жанчыны, старэйшай за яго на дваццаць гадоў, быў прыцягальны, заманлівы голас, працытавала яна радок санету, – як гэта па-нашаму!..»

Так, ён не паляк. Іншы – і ўсё тут.

Чаму?.. Як яно сталася, што іншы? Скуль “іншае” ўзялося, калі хадзіў да касцёла, калі па-польску вучыўся, калі пісаць пачаў па-польску, нават не думаючы, што можна “па-іншаму”? Калі маці па-польску размаўляла і казала палякаў трымацца...

Але вось дзіва: казала маці трымацца палякаў, а казку на польскай мове пра беларускую мову расказвала.

Ён помніў тую казку і расказаў яе аднойчы, у зімовую ноч, беларускай княгіні. Казка была доўгая, але і зімовая ноч не кароткая...

«Жыла-была на белым свеце Беларуская Мова. Стройная, гнуткая, звонкагалосая, такая прыгожая, што ўсе толькі дзіву даваліся: “Адкуль Ты такая?” І ўсім Яна адно адказвала: “Ад Бога”.

Палюбілі Яе людзі, што жылі на Нёмане, на Прыпяці, на Дняпры, якія называліся хто крывічамі, хто дайновічамі, хто яцвягамі, і сталі размаўляць, як Яна. Спяваць пачалі, як Яна, найпявучыя ў свеце песні, расказваць найчароўныя казкі. І тады ўзраўнавалі суседзі. “Jestem lepszy od ciebie!” – чуўся з захаду Język Polski. “Я лучше тебя!” – чуўся з усходу Русский Язык. “Добра, добра, – гледзячы, як у люстэрка, то ў Нарач, то ў Асвею, то ў Свіцязь, усміхалася Беларуская Мова. – Вы лепшыя з крайкоў, а я лепшая ўсярэдзіне».

– Файна... – прамовіла княгіня, але як бы не пра казку, пра нешта сваё. “Вы лепшыя з крайкоў, а я лепшая ў сярэдзіне”. – І далей ужо да самага канца слухала моўчкі.

«Суседзям бы ў адказ усміхнуцца, але яны не ўсміхнуліся. “Кпіны над намі ўздумала строіць! – усхадзіліся Język Polski з Русским Языком. – Дык адусюль знікнеш, анідзе цябе не стане!..”

Не пустой была пагроза. Навалу за навалай насылалі суседзі на Беларускую Мову з захаду і ўсходу. Але колькі стагоддзяў ні нападалі, колькі ні забіралі ў Беларускай Мовы зямлі, гарадоў і вёсак, Яна не знікала. Сыходзіла ад навалы за палескую дрыгву, хавалася ў Налібоцкай пушчы, жыла ў леснічоўках, начавала ў стагах, але адусюль чуўся Яе голас, Яе чароўныя песні.

Калі сканчаліся нашэсці, Яна выходзіла з пушчаў, вярталася з балотаў. Сядала на беразе ці Нарачы, ці Асвеі, ці Свіцязі, глядзелася, як у люстэрка, у воды возера, слухала сама сябе ў галасах людзей, якім была Богам дадзеная, і ўсміхалася.

Так міналі стагоддзі, але не сканчаліся нашэсці... І калі хавалася ад іх Беларуская Мова ў пушчах ды балотах, прыходзілі да людзей, якія жылі на Нёмане, на Прыпяці, на Дняпры, іншыя мовы. “Як вам не сорамна жыць з ёй? – пыталі. – Яе ж нельга свету паказаць, лясную ды балотную!” І дзе сілай змушалі, дзе абяцанкамі спакушалі быць з імі... І змусілі, спакусілі. Здрадзілі беларусы Мове сваёй, іншую назвалі лепшай. І аднойчы ўбачыў

Бог, як сядзіць Яна на беразе Свіцязі ў белай сукні, вышытай чырвонымі кветкамі, ды плача. Гэтак слёзы ліе, што вада ў возеры вышэй за берагі падымаецца. “Што з табой, дзіцятка маё? – спытаў Бог. – Мінавалі ўсе навалы, скончыліся нашэсці, а ты сядзіш і плачаш? Чаму?..” – “А таму што ўявіць не магла, – адказвае яна скрозь слёзы, – што калі скончацца нашэсці, мінуюць навалы, людзі з Нёмана, з Прыпяці, з Дняпра, якія спявалі некалі мае песні, прыйдуць і скажуць: “Мы цябе не ведаем”. Ці ж магла я падумаць, што скажуць гэтак не чужынцы, якія заганялі мяне ў лясы і балоты, а свае”.

Паслухаў Яе і зажурыўся Божа. “Дзіва, – сказаў Ён, – займець сваю мову. Але яшчэ большае дзіва – адрачыся яе. Што ж мне зрабіць з тымі, хто выракся? Наслаць на іх хваробы? Праклясці па саракавое калена? Спаліць агнём, громам пабіць? Што скажаш, тое зраблю...” – супакойваў Яе, каб не плакала, Божа, а Яна выцерла слёзы: “Не карай іх, Госпадзі. Яны не ведаюць, што робяць. Потым ім сорамна будзе. А пакуль я ім не патрэбная, ці забяры мяне на неба, ці ператвары ў крыніцу. Каб маглі яны напіцца, калі захочуць”.

Сказала Яна так – і выступілі слёзы ў вачах Бога самога. “Святая мая, – прылашчыў Ён дачку сваю. – Усё можа Бог, але не можа не пакараць тых, хто самім сабе здрадзіў. А табе не дам я памерці. Калі такіх прыгажунь на неба забіраць, хто ж на зямлі застанецца?.. Будзь крыніцай, калі быць ёй хочаш”, – сказаў Божа і ператварыў Яе ў крыніцу, у якую ўпала Ягоная сляза – і стала вада ў крыніцы той жывой вадой. Святой.

А на зямлю, што назвалася Беларуссю, але жыла з мовай чужой, наслаў Гасподзь спякоту. Сухмень. Там, дзе сінеў лён, красавалі сады і каласіла жыта, пасланася пустэча. Спёка такая стаяла, што пыльнымі шляхамі сталі Нёман, Прыпяць і Дняпро, перасохлі Нарач, Асвея, Свіцязь – і толькі адна Крыніца бруіла чыстай, празрыстай вадой. І калі б не Яна, дык звяліся б са свету беларусы, і ніхто б пра іх не ўспомніў, як пра пыл на берагах высахлых рэк і азёр.

Песні, казкі, легенды пра цудадзейную Крыніцу па ўсім беларускім краі разляцеліся – і рушылі да Яе, каб выжыць, беларусы. Прыпадалі да жывой вады, пілі Яе, цалавалі і шапталі, цалуючы: “Святая наша... Ты ўратавала нас – і мы не дадзім Табе памерці...”

І вось цуд: чым болей чэрпалі з глыбіняў Яе, чым болей беларускага люду наталялася Яе жывой вадой, тым глыбейшай, паўнейшай ставала крыніца. Нарэшце Яна выйшла з берагоў і напоўніла Нёман, Прыпяць і Дняпро, Нарач, Асвею і Свіцязь, усе рэкі і азёры, на берагах якіх зноў засінеў лён, закрасавалі сады, закаласіла жыта – загучала Богам дадзеная Мова. І пачуўшы Яе, Бог усміхнуўся з нябёсаў...»

Купала расказваў гэтую казку, седзячы на крэсле каля каміна і неадрыўна гледзячы ў агонь, а Магдалена стаяла за ім і гладзіла, гладзіла плечы, як рабіла гэта маці, калі шкадавала...

– Гэта не народная казка, – сказала княгіня, калі ён змоўк. – Такі народ не мог такую казку прыдумаць. Не таму, што няздольны, проста навошта яна яму? Ты сам яе напісаў. І расказаў маці. А пасля прыдумаў, што гэта маці расказала табе... Так?

Ён не адказаў. Спытаў:

– Які такі?.. Які такі народ?..

– Сам ведаеш, які, калі такую казку пра яго прыдумаў.

Купала падняўся імкліва.

– Не, ты скажы, які? Безнадзейны?..

Пытанне было не да Магдалены – да сябе, і ён закрочыў па пакоі ад сцяны да сцяны, ад сцяны да сцяны то ў адну, то ў другую ўпіраючыся: "Што за свет вакол мяне?.. Што вакол мяне за свет?.." – пачаў біць у сцены кулакамі: "Не скалануць!.. Не праламаць!.. Не прабіць!.." – і збіваючыся, паўтараючы некалькі разоў адно і тое, стаў казаць, што знясіліўся, спрабуючы зразумець, што гэта за свет такі беларускі, які цураецца самога сябе, і навошта беларускі паэт у гэтакім свеце, чаму б яму ў гэтакім свеце не пісаць па-руску ці па-польску, на мове, на якой чытаюць, тым больш, што ад самага пачатку, калі раптам, нечакана для яго самога напісаліся першыя беларускія вершы, не было ў яго на іх, проста не магло быць ніякай надзеі, бо нават не ўяўлялася, што тут, на гэтай скамечанай, скалечанай зямлі можа быць Беларусь, што на яе з усіх бакоў не накінуцца, не парвуць на шматкі, і Магдалена спыніла яго, схапіла, страсянула за плечы: "Можа быць!.."

– Можа быць! – пафасна ўсклікнула княгіня. – Можа быць Беларусь! Але дзеля гэтага патрэбная ахвяра, некаму трэба ўзысці на крыж! Не паляку і не рускаму, беларусу, у якім будзе такая беларуская вера, што яго, як сына, прыме, раскрыжаванага, беларускі Бог. А без беларускага Бога не будзе тут нічога. Без беларускага Бога ўсё тут безнадзейна...

Яна ўскліквала: "Некаму трэба ўзысці на крыж!" – і глядзела на яго так, нібы ведала, каму...

Іншаму.

Але чаму яму?..

Хоць чаму не?... Вось жа яна, Магдалена... Княгіня... Ёй, адной з найзнатных і найбагатых жанчын ва ўсёй Польшчы, было што, у адрозненне ад яго, губляць, і яна не баялася дзеля таго, чым жыла, страціць усё, што мела. Заявіўшы: "Я беларуска, мой муж ніколі не пабраўся б з полькай!" – княгіня проста ўзвар'явала палякаў. Наплявала на вышэйшы свет, на ягоныя салоны, кінула Варшаву – і ўсё гэта праз любоў да таго, што яна любіла, нават не надта ўсведамляючы: за што? чаму?.. – апантана любіла... Бо мела такую натуру, бо жарсці, якімі жыла, віравалі ў яе душы з такой сілай, якой не было ў жанчынах, якіх ведаў ён раней. Праз гэта й біла яму кулачкамі ў грудзі Паўліна, робячы выгляд, нібы раўнуе яго не да кнігіні, а да Уладзіславы...

З Уладзіславай ён ажаніўся. У Маскве. Зімой 16-га года. Пазней, праз гады, калі Паўліна будзе пісаць успаміны, яна не-не дый назаве Уладзіславу, старэйшую за яе ўсяго на паўтара года, цёткай, а княгіню згадае бабуляй "з доўгім прыгорбленым носам і шэра-вадзяністымі вачамі, з нядбайна зачэсанымі валасамі, што шэрымі ад сівізны касмыкамі рассыпаліся ва ўсе бакі па чорнай, без аніякага станіка, маркізетавай блузцы, скрозь якую прасвечваў касцісты гарсэт..."

Баба-Яга.

Ніхто гэтак не прагне помсты і не ўмее помсціць так, як жанчына, калі ў яе з'яўляецца суперніца. Няхай нават суперніца тая прэтэндуе на незанятае месца. "Яно ўсё адно маё..."

Праз тры гады пасля ягонага шлюбу Паўліна дашле яму паштоўку: "Выйшла замуж". І следам, бо ён не адкажа, яшчэ адну: "За Тамаша Грыба, калі ён у турме сядзеў. Мы дамовіліся, што я буду лічыць яго мужам, а ён мяне жонкай".

Ён сустрэнецца з яе мужам у Празе. Двойчы. Першым разам Тамаш,

які з’ехаў за мяжу і ствараў у Празе цэнтр беларускай эміграцыі, будзе ўгаворваць яго застацца. “Ваша месца тут, там вас знішчаць”. А другім разам спытае: “Хто падгаварыў Паўліну напісаць мне, каб я вяртаўся?..” Так спытае, нібы гэта ён, Купала, Паўліну падгаварыў. І дадасць: “Не сама ж яна такое прыдумала”.

Не сама... Пройдзе час, і Паўліна прызнаецца, што пісала на яго даносы. Скажа: “Змусілі. Не сама...”

Магдалена казала: “Ты падмануў яе ў чаканнях”.

Пры чым чаканні, калі даносы?..

– Так, мы падманулі нашых жанчын у іх чаканнях! – усклікнуў, усё яшчэ ружавеючы, Горкі. – Што мы пра іх ведаем? Нічога! Яны казалі – мы не чулі. Маўляў, што жанчына можа сказаць?.. Мы нават трактаты пра іх пісалі, нічога пра іх не ведаючы!

– Гэта вы пісалі трактаты, – перапыніў яго Маякоўскі. – Я паэмы пісаў.

Калі Маякоўскі застрэліўся, Горкі сказаў: “Знайшоў час...” І ўсё, больш нічога. Дараваць яму гэта Маякоўскі не мог. Як і плёткі пра ягоную хваробу.

Горкі з цяжкасцю, але зрабіў выгляд, што не ўскрыўдаваў.

– Я не пра тое, што мы напісалі... Я пра тое, што мы дзеля іх зрабілі? Паэмы прысвяцілі?.. А толку? Жэлябужская дзеля мяне дзяцей сваіх кінула, сцэну... А была актрыса – ды яшчэ якая! Нечага ж яна ад мяне чакала. І чаго дачакалася?.. Я сышоў ад яе да Муры. Да Закрэўскай. Раман ёй прысвяціў. Ну прысвяціў – і што? Калі б Уэлс, які ўсё замуж яе клікаў, а яна ўсё не йшла, грошы ёй не пакінуў, Мура ў манастыры жыццё скончыла б... Так што справядліва яна атруціла мяне, калі атруціла. І, можа быць, гэта й было яе чаканнем, – неяк бездапаможна, нібы самому сабе не даючы веры і спадзеючыся, што Маякоўскі запярэчыць, скончыў Горкі, а Маякоўскі не запярэчыў.

Магдалена Радзівіл скончыла жыццё ў манастыры. Напісала ў апошнім лісце: “Прашу ні на што ад мяне не спадзявацца, больш нічога не магу даць”.

Не яму, не Купалу напісала, але... Не спраўдзіліся чаканні княгіні. Адпрэчыўшы ўсё, што звязвала яе з ранейшым жыццём, пасяліўшыся ў Кухцічах і зрабіўшы свой маёнтак цэнтрам беларускага нацыянальнага руху, яна адчыняла беларускія школы, у адну з якіх узяла настаўніцай Паўліну, стварала прытулкі для сірацінаў, ахвяравала на ўніяцкую царкву (“Грошай для маіх беларусаў я не пашкадую!”), чакала з’яўлення беларускага Бога, беларускіх святых, а з’явіліся рускія бальшавікі, ад якіх яна, другім разам удава, бо муж загінуў на фронце ў першы год Першай сусветнай вайны, вырашыла ўцякаць да немцаў. Развітваючыся, Купала спытаў: “Чаму да немцаў, калі муж загінуў, ваюючы з немцамі за рускіх...” – і Магдалена сказала: “Так, за рускіх, але чырвоныя – гэта не рускія, чырвоныя – гэта чырвоныя. І яны, калі застанешся, жыць табе не дадуць”.

Яна сказала гэта раней за ўсіх. І раней за ўсіх прапанавала з’ехаць. Калі не хоча ў Нямеччыну, дык у Літву, у Коўна, куды яна збіралася спачатку, і калі ён адмовіўся, перахрысцілася на яго: “Некаму трэба ўзысці на крыж”.

Яна перажыве яго на тры гады. Памрэ ў Швейцарыі, выявіўшы апошнюю волю: быць пахаванай у Беларусі. Значыць, Беларусь была ў ёй там, дзе жыццё і смерць. Гэтак глыбока.

– Я вінаваты перад маімі жанчынамі! – не пакідаў сваё Горкі. – Вось ні перад кім не адчуваю віны, а перад імі адчуваю. Перад Кацярынай, Марыяй... А вы перад Зосяй? – зноў прычапіўся ён да Маякоўскага, адчу-

ваючы ўсё ж віну, мусібыць, не толькі перад жанчынамі, але і некаторымі мужчынамі таксама. – Перад Ліляй? Веранікай?..

– Толькі не перад Ліляй! – адрэзаў Маякоўскі. – І ўвогуле ні перад кім. Я нікога не змушаў мяне кахаць.

Горкі ўсміхнуўся.

– Некалі я верш такі напісаў. У юнацтве. Спяваў, як раманс: “Я не змушаў кахаць мяне нікога...” Пасля страляўся. Ужо тады віну сваю, якая яшчэ паперадзе была, адчуваў. А вы? – спытаў ён Купалу, страціўшы надзею знайсці сумоўніка ў Маякоўскім. – Перад кім вы... – і Купала адказаў, не чакаючы, пакуль Горкі дапытае, бо ён гэта сніў, гэта будзіла яго сярод ночы, мучыла, апошнім часам мучыла невыносна: “Перад маці. – І стаў гаварыць, гаварыць, гаварыць, не спыняючыся, каб выгаварыцца, ведаючы, што, калі спыніцца, не скажа пра гэта ўжо ніколі і нікому. – Яна мне сніцца, будзіць мяне сярод ночы і пачынае то расказваць казкі, нібы я маленькі, то пытаць, чаму я жыву так, а не інакш, з гэтай жанчынай, а не з той, пішу такія вершы, а не іншыя, яна мяне вымучвае – апошнім часам да спазмаў сэрца. Ці, можа, гэта я сам сябе вымучваю, а думаю, што яна... Я не ўзяў яе з сабой, кінуў яе, калі пачалася вайна, у Мінску, а Мінск ужо гарэў, і мне сніцца, што яна ўзлятае над горадам, як белая птушка, пад крыламі якой шугае полымя, і ляціць за мной, рассыпаючы іскры, гукаючы мяне, Янка, Янка, падае ў мой сон клубам белага агню, я бягу, страсаючы агонь, да вады ратавацца, а па вадзе ў нашай рэчцы абгарэлая, скрываўленая скура плыве, скура маёй маці, якую я спрабую вылавіць, думаючы, што яе можна яшчэ неяк накінуць, нацягнуць на маці, якая стогне, енчыць, я чую, так ёй балюча без скуры, якую я, збягаючы з Мінска, жыўцом з яе садраў і кінуў у машыну, бо скура такая рэч, што можа для нечага спатрэбіцца – і вось яна наплывае на мяне ў нашай рэчцы, я не магу з-пад яе вынырнуць, захлёбваюся, а вада чырвоная, як кроў, і раптам я здагадваюся, што гэта кроў і ёсць, кроў маці, у якую я вяртаюся, у якой і да якой плыву – вунь яна на беразе крывавага мора пад высокай, белай скалой, на якой стаяць людзі з цвікамі і малаткамі, і ляжыць крыж, а над ім лятае нешта трапяткое такое, як агеньчык свечкі, калі тая дагарае, і я разумею, што гэта мая душа, якая яшчэ не адляцела, але вось-вось адляціць, і трэба паспець, пакуль не адляцела, укленчыць, пакаяцца, павініцца перад маці, і я, захлёбваючыся крывёй, плыву, плыву, плыву, але агеньчык над крыжам гасне раней, кожны раз я не паспяваю, а цяпер ужо не паспею ніколі – маці памерла...

## 34

Першы сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Ціхан Кісель, які выглядаў такім стомленым, нібы ўсю ноч сек дровы і толькі пяць хвілін таму адклаў сякеру, сустрэў Віктара ў прыёмнай, што азначала, як сказаў пасля той памочнік, які званіў Віктару і запрашаў на сустрэчу, асаблівую павагу. Пачаў: “Вы прадстаўлялі... дастойны сын... гонар для рэспублікі...” – але ўбачыўшы, што Віктар не ў тым стане, у якім можа ганарыцца сваім сынам рэспубліка, прапанаваў: “Каву?.. Ці нешта мацнейшае?..” – і калі Віктар папрасіў: “Каньяка кілішак, учора хаўтуры па вераб’і спраўлялі”, – Кісель зрабіў выгляд, нібы гэта нармальна: пахмяляцца пасля ўчарайшага ў першага сакратара. Спытаў толькі: “Па якім Вераб’і? Я ведаю?..” – “Наўрад ці. Звычайны шэры беларускі верабей. Птушка”. – “А... – працягнуў Кісель, зноў

зрабіўшы выгляд, што ўсё як мае быць, што хаўтуры па вераб’ях спраўляць – беларуская народная традыцыя. – Ну, калі ласка...”

У кабінеце першага сакратара ЦК на тым месцы, дзе звычайны ў такіх кабінетах вісяць партрэты Леніна ці Брэжнева, вісеў партрэт Машэрава. Папярэдніка Кісяля ў гэтым кабінеце. Мінулай восенню Машэраў загінуў у аўтамабільнай катастрофе, і ўсе казалі, што невыпадкова, што катастрофу падстроіла Масква, бо Машэраў, наймаладзейшы ў СССР партыйны функцыянер такога рангу, набіраў папулярнасць і мог замяніць састарэлага кіраўніка савецкага ўрада Ціханава, а пасля, можа быць, і састарэлага генеральнага сакратара Брэжнева.

Кісель пра такія размовы не мог не ведаць. На тое, каб павесіць у сваім кабінеце партрэт чалавека, якога забіла, няхай нават па чутках, Масква, патрэбная была смеласць, якая ў рыхлаватым сакратары, колішнім настаўніку беларускай мовы не праглядвалася. Але вось была – і Віктар адчуў няхай маленькую, як верабей, але ўсё ж сімпатыю да гэтага ўжо з раніцы стомленага чалавека.

– Ваша здароўе! – падняў ён, кіўнуўшы на партрэт Машэрава, кілішак, і нічога болей не сказаў, выпіў, хоць мог спытаць: забілі ці выпадак? – бо хто пра гэта мог ведаць, калі не першая асоба рэспублікі, але першая асоба, як толькі ён на партрэт кіўнуў, да губ палец прыклала...

Ва ўсіх кабінетах так! Ці Ленін, ці Брэжнеў, ці Машэраў у іх вісіць – ва ўсіх! І пра што гаварыць?..

– Я чытаў вашы артыкулы пра Купалу, – дапамог яму знайсці тэму для размовы былы настаўнік беларускай мовы. – Пытанне пра ягоную гібель важнае. Ад адказу на яго залежыць гістарычная ацэнка тых падзей і тых людзей, якія ў іх удзельчалі. Вы схіляецеся да таго, што гэта быў не выпадак. Што яго маглі знішчыць наўмысна. Вядома, гэта толькі адна з версій. Але не выключаю, – павольна павярнуўся ён да партрэта свайго папярэдніка, – што маглі.

Гэтым павольным паваротам ён сказаў тое, што думае пра смерць Машэрава. Адказаў Віктару, мяркуючы, што гэта яго, як і ўсіх, цікавіць, на незададзенае пытанне. Для такой адкрытасці, няхай нават гэты чалавек усю ноч дровы сек, не было падстаў. Яны не былі знаёмыя, упершыню бачыліся. Кісель ведаў, што Віктар учора з Масквы – і заўтра зноў у ёй можа быць. Не мог ён не ведаць – мясцовыя гэбісты абавязкова даклалі – пра Ганну, пра Грачына, да якога Віктар можа пайсці і сказаць: “У Беларусі лічаць, што Машэрава забіў Брэжнеў”. А Грачын можа пайсці да Брэжнева... І перастане беларускі першы сакратар быць першым сакратаром.

– Некалі, даўно, калі настаўнікам быў, я вершы пісаў, – так, нібы ўпершыню ўспомніў, што некалі вершы пісаў, сказаў Кісель. – Цяпер не пішу, але да паэтаў, да паэзіі ў мяне асаблівае стаўленне. Як да нечага, што не спраўдзілася. Вам жа знаёмае гэтае адчуванне? Няспраўджанае каханне, няспраўджаная мара... Здаецца, толькі яны і былі сапраўднымі. Усё астатняе – падробка. І думаеш, што ў фальшы пражыў жыццё.

Такіх размоў у такіх кабінетах з Віктарам дасюль не вялі. “Так, – сказаў ён, – адчуванне знаёмае”, – не ведаючы, што яшчэ можна сказаць партыйнаму сакратару, які прызнаецца, што пражыў жыццё ў фальшы, а той узяў паперку са стала: Віктар падумаў, што зараз вершы будзе чытаць. “Танкевіч мне сказаў, што ў вас кватэры няма. Наймаеце. Мы падрыхтавалі ліст да гарадскіх уладаў, – падаў яму паперку Кісель. – Думаю, вырашаць пытанне,

не адмовяць”. І сакратар ЦК падняўся з-за стала, даўшы зразумець, што вершаў чытаць не будзе:

– Ёсць яшчэ пытанні?

Віктар таксама падняўся.

– Просьба ёсць.

– Якая?

– На майго сябра напісалі данос, праз які яго звінавацілі ў антысаветчыне, выгналі з працы. З Акадэміі навук. Цяпер ён з’язджае за мяжу. А ён геніяльны вучоны. І застанецца геніяльным вучоным, але ўжо там, а не тут. Хіба гэта ў інтарэсах дзяржавы? У інтарэсах партыі?

Кісель зірнуў на Віктара так, нібы вырашаў, пачуць ягоную просьбу, ці не пачуць? Нарэшце ўзяў аловак:

– Прозвішча вашага сябра?

– Цапман. Марат Цапман.

– Вы адказваеце за яго?

Такога пытання Віктар не чакаў. Але што ж цяпер...

– Адказваю.

– Добра. Гляну, што можна зрабіць.

– Глядзець няма калі. Самалёт сёння ўвечары.

– Дык што ж я магу? Хай ляціць. Разбярэмся тут, а пасля...

– Не будзе пасля. Паляціць – не вернецца.

Кісель кінуў аловак на стол.

– Вы хочаце, каб мы яго затрымалі і разабраліся?

– Так. Я хачу, каб яго затрымалі і разабраліся. І я за яго адказваю.

Відаць было, куды захацелася Кісялю паслаць Віктара з ягонай просьбай, і чыста партыйны функцыянер гэтак бы і зрабіў, але ў гэтым функцыянеры жыў савецкі інтэлігент, які насуперак партыйнаму функцыянеру сказаў: “Добра. Давайце паспрабуем”.

– Як і абяцалі, машына чакае, завязем вас на вашу малую радзіму, – правёў Віктара да ліфта памочнік Кісяля і спытаў, калі Віктар у ліфт ступіў: “Вы ў Маскву перабіраецеся? Да жонкі?” – “Да якой жонкі?” – “Выбачайце. Кажуць, вы з дачкой Грачына ажаніліся”.

Вось чаму кватэра! А не таму, што да паэтаў асаблівае стаўленне. Не было – і раптам з’явілася. Таму і сустрэча ў прыёмнай, і каньяк... Вось толькі з Машэравым і з тым, што фальшывае жыццё пражыў, не зусім зразумела. Трэба Бура спытаць, Бур гэтага Кісяля лепей ведае.

Бур і Машэрава лепей ведаў. Гібель ягоную ўспрыняў як нацыянальную катастрофу. Яны былі землякі з Машэравым, той спагадліва да яго ставіўся, дапамагаў рабіць кар’еру. Гэта важна для Бура было. Аднойчы Віктар спытаў яго: “Табе мала паэтам быць?” – і Бур адказаў, імгнення не прамарудзіўшы: “Мала!” Машэраў паставіў яго кіраваць радыё і тэлебачаннем – і раптам...

Віктар працаваў у той час на тэлебачанні, якім кіраваў Бур і якому ўдалося пераканаць Машэрава стварыць нацыянальны тэлеканал. “Вось за гэта! За тое, што нацыяналіст, забілі! – гарачачна казаў Бур пасля пахавання Машэрава. – Былі іншыя варыянты, кампрамат рыхтавалі. Вось глядзі, што ў французскай газеце. “Галоўны апазіцыянер рэжыму Брэжнева Пётр Машэраў у Парыжы”. Думалі спачатку проста зняць яго. А пасля перадумалі”. – “Ды за што яго здымаць было, які ён апазіцыянер?” – “Для цябе ніякі. А для іх такі, што нанялі французскага журналіста, кампрамат праплацілі. Ты не ўяўляеш, якіх грошай не шкадуюць на такія рэчы!”

Разгледзець у Машэраву апазіцыянера было гэтак жа няпроста, як у Кісялі героя. Ён быў прававерны камуніст, у якім апазіцыйнае было хіба тое, што калі ўсе савецкія начальнікі стаялі на трыбунах падчас парадаў у шэрых плашчах і капелюшах, ён стаяў з голай галавой. Але ў гэткім жа шэрым, як ва ўсіх астатніх, плашчы. А ўжо нацыяналіста ўбачыць у ім можна было толькі ў наўмысна змайстраваных дзеля гэтага акулярах. Менавіта пры ім Беларусь пачала страчваць мову, пры ім у Мінску зачыняліся беларускія школы, пры ім быў паранены, пабураны ў сталіцы стары горад, а ўжо колькі было парушана па ўсёй Беларусі храмаў, столькі ворагі не парушылі ва ўсіх войнах! А Бур гэтага як бы не бачыў, нібы наўмысна зробленыя акуляры меў. Бачыў тое, што хацеў бачыць, праз што ўзнікала надзея. "Чуў бы ты, што ён у размовах сам-насам кажа! Усё прагніло! Усіх трэба мяняць, найперш Брэжнева..."

"Можа, яго забілі, каб ён на XXVI з'ездзе партыі не выступіў?" – нявесела падумалася Віктару, а кіроўца, які вёз яго ў Крэва, спытаў: "Можа, у Смаргоні да бацькоў вашых падвернем? Вы ж толькі ўчора прыехалі, не бачыліся".

Не бачыліся. І не толькі ўчора. Амаль год маці з бацькам не бачыў. Думаў пасля Крэва да іх заехаць, але не лішне будзе і цяпер.

– Падвярні, – сказаў кіроўцу. – І можаш ехаць у Мінск, адсюль я сам дабяруся.

– Не, – рэзка крутнуў стырно, бо ўжо праскоквалі паваротку, кіроўца. – Куды загадана, туды дастаўлю.

Бацька ў сваім вайсковым кіцелі, у якім з вайны вярнуўся, стаяў каля брамы і чытаў газету. Пад брамай, на якой вісела паштовая скрыня, ляжаў аднавокі, пакалечаны ў вясновай сабачай бойцы Пірат. Па двары тапталіся, квохкаючы і гадзячы, куры: "Я іх усіх пазасякаю! Скажы маці, што ўсіх пазасякаю!" Кот Кузя песціўся на вясновым сонейку ў калідорчыку, застаўленым расадай, – усё, як заўсёды. Так, як было, калі сто разоў выпраўляўся з хаты – і сто разоў вяртаўся. Так, як было, калі яшчэ і хата гэтая не стаяла, і вуліцы гэтай, і горада гэтага, і свету гэтага не існавала.

Ян, малодшы брат, яшчэ малы быў, бацька будаваў хату з Віктарам. Будавацца не хацеў – маці, якая не ўяўляла, як можна без сваёй хаты жыццё пражыць, змусіла. Пачыналася ўсё так, як не гарыць і не тлее. Падмурак паўгода клалі, але паступова, калі паўсталі сцены і ўжо можна было назваць тое, што складвалі яны з абчэсаных бёрнаў, у чым праразалі вокны і дзверы, хатай, бацька ўцягнуўся ў працу, падганяў Віктара, а потым, за вячэрай, расказваў, як яны ў сваёй хаце будуць жыць. "Во тут паставім печ, а за печчу пакінем месца для праходу з кухні ў спальню, на чыстую палавіну. На ўсялякі выпадак". Што ён меў на ўвазе пад усялякім выпадкам, хто яго ведае, але той праход за печчу з кухні ў спальню і на чыстую палавіну стаўся для Віктара ледзьве не марай пра іх шчаслівае сямейнае жыццё, нечым такім, дзеля чаго і будавалася хата, хоць ніхто ніколі па праходзе тым, завешаным вянкамі сплеценай цыбулі, закіданым трантамі, застаўленым мяшкамі з мукой, не хадзіў.

Некалі вуліца, на якой паставілі яны хату, называлася Сабачай. Тут быў узмежак горада, – ён і цяпер тут, толькі забудаваны, – месца сабачых гульбішчаў. Бацька прыдумаў, што па гэтай прычыне ён і не хоча на гэтай вуліцы будавацца. Хоць і ні на якой іншай не хацеў. Юначыя гады пражыўшы ў стэпах, маладыя на вайне, ён звык рухацца, вандраваць, качаваць і ўсё, што не рухалася, лічыў нявартым таго, каб на яго зважаць. Лічыў нявартым марнаваць на нерухомае час. Таму ўсё жыццё правёў на машынах. На

танках, на самаходках, на камбайнах, на трактарах. І яшчэ ён любіў рэкі і не любіў азёры.

Віктар азёры любіў – не ўсё ад бацькоў дзецям перадаецца. Дый сваю нерухомую Сабачую вуліцу, якая цяпер называлася вуліцай Янкі Купалы, любіў. У цэнтры – вуліцы Леніна, Калініна, Фрунзе, Горкага, Маякоўскага, а тут, на ўзмежку свету, – вуліца Янкі Купалы.

– Пра цябе напісана, – падаў газету бацька. – На. Пачытай.

У раённай газеце “Светлы шлях” быў здымак Віктара ў абдымках Брэжнева з надпісам на ўсю першую паласу: “Наш зямляк вітае XXVI з’езд КПСС!”

– Ян даўно быў? – вярнуўшы газету бацьку, спытаў Віктар пра брата.

– Не. У мінулым годзе.

Маці выбегла на парог: “Віцечка!..” Так, нібы ён з вайны ў бацькавым кіцелі вярнуўся. А бацька стаяў і чытаў газету. Так, як заўсёды.

Калі ты пакідаеш такое жыццё, то ўжо не ведаеш, як у яго вярнуцца. Калі б нават захацеў, не ведаеш, як? І для чаго? Пазасякаць усіх курэй?

– Ну, што ты, што ты?.. – абдымаў ён маці. – Чаго ты расплакалася? Жывы я, здаровы, усё ў мяне добра, – а маці ўсхліпнула. “Баюся я за цябе. За Яна не, а за цябе баюся. Не па росту ты стаў, Віця”.

– Машына твая? – кіўнуў бацька за браму, дзе стаяла чорная цэкоўская “Волга”. – У нас на ўвесь раён адна такая.

Маці кінулася смажыць яйкі, накрываць стол. “Ты ж кіроўцу пакліч, што ён там сядзіць”. Віктар паклікаў – кіроўца ў хату ісці адмовіўся: “У мяне з сабой, Віктар Паўлавіч, я ў машыне. Прывык, што ўсё на ходу”.

Яшчэ адзін качэўнік.

“Тады едзь, чаго стаяць будзеш? Я ж сказаў, што сам са Смаргоні дабяруся. Дваццаць вёрст засталося, маці ў маладосці пешшу сюды на працу хадзіла”. – “Не, Віктар Паўлавіч. Дарога праз лес, ці мала што. А ў мяне загад: даставіць”.

Загад у яго. Нагляд у цябе, а не загад.

Селі за стол, на які бацька паставіў чацвярцінку. Чакушку, як гэтую маленькую пляшку называлі. “Выпіваць будзем? Ці ты простую ўжо не п’еш?”

Наліў.

– Што я табе сказаць хачу, Віця?.. Будзь здароў!

– І ты будзь.

– Я то буду. А маці... Вунь як знасілася. Але ж вам не да галавы.

– Што ты, стары, выдумляеш? Я не хворая.

– Я не сказаў, што ты хворая. Я сказаў, што знасілася. І маглі б у санаторый які-небудзь, калі б да галавы...

– Ну вось што ты кажаш, абы казаць? Якія ў іх санаторыі? Кватэры няма, а ты пра санаторыі. Віця, ну як так? Ува ўсіх ёсць, а ў цябе...

– І ў мяне была. Не забіраць жа было пры разводзе.

– Пэўна ж, не забіраць, – згадзіўся бацька. – Нахрана тая хата? Наша хата – чамадан.

Віктар залез у кішэнь, дастаў паперу, якую даў яму Кісель.

– Прачытаць, што тут напісана?

– Я сам чытаць умею, – узяў паперу бацька. Прачытаў, аддаў. – Моцна ж ты лізнуў Брэжневу, раз кватэру даюць.

Брэжнева бацька не любіў. “Ён прыдумаў сябе не вайне. Хлопцы гінулі, а ён прыдумаў, што герой”.

Не любіў і Машэрава, бо партызан. “Ведаем мы, як гэтыя партызаны ва-

явалі. Усю вайну на печы прасядзелі, дзевак ціскаючы, а як фронт падышоў – пабеглі масты падрываць. Абазначыцца: і мы тут! Перад нашай калонай падарвалі, давялося ўброд. А там рака нейкая бяздонная, хто ж ведаў. Думалі, маршам пройдзем. Адзін экіпаж патануў. З маім земляком з Сухога Логу. І мне твайго Машэрава любіць?"

– Чакайце... – абсела з патэльняй у руках маці. – Якая кватэра?.. Што ў гэтай паперы напісана?

– У паперы напісана, што твой сын сракаліз. І вылізаў сабе кватэру.

– Тут так не напісана, – забраў Віктар у бацькі пісьмо Кісяля. – Тут, мама, напісана вось што. "Просім разгледзець магчымасць выдзялення асобнай кватэры сябру Саюза пісьменнікаў Беларусі Маргеру В.П." Подпіс Кісель Ц.Я. І ўсё. Ні пра задніцу, ні пра іншае месца, якое можна лізаць, тут ні слова.

– Хо-хо-хо, – залівабся на зэдлі бацька. – Не пра ўсё пішуць.

– Гэта які Кісель? – махнула на яго рукой маці. – Мінскі?

– Так, мінскі.

– А паслухаюць яго? Зараз жа гэтакі час: ніхто нікога не слухае. У нас нават галоўнага бухгалтара і таго...

Бацька стукнуў кулаком па стале – патэльня з яечняй падскочыла.

– Ды яму кляп у рот! Каб не разяўляўся! Ведаеш, што на партсходзе сказаў? Што XXVI з'езд КПСС акрэсліў праграму дзейнасці Смаргонскай МТС уключна з бухгалтэрыяй! З'езд уключыў ягоную сраную бухгалтэрыю ў сваю праграму! І ўсе сядзяць, слухаюць, ніхто ў дурдом не тэлефануе! Партайгэносэ наш: "У каго якія пытанні?.." Я кажу: у мяне. І спытаў...

Маці, пэўна, не аднойчы чула, пра што спытаў бацька яе начальніка, таму не стала яшчэ раз слухаць, усур'ёз узлавала.

– Спытаў ён! Пасядзеў бы ціха! Так файна жылі з чалавекам! А цяпер? Насустрач ідзе – адварочваецца.

Бацька таксама ўзлаваўся.

– Во! Чуў?.. Ён даносы на мяне пісаў – і мы файна жылі! А цяпер, калі я сказаў, хто ён такі, адварочваецца. Дык няхай! Дасць Бог, шыю скруціць, сексот!

Бацьку было на што злаваць: праз усё жыццё на яго пісалі і пісалі даносы. Сядзеў бы ціха, не пісалі б, але ён не мог ціха сядзець: праз усё жыццё шукаў справядлівасць у свеце.

Свет гэты ён з аднолькавай сілай і любіў, і ненавідзеў. Маці казала, што нянавісць у ім ад вайны, але Віктару, асабліва тады, калі быў малы, здавалася, што вайну бацька любіў. Там, у ёй, у вайне засталіся ўсе ягоныя сапраўдныя сябры, і засталася нейкая найвышэйшая, аднаму яму зразумелая справядлівасць. Хоць якраз у час вайны напісалі на бацьку данос, па якім яго забралі ў штрафную роту і, кантужанага, цяжка параненага, палічыўшы забітым, пахавалі.

Ён выкарабкаўся з магілы. І, магчыма, праз тое, што, хоць быў пахаваны, але выжыў, пасялілася ў ім адчуванне справядлівасці. А праз тое, што мог не выжыць па даносе, увайшла ў яго найбольшая з усіх нянавісцяў, якія ў ім былі: нянавісць да сексотаў.

Усё дзяцінства Віктара было пазначанае меткамі той нянавісці. Крыкамі бацькі: "Падлюкі! Сукі!.." Стрэламі з пісталета, калі ён дазнаваўся, што зноў на яго нешта "намалявалі". Праз бацьку нянавісць да сексотаў увайшла і ў Віктара, даносы для яго сталі тым, у чым выяўляецца чалавечая подласць.

У дзяцінстве праз гэта было проста страшна.

Нейкі час бацька быў старшынёй сельсавета, і на яго данеслі, нібы ён згнаіў жыта ў полі. А тады за адзін каласок садзілі. Бацька ведаў, хто данёс, прыйшоў да таго сексота з пісталетам. Не застрэліць, папалохаць, а той напісаў, што забіць хацеў. І аднойчы прачнуўся Віктар ноччу ад грукату ў дзверы. “Маёр Вырак! – уварваўшыся ў хату, тыцнуў бацьку ў твар чырвонае пасведчанне з адціснутамі на ім мечам, сярпом і молатам чалавек у ботах з ялавай скуры з хромавымі халявамі, у сініх з малінавым кантам галіфэ, у зелянковага колеру гімнасцёрцы, падперазанай скуранай дзягай з кабурой на правым баку, з якой выхапіў ён пісталет. – Здаць зброю!”

Бацька стаяў у споднім, у працёртых ззаду белых кальсонах і выглядаў перад хромава-бліскучым маёрам жаласна. Яшчэ жаласней за маці, якая таксама ў споднім, толькі хустка на плячах, глядзела на маёра з жахам – і з жахам малілася на яго. Гэтак глядзела і гэтак малілася, што Віктар заплакаў, калі болем кальнула ягонае спалоханае маленькае сэрца. І тут бацька выпрастаўся: “Не плач, сынок! Маглі б не ўночы, маёр. І без дзяцей…” – а той бабах у столь: “Зброю здаць!”

Зброя ў бацькі была імянная. Пісталет з гравіроўкай: “За подзвіг пры ўзяцці Кёнісберга. Маршал Васілеўскі. 10.04.45”. І калі бацька сказаў: “На вайне б страляў, пацук тылавы. Не ты мне зброю даваў – не табе забіраць”, – маёр яму ўруччам пісталета ў зубы. “Ах ты!..” – кінуўся бацька да падпечча, дзе свой пісталет хаваў, але двое, што былі з маёрам, схапілі яго, скруцілі, зацягнулі ў “варанок”.

Назаўтра да маці прыйшоў бацькаў франтавы сябрук, які сказаў, што бацьку павезлі ў Маладзечна, у абласны цэнтр, і, калі яна хоча пабачыць мужа, што наўрад ці ўдасца, але раптам, дык трэба ў тое Маладзечна ехаць, бо там будзе суд – і дахаты бацька можа не вярнуцца. Маці ўзяла Віктара, якому каля шасці гадоў было, і яны паехалі.

Судзілі бацьку не ў судзе, а ў абкаме партыі, і судзіў не суд, а так званая “тройка”: сакратар абкама, пракурор і старшыня КДБ. Бацькаў сябар папярэдзіў: “Калі ён выйдзе праз парадны ўваход, усё будзе добра. Паедзеце дахаты. А калі не, дык развітаецеся, мусібыць, назаўсёды. Хутчэй за ўсё – другое. Таму, калі хочаце яго ўбачыць, ідзіце з двара”.

Маці стаяла на плошчы перад абкамам, не ведаючы, што рабіць... Потым пайшла да брамы ў двор, дзе чарнеў, чакаючы бацьку, “варанок”. Віктар паплёўся за ёй, але раптам... Не тое, што зразумеў нешта, якое ў ім разуменне было?.. Дзіцячае... Але пранізала яго недзіцячая думка: “Гэта ж, калі я з двара іду, дык не веру ў тое, што бацька выйдзе і ўсё будзе добра: мы дахаты паедзем”. І ён кінуўся да параднага ўваходу. Маці паглядзела ўслед і не стала яго вяртаць.

Віктар стаў так, каб бачыць яе каля брамы. Але стаяў ён не ў двары! На плошчы! Каля параднага ўваходу!

Ён не помніў, колькі яны чакалі... Гадзіну? Дзве? Чатыры?.. Ніхто ў парадныя дзверы не ўваходзіў, ніхто не выходзіў з іх. Нарэшце яны расчыніліся, выйшаў маёр. Убачыў Віктара, пазнаў, падазваў пальцам. Віктар не зрушыўся з месца, маёр рушыў да яго. “Зараз і мяне забярэ!” – спуджана падумаў Віктар, але не пабег, застаўся стаяць, дзе стаяў. Дзе чакаў бацьку. Маёр ткнуў яму палец пад падбароддзе, задраў галаву: “Усё адно я твайго бацьку кончу! Так яму і перадай: маёр Вырак цябе, падла, кончыць! Ну, перадасі?..”

– Перадам, – балюча наткнуўшыся на прапахлы порахам палец, шчасліва матлянуў галавой Віктар, убачыўшы за кабурой, што вісела на скураным

рамяні маёра, як зноў расчыніліся парадныя дзверы – і на мармуровы ганак ступіў бацька. І як толькі Віктар убачыў яго… там прыступкі былі – ён іх не заўважыў! Ён не пабег – ён ўзляцеў! І ўзляцеў не толькі з радасці, што ўсё будзе добра, што яны паедуць дахаты, але і з адчування перамогі. Бацька выйшаў *сюды*, бо ягоны сын пастанавіў *тут* яго дачакацца! І маёра Вырака, Вырадка, як ён для сябе пераназваў яго, у якога пальцы пахнуць порахам – столькі гэты вырадак людзей настраляў, і тых вырадкаў, якія паставілі ў двары “варанок”, каб звезці бацьку немаведама куды, ягоны сын *перамог*! Бацька злавіў сына над прыступкамі, Віктар абхапіў яго за шыю: “Тата! Тата!..” – і потым кожны раз з успамінам пра гэта, самым моцным успамінам дзяцінства, узнікала ў ім адчуванне палёту. Нават цяпер, праз гады...

Ён падняўся з-за стала, пакуль лёгка, пакуль памяць лятае, а не цягне камянём на дно, пакуль не стаў іх шкадаваць – і сябе разам з імі.

– Дзякуй, пара мне. На зваротным шляху яшчэ заеду, пабачымся.

– І праўда, – усхапілася маці. – Мы тут сядзім, а чалавек там гадзіну чакае.

Тое, што яна амаль год сына чакала, нічога. А вось тое, што нейкі чалавек гадзіну пачакаў, бяда. І яна пабегла ў куратнік, каб сабраць свежыя яйкі, каб не дарма чакаў чалавек.

Бацька наліў яшчэ па чарцы:

– Аглаблёвая... Год не быў, а пабыў гадзіну. Што ты забыўся там, дзе ўсе памерлі?

Гэта ён пра Крэва, дзе няма ягоных магіл. Усе ягоныя магілы на Волзе.

– Папрацаваць хачу. Раман пачаў. У Крэве мне добра пішацца.

– Пра што раман?

– У двух словах не скажаш.

– А ўсё ж?

– Пра Купалу.

– Пра якога? Пра таго, на вуліцы якога наша хата?

– Усе нашы хаты на ягонай вуліцы.

– Як гэта?.. Заразумна для мяне. Дык пра таго?

– Пра таго. Пра якога яшчэ?

– Ну, ці мала... Паганскі Купала ёсць...

– Не. Пра таго, на вуліцы якога наша хата.

– Пра сябе, значыць.

– Чаму пра сябе?

– Бо ты ў гэтай хаце жывеш. І ўвогуле ўсе паэты толькі пра сябе пішуць. Ніхто ім болей нецікавы. Табе таксама. Ні маці, ні я.

У голасе ягоным прарывалася крыўда. Раней такога не было. Старэе.

Бацька сам гэта адчуў і, не любячы жаліцца, не стаў чакаць, што Віктар адкажа.

– Добра, гэта я так... Давай вып’ем аглаблёвую.

Выпілі. Бацька паўчаркі глынуў і адставіў. Не той ён ужо піток, які быў, але ваяка яшчэ той.

Выпіўшы, падабрэў.

– Дык што пра Купалу ты напісаць збіраешся?

– Пакуль не ведаю.

– Як гэта? Пішаш – і не ведаеш, што?

– Толькі пачаў...

– Такое ад пачатку трэба ведаць. А то некаторыя пішуць, не ведаючы, што, а нехта жыве, не ведаючы, навошта.

Вось табе і падабрэў.

– Ты гэта да чаго?

– Да таго, што магу параіць.

– Што параіць?

– Што напісаць... – палез бацька ў падпечак, дзе ў яго схованка была, у якой некалі пісталет ляжаў, дастаў цыгаркі без фільтра, удушлівы “Памір”, дым якога можна было б пускаць у газавыя камеры, закурыў, што апошнімі гадамі рабіў рэдка. – Некалі я расказваў табе гэтую гісторыю, як казку. Ты яшчэ ў калысцы быў, немаўля, так што не можаш помніць. Маці тады ў сваім бухгалтарскім тэхнікуме вучылася. Завочна, але то сесія ў яе, то практыка, то яшчэ нешта – я шмат такіх гісторый табе распавёў, каб ты засынаў. Помню, ляжыш, слухаеш і глядзіш так, нібы ўсё разумееш. Палохаешся там, дзе страшна, усміхаешся, дзе смешна. А я расказваю, як на вайне быў, што там перажыў, калышу люльку і думаю: хоць нехта мяне разумее, хоць нехта... Дык вось, – схаваў бацька, бо ў сенях маці затупала, “Памір” у падпечак, – мяне ўлетку сорак другога ў баявы разлік “Кацюшы” залічылі. Кіроўцам на “ЗІС-6”. Слабаватая для таго, каб “Кацюшу” з ракетамі цягаць, была машына. І калі прыйшлі амерыканскія “Студабекеры”, паслалі мяне ў штаб арміі памяняць “ЗІС” на “Студабекер”. Са мной яшчэ двое: лейтэнант, старшы машыны, не помню ягонага прозвішча, беларус з-пад Віцебска, і сяржант, якога дадалі нам, як сказалі, на ўсялякі выпадак. Ягонае прозвішча я памятаю, дзіўнаватае такое: Муляны. І вось ужо на “Студабекеры” едзем назад, лейтэнант газету чытае, якую ў штабе ўзяў, і раптам кажа: “Купалы не стала. Усё ж яны забілі яго”. Горка так, з болем кажа... Ён да вайны ў Мінску ў Акадэміі навук працаваў, ведаў Купалу. А Муляны пытае: “Хто забіў, таварыш лейтэнант?..” Я дык падумаў, што немцы, а гэты, бачыш, спытаў.

Лейтэнант не адказаў нічога – і як бы ўсё на тым. А праз дзень мяне асабіст выклікае. І пытае, што казаў лейтэнант пра смерць Купалы? Ясна, што Муляны данёс. А лейтэнант той слаўны, вельмі слаўны быў. Дый смелы: за спіну салдата ніколі не хаваўся. І я асабісту дакладваю: “Таварыш капітан! Таварыш лейтэнант сказаў, што таварыш Купала памёр. Ён прачытаў пра гэта ў газеце”. Але асабіст не адстае: “Ён хіба не сказаў, што Купалу забілі?” З асабістам надта не пакруціш, тым больш, што ад Мулянага ён усё ведае, таму адказваю, што так, сказаў, што забілі немцы. Капітан кулаком мне ў сківіцу: “Якія немцы? Якія ў Маскве могуць быць немцы?! Ты дапускаеш, што Чырвоная армія, што таварыш Сталін мог здаць Маскву, сталіцу нашай Радзімы, немцам?!” Во куды закручвае. Як мінімум, у штрафроту, калі не адразу пад расстрэл. Я руку да пілоткі: “Таварыш капітан! Я лічыў, што таварыш Купала на фронце! Таму падумаў, што немцы забілі”. Капітан тут жа насеў: “Дык лейтэнант не казаў, што забілі немцы?” – “Не помню. Мусіць, не казаў. Мусіць, гэта я так падумаў”. – “Мусіць, мусіць... А як ён сказаў? Сказаў: усё ж яны забілі яго? Так?” Я зразумеў ужо, хто “яны”, таму сказаць, што так, значыць, здаць лейтэнанта, і я зноў кажу, што не помню, як дакладна сказаў лейтэнант. Зноў рапартую, што ён прачытаў пра гэта ў савецкай, надрукаванай у Маскве газеце, і сказаў нам, мне і сяржанту, што Купалы не стала – сяржант можа гэта пацвердзіць. А капітан мне ў зубы: і ты пацвердзіш, што Цыркуновіч... во, даўно забыўся, а цяпер, глядзі ты, успомніў: Цыркуновіч прозвішча таго лейтэнанта... – дык вось капітан мне ў зубы: і ты пацвердзіш, што Цыркуновіч сказаў, што ворганы забілі Купалу! Ну, тут ужо ясна, што не толькі лейтэнанту, але і мне капец, калі чуў такое

і, як сяржант, не даклаў адразу. Пэўна, я з твару змяніўся, бо асабіст паклаў перада мной паперу: “Табе нічога не будзе. Напішы, падпішыся і можаш ісці”. А як такое можна напісаць і падпісаць? Я ж не сяржант, не сука тая муляная! Таму пілотку падняў з падлогі, яна зляцела, калі капітан мне ў зубы садануў, і зноў, хоць з роту кроў, руку да пілоткі: “Таварыш капітан! Таварыш лейтэнант сказаў, што таварыша Купалы не стала. Ён прачытаў пра гэта ў газеце. Ён не казаў, што таварыша Купалу забілі ворганы”. Капітан падскочыў: “Але ж ты так падумаў!” – “Не, я падумаў, што таварыш Купала на фронце, што яго забілі немцы”. І асабіст мне зноўку: бац!.. Карацей, двух зубоў каштаваў мне Купала. Добра, што не пярэдніх, асабіст збоку біў. А лейтэнант прапаў. Не ведаю, ці немцы яго ў штрафбаце, ці ворганы... – дакурыў бацька сваю памірыну да цёмна-жоўтых, што ніяк не бялелі, пазногцяў на вялікім і ўказальным пальцах, якімі трымаў цыгарку ўжо, здавалася, за агонь. – Мяне ў штрафроту пазней упяклі – па іншым даносе. Але Купалу з лейтэнантам мне таксама прыпомнілі: “Мы ўжо мелі з табой бяседу. На жаль, ты не зрабіў з яе належных высноў”. І ў штрафроту! А там і закапалі яшчэ жывога, ледзьве з магілы выкараскаўся, – заслінявіў бацька меншы за пазногаць на мезенцы недапалак. – Так што цябе праз Купалу магло і не быць... Вось, пра што я на тваім месцы напісаў бы, – замітусіўся ён з недапалкам, бо ўвайшла маці, якая, пачуўшы апошнія ягоныя словы, ніякай увагі не звярнула на тое, што ён закурыў, праз іншае абурылася: “Што ты кажаш абы казаць? Як гэта праз Купалу ён мог не быць?..” – а бацька міралюбіва, бо ўзлавалася яна не за “Памір”, сказаў, разганяючы газ душагубак, якім задыміў хату: “Ты ж не дачула. Ён раман піша пра Купалу. Дык няхай бы напісаў пра тое, колькі Купалаў праз такую свалату, як той Муляны, не нарадзілася. А калі ўсё ж нарадзіліся, дык колькі іх не стала. Колькі іх павесілася, атруцілася, сторч галавой з верхатуры кінулася, застрэлілася...”

– Падымайцеся, – уздыхнула маці, якая хоць і занесла гасцінец кіроўцу, усё адно праз тое, што ён доўга чакае, вінавацілася.

Яна не пайшла праводзіць сына, бо заўсёды, калі праводзіла, плакала, а плакаць пры кіроўцу, незнаёмым чалавеку, было няёмка, таму праводзіў бацька, які ніколі не плакаў. Нават тады, калі застаў аднойчы сына з вяроўкай на шыі, не пашкадаваў яго, не заплакаў, а сказаў: “Калі зноў такое надумаеш, скажаш мне. Я пісталет дам, з ім самагубства будзе выглядаць больш па-мужчынску, чым з вяроўкай”.

## XXXV

– Устаць! Суд ідзе! – крыкнуў нехта, як здалося, зверху, з-пад даху, дзе лятала на вянку Спагада, і ў залу ўвайшлі пракурор Ляплеўскі, маршал Тухачэўскі і старшыня таварыства аматараў крэмацыі Кашкадамаў. “У яго твар, нібы яму залаты зуб уставілі. Ці ён у карты ў маршала з пракурорам выйграў”, – голасам, якім прамаўляюць, калі не чакаюць нічога добрага, сказаў Маякоўскі, але Купалу ўсё адно было, як выглядае, выйграў у маршала ці прайграў пракурору старшыня таварыства аматараў крэмацыі.

– Мне Паўліна, калі год таму ў Маскве сустрэліся, я ў Казань ад’язджаў, сказала: “Помні, Янка, за тое, што ты пакінуў у пылаючым доме матку, зямля родная не прыме праху твайго ў лона сваё!” – вінаваціўся Купала, не зважаючы на тое, што робіцца ў зале, дзе нябожчыкі мітусліва пачалі ўставаць, і першай, бо сядзела тварам да залы ў прэзідыуме на месцы

Кашкадамава, падхапілася таварыш Коган, а поўны важнасці Кашкадамаў кінуў ёй, падышоўшы да стала: “Брысь!” – і таварыш Коган дробненька заківала: “Калі ласка, калі ласка...” – прапускаючы ў прэзідыум Ляплеўскага, які пачакаў, пакуль стануць поплеч Тухачэўскі з Кашкадамавым, дастаў паперыну з тэчкі: “Пратакол №1 судовага паседжання тройкі Маскоўскага крэматорыя імя таварыша Сталіна...”

– З Мінска ў Маскву выпраўляючыся, я набраў, колькі ў машыну ўлезла, барахла, якога за жыццё мне надавалі, якім куплялі мяне, і я разумеў, што купляюць, але браў, браў, браў, а тую, якая само жыццё дала, пакінуў, ёй месца не хапіла, вось і мне не хапае месца, родная зямля прах мой не прымае, – гаварыў і гаварыў Купала, не слухаючы Ляплеўскага, які за час, пакуль засядала тройка, гэтак набраў сталінскіх інтанацый і стаў такі падобны да правадыра, што зала не стрывала, крыкнула “ура!”, але нядружна, і Ляплеўскі паглядзеў пахмурна, незадаволены ці то тым, што нядружна крыкнулі, ці то тым, што ўвогуле закрычалі – суд, маўляў, не сход... «Слухалі, – працягваў ён, – справу Луцэвіча (Купалы) Івана Дамінікавіча, 1882 года нараджэння, кіраўніка “Саюза вызвалення Беларусі”, контррэвалюцыйнай, нацыяналістычнай, антысавецкай арганізацыі, дзейнасць якой была скіраваная на аддзяленне БССР ад Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік, на распад СССР, на ліквідацыю заваёў Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і аднаўленне ўлады памешчыкаў і капіталістаў. Пастанавілі: Луцэвіча (Купалу) Івана Дамінікавіча – раскрыжаваць!»

Залу нібы хваляй хіснула... Таварыш Коган, хіснуўшыся, гэтак часта заміргала вейкамі, як крыльцамі страказа, і, калі б вейкі былі ў яе большыя, яна магла б узляцець на вянок да Спагады, якая закружыла пад дахам: “Не слухайце вы Купалу, не слухайце, ён на сябе нагаворвае, наўмысна нагаворвае, каб яго пакаралі, бо маці ягоная ў Мінску памерла, і ён думае, што вінаваты, але якая ягоная віна, калі ён клікаў яе з сабой, а яна не захацела, не паехала, куды і чаго, спытала, ехаць мне ў маім веку, сыне, на чужыне паміраць, дык лепш я ў хаце сваёй пamру, беларусы нічога гэтак не трымаюцца, як хаты сваёй, вось і памерла яна ў сваёй хаце, бо час настаў, ніхто ёй смерць не прыспешваў, а ён думае, што прыспешыў, нават у тым сябе вінаваціць, што загінуў, а яна адчула, што загінуў, і сэрца яе не вытрывала...” – галасіла, лятаючы, Спагада, але ніхто яе не чуў.

– Во так! – пераможна ўскінуў галаву Кашкадамаў. – А то пачалі тут: па-бальшавіцку, не па-бальшавіцку, правільна, няправільна! Мы аднаго такога, калі яшчэ я старшынёй таварыства ваяўнічых бязбожнікаў быў, раскрыжавалі, дык навек!

Ляплеўскі глядзеў у залу, заклаўшы руку за пруг кіцеля. Як Сталін.

Такога выраку ніхто не чакаў, і па тварах нябожчыкаў відаць было, што ім страшнавата. Вось і памерлі, і ніякага суда, апроч Божага, над імі быць не можа, а страшна. Савецкая ўлада так паўладарыла, што нават мёртвых запалохала.

– Чакайце... – ціха, нібы толькі што апрытомнеў, прамовіў нарэшце Горкі. – Ён Купала... Народны паэт... – і Ляплеўскі перапыніў яго: “Ён вораг народа! І народ патрабуе...” – а тут Маякоўскі спытаў: “Які народ? Мёртвы?..” – Падняўся і прачытаў, гледзячы на Купалу:

Цела на захад, а кроў выцякае на ўсход.
Мёртвы народ сам сябе ўжо не помніць жывога.

Гэта такая трагедыя – мёртвы народ.
Гэта такая камедыя мёртвага Бога.

– Гэта што?.. І пра што? – уперыўся ў Маякоўскага Кашкадамаў, а пракурор Ляплеўскі павярнуўся да маршала Тухачэўскага, нібы прапануючы яму адказаць Маякоўскаму, але маршал не выявіў жадання ўступаць у спрэчку, не маршальская справа, маўляў, спрачацца з паэтамі, таму Ляплеўскі сам пачаў: “Савецкі народ не можа быць мёртвы, савецкі народ – будаўнік сацыялізму, ідэя якога несмяротная, таму й народ з несмяротнай ідэяй несмяротны...” – на што Кіраў, ступіўшы да прэзідыуму, узняў руку: “Вось-вось! Несмяротны!.. Вы Хрыста з Купалы зрабіць вырашылі? Беларускага Бога?” – і Кашкадамаў хапануў паветра: “Якога яшчэ Бога!..” – ды зашмат паветра хапануў, задыхнуўся, закашляўся, а Ляплеўскі, з якім, відаць, не ва ўсім Тухачэўскі быў згодны, развёў рукамі перад маршалам:

– Бачыце?.. А вы ў мяне пытаецеся: дзе доказы? Маўляў, вас без віны расстралялі, дык, можа, іх таксама?.. Не бывае невінаватых! Пралетарскі пісьменнік бароніць ідэолага мясцовага нацыяналізму, якога ўздымаюць на шчыт нашы ворагі! Фашысты! Савецкі паэт заяўляе, што савецкі народ мёртвы! Кіраўнік правафлангавага атрада камуністаў, галава горада, які носіць імя вялікага Леніна, прапагандуе не ленінскія ідэі, а біблейскія казкі пра Хрыста! Гэтага недастаткова?.. Так што ўсё правільна, – стукнуўшы па спіне Кашкадамаву, які ніяк адкашляцца не мог, узяў пракурор яшчэ адну паперчыну з тэчкі. – Пратакол №2 судовага паседжання тройкі Маскоўскага крэматорыя імя таварыша Сталіна. Слухалі: справу сяброў “Саюза вызвалення Беларусі” Пешкава (Горкага) Аляксея Максімавіча, 1868 года нараджэння, Маякоўскага Уладзіміра Уладзіміравіча, 1893 года нараджэння, Кірава Сяргея Міронавіча, 1886 года нараджэння, Куйбышава (Кострыкава) Валяр’яна Уладзіміравіча, 1888 года нараджэння, Несцярэнкі Пятра Іванавіча, 1892 года нараджэння, Машніна Прохара Ісідаравіча (святога Серафіма Сароўскага), 1754 года нараджэння, Цвярской Ганны Дзмітрыеўны (святой Ганны Кашынскай), 1280 года нараджэння, Коган Яўгеніі Саламонаўны, 1886 года нараджэння, дзейнасць якіх была скіраваная на... далей па тэксце пратакола нумар адзін, – не стаў паўтараць пракурор, на што была скіраваная дзейнасць “Саюза вызвалення Беларусі”, – і пастанавілі: Пешкава (Горкага) Аляксея Максімавіча, Маякоўскага Уладзіміра Уладзіміравіча, Кірава Сяргея Міронавіча, Куйбышава (Кострыкава) Валяр’яна Уладзіміравіча, Несцярэнку Пятра Іванавіча, “Машніна (Сароўскага) Прохара Ісідаравіча, Цвярскую (Кашынскую) Ганну Дзмітрыеўну, Коган Яўгенію Саламонаўну – расстраляць! Старшыня судовага паседжання тройкі – намеснік пракурора СССР Г. Ляплеўскі, намеснік старшыні – маршал Савецкага Саюза М. Тухачэўскі, сакратар – К. Кашкадамаў.

“Во так! – гэтак жа, як нядаўна Кашкадамаў, ускінуў галаву Горкі. І нахіліўся да Маякоўскага. – А вы казалі, што тых, хто застрэліўся, яны не расстрэльваюць”.

Маякоўскага, пэўна, здзівіла не тое, што яго расстраляць пастанавілі, а тое, за *што* пастанавілі расстраляць? – і ён пачаў: “Ды ніколі не быў я ні ў якім Саюзе вызвалення...” – але не дагаварыў: у канцы залы зашумелі. Па лесвіцы, каля якой стаяў палкоўнік Несцярэнка, падымаліся, ззяючы німбамі, святы Серафім Сароўскі і святая Ганна Кашынская, якая спытала стомлена: “Пётр Іванавіч, куды тут на расстрэл?..” – і палкоўнік дапамог ёй падняцца на апошнюю прыступку: “Гэта са мной, я пакажу...” – прычым

выглядаў ён такім задаволеным: маўляў, нарэшце і мяне ў неблагую кампанію запісалі, разам з Горкім, Маякоўскім і святымі расстраляюць! – што вайсковец, які стаяў побач з аднойчы ўжо расстраляным дырэктарам крэматорыя, паціснуў яму, віншуючы, руку.

“Госпадзі!..” – перахрысцілася, убачыўшы святых з німбамі, таварыш Коган, і святы Серафім са святой Ганнай падышлі да яе: “Гасподзь з табой...”

Ляплеўскі, склаўшы паперы ў тэчку, сеў за стол. Селі Тухачэўскі з Кашкадамавым.

Зала стаяла.

– Нешта не зразумелі?.. – падаў нарэшце голас маршал Савецкага Саюза, і, калі вайсковец, які паціснуў руку Несцярэнку, сказаў, што паколькі ў нас няма Бога, а, значыць, не можа быць святых, ён згодны з тым, што Сароўскага з Кашынскай трэба расстраляць, але не зусім разумее, за што таварыш Коган расстрэльваць?.. – дык тут жа Кашкадамаў, які аддыхаўся і адкашляўся, ускочыў: “А хто выступаў за тое, каб зрабіць нацыяналіста ганаровым сябрам крэматорыя імя таварыша Сталіна? Не таварыш Коган? Я ўвогуле спаліць яе прапаноўваў, як ведзьму! Дык таварыш маршал заўпарціўся: маўляў, нейкае сярэднявечча... А нацыяналізм – не сярэднявечча? Тым больш беларускі, які небяспечней за любы іншы. Бо хто – беларусы? Рускія людзі! А прыдумалі нейкую сваю нацыю, мову!.. Калі ёсць тут адукаваныя нябожчыкі-партыйцы, – доўжыў Кашкадамаў з інтанацыяй, з якой вынікала, што, як мінімум, адзін адукаваны нябожчык-партыец тут ёсць, – дык яны ведаюць, што не было й няма ніякай беларускай ці нейкай там украінскай мовы, культуры. Гэта прышчэпы дзічак, зробленыя нацыяналістамі на вялікім рускім дрэве. І каб дрэва рускае не змарнела, каб расло, шумела, каб з яго не выпілі, не высмакталі ўсе сокі, нельга чакаць, пакуль здзічэлыя галіны высахнуць, абламаюцца самі! Трэба абсекчы іх! І сякера павінна быць у бязлітасных сталёвых сталінскіх руках!” – скончыў і сеў Кашкадамаў, пасунуўшыся бліжэй да Ляплеўскага, які спытаў, выступам старшыні таварыства аматараў крэмацыі відавочна задаволены: “Спадзяюся, больш ні ў кога ніякіх пытанняў няма?”

Нябожчыкі маўчалі. Стаялі, перамінаючыся з нагі на нагу, і, нібы нечага чакаючы, глядзелі на Купалу.

Купала глядзеў у сябе. І бачыў там, у сабе, маці. Так дзіўна бачыў, нібы яна жыла ў ім, як некалі ён жыў у ёй, каб нарадзіцца. І яму згадалася паданне, апошняе з усіх, якія яна распавядала. Нядаўна – незадоўга да вайны. Незадоўга да таго, як ён яе ў вайне пакінуў.

У адной жанчыны, вядзьмаркі, нарадзілася мёртвае дзіця. Хлопчык. Ён быў гэтакі ладны, прыгожы, што ніхто веры даць не мог, што нежывы. Вядзьмарка грэла яго на сваіх грудзях, карміла сваім вядзьмарскім малаком – і неяк так начаравала, што мёртвы хлопчык рос, навучыўся хадзіць, чытаць, пісаць, а дарослым стаўшы, ажаніўся, дзяцей нарадзіў. Шмат дзяцей – мёртвых ад мёртвага. І ягоныя мёртвыя дзеці нарадзілі сваіх мёртвых дзяцей, ніхто з якіх не паміраў, бо не паміраюць нежывыя. А жывыя паміралі, з часам іх зусім не стала, толькі мёртвыя жылі, якія ўжо й не ведалі, што яны мёртвыя, што гэты свет падмяніўся на той, што даўно ўжо тут, а не там, пекла, што тут, а не там, грэшнікі, якія адзін аднаго прадаюць і купляюць, купляюць і прадаюць, страляюць, паляць, сякуць, не шкадуючы, бо пашкадаваць мёртвага можа толькі жывы, – і гэтакі жах віраваў на зямлі, што жахнулася нават, бо жывая была, вядзьмарка...

“Мёртвае, Янка, нават самае найблізкае, найдарагое, мусіць паміраць, а

жыць павінна жывое", – казала маці, распавядаючы далей, як збірала вядзьмарка на пагорках і ў лагчынах, па балотах і нізінах жывіцу-траву, травінку да травінкі, як страсала купальскую расу, расінку да расінкі, як варажыла і зелле варыла, як плакала, калі сына паіла, бо ведала, што далей будзе, і падалі ў кубак слязінка за слязінкай, як ажыў, выпіўшы зелле, яе сын і стаў казаць мёртвым тое, чаго ніхто ім не казаў, што яны мёртвыя, і стаў іх вучыць, як ім ажыць, пакаяцца і палюбіць адно адное, ды яны не слухалі, не чулі, і тады маці, калі прамаўляў сын да мёртвых на Храмавай гары, укалола яго кончыкам нажа, якім адрэзала некалі пупавіну, і ён успомніў сябе ў маці, і той сон успомніў, які ў ёй сніў, як стаіць ён на Храмавай гары і прамаўляе да мёртвых, вучыць іх, як ім ажыць, як палюбіць адно адное, а з-пад сэрца ягонага цячэ крывінка, і ўсе мёртвыя, унюхаўшы пах жывой плоці і крыві, накінуліся на яго, як звяры, сталі рваць на шматкі, жэрці жывую плоць ягоную і смактаць жывую кроў – і пачалі ажываць ад жывога, і мусілі б, жывыя, пакаяцца ў тым, праз што змярцвелі, але не пакаяліся. Высмакталі кроў, крывінку да крывінкі – і не пакаяліся...

"Усё пачынаецца з таго, чым сканчаецца, і сканчаецца тым, з чаго пачынаецца, але навошта, для чаго яны ажылі, калі і жывыя робяць тое самае, што рабілі мёртвыя, прадаюць адзін аднаго і купляюць, купляюць і прадаюць, страляюць, паляць, сякуць, не шкадуючы?.. Дзеля чаго была ахвяра?" – пытаўся ён у маці, але яна не магла адказаць, бо памерла.

"Жыла-была беларуская мова..."

– Што ж, калі пытанняў няма, тады па працэдуры... – дастаў яшчэ адну паперу з тэчкі Тухачэўскі. – Працэдура такая: спачатку раскрыжаванне, пасля расстрэл. Вырак суда па пратаколе нумар адзін выконваюць асуджаныя па пратаколе нумар два. Вырак суда па пратаколе нумар два выконваюць...

– Выбачайце, – ціха прамовіў святы Серафім, якому штосьці шаптала на вуха святая Ганна. – Мы тут не зразумелі... Пра рускае дрэва таварыш Кашкадамаў правільна ўсё сказаў. Хоць і бязбожнік. Але скуль ён узяў, што няма беларускай нацыі, беларускай мовы, калі таварыш Сталін сказаў, што ёсць?

Пракурор Ляплеўскі паволі, абапіраючыся рукамі на стальніцу, пачаў падымацца з-за стала: "Скуль вы ўзялі, што таварыш Сталін?.." – і святая Ганна стала рукі ў бокі: "А мы на дзясятым з'ездзе партыі былі, самі чулі, як ён казаў, што існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, і што задача камуністаў беларускую нацыю на яе мове развіваць!" – на што Кашкадамаў зноў падхапіўся: "Як вы маглі на партыйным з'ездзе быць, калі беспартыйныя?" – а святая Ганна дастала нешта з-пад сарафана: "Вось! Партбілеты! Мой і святога Серафіма!" – і паклала на стол перад Тухачэўскім, якому, мусіць, найбольш давярала, дзве чырвоныя кніжачкі, якія той узяў, пагартаў: "Так, партыйныя білеты... Ветэраны партыі... Машнін Прохар Ісідаравіч з 1775 года, Цвярская Ганна Дзмітрыеўна з 1301... Партбілеты з пячаткамі... Падпісаныя Леніным..." – і Кашкадамаў за галаву ўхапіўся: "Вы памерлі ці звар'яцелі? Як такое можа быць?.." – а святая Ганна зноў рукі ў бокі: "А так! Ленін вечна жывы!"

Кашкадамаў трымаўся за галаву, не ведаючы, што на гэта сказаць, бо Ленін насамрэч вечна жывы, і, калі вечна жывы ўперад, дык вечна жывы й назад, ва ўсякім разе – да 1301 года, так што, з аднаго боку, ставіць пад сумнеў тое, што ён ужо ў сярэднявеччы думаў пра стварэнне партыі, палітычна няправільна, але з іншага боку...

– А скуль вы ўзялі, – прышоў на дапамогу Кашкадамаву пракурор Ляплеўскі, паўтарыўшы раней прамоўленую фразу з гэткай інтанацыяй, нібы ад пачатку менавіта пра тое й хацеў сказаць, – скуль вы ўзялі, таварыш святы Серафім, – спытаў ён з'едліва, – што таварыш Сталін такі заімшэлы, заскарузлы ў сваіх поглядах, што няздольны іх памяняць?.. Вось таварыш Купала сустракаўся нядаўна з таварышам Сталіным, няхай ён скажа: таварыш Сталін такі заскарузлы, заімшэлы? Няздольны памяняць свае погляды? – падвысіў голас, бо Купала ніяк не адгукнуўся на ягоны зварот, Ляплеўскі і, не дачакаўшыся адказу, вярнуўся да святога Серафіма. – Марксізм-ленінізм – жывая, а не мёртвая тэорыя, таварыш святы Серафім! А тым больш практыка марксізма-ленінізма, геніяльна ўвасобленая ў таварышы Сталіне! Вось вы сказалі, што чулі, як на дзясятым з'ездзе партыі ён выступіў з заключным словам па нацыянальным пытанні. Стаў на бок, можна сказаць, нацыяналістаў. Так, але чаму?.. Бо таварыш Сталін стратэг і тактык. Тактык і стратэг. Напачатку 20-х, каб ускрайкі Расіі падтрымалі савецкую ўладу, трэба было нешта ім паабяцаць, і таварыш Сталін паабяцаў аўтаномію, нацыянальнае развіццё. Але цяпер пачатак 40-х – і развіццё можа быць толькі адным: савецкім! Бо да чаго прывяло нацыянальнае развіццё?.. Да таго, што на тых самых ускрайках Расіі хлебам-соллю сустракаюць фашыстаў, якія імёнамі нацыяналістаў вуліцы называюць! І вы хацелі б, каб таварыш Сталін гэтага не бачыў? Каб ніяк на гэта не адказаў? Ды за каго вы таварыша Сталіна прымаеце? – тэатральна здзіраючы маску, усклікнуў пракурор Ляплеўскі – і перад нябожчыкамі прадстаў Сталін.

Нехта ўжо раней здагадаўся, што гэта ён, некаму яно адкрылася толькі зараз, але ўсе разгубіліся – Купала ўпершыню ўбачыў разгубленых нябожчыкаў. Нават таварыш Коган зніякавела: сутаргава ў далоні пляснула і застыла са сціснутымі адна ў адной далонямі, нібы яны ў яе склеіліся. "Як можа быць тое, чаго не можа быць? – блукала на яе твары. – Калі ён тут, сярод нябожчыкаў, дык памёр? Але як неўміручы можа памерці?.."

– Сталін з намі! – падскочыў вайсковец у сярэдзіне залы, якая ўслед за ім падхапілася хваляй: "Сталін з намі!!! Слава таварышу Сталіну! Слава! Слава! Слава!.. Ура! Ура! Ура!.."

– Як здароўе, Аляксей Максімавіч?.. – пастаяўшы і палюбаваўшыся эфектам свайго з'яўлення, падышоў Сталін да Горкага. Той не прыдумаў, што ў такой сітуацыі на такое пытанне адказаць, і Сталін, па плячы яго паляпаўшы: – Вам шакаладу болей трэба есці, шакаладу, – падаў руку Маякоўскаму. – Ніводнага разу не рукаліся, шкада. "И в пролет не брошусь, и не выпью яда, И курок не смогу над виском нажать..." Скажыце, вы праўда хацелі застрэліцца, ці так выпадкова выйшла?.. Гэтаксама, як у Сяргея Міронавіча, якога даўно не бачыў, – прыабняў ён Кірава і адразу павярнуўся да Куйбышава. – А ты, Валер'ян, усё вершы пішаш? Прачытаў бы, даўно не чуў... Помню тваё яшчэ дарэвалюцыйнае: "Слушайте, товарищи, песенку мою, Эту песнь сложил ведь я про судьбу свою..." Выпіваць трэба меней было, Валер'ян, сэрца берагчы... – пашкадаваў Сталін Кірава і падсеў да Купалы. – "Растуць крыжы, а пад крыжамі Хто? Беларускія сыны!.." А вы мае вершы ведаеце? Не? Зрэшты, адкуль?.. Як яно там, зараз успомню... "І грызлі паэта, як зграя, Крычалі яму грамадой: "І песня твая нам чужая, І праўды не трэба тваёй..." У вас нешта падобнае ёсць, але я раней напісаў. Гадоў у сямнаццаць. Паэтам хацеў стаць, а маці хацела, каб стаў епіскапам. Уяўляеце? Сталін – епіскап. І ў бурсу аддала. Калі мяне адтуль выгналі, у

палітыку падаўся. Яна злавала. А калі я закахаўся ў актрысу адну, правінцыйную, не роўня Ганне, але ж каханню не загадаеш, дык маці сказала ёй, што я... Зрэшты, няважна, што яна сказала, важна, Іван Дамінікавіч, што ў мяне таксама маці была. Смешна гучыць, праўда? Нібы ў некага магло не быць. Хоць якая, ды была ў кожнага. А ў мяне была такая, што... Як бы вам сказаць... Такая, што пра мяне казалі, што я не сын майго бацькі. І мой бацька называў мяне *набічвары*. Байструк. І біў, як не свайго. Моцна, не шкадуючы, у мяне рука праз гэта скалечаная. І ўсе білі. Зневажалі. Па вуліцы не прайсці было, каб нехта не зняважыў... Так і рос, да крыві губы закусваючы. Днём і ўночы думаючы: як адпомсціць?.. А як адпомсціць, калі паэт? Як адпомсціць, калі епіскап? Разумееце?.. Вось чаму я Сталін! І вось чаму, калі маці памерла, не паехаў на пахаванне. І на магіле ніводнага разу не быў. Бо праз яе – набічвары. Байструк. Яна ў Тбілісі жыла, я дапамагаў ёй, у грузінаў нельга бацькам не дапамагаць, а на пахаванне не паехаў. Сказаў Берыі, каб як-небудзь распарадзіўся. Ён распарадзіўся так, што яе пышна пахавалі. На Мтацмінда, на святой гары. І вось глядзіць яна цяпер на мяне з той гары – і што думае? Пры жыцці мне гэта ўсё адно было, але цяпер...

Сталін прымоўк, Купала спытаў: “Хіба ўжо 1953 год?.. Пятае сакавіка?..” – “Так, даўно ўжо... І я нязвыкла сябе пачуваю. Пазачасава і пазасветна. Там, у тым свеце, які я пакінуў, быў час мінулы, цяперашні і будучы. Тут гэтага няма – усе часы, нібы ў адным часе. І нельга сказаць, што ў цяперашнім. Час гэты ўвогуле немагчыма вызначыць, яго як бы не існуе. Гэтак не існуе, нібы ён не пачынаўся і не сканчаўся. І я думаю, што гэта вечнасць. Не тая, якую мне прарочылі, пакуль яшчэ я там быў, а вось гэтая. Разумееце?”

Сталін казаў пра тое самае, што адчуваў Купала, калі 1 ліпеня 1942 года йшоў па Маскве ў Саюз пісьменнікаў, каб паглядзець, як яго хаваць будуць. Так што ўсё яму было зразумела. Спытаў толькі: “Вы самі, ці Берыя?..” – і Сталін плячыма пацепнуў: “Можа быць, Берыя. А, можа, і сам... Вы ж таксама сказаць не можаце, ці самі, ці нехта... ну, дапусцім, я загадаў? І хочаце, каб я ў тым прызнаўся? Навошта, калі любая таямніца большая за яе разгадку. У вялікіх людзей мусяць быць вялікія таямніцы, Іван Дамінікавіч. Чалавек вялікі, калі таямнічы, калі нават маці пра яго нічога не ведае... Вам сніцца ваша? Мне мая сніцца... Быццам я ўсё іду, іду ўгару, ніяк узысці не магу, бо на мяне камяні коцяцца, а яна плача: “Гэта з душы маёй каменні!” І пытае, плачучы: “Скажы мне, Сасо, няўжо ў той час, калі мяне не стала, табе так ужо трэба было расстраляць некага, што ты маці пахаваць не змог?..” Я намагаюся ўспомніць, каго я ў той час расстраляў, мне здаецца, калі ўспомню, лягчэй стане, хоць разумею, што толькі горш, бо трэба прасіць будзе, каб ён дараваў, а гэтага я не магу, усё магу, а гэтага – не, дый столькі іх, расстраляных, што ніяк не ўспомніць паасобку... ніяк, ніяк... – падняўся Сталін, і Купала сказаў: “Тухачэўскага вы ў той час расстралялі”.

Маршал Тухачэўскі, расстраляны ў тое ж лета, у якое памерла маці Сталіна, пачуў сваё прозвішча, ускочыў: “Я!..” – і вочы ў яго былі такія ж, якія былі, пэўна, перад расстрэлам, калі ён не разумеў, што адбываецца, за што яго, чырвонага маршала, запісалі ў трацкісты, у ворагі народа, і такімі вачамі ён лыпаў на Сталіна, які па-сяброўску размаўляў з Купалам пра тое, пра што ні з кім не размаўляў, і гэтаксама глядзелі ўсе астатнія, нават Кашкадамаў, думаючы, што Сталін, калі ўжо яны з Купалам сябры, зараз адменіць раскрыжаванне, але той нічога не стаў адмяняць, павярнуўся да святога Серафіма: “Таварыш Серафім, калі тут Страшны суд?..”

## 36

Віктар стаяў у Крэве на абкладзенай грамамі Ярылавай, паганскай, якую хрысціяне назвалі Юр'евай, гары, і над ім, то выгінаючыся, скрыжоўваючыся, як лозы з чаратамі, то звіваючыся, як змеі, завязваючыся ў вогненныя, markdown розакаляровыя, блакітныя, барвова-чырвоныя, распалена-сінія вузлы, палалі, гарэлі, бліскалі, білі маланкі! І падала залева!

Госпадзі, як ён любіў навальніцу над Крэвам! Над ягонымі лагчынамі і пагоркамі, над гарадзішчам і замкам, над ягонымі храмамі – царквой, касцёлам, мячэццю, сінагогай. І няхай ад гарадзішча на паверхні крэўскай зямлі застаўся толькі курган, ад замка – толькі пабураныя сцены, руіны, ад храмаў толькі касцёл з царквою, хоць некалі адных цэркваў у Крэве было шэсць, яшчэ б адна – і сем цэркваў Апакаліпсіса, але ў зямлі пад курганам, дзе стаяла калісьці драўлянае Крэва, пад замкам, дзе яно паўстала каменным, пад храмамі на пагорках і яшчэ глыбей пад самімі пагоркамі, у сэрцавіне гэтай старажытнай зямлі блукала здратаваная, скрываўленая, жалезам бітая і агнём паленая, але жывая памяць стагоддзяў – і Віктар адчуваў, як яна блукае. Ускінуўшы рукі ў неба, стоячы голым пад залевай, пад грамамі з маланкамі на Ярылавай гары, дзе было ў паганскія часы капішча, дзе вяршыў чалавечыя лёсы Вярхоўны жрэц гэтай зямлі Крыва-Крывэйта, ён адчуваў сябе валадаром залевы, грамоў і маланак – і рукамі, далонямі адчуваючы неба, падэшвамі ног адчуваў дрыжыкі зямлі, у якой, як падземная рака, сама сабе ў пясках і суглінках прамываючы рэчышча, прабівалася да вусця, шукала выйсця памяць вякоў. Ён быў пясчынкай гэтай зямлі, кропляй гэтай ракі, часцінкай гэтай памяці, але гэтай пясчынкі, кроплі, часцінкі хапала, каб напоўніць яго неверагоднай, якая нідзе яго так, як тут, не напаўняла, сілай, якой ён абрушваў нябёсы, ламаў, як трэскі, і кідаў за небасхіл блакітныя, барвова-чырвоныя, распалена-сінія маланкі.

Любячы навальніцы ў Крэве, ён любіў іх паўсюль. Кідаўся пад залевы, пад грамы з маланкамі ўсюды, дзе мог. І залевы абмывалі яго, маланкі бліскалі ў вачах, грамы ў вушах грымелі. Але гэта былі не тыя залевы, не тыя грамы з маланкамі, пад якімі ён нарадзіўся. Пад імі не знаходзіў ён у сабе той сілы, якая ламала і кідала за небасхіл маланкі ў Крэве. І не адчуваў дрыжыкаў зямлі.

Не ў Крэве адчуў ён такое толькі аднойчы, калі стаяў пад грамамі з маланкамі на крутым, абрывістым беразе Волгі – ракі, на якой нарадзіўся ягоны бацька. Уявіў, як ён, бацька, малады, моцны, поўны сілы і веры ў сваю сілу, у тое, што возьме ў жыцці ўсё, што ў ім можна ўзяць, тут, на Волзе, і недзе там, дзе ён яшчэ будзе, на пакуль невядомай яму рачулцы Крэўлянцы, дзе возьме ён пакуль невядомую яму жанчыну, якая народзіць яму пакуль невядомых дзяцей, і адзін з іх будзе ім, Віктарам, і, ўявіўшы яшчэ, колькі для гэтага на Волзе і Крэўлянцы мусіла пабіцца і памірыцца, нарадзіцца і памерці людзей, іх продкаў, колькі павінна было прагрымець грамоў, запаліцца і пагаснуць маланак, ён адчуў пад крутым, абрывістым берагам Волгі і глыбей, пад плынню вады, пад самой ракой дрыжыкі зямлі. Дрыжыкі паволжскіх і крэўскіх пяскоў ды суглінкаў.

Цяпер, пад навальніцай на Ярылавай гары, была з ім жанчына. «Вазьмі мяне!» – голая, перамазаная сажай і вуголлем вогнішча, на якім смажылі яны перад навальніцай мяса, кінулася яна, поўная жадання, на спіну ў размытую гліну, рукамі і нагамі месячы яе, сама змешваючыся з ёй, з зямлёй.

“Вазьмі мяне! Вазьмі мяне!” – крычала яна так, што крык яе прарываўся скрозь грамы да нябёсаў, і калі ён узяў яе груба, як плугам зямлю, раптам адчуў, што сіла не ў ім, а ў ёй, у зямлі, якая яму аддаецца.

“Ты забыўся, што мы дамовіліся ў Індыю паехаць дзяцей рабіць, – дагрызаючы мяса на костках, казала гэтая моцная, поўная сілы маладая самка, пра якую ніколі б не падумаў, што ў яе могуць быць праблемы з дзецьмі. – Але што ж: можна і тут. Будуць не індусы, а беларусы”.

Яна знайшла яго ў Крэве праз паўгода пасля таго, як ён з’ехаў з Масквы. Казала, што не шукала, але знайшла.

За гэты час ён напісаў палову рамана – і не пра тое, што праз Купалу яго магло не быць. Хоць нешта з таго, што казаў бацька і чаго спачатку Віктар не зразумеў, як бы само па сабе ўпляталася ў сюжэт, у час, пра які ён пісаў, у характары людзей, што жылі ў тым часе: маёраў, капітанаў, Цыркуновічаў, Муляных. Як і ў характар Купалы, адносіны з якім усё болей ускладняліся. Пытаць: “Чаму?..” – не выпадала, бо ён ужо ведаў адказ. Несуцяшальны для яго.

Калі б гэта было не ў Крэве, адказ мог быць іншы. Недзе, у Маскве ці ў Мінску, ён мог бы схітраваць, нават паспрабаваць самога сябе падмануць. А Крэву ён не мог зманіць, яно надта добра яго ведала. Таму раман тут пісаўся не так, як яно магло быць у Мінску ці ў Маскве. У старой дзедавай хаце ён не проста пісаў, а жыў тым, што праз Купалу ў ім самім адкрывалася, і дзякаваў Богу, што менавіта цяпер Ён прывёў яго сюды.

Працаваў узахлёб. Як нагбом крынічную ваду піў. Калі стамляўся пісаць, хадзіў па крэўскіх пагорках, на якіх ведаў кожны схіл, па Крывой, Ярылавай, Пярунавай гарах, па зарослым травой і кустоўем гарадзішчы, з якога пачыналася Крэва. Плёхаў босым па змялелай Крэўлянцы, у якой яшчэ вадзілася стронга, лазіў па бліндажах, збудаваных немцамі падчас Першай сусветнай, па сутарэннях, руінах замка. І паўсюль паперадзе яго бегла ягонае дзяцінства.

Вунь яно бяжыць пастушком па выгане, грае на зробленай дзедам са старой яблыні жалейцы. Грае гучна, жалейка з прыгожым чорна-белым каровіным рогам, і мелодыя “Цяцеркі”, з якой ён пачынаў вучыцца граць, разліваецца па абодвух берагах Крэўлянкі, цячэ па пагорках. Вось дабегла дзяцінства да ўзлеску, куды паклікаў маленькага Віктара дзед, каб дапамог састагаваць, бо дождж можа пайсці, падсушанае ў пракосах сена, і, калі паставілі стагі, Віктар залез на адзін, лёг, глядзеў у неба, на якім высыпалі зоркі, а дзед, прываліўшыся спінай да стога, расказваў яму казку пра сатану і Яна.

“Жыў-быў хлопчык Ян, над панамі пан, і даў яму Бог…”

“Як гэта над панамі пан?”

“Ніяк. Гэта так, для складу. І даў яму Бог талент…”

“Што даў? Талер?..”

“Талент даў. Гэта здольнасць да нечага. Маляваць, штукі ўсялякія паказваць. А Ян меў талент на жалейцы граць ды песні складаць, якія ўслаўлялі Бога. І гэтак ён файна граў, і такія пявучыя песні складаў, што анёлы Божыя прыляталі, каб яго паслухаць. А д’яблавыя анёлы…”

“Якія?..”

“Д’яблавыя. Ты думаеш, толькі Божыя анёлы ёсць? Не, ёсць і д’яблавыя. Д’ябал сам анёлам быў, пакуль Бог яго з нябёсаў у пекла не скінуў”.

“За што?”

“За тое, што чалавеку, стварэнню Божаму, не захацеў пакланіцца. Прызнаць вышэйшым над сабой”.

“А ў Святым пісанні я чытаў, што скінуў, бо той анёл, Сатана, захацеў быць роўным Богу. Там так напісана...”

Віктар ведаў, што напісана ў Святым пісанні, бо дзед яшэ да школы, якая стаяла вунь там, пад паўночнай сцяной замка, навучыў яго грамаце. І вучыў не так, як у школе. Аднойчы ўзяў за руку, павёў па садзе, па гародзе. “Во гэта агрэст, літара А. Гэта буракі, літара Б, гэта вішня, літара В, гуркі, літарара Г… кроп… маліна… парэчкі… рэпа… смуродзіна… таполя… хмель… цыбуля… часнок… шчаўе… яблыня…” Літары былі жывымі, яны раслі адразу за парогам хаты, зелянелі, чырванелі – і былі смачнымі. Таму засвоіў Віктар грамату, чытаць навучыўся за тыдзень.

“Цяпер ты будзеш маімі вачамі”, – сказаў дзед, які ўжо не мог чытаць нават у акулярах. І Віктар чытаў яму Святое пісанне. Кожны вечар. Чытаў, не надта разумеючы, што чытае, але яго заварожвала тое, як яно напісана. Слова так было звязанае са словам, сказ са сказам, што ў грудзях, а ён чытаў уголас, узнікала адчуванне вышыні, на якую ўздымаўся ён з тымі, пра каго чытаў. З апосталамі, са святымі, з вучнямі Хрыста, з Богам, і ўсе яны, нават Бог, жылі не ў Гефсіманскім ці райскім, а ў дзедавым садзе. Там, дзе маліна, літара М, парэчкі, літара П, смуродзіна…

Круча казаў: “Калі ўсё ў цябе кепска, а ты ўмееш пісаць, пішы пра дзяцінства. І стане ўсё добра”.

«Дык вось д’яблавыя анёлы, чэрці сталі Яна падгаворваюць, каб ён для іх граў і спяваў. Сатану ўслаўляў. Абяцалі горы залатыя. Спакушалі: “Сыграй нам – і будзе табе пернік. Саспявай – і будзе цукерка. А Бог, якога ты ўслаўляеш, што табе дае?..”

Бог не даваў ні пернікаў, ні цукерак, і пачаў Ян граць для чарцей. Спачатку паціху, пасля ўсё гучней. Спяваў з імі, скакаў, весяліў. Сам весяліўся. А яны пернікі з цукеркамі, якімі спакушалі, клалі ўсё бліжэй да краю прорвы, якая ў пекла абрывалася…» – доўжыў казку дзед, а над стогам, над скошанай лугавінай, над Крэўлянкай, над Крэвам, над усёй зямлёй і вадой плыў месяц, на якім сядзеў Сатана з вудай і лавіў зоркі. “Хочаш зорку?..” – спакушаў.

Хіба мог ён тады падумаць, што гэта пра яго расказвае казку дзед? Яму, маленькаму, пра яго дарослага.

Ён знайшоў на гарышчы дзедавай хаты тую жалейку з чорна-белым каровіным рогам. Выйшаў на выган, зайграў – жалейка гучала гэтаксама, як у дзяцінстве. Мелодыя “Цяцеркі” разлівалася па абодвух берагах Крэўлянкі, цякла па пагорках, і ўсё, чаго яму хацелася, было тут, на гэтах берагах, пагорках, дзе быў ён пастушком. І нікім болей быць яму не хацелася.

Калі ён, ужо дарослы, успамінаў сябе маленькага, дык не бачыў асаблівай розніцы паміж сабой тым і цяперашнім. Бо што змянілася? Тое, што ён чытае лепш, чым чытаў у пяць гадоў? Але нават гэта – яшчэ як сказаць, калі тады ўзнікала адчуванне вышыні, на якую ўздымаўся ён з тымі, пра каго чытаў, а цяпер не ўзнікае.

Ці яго змяніла тое, што скончыў школу, тэхнікум, інстытут, што болей ведае? А што ён ведае, пра што дазнаўся? Пра тое, што пісалі шумеры? Ці пра тое, што ў космасе ёсць чорныя дзіры? Дык яны і ў ім ёсць. І ў цяперашнім, і ў малым былі – ён з жахам у іх глядзеў.

У самім сабе ён заўсёды заставаўся гэткім самым, якім быў некалі. Само жыццё ў сабе адчуваў нязменным, змяняліся толькі ўмовы, абставіны жыцця. Ягоныя дэкарацыі. Са стога сена пад Багушоўскім лесам жыццё перанесла яго на гару ў Балгарыі, на сцэну Крамлёўскага палаца з’ездаў – сам ён дзеля

гэтага нічога не рабіў. Толькі прымаў прапановы. Гульню ў прапанаваных дэкарацыях. І гуляўся ў іх той самы хлопчык са стога сена пад Багушоўскім лесам.

Ён не падманваў сябе, гэтак ён сябе адчуваў. Але не так яго адчувала Крэва. "Ты не той хлопчык, калі ўлез не ў сваю гульню, калі, граючы на жалейцы для анёлаў, спакусіўся і стаў граць для чарцей. Я нават не ведаю, чый ты? Можа, і не мой…"

Гэтак Крэва казала, таму тут, у Крэве, і пісаў ён раман. Ён мусіў давесці Крэву, што яно памыляецца, што ён той жа хлопчык, пастушок з жалейкай. Толькі цяпер ён вырас – і стаяў пераможцам на Юр'евай, колішняй Ярылавай гары, кідаючы за небасхіл грамы з маланкамі. І была з ім на гары такая, што на зайздрасць усім, жанчына.

## XXXVII

Крыж быў цяжкі. Васьміканцовы. Палкоўнік Несцярэнка, убачыўшы, як Купала сагнуўся пад цяжарам, спачувальна спытаў: "Вы праваслаўны?.." – і пачуўшы "не", падножжа, а заадно і малую папярэчыну адарваў, але ўсё адно крыж было ледзь падняць. "Свае крыжы ва ўсіх цяжкія, гэта чужыя лёгкія, – сказаў святы Серафім, падабраўшы падножжа з малой папярэчынай. – А грахі наадварот..."

– Пакладзі крыж на вянок, – падляцела да Купалы, калыхаючыся на вянку, Спагада, на якую святы Серафім замахнуўся адарванай папярэчынай: "Кыш! Кожнаму свой крыж самому несці!"

Пайшлі ўздоўж паўднёвай сцяны Данскога манастыра, што падзяляла Данскія могілкі на Старыя і Новыя. Паперадзе Сталін, Тухачэўскі і Кашкадамаў, следам Купала з крыжам, за ім святы Серафім і святая Ганна, якім не дапамаглі пасведчанні найстарэйшых членаў партыі, Горкі, Маякоўскі, Куйбышаў, Кіраў, Коган, усе, каго прыгаварыла тройка да расстрэлу, а ўжо далей – працэсія нябожчыкаў, нехта з якіх выходзіў з крэматорыя, нехта з калумбарыя, а хтосьці, як дачка Пушкіна Марыя, падымаўся з магілы: "Хто гэта з крыжам? Збаўца?.. Прарок?.."

Была ясная, зорная, месячная ноч. За манастырскай сцяной мігцелі крыжы Вялікага і Малога сабораў, у бок якіх Кашкадамаў ткнуў пальцам: "Мы зруйнуем іх, на гэтых могілках будзе новае жыццё!" – і Купала ўспомніў апошнія словы патрыярха Ціхана: "Ноч будзе цёмная, доўгая, доў-га-я..."

Тут, у Малым саборы, вясной 1925 года, на Дабравешчанне, патрыярха пахавалі. Потым нехта казаў, што чэкісты выкапалі цела і перанеслі на Нямецкія могілкі, а нехта – што спалілі ў крэматорыі. Маглі. У пачатку свайго патрыяршаства Ціхан абрынуў на савецкую ўладу анафему. "Апамятайцеся, вар'яты! Спыніце вашы крывавыя расправы! Уладаю, дадзенаю Нам ад Бога, анафемствуем вас!"

Анафему, між іншым, ніхто не адмяняў. Ні ў пачатку патрыяршаства Ціхана, ні ў канцы, калі пасля арышту і допытаў, на якіх яго катавалі, Ціхан, каб уратавацца, як бы пакаяўся. "Я рашуча асуджаю ўсялякі замах на Савецкую ўладу! Я Савецкай уладзе не вораг... Я зразумеў усю няпраўду пра Савецкую ўладу з боку яе ворагаў... Яны кажуць, быццам пры допытах чэкісты катавалі мяне электрычнасцю. Заяўляю, што гэта суцэльная хлусня і чарговы паклёп на Савецкую ўладу..."

Гэта яго не ўратавала.

“Усё тое самае... – успомніліся Купалу ягоныя допыты, ягоныя пакаянні. – Паўсюль і з усімі – усё тое самае...”

Парыярха ён ведаў. Летам 1914 года, калі ўжо забілі эрцгерцага Фердынанда і пачалася сусветная вайна, у Вільні, дзе Ціхан быў архіепіскапам Віленскім і Літоўскім, Купалу пазнаёміў з ім Валерый Брусаў. Архіепіскап запрасіў іх у рэзідэнцыю на Вялікай вуліцы, частаваў гарбатай з пірагамі і ўсё адгаворваў Брусава ехаць на фронт. “Такіх вояў, як вы, многа, а такіх паэтаў – вы адзін. Заставайцеся ў Вільні, напішыце паэму пра віленскіх пакутнікаў, якія смерць прынялі за нашу рускую веру, гэта ўздыме патрыятызм. А ён патрэбны, выпрабаванні нас чакаюць цяжкія”.

Пра віленскіх пакутнікаў, якіх вялікі князь Альгерд нібыта катаваў і павесіў праз тое, што яны, паганцы Няжыла, Кумец і Круглец, прыняўшы Святое Хрышчэнне з імёнамі Антон, Ян і Астап, прайшлі праз усе пакуты, але не адракліся ад праваслаўнай веры, Брусаў не ведаў. “О, – казаў Ціхан, – тут вялікі сюжэт! Біблейскі!.. Адзін з іх, Ян, не вытрываў катаванняў, прадаў брата свайго Антона, выракся, здрадзіў Хрысту, а пасля смерці брата, павешанага паганцамі на дубе, пакаяўся – і пакаяннем сваім, за якое таксама быў павешаны, паклікаў у веру Хрыстову мноства люду, у тым ліку сваяка свайго Кругляца, які лоўчым служыў пры княскім двары. Ён прыняў Святое Хрышчэнне з імем Астап і пасля катаванняў быў павешаны там жа, дзе браты Антон і Ян, стаўшы трэцім з віленскіх пакутнікаў, у памяць якіх на месцы шыбенічнага дуба ўзвялі праваслаўныя хрысціяне храм Святой Троіцы, з самога дуба вырабіўшы грабніцу, у якую паклалі нятленныя мошчы трох віленскіх святых. Калі пасля Берасцейскай уніі Свята-Троіцкую царкву ў праваслаўных забралі ўніяты, мошчы перанеслі ў Свята-Духаў манастыр, які застаўся на гэтай зямлі адзіным апірышчам нашай веры...”

– Які сюжэт! Якая сіла духу! – захоплена выгукнуў, поўны патрыятычнага ўздыму, праз што і падаўся на фронт ваенным карэспандэнтам, Брусаў, і, калі б не ягонае захапленне, Купала прамаўчаў бы, як не сказаў нічога ўчора ў Бернардынскім садзе, дзе Брусаў чытаў яму натхнёна: “Покрыв столицы и деревни, Взвились, бушуя, знамена. По пажитям Европы древней Идет последняя война. Под топот армий, гром орудий, Под ньюпоров гудящий лёт, Все то, о чем мы, как о чуде, Мечтали, может быть, встает!” – а пасля ў кавярні “Шуман” даводзіў, што Расія зноў, як у 1812 годзе, уратуе Еўропу. Таму гэтым разам Купала не стрываў.

– Віленскія пакутнікі, можа, і былі, ды наўрад ці праваслаўныя. Гэта, ваша вялебнасць, маскоўскі міт. – Тут архіепіскап ці праз прамоўленую Купалам каталіцкую “вашу вялебнасць”, ці праз “маскоўскі міт”, ці праз тое і другое зірнуў на яго незадаволена, але Купала не спыніўся. – І прыдуманы ён, каб паказаць, што ў Вялікім Княстве Літоўскім, з якім Масква ваявала, ворагі праваслаўя жывуць. Але ж яно не так. Каму, як не вам, ведаць, што ў часы Альгерда ўжо была Літоўская мітраполія, і літоўскія мітрапаліты афіцыйна называліся мітрапалітамі Літоўскімі, Кіеўскімі і ўсяе Русі. Хрысціянству на гэтых землях было трыста гадоў, у князя Альгерда сястра была праваслаўная, падчас княжання ў Віцебску сам ён пахрысціўся як праваслаўны, жонку меў праваслаўную, дык з чаго раптам яму ў галаву ўзбрыло праваслаўных вешаць? Ёсць нават звесткі, што незадоўга да смерці ён пострыг манаскі прыняў, памёр з імем Алексій.

– А па іншых звестках яго пахавалі з 18 коньмі! Значыць, як нарадзіў-

ся паганцам, гэтак паганцам і сканаў, – не стаў Ціхан адказваць, навошта было праваслаўнаму вешаць праваслаўных. – Ды няхай і не вешаў, і няхай нават прыняў манаскі пострыг. Але міт – іншы. І няма нічога больш трывалага, чым міт, які ўсвядомлены мільёнамі людзей як рэальнасць. Можна перайначыць гісторыю, але нельга перайначыць міт. Яго немагчыма пабурыць. Можна зруйнаваць храмы, але нельга парушыць веру. Можна зруйнаваць, спаліць Ноўгарад, Маскву, але нельга спаліць, парушыць святую Русь... Я ведаю вашы погляды, праглядаю вашу газету, – падліў ён гарбаты Купалу. – І вось што скажу... Сам чалавек маленькі, дасягнуць вялікай мэты не можа без дапамогі Бога. Гэтак і народ... А ў выпадку з беларусамі яно проста немагчыма, бо вам няма ад каго чакаць дапамогі. Бог, вядома, спрыяе ўсім, хто моліць дапамагчы, хто ў малітвах Яго ўслаўляе, але найперш дапамагае Ён тым, хто нечым ахвяруе дзеля Яго. Магчыма, я не ўсё ведаю, але нічым і нікім вы дзеля Бога не ахвяравалі. А калі й ахвяравалі, дык ахвярамі вашымі скарысталіся іншыя, якія называліся не вамі. Хіба не так?..

– Але ж Бог помніць... – пачаў Купала, каб сказаць, што Бог памятае, чые насамрэч былі ахвяры, і архіепіскап паклаў сваю руку на ягоную: “Не”.

Рука архіепіскапа была цёплая і мяккая, нават пульхная. Як пірог, якім ён частаваў. Ён не сказаў, як сказала пазней княгіня Радзівіл: “Бо няма беларускага Бога”, – але Купала, пачуўшы ягонае “не”, менавіта так падумаў, і Брусаў, не зразумеўшы пачутае, спытаў: “Што вы маеце на ўвазе, уладыка?..”

Ціхан не адказаў.

Пазней, калі скончыцца вайна, выбухне рэвалюцыя, калі ў Мінску абвесціцца незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, якую задушаць бальшавікі, Патрыярх Маскоўскі і Усяе Расеі Ціхан дазволіць служыць у праваслаўных храмах па-беларуску і благаславіць беларускі народ і Урад БНР. Зробіць ён гэта дзеля пашырэння ўплыву праваслаўнай царквы, а не праз тое, што чытаў у Вільні “Нашу Ніву” і вёў размовы з Купалам, але, магчыма, згадае, падпісваючы сваё благаславенне, і пра гэта.

На лета, на другім годзе Першай сусветнай вайны, калі ад патрыятычнага ўздыму Брусава нічога не засталося, а вайна «по пажитям Европы» дакацілася да Вільні, вакол Свята-Духава манастыра прайшоў хросны ход. Праваслаўныя вернікі на чале з архіепіскапам Ціханам развітваліся з віленскімі пакутнікамі, мошчы якіх пераносіліся ў Маскву. Са Свята-Духава манастыра ў Данскі манастыр, у Малы сабор, каля якога й стаяў цяпер, гледзячы ў вялізны пралом з парушанай брамай у манастырскай сцяне, на крыжовы шлях Купалы, на “хросны ход” на чале са Сталіным, замардаваны ім патрыярх Ціхан.

– Няхай сабе Альгерд пахрысціўся, каб ажаніцца з праваслаўнай віцебскай княжной, і няхай не збіраўся ён праваслаўных караць, – гэтакім голасам, нібы яны толькі ўчора развіталіся, сустрэў Купалу патрыярх. – Дык і Пілат не хацеў караць Хрыста. Гэтага патрабавалі абставіны. І не толькі пасады вялікага князя ці рымскага намесніка. Да гэтага змушала ідэя, носьбітамі якой яны былі. Ідэя, якая большая за любога чалавека. Бо сам чалавек, хай самы найвялікі, што?.. Толькі чалавек. Альгерд стаў манахам, каб грэх замаліць, Пілат атруціўся. Утапіцца хацеў, але вада, якой рукі ён вымыў, не прыняла яго... У кожнага свой грэх і ў кожнага свой крыж, – памаўчаўшы, доўжыў Ціхан, вакол якога збіралася ўсё болей нябожчыкаў са Старых могілак, якія ў сваіх файна пашытых пахавальных

строях, у парадных мундзірах адрозніваліся ад нябожчыкаў з могілкаў Новых, як людзі таго свету ад людзей свету гэтага. – Вось і таварыш Сталін, – падышоў патрыярх бліжэй да парушанай брамы...

– Досыць! – зірнуўшы на Сталіна, які насуплена маўчаў, павярнуўся да Несцярэнкі Тухачэўскі. – Выконвайце абавязкі, палкоўнік! – І Несцярэнка ступіў да Купалы: "Гэта тут. Кладзіце крыж і самі кладзіцеся".

Купала паклаў крыж. Лёг на яго спінай, раскінуўшы рукі і заціснуўшы медальён у левай, каб бліжэй да сэрца, руцэ. Над ім плыў месяц і роіліся зоркі.

– Ты не першы, хто, данёсшы свой крыж, адчувае палёгку, – сказаў нехта глухаватым, як бы драўляным голасам.

Голас чуўся знізу, ад зямлі...

Але ж не зямля прамаўляе...

"Крыж!" – успомніўся Купалу парабак Пасляк, які распавядаў яму, малому, паказваючы рубцы на руках і нагах, гісторыю пра тое, як пан Бокша, які быў гэтакім самадурам, якога свет не бачыў, і ў якога служыў Пасляк конюхам, раскрыжаваў яго за тое, што не дагледзеў ён любімага панскага жарабца Цымбала. Пасляк не быў у тым вінаваты, нейкая невядомая хвароба Цымбала скасіла, але Бокша слухаць не хацеў нічога і нікога. Ён проста звар'яцеў, дазнаўшыся, што жарабца не стала – і пахаваўшы Цымбала ў парку пад вокнамі маёнтка, паставіў на магілу крыж з раскрыжаваным конюхам. Пасляк і сканаў бы на тым крыжы, калі б назаўтра крыж не сказаў пану Бокшу, які прынёс кветкі на магілу жарабца: "У смерці таго, хто тут пахаваны, ніхто не вінаваты. А вінаваты ў смерці таго, хто тут раскрыжаваны, будзе пакараны Богам!" Праз гэта Бокша сам ледзь не сканаў са страху і загадаў зняць Пасляка з крыжа.

"Крыжы – сімвалы нашай веры, знакі Бога, і яны заўсёды падаюць голас тым, каго без віны караюць, і заступаюцца за іх", – пачуўшы голас крыжа, згадаў Купала голас Пасляка, неверагодныя ягоныя гісторыі, байкі ды казкі.

На трэці дзень па смерці ён адчуў сябе шчаслівым. Такім шчаслівым, як аднойчы ў Прудзішчы, куды перабраліся бацькі з Сеніцы, калі было яму гадоў дзевяць. У пойме рэчкі Вячы выкасілі яны з бацькам і парабкам Пасляком лугавіну, высушылі сена, пад вечар другога дня склалі стог на ўзлеску, ён ускараскаўся наверх, лёг вачамі ў неба і слухаў Пасляка, які сядзеў пад стогам і распавядаў яму казку пра Яна і Сатану.

"Жыў-быў хлопчык Ян, над панамі пан, і даў яму Бог..."

"Як гэта над панамі пан?"

"Ніяк. Гэта так, для складу. І даў яму Бог талент..."

"Што даў? Талер?.."

Парабак Пасляк гаваркі быў чалавек. Бацька, калі распавядаў нешта, казаў: "Слухай і маўчы!" А з Пасляком можна было размаўляць. Ён сам прыдумляў свае казкі, і, калі тым, хто слухаў, штосьці не падабалася, тут жа распавядаў іначай. Ці прапаноўваў разам прыдумаць нешта іншае.

"Талент даў. Гэта здольнасць да нечага. Маляваць, штукі ўсялякія паказваць. А Ян меў талент на жалейцы граць ды песні складаць, якія ўслаўлялі Бога. І гэтак ён файна граў, і такія пявучыя песні складаў, што анёлы Божыя прыляталі, каб яго паслухаць. А д'яблавыя анёлы..."

"Якія?.."

"Д'яблавыя. Ты думаеш, толькі Божыя анёлы ёсць? Не, ёсць і д'яблавыя. Д'ябал сам анёлам быў, пакуль Бог яго з нябёсаў у пекла не скінуў".

“За што?”

“За тое, што чалавеку, стварэнню Божаму, не захацеў пакланіцца. Прызнаць вышэйшым над сабой”.

“А ў Святым пісанні я чытаў, што скінуў, бо той анёл, Сатана, захацеў быць роўным Богу. Там так напісана”.

Пасляк шморгнуў незадаволена.

“Чаго ж пытаеш, калі чытаў?.. Хітры такі. Ну, напісана й напісана. Там свая казка, а я табе сваю расказваю... Дык вось д’яблавыя анёлы, чэрці, сталі Яна падгаворваць, каб ён для іх граў і спяваў. Сатану ўслаўляў. Абяцалі горы залатыя. Спакушалі: «Сыграй нам – і будзе табе пернік. Саспявай – і будзе цукерка. А Бог, якога ты ўслаўляеш, што табе дае?..»

Бог не даваў ні пернікаў, ні цукерак, і пачаў Ян граць для чарцей. Спачатку паціху, пасля ўсё гучней. Спяваў з імі, скакаў, весяліў. Сам весяліўся. А яны пернікі з цукеркамі, якімі спакушалі, клалі ўсё бліжэй да краю прорвы, якая ў пекла абрывалася...”

“А хто пекла прыдумаў? Сатана?..”

“Не. Усё Бог стварыў. Пекла таксама”.

“А нашто?”

“Як нашто? Некуды ж трэба было Сатану падзець... І Сатана сядзеў у пекле, чакаў, пакуль Ян у прорву сарвецца. Божыя анёлы казаць Яну стаміліся, каб не хадзіў па адной дарозе з чарцямі, бо падмануць. Паабяцаюць рай, а зацягнуць у пекла. Ды Ян анёлаў не чуў. Схіліўся, каб цукерку ўзяць на крайку прорвы – і ў прорву паляцеў. Сатану ўслаўляць. Сатана зарагатаў і закрычаў з пекла да неба: Божа! Як я магу пакланяцца таму, каму Ты талент даў, а ён гнецца, каб цукерку ўзяць? Як ён можа быць вышэйшы за мяне?..

І Бог прамаўчаў. Схаваўся за д’яблам”.

“Як гэта Бог схаваўся за д’яблам?”

“Ну, як... Прамаўчаў. Не адказаў д’яблу. А што значыць не адказаць? Значыць схавацца... Добра, – адступіўся трохі Пасляк, адчуўшы, як тое, што ён сказаў, напружыла ягонага суразмоўцу. – Няхай не за ім самім схаваўся, за словамі ягонымі. Але гэта адно і тое”.

Купала добра помніў, як сказанае Пасляком сапраўды яго напяла, і ён доўга ляжаў моўчкі, узіраючыся ў раенне зорак.

“Я думаў, што адно і тое – слова і Бог. Так напісана...”

“Ну так... Слова і Бог таксама адно і тое. Бог хаваецца за д’яблам, д’ябал – за Богам. Адзін за адным”.

“І мы?..”

“Што і мы?..”

“І мы з нашымі словамі адно і тое?”

“А як інакш? Калі ў нас і д’ябал, і Бог. Ці ў табе няма д’ябла?”

“Я не ведаю”.

“Не ведае ён... Спакусы ж у табе ёсць? Пернікі з цукеркамі...”

“Ёсць...”

“Ёсць. Дык а хто спакушае? Сатана. Абяцае, абяцае, абяцае... Але абяцае толькі для падману. А ты верыш. І я... Усе вераць”.

Па голасе было чуваць, што парабак Пасляк стаміўся. Але хацелася з ім дагаварыць.

“Таленавіты ён...”

“Хто?”

“Сатана”.

“Бадай што... Абяцаць і падманваць так, каб усе верылі, гэта талент... Талент... Нездарма ён быў любімым анёлам Бога...”

Пасляк засоп. Заснуў пад стогам.

Над стогам, на скошанай лугавінай, над Вячай, над Прудзішчамі, над усёй зямлёй і вадой плыў месяц, на якім сядзеў Сатана з вудай і лавіў зоркі. “Хочаш зорку?..” – спакушаў.

Зоркі роіліся ўсё ясней, Вялікі Воз, на які можна было сесці і паехаць, пакаціўся па Божым шляху, і колькі пасля ні спрабаваў Купала ўспомніць, адказаць сабе самому, што было далей: сон, трызненне, ці на яве ўбачыў ён недзе ў сярэдзіне Божага шляху дзіўнай прыгажосці твар, пра які й гадаць не трэба было, чый ён? – бо гэтакі твар мог быць толькі Божы, і ён наплываў, набліжаўся, усміхаўся ва ўсе нябёсы, нібы радуючыся таму, што бацька з Янкам і Пасляком высушылі сена, склалі такі ладны стог, на якім можна ляжаць і глядзець на зоркі, мроіва якіх – ён раптам гэта адчуў, калі ўзняўся над сабой – было Божым целам, часцінкай якога былі месяц і зямля, і ён сам, лятучы хлопчык, самы маленькі з усяго, што мігцела і свяцілася, што было Божым шляхам, Божым светам, у якім самым дзіўным з усяго, што ён адчуваў, была роўнасць яго, наймаленькага, усяму найвялікаму, і ўсё гэтае найвялікае неверагодным чынам мясцілася ў ім, мясціўся ў ім, маленькім, Бог, чаго, вядома, не магло быць, але адчуванне было менавіта такім, і яно напоўніла яго бязмежнай, здольнай спыняць і зноў пачынаць рух Сусвету, сілай, якая так працала, што зрок замгліла, і ён спалохаўся, ускрыкнуў: “Божа!..” – а Бог усміхнуўся ў ім самім ва ўсе нябёсы і сказаў: “Не бойся...”

## 38

– Я не шукала цябе, – сказала, з’явіўшыся, Ганна, як быццам тое, што яна не шукала яго, нешта мяняла. – Кручa цябе шукаў. Тэлефанаваў у Мінск, у Саюз пісьменнікаў. Там сказалі, што цябе ў горадзе няма, і яны не ведаюць, дзе ты. Ён падумаў, што ты ў мяне. Што я цябе хаваю. Мы сустрэліся, ён пачаў вінавацiцца. Не перада мной, перад табой. Я не ўцяміла, у чым? Сказала, што таксама не ведаю, дзе ты ёсць. Гэта днём было, а вечарам Круча запрасіў мяне ў цырк. Я так здзівілася, што пайшла. А там дырэктар антыкварнай крамы. Вензель. Аказалася, ён і ў цырку дырэктар. І гэтак пад Кручу сцяліўся, проста пад ногі. Круча пра цябе не казаў яму нічога, ён сам спытаў: “Вы Маргера шукаеце? Дык ён у Крэве”. Завёў у кабінет, стаў частаваць. Дарэчы, кабінет такі самы, як у краме. Нібы дырэктар гэты перайшоў з крамы ў цырк разам з кабінетам. З той жа карцінай, на якой Сталін глядзіць у тэлескоп. Вось як такое можа быць, калі карціна ў мяне дома? Я вярнулася – вісіць. Фокус нейкі. А Вензель, калі праводзіў, зноў пра цябе: “Я думаю, вы да яго паедзеце. Перадайце прэзент…” І даў пляшку, – дастала Ганна з сумкі зеленаватую бутэльку. – Прапаную выпіць за сустрэчу!..

З таго, што сказала Ганна, нельга было зразумець не толькі тое, як карціна магла быць адначасова і ў кабінеце дырэктара цырка, і ў яе дома? Ну, няхай гэта фокус. Тады тое, што Круча раптам завінаваціўся, фокус таксама. Бо ў чым яму вінавацiцца? Калі нехта з іх і вінаваты, дык не Круча перад Віктарам. Наадварот. Праз гэта Віктар з’ехаў з Масквы. Уявіў: вось яны спаткаюцца, і Круча спытае…

Ясна, пра што спытае. І што адказаць?.. Не толькі Кручы. Бычыку, Барадзе,

Вышэнскаму, Кавалю… Усім. Той жа Ганне, якая, не шукаючы, яго знайшла і прапануе выпіць за сустрэчу.

– Што ты тут робіш? – спытала яна, калі выпілі. – Тут жа адны руіны ды міты пра іх. – І слухаючы, як ён распавядае пра пастушка з жалейкай, глядзела на яго з жалем.

Ён, як ніколі раней, адчуваў сябе моцным. А яна шкадавала яго, як слабога. Бо моцныя не там, дзе руіны.

Яна прыехала, каб забраць яго з руінаў, з ягоных мітаў, з ягонай гісторыі – і перанесці ў сваю.

Яны сядзелі на Юр'евай гары, глядзелі на тое, што засталося ад замка, – і бачылі рознае. Яна зусім не тое, што ён, а ён зусім не тое, што яна.

– Ведаеш, чаго не хапае гэтым руінам? – спытаў ён, і калі Ганна сказала: “Рэстаўрацыі”, – кіўнуў. – Так. А чаму ім не хапае рэстаўрацыі? Бо не хапае мітаў. Не даўніх, іх болей, чым гэтых сівых камянёў, а сучасных, якія можна было б звязаць з даўнімі ў адну жывую нітку, і адчуць, як па ёй, жывой, з глыбіні вякоў, пульсуючы, прабягае час. Кроў гісторыі. Не чыйсьці час чыёйсьці гісторыі, польскай, рускай ці літоўскай, а час нашых продкаў, якія жылі на гэтай зямлі і, каб абараніць яе, збудавалі гэты замак. Няхай у тых сівых вяках яны не называліся беларусамі, але кроў у іх была тая самая, што і ў нас. І нельга адрачыся крыві! Нельга! Гэта здрада, ганьба! Але мы адракліся – і не адчулі ганьбы. Чаму? Бо не разумелі, ад чаго адракаемся. Бо не ведалі, што гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, гэта і ёсць наша гісторыя. Бо для нас прыдумалі міты, у якіх нашай гісторыі не было, а з нашай гісторыі, з нашай крыві стварылі свае міты суседзі. А міт такая рэч, якую не забраць. Гэта не зямля, якую заваяваць можна, а тое, што над ёй, што і робіць яе тваёй зямлёй. Дык як быць? З руінаў замак падымаць? Так, але, каб падняць гэтыя камяні, трэба падняць міты. У іх, у мітах – мэта, дзеля якой варта падымаць камяні. І, як толькі мы пачалі гэта рабіць, у купалаўскія часы пачалі, цяпер зноў паспрабавалі, Каралевіч у сваіх раманах паспрабаваў, на міты нашы накінуліся, як сабакі на костку. І не толькі чужынцы, прыхадні, але і тутэйшыя. Тыя з іх, у кім, як свае, пасяліліся чужыя міты. Гаўкаюць і грызуць, грызуць і гаўкаюць. Нічога так не грызуць і ні на што гэтак не гаўкаюць. Значыць, разумеюць, што схаванае ў мітах. Якая сіла! А ты кажаш: пыл над руінамі…

Ганна слухала яго здзіўлена, і Віктар разумеў, чаму яна здзіўляецца: ён ніколі з ёй пра гэта не гаварыў. Ніколі не быў з ёй такім. Хіба толькі аднойчы, калі вярнуўся з Даніі, куды ездзіў са студэнцкім тэатрам.

У інстытуцкім самадзейным тэатры паставілі “Гамлета”. Люся Бурсіна, якая ў той час яшчэ не пісала піянерскіх вершаў, мела замежнага знаёмца, аташэ па культуры дацкай амбасады. Яна прывяла яго на спектакль, у якім грала ролю каралевы, і іх самапальны, як кальвадос з Рагожскага рынку, тэатр запрасілі ў Данію на шэкспіраўскі тэатральны фестываль.

Праходзіў той фестываль у невялічкім гарадку Хельсінгёр, у замку Кронбарг, які Шэкспір у сваёй п'есе назваў замкам Эльсінор і пасяліў у ім Гамлета. У каралеўскай бібліятэцы стаяў вялізны стол, і акторка студэнцкага тэатра з Капенгагена сказала Віктару, што за тым сталом і напісаў Шэкспір трагедыю пра дацкага прынца. Сказала яна пра гэта без ніякага сумневу – і Віктару ўспомнілася сказанае Шэкспірам: “Нашы сумненні – нашы здраднікі”.

Ён не стаў разбірацца, жартуе акторка ці не, бо ў суседняй зале распавядалі, што менавіта тут перад спатканнем з Афеліяй Гамлет задаўся пытан-

нем “Быць ці не быць?..” У наступнай зале казалі, што менавіта тут закалоў ён Палонія, у чарговай (якая ў Шэкспіра проста “зала ў замку”) – што ў ёй Гамлет біўся на рапірах з Лаэртам, што менавіта тут разыграўся крывавы фінал трагедыі… І ўсё гэта разам узятае падавалася так, нібы Шэкспір, які напісаў гэтую трагедыю, дацкі драматург, у чым калі не ва ўсёй Даніі, дык у Хельсінгёры, дзе турысты пытаюць не “як прайсці ў замак Кронбарг?”, а “як прайсці ў замак Гамлета?”, – ніхто не мае ніякага сумневу.

Усе ведаюць, што Шэкспір ніколі не быў не толькі ў Хельсінгёры, а ўвогуле ў Даніі, што ніколі ў замку не жыў ніякі Гамлет, – але вось што такое літаратура! Створаны ёй міт стаў гэткім жа рэальным, як рэальнасць. Нават большым за яе, бо ён – вышэйшы. І хто б пасля ні даводзіў, што напісаная Шэкспірам трагедыя да гісторыі Даніі не мае ніякага дачынення, – міт заставаўся непарушным.

Не толькі ў вытоках дацкай гісторыі, у якой, між іншым, напісана, што той жа Хельсінгёр, дзе праходзіў фестываль, заснаваны ў 70 годзе да новай эры, пра што нібыта сведчылі рымляне, хоць нічога такога рымляне не сведчылі, бо не было чаго сведчыць, але і ў вытоках гісторыі Англіі, Францыі з усімі іх войнамі і рэвалюцыямі, у вытоках гісторыі любой краіны свету – міт. І ён тым глыбейшы, чым глыбейшая гісторыя, у падмурку якой ён ляжыць, і не ў галаве датчанам, ангельцам, французам, увогуле нікому ў свеце не ў галаве свой нацыянальны міт бурыць.

– Нікому, апроч беларусаў, – казаў ён, вярнуўшыся з каралеўскага замка ў Хельсінгёры ў сваю качагарку ў Маскве, Ганне. – Не паспеў замацавацца міт пра літвінскую Беларусь, пра яе вялікіх князёў, самаахвярных герояў, легендарных ваяроў, як тут жа сабакамі накінуліся грызці гэты міт тыя, для каго Беларусь пачалася з “вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі”. Чаму? Бо літвінская Беларусь з яе легендарнымі князямі, ваярамі, героямі – гэта гісторыя магутнай еўрапейскай краіны, глыбокая нацыянальныя гісторыя. А такой, як лічаць гаспадары сабачай зграі, у беларусаў няма і не можа быць. Бо на тле гістарычных мітаў пра вялікіх князёў, самаахвярных герояў, легендарных ваяроў цяперашнія “князі”, “героі”, “ваяры” – блазены. Карлікі. І нават не з п’ес Шэкспіра.

Дарэчы, Шэкспір – таксама міт. І хто толькі ні спрабаваў яго парушыць! Давесці, што Шэкспіра не было. Але ўсе яны даводзілі гэта толькі самім сабе – і больш нікому. Шэкспір як стаяў, гэтак і стаіць непарушна. Бо ён даўно перарос міт Англіі, стаўшы мітам чалавецтва, у вытоках гісторыі якога – суцэльныя міты.

“Ты хочаш стаць беларускім Шэкспірам?” – спытала Ганна ў качагарцы, і ён адказаў, бо спытала яна з’едліва: “А чаму не? Ты ж стала дачкой Купалы”.

Цяпер яна пытае: “Што ты тут робіш над руінамі?..” І глядзіць на яго з жалем.

– Пайшлі! – узяў ён яе за руку і павёў з Юр’евай гары да замка. – Будзем лічыць, што ў нас шэкспіраўскі фестываль... Увесь свет ведае гісторыю пра караля Ліра, які, састарэўшы і стаміўшыся быць каралём, вырашыў скінуць з плячэй сваіх цяжар улады і падзяліць каралеўства на тры часткі паміж трыма дочкамі, адну з якіх, Кардэлію, у апошні момант абдзяліў. Увесь свет ведае, што было з каралём Лірам і ягоным каралеўствам далей. А вось гісторыя пра ўладара Вялікага Княства Літоўскага Гедзіміна, які, састарэўшы, вырашыў падзяліць паміж сямю сынамі найбагацейшыя гарады сваёй дзяржавы, наймагутнай у тыя часы ва ўсёй Еўропе, не такая вядомая.

– Бо на Гедзіміна не было Шэкспіра? – спытала яна, як у качагарцы, з’едліва, але цяпер гэта не зачапіла яго.

– Так. Бо Шэкспіра на Гедзіміна не было, – падвёў ён Ганну да замкавай Княскай вежы. – Але жарсці тут віравалі не меншыя, чым у ягоных трагедыях. Па спадчыне Гедзімін перадаў вялікакняскі вянец старэйшыму сыну Яўнуту, а двух сваіх сыноў вялікі князь абдзяліў. У тым ліку Альгерда, якому дасталося Крэва, а той палічыў, што варты большага. І рушыў вайной на брата свайго Яўнута. Адабраў у яго вялікакняскі вянец – і з дапамогай яшчэ аднаго свайго брата, Кейстута, сам стаў вялікі князем. Амаль праз сорак гадоў Кейстут гэтаксама, як дапамог Альгерду, дапаможа стаць вялікім князем і сыну Альгердаву, свайму пляменніку Ягайлу. А Ягайла ў “падзяку” за гэта загадае яго забіць. І Кейстута забілі. Задушылі. Вось тут, у сутарэннях гэтай вежы. Сюды ж быў кінуты Вітаўт, стрыечны брат Ягайлы, сын Кейстута. Ён меў прэтэнзіі на вялікакняскі вянец, і яго чакаў такі ж лёс, як і бацьку. Але Вітаўт цудам ацалеў. Збег, пераапрануўшыся ў жаночую апратку, падмануўшы варту. І як ты думаеш, хто яго, рызыкнуўшы сваім жыццём, ўратаваў?

– Жонка.

– Так. Жонка. І ўгадай, як яе звалі?

– Ганна. Інакш для чаго б ты распавядаў мне гэтую гісторыю.

Яна ўгадала. Ён абняў яе: “Ты мяне ўратуеш?.. Рызыкнеш?..” – і Ганна выслізнула з ягоных рук: “Рызыкну, калі ў цябе прэтэнзіі на вялікакняскі вянец будуць”.

Ён не пра тое пытаў. Зусім не пра тое.

– Ты ж клікала мяне з’ехаць з гэтай краіны. А цяпер зноў клічаш пад яе вянец? Мы з’ехалі – і вярнуліся?

– Не. Мы ў дарозе.

– У які бок, Ганя?.. Вось тут, дзе ты стаіш, за вянец забівалі адзін аднаго. Прадавалі. Ягайла тут, забіўшы дзядзьку і брата, Айчыну прадаў. Пергамен у гэтым замку падпісаў, унію, праз якую стаў польскім каралём, аддаўшы Вялікае Княства пад карону. Гісторыкі пішуць, што ў тым была гістарычная неабходнасць, але я ведаю, што не.

– Скуль ты ведаеш? Ты быў тут, калі ён унію падпісваў?

– Быў! Я быў тут да таго, як нарадзіўся. Быў заўсёды – і заўсёды буду. Гэтая зямля – я, і я – гэтая зямля. Вось з яе я ўсё, што было на ёй, і ведаю. Калі яе прадалі, дык прадалі і мяне. І ў яе, і ў мяне быў бы зусім іншы лёс, калі б нас не прадавалі. І каб толькі Ягайла! Усе! Усім ім, хто пад вянцом, пад каронай, пад аднагаловым ці двухгаловым арлом, мала ўлады, якую маюць. Прагнуць большай і большай. І распухаюць ад пыхі! Ягайлу захацелася каралеўства не толькі таму, што яму мала было княства. Кароль Польшчы хоць і не такі кароль, як кароль Брытаніі, але манарх. А князь Літвы, хоць ён і вялікі, дзікун. Кроў не блакітная і костка не белая. Дзікунам косткі пад стол кідаюць. Таму і закарцела яму з польскай каралевай шлюбам пабрацца, каб з манархамі за адным сталом сядзець, кінуўшы пад ногі ім, як костку, Літву. Вось і ўся гістарычная неабходнасць. Улада – вір, у які калі ўжо закруціць... ты куды, Ганя? Ты што! – кінуўся ён за ёй у сутарэнні Княскай вежы, схапіў за руку. – Стой! Мы нават малымі лазіць сюды баяліся, бо камяні абвальваліся. Ты куды мяне цягнеш?..

– У вір!.. – скінула яна з сябе сукенку, больш на ёй нічога не было. – Бяры маю апратку, ратуйся!.. Дзеля каго рызыкавала Ганна жыццём? Дзеля чаго? Што Вітаўт зрабіў, кім стаў, уратаваўшыся? Ну, кажы! Ці я сама скажу, калі

ты забыўся, што па маці ўва мне літвінская кроў, і ўсё гэта я не горш за цябе ведаю. Вітаўт скінуў намесніка Ягайлы ў Літве і сам стаў вялікім князем! Скінуў і стаў! І калі б ён гэтага не зрабіў, ніякай тваёй Лтвы не засталося б, Ягайла б спалячыў яе ўшчэнт! Вось дзеля чаго Ганна жыццём рызыкавала, вось каго ратавала! А ты чаго хочаш? Стаць пастухом у Крэве? На жалейцы каровам граць? І хочаш, каб дзеля гэтага я ратавала цябе? Жыццё на цябе паклала ў гэтым закінутым мястэчку? Дзеля чаго?..

О, Пяруне!.. Якая яна, раз'ятраная, прыгожая была! І колькі ў ёй волі, сілы! Вось што значыць літвінская кроў! Калі яна яшчэ і ад Купалы, дык чыста літвінская! Шкада, што ў яе дзяцей няма.

"Шкада..." – адчуў ён жаданне, і Ганна яго адчула. "Што ж, паспрабавалі на гары, давай і ў падзямеллі паспрабуем", – раскінулася яна перад ім, і калі ён узяў яе, калі яны, ледзь не задушваючы адно адное, зліліся, над Крэвам пракаціўся, скалануўшы зямлю, гэтакі гром, што два камяні, адзін звонку, другі знутры вежы выпалі са сцяны, заваліўшы ўваход у падзямелле.

## XXXIX

"Не бойся, не бойся... – казала, кружляючы над Купалам, над лугавінай у Прудзішчы і над могілкамі ў Маскве, Спагада. – Балюча не будзе, на трэці дзень ужо не баліць... Паглядзі, што ў медальёне. А то рукі прыб'юць – не пабачыш".

Трэба было б глянуць, ды не хацелася рухацца. Даўно так утульна нідзе яму не ляжалася, як на гэтым крыжы. Нібы пераклалі яго на крыж гэты са стога над Вячай. І нічога не змянілася: той жа месяц, зоркі, той самы Божы шлях, па якім коціцца той жа Вялікі Воз.

"Вялікі Воз нагружаны цвікамі..." – глухаватым голасам сказаў крыж, калі Купала падумаў, колькі за прамінулыя з таго часу пяцьдзясят гадоў застрэлена, павешана, пасечана, атручана, спалена, замарожана холадам, заморана голадам, раскрыжавана людзей... Па якой прычыне іх доля мусіла абысці яго?

Няма такой прычыны.

– Пачынайце! – падаў Несцярэнка малаток з цвікамі Маякоўскаму, які стаяў каля крыжа, нібы прымяраючыся да яго, і адступіў назад: "Я паэт, а не кат!"

Несцярэнка паглядзеў на Сталіна, той падышоў, узяў цвікі і стаў раздаваць: "Усе ўсё бралі?.. Прэміі, званні, ордэны... Дык і цвікі вазьміце... Трэба было раней не браць... А цяпер позна... Не выйдзе так, каб нехта не... Вялікі Воз нагружаны цвікамі".

Ён паўтарыў тое, што хвіліну таму прамовіў крыж. Слова ў слова.

"Так, – пачуўся голас знізу. – На Вялікім Возе цвікі для ўсіх. Але гэты крыж не ягоны".

Купала не зразумеў тое, што пачуў. Хацеў спытаць, што гэта значыць, але Кашкадамаў крыкнуў: "Прыбівайце!" – і штурхнуў у спіну Кірава. "Смялей, Сяргей Міронавіч!.."

– Навошта воз цвікоў, калі патрэбныя ўсяго чатыры?.. Нават тры... – узяўшы цвік, пакруціў яго ў пальцах Кіраў. – Як у Хрыста: па адным у рукі і ў ногі адзін, – а святы Серафім устрапянуўся: "Калі ўжо як у Хрыста, дык два крыжы яшчэ трэба. Для двух разбойнікаў".

– Які Хрыстос? Якія разбойнікі?.. – выхапіў малаток з рук Несцярэнкі і замахаў ім Кашкадамаў. – Вы тут казкі папоўскія не расказвайце, а рабіце,

што суд пастанавіў! Вырак суда па пратаколе нумар адзін выконваюць асуджаныя па пратаколе нумар два! Дык выконвайце!..

Куйбышаў, Горкі, Маякоўскі, усе, каго прыгаварылі да расстрэлу, моўчкі глядзелі на Кашкадамава, на Купалу, адзін на аднаго... Некаму трэба было ўзяць малаток і ўвагнаць першы цвік.

Доўга стаялі...

– Як выконваць? – нарэшце плаксіва спытаў Горкі. – Я нікога не прыбіваў да крыжа ніколі.

Купала, успомніўшы пра ворага, якога знішчаюць, калі ён не здаецца, падумаў: “Не, Аляксей Максімавіч, прыбіваў...” – але ўголас не сказаў гэтага.

– Хто першым быць хоча? – павярнуўся Кашкадамаў да старых могілак, да Малога сабора, з якога выйшлі і наблізіліся да брамы на могілкі новыя трое русявых, у зрэбнае апранутых, з шэра-блакітнымі вачамі моцных мужчын. – Можа, нехта з вас?

Русявыя спыніліся ў браме, пра нешта перагаварылі паміж сабой, адзін ступіў наперад.

– Нельга нам. Гэта Купала. Некалі жрацы казалі, што з’явіцца чалавек з іменем бога і павядзе нас, і ўратуе. Дык, можа, ён гэта. З іменем бога. Так што нам нельга.

Кашкадамава, як на спружыне, падкінула.

– Якія яшчэ жрацы? Якога бога? Я сам і жрэц, і жнец, і на дудцы грэц! А вы хто?

Падскокі ягоныя ні на аднаго з русявых ніяк не паўздзейнічалі, і той, які ступіў наперад, сказаў спакойна: “Я Круглец. Яны, – паказаў на паплечнікаў, – Кумец і Няжыла. Жрацы нашы – крывіцкія, а імя бога, – Купала. Ён бог сонца, праз якое жывем, агню, праз які ачышчаемся, і святла, праз якое не блукаем у цемры. І якраз на Купалу, у дзень бога нарадзіўся чалавек з ягоным іменем, якога вы збіраецеся раскрыжаваць. Але гэта без нас. Гэта ваш суд, гэта вы самі”.

– Ды што іх слухаць! – не вытрываў маршал Тухачэўскі. – Бог агню, бог сонца, бог святла! Мы ў якім часе?.. Давай, Кашкадамаў! – махнуў ён, як малатком ударыў, правай рукой, і Кашкадамаў увагнаў цвік у правую руку Купалы. Спрытна, адным ударам – і кінуў малаток пад ногі Горкаму: “На!..”

Купала адчуў, як уздрыгнуў крыж пад ім. Уздрыгнуў і сказаў: “Трывай і не бойся”.

Дарма Спагада супакойвала, што балець не будзе. Яшчэ як забалела! Купала міжволі ўскрыкнуў: “За што?..” – і ўсе, апроч Кашкадамава, адвярнуліся, а крыж спытаў: “Помніш легенду пра прарока?”

Купала не помніў. Можа, і ведаў ён тую легенду, але цяпер, на крыжы, чакаючы новага болю, успомніць не мог.

“Ты ўваскрэснеш, калі спраўдзіцца тваё прароцтва”, – нагадаў крыж, і Купалу зноў пачуўся голас парабка Пасляка. Пад тым жа стогам над Вячай у Прудзішчы.

Ён успомніў легенду...

“Жыло-было на свеце племя сінявокіх людзей. Жылі яны не надта багата, але пад сваім небам на сваёй зямлі – і чужой не хацелі. А па іхняй зямлі ў чатыры бакі – на ўсход і на захад, на поўдзень і поўнач – хадзілі і хадзілі заваёўнікі. Племя білася, змагалася за сваё, ды заваёўнікі насоўваліся і

насоўваліся, як чорныя хмары, і не злічыць іх было. Прыходзілі адны – і забіралі кавалак зямлі з усходу, прыходзілі другія – і забіралі з захаду, ссоўваючы племя ў лясы ды балоты. Сінявокія людзі балоты асушвалі, лясы карчавалі, мазалямі і потам здабытую зямлю засявалі, а ворагі зноў па кавалках забіралі яе. І аднойчы прыйшлі, каб забраць усё, што засталося.

Тады стаў пад высозны, векавечны дуб, што рос на месцы, з якога пачыналася зямля сінявокіх людзей, іхні Прарок, і сказаў, што калі зараз яны адыдуць, дык адыдуць ужо не ў балота, а ў нябыт. А калі выстаяць, як выстаяў ва ўсіх бурах векавечны дуб, калі адстаяць сваю зямлю, дык з племені стануць народам.

Сінявокія воі кінуліся ў бой, але ворагаў была процьма, у некалькі разоў болей, чым людзей племені, якіх яны забівалі, а хаты іхнія бурылі. Апошніх з тых, хто застаўся жывы, сагналі пад векавечны дуб, нацягалі пад яго бярвенняў з пабураных хат і падпалілі. Дзень і ноч высока, ці не да самых зорак шугала полымя, попелам сталі бярвенні і прахам сталі людзі, а з дубам нічога не сталася. Толькі адзін лісток на найбольшым, вузлаватым суку абсмаліўся, сарваўся і зляцеў у рукі Прарока.

На адным баку лістка былі пісьмёны, але Прарок не паспеў іх прачытаць: ворагі схапіліся за сякеры ды пілы! Дзень і ноч секлі і пілавалі, секлі і пілавалі, пакуль вялізны дуб не рухнуў. Страсянуўшы пагоркі і горы, ён прабіў тым вузлаватым сукам, на якім абсмаліўся лісток, жарало ўглыб зямлі, скуль шугануў чырвоны струмень. Гэты быў струмень крыві, якую вякамі пралівалі продкі сінявокіх людзей, што баранілі свой край. Кроў ускідвалася да Божага святла, да сонца, што промнямі сваімі запаліла ва ўсё неба вясёлку, працякаючы скрозь якую чырвоны струмень падаў вясёлкавым дажджом. Там, дзе падала кропля гэтага дзіўнага дажджу на ссечанае дрэва, выраслі два дрэвы! Там, дзе падала кропля на попел спаленай хаціны, паўставалі дзве хаты! А падала кропля на магілу загінулага воя – паўставалі два воі, а на месцы двух – чатыры! І пагналі яны ворагаў з зямлі сваёй.

“Прах і попел уваскрэснуць, калі нявінная кроў зліецца з Божым святлом”, – стаўшы на месцы, дзе стаяў дуб, прачытаў Прарок тое, што напісана было на дубовым лістку. І пра гэтае спраўджанае прароцтва, пра магутны дуб, пра прабітае ўглыб зямлі жарала, з якога да неба шуганула кроў продкаў, пра сонца і вясёлкавы дождж распавядалі бацькі дзецям, а дзеці ўнукам племені сінявокіх людзей. І ўслаўлялі яны Прарока, пакуль зноў не набралі сілы заваёўнікі, якія сталі прыходзіць, як свае, бо за стагоддзі, у якія яны прыходзілі, сінявокія людзі пераймалі іх звычкі, прынялі іх мову, некаторыя нават назваліся так, як называлі сябе прыхадні, і, вінаватыя ў тым самі, не захацелі прызнаць віны, а звінавацілі ў гэтым Прарока. “Ты прарочыў, што адстаяўшы сваю зямлю, мы станем народам, а мы на сваёй зямлі сталі прыхаднямі! Ты ілжывы прарок!” – сказалі яны, і раскрыжавалі яго на тым месцы, дзе ён прарочыў. Там, дзе стаяў некалі векавечны дуб, з якога яны зрабілі крыж, на якім напісалі: “Ты ўваскрэснеш, калі спраўдзіцца тваё прароцтва”. І прыбілі да крыжа дубовы лісток».

– А навошта? – памаўчаўшы, бо яго ўразіла гэтая гісторыя, спытаў малы Янка.

Пасляк не зразумеў.

– Што навошта?

– Навошта яны лісток да крыжа прыбілі?

– Ну, не ведаю... Можа, каб пазначыць, што гэта ягоны крыж, а не чыйсьці. Ці каб Прарок напісаў на лістку што-небудзь.

– Што напісаў?

– Ды не ведаю! – засердаваў Пасляк. – Я не прарок, чаго ты прычапіўся?.. – І ўсё ж сказаў, пакруціўшыся ў сене. – Можа, каб напісаў, як народам стаць...

«Гэта можа быць... – падумаў Янка. – Але...» І спытаў: «А як ён напіша, калі раскрыжаваны?..»

Пасляк не адказаў. Спаў.

– Заторгаўся... – працадзіў Кашкадамаў, калі палкоўнік Несцярэнка, насмешлівым позіркам змераўшы ўсю расстрэльную кампанію, падняў з-пад ног Горкага малаток, паклаў адну на адну, левую на правую, да крыві нацёртыя ступні Купалы: “Што гэта ў вас? Стыгматы?.. – і, выбраўшы найдаўжэйшы цвік, увагнаў яго на чвэрць. – А цяпер давайце кожны па чарзе, па адным разе...”

Гэты разам болем праца, як токам. «Калі так, – скрозь боль падумалася, – патрыярха працінала, якога токам катавалі, дык не дзіва, што не вытрываў. І падпісаў паперу – і пачалі маліцца ў храмах за тых, хто знішчаў храмы. “За краіну нашу і ўлады яе...” Перад раскрыжаваным Хрыстом – за Сталіна.

“Як лёгка вінаваціць... – яшчэ падумаў. – І як не проста павінавацiцца. Цяжэй, чым боль стрываць”.

Рубін на медальёне зноў горача кальнуў далонь.

– Давайце-давайце... Сяргей Міронавіч, пакажы прыклад, ты ж ва ўсім першы хацеў быць, – узяў Сталін малаток у Несцярэнкі і падаў Кіраву. – Давайце, усе давайце... Цюк, цюк... Ці ўсе вы думаеце, як трое гэтых паганцаў, што можна глядзець, як некага катуюць, забіваюць, і заставацца чысценькімі? Праваслаўнымі святымі? Маўляў, мы тут ні пры чым... А хто пры чым, калі не вы? Калі вы тут?

Яны пастаялі адзін перад адным, Сталін і Кіраў, вочы ў вочы, і апошні не стрываў, адвёў позірк, узяў малаток. “Цюк” – цюкнуў па цвіку Кіраў, хуценька падаўшы, нібы яму руку апякло, малаток Куйбышаву, той таксама хуценька цюкнуў, і Горкі за імі, прамахнуўшыся і ўдарыўшы Купалу па пальцах, за што прабачыўся, а Купала кіўнуў: “Нічога, Аляксей Максімавіч, бывае...” – і Маякоўскі, і таварыш Коган, і ўсе, хто быў асуджаны, і хто проста быў на судзе, адзін за адным падыходзілі, бралі адзін у аднаго малаток: цюк, цюк, цюк, цюк, цюк...

Калі ты тут, дык ты тут.

– Вялікі Воз нагружаны цвікамі... – яшчэ раз паўтарыў Сталін тое, што прамовіў крыж, і што правадыру, мусібыць, спадабалася. – Вось і ўся ідэя Бога. Але нават яе не варты чалавек.

Святая Ганна ажно войкнула, гэтак абурылася, святы Серафім нахіліўся да яе: “Што ён такое кажа?..” – а яна падышла да патрыярха, нешта пашаптала яму на вуха, той паківаў “Так... Так...” – і павярнуўся да пралому ў сцяне, каб яго чулі і на новых, і на старых могілках.

– Ён кажа тое самае, што казаў. Што ідэя вышэй за чалавека. І з гэтай ідэяй ён бурыў храмы, у якіх маліўся чалавек. Бога адпрэчваў. А сам хрышчоны! І дачку пахрысціў. На ўсялякі выпадак. У Данскім, употай...

“Цюк, цюк, цюк, цюк, цюк...” – як акампанемент да слоў патрыярха, гукалася ў званах манастырскіх сабораў ціхае рэха над могілкамі, і Ціхан,

нібы падстройваючыся пад рытм акампанементу, змяніў інтанацыю, тыцнуў пальцам у Кашкадамава.

– Гэты вырадак хрысціў! Святар з партыйным білетам! З пасведчаннем слугі д’ябла!.. Таму дачка ваша, – правёў патрыярх палец у бок Сталіна, – калі вырасце і дазнаецца, якая нячыстая сіла далучала яе да вялікай таямніцы, новы хрост прыме! Тут, у Вялікім саборы, разам з дзецьмі сваімі!

“Цюк, цюк, цюк, цюк...” – плылі і плылі ў зыркім месячным святле, нахіляліся да ног Купалы твары, людзі ў вайсковым і цывільным, і некаторых ён пазнаваў: маршал Блюхер, камандармы Убарэвіч і Якір, лётчык Чкалаў, рэжысёр Мейерхольд, паэт Клычкоў, пісьменнік Бабель, але большасцю людзі былі незнаёмыя: цюк, цюк, цюк, цюк, цюк...

Пра тое, што Сталін хрысціў дачку, Купала чуў. Ганна казала. Зацягнула яго сярод ночы ў Данскі манастыр, да сабора прывяла: “Мяне ў ім хрысцілі. Разам з дачкой Сталіна, які сябраваў з маім бацькам. Я ўжо вялікая была, усё помню... А праз дзесяць гадоў Сталін бацьку майго расстраляў... – І яна паўтарыла, але зусім інакш, чым толькі што сказала. – Усё помню”.

У тое, што бацьку яе расстралялі, паверыць не цяжка было. А вось у тое, што Сталін дачку хрысціў, што Ганна разам з ёй хрысцілася...

“Не верыш і не вер, – ні ў чым не стала пераконваць яго Ганна. – Ідзі за мной, ўлюбёнае месца на старых могілках пакажу”.

Яны прайшлі паўз Малы сабор амаль да жалезнай брамы ў сцяне паміж старымі і новымі могілкамі і звярнулі ўлева на зарослую дарожку, пасярэдзіне якой узвышалася над астатнімі помнікамі бронзавая постаць анёла. «Крылаты геній, – за руку падвяла Купалу да анёла Ганна. – Нават стоячы на каленях, схілены над магілай, ён узвышаецца над усім і ўсімі. Ведаеш, чаму?.. Бо гатовы ўзляцець! Бачыш?.. Калі мая маці аднойчы, моцна раззлаваная на бацьку, сказала яму, пры мне сказала, што ён сябруе са Сталіным на каленях, бацька прывёў мяне сюды. Каб я зразумела, што і на каленях стаяць можна па-рознаму. Што нават з каленяў можна ўзляцець. І я зразумела... Але не адразу. Зразумела пасля таго як бацькі не стала.

Яна пагладзіла анёла па крыле.

– Восень была. Кастрычнік. Я той дзень запомніла. Пад вечар Сталін быў у нас у гасцях. Наўмысна, мусіць, прыйшоў, ведаючы, што брат нашай маці тыдзень таму расстраляны разам са старэйшай дачкой. Яшчэ адна дачка, малодшая, і сын – на Лубянцы. А маці, таксама ўсё ведаючы, боршч Сталіну налівае. Зубы сцяўшы. Той кажа: “Які чырвоны! Я люблю, калі такі чырвоны. У белай талерцы...” Маці сабралася нешта адказаць – бацька яе апярэдзіў. “Іосіф, у тваёй талерцы – кроў. Ты кроў хлябаеш. Смокчаш косткі людскія...” Сталін не чакаў, лыжку ўпусціў, кіцель запырскаў. Узяў сурвэтку, белую такую, на ёй чырвоныя плямы выступілі. Выцерся і боршч даеў. “Смачны”, – сказаў. Падняўся і пайшоў. А ўночы прыйшлі па бацьку... Як ён глядзеў на мяне, калі яго выводзілі! Маўляў, ну што я табе пра анёла казаў?

У Ганны выступіла і бліснула пад месяцам сляза. Яна скінула яе на надмагілле: “Дарога абыходзяцца палёты...”

Памаўчаўшы, падвяла Купалу да надпісу на пастаменце.

– Анёл гэты над грудком Ганны Трубяцкой. Мяне ў яе гонар назвалі. І маці мая з Трубяцкіх, якія род свой вядуць ад унука вялікага князя літоўскага Гедыміна. І брат яе, якога разам з дзецьмі знішчыў Сталін, ведаючы, што яны – наша радня. Потым і маці маю... Яна прасіць пайшла за бацьку, Сталін сказаў: “Правільна, што сама прыйшла...”

Купала ўважліва ўгледзеўся ў яе напоўненыя месячным святлом вочы.

– Дык ты літвінка?

– Як сказаць... Продкі збеглі з Літвы пяць стагоддзяў таму. Але...

Ганна прытулілася да яго, абняла. Моцна, парывіста, як не абдымала раней. “Не забывай, што ты крылаты. Што крылатыя ўзлятаюць нават з каленяў”.

І пазней, па смерці, ён успомніў! На ўсё забыўся, а гэта ўсплыло... Успомніў, як тады, калі злятаў у лесвічны пралёт, мільганула думка, што, можа быць, і падаючы, узлятаюць, але гэтак хутка думка мільганула, як водблеск далёкай маланкі, якая недзе там, за небасхілам, і пра якую нават не скажаш, ці маланка яна...

– Дачку пахрысціў, а Хрыста адмяніў! – не спыняўся патрыярх. – Двурушнік! А што замест?.. Рай на зямлі?.. На Калыме! Мільёны! Мільёны людзей дзеля раю на зямлі ў зямлю закапаў! Святароў, хоць сам у семінарыі вучыўся, выразаў пад корань! Мяне, патрыярха... – перахапіла Ціхану горла, успомніў, відаць, як яго на Лубянцы токам катавалі, прыніжалі, змушалі сваё дзярмо есці, каб ведаў, хто ёсць ён сам, і што ёсць ягоная, Богам дадзеная яму ўлада перад уладай таварыша Сталіна, які раптам сказаў глуха: “Я сынам сваім ахвяраваў. Зрабіў тое самае, што Бог...” – і гэткага блюзнерства патрыярх ужо не стрываў, руку ўскінуў, хіснуўшыся: “Анафему маю ў самым пачатку вашай крыважэрнай улады ніхто не адмяняў! Не можа быць даравання бязбожнаму ўладару цемры часоў гэтых! Таму на крыж! На крыж, як разбойніка, каб пакутаваў, каяўся, маліўся і прасіў Госпада грахі дараваць!..”

Патрыярх страшны быў – і Купала ўспомніў ягоную цёплую і мяккую, нават пульхную руку. Як пірог, якім частаваў Ціхан яго і Брусава ў Вільні.

Як даўно яно было! Яшчэ на той вайне. Хоць любая вайна адна і тая...

Брусаў пасля вайны, расчараваўшыся ва ўсім, пра што з фронту ў “Рускія ведамасці” пісаў, пайшоў савецкай уладзе служыць. Уступіў у партыю, займеў грамату з удзячнасцю рабоча-сялянскага ўраду. Таксама браў, што давалі.

Але гэта не апраўданне. Тое, што грэх не на адным табе, на некім нават большы, цябе не апраўдвае.

– Каго на крыж?.. – стаяў, вылупіўшы вочы на патрыярха, Кашкадамаў. – Ты што... Ды мы цябе... – не знаходзіў ён слоў, азіраючыся і не разумеючы, чаму ўсе стаяць і маўчаць, нічога не робяць, не падключаюць ток, не раздзіраюць Ціхана на кавалкі, а той уперыўся ў яго:

– Што “мы цябе”? Хто – “мы”?.. Ты вырадак! Калі святаром быў, ты не толькі ў храме служыў. Яшчэ і ў ГПУ! У шостым, д’яблавым аддзяленні! Злыдню Тучкову, якому даручыла д’ябла ва ўлада “ліквідацыю” Бога, дапамагаў! А як толькі з’явіўся ўказ пра канфіскацыю царкоўных каштоўнасцяў, ты што зрабіў? Сваю ж царкву абрабаваў! І здаў не ўсё нарабаванае, не ўсё... Грабніцу святой Ганны памятаеш? – зірнуўшы на святую Ганну, якая дробна западала, ступіў Ціхан да Кашкадамава, і вочы ў яго гэтак гарэлі, што той адхіснуўся. – Дзе медальён з рубінам? Дзе крыж залаты з алмазамі? Дзе ладанка з ніткай з плашчаніцы Хрыста?.. – наступаў і наступаў на Кашкадамава патрыярх. – Злодзей! Рабаўнік! Веру прадаўшы, краў і прадаваў золата! Праваслаўныя святыні! На крыжы тваё месца, разбойнік! Праклінаю! На крыж цябе, на крыж!..

«Вялікі Воз нагружаны цвікамі», – паглядзеў у неба Купала, і Сталін, які стаяў каля яго, сказаў голасам, які прагучаў нібы зверху: “Так... Але я зрабіў тое самае, што Бог”.

Купалу здалося, што Сталін кажа не толькі пра сына, прынесенага ў ахвяру. Пра нешта яшчэ. Пра створаны ім свет...

Гэта міт, нібы ён ахвяраваў сынам. Не вызваліў яго з палону, не памяняў на палоннага нямецкага фельдмаршала: “Я салдата на фельдмаршала не мяняю”. Але праўду казаў некалі ў Вільні Ціхан. “Няма нічога больш трывалага, чым міт, які ўсвядомлены мільёнамі людзей як рэальнасць. Яго немагчыма пабурыць.”

Гэтакім самым мітам можа стаць створаны Сталіным свет. І Сталін не сам-адзін яго ствараў, вунь колькі памагатых!..

«Гэта я, Госпадзі?..»

– У мяне крыжоў няма, – буркнуў у бок патрыярха палкоўнік Несцярэнка. – Лётчык толькі адзін прынёс.

– Які лётчык?

– Ну, можа, не лётчык. Блазен нейкі ў лётным шлеме... Так што хіба з двух бакоў.

Патрыярх не зразумеў: “Як гэта?..” – і палкоўнік, рукі раскінуўшы, стаў з ім спінай да спіны: “Вось так, спінай да спіны і прыбіць...”

Прапанова палкоўніка супярэчыла, мусібыць, уяўленням патрыярха пра раскрыжаванне, ён прамовіў няўпэўнена: “Так, пэўна, нельга... Да таго ж іх трое... Хіба зняць аднаго...” – «Каго? – спытаў Несцярэнка. – Купалу?..» – а таварыш Коган плечыкамі пацепнула: “Не разумею... Усе могілкі ў крыжах, у любога нябожчыка можна ўзяць”, – на што святая Ганна сказала строга: “Гэта іх крыжы!” – і святы Серафім дадаў: “У кожнага – свой”.

## 40

Іх абступіла цемра, і цемра сказала: “Цяпер у гэтай вежы на дзве смерці будзе болей”.

У голасе Ганны не было страху, бо яна не ведала легендаў Крэўскага замка, у падзямелле якога прыйшла некалі, каб забраць Кейстута, паганская багіня смерці Мерцва, якая і засталася тут, дыханнем сваім змяртвяючы кожнага, хто спускаўся ў замкавыя лёхі. Не чула Ганна і пра замураваных у сценах замка крыжакоў, якія сталі прывідамі і нікога з тых, каго вырашыў замак забраць у вечнасць, з яго не выпускаюць, а ўцекачоў даганяе і згрызае замураваны ў кутняй вежы вогненны ваўкалак. Нічога гэтага не ведаючы, не помнячы, Ганна не спалохалася, а Віктару стала страшна. Не праз тое, што ён задыхнецца тут у абдымках Мерцвы, што застанецца недапісаным раман, не. Ён спалохаўся сваімі дзіцячымі страхамі, з якімі, паслухаўшы якую-небудзь страшную гісторыю пра замак, пра прывіды, якія ў замку жывуць, сніў іх, прачынаўся сярод ночы і ўжо да раніцы заснуць не мог – гэтак тыя прывіды тупалі ў садзе. Будзіў дзеда, які супакойваў яго: “Гэта яблыкі падаюць…” – і Віктар не еў, хоць яны смачныя, спелыя былі, паданкі, баяўся, што з’есць прывіда і сам прывідам стане.

Страхі гэтыя ўваходзілі ў яго па начах, калі замак ажываў, калі чуліся ў ім галасы, тупат коней, бразганне жалеза, рыпы ланцугоў пад’ёмнага маста, калі з’яўляліся на ягоных парушаных сценах цені князёў, калі ў лёхах замка чуліся стогны, а ў байніцах свістаў вецер і енчылі праклятыя душы забойцаў Кейстута, калі позніх падарожнікаў клікала ў незваротныя госці Мерцва, – і Віктар баяўся яе, баяўся вогненнага ваўкалака, прывідаў, баяўся дачкі млынара, у якую закахаўся жахлівы дух падзямелляў замка, куды той дух,

чорная хмара, дачку млынара зацягнуў, баяўся чарадзейкі ў белай сукні, якая з'яўляецца ўночы на замкавых мурах, у якіх столькі камянёў, колькі людзей жыло і жыве ў Крэве, у кожнага камень свой, і чарадзейка час ад часу камяні з муроў скідвае: з высокай сцяны скіне – дарослы чалавек назаўтра ў Крэве памрэ, з малой – памрэ дзіця, – і Віктар баяўся, каб тая чарадзейка ягоны камень не скінула, не пераблытала ў цемры з іншым…

Паступова вочы прывыкалі да цемнаты, нешта забялела перад ім, ён працягнуў руку, па ёй слізнула гладкае, прахалоднае – змяя! Ён лавіў у маленстве змей, мядзянак, хапаючы іх каля самай галавы, але як у цемені ўбачыш, дзе ў гэтай змяі галава? Схапіў тое, што слізнула па руцэ, наўздагад, і Ганна сказала: "Бяры-бяры, самы час табе пераапранацца", – гэта быў пояс яе сукенкі. Ён падаў яго ёй на голас, адчуў, як дакрануўся пальцамі да яе рукі – і на момант дотыку ўсё ўбачыў так, нібы не было тут цёмна: Ганна стаяла перад ім, нацягваючы на сябе сукенку. Адняла сваю руку ад ягонай – і ён зноў аслеп.

Што гэта?..

– І што з жонкай Вітаўта пасля было? – мутна бялеючы ў цемрадзі, спытала Ганна, а ён стаў навобмацак шукаць яе рукі. – Што ты рукамі водзіш, як сляпы?

– Вазьмі мяне за руку.

– Яе, здаецца, жывой спалілі?

– Не. Уцякла разам з мужам… Можаш за руку мяне ўзяць?

– Уцячы са мной хочаш? Тут лесвіца… Бачыш? – узяла яна нарэшце ягоную руку, і ён убачыў каменныя прыступкі, лесвіцу, пра якую з дзяцінства ведаў, што нікуды яна не вядзе, абрываецца на першым паверсе, бо другога і трэцяга паверхаў не было, ад іх засталіся толькі дзве парушаныя сцяны. Да вайны Княская вежа амаль цэлая была, а ў вайну біла па замку руская артылерыя, страляючы па немцах, якія Кутнюю, паўднёвую вежу замка ператварылі ў дот.

– І шчаслівa жыла?.. – ступіла Ганна на лесвіцу, і ён, баючыся яе адпусціць, ступіў за ёй. Туды, дзе нічога няма і быць не можа, бо там – паміж двух парушаных сцен – пустата.

– Так. Амаль да ста гадоў.

– Але я помню, што некага спалілі.

– Служанку яе Ягайла жыўцом спаліў. Пакаёўку, якая Вітаўту сваю апратку аддала, застаўшыся ў гэтым склепе.

Ганна спынілася.

– Чаму?

– Што чаму?

– Чаму яна пайшла на смерць за яго?

– Не ведаю. Бо пакаёўка. Гаспадыня загадала перапрануцца і застацца, пераапранулася і засталася.

– Так проста?

– А як?..

Ганна вызваліла руку, пайшла ўверх.

– Калі ўсё так проста, дык як ты раман пішаш?..

Без яе рукі Віктар зноў аслеп. Замёр, узіраючыся ў чарнату і не разумеючы, што адбываецца, чаму Ганна ў цямрэчы відушчая, а ён не, і нехта зверху, адтуль, дзе нікога быць не можа, бо там пустата ў парушаных сценах, сказаў: "Ёсць людзі, якія бачыць дарогу толькі тады, калі іх па ёй вядуць".

Голас быў знаёмы, але чый? У падзямеллі ён гучаў глуха, быў не такім, якім чуў яго Віктар некалі, – дзе і калі? Нешта з гэтым голасам звязанае важнае, ён сутаргава ўспамінаў, што? – і не мог успомніць, пакуль зверху не пачулася: “Са склепу на першы паверх сямнаццаць прыступак. Некалі вы іх, Віктар Паўлавіч, заплюшчыўшы вочы, прабягалі”.

“Са склепу на першы паверх сямнаццаць прыступак…” – гукнулася ў падзямеллі глуха, і ён успомніў! Гэта быў голас прывіда, як пераследваў яго праз усё жыццё, з’явіўшыся ў дзяцінстве.

Гэты быў ягоны прывід. У крэвічаў, старых і малых, апроч сваіх камянёў у мурах замка, былі яшчэ і свае прывіды. У замку іх было столькі, што на ўсіх хапала. Не ўсе яны былі страшныя, ягоны таксама надта ўжо страшным не выглядаў, але нікога Віктар гэтак не баяўся, як яго.

Начныя страхі заклёнамі і зёлкамі выводзіла з маленькага Віктара вядзьмарка Багучыха, але страхі не адпускалі – і тады Багучыха сказала, што іх трэба спалохаць. Гэтак спалохаць, каб яны, перапудзіўшыся, выскачылі з сэрца – усе страхі чалавечыя ў сэрцы чалавечым жывуць. Узяўшы Віктара ад бацькоў, якім сказала, што бярэ на ноч да сябе, яна завяла яго апоўначы ў замак. “Адсюль, – шаптала на вуха, нібы сама баялася, – страхі ў цябе ноччу прыходзяць, тут яны ноччу з цябе выйдуць. А каб ты не памёр ад іх, калі выходзіць будуць, на табе зёлкі. Чалавек звык жыць у страху, і калі раптам страх пакідае яго – чалавеку да смерці жудасна. Бо без страху жыццё адкрываецца яму зусім не такім, якім бачылася, калі баяўся. Вып’еш зёлкі – і ўсё ў свеце ўбачыш не гэтакім, якім яно табе здаецца, а такім, якім яно ўсё ёсць. І не разарвецца сэрца ад страху. Толькі да відна тут будзь, не ўздумай дахаты збегчы – ваўкалак дагоніць і загрызе”.

Калі Багучыха, прамармытаўшы яшчэ нейкі заклён з малітвай, у яе і для чыстай, і для нячыстай сілы адны і тыя заклёны з малітвамі былі, пайшла, пакінуўшы Віктара аднаго пасярод замкавага двара, ён спалохаўся адразу. Так, што сэрца зайшлося ад страху, і каб яно не разарвалася, ён выпіў зёлкі. Лёг між камянёў, схаваўшыся за імі так, каб ваўкалак з Кутняй вежы яго не заўважыў, і глядзеў у неба.

Над замкам неба было зусім не такім, якім было над стогам каля Багушоўскага лесу. Там яно плыло велічна, было такое, нібы абяцала і яму, і дзеду, і ўсім, хто жыве і глядзіць у ягоную зорна-залатую плынь, цуд, свята ў Божым свеце, а тут калі і быў цуд, дык не святочны. Нерухома стаяў, уваганы ў нябёсы над Кутняй вежай, Зорны Кол, а вакол яго шалёна круціліся, нібы ў віры, сузор’і, і кожнае спрабавала зачапіць, раскідаць, скінуць з неба сузор’е іншае, быццам яно ці замінала яму, ці займала ягонае месца. Ва ўсім небе, колькі бачыў яго Віктар ад Кутняй да Княскай вежы, ішла вайна! Ваяр, развярнуўшыся, дзіду за дзідай кідаў у Казла, Бык падымаў на рогі Барана, Змей перакульваў Малы воз, Вялікі і Малы Сабакі гналіся за Аратым, адзін з Касцоў біўся з Аднарогам, двое другіх змагаліся з Блізнятамі, Два Браты палявалі на Жорава, па Божым шляху ляцелі і скублі адно адное зорныя гусі, буслы, шпакі, ластаўкі, вогненнае пер’е разляталася ва ўсе бакі каметамі, астэроідамі, метэорамі, адны з якіх паглыналіся сонцамі, іншыя, выбухаючы, падалі на планеты, знішчаючы на іх жыццё, – неба грымела і палала, бліжэй да небасхілу наліваючыся крывёй, якой набракалі муры Крэўскага замка, набіралі чырвані тыя камяні, паміж якімі ляжаў нерухома, гледзячы ў крывавы вір нябёсаў, маленькі хлопчык.

На адзін з камянёў упаў месячны цень. І гэткім самым, як ягоны месяч-

ны цень, выглядаў прывід, што паўстаў перад Віктарам. Быў ён у ботах з ялавай скуры з хромавымі халявамі, у сініх з малінавым кантам галіфэ, у зелянковага колеру гімнасцёрцы, падпаясанай скураной дзягай з кабурой на правым баку, і ў сіняга колеру з крапавым аколышкам фуражцы. “Маёр Вырак! – адной рукой дастаючы з кішэні гімнасцёркі чырвонае пасведчанне з адціснутымі на ім мечам, сярпом і молатам, другой рукой выхапіў прывід пісталет з кабуры, і па па рухах ягоных відаць было, што гэта самае прыемнае з усяго, што даводзілася яму рабіць і тады, калі ён маёрам быў, і цяпер, калі стаў прывідам маёра. – Устаць! Не рухацца! У мяне загад расстраляць Віктара Маргера, сына ворага народа!..”

Твар прывіда плыў у месячным святле, як у рацэ, калі глядзіш на ваду з кладкі, але Віктар пазнаў яго па ўчэпістых, якія глядзелі, не міргаючы, рознакаляровых вачах і вузкім, як бы завостраным носе: гэты прывід быў тым чалавекам у ботах з ялавай скуры з хромавымі халявамі, у сініх з малінавым кантам галіфэ, у зелянковага колеру гімнасцёрцы, падпаясанай скураной дзягай з кабурой на правым баку, і ў сіняга колеру з крапавым аколышкам фуражцы, які прыехаў у чорным варанку, каб арыштаваць і завезці на суд “тройкі” ў Маладэчна бацьку Віктара.

– Да сцяны!.. – павёў пісталетам прывід. – Да бліжэйшай, каб не хадзіць далёка.

У яго бацькаў пісталет! Адкуль у яго бацькаў пісталет? Ён забіў бацьку? І цяпер з’явіўся, каб з ягонага пісталета забіць мяне?

Бліжэйшай сцяной была заходняя, на сутыку якой з паўночнай узвышалася Княская вежа, а недалёка ад вежы – пралом у сцяне, праз які Віктар па дзесяць разоў на дзень забягаў у двор замка, і можна было б паспрабаваць праз гэта пралом выскачыць, але ў ім стаялі, нібы чакаючы яго, прывіды крыжакоў. За спінай Віктара прагульвалася па паўднёвай сцяне, каб скінуць гэтай ноччу ягоны камень, чарадзейка ў белай сукні, ва ўсходняй сцяне разгараўся прывід вогненнага ваўкалака, не перакрыты шлях быў, калі не лічыць прывід маёра, які, расставіўшы ногі, стаяў перад Віктарам, толькі да паўночнай сцяны. Яна была вышэй за тры астатнія, занадта высокая, каб на яе ўзабрацца, хіба што па лесвіцы ў Княскай вежы, якая абрушаная на другім паверсе, але па яе абломках можна і вышэй ускараскацца, – мітусліва шукаў Віктар шлях да паратунку, і пакуль ён выбіраў яго, прывід стрэліў. Віктар бачыў, як пырснуў з пісталета агеньчык, як выляцела куля і, падляцеўшы да яго, завісла, як залацістая пчала, нібы вырашаючы, куды ёй далей ляцець – і, рэзка павярнуўшы ўлева, дзе стаялі ў праломе заходняй сцяны прывіды крыжакоў, паваліла аднаго з іх на цагляны друз.

Гэта быў бацькаў пісталет! Імянны пісталет бацькі, якім яго ўзнагародзілі за тое, што ваяваў з ворагамі, а не страляў сваіх! Вось і стрэліў пісталет так, як бацька б стрэліў, а прывід маёра Вырака, убачыўшы, што Віктар стаіць, як стаяў, падумаў, пэўна, што ўпершыню ў жыцці прамахнуўся, яшчэ шырэй расставіў ногі, каб лепш прыцэліцца – і Віктар нырнуў пад ягонае галіфэ, слізгануў між ног, пракаціўся па траве да Княскай вежы і скочыў у яе падзямелле. “Лаві яго! Лаві!” – кінуліся да вежы следам за ім усе прывіды, што жылі ў замку, крыжакі, чарадзейка, вогненны ваўкалак, душы забойцаў Кейстута, а ён у цемры нічога не бачыў і ніяк не мог знайсці лесвіцу, што вяла наверх, абдзіраў, шукаючы яе, далоні аб шурпатыя камяні сцен, нарэшце намацаў прыступкі і пабег па іх усляпую, памятаючы, як лесвіца ў сцяне закругляецца, і колькі ў ёй прыступак, вось тут яны павінна былі б скончыцца, бо далей

лесвіца абваленая, а прыступкі ўсё не скончаліся, і ён бег, бег, бег, дабег да сваёй школы, у падворку якой стаяў п'едэстал, з якога скінулі помнік Сталіну, да тэхнікума, насупраць якога стаяў помнік Леніну, да інстытута, у двары якога зеляне ў пад зялёнымі дрэвамі помнік Герцэну, справа ад якога чарнеў, нібы вёў у пекла, уваход у качагарку, дзе Ганна сказала яму, што яна дачка ці Купалы, ці Берыі, пры якім служыў маёр Вырак, які арыштаваў бацьку Віктара і стаў прывідам, самым страшным з усіх, якія сніліся Віктару і якіх ён мог уявіць, прывідам дзяцінства, школы, тэхнікума, інстытута, прывідам усяго ягонага жыцця, якое вярнула яго туды, дзе пачалося, у Крэўскі замак, дзе яму зноў трэба бегчы ў цемры па лесвіцы, у якой няма прыступак, хіба толькі ў самым пачатку, толькі на першы паверх, але ён не мог успомніць, колькі іх, пакуль зверху не пачулася: "Са склепу на першы паверх сямнаццаць прыступак. Некалі вы іх, Віктар Паўлавіч, заплюшчыўшы вочы, прабягалі".

Так, прабягаў. Ён пасунуўся да сцяны, паклаў на яе далонь, адчуў знаёмую, не забытую праз гады шурпатасць камянёў і, кранаючы іх пальцамі, пабег. "Адна, дзве, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць... тут праз адну можна пераскочыць... дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, сямнаццаць... тут, дзе некалі былі дзверы на першы паверх, павінен быць праём, але яго няма... а пад нагой яшчэ адна прыступка... як гэта?... ён добра памятаў, што лесвіца тут, абваленая разам са сцяной, канчалася, вышэй трэба было караскацца па яе абломках... можа, ён адзінаццатую прыступку не пераскочыў?.. яшчэ раз сямнаццаць... але праёма няма... і пад нагой зноў прыступка... васямнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць..." – на трыццаці ён перастаў лічыць, проста бег, бег і бег, не ведаючы, бо не бачыў, куды, усведамляючы толькі тое, што бяжыць уверх па лесвіцы без прыступак, што лесвіца ў замку, бо пад пальцамі шурпатая сцяна... ці гэта неба такое шурпатае, пабіла яго громам з маланкамі?.. – ткнуўся ён у спіну задыханай Ганны, схапіў яе за руку, і цераз плячо Ганны ўбачыў дырэктара антыкварнай крамы, які ў вялізнай зале з карцінамі і габеленамі на сценах сядзеў на крэсле, што нагадвала трон.

## XLI

«У кожнага свой крыж», – паўтарыў святы Серафім, зірнуўшы на Кашкадамава, і над могілкамі скразануў лёгкі пошум. Да гэтага моманту нябожчыкі назіралі за ўсім, што адбывалася, не сказаць каб абыякава, але і без асаблівага інтарэсу – за сваё жыццё і смерць яны ўсялякага наглядзеліся. А тут зашапталіся. Мёртвым таксама цікава, хто першы ў чарзе з таго свету на...

"На які?.."

– Быў суд! І ніхто не можа вырак суда адмяніць! – закрычаў Кашкадамаў, які пасля праклёну патрыярха стаяў знямелы, а цяпер трохі ачомаўся і зразумеў, як і ўсе, для каго вызваліцца месца на крыжы, калі зняць з крыжа Купалу. – Каюся! – нечакана, як падкошаны, упаў ён на калені перад Ціханам, стаў біцца галавой аб надмагільны камень. – Што злыдню Тучкову, ворагу царквы дапамагаў, што вас катаваў, мітрапаліта Сергія мучаў, грабніцу святой Ганны разрабаваў, што золата краў, каюся, каюся, каюся!.. – біўся ён аб надмагілле, і ўсе нябожчыкі з новых могілкаў глядзелі на Сталіна, а са старых – на патрыярха.

З рук Маякоўскага выслізнуў цвік, які даў яму Сталін, ён доўга шукаў

яго ў траве на магіле, знайшоў, ціха сказаў як сабе самому: “Праблема. Ці выцягнуць два цвікі, ці ўвагнаць адзін?..”

Ціхан паківаў: маўляў, так. Праблема.

– Божая ўлада вышэй за царскую, – сказаў патрыярх, памаўчаўшы. – Але яна не для таго, каб царскую ўладу адмяняць. І Божы суд за царскі вышэй, але ён не адмяняе царскі. Таму як ёсць... – перахрысціў ён Купалу на крыжы, – так ёсць.

“Вымыў рукі...” – гэтак жа ціха, як самому сабе, сказаў Маякоўскі, і Ціхан рэзка ўскінуў галаву, ды адказаць не паспеў, бо раптам падляцела да яго: “За што? За што? За што?..” – закалыхалася перад ім Спагада, якую ён адпіхнуў раздражнёна: “Бог ведае!..” – а над Купалам адразу ж, каб апошні цвік увагнаць, нахіліўся палкоўнік Несцярэнка, стаў расціскаць ягоную, сціснутую ў кулак, левую далонь: “Ды што вы тут з апошніх сіл сціскаеце? – і, расціснуўшы кулак, убачыў апёк на далоні, пакінуты чырвоным рубінам. Разгубіўся, паклаў медальён на грудзі Купалу. – У яго і праўда стыгматы...”

– Гэта ў каталікоў! У неўротыкаў ды вар’ятаў стыгматы! – закалаціла патрыярха, а Купала нягнуткімі пальцамі, якія ледзьве не зламаў Несцярэнка, падняў вечка медальёна – і ў вочы яму глянуў Сталін. У зялёным, глуха зашпіленым фрэнчы, у чорна-бліскучых ботах. На чырвоным крыжы на тле белай эмалі.

– Госпадзі, даруй! Уратуй і памілуй! – перахрысціўся святы Серафім. – Свят, свят, свят... – І накінуўся на святую Ганну. – Ты што яму дала? – а тая глядзела няўцямна: “У маім медальёне Хрыстос быў... Не ведаю, як... Хіба па смерці...”

Яна зірнула на Кашкадамава – той таксама выглядаў здзіўленым, толькі што не хрысціўся. “Так, калі я забіраў, таксама Хрыстос быў. – І пацепнуў плячыма. – Перамаляваў нехта”.

Сталін прысеў каля Купалы, узяў медальён.

– Як вы думеце, хто? Купчыха?.. Пабаялася б... Ганна?.. Яна магла не пабаяцца. Але які сэнс?.. Які сэнс, як вы думаеце?..

Убачыўшы, як адрэагаваў Сталін, Кашкадамаў зразумеў, што, пацепнуўшы плячыма, зрабіў памылку.

– Гэта знак! Некалі, таварыш Сталін, так і будзе!.. – І зноў датумкаўшы, што ляпнуў не тое, стаў тлумачыць. – У сэнсе, што рускі народ вас, як Бога...

Але і ў гэтым адчуўшы двухсэнсоўнасць, Кашкадамаў змоўк, а Сталін перапытаў Купалу:

– Дык як думаеце?.. Які сэнс? І для каго яна гэта? Для сябе?.. Для вас?.. Для мяне?.. Тады скуль наперад ведала?..

Купала не знаходзіў, што адказаць. Ён чакаў чаго заўгодна, але не гэтага.

– Так, – сказаў Сталін. – Не пасма валасоў. – І вярнуў, пстрыкнуўшы вечкам, медальён. – Насіце.

Купала ўзяў медальён, сціснуў у левай руцэ: “Але які сэнс? І для каго яна гэта? – гукнулася ў ім рэхам. – Для сябе?.. Для яго?.. Для мяне?.. Тады скуль ведала наперад?..”

Раскрыжаваны Сталін у медальёне святой Ганны ўразіў яго не меней, чым той, якога прынёс у чырвонай пушачцы ў Саюз пісьменнікаў, як узнагароду Купалу, кур’ер з Крамля. “Лётчык”. Але яшчэ больш уражаны выявай Сталіна на крыжы ў медальёне праваслаўнай святой быў патрыярх Ціхан. У яго быў гэтакі твар, такія вочы, што, здавалася, ён другім разам памёр.

– Пакайцеся, – сказаў патрыярх ледзь чутна. – Самы час...

Сталін цяжка, як чалавек, якому баляць ногі, падняўся.

– Я зрабіў тое самае, што Бог, – паўтарыў ён, гледзячы ў змярцвелыя вочы Ціхана. – Богу ёсць у чым каяцца?.. – І не пачуўшы ні слова ні ад патрыярха, ні ад каго-небудзь, усміхнуўся. – Тады і мне няма ў чым.

– Пераварочвайце крыж, – безнадзейна махнуў рукой Ціхан. – Пераварочвайце...

Ніхто ні са старых, ні з новых могілак не спяшаў падысці да Купалы, і толькі пасля таго як патрыярх нервова азірнуўся: “Ну хто?..” – невядома скуль, як з месячнага святла зляпіўшыся, з’явіліся трое расплывістых, якіх Купала з часу паніхіды ў Саюзе пісьменнікаў не бачыў, а яны раптам выскачылі паперадзе Кругляца, падбеглі і перавярнулі крыж. Прычым гэтак хутка, што Купала, сабраўшыся сказаць: “Пачакайце, адну руку не прыбілі...” – толькі рот паспеў раскрыць, ледзь не падавіўшыся травой з пяском.

Ён ляжаў тварам у зямлю, маўчаў – і нейкі час над ім маўчалі.

“Вы насамрэч збіраецеся мяне раскрыжаваць? – пачуўся нарэшце голас Сталіна. – Вы?.. Мяне?..”

У голасе, якім ён гэта спытаў, адчувалася ўся немагчымасць такой дзеі, і Купала таксама адчуваў яе немагчыць, хоць, прыціснутаму крыжам, кінутаму тварам у зямлю, з ротам, забітым травой і пяском, адчуваць штонебудзь было яму ўсё цяжэй.

“Кладзіцеся, – глуха сказаў Сталіну патрыярх. – Я не магу адмяніць прысуд улады, вы не можаце адмяніць Божы прысуд”.

“Вы не Бог... – пачаў Сталін, але чамусьці спыніўся. Можа быць, праз тое, што хвіліну таму сам раўняўся з Богам, а, можа, і не таму; магчыма, яму цікава стала, што ж будзе далей, хто ж асмеліцца на такое, і ён дагаварыў. – Але што ж, няхай так...”

Ён сеў на крыжавіну, трохі пасунуўся ўніз, выцягнуў ногі, паклаўся спінай, раскінуў рукі – распластаўся на крыжы. У зялёным, глуха зашпіленым фрэнчы, у чорна-бліскучых ботах.

Які цяжкі быў Сталін! Быццам Вялікі Воз з цвікамі ўз’ехаў на Купалу – і ён ледзь здолеў павярнуць галаву ўбок, каб хоць трохі дыхаць. Немагчыма ўявіць было, што чалавек ніжэйшага за яго росту і не большых памераў можа быць такім цяжкім. Ці гэта грахі ягоныя такія?..

“Ну?.. Хто?..” – голасам, у якім не было ніякай надзеі на тое, што нехта на яго адгукнецца, зноў спытаў Ціхан, і нечакана Круглец, голас якога Купала пазнаў па віленскім вымаўленні, сказаў: “Мы можам. Я, Няжыла з Кумцом... Ён у нас Вільню забраў. Так што...”

– Так, мы можам, – сказалі двое ў адзін голас, мусібыць, Кумец з Няжылам, і праз хвіліну над Купалам зацюкаў малаток. Раз, другі, трэці... Купала ўсё чакаў, што скажа Сталіну крыж, але крыж не падаваў голасу.

Не чуваць было таксама, каб Сталін ці застагнуў, ці ўскрыкнуў, ён нават не зварухнуўся на крыжы. Толькі выдыхнуў нешта. Адно нейкае слова. Купала не расчуў, якое, яму здалося: “Смерць”.

– Ды што Вільня! Ён жыццё ў мяне забраў! – раптам закрычаў нехта надрыўна, амаль істэрычна, і да крыжа, да твару Купалы падскочылі хромавыя, да бляску начышчаныя боты: “Малаток мне! Малаток!” – і за хромавымі ботамі падбеглі боты кірзовыя, за імі чаравікі, большыя і меншыя, адны, другія, туфлі, мужчынскія і жаночыя, скураныя чорныя і скураныя карычневыя, жоўтыя, белыя парусінавыя, і ногі ў нейкіх анучах,

абмотках, басанож, і лес чалавечых ног гусцеў і гусцеў, і над гушчаром гэтым мацнелі і мацнелі мужчынскія, жаночыя і дзіцячыя ўскрыкі, плачы, енкі, якія зліваліся, як у хоры, у адзіны стогн, што шырыўся далей і далей, уздымаўся вышэй і вышэй над дрэвамі, дамамі, саборамі, над крыжамі магіл і храмаў плыў і плыў у нябёсы, дзе слаўся без канца і без краю Божы Шлях, па якім каціўся і каціўся Вялікі Воз, нагружаны цвікамі, якія хтосьці – цюк, цюк, цюк – уганяў і ўганяў у Божае цела, у Божы свет, у якім цвікі бліскалі і выглядалі зоркамі...

“Смерды! – раптам выразна скрозь стогн і енк расчуў Купала голас Сталіна. – Пасля смерці грызці, смерды...”

## 42

– Ёсць людзі, якія бачаць дарогу толькі тады, калі іх па ёй вядуць, – паўтарыў дырэктар голасам маёра Вырака, прывіда, ратуючыся ад якога, Віктар праз усё жыццё прабег, не ведаючы, куды бяжыць. Аказалася, у антыкварную краму, дзе ўсё тое, што было.

– Рады бачыць, вельмі рады бачыць вас, – падняўся з трону Вензель, каб пацалаваць руку Ганне. – Маглі б і запрасіць у Крэва, у свой замак, маглі б запрасіць, Віктар Паўлавіч, – паківаў ён Віктару. – Я ж вас у Маскве ў сваю краму запрашаў, а вы мяне нідзе і нікуды, і так выглядае, нібы я сам запрасіўся, праз што мне, паверце, няёмка, але... Але я пачуў, падслухаў, праўду кажучы, што вы казалі пра вялікіх князёў, пра Кейстута, Вітаўта, Ягайлу, і падумаў, што лепш адзін раз убачыць, чым сем разоў пачуць, а паколькі ў маёй краме не толькі антыкварныя рэчы, але і антыкварныя людзі з іх рэчамі і ўсім тым, што было ў іх жыцці, дык вось я і вырашыў, што вам цікава будзе паглядзець, як яно ўсё насамрэч было... вам жа таксама цікава гэта, панна Ганна, вы ж таксама літвінка, – прапанаваў ён Ганне крэсла побач з тронам, і тая сказала, сядаючы: “Я дзеля гэтага і прыехала з Масквы”, – а дырэктар падсунуў да трону, толькі з другога боку яшчэ адно крэсла: “Сядайце, Віктар Паўлавіч, ці вы жадаце на трон?..”

Пакуль ён не спытаў пра гэта, Віктар ніякага жадання не меў на трон узбірацца, а тут раптам так захацелася, што ледзьве здолеў адмовіцца: “Дзякуй, не жадаю”, – і сеў на крэсла, на якім яму здалося, што ён, як і Ганна, прыехаў у Крэва з Масквы дзеля таго, каб паглядзець відовішча, якое падрыхтаваў для іх дырэктар антыкварнай крамы, штукар, круцель, ці хто там ён яшчэ...

– Што спачатку? – спытаў дырэктар Ганну. – Пра тое, як Вітаўта ўратавалі? Ці як Кейстута задушылі? – І павярнуўся да Віктара. – Ці як вунію падпісвалі?

– Пра тое, як Вітаўта ўратавалі, – нагу на нагу закінула, ямчэй сядаючы, Ганна, і голас яе быў такі, нібы ніколькі не здзівіла яе ні зала ў парушаным замку, ні Вензель з ягонай прапановай, як быццам так яно ўсё і мусіла быць.

– Не меў сумневу! – нібы ў захапленні выгукнуў Вензель. – Сумневу не меў, што менавіта выратаванне Вітаўта паглядзець вы захочаце, бо ў гісторыі Крэўскага замка гэта найцікавейшае з усяго! Асабліва для тонкіх натур, – не паленаваўся ён на камплімент Ганне, пляснуў у далоні: “Пачынаем!” – і над узвышэннем у цэнтры залы, якое нагадвала тэатральную сцэну, запалілася святло, у якім замільгалі цені, паступова набываючы чалавечыя абрысы. – Вяртаемся ў жнівень 1382 года, у Крэўскі замак,

дзе вялікі князь Ягайла зняволіў стрыечнага брата свайго князя Вітаўта, праведаць якога дазволіў ягонай жонцы Ганне разам з яе пакаёўкай Любоўю. Перад вамі пакой з каморай. Не цямніца, але і не царскія палаты. У каморы, пакуль нам не бачная, Любоў. Мужчына на ложку – Вітаўт, жанчына, якая на крэсле перад люстэркам расчэсвае валасы, Ганна. Глядзіце, як было...

ГАННА

Які Ягайла звер!.. Пачвара ён якая!

ВІТАЎТ

Мне гэты звер сказаў, што ён цябе кахае.

ГАННА

А мне сказаў, што любіць ён цябе...
Мой Бог!.. Ужо маршчынкі на ілбе...

ВІТАЎТ

Не, ты ў мяне заўсёды маладая!
*(Юрліва.)*
І болей не прыкідвайся такой:
«Даруй мне, Вітаўт! Сёння з галавой
Не тое штось...»
Што мне да галавы!..

ГАННА

Якія ўсё ж няўрымслівыя вы!..
Пералюбілі, пэўна, паў-Літвы
Ты і браты твае!.. Дзяцей панарабілі!..
Вы жонак хоць сваіх на пальцах палічылі?
Ці не хапае пальцаў?..

ВІТАЎТ

Ты ў мяне
Адзіная...

ГАННА

Ну, хто б сказаў іначай!..
Але ж усё – не так! Як цені па сцяне,
Сыходзім мы... І цені нашы плачуць...
Дачка таксама плача... Не кажу,
А яна плача... дзеці ж адчуваюць...
І слёз яе, што соллю высыхаюць,
Я не дарую гэтаму смаўжу!
*(Падымаецца з крэсла, сядае на ложак.)*
Каханы мой, адзіны, любы мой,
Я і сама сабе так адчуваю...

ВІТАЎТ, *гладзячы Ганну па валасах.*

Нібы не тое нешта з галавой?

ГАННА

Ды не жартуй ты!.. Так, нібы з табой
Апошні раз... І як нам быць, не знаю.
І што рабіць?.. Я так цябе кахаю!..
І так дачушку нашу я люблю!..

ЛЮБОЎ, *выходзячы з каморы.*

Што загадаеце, я тое і зраблю.

ГАННА

Сядзела б ты ў каморы!.. На вяроўцы
Цябе я не цягнула. Пакаёўцы
Што я магу ў вязніцы загадаць?..

ЛЮБОЎ

А я магла б не пакаёўкай стаць?
А вы, як пакаёўка, у каморы
Ці не маглі б тым часам пасядзець?

ГАННА

Ты нешта загаворваешся ў горы...
*(Да Вітаўта.)*
Пра што яна? Ты можаш зразумець?

ВІТАЎТ

Магу. Яна гатовая на смерць
За тое, каб пабыць... са мной... на тваім месцы...

ГАННА

Любоў, ты звар'яцела?..
*(Да Вітаўта.)*
Ці смяецца
Яна з мяне?..
(Да пакаёўкі.)
Ці нешта з галавой
Тваёй усё ж не так?..
*(Сама да сябе.)*
Ці так?..
*(Да Вітаўта.)*
Ты, значыць, ляжаш з ёй,
А я ў каморы сяду?
*(Да пакаёўкі.)*
Ды крывёй
Ты захлынешся зараз тут, курвіна!..

ЛЮБОЎ

На тое ваша воля.

ВІТАЎТ

Ты нявінна?

ЛЮБОЎ

Нявінна, так.

ВІТАЎТ

І разумееш ты,
На што ідзеш?..

ГАННА

Ты, Вітаўт, не святы...
Я ведала... Але што так, пры мне!..

ЛЮБОЎ

Ды князь мяне і пальцам не кране...

ГАННА

Ты мне расказвай!.. Не кране мяне!
Кране!.. Але вунь цені на сцяне,
Як мы... І дзецям бацькі не стае...

ЛЮБОЎ

Шкада дзяцей мне...

ГАННА

Дзеці не твае!..
*(Рашуча.)*
Дык вось: кладзешся... голая ўстаеш...
Сваю апратку князю аддаеш,
А ён табе дае сваю апратку...
*(Да Вітаўта.)*
Я так сказала ўсё? Не зблытала парадку?..
*(Ідзе ў камору.)*

ЛЮБОЎ

Яна пераступіла праз сябе...
Цераз гардэчу ўсю... Праз рэўнасці завею...
Цераз усё, што ў ёй... Я праўда вар'яцею...
Вось як кахае, князь, яна цябе...
Даруй ты мне... я так кахаць не ўмею...
Але хачу... хоць як... але кахаць...
Ты можаш, князь, мяне пацалаваць,
Каб мне ў жыцці было з чым развітацца...
*(Паўзмрок на сцэне...Стук у дзверы.)*

ГОЛАС ПРОРЫ

Княгіня! Князь! Даволі! Час збірацца!
*(Адчыняюцца дзверы.)*
Выходзь, княгіня! Пакаёўка дзе?

ГАННА

Ідзе... А што ў цябе на барадзе?..

Ці муха, ці пчала ў цябе тут села?
Уджаліць зараз! Кыш ты!.. Паляцела...

*(Выходзіць з пераапранутым Вітаўтам, дзверы зачыняюцца.)*

ЛЮБОЎ *адна.*

Як дзіўна адчувае сябе цела...
Асобна ад мяне... Ці так, як я хацела,
Зрабіла я? Ці ўсё я так адчула?..
Калі ўсё толькі так, дык, пэўна, падманула
Сама сябе я... Калі гэты стан,
Які ўва мне, і ёсць усё, што Богам
Паслана можа быць, тады не так і многа
Бог можа нам паслаць... І калі больш нічога,
Калі ўсё гэта ўсё... то ўсё на свеце – зман.

Святло над сцэнай пагасла – і ні герояў на ёй, ні самой сцэны не стала. З хвіліну ўсе маўчалі.

– Цікава, – першым падаў голас рэжысёр пастаноўкі. Я сам не ведаў, іначай гэта ўяўляў... Як вам, Ганна Васільеўна? Вы задаволены?

Ганна сядзела, як каменная.

– Не магу зразумець, – сказала яна нарэшце. – Ганну разумею, а Любоў – не. – І павярнулася да Вензеля, у каторы раз перапытаўшы. – Хто вы, Назар Януаравіч? Хто вы такі?

Той усміхнуўся.

– Зараз, бадай, паштальён. Так, у нейкім сэнсе – паштальён. Лісты з мінуўшчыны дастаўляю. Вось і Віктару Паўлавічу, – дастаў ён канверт з кішэні, – прынёс. Каб не гадаў, чаму адзін з ягоных сяброў праз вас, Ганна Васільеўна, перад ім прабачаўся.

Ганна паднялася.

– Скуль нам ведаць, што сцэны, якія вы паказваеце, і лісты, якія прыносіце, не падробныя?

– А няхай Віктар Паўлавіч сам пабачыць, – падаў паштальён канверт Віктару. – І сам скажа: падробны ліст, ці не?

Віктар дастаў з канверта паперу. На ёй ягонай рукой быў напісаны тэкст ягонага выступу на з'ездзе. Тэкст, які ён пакінуў Кручы, каб той перадаў яго замежным журналістам. Тэкст, які ён не прамовіў, і пра які ніхто, апроч яго і Кручы, не ведаў.

Адкуль ён у Вензеля?..

– Што там? – спытала Ганна, але спытала, каб проста спытаць, яе зараз займала іншае. – Чаму яна так зрабіла? – глядзела Ганна ў пустату, у цемрадзь, у якой зніклі, як іх і не было, героі адной з мільярдаў маленькіх чалавечых трагедый. – Дзеля чаго?

– Не магу сказаць, бо не ведаю, дарагая Ганна Васільеўна, – праводзіў іх уніз па нябачных прыступках нябачнай лесвіцы дырэктар антыкварнай крамы, ён жа дырэктар цырка, ён жа паштальён. – Меў надзею, што вы мне скажаце, але вось і вы... Зрэшты, калі вас гэтая гісторыя так моцна закранула, магу вярнуцца, пацікавіцца, – спыніўся ён ужо на выхадзе з замка. – Так, бадай, вярнуся, а вам шчаслівай дарогі ў Індыю!

– Самалёты ў Індыю з Крэва не лятаюць, – схаваў канверт у кішэнь Віктар, і Назар Януаравіч Вензель, падымаючыся па нябачнай лесвіцы,

пракінуў зверху: «А некалі ляталі. Вы нават не ўяўляеце, колькі раней самалётаў з Крэва ў Індыю лятала!..»

Калі яны выйшлі ў двор замка, была ноч. Над руінамі велічна плыў Вялікі Воз. Каля паўднёвай сцяны прагульвалася жанчына ў белым з белым сабачкам. Каля ўсходняй сцяны разгараўся прывід вогненнага ваўкалака, каля заходняй тоўпіліся прывіды крыжакоў, каля паўночнай стаяў з пісталетам у руках прывід маёра Вырака. Жанчына ў белым падышла да яго: “Маёр, прагуляйце сабачку. Нешта стомленай сёння я сябе пачуваю”. І калі маёр з сабачкам, які абгаўкаў крыжакоў, зніклі ў праломе заходняй сцяны, жанчына ў белым падбегла да Віктара і Ганны: “Каб вы ведалі: спачатку з’явіліся прывіды, а потым ужо людзі. І які прывід у чалавека ўсяляўся, такі і з’яўляўся ў свет чалавек. Пасля ён паміраў і зноў ставаў прывідам. Дык вось з якога прывіду з’явіўся маёр Вырак, усе ведаюць. А з якога з’явілася Любоў, не ведае ніхто. Я ў яе пыталася: чаму, дзеля чаго ты так зрабіла, сабой ахвяравала? Яна мне: “Вам не зразумець”. Я тут амаль тысячу гадоў – і мне не зразумець... Ды вы праходзьце, пакуль маёр не вярнуўся. Вы не ўяўляеце, як ён абрыд тут усім са сваім пісталетам. Паназабівае мужчын, жанчын, дзяцей, а людзі думаюць на мяне, на крыжакоў, на ваўкалака...”

– Бачыце, – аднекуль зверху, нібы з-пад Вялікага Возу пачуўся голас дырэктара антыкварнай крамы. – Тут адзінае месца ў свеце, дзе жыццё такое, якое яно ёсць. Сапраўднае, без ніякіх падробак. Не нейкі там залаты пыл.

*(Заканчэнне будзе).*

Ігар Сідарук



...Табою, нібы лёгкім вершам,
Я дыхаю ў хвіліны суму....

# Нам дротам зашывалі рот…

* * *

Табой я невылечна хворы.
Так бераг хваляю хварэе
Без дамаганняў і дакору,
Без спадзяванняў новай дзеі.

Табой я бессаромна п'яны!..
Так п'яны восеньскім туманам
Вільготны мох, што лечыць раны
Так незаўважна і старанна.

Табой добраахвотна ўзяты
Ў палон. І ключ – у рэчку, далей!
Без шкадавання страшнай страты,
Без жэрла з'едлівага жалю.

Табою, нібы лёгкім вершам,
Я дыхаю ў хвіліны суму.
Ты – Млечны Шлях майго бязмежжа
Сярод адчайнасці і тлуму.

* * *

І толькі дождж, дождж, дождж
Вадзяныя цвікі забівае.
Точыць ноч крывы месяц-нож,
У кішэнях імглы хавае.

І толькі дым, дым, дым
Недапаленай цыгарэты
Вочы есць успамінам злым
Ледзь віднеючым днём бязмэтным.

І толькі крок, крок, крок
На квадраты пакой рэжа,
Бы вар'яцкіх маланак ток,
Што іржавае крышыць жалеза.

І толькі кроў, кроў, кроў
Пурпуровым вінам у шклянцы
Закіпае-халоне зноў,
Бегчы далей – не мае шанцу.

І толькі смех, смех, смех –
Недарэчным адбіткам ў люстэрку
Коле сэрца на горкі арэх
Зноў ахрыплым, прамерзлым рэхам.

* * *

У месцы тым, дзе подых рвецца,
У доме тым, дзе кожны крок –
Адчайнай песняю на сэрцы
І ў скронях стрэлам аддаецца, –
Сякера ўсечана ў парог.

Як напамін: усё адрынуць!
Ды ў цемры хіжай варажбы
Не заблукаць і не загінуць
І ў захадзе крывава-сінім
Свой човен лёгкі не згубіць.

Які ваўчком ў быстрынях кружыць,
Бог ведама куды нясе!..
І ўжо нічым плынь не адужаць.
І прамярзае сэрца сцюжай
Няўмольна, жорстка, пакрысе...

* * *

Мне дротам зашывалі рот
І кіслатой палілі вочы.
“Дзяры цябе, – крычалі, – чорт!
Яе ты – скулу ўжо захочаш!”

Мне рукі секлі на галлё,
Язык пад корань вырывалі.
“Каханне д’яблава тваё
У гразь мы ботамі ўтапталі!”

Мне скуру дзерлі на шматкі,
Ушчэнт выкручвалі суглобы.
“А каб ты здох на дне ракі!” –
З нянавіснай гарлалі злобай.

А я ў твой бок й бязногі поўз.
Упарта й без суглобаў клыпаў.
Скрозь лёд, спякоту і мароз
Ужо бязмоўны, цябе клікаў.

І хоць не меў я болей рук –
Зубамі драпаў верш на дрэве.
І ўрослы ў рэбры свой ланцуг
Ірваў, хоць чэрвы елі чэраў.

Я да цябе цурбалкам плыў,
Кранаў не дотыкам – крывёю.
Табою я – й памерлы жыў.
І ўжо без лёгкіх і без жыл –
Ўсё ж дыхаў я – адной табою.

* * *

Ноччу хвоя гарачай смалою
Плача па-чалавечы.
Так аорта іржавай пілою
Рассечана.

Раскавялена жудлай сякерай,
З парахнёю мяшаецца,
З брудным снегам крывавай веры.
Не вяртаецца.

Сёння – чорная стужка на вочы.
Сэрца – далей, за краты!
Па кавалку зжырае ноччу
Адплата.

К д'яблу – краты! Знайсці немагчыма
След знаёмы – у крушнях.
Наш маленькі масток – за дымам...
Зрушаны.

* * *

...Зноў на хаце тваёй – няма даху.
Снег калючы – па твары хвошча.
І ліхтар, як бадзяжны сабака,
У прыпадку дрыжыць сярод ночы.

Як і я, абхапіўшы калені,
На дня плаху – адчайна голаў.
Там, дзе цела тваё – толькі ценем.
Там, дзе вершы мае – толькі словам

Не напісаным, не сказаным.
Не прамоўленым хоць нячутна.
У люстэрку знішчае старанна
Ўсе ўспаміны дашчэнту люты.

* * *

Сёння горад пакрыецца снегам.
Будуць выпечкай пахнуць вулкі.
Мандарынкай, дзіцячым смехам,
Дробнай мятнай цукеркай-пігулкай.

Што паволі растане ў роце,
Як святло ліхтароў – уранні.
Як за воблакам – самалёцік,
Як няспраўджаныя жаданні...

Сёння дрэвы ўбяруцца ў строі –
Бы ў дзявочую ў рост бялізну.

Недзе там, нерухома, двое...
Паміж вуснаў – праменнем блісне

Іх затоены чысты подых.
Хто дарэшты ў вачах чыіх тоне?
Гэта студзіш кавалачкам лёду
Ты з усмешкаю мае скроні.

### ПАРОМШЧЫК

– Куды ты вязеш нас, паромшчык?
– Па пояс вады, і стырно
Зламана.
– Нам страшна! Мы хочам
На бераг!..
– Страшней
Толькі ў костках дно!

– Куды мы плывем, паромшчык?
– Туды, дзе чорны чарот
Выкале вочы.
– Дык збочым!
– ...Аерам – разрэжа рот!

– Ты, пэўна, вар'ят, паромшчык?!
– І ў дзень, і ў калючую ноч
Астылыя зоры сочаць,
Як мы ўсе паволі крочым
Па водах, у цемру, прэч!..
І твар нам залепіць скотч.

* * *

На холадзе вочы
Выстылі.
У ночы мой месяц
Выкралі.

І словы ўсе –
Зледзянелыя.
І стала зноў чорным
Белае.

І захад, як вугаль, –
Скрышаны.

І хрыпам мой голас
Сцішаны.

Ды коткай на сэрцы
Згорнецца,
Што з першай хвіліны
Помніцца.

* * *

Шалёнай ночы той, калі гарэлі вочы,
Калі святло, бы малако, плыло,
І кропляй даўкай амывала сойчык, –
Ніколі не было.

Той раніцы, калі клубком прыціхлым
Згарнулася адзенне, і сляза
Саланаватая цячэ па вуснах ціха, –
Не будзе. Госпад скраў.

І надвячорка, калі кожны дотык
Нам абяцае будучы сцэнар
Эротыкі у бліскавіцах дрогкіх
(Глыбокай драмы ў нашым порна лёгкім?!) –
Вятрыска разадраў.

Што ж ёсць? Скразняк і толькі з рыпам дзверы,
У ноч наросхрыст чорнае акно,
Дзе ледзь прыкметнай свечачкаю вера,
Што гэта будзе знята – не ў кіно.

* * *

– Я плавіў цябе ў асфальце,
Біў шкло на адлюстраванні,
У шыхт выбудоўваў жарсці.
– Я – не тваё расстанне.

– З аерам цябе я рэзаў,
Па хвалі – барвовым сокам
Пускаў з аблачынай чэзлай.
– Я – не твае папрокі.

– Твой дождж я заточваў у гроце,
Бы кацянят у рэчцы,

Надзеі тапіў самалёцік.
– Я – не твая цямрэча.

– Блакітныя твае вочы
Я крэсліў вуглём на світанні
І зноў маляваў сярод ночы.
– Я – не таё каханне.

* * *

Так проста?
Падняцца й бразнуць дзвярыма?
Так проста?
Наскрозь перакрэсліць зімы?
Што нас цалавалі ў вочы
Снегам бязважкім ноччу.

Так проста?
Скінуць з паліцы свечку?
Так проста?
Прагнаць, бы сабаку, вечар?
Што босыя лашчыў ногі
Твае, нібы подых Бога.

Так проста?
Парваць на шматкі ўспаміны?
Так проста?
Чужую назваць “адзінай”?
Што прапануе келіх,
Бы горкую карамелю.

Так проста?
Выйсці ў сырую цемру?
Так проста?
У неба ўзірацца нема?
Ды сэрцам маўклівым бачыць,
Як зоркі
Крывёю плачуць.

* * *

У сабак чалавечыя вочы
адарвецца кавалак сэрца
калі раптам
мяккая лапа

не знойдзецца
ў тваёй руцэ
даверам
поглядам веры
што ты –

такі ж самы сабака
толькі болей умееш
можаш
узяць яго на рукі
лізнуць

у сабачую мокрую пысу

і – усміхнуцца.

прападаючы,
ведаючы:

у сабак
чалавечыя вочы
у якіх

ты

* * *

Сёння ў лесе – такая ціша!
Толькі вухам няўлоўна чуваць,
Як па норках маленькія мышы
Мышанятак укладваюць спаць.

Сёння ў лесе – такое паветра!
Што надыхацца ім да канца –
Бы пяшчотай тваёю сагрэцца
І бязважка ў аблоках растаць.

Сёння ў лесе – такія пахі!
Што адценні усе іх адчуць –
Бы нырнуць у лістоту з размаху,
У імхі і грыбоўнік нырнуць.

Сёння ў лесе – такі лёгкі шпацыр!..
Нібы лекі для хворай душы.
Я хацеў бы табе прызнацца...

Ды сцяжынка ўсё далей бяжыць.

* * *

Я хачу заставацца з табой,
Калі сонца хаваецца ў хмары,
Калі душы і целы – у шнарах,
Я хачу заставацца з табой.

Я хачу заставацца з табой,
Калі лягуць на поплавы цені,
Белы снег – стане чорным каменнем, –
Я хачу заставацца з табой.

Я хачу заставацца з табой,
Калі сэрца праколе шыпшына,
Калі дыхаць ужо немагчыма, –
Я хачу заставацца з табой.

Я хачу заставацца з табой,
Калі толькі вільготныя вочы
Свідраваць будуць лютыя ночы, –
Я хачу заставацца з табой.

Я хачу заставацца з табой,
Да той горкай, маўклівай хвіліны,
Калі ў Бога, як дзеці, адны мы.
Я хачу. Заставацца. З табой.

Уладзімер Арлоў



...нехта баіцца смерці,

а нехта баіцца жыцця...

# Лета

***Фрагмент рамана***

*Леце Усціновіч*

**0**

Яны беглі па дзіўным сцішнаватым лесе. Дрэвы ў ім раслі не з долу, з нібыта намаляванага мастаком-інсітам пухкага смарагдавага моху, а – зверху, з неба, якога Стэфан не бачыў, бо нешта не дазваляла яму падняць вочы. Але ён адчуваў: неба пагрозліва нізкае і, калі выпрастацца на поўны рост, можна зачапіцца за неба галавою, або – што нязмерна страшней – яно само магло абнізіцца і зачапіць яго, Стэфана. Няспынны бег замінаў яму прыгледзецца да тых дрэваў. Ён адно ведаў: кожнае мела ўсяго чатыры галіны: дзве таўсцейшыя і даўжэйшыя, а дзве больш тонкія і кароткія. Доўгія галіны матляліся і, калі іх не ўдавалася абмінуць, цяжка білі па галаве і плячах, аднак карацейшыя палохалі мацней, бо, падказваў унутраны зрок, яны

цягнуліся да яго з Летаю маленькімі ўчэпістымі галінкамі, не раўнуючы як мерыліся схапіць за валасы і пацягнуць да сябе, туды, у нізкае, як столь, неба.

Яны беглі, лавіруючы ў зялёным прыцемку між дрэваў-мутантаў, і ім заставалася ўжо зусім мала. Лес заканчваўся, наперадзе свяцілася вакно нечага жытла. Раптам вакно імкліва наблізілася, і Стэфан угледзеў у ім ненатуральны бледны жаночы твар з заплюшчанымі вачыма. Стэфан зразумеў: там, за лесам, зусім не паратунак. І тут Лета закрычала.

Стэфан азірнуўся і ўбачыў.

Лес складаўся з безлічы павешаных. Яны віселі ў вераўчаных зашмаргах, але не былі мёртвыя. Адзін з павешаных ўчаперыўся пальцамі ў Леціны валасы і адарваў яе ад долу. Імгнення, на якое спыніўся Стэфан, хапіла, каб бліжэйшы павешаны дацягнуўся і да яго. Халодныя моцныя пальцы слізганулі па каротка стрыжанай галаве ніжэй і намацалі вушы. Ён увесь стаўся крыкам, ягоным суцэльным камяком. Крык пераходзіў у нечалавечае выццё, дзе пульсаваў вымоўны толькі ў такім роспачным выцці бязмежны страх за сябе і Лету...

## 1

Будзільнік Лецінага тэлефона граў оду Бетховена “Да радасці”.

Стэфану здалося, нібы ён з макаўкі да пятаў абліты гарачым, ліпучым, быццам агідны густы сіроп, потам, ад якога трэба будзе адмываць падушкі і прасціны.

Лета таксама прачнулася і вымкнула будзільнік. Яе вусны расцягнуліся ва ўсмешцы. *Ты ведаеш, што такое агульныя сны?* Усмешка ўвачавідкі набрыняла жорсткасцю. *Мы беглі па дзіўным лесе. Дрэвы раслі там не з зямлі, а з неба. І былі незвычайнымі дрэвамі...*

Стэфан зацкавана сцяўся, сціснуўшы ў вільготным кулаку край коўдры. З затокаў свядомасці выплыла народжанае некім, відаць, у турэмнай камеры, выслоўе: *Я прачнуўся з палёгкаю. Мне снілася рэчаіснасць.*

## 2

Лета не вярталася, і ён вырашыў вяртацца сам. Вяртацца да сябе і да звыклага жыцця.

Ён да драбніц памятаў тую красавіцкую нядзелю.

Ад раніцы перагонамі ішлі залевы. Парывы ветру рвалі з рук у мінакоў парасоны, а калі нехта спрабаваў дужацца – вецер помсліва надзьмуваў парасон на іншы бок, страсаючы на голаў прыгаршчы кропляў.

Такое надвор’е падабалася Стэфану з дзяцінства. Тады ён любіў чытаць або вандраваў у думках па розных гарадах і краінах. Зрэшты, з гадамі ўлюбёныя заняткі “пад дождж” збольшага не змяніліся: вабілі і кнігі, і далёкія гарады, але цяпер ён падарожнічаў і ў тыя даўнія часы, з якімі меў справу, схіляючыся над паперамі ў архівах. А яшчэ ў дождж ці ў завіруху яму было даспадобы кахацца.

У той дзень Стэфан не чытаў і не складаў вандроўных планаў, а ягоны ложак ужо забыўся пра жаночую цеплыню. На пісьмовым стале мудрагелістым пасьянсам разлегліся зноў некранутыя раздрукоўкі з сеціва і копіі архіўных дакументаў, а злева ад стальніцы ўжо шмат дзён сумаваў

прышпілены да сцяны вялікі аркуш з пустэльнай табліцай, якая зацята не хацела ператварацца ў радаводнае дрэва.

Стэфан зноў і зноў заварваў сабе ў белым японскім кубку з нерасшыфраванымі іерогліфамі моцную чорную гарбату і піў яе то з імберцам і мёдам, то з цытрынаю, то разбаўляў цёмны, як дзёгаць, напой струменьчыкам малака. Астатні час ён стаяў пры вакне і прыслухоўваўся да дажджу і да самога сябе.

Ён даўно не ездзіў у архіў і адклаў прызначаныя выправы ў Варшаву і Львоў, бо ўсё ж баяўся размінуцца з Летай. Апошнімі днямі ён назіраў за часам. Гадзіна расцягнулася не менш як да ста хвілінаў. Самі хвіліны, якія, бывала, нагадвалі яму, схільнаму да метафорыкі і параўнанняў, цёмныя налітыя сокам чарэшні, што самі зрываюцца з дрэва ў далоні, ператварыліся ў зялёныя вялаватыя слівы, якія ўвогуле невядома ці паспеюць.

Непагадзь кідала выклік часавай запаволенасці. Дажджавыя кроплі падалі секундамі, ручаіны на асфальце імгненна сплывалі хвілінамі. Хада часу вяртала сабе звычайную хуткасць. Стэфан пакрысе напаўняўся чаканнем. Не, не чаканнем таго, каб зноў надышло мінулае. Ён імкнуўся выйсці, вырвацца, выплысці за межы таго, што дасюль не адпускала.

Вецер зрываў са старой высачэннай таполі і шпурляў на падваконне першыя лісцікі, нядаўнія пупышкі. Дождж рупліва злізваў іх шырокім языком, ды адзін зацяты лісток патрапіў прыклеіцца да бляхі і застаўся.

Стэфан доўга глядзеў на мокрага заваконнага госця, намагаючыся сфармуляваць нейкую выснову. Урэшце ён адчуў неадольнае жаданне выпіць чагосьці мацнейшага за гарбату і выйсці пад дождж. Выйсці без парасона, каб прамокнуць пад залеваю да ніткі, а потым пераапрануцца, выпіць новую добрую дозу і легчы ў сухі ложак, каб прачнуцца іншым. Ён так і падумаў, быццам пра лекі: дозу.

Здзейсніць свой намер Стэфану было нескладана, бо ў бары дасёння сумавала без Леты адно распачатая ёю пляшка каньяку. Але, калі ён дапіў астатні глыток сваёй першай дозы, дождж, нібыта пашкадаваўшы Стэфана, аціх. Вечаровае неба выяснела, і на ім, адшараваным залевамі да ільснянага бляску, прарэзаліся першыя здзіўленыя гэтай нябеснай праяваю зоркі.

## 3

Раніцой Стэфан прачнуўся з ані не пахіснутым, а нават падужэлым учорашнім намерам вярнуцца да самога сябе і першым чынам – да радаводу, адкладзенага, нядаўна здавалася, ледзь не да святога ніколі.

Цяперашні Стэфанаў кліент, айчынны гарэлачны магнат, стала атабарыўся на Крыце і, хадзілі чуткі, жыў у палацыку з элементамі лабірынту, што адразу прымушала ўспомніць Мінатаўра. Для поўнага шчасця суседу антычнае пачвары, дух якой, пэўна ж, не пакінуў Крыта, не ставала як мага больш разгалінаванага радаводу. Мяркуючы па выплачаным перад Калядамі авансе, Стэфана чакаў больш чым прыстойны ганарар.

Яны з замоўцам сустрэліся ў зацішным грузінскім рэстаране. Падобны да штангіста-цяжкавагавіка магнат натхнёна даваў рады вялізнаму сакаўному хачапуры па-мегрэльску, падліваў у келіхі мукузані і нецярпліва нагадваў афіцыянту пра хінкалі. Збіваючыся з *вы* на *ты*, ён захоплена апавядаў пра аднаго з продкаў па мужчынскай лініі, або, як казалі даўней, па мячы.

Продак, славуты на ўсё ваяводства неймавернымі спрытам і дужасцю

шляхціч, любіў праехацца на двух конях, стоячы правай нагою на адным, а леваю – на другім. Ён забіваў ілбом каваныя цвікі, каб лёгка выцягваць іх зубамі. Стаяў на правай руцэ, выпіваючы з левай добрую чарку гарэліцы і прыкусваючы яе салёным гурком. Ён перанырваў шырокую рэчку і абавязкова выходзіў на бераг са шчупаком ці ментузом. І, безумоўна, ніхто не мог дараўнаць ягонай нястомнасці ў любошчах. Гэта пацвярджалася ці не самым слынным вычынам продка: аднойчы той перанёс на чэлесе праз усю карчму ніштаватае вядзерца з півам. *Можа, кухаль*? – паспрабаваў удакладніць Стэфан. *Вядзерца,* адрэзаў замоўца і ўпіўся зубамі ў пякучую хінкаль.

Калі ўсё пойдзе ладам, гарэлачны магнат дакляраваў запрасіць Стэфана да сябе на Крыт. *Можна і з музай,* рагатнуў кліент і, дэманструючы дасведчанасць, дадаў: *Зусім неабавязкова, каб яе звалі Кліо.*

## 4

Пошукі абяцалі стаць цікавымі, бо Стэфан яшчэ да знікнення Леты прасачыў нітачку, якая лучыла сённяшняга жыхара Крыта з рэальным, а не легендарным продкам, асобаю знакамітаю і вартай памяці нашчадкаў. Той продак не насіў на прычынным месцы ні вядзерцаў, ні кухляў з півам, затое пакінуў найцікавейшы дзённік-дыярыуш эпохі Рэнесансу. Калі душа аўтара адляцела ў вечны вырай, сыны, якіх Бог не абдзяліў розумам, не засунулі дыярыуш у куфар з фамільнымі паперамі, а надрукавалі яго, і кніга зрабілася тагачасным бестселерам.

Менавіта на чытанні дыярыуша ў сакавіку Стэфан і спыніўся. Старадаўняя кніга нездарма займела мноства чытачоў: людзей адвеку вабілі таямніцы і жахлівыя здарэнні, а якраз імі і поўніліся старонкі.

Але тады ён адклаў дыярыуш, бо чартав*і*ны, як сказала б ягоная бабуля, у жыцці і так хапала.

Другая спроба аказалася больш паспяховай.

## 5

Продак гарэлачнага магната, адукаваны шляхціч з дыпломам факультэта вольных мастацтваў Карлавага ўніверсітэта, бясконца вандраваў па дзяржаве і суседніх краінах то з войскам, то з двума вернымі слугамі. Нязменна знаходзячы час на дыярыуш, ён выявіў пільнае вока, чуйнае вуха і нязводную схільнасць да містыкі.

У дыярыушы былі старанна занатаваныя атмасферныя і астранамічныя праявы, патлумачаныя ў духу эпохі як нябесныя знакі. Яны вешчавалі добрае ці благое або наўпрост здзяйснялі Божую волю.

На Вадохрышча над зямлёю ад небакраю да небакраю вісела вясёлка, і год выпаў ураджайны на нівах і ў садах, а грыбы ў лясах стаялі шыхтамі, і нейкая белагаловая з-пад Навагрудка пахвалілася падарожніку: *Насілі з нявесткаю грыбы – як не ажарабіліся*.

Сонечнае зацьменне супала з бітваю, дзе загінуў найлепшы сябра аўтара дыярыуша. Стэфан спраўдзіў дату зацьмення ў гугле: яно папраўдзе адбылося ў дзень баталіі са шведамі.

*А ў месяцы лютым паказалася камета вялікая на ўсходзе сонца і стаяла час не малы, а па камеце разарэнне ўсёй зямлі ад маскоўскага непрыяцеля прыйшло.*

Пры аблозе гарадоў і замкаў не стралялі загавораныя чараўнікамі гарматы, агнёвыя ядры не падпальвалі драўляных сценаў, а з глыбокіх, украй паўнюткіх равоў за ноч да кроплі сыходзіла вада. Пасланы варожымі ведзьмакамі ўраган зрываў дахі палацаў і нахіляў званіцы, а выпраўлены ў адказ тутэйшымі млынарамі віхор знявечыў дзевяноста царскіх стральцоў, паадрываўшы каму руку ці нагу, а каму і голаў.

Сустрэлася ў дыярыушы і згадка, за якую ўхапіліся б уфолагі: *Знак на нябёсах паказаўся ў шарую гадзіну, а мяноўна месяц выплыў, і зорка вялікая прыйшла і яму слугавала.*

Стэфан запіваў адоленыя старонкі келіхам падараванай кліентам рэцыны – грэцкага белага віна з водарам і прысмакам смалы – і чытаў пра полаза таўшчынёю з руку і даўжынёю з дзіду, што даганяў найхутчэйшага каня, абкручваўся вакол вершніка ды працінаў яму горла джалам. Не менш уражваў і аповед, як пярун на шасцідзясяты дзень нараджэння забіў у полі пад хваінаю *пана пачцівага*, бо акурат такую смертухну прадказаў яму ў маладосці *звяздар*-астролаг.

## 6

Нібы адчуўшы, што Стэфан урупіўся ў працу, з Крыту затэлефанаваў кліент. Ён жыццярадасна і нецвяроза даваў у слухаўку ўласную справаздачу: плавае ў моры, п'е найлепшае *ўзо* – мясцовую анісаўку і ўвогуле ўсё, што гарыць, і бавіцца па чарзе з трыма німфамі. Калі радаводнае дрэва зашамаціць лістотаю, магнат пакліча Стэфана на гасціны, і яны будуць поплеч рабіць ранішнія і вечаровыя заплывы ды пустошыць запасы самага дарагога і рэдкага пітва. Тэлефон рагатаў і сапраўды пачынаў пахнуць анісаўкай.

Стэфан скаўтнуў асцу. Даўні спадзеў хаця б на тыдзень кардынальна памяняць заваконны краявід набываў усё большую верагоднасць. У сіле заставалася і колішняе запрашэнне высадзіцца на Крыце ў кампаніі з музаю. Як яе будуць зваць, Стэфан дагэтуль не ведаў.

Каб упэўніць магната, што справа жвава рухаецца наперад, Стэфан прачытаў яму фрагменты дыярыуша і запрапанаваў найцікавейшае прыкласці да радаводу. Замоўцу ідэя натхніла. Ён чамусьці асабліва ўпадабаў чарадзейны камень з дзіркаю, пралезшы праз якую, чалавек пазбаўляўся любой шкоднай звычкі ці хваробы. А вось запіс, як пан Бог пакараў віленскага ваяводу Паца за дазвол разграміць бажніцу кальвіністаў, выклікаў пратэст. *Пра ваяводу не трэба, не пакаціла. Мы народ талерантны.*

## 7

Чытаючы далей,Стэфан папраўдзе захапіўся.

*Дарогаю з Вільні дадому заначаваў я ў стадоле і на досвітку ўбачыў агністага чалавека, да якога кінуўся, а ён сам ішоў да мяне, і схапіў я нож, і ўдарыў яго. А ён, прапаўшы, знячэўку ў тым самым куце, дзе напачатку, аб'явіўся і зноў ішоў да мяне. А я вакно адчыніў і шапку смушкавую шпурнуў у прыхадня. Вось тады ён згінуў і следа не пакінуўшы.*

Раніцой пакаёўка пад сакрэтам апавяла падарожніку: агністы чалавек – гэта цмок-*летавец*. Ён заяўляецца начамі любіцца з гаспадароваю дачкой. Усе навакольныя жыхары, якія бачылі *летаўца* ўначы, а то і сярод белага

дня, або тапіліся, або лезлі ў пятлю. Самога падарожніка такая горкая доля абмінула, але ён занядужаў і мусіў у тым маёнтку затрымацца. Запрошаны лекар вызначыў, што хвароба насланая *інкубусам*, пакінуў бутэлечку лекавага зелля і паперчыну з закляццем на добры сон.

Хворы трохі ачуняў і аднае начы прачнуўся ад стуку ў шыбіну. За вакном было пуста, а ўдалечы, на ўзлеску, гарэла вогнішча. Трэба аддаць належнае смеласці шляхціча: той не збаяўся, захапіўшы шаблю, вылез у вакно і незаўважным наблізіўся да загадкавага вогнішча, каб стаць там сведкам жахлівай карціны.

Перад вогнішчам, раскінуўшы рукі, нібы збіралася ўзляцець, стаяла ў начной сарочцы бялявая прыгажунька – гаспадарова дачка, а вакол яе... Вакол яе кружляла сціжма кажаноў. Яны збіваліся над дзяўчынаю ў цёмны рой, як гіганцкія авадні, з піскатам рассыпаліся і сядалі ёй на голаў і плечы, чапляліся да рук і ног. Дзяўчына не баялася пасланцоў змроку, а наадварот – цешылася іх таемнай гульнёю нават, калі кажаны абсядалі яе ўсю вялізнымі начнымі матылямі і пераўвасаблялі летаўцову каханку ў калматую мурынку, пакідаючы белым адзін твар.

Цемра была хаўрусніцай падарожніка. Ён непрыкметна дабраўся да маёнтка, хапатліва склаў кайстру і ўскочыў у сядло.

Стэфан падарваўся з фатэля і колькі хвілін утрапёна хадзіў з кута ў кут. Нарэшце прымусіў сябе сесці, выпіць віна і зноў занурыцца ў дыярыуш. Таямніца так і засталася нераскрытай, а таму чыталася ўжо па інерцыі. Стэфана не ўразілі ні ўваскрэслы з попелу, чвартаваны, а затым спалены шляхцюк, які зрабіў замах на вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, ні чэрці, што заявіліся па аўтара дыярыуша на чацверыку коней, заехаўшы сходу на другі паверх камяніцы, ні белая кабета, якая выправіла нячысцікаў назад у пекла, крыкнуўшы: *Гэты чалавек яшчэ не ваш!*

Уваччу з тонкім піскам раіліся над дзяўчынай з шаснаццатага стагоддзя кажаны.

Амаль так, як было на лясным возеры, на якое ён з Летаю прыехаў у ліпені.

## 8

Кожнага вечара яны раскладалі водбліз іхняй зялёнай з сінімі вокнамі дамоўкі невялікае вогнішча і да паўночы бавіліся пры ім, размаўляючы ды папіваючы кожны свой напой: ён – віно, а Лета – незаменны каньяк.

Кажаны аб'явіліся ў першы ж дзень: то бязгучна праляталі над імі, то нагадвалі пра сябе посвістам крылаў і, дэманструючы дасканалую рэхалакацыю, знікалі ў прыцемку, трымаючыся неспасцігальна-мудрагелістай траекторыі.

Стэфан з маленства пабойваўся гэтых стварэнняў. Неяк у бабулінай вёсцы кажан сарваўся з неба проста на голаў малому суседскаму хлопчыку. Пакуль старэйшыя, а з імі і Стэфан, змагаючыся з агідаю, выдзіралі кажана з валасоў, малы трымцеў ад страху і ўрэшце абсікаўся. Каб не закажанеў і не застаўся на ўсё жыццё такога самага расточку, малога вадзілі да вясковай вядункі – маленькай, сухенькай і, напэўна не маладзейшай за сто гадоў. Стэфан памятаў яе, бо з самім ім бабуля хадзіла да вядункі лекаваць ад *кацінае драпы*. Знахарка капала са свечкі ў ваду воск і шаптала чарадзейныя словы.

Да вогнішча Стэфан прыходзіў у кепурцы, і ўвесь час прапаноўваў накінуць нешта на валасы і Леце. Ён распавёў ёй пра абсіканага малога і вядунку. Лета адмахнулася: *Не бойся, не ўсікаюся. Дый вырасла ўжо. Няхай садзяцца!*

Між тым, як выглядала, з іхняе пары кажаны вылучалі якраз Лету. Магчыма, акурат таму, што яна сядзела каля агніска з непакрытаю галавой, крылатыя жыхары ночы часам разразалі паветра ўсяго на пядзю ад яе.

Калісьці ў школьным біялагічным гуртку Стэфану даручылі падрыхтаваць выступ якраз пра кажаноў. Ён ніколі не скардзіўся на памяць і лёгка ўспомніў усё, што ўведаў тады пра гэтых ці то мышэй, ці то птушак.

Лета, да чаго ён ужо звык, пераважна адмоўчвалася, прынамсі, аніколі не распачынала размовы сама, і Стэфан нярэдка парушаў моўкнасць пры вогнішчы весткамі пра летуноў-назолаў. *Ты ведаеш, яны засынаюць уніз галавой і могуць праспаць так без шкоды для сябе восем месяцаў? – Зайздрошчу,* адгукалася Лета. *Затое, калі прачнуцца, лётаюць хутчэй за любую птушку. – І куды яны лётаюць?* – Леце былі ўласцівыя пытанні з неспадзяваным паваротам. *Як куды? Шукаюць, чаго з'есці. – Ты сапраўды лічыш, што яны такія прымітыўныя? – Гіганцкія вечарніцы*, не здаваўся Стэфан, *ядуць жабаў і яшчарак, а звычайны кажан за ноч з'ядае жамяры на траціну сваёй вагі. – Давай і мы наловім жабаў. Яшчарак шкада. Яны валхвіцы.*

Стэфан ведаў: высвятляць, чаму яшчаркі – валхвіцы, марна, а таму не збіваўся з тэмы. *Мо ўсё ж лепей наловім рыбы?* – прапаноўваў ён. *Вуды так і ляжаць некранутыя – вось і цудоўна! Рыбіны такія ўдзячныя. А яшчэ кажаны спяваюць на ультрагукавых хвалях. У кожнага, калі заляцаецца да саміцы, свая песня. – Ну, ясна, юны натураліст, усё як у людзей.*

## 9

Ён цягнуўся да Леты, вылушчваў з апраткі яе халаднаватае, незагарэлае цела дзяўчынкі-падлетка і ўадначас дасведчанай таленавітай жанчыны, і яны плылі ў высокай траве пад зоркамі і кажанамі. Плылі доўга, рознымі стылямі, і кожны дарыў другому адметную асалоду.

Потым Стэфан з Летаю туліліся да вогнішча. Ён любіў хвіліны, калі полымя дагарала і ператваралася ў процьму чырвоных з чорнымі пералівамі профіляў, твараў, постацяў – у чалавечкаў-вогнікаў, якія абдымаліся, счэпліваліся ручкамі і ножкамі і, ствараючы непаўторныя кампазіцыі, здавалася, таксама пачыналі кахацца.

Гледзячы на вогнішча, Стэфану добра думалася пра час, загадкавую субстанцыю, якая запаўняе любыя формы з відочнымі і невідочнымі межамі, але ў кожнай з гэтых формаў паводзіцца па-рознаму. Вось тут, у коле святла, – час такі, а там, у цемры, адкуль вынырваюць кажаны, – бясспрэчна, зусім інакшы.

*Табе не здаецца, што наш лес жыве немаведама ў якім стагоддзі? Мо там, напрыклад, юрскі перыяд?* Лета, нібы прачытаўшы ягоныя нядаўнія думкі, адказала ва ўласцівым ёй стылі: *Адчуваю, як твой час запаўняе маю пляшачку.* Яна паказала апусцелую пляшку з-пад каньяку. *Можа, сходзіш па новую? Пакуль з твайго юрскага перыяда,* яна кіўнула на лес, *не вылецеў які-небудзь...* Гэта быў апошні лясны вечар, і, Стэфан адзначыў, Лета крыху разгаварылася. *Які-небудзь птэрадактыль,* скончыла яна.

Цемра азвалася піскатнёй кажаноў, якіх эвалюцыя, шкадуючы чалавека, прывяла на змену птэрадактылям. Як бы адчуваючы: заўтра ні вогнішча, ні людзей тут не будзе, кажаны разлёталіся болей, чым зазвычай. Стэфан не сумняваўся: Лета вабіць іх нашмат мацней за яго і знайшоў вясёлае, як яму здавалася, тлумачэнне. Маўляў, яны, няпрошаныя двухногія госці, маюць справу з выключна, так бы мовіць, мужчынскай часткаю папуляцыі. Кажаны заслужана паводзяць сябе па-гаспадарску, а з'яўленне гасцей і найперш яе, Леты, для іх – нечаканая прыемная прыгода. Сярод гаспадароў прыцемкаў і мораку, безумоўна, ёсць закаханыя ў Лету асобіны. Яны раўнуюць, і ў іх ідзе суперніцтва за права першай, дакладней, апошняй ночы. На яе перадусім, ведама ж, прэтэндуе важак пісклявае папуляцыі. *Якое ў яго можа быць імя? Нешта лятучае і з гучным тытулам?*

Лета рэзка спыніла той дураслівы маналог: *Яго завуць Начны кашмар! Мне падабаюцца кашмары. Яны аздабляюць жыццё.* Яна зноў памахала ў паветры пустой каньячнай пляшкай і кіўком галавы паказала на дом.

Надзвычай хутка Леціны словы пра кашмары атрымалі пацверджанне.

## 10

Па дарозе назад да вогнішча Стэфан з прысмерку ўбачыў, як Лета, павярнуўшыся да яго спінаю, стаіць з раскрыленымі рукамі, а вакол яе танчаць страхавіты танец кажаны. Аўтару напісанага пяцьсот гадоў таму дыярыуша яны выдавалі велізарнымі аваднямі і матылямі, а Стэфану пасля нядаўняй згадкі юрскага перыяда здаліся закажанелымі птэрадактылямі, ад якіх веяла жудой і пагрозаю.

Ён не пабег ратаваць Лету, бо зразумеў: ёй, як і той каханцы *летаўца*, даспадобы жывая хмара, што часам захінала яе, нібыта забіраючы з сабой. У нейкі момант Лета пачала ўзмахваць рукамі. Стэфана апякла вар'яцкая думка: вось-вось Лета сама пераўвасобіцца ў кажана і ўзляціць.

Яна не ўзляцела. Пачула яго крокі, і яе рукі – хвілю таму яны мроіліся яму крыламі – павольна апалі, зрабіліся якімісьці бездапаможнымі. Лятучыя танцоры, незадаволена папіскваючы, падняліся ў начное неба вышэй, але не паляцелі прэч, а па-ранейшаму густа кружыліся над імі, на імгненні крадучы ў вачэй зоркі. Стэфан пераканаўся: ні кажаны, ні Лета не радыя ягонаму вяртанню. *Гэты свет належыць не толькі нам, ім – таксама. Але супакойся. Я пакуль не навучылася лётаць.*

У тую ноч Стэфан спаў наструнена-чуйна і часта прачынаўся ад выразнага свісту крылаў. Колькі разоў крылатыя гаспадары наваколля біліся ў вялікае, злучанае са шклянымі дзвярыма вакно, і яму, Стэфану, мірсцілася: гэта не кажаны, а ўсяго адна крылатая тварына, што ніяк не можа супакоіцца і развітацца з Летай.

Лета ж у мірг вока заснула – як звычайна на левым баку, па-дзіцячы падклаўшы абедзве далоні пад шчаку, і спала надзіва спакойна. Яе быццам падмянілі: у мінулыя ночы яна пачасту ўздрыгвала, штосьці мармытала на тарабарскай начной мове, а то і сядала ў ложку, неўразумела гледзячы навокал шырока расплюшчанымі непрачнутымі вачыма, і анічога такога, прызнавалася ўранні, не памятала.

На знікомай мяжы паміж яваю і сном перад Стэфанам мільгануўся лекар з дыярыуша пяцісотгадовай даўніны, што даў аўтару бутлік зёлак і паперку з закляццем ад *летаўца*. Стэфан не адмовіўся б ад такіх лекаў.

## 11

Адолеўшы старадаўні дыярыуш, Стэфан адчуў, як зноў трапляе ў пастку ўспамінаў. Яны паўставалі ў інакшым святле. Сталася відавочным: адпраўной кропкаю цэлага ланцужка непразрыстых здарэнняў і сітуацый былі зусім не кажаны на лясным возеры. На той момант ён ужо быў гатовы да розных нечаканак. Шматзначнай завязкаю доўгага і няўцямнага, хоць – спадзяваўся Стэфан – ужо завершанага сюжэта выглядала само іхняе знаёмства з Летаю на той каляднай выставе.

Стэфан залічаў сябе да асобаў паслядоўных і не збіраўся адступаццца ад таго, што пастанавіў у красавіцкую залеўную нядзелю, пераглядаючыся з зоркамі на бэзавым небе. Пагатоў ніякія кажаны іх не захіналі.

У тэлефоне адбіліся тры званкі з кодам Грэцыі. Замоўца выяўляў нецярплівасць, і Стэфан правёў з ім заспакаяльную гутарку: ён заложна працуе і набыў квіткі ў Вільню, дзе знашліся дакументы пра ўдзел продкаў кліента ў паўстанні Каліноўскага. У якасці мастацкага дадатку Стэфан прачытаў гарэлачнаму магнату новыя ўрыўкі з дыярыуша. Хіжы тутэйшы пітон-полаз быў адрынуты, а вось фрагмент з летаўцом ды ягонай каханкаю (гэта не надта спадабалася Стэфану) далучаўся да радаводу.

Стэфан выклаў на стальніцу стос зробленых пад старасвеччыну жаўтлявых крафтавых аркушаў, на якіх складаў фінальныя генеалагічныя табліцы і пасунуў да сябе масянжовую каламарку пазамінулага стагоддзя, праўда, з сучасным чорным атрамантам. Пяро было не гусінае, а сталёвае, аднак ён пакінуў за сабою права называць яго для кліентаў гусіным, а то, пад настрой, і лебядзіным.

Роўным чытэльным почыркам з элементамі каліграфіі ён перапісаў з дыярыуша тры старонкі, аздабляючы загалоўныя літары чырвоным атрамантам з асобнага бутліка. Цягам усяго працэсу яго не пакідала вярэда, якая паступова вылузвалася з туману і набывала абрысы выразнай высновы.

Калі Стэфан загарнуў дыярыуш і высушыў свежаперапісаныя аркушы, ён усвядоміў, *што* зробіць, каб утаймаваць плынь згадак, якія па-ранейшаму бунтавалі душу, не дазваляючы засяродзіцца на працы і наогул вярнуцца ў звыклы лад жыцця, які яму падабалася ў думках называць на лаціне – *modus vivendi*.

Ён знайшоў бездакорны, як здавалася, сродак: напісаць уласны дыярыуш. Даверыўшы паперы падзеі праміналага года, ён створыць паміж імі і сённяшнім днём патрэбную дыстанцыю. Ён завершыць радавод, з’ездзіць на Крыт і калі-небудзь, настроіўшыся на адпаведную хвалю, перачытае ўжо кранутыя пацінай часу свой задаўнены дыярыуш, каб недзе ўсміхнуцца, недзе зажурыцца, а штосьці, як пашанцуе, і разблытаць.

Разам з тым Стэфан не сумняваўся: існуюць рэчы, сутнасць якіх ты аніколі не патрапіш расшыфраваць, але яны нікуды не знікаюць і, магчыма, больш пашчасціць некаму іншаму.

Як гэта ён вычытаў недзе ў тастаментах? *Памяць чалавечая вельмі кароткая была б, каб пісьмом не падпіралася.*

## 12

Ішоў шосты тыдзень, як Лета знікла. Цешыў вока цнатліваю зелянінаю травень, у вокны вечарамі біліся і падалі на падваконне не кажаны, а мядзяныя ўтульныя хрушчы. Сама вясна, думаў Стэфан, пярэчыць таму, каб ён

надалей заставаўся адзін. Ён ведаў: найлепшыя лекі ад жанчыны – іншая жанчына і спадзяваўся, што лёс неўзабаве пашле яму новую спадарожніцу.

Называць жанчыну, з якой меў блізкія стасункі, спадарожніцаю Стэфан, як гэта ні дзіўна, пачаў пад уплывам бацькі. Той крыху высакамоўна мянаваў так ягоную маці. Пры гэтым бацька дадаваў эпітэт – бясцэнная, незаменная, надзейная, верная. Адрозна ад бацькі Стэфан карыстаўся азначэннем выключна для сябе і без эпітэтаў, для якіх, ён меркаваў, не надышоў час.

Стэфан верыў у дапамогу свайго дыярыуша. Ён папоўніў запас крафтавай паперы, бо разважыў, што трэба пісаць ад рукі. Будучы тэкст уяўляўся яму каштоўнай адзінкаю асабістага архіва, а рукапісы, якія апрача зместу захоўвалі і нешта асаблівае, пакінутае жывой чалавечай рукой, заўжды краналі яго нязмерна больш, чым друкаваныя тэксты.

Але сталася так, што – хоць дыярыуш і не быў пачаты – надзеі на вяртанне ў свой *modus vivendi* пачалі спраўджвацца.

З бясконцых замежных гастроляў прыехала і, калі ёй верыць, менавіта яму першаму і затэлефанавала, цыркачка Рэгіна.

Стэфан ніколі адмыслова не шукаў спадарожніц, звычайна ўсё адбывалася само сабою. Рэгіна была якраз такім выпадкам.

## 13

У тую зіму Стэфана дзіўным ветрам занесла ў цырк.

Ён не любіў цырку нават у дзяцінстве, а тады праходзіў паўз падобны да торта, ярка асветлены будынак і, відаць, паддаўся настрою тых, хто спяшаўся на вечаровы паказ. У Стэфана сарвалася сустрэча з кліентам. Замест таго, каб прыйсці ў прызначаны час у дамоўленую кавярню, кліент, калі Стэфан дапіваў другі кубачак капучына, даслаў паведамленне: стаіць у чарзе на літоўскай мяжы.

Насуперак пагрозе глабальнага пацяплення мароз трымаўся градусаў за дваццаць. Трапіўшы ў натоўп, які рухаўся да цырку, Стэфан купіў квіток і, каб сагрэцца, адразу скіраваў у буфет.

У зале ён агледзеўся і ўзяў у розум, што трапіў сюды цалкам выпадкова і недарэчна. Імкненне сысці падагрэлася з'яўленнем нясмешнага клоўна і белых сабачак у ружовых спаднічках. Стэфана спыніў наступны выхад трох мядзведзяў на чале з маладой жанчынаю ў шчыгульным чорным строі. Яму згадалася: мядзведзь, нібыта і надзейна прыручаны, застаецца непрадказальным і надзвычай небяспечным зверам. Калі неабачліва павярнуцца да яго спінаю, ласкавы і паслухмяны хвілю таму мішутка працей простага можа зняць чалавеку скальп.

Стэфан заўважыў, што хвалюецца за мужную муштравальніцу, але тая, імклівая, як стрыбаўка, элегантна пазбягала небяспечных пазіцый.

Неўзабаве яна, пераапрануўшыся ў пунсовае трыко, зноў выйшла на арэну ў новым увасабленні – акрабаткі. Аднак пасля падараванага мядзведзямі прыліву адрэналіну ўсе яе нумары з палётамі пад купалам і скачкамі з трапецыі на трапецыю мала хвалявалі Стэфана.

У перапынку, перад выхадам на марозную вуліцу, ён зноў зазірнуў у буфет, дзе і сутыкнуўся з акрабаткай-муштравальніцай. Яна, відавочна адпрацаваўшы ўсе ўласныя нумары, была ў кароткай кармінавай сукенцы і – каб не сівая пасмачка ў чорных валасах – выглядала б зусім юнай.

У такія імгненні Стэфанам нібы кіраваў нечы чужы, праўда, прыязны да яго розум. *Прабачце, вы не хочаце, каб я стаў яшчэ адным вашым мядзведзем? Хоць на адзін-аднюткі вечар.* Цыркачка ўзняла бровы і, моўчкі развярнулася ў калідор. Дагнаўшы яе, Стэфан не здаваўся: *Я разумею, за вечар дасягнуць поспеху ў вашай справе немагчыма. Я гатовы да любога тэрміну.* Цыркачка спынілася і двойчы змерыла яго позіркам зверху ўніз і знізу ўгору. Стэфан дакрануўся да таго месца ўласнай фрызуры, дзе ў валасах у цыркачкі свяцілася срэбная пасмачка, і асцярожна пацікавіўся: *Ад мядзведзяў?*

Яны вярнуліся ў буфет і затрымаліся там на бутэльку сухога марціні. Затым схадзілі ў нетры цырка да клетак з мядзведзямі, якія сустрэлі Стэфана, здаецца, без рэўнасці. Цыркачку клікалі Рэгіна, і яны паспелі перайсці на *ты. Ты хочаш увайсці да іх?* – Яна кіўнула на клетку. – *Але нельга паварочвацца спінай. – Ведаю. Але я хачу...* – Стэфан зрабіў пярэрву і зазірнуў у зялёныя вочы. – *Я хачу іншага. – Далей!* – запатрабавала Рэгіна. *Я люблю шчырыя прызнанні. Яны лепей заводзяць.* Стэфан павагаўся ўсяго імгненне... – *Адказ пра-віль-ны,* расцягваючы словы прамовіла валадарка мядзведзяў.

Рэгінін цыркавы пакой-грымёрка, апроч крэсла і століка з люстэркам, меў маленькую канапку, што засталася ў спадчыну ад калегаў-ліліпутаў. Адчувальна пахла жывёламі, у самы непажаданы момант, усё роўна як падглядаў за імі, прарэзліва падаў голас хтосьці з насельнікаў клетак, як высветлілася, вярблюд, але нішто не збіла Стэфана і Рэгіну з абранага шляху.

## 14

Яны працягвалі сустракацца ў яго дома, і, дзякуючы Рэгіне, цырк, няхай і без звяроў, прысутнічаў і там. Прэлюдыі ў яе выходзілі феерычныя. Яна рабіла стойку на руках і прасіла, каб ён цалаваў яе ў вусны. Або, стоячы на галаве, матляла нагамі і чакала, што Стэфан пацалуе яе ў *вусенкі.* Яна магла пераляцець у сваім сальта ягоны пісьмовы стол і апынуцца ў ложку, неверагодным чынам паспеўшы ў палёце распрануцца.

Рэгіна рэдка заставалася надоўга: тлумачыла, што не ў яе правілах набіваць аскоміну. Тыя цыркавыя заняткі – напачатку Стэфанаў твар абліваўся чырванню – своеасабліва аздабляла Рэгініна схільнасць да брутальнай лексікі. *Што ты зараз робіш?* – пыталася яна ў часе любоўных гульняў. – *Давай без эўфемізмаў... Малайчына, цяпер усё вычарпальна. Ты заслужыў пацалунак. Ды не такі, наіўны!* – Яна сціскалася, як спружына, а калі расціскалася, ужо вісела галавой долу, зачапіўшыся нагамі за гзымс кніжнае шафы. *А цяпер дай мне...*

Цырк скончыўся гэтаксама неспадзеўна, як і пачаўся. Пасля складаных акрабатычных эцюдаў яны ляжалі на падлозе, і Рэгіна паведаміла пра новы гадавы кантракт і заўтрашні ад'езд на гастролі ў Еўропу, а там, як пашэнціць, і за акіян.

Стэфан быў засмучаны. Аніякай аскоміны ён не адчуваў.

## 15

Цыркачка Рэгіна аб'явілася не праз год, а праз тры, але зрабіла тое якраз у патрэбны час.

Стэфан запрасіў яе ў кавярню “Цырк на дроце”. Яе за гэты час адчынілі цераз вуліцу ад месца іх першае сустрэчы. Інтэр’ер стваралі цыркавыя мастакі. На адным з вялікіх каляровых фота Рэгіна выступала з мядзведзямі, якія дапамаглі ім пазнаёміцца. Яна распавяла, што сапраўды апынулася ў Амерыцы і зарабіла неблагія грошы, хоць і пакінула выступаць як акрабатка. У самалёт мядзведзяў не ўзялі, таму плыла з імі на караблі. Старэйшы касалапы пакутаваў ад гайданкі, а неўзабаве па-сапраўднаму захварэў і памёр. Яна аплаквала яго як чалавека. Двух астатніх мядзведзяў Рэгіна перад ад’ездам дамоў прадала ў амерыканскія звярынцы, таму назад ляцела на самалёце. Ляцела і ўяўляла сустрэчу з ім, Стэфанам.

*Ты не змяніўся. Па-ранейшаму шукаеш нешляхетным нашчадкам шляхетных продкаў?* За тры гады Рэгіна крышачку пацяжэла, але выглядала не менш прывабна. Стэфан уявіў яе сальта, скачкі і стойкі на галаве . *Цікава, як будзе сёння?* – падумаў ён і набраў нумар таксі.

Нягледзячы на ўсцеху ад сустрэчы, і ў кавярні, і па дарозе Стэфана не пакідала адчуванне чагосьці кшталту лёгкай здранцвеласці. Дома распачаўся прызабыты цырк, якому ані не перашкаджалі некалькі новых Рэгініных кілаграмаў. Стэфан страпянуўся і ўсё быццам бы адбылося як належыць, але калі апоўначы пасадзіў Рэгіну на таксі, ён зрабіў несуцяшальную выснову. Не хацелася ў гэтым прызнавацца, але яму мроілася цела дзяўчынкі-падлетка з вачыма, якія нібыта бачылі свет нашмат даўжэй за яго.

Тое самае паўтарылася і на другім спатканні.

На трэцяе Рэгіна прыехала на моцным падпітку, і абышлося без цырку. Яна прывезла яму ў падарунак канадыйскую бляшанку кляновага сіропу. Іхнія ласкі, ледзьве паспеўшы разгарэцца, бяздарна – зразумела, па ягонай віне – згаслі. *Ясна, мой архіварыус*, падвяла рысу Рэгіна, пакуль ён перажываў сваё фіяска. – *Ты належыш іншай. Не разумею: ужо ці яшчэ, але гэта неістотна. Карацей, захочаш салодзенькага – смакчы кляновы сіроп.*

Цыркачка Рэгіна была пранiклівай жанчынай.

*Памятаеш, ты чытаў мне верш кагосьці з класікаў: Не вяртайцеся да былых каханых, былых каханых на свеце няма. Ты забыўся на каштоўную параду.*

У адказ Стэфан не знайшоў нічога лепшага, чым, утупіўшыся ў падлогу, прамармытаць: *Mea culpa, mea maxima culpa.*

## 16

Стэфан павініўся перад сабой і за адкладзены ўласны дыярыуш. Ён возьмецца за яго не пазней за панядзелак, калі чытальная зала архіва зачыненая.

Падзеі, якія лягуць у дзённік, закруціліся больш за год таму, але ён настолькі выдатна – да колераў, пахаў, слоў, інтанацый – іх памятаў, што мог не парушыць класічных канонаў жанру. Ён пераселіць Лету ў дыярыуш, ператворыць яе ў літаратурны вобраз і – хто ведае – мо насамрэч схопіць патаемны сэнс іхняе гісторыі.

Апрача таго Стэфану аднекуль згадалася сістэма лекавання наркаманаў, паводле якой пацыент пасля расповеду псіхолагу пра смяротна небяспечнае мінулае на дадатак мусіў таксама дэталёва запісаць пераджытае. У фінале неабходна было даць абяцанне, што з гэтага моманту ранейшая згубная хвароба будзе выключаная з жыцця, каб яго, гэтае самае жыццё, захаваць.

У памяці, вырабляючы сальта і кульбіты, круціўся вырак цыркачкі Рэгіны: *Ты належыш іншай.*

Ён хацеў належыць сабе самому.

Да панядзелка, калі ён распачне дыярыуш, заставалася цэлых пяць дзён. Штораніцы Стэфан тры чвэрці гадзіны ехаў на трамваі ў архіў, а ўвечары ў вясёлым жоўта-чырвоным вагончыку адольваў той самы шлях у адваротным накірунку. Ён вырашыў і гэты час выкарыстоўваць для аднаўлення раўнавагі: прысвячаць паездкі ўспамінам пра ранейшых спадарожніц, сярод якіх некалі зойме адпаведнае месца, адпусціўшы яго на волю, і Лета.

## 17

Стэфану ішоў сорак другі год. З прачытаных кніг знакамітых аўтараў і са шматлікіх архіўных дакументаў, народжаных пяром тых, чые імёны схаваліся за параванам даўніны, ён ведаў: гэты век чамусьці лічыцца для мужчыны небяспечным. Неяк ён загаварыў пра тое з Летай і быў высмеяны: *Для мужчыны, а пагатоў для жанчыны, любы ўзрост небяспечны. Прычым небяспечны смяротна.*

Ужо болей за дзесяць гадоў Стэфан жыў адзін. Шлюб у трыццаць гадоў атрымаўся кароткім, як летні дождж, што сканчаецца вясёлкай. Развітанне з Верай пакінула не шкадаванне, а палёгку. Былая жонка, імпульсіўная мастачка-касметолаг, страшэнна любіла кампаніі ды нудзілася, калі яны выпраўляліся кудысьці ўдваіх. Альянс класічнай халерычкі і сангвініка на мяжы з флегматыкам, як вызначаў уласны тэмперамент Стэфан, не вешчаваў шчаслівай будучыні. Абое зразумелі непазбежнасць расстання, але захавалі сяброўскія стасункі і па разводзе колькі разоў з прыемнасцю апынаіся ў адным ложку. Затым Вера давала нырца ў яе тусоўкі, а ён заставаўся сам-насам з архіўнымі фаліянтамі і тэчкамі, перажываючы непаўторныя і дарагія яму пачуцці першаадкрывальніка, калі да рук трапляў дакумент, які стагоддзямі чакаў дотыку цёплых чалавечых пальцаў.

Аднак Стэфан не лічыў, што створаны для самотніцкага жыцця.

У бацькоў, універсітэцкіх выкладчыкаў, якія рана пакінулі гэты свет, ён быў адзіным сынам. Тата перажыў маму ўсяго на год і даў яму, Стэфану, перад сыходам два наказы: скласці іхняе радаводнае дрэва і, дзякуючы гэтаму дрэву, – сабраць як найбольш крэўных на хрэсьбіны сына.

Бавячы з хворым на анкалогію бацькам ягоныя астатнія тыдні, Стэфан, васямнаццацігадовы студэнт, прысягнуў: іхні герб не разаб'юць, як рабілі даўней, калі шляхецкі род выміраў, а будучага сына ён назаве ў гонар дзеда Багуславам. Тое, спадзяваўся Стэфан, крыху аблегчыла пакуты бацькі, які ўсё жыццё прыхавана, але няўхільна кіраваўся кодэксам шляхецкага гонару.

Праўда, выкананне бацькавага запавету адтэрміноўвалася. Стэфан апраўдваў сябе тым, што калісьці шляхцічы зазвычай бралі шлюб у сталым вяку. Апёкшыся раз, ён абавязаны быць пераборлівым і дасюль не спаткаў жанчыны, вартай стаць мамаю малога Багуслава.

Стэфан меў у запасе і іншы моцны аргумент.

Ён сышоў з пасады ў гістарычным архіве і заняўся складаннем радаводаў на прыватныя замовы. Ахвочых з году ў год болела. Гэта грэла душу: суайчыннікі аднаўлялі сувязь з продкамі, мацуючы сябе і свой род, а таксама, калі не баяцца высокіх слоў, і краіну, а ён зарабляў прыкметна

болей і ўжо не хапаўся за першую-лепшую прапанову, а меў прывілей выбіраць замоўцаў.

Сёй-той з кліентаў прагнуў займець неадменна шляхецкіх продкаў. Некаторыя калегі Стэфана, пачуўшы відавочна не шляхецкае прозвішча, глыбакадумна ўздымалі вочы, замыльвалі вусны і казалі: *не адчайвайцеся*. Яны разам з замоўцамі, асабліва, калі тыя не шкадавалі грошай, дасягалі жаданага абодвум бакам выніку ў абсалютна безнадзейных варыянтах. Стэфан ціха ганарыўся, што працуе сумленна. Іначай ён, напэўна, быў бы заможнейшы, але грошы і так вяліся. Ён мог дазволіць сабе нятанныя кнігі, замежныя выправы ў патрэбныя архівы або на цікавыя мастацкія выставы. Перад знаёмствам з Летай зрабіў сабе падарунак, з’ездзіўшы на дзень нараджэння на выставу Гераніма Босха ў Гётэборг.

Сумленне Стэфана было задаволенае сваім гаспадаром, бо, узбіўшыся на грошы, ён стварыў адмысловы фонд Богуся-Багуслава. А пакуль на даляглядзе не з’явілася ягонай будучай маці, жыццё Стэфана разнастаілі і аздаблялі іншыя прадстаўніцы цудоўнага і загадкавага жаночага космасу. Яны і падарожнічалі з ім цяпер у ранішніх і вечаровых трамваях. Калі-нікалі іхняя прысутнасць бывала гэткай адчувальнай, што Стэфан спыняў сябе, каб не прабіць квіток на праезд не толькі сабе, але і чарговай гераіні ўспамінаў.

## 18

Трамвайная тэрапія давала плён. Архіўныя паперы вярнулі на Стэфана сваё амаль наркатычнае ўздзеянне. Калі ў руках апыналіся дакументы, якія бездань часу вывучалі адны архіўныя прусакі, сэрца білася мацней і ён мусіў супакойваць у пальцах радасную дрыготку. Застылыя на паперы словы, думкі і спадзяванні ажывалі, і ў чытальную залу заходзілі і рабіліся рэальнейшымі за сучаснікаў персанажы з мінулых эпох.

Натхнялі і патрэбныя для замовы крыцкага сібарыта знаходкі, адна з якіх мела асаблівую важкасць.

*…А маёмасць маю рухомую, якую ў дом мужа майго ўнесла, а мяноўна: скрыня вялікая з нутраным замком, у якой футэрка чорнага тоўстага французскага сукна, вавёрчыным футрам падшытае, бабром абкладзенае; летняя чорная сукенка мухаяравая з аблямоўкай; сукенка фалюндышавая брунатная з каўняром аксамітным; сукенка чорная мараўская; шапка новая аксамітная, куніцамі і бабром падшытая; чорная перлавая брамка; каптур залаты; дзве мухаяравыя накідкі, адна новая, чырвоным вавёрчыным футрам фарбаваным падшытая, а другая старая, падшытая вавёрчынымі скуркамі; пас аксамітны са спражкамі срэбнымі.*

Стэфан чытаў гэтыя радкі, нібы піў старое добрае віно.

*Другая скрыня з нутраным замком, у якой грошай гатовых шэсць коп, з якіх ахвярую на царкву Святога Спаса капу грошай. Адзін залаты пярсцёнак, каралі ружовыя грэцкія на тры ніткі, бялізна, абрусаў вялікіх тканых тры, а прасцінаў чатыры, ручнікоў кёльнскіх два, палатна кужэльнага тонкага восемдзесят локцяў, кашуляў тонкіх кёльнскіх, і кашулек маленькіх, і іншых рэчаў, і хустаў белых нямала запісваю сваім тастаментам маці маёй пані Вальжыне…*

Стэфану выпала шчаслівая карта: быў адшуканы тастамент прапрапрабабулі гарэлачнага магната, калі лічыць па кудзелі. Не чакаючы вечара, Стэфан звязаўся з замоўцам. На тым баку сувязі грала музыка і звінеў жаночы смех, але кліент умомант улучыўся ў размову і запатрабаваў

прачытаць тастамент. Колькі разоў ён задаволена прыцмокваў і папрасіў паўтарыць мясцінку пра грошы.

*Другая скрыня, у якой грошай гатовых шэсць коп…* – працытаваў Стэфан. *Дарагі, выпісваю табе сёння шэсць коп зялёнымі прэміяльных,* прабарытоніў тэлефон на адвітанне.

Зусім мала заставалася да таго дня, калі Стэфан знайшоў у архіўнай тэчцы з судовымі паперамі нож без тронкаў. Цёмныя плямы на лязе не пакідалі сумневу ў сваім паходжанні.

## 19

Лета то хавалася за апушчанай Стэфанам заслонаю ўспамінаў, то натурыста выглядала адтуль з цыгарэтаю ў вуснах.

Стэфан аднаго разу "пазнаў" яе ў жанчыне, якая выходзіла з кавярні, а праз колькі дзён – на стужцы эскалатара ў метро, калі ён ехаў уніз, а *яна* падымалася насустрач з гарадскога сутарэння. Здалёк падабенства было такім, што ён ужо быў увесь падабраўся, каб пераскочыць цераз бар'ер у сустрэчную людскую плынь.

Ён дачакаўся вольнага ад архіўнае працы панядзелка. Адкладаць свой дыярыуш больш не выпадала. Леце было цесна ў памяці, яна ўладна прасілася на паперу.

## 20

**З дыярыуша Стэфана N.**

*Студзень 20** года*

Перад Калядамі адчынялася выстава мастака, знакамітага гіпнатычна-фантасмагарычнай графікай. Ягоныя афорты і малюнкі пяром стваралі вусцішны паралельны свет. Ён палохаў, адштурхоўваў і пры гэтым вабіў, як прыцягвае да сябе край стромы.

Наведнікаў сустракаў афорт з велічэзнымі жудаснымі рыбінамі. Яны выткнуліся да самых хвастоў з багавіністай сажалкі і нешта пагрозліва прамаўлялі да пераляканага збою вудалёў. Тыя пакідалі снасці, забыліся пра ўлоў і, відаць, адно марылі дабрацца дадому цэлымі, а не стаць здабычаю рыбін-пачвараў. На наступным малюнку падобныя да людзей стварэнні ўзброіліся рагацінамі, асядлалі гіганцкіх кажаноў і палявалі на матылёў памерамі з грыфаў. Трэці твор пераносіў аматара мастацтва на заснежаны ўзлесак. Там у сумётах стаяў на галаве слон са шчэлепамі акулы. Вакол яго тоўпіліся страхалюдныя лупатыя і грыбатыя разявакі. Кожны мог да смерці перапалохаць, сустрэўшыся з вамі ў ціхім завулку.

Генетык з аднайменнага афорта даў жыццё цэлай сціжме пачвараў. Самай сімпатычнай выглядала жаба бегемотавага росту з вырачанымі і несумнеўна чалавечымі вачыма. Генетык плённа працаваў і з дрэвамі. Іхнія галамні ператвараліся ўжо ў целы новых істотаў з невідушчымі тварамі і шматлікімі рукамі-галінамі. Гэтыя рукі ўзбройвала безліч доўгіх, як мацуны васьмінога, пальцаў.

Нечае ўпуджанае дзіця рыдма плакала каля малюнка "Вартаўнік". На ім тузін сабак танчыў на задніх лапах перад вартаўніком у кепурцы, швэдры і ботах з адагнутымі халявамі, але з хіжай сабачаю пысаю.

Я так падрабязна пішу пра ўсіх гэтых герояў выставы, бо тут, магчыма,

і з’яўляецца нітачка, якая дапаможа мне ў разблытванні клубка далейшых загадак.

Сам маэстра – сівы і кудлаты, невысокага расточку, з залатым зубам, што падкрэсліваў цьмяную ўсмешку на малакроўных вуснах, абліччам набліжаўся да некаторых сваіх антрапаморфных персанажаў.

Мастаку яўна падабалася вымярэнне, дзе яны існавалі. Здавалася, ён без вялікіх намаганняў мог бы затаіцца недзе ў нетрах створанага ім лесу і дачакацца, хто ж пераможа ў баталіі матылёў з вершнікамі на кажанах. Потым ён спусціўся б на дол і рушыў знаёмымі сцежкамі далей – да сажалкі з уляканымі рыбакамі, да снежных людзей, якія трыумфавалі, упаляваўшы пацука з габарытамі аленя, да ваўкоў, што каталіся на коньках па замерзлай азярыне і грэліся каламутнай самагонкай з бутлі-гусака. Не выключана, што мастак падумваў калі-небудзь затрымацца ў тым свеце надаўжэй, агледзецца, а мо і асталявацца там назусім. Але пакуль тое здарыцца, ён – відаць, усё больш неахвотна – вяртаўся ў нашую рэчаіснасць, ладзіў выставы ды ілюстраваў кнігі, часта набываныя найперш дзякуючы малюнкам.

Пра мастака, вялікі альбом якога меў у хатняй бібліятэцы, я чуў некалькі забаўных, але не зусім смешных гісторый. Адна сцвярджала, быццам ён пачынаў працу з таго, што ставіў пасярэдзіне чыстага аркуша кропку. Ува ўсе бакі ад яе ліхаманкава маляваў абсалютна незразумелыя нікому, апроч яго, дэталі: кіпцюр, мочку валасатага вуха, нядобрае драпежнае вока, зліплы кутасік на нечым хвасце. Неўзабаве аркуш па дыяганалі быў перарэзаны шырокім пасам няўцямных фрагментаў. Яны – нібыта маляваліся з натуры (не выключана, так і было) – імгненна абрасталі новымі дэталямі і нараджалі дасканалы жудлівы твор.

Другую гісторыю мне распавёў былы аднакурснік. Ягоны дзесяцігадовы сын кожны вечар здзіўляў загадкавымі паводзінамі. Клаў на падлогу кніжку, а зверху прыціскаў яе дзясяткам энцыклапедычных тамоў. Пад шматкілаграмовы прытуг, як выявілася, трапляла кніга Яна Баршчэўскага “Шляхціч Завальня”, праілюстраваная гэтым самым мастаком. *Каб жахлівікі ўначы не павылазілі*, патлумачыў малы.

Тым часам на вернісажы маэстра адмоўчваўся, і слова ўзяў ягоны калега, ужо з двума залатымі зубамі. Калега забаўляў публіку згадкамі, як яны ездзілі разам на пленэр у палескую глухмень і атруціліся *грыбочкамі.* Усе месцы ў мясцовай лякарні былі занятыя, і на радасць сталічным гасцям ім прапанавалі ложкі ў трупярні. Маэстра згодна ківаў і задаволена паціраў рукі. Успамін відавочна выклікаў у яго станоўчыя эмоцыі.

Дарэчы, разнастайныя грыбы прысутнічалі ледзь не на кожным графічным аркушы, што нараджала пэўныя падазрэнні. Хто ведае, мо *грыбочкамі* сябрымастакі на пленэры не толькі труціліся, але і натхняліся? Так, як рабіў класік айчыннага мастацтва, які ў сваіх творах падарожнічаў па далёкіх планетах, а затым педантычна апісваў іх у самнамбулічных дзённіках і ўдзячна маляваў на палях тыя самы галюцыягенныя *грыбочкі.*

Зноў жа я, відаць, залішне дэталёва пішу пра той вечар у мастацкай галерэі і адхіляюся ад галоўнага. Але каму дадзена ведаць, дзе пралягае мяжа паміж істотным і выпадковым? Я наогул – няхай гэта для кагосьці і прагучыць банальна – маю сумнеў, што нешта на свеце можа адбывацца выпадкова. Ці не ўзнікае гэтак званая выпадковасць у кропцы сустрэчы дзвюх ліній заканамернасцяў?

## 21

### З дыярыуша Стэфана N.

*Той самы вернісаж*

Нарэшце выставу адчынілі, і гледачы падаліся да створаных мастаком вокнаў у іншую рэальнасць.

Мяне надоўга зачапіў афорт “Галерэя”. Пачвары, пачварыхі і пачваркі шпацыравалі сярод скалаў, што захавалі адбіткі касцякоў іхніх далёкіх продкаў. Касцякі надта ж выдавалі на чалавечыя.

Але з’явілася і дадатковая прычына затрымацца каля мастацкай алюзіі на далейшае развіццё цывілізацыі. Тамсама прыпынілася маладая асоба, якая, быццам стрэлку гадзінніка, перавяла мой пагляд з афорта на сябе.

Як вядома, анфас хлусіць, сутнасць пазнаецца ў профілі. Таленавіта прамаляваны профіль тая хвіля і прапанавала маёй увазе. Чыстая лінія высокага лба. Выразнае зялёнае вока з вялікім, як матыльковае крылца, вейкам. Яго хтосьці нібыта намаляваў і ажывіў, прачытаўшы магічную формулу. Крыху падцятыя пачуццёвыя вусны над круглым цёплым на выгляд падбародкам.

Што да пазнання сутнасці, афарыстычная сентэнцыя пра анфас і профіль не выглядала ўніверсальнай. Пагатоў, профіль адлюстроўваў цяжка спалучальныя эмоцыі: цікаўнасць і адлучанасць, паважнасць і кплівасць.

Мой позірк прывабіла і адкрытая, зялёная з залацістымі паскамі кашуля. З яе выглядала высокая шыйка, аздобленая маністамі. Я зрабіў крок бліжэй да афорта, а насамрэч да жанчыны. Маністы складаліся не з манет, як здалося, а з унутраных частак механічных наручных гадзіннікаў. Спыненыя механізмы былі, нібы жамярыцы ў бурштыне, залітыя празрыстым, як шкло, рэчывам.

Яна адчула мой манеўр і мой позірк: імпэтна павярнулася, страсянула дагледжанай галоўкаю з кудзеркамі ды ўсміхнулася. У ражках вуснаў затаіўся выклік. Я прабачыўся, і нечаканае перакрыжаванне нашых сённяшніх маршрутаў мела ўсе шанцы завяршыцца нічым. Уладальніца маністаў са спыненым часам памкнулася ісці. Аднак я ўжо не раз пераконваўся: у такія хвіліны хтосьці падказвае нам адзіна правільныя паводзіны і словы. Можа, так і з’яўляецца тая самая, згаданая раней заканамернасць?

*“Кажуць, мастакі і пісьменнікі пасля заканчэння зямнога шляху трапляюць у свет, населены іхнімі героямі. – Ахвотна веру. – А вам не хацелася б апынуцца ў рамках карціны, за яе плоскасцю? Не назусім, вядома.* – Маё ўдакладненне атрымалася якімсьці легкаважным. – *Зразумела, хацелася б. А чаму не назусім? – Таму што мы яшчэ не знаёмыя. – Ах вось яно што!* – Жанчына ў зялёнай сукенцы зноў страсянула кудзеркамі: *А вы не хочаце апынуцца там разам са мной?* – Я ўхіліўся ад адказу: – *Мяне завуць Стэфан. – Вы не адказалі. Што, страшнавата?* – Зялёныя вочы нядобра бліснулі. – *Калі мы там сустрэнемся, называйце мяне Лета. – А можна я пакуль буду называць вас Летаю тут? Лета – гэта Віялета? Летыцыя? Ці, можа… Летуценія?* – Зеленавокая пакруціла галавой. – *Лета – гэта Лета”.*

Яна засмяялася, і смех прагучаў, як першы званок на доўгі, працяглацю больш за год спектакль з непрадказальнымі сюжэтнымі паваротамі.

Пазней, калі мы з Летаю пазнаёміліся досыць блізка…

Праўдзівей будзе сказаць, блізка пазнаёмілася яна са мной, а я доўга ведаў пра новую спадарожніцу толькі тое, што не выходзіла за межы нашых спатканняў.

Дык вось, пазней паміж намі адбыўся кароткі дыялог, звязаны з тым, што Лета ні ў першы вечар, ні калі-небудзь у будучыні не назвала мяне па імені.

Немаведама чаму нешта ёй замінала. Спачатку было *вы*, хутка ўзнікла *ты*, але *Стэфан* яна не прамовіла, як мне добра памятаецца, аніводнага разу.

*“Табе не падабаецца маё імя? Некаторыя лічаць яго каралеўскім. – Не смяшы мяне. Усе гэтыя асацыяцыі, іменнікі, этымалогія … Насамрэч імёны нічога не значаць. – Тваё таксама?”* – У адказ яна, як часта здаралася, проста перамаўчала.

Я пражыў гадоў на дзесяць болей за Лету, аднак ролю старэйшай яна ў той першы вечар адразу ўладна ўзяла на сябе. Я не пярэчыў. Было нязвыкла і шматабяцальна.

Калі мы спускаліся з галерэі ўніз у кавярню, я адзначыў, што ў Леты постаць дзяўчынкі-падлетка.

**22**

**З дыярыуша Стэфана N.**

*Той самы студзень*

Праз тры дні пасля выставы я запрасіў Лету на вячэру – у тое месца, якое яна сама абярэ. Лета назвала недалёкую ад майго дома кавярню, і гэта магло азначаць, што яна жыве недзе паблізу, а не на другім канцы горада. Я запытаў, чым тая кавярня адметная. Адказ быў вычарпальны: “*Там можна курыць”.*

Лета сказала замовіць ёй кавы і каньяку. Неўзабаве просьба паўтарылася. Потым зноў і зноў. *“Калі чалавек нічога не п’е, міжволі ўзнікае падазрэнне, што ў яго праблемы з алкаголем”,* – патлумачыла яна.

Алкаголь, стваралася ўражанне, на яе не дзейнічае, хіба што злёгку падфарбоўвае румянкам шчокі. Прачытаўшы мае думкі, яна дакранулася да шчок далонямі. “*Маці кажа на румянец – зелянец”.*

За цэлы вечар я не даведаўся пра яе нічога болей. З’еў стэйк з рэнесансавай назваю “Батычэлі” (даруйце ім, сіньёр Сандра), выпіў два келіхі аргентынскага мальбеку, распавёў, чым зарабляю на віно і мяса. Намагаўся разгаварыць Лету, але яна адказвала то прыкурваннем новай цыгарэты, то ўсмешкамі з падтэкстамі, пра якія можна было адно здагадвацца. Ейныя зялёныя вочы ад каньяку рабіліся святлейшымі ды не гублялі выразу заглыбленасці ў сябе самую. *Можна, я адгадаю, чым ты займаешся?* (Перайсці на *ты* прапанавала яна сама.) Адказам сталася ручаінка цыгарэтнага дыму.

Я разважаў, пашанцавала мне з такой негаваркой спадарожніцай ці наадварот, Лета раптоўна парушыла маўчанне: “*Як я разумею, зараз ты павядзеш мяне да сябе. Там я абяцаю разгаварыцца. – Вось і цудоўна. Кажуць, сяброўства паміж мужчынам і жанчынай з надыходам ночы хутка слабее, саступаючы месца іншым пачуццям. – Дзе ты ўбачыў сяброўства? Скажы лепей, ты маеш дома нешта моцнае? У сэнсе выпіць”.*

З моцных напояў у бары стаяла пляшка прывезенага з Польшчы крупніку. Я ў сваю чаргу вырашыў пабыць нешматслоўным: “*Крупнік”.* Лета згодна кіўнула, аднак разгаварылася раней, чым мы апынуліся ў маёй трохпакаёвай кватэры на чацвёртым паверсе.

У ліфце я паспрабаваў яе пацалаваць. Яна спрытна ўхілілася. *“Ты дагэтуль не ведаеш, што цалаваць жанчыну, якая курыць, тое самае, што аблізваць попелку?”* Пакуль я асэнсоўваў яе пытанне, мы прыехалі.

Дома падзеі разгортваліся – і гэта цешыла – даволі імкліва. Калі з адзення на Леце засталіся непрыпаленая цыгарэта і бірузовыя каралі з дваццаці адной, як я потым падлічыў, ніткі з каменьчыкамі-кроплямі, я канчаткова

ўпэўніўся: адрозна ад твару жанчыны, Лета мае постаць амаль дзяўчынкі. Не думаю, што мой позірк афарбавала расчараванасць, аднак Лета адказала на яго: *“Я бяру не постаццю, а тварам”.*

Я не паспеў прамовіць, што яны ў яе дзівосна спалучаюцца, як Лета ў такім самым лапідарна-жорсткім стылі працягнула: *“Паведамляю табе парачку неабходных рэчаў. Па-першае, запомні, што я ніколі не цалуюся. Ніколі. Па-другое, не ўздумай карыстацца мной як прыладай для мастурбацыі. У мяне зверскі нюх.* – Ад яе напору я спачатку зніякавеў. – *А ты… не збіраешся… ужываць як такую ж прыладу мяне самога?* – Яна засмяялася глухаватым грудным смехам, які ўжо лашчыў мне слых. – *Дамовіліся,* – дагаварыў я, – *адкажу табе ўзаемнасцю”.*

Апоўначы я выклікаў ёй таксоўку.

Заснуць цалкам шчаслівым замінала абяцанне Леты падараваць мне на памятку пра наш вечар кнігу “Гісторыя выродлівасці”.

Адно назаўтра я адчуў, як смыліць спіна і ўбачыў у люстэрку драпіны ад вострых Лецiных кіпцюрыкаў. Зробленае адкрыццё не засмуціла, а выклікала прыліў жадання. Я затэлефанаваў, і Лета, як быццам глядзелася разам са мной у люстэрка, прыехала з вязанымі бэзавымі пальчаткамі.

Яна ўхілілася ад пацалунка, прывіталася словамі *“Секс дае нам адчуванне, што мы жывыя”.* І – нацягнула пальчаткі.

**23**

**З дыярыуша Стэфана N.**

*Люты 20** года*

Неўзабаве Лета напраўду выцягнула з заплечніка важкі том “Гісторыі выродлівасці”. Даследаванне, паведамляла супервокладка з “Няроўнай парай” Квенціна Масейна, выйшла пад рэдакцыяй Умбэрта Эка.

Падарунак так і застаўся для мяне загадкаю. Кніга павінна была падвесці чытача да высновы: выродлівасць – не больш, чым апошні (пакуль што) раздзел у гісторыі прыгажосці, бо ўяўленні пра жахлівае з эпохі антычнасці мяняліся гэтаксама, як і мода. Выснова падмацоўвалася сотнямі ілюстрацый. Некаторыя, шчыра кажучы, прыводзілі на памяць таго хлопчыка, што нанач прыціскаў энцыклапедыяй кнігу з малюнкамі-жахалкамі. Некалькі разоў я быў гатовы ўзяць з яго прыклад – не ад страху, а праз агіду.

У раскрыцці таямніцы падарунка мала чаго дала і адзіная закладка на кентаўрах з насценных размалёвак у Пампеях.

Калі разгадка і існавала, у ёй, магчыма, вычварна перапляталіся сюжэты з выставы, якая нас з Летаю пазнаёміла, і адкрытая эратычнасць мноства малюнкаў. Жарснымі юрлівымі позіркамі ды спакуслівымі паставамі іх героі нібыта бралі рэванш за свае адхіленні ад прызнанай на той час нормы. Гэта датычыла і Адысея з сірэнамі, намаляванымі тры тысячы гадоў таму, і “Падрыхтоўкі ведзьмаў да шабасу” невядомага сярэдневяковага мастака, і кубістычных жанчын Пікаса, і кічавых ды кэмпавых вынаходак.

Цяпер я чамусьці схіляюся да думкі, што імавернае тлумачэнне хаваецца за імем рэдактара кнігі. Я чытаў большасць кніг Эка, але, прызнаюся, найлягчэй перачытваюцца ў памяці ягоныя інтэрв’ю. У адным з іх сіньёру Умбэрта паставілі пытанне, ці верыць ён у перасяленне душ. Адказ стаўся адметным: гатовы паверыць у спакусу рэінкарнацыі і з радасцю пагадзіўся б з новым увасабленнем, напрыклад, у абліччы каровы, але пры адной маленькай умове. Ён бы адолеў і тугу па ранейшым целе, і жаданне пакратаць

бараду, і мару з’есці ўлюбёнае спагетыні… Умова была такая: карова, жуючы сваю жуйку, мусіць дакладна ведаць, што яна – Умбэрта Эка і памятаць усё папярэдняе жыццё.

**24**

**З дыярыуша Стэфана N.**

*Зноў люты*

Кніга пра выродлівасць у розных вымярэннях і ўвасабленнях запачаткавала даўжэзны ланцужок Леціных учынкаў з адметнай пячаткаю таемнасці.

Аднаго вечара, калі за вакном віравала класічная лютаўская завея, Лета знячэўку запыталася: “*У тваім жыцці здараліся дзівосы? Не ў банальным сэнсе, калі табе малому, скажам, неспадзявана купілі на іманіны ровар. А такія, як… ну, дапусцім, як у Бібліі. Чалавек памёр, а потым узяў і вярнуўся?”*

Я знаходзіўся на досыць легкадумнай хвалі, падліў сабе віна, а Леце каньяку і асабліва не задумваўся. *“Кажаш, як у Бібліі?”* Заставалася распавесці, як у нашай школе ў часы, калі яшчэ была жывая імперыя з яе бязбожнасцю, наладзілі *вечар развянчання рэлігійных цудаў.*

Настаўніца хіміі стаяла на сцэне актавай залы, трымаючы ў руцэ колбу з празрыстай вадкасцю ды іранічна казала пра цуд у Кане Галілейскай. Наіўныя душы вераць, быццам бы там Хрыстос на вяселлі ператварыў ваду ў віно. “*Вось вам вада.* – Хіміца падняла колбу, а затым на імгненне накрыла яе другой рукой, дзе было штосьці схаванае. – *А вось вам віно!”* Настаўніца страсянула шкляную пасудзіну і пераможна паглядзела не на яе, а ў залу. Вада ні на каліва не змяніла колеру. Зала ўсё больш смела смяялася... Хіміца ўрэшце зразумела: смяюцца не з развянчанага біблійнага дзіва і перавяла вочы на колбу.

Але змагарка з дзівосамі не разгубілася. Мы пачулі, што ў мясцінах, дзе знаходзіцца тая Кана, трывае вечная спёка, а таму, маўляў, пасудзіну трэба крыху падагрэць. Хіміца запаліла спіртоўку і паставіла колбу на агонь. Аднак нумар зноў не прайшоў. Зала заходзілася ад рогату…

Лета нецярпліва абарвала мяне: “*Я пра іншыя дзівосы”.*

Год таму яна наняла кватэру і, калі плаціла наперад, пацікавілася, хто там жыў датуль і калі выехаў. Аказалася, жыла маці гаспадара. Той увачавідкі зніякавеў. Таіцца не стаў: старая маці безнадзейна хварэла, і абвестку пра кватэру ў наймы яны далі пры яе жыцці. Маці, склалася так, пахавалі толькі ўчора.

У першую ж ноч гаспадыня, паводле слоў Леты, дала зразумець: засяленне кватаранткі яе не парадавала. Бабуля размясцілася ў суседнім пакоі на ўласным ложку. Яго і Леціну канапу падзяляла тонкая сценка. Гаспадыня круцілася і цяжка дыхала, ложак спачувальна рыпеў, і цішыня ўсталёўвалася адно пад раніцу.

Я паспрабаваў засмяяцца, аднак, сустрэўшы Лецін позірк, асекся.

Увечары Лету сустрэлі адчыненая не ёю фортка і высунутыя са старога серванта шуфляды.

Лета не здавалася. Яна выпрацавала сваю тактыку: не ішла на кухню, калі там тупала бабуля, не выходзіла ў вітальню, калі тая спраўджвала, ці зачыненыя дзверы на замок, але як гаспадыня клалася ў ложак, гаспадарыць у кватэры бралася ўжо Лета.

Я не ўтрымаўся ад смеху. “*Ты сур’ёзна?* На Леціным твары не здрыганулася аніводная жылка. “*Зачыць, ты перамагла?”* Мне здалося, што яе адказ нарадзіўся не ў тую самую хвіліну, а значна раней: “*Нехта баіцца смерці, а*

*нехта баіцца жыцця.* – Я спасцярожліва запытаўся: *А ты? – Я баюся таго, што ў маёй галаве".*

**25**

**З дыярыуша Стэфана N.**

*Сакавік 20** года*

Учора Лета пазваніла ў дзверы не так, як у нас зазвычаена. Атрымаліся не два хуткія дотыкі да зялёнага гузіка званка, а доўгая і трывожная трэля.

Лета скінула футэрка і бліснула выштукаваным са срэбра падвескам з быком і тарэадорам, што выклікаў бы захапленне ў аматараў таўрамахіі.

Не ўзгадаю, каб яе аздобы паўтараліся не тое, што цягам тыдня, але і цягам месяца. "*У цябе прыкрасаў, напэўна, цэлы куфар,* – аднойчы адзначыў я, калі разглядваў маністы з копіямі (зрэшты, сярод іх маглі трапіцца і арыгіналы) манет з пазнавальным профілем вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы. Лета пагадзілася: – *Куфар і яшчэ куфэрачак".*

Я чалавек не раўнівы, і ўсё ж колькасць Леціных аздобаў выклікала часам уколы рэўнасці. Уяўленне спрабавала намаляваць таямнічага алігарха – майго недасягальнага ў сваіх магчымасцях суперніка. Урэшце мне ўдалося паставіцца да яго з гумарам і не ўступаць у гэтай намінацыі ў спаборніцтва.

Аднак вяртаюся да падзей учорашняга дня.

На шчоках у Леты граў румянец-зелянец, які звычайна ўзнікаў пасля некалькіх порцый каньяку. Яго яна і папрасіла, прызнаўшыся, што сёння ў роце не плёскалася ні кроплі.

Пасля некалькіх добрых глыткоў Лета загаварыла: "*Ты ведаеш, бацька вярнуўся"…* Чатырох гэтых слоў было не замала, а бадай, зашмат. Лецін бацька – прафесар і мой калега-архівіст памёр пяць гадоў таму.

Каньяк зрабіў сваю справу, і яна, крыху супакоіўшыся, працягвала. Пасля сыходу бацькі яго кабінет доўга трымалі замкнёным, ды Лета адчувала: часам ён не пустуе: "*Ну, тут я разумею: нешта не паспеў дарабіць. Памятаеш бабулю, да якой я падсялілася? Тата чалавек іншага кшталту. Нікому не замінаў. Можа, яму трэба было ўпарадкаваць паперы. Напісаць колькі лістоў. Дапусцім, не хапіла пары месяцаў. Але вярнуцца праз пяць гадоў"…*

Далейшае ў яе аповедзе выглядала так. Я пастараюся не прапусціць ніякай драбніцы.

Лета ехала ў таксоўцы на працу. Раніца надарылася марозная, вокны аўтамабіля, зразумела, зачыненыя, кандыцыянер вымкнуты. На Круглай плошчы ў салоне аднекуль павеяла ветрыкам і азонам. Лета сядзела побач з кіроўцам і раптам адчула: за ёю, на задняй сядушцы, уладкаваўся бацька. Калі яна разлічылася і выйшла, ён таксама пакінуў таксоўку. Азірнуўшыся, Лета ўбачыла, што таксіст чамусьці знадворку спраўджвае, ці зачыненыя заднія дзверцы. Нейкі час бацька назіркам ішоў за ёю, а затым павярнуў, і яна адчула, як ён аддаляецца.

Калі Лета кіравалася з працы да мяне, бацька зноў жа на Круглай плошчы падсеў на заднюю сядушку і выйшаў з таксоўкі ўслед за ёю. Гэтым разам ён ішоў следам да самага пад'езда.

Я не ведаў, як усё пачутае ўспрымаць і не знайшоў нічога лепшага, як запытацца: "*Бацька можа пазваніць зараз у дзверы?* – І пачуў у адказ: *Якія дзверы? Навошта яму дзверы?"…*

*Травень 2019 – травень 2020*

Зміцер Захарэвіч



..Я – паэта апошняе слова
Курапацкай расстрэльнай начы...

# Белая музыка

### *ЗАРАПАД*

Табе падабаўся – памятаю –
Верш, пра сузор’і ў якім...
А сёння ўначы знічкі па́далі
Наўсцяж у змроку густым.
Названыя кімсьць Персеідамі
Ляцелі яшчэ, яшчэ.
Нібыта нябёсы дыхалі
Зіхценнем тваіх вачэй.

### *КАЛЯ ВОГНІШЧА*

Бадзяжнае жыццё на ўскраіне
Каля нішчымнага святла,
Куды ў burштынавых падпалінах
Па ночы восень зноў прыйшла.

Празрыстая, як высі зорныя,
Не ўзрушваючы цішыню,
Падсядзе, да пляча прыгорнецца,
Лісткі далонек да агню.

Працягне, слова не гаворачы,
Адно заўважыш у вачах
Зіхценне лёдзістых гор Поўначы
І ніткі срэбра ў валасах.

Прашу, маўчы, мая каханая –
Не трэба несуцешных слёз
Удзень, калі, як дым, растану я
У бездані тваіх нябёс.

Бо там, між аблачын навершшамі,
Спакойны буду, ад таго,
Што не з баямі хай, дык з вершамі
Прайшоў нямала бальшакоў.

Пасля тугу сваю нязносную
Дажджамі на зямлю пральеш...
Уважлівей, рудавалосая! –
Лісткі далонек апячэш.

## *ТРЫПЦІХ ТРЫЯЛЕТАЎ*

*З выставы Віктара Маркаўца*
*«Вайшкунскі краявід-4»*

### *I. Старыя ліхтары*

Удзень гараць старыя ліхтары,
Каб неўпрыцям не збіліся мы з тропу
І да святла адолелі дарогу.
Удзень гараць старыя ліхтары,
Пакуль у продкаў вучымся патроху,
Чытаючы ў жыцця лемантары:
«Удзень гараць старыя ліхтары,
Каб неўпрыцям не збіліся мы з тропу».

### *II. Вятрак*

Праменнем крылаў адзінец-вятрак
У далягляд нібыта ўкрыжаваны.
Стаіць, змалоўшы ноч на ўсход барвяны,
Праменнем крылаў адзінец-вятрак.
У пыл дарэшты скрышыць апантана
Твае зямныя і адчай, і страх

Праменнем крылаў адзінец вятрак,
У далягляд нібыта ўкрыжаваны.

### *III. Бэз*

Панадны бэз вяснянае душы
Ёсць насланнём ці прошчаю натхнення?
На ветры кветак дробнае трымценне –
Панадны бэз вяснянае душы.
Калі спагаду маеш адкажы,
Бо не знайшоў разгадку я ў маленні:
– Панадны бэз вяснянае душы
Ёсць насланнём ці прошчаю натхнення?

## *БЕЛАЯ МУЗЫКА*

Грае музыка белай самоты –
Золкі вецер і снежны пыл.
Лапік сонца пранізлівай нотай
Слепа ўцвічаны ў небасхіл.

Чую ў ронда зямной кругаверці,
Што збіваецца на мінор,
Стылы голас адрынутых сэрцаў,
Нібы роспачны свету дакор.

Толькі колькі б яму ні галёкаць,
Узрушаючы гамы сфер,
У сімфоніі ладнай аблокаў
Не зламаць правечны памер.

І таму беспрытульныя ў полі
Засцяць далягляд пакрысе
Зыкі музыкі белага болю,
Патанаючы ў дымнай смузе.

## *РАНІШНІ САНЕТ*

Яшчэ і далягляд не развіднеў,
Калі ў смугу панылага бяссоння
Пунсовы яблык сонца на далонях
Маўкліва раніца паднесла мне.

Прыняў я без разваг агністы плод,
Прыклаў удзячна да бяскроўных вуснаў,
Каб выраю ператварыўся вусціш
У свет, апеты стрэламі грымот.

Каб з небыцця паўсталы чалавек
Не зрокся ў роспачы жыцця зямнога,
А йшоў зацята ўласнаю дарогай
І не ўзіраўся сіратліва ўверх.

Добраслаўляю ўчора, заўтра, сёння
Пунсовы яблык сонца на далонях!

## МЯЦЕЖ

Бант.
Бунт.
Брук.
Крок.
Kроў.
Крук.

Гурт.
Гарт.
Грай,
Корд! –
Крый
Край!

Рык:
«Рэж!
Рві!
Бог
Быў –
Бі!

Зрынь,
Зрань
Скронь!»
Бінт.
Брэх.
Бронь.

Штых.
Шыхт.
Шал.
Звон.
Знак.
Залп.

Бой.
Бруд.
Боль.

Дым.
Друз.
Дол.

## КУРАПАЦКАЯ НОЧ

Вецер лісце шматае, са смехам,
Бізуном па плячах мне б’ючы.
Я – няўцешна-тужлівае рэха
Курапацкай расстрэльнай начы.

Не была тая восень рудзейшай,
Калі, як на магілах знічы,
Паглынаў агонь аркушы вершаў
Курапацкай расстрэльнай начы.

А скрозь прызмерк турэмных прадолаў
У замка́х скрыгаталі ключы...
Я – да смерці асуджаны голас
Курапацкай расстрэльнай начы.

Змрок грувасціў скляпеннямі хмары,
Каб Гасподзь не пачуў з вышыні
Развітальныя крокі ахвяраў
Курапацкай расстрэльнай начы.

Звягне ў цішы затвор металёва
І ўвушшу закрычаць крумкачы...
Я – паэта апошняе слова
Курапацкай расстрэльнай начы.

Не дагрукацца да паднябесся,
Бо набіты зямлёй рот маўчыць
У знямелым ад жудасці лесе
Курапацкай расстрэльнай начы.

## НА РАЗВІТАННЕ З УЛАДЗІСЛАВАМ АХРОМЕНКАМ

Будзь з небам да сканчэння дзён на «ты»,
Пераадолеўшы прынуку лістападу.
Пайшоўшы з золі моўчкі, назаўжды,
Будзь з небам да сканчэння дзён на «ты».
Калі кастрычнік спапяліў масты
Дарог зямных, за рысай далягляду
Будзь з небам да сканчэння дзён на «ты»,
Пераадолеўшы прынуку лістападу...

### ДЗЯДЫ

Дзяды.
Да іх на год яшчэ
Наблізіліся незваротна;
У жалю не хавай вачэй
За слёз заслонаю зіхотнай.
Так, ад калыскі да кладоў
Пралегла кожнага дарога,
Аднак скрозь нераты крыжоў
Да выраю пазазямнога
Стагоддзі спрахлыя таму
Шлях працярэблены дзядамі.
Мы сёння сплачваем цану,
Знічы запальваючы ў памяць
Тых, хто ў цямрэчы небыцця
Узвёў Гасподу бессмяротных,
Для іх мядовая куцця
Курэе на сталах святочных.
– Чалом, Дзяды!
А мне ж усё
Спакою не дае загадка:
«Як сыдзем, то пакінем што́
У спадчыну сваім нашчадкам?..»
«Як сыдзем, ці пакінем што́
Мы ў спадчыну сваім нашчадкам?..»

### НОЧ. ВЁСКА. СТАЎ

Над дварышчам нябёсы зорацца.
Цішыня. Ні душы вакол.
Засяроджана-нема моліцца
Поўні яблыня за вакном.

П'ю нагбом паветра астылае,
З хаты выйшаўшы да стаўка,
Скуль аблокаў-брыгаў флатылія
За крайсвет удзень адплыла.

Узіраюся ў неруш роўнядзі,
Саляным раблюся слупом –
З глыбіні яе ў мяне Бог глядзіць,
Неба перавярнуўшы ўверх дном.

## СВЕЧКА

Наўздзіў яна гарыць яшчэ
Святлом дрыготкім,
Хоць пальцы ўжо воск не пячэ
І незваротна
Струменіць дым у небыццё,
У бездань цемры,
Адкуль вярзецца мне выццё
Ваўчынай хеўры –
З далёкіх збегліся краёў,
Як на хаўтуры.
Міжволі ў жылах стыне кроў,
Мароз па скуры
Паўзе – а што калі мой скон
Прарочаць разам?
І адпяе мяне не звон,
Бо жыў я блазнам?
Пакуль не ўхуталі зямлёй,
Не ўкрылі вечкам,
Паходню запалю сваёй
Прыгаслай свечкай!
Хай безвач, а пайду ў цямрэч –
Ці хто з вас змог бы? –
Каб адагнаць кашлатых прэч –
Назад у логвы!..
Ды не патрапіў рады даць
(Мо, вар'яцею?),
Бо й следу шэрых не відаць –
Гула завея.
І я брыду, нібы стары,
Бы з іншасвету,
Туды, дзе свечка мне гарыць
Скрозь ноч прыветна.

## ТВАЁ СЛОВА

*памяці Вікторыі Ткачук*
*(паэткі* ***Vički Kryvički****)*

Цяпер у небе Тваё слова,
Нібыта звольнены лісток
З бярозы,
бо яго, жывога,
Бог захацеў, а не радок.

Адсёння з Творцам у гасподзе
Засветнай
яно будзе жыць
І ззяць у зорным карагодзе,
І сэрцы не даваць гасіць.

Яно не раз нам усміхнецца
У вочы, мокрыя ад слёз,
Каб ведалі, што
няма смерці –
Адно гасцінны вырай ёсць.

### *БАЛАДА ПРА ЗВОН*

Зводдаля ад сцяжын,
Часу без ліку,
Нібы сцяты, ляжыць
Звон без'языкі.

Зрынулі з вышыні
Гуднае цела,
Каб яно дзень пры дні
Моўчкі марнела.

Яшчарка запаўзе –
Грэецца ў промнях.
Хто згадае з людзей
Голас нястомны?

Ён грамаду збіраў
На Звеставанне
І маладых вітаў
Песняй вянчальнай.

Ўзімку ці ў летні сквар,
Пільны да змогі,
Успыхне калі пажар,
Біў на трывогу.

Як палілася кроў –
Гуў у адчаі,
Бо сыноў і мужоў
Ўсіх пахавалі.

Каб пры іх дажылі,
Хай у спадніцах –
Лепей, чымся ў зямлі,
Пад чужаніцам.

Спрахла вострая сталь,
Ёрмы надзеў на шыі
Ці крымчак ці маскаль –
Шаблі крывыя.

Край забраўшы ў палон,
Горай зняславіў –
Скінуўшы долу звон,
Мовы пазбавіў.

Блісную кпліва ашчэр
І прагучала:
– Як адкажаш цяпер
З вырваным джалам?!.

Зганьблены пасярод
Чорных праплешын
Стаўся спеўны народ
Немым «тутэйшым».

Там, дзе колісь жывы
Часу без ліку
Здраджаны ім ляжыць
Звон без'языкі.

* * *

...Кальне трохдзённае шчаціннe
Безабаронную шчаку
І месяц позірк свой не ўздыме,
Калі ўпадзе рука ў руку.
І рамантычную аповесць
Без жалю кінуць у агонь
Начніцы дзве – спакуса й пожадзь –
І ў нас раздзьмухаюць яго,
Каб расшугаўся ён да неба,
Да зор, не прагучыць пакуль:
«Сустрэнемся яшчэ... як-небудзь.
Да сувязі. Тэлефануй...»

Віктар Казько



...усё і ўсе
перад смерцю роўныя...

# Сімка-Серафімка-2

### *З цыкла “Лёнькі, Ваські, Валодзькі”*

*Памяці У. Кудзінава*

Менавіта так: Сімка-Серафімка. Таму што ён яшчэ моцна сумняваецца, а ці сапраўды ён Сімка, мо ўсё ж Серафіма? Так, як яго выправілі і прынялі ў дзетдоме, як ён сам сябе зваў. Увогуле, здавалася б, розніца нязначная. Але на самой справе не адна, аж дзве, калі не болей самыя што ні на ёсць карэнна істотныя розніцы. Усё перакульвалася з ног да галавы. Сам свет – дагары нагамі, не цямячы нават, адкуль тыя ногі растуць, што паміж імі.

Акурат жа ў гэтым сапраўднае адрозненне ад Сімкі, Серафіма і Серафімы. У адной толькі адненькай літарцы. А сэнс...

Замарочаны тым, чаму гэта ў адукаваных людзей усё так мудрагеліста, не па-людску, Сімка прыпыніўся на дзетдомаўскім падворку, бо яшчэ з першых дзён тут зацікавіўся, куды гэта дзяецца брудная памыйная вада,

што цячэ з кухні. Цячэ, цячэ і раптам знікае. Даволі непрыглядны ручай, што часам пасля сняданку, абеду ці вячэры аж цурчыць, злосна бруіцца і ў момант у адным і тым жа месцы прападае. Як на той свет сыходзіць. І нехта ж там яго праглынае. Каўтае, каўтае напоўніцу абмылкавую, з тлушчам брыдкую ваду. І гэта неймаверна цікавіць Сімку, як, дарэчы, і тое, чаму гэтага ненажэру не бачаць іншыя. Іх жа ў дзетдоме за сто галоў, ратоў і дзве сотні вачэй. Куды яны глядзяць і чым думаюць?

Сімка ж ці не адзіны спатыкнуўся вокам на відавочным, але незразумелым: адкуль цячэ – бачна, а куды ўпадае? І ён пытальнікам стаяў над гэтымі адкуль і куды, вытокам і ўтокам, як нязграбная гола-гарэлая купіна сярод набрынялай ужо маладой травой вясновай сенажаццю.

Одум і здзіўленне непадуладнасцю над гэтымі адкуль і куды, нават трохі міжвольнае абурэнне перарвала дзетдомоўская кастэлянка. Яна ж загадчыца складу і гаспадаркі. Ева Адамаўна. Колькі пасад – столькі ж мажнасці ды паважнасці, што ўшыркі, тое ж і вышыню. На ўсіх трох – адной хапала. Мо нават крыху і на чацвёртую заставалася. На самую высокую. Валодаючы ўсёй дзедомаўскай маёмасцю, яна лічыла сябе ці не галоўнай выхавацелькай, а мо і больш – самой дырэктаркай дзетдому. Усе ж ключы ад усіх дзетдомаўскіх дзвярэй і замкоў былі ў яе руках і заўжды пры ёй. А ў дырэктаркі – толькі Сімкі, Серафімкі, Лёнькі, Ваські ды Валодзькі. Галоднае і голае нішто ў параўнанні з адным толькі складам, напакаваным пад зашмаргу харчамі, адзеннем і нечым яшчэ, патаемным ды прывабным. Каму ж, як не ёй, ведаць, што адкуль выцякае і куды ўпадае – аб вытоку і ўтоку. Усімі яе пасадамі загадана і наканавана ведаць.

Таму пытанне пра непрадказальна-няправільны ручай само на тую хвіліну наспела і развярэдзіла Сімку-Серафімку. І не толькі адно і не толькі на тую хвіліну. Адказчыкаў не хапіла б. У яго стрыжанай галаве месцілася безліч самых розных іншых пытанняў, адны набягалі на другія. І ніхто дасведчана няздольны адказаць, ці ж адпавядае тое, што ў галаве, таму, што на языку. Відавочную несумяшчальнасць гэтага імгненна і бліскуча, сустрэўшыся вачыма з кастэлянкай, пацвердзіў і Сімка:

– Ева Адамаўна, – спытаўся ён для разгону, – а якія ў вас валасы?

Кастэлянка здзіўлена прыпынілася:

– Чорныя, Сімка, чорныя...

– А на галаве? – зноў звярнуўся да яе Сімка.

Кастэлянка скінула з галавы касынку:

– Таксама чорныя, Сімка... Што? Ах, ты шчанюк. Я табе зараз пакажу.

– Няўжо, – наўмысна здзівіўся Сімка. – Няўжо і папраўдзе пакажаце?

– Зараз, зараз будзе табе карцінка, – і натруджаная, унушальная рука Евы Адамаўны пацягнулася да дапытлівай Сімкавай галавы і яго загадзя пачырванелага вуха.

Толькі ён ужо ўцяміў, што мае паказаць яму кастэлянка: каляровую карціну з іскрамі ўваччу і рвануў ад яе зусім не Серафімкай, якой лічыўся да нядаўняга часу. І ў Еве Адамаўне абудзіўся даўно ўжо прыснулы падлеткавы спрыт. Яна патупацела за ім з такім імпэтам і такой хуткасцю, што здавалася яму ніяк і ніколі ад яе не ўцячы. Сімка пэўным месцам ужо адчуваў учэпістыя, здольныя і дужыя, нават для перакіду мяшкоў з мукой і крупамі, рукі, зусім не падлеткава-дзявочыя рукі – грузчыка. Міжволі папікаў ён сябе ў тым, што занадта хутка па-дзетдомаўску адукоўваецца. Нічога не зменіш, кемлівы, здатны да навукі, як кожны чысты, яшчэ не

сапсаваны ведамі. А ўсе ж яны, веды, калі шчыра, зводзяцца толькі да аднаго. У лепшым выпадку, як на пень брахаць, а ў горшым, як на той жа пень – с...аць.

У кастэлянкі з першай спробы не атрымалася авалодаць Сімкавымі вушамі. Хаця яны былі ўжо гатовы да гэтага, развешаныя што сланечнік па абодва бакі макацоўбіны. Але Ева Адамаўна з другой спробы ўсё ж злаўчылася і ўхапіла яго за каўнер сарочкі. Яму стала балюча і шкада сваёй сарочкі. Толькі ж ён, папраўдзе, ні кроплі не Серафіма, а Сімка – вылузнуўся. Дзедомаўскімі сцежкамі па садзе, сярод яблыняў, дапяў да плоту, у якім мелася знаёмая яму дзірка – дошка непрыбітая знізу. Адсунеш яе – галава пралазіць і ўсё астатняе пралезла. Асноўнае з ведаў дзетдомаўца – прасунь галаву. Таму што апроч чэрава і галавы *пад Катоўскага* ў іх нічога няма.

Галава Сімкі пралезла без напругі, нават вушы не зачапіліся. І ўсё астатняе адразу апынулася па-за плотам. Кастэлянка памкнулася прарабіць тое ж што і Сімка. Яе галава, надзіва, таксама пралезла. А датычна ўсяго іншага – ні туды, ні сюды – усім іншым кастэлянка непралазна захрасла ў плоце. Прыземленая ўжо была, глёўкая, асабліва клубамі. Укленчылася, падвоілася. Тулава па адзін бок плоту, а па другі – адно толькі галава са шчыліны тырчыць і вачыма люта варочае. Нізы, клубы, азадак – толькі спадніцу матляюць. Сапраўды, трапіла як рыба ў нерат: ні назад, ні ўперад.

Вызвалены ад небяспекі і пераследу Сімка не без задавальнення паназіраў, як кастэлянка крэкча і бездапаможна плямкае губамі, вылуплена варушыць вачыма, дрыгаецца спайманым тулавам і сказаў:

– Тое ж было і ў нашым лесе сярод дзвюх зросшыхся бяроз з лісой, чым непраміну ў пакарыстацца мясцовы заяц. Вось чаму страшней за зайца ў лесе звера няма... Шкада, што я не заечай пароды.

Выказаўся злосна і помсліва, таму што апошнім часам не трываў гэтых Еваў. Ева яна ўсюды Ева. А гэтая яшчэ і Адамаўна. Адамам звалі яго дзеда. Яго няма, немцы жыўцом спалілі. А гэтая Ева як скрала яго імя. І дзед Адам для Сімкі нібыта памёр двойчы, ужо зусім і назаўжды. А да ўсяго, у крыўдзе і помслівасці ён, Сімка, горыччу адчуў, што дагэтуль яшчэ сам не ведае, якой ён пароды. Адчуў непаразуменне і крыўду на дзяўчынак, з якіх, безумоўна, паходзіў да нядаўняга часу, назаўжды прылучаны да іх нараджэннем. Убачыў сярод іх і ў іх сябе. Прынюхаўся і знюхаўся з імі. З'яднаўся і парадніўся. Еў, спаў і гуляў у адны лялькі. А яны імгненна і ўсе разам здрадзілі яму, адмовіліся лічыць яго сваёй пароды, пачварна, нібыта ён вылюдак, фашыст, паперлі яго прэч. А ён, Сімка, тады яшчэ Серафімка, ужо не мог без іх, так даверліва і да апошняга ўздыху распранаўся перад імі.

Спяваў нават ім песенькі ўвечары, кладучыся спаць на дабранач. Спяваў ранкам, прачынаючыся. І трошкі ўдзень, калі быў у гуморы, адназначна – толькі іх, дзявочыя:

Мама, я жопера люблю.
Мама, я за жопера пайду.
Жопер ездзіць у машыне.
У яго жопа ў бінзіні.
Во за гэта я яго люблю...

Увогуле трэба адзначыць, што ў той час гэта была ці не песневая нейкая ліхаманка. Адусюль хрыпела:

В городском саду играет городской оркестр.
На скамейке подсудимых нет свободных мест...

Спявалі, музычылі жук і жаба. Спявалі, словатворылі да світанку, калі прачыналіся вароны з сарокамі, а салаўі, стомленыя ноччу, ужо клаліся спаць. Спараваныя неспадзеўна п'янкой зорнай чаромхавай ці бэзавай цемрай спевакі былі нястомнымі, як і музыкі, танцоры. Не вытрымлівалі хромкі трохрадкі – тулкі. У ход ішлі расчоскі – з адмысловай, для смалення, пасляваеннай паперай: паміж іх зубчыкаў, бліскучыя трафейныя гармонікі ў лучнасці з абшарпанымі айчыннымі бубнамі, язык з вуснамі і плясканнем ладак: два прытопы, тры прыхлопы. Дзявочыя лёгкія і хуткія ногі, салдацкія, цяжкія, люстрана нагуталіненыя кірзавыя чобаты, вылізаныя бархоткай да бляску, што ў ката яйцы, курылі прысак і пыл змораных і здзічэлых, доўгі час безгалосых вясковых вуліц з іх знямелымі хатамі, калодзежавымі жоравамі і счарнелымі прызбамі. Гулліва ўздымаліся да месяца і зор выспеленыя ў маркоце і жаночай самоце прыпеўкі.

Танчылі, захлыналіся, патаналі ў спевах і музыцы пажарныя пад медныя трубы альтоў, тэнараў, басоў сваіх духавых аркестраў. Спявалі і танчылі вайскоўцы таксама пад медзь і бляск ужо сваіх духавых аркестраў. А потым раптам, як з іншага свету з'явіліся арыстакратычныя акардэоны і сціплыя ў параўнанні з імі баяны. Такой галоснай песеннасці, такіх скокаў тут не ведалі ніколі – ні раней, ні пазней. Танчыў і спяваў час, танчыла і спявала зямля. Калі яна стомлена пачынала курыцца прысакам, бралі ў калодзежах ваду і тушылі, паліваючы. І асушальна мясілі зноў да прысаку.

Найбольш музычнымі і спеўнымі, маёва-салаўінымі былі так званыя пгт – пасёлкі гарадскога тыпу, мястэчкі, слабодкі. І вясковыя вечары, калі на змярканні ўжо лябёдкава выплывалі з хатаў і падворкаў дзеўкі-перастаркі – заседзеліся ў дзеўках за гады і гады адсутных кавалераў – ахвотна здаваліся пераможцам-ваярам. Пырскалі кіпнем у прысак і пыл вуліц падрослыя за тыя ж гады ўжо амаль маладзіцы – скура дымілася і гарэла – не спакушаныя яшчэ, сарамлівыя, хаця і вычакальна-стоеныя стракозкі-дзяўчынкі. Зніадкуль, нібыта з таго свету паўставалі, як не ў пору баравікі, падасінавікі ды масля́кі, выраста́лі, з'яўляліся ў ахоўна-вайсковай яшчэ дэмабілізаваныя, ацалелыя ад вайны салдацікі. У прасоленых, але чыстых, з белымі спінамі гімнасцёрках, надраеных бархоткамі да бляску кірзачах. Цяжкіх на выгляд, але такіх лёгкіх пад ліхі зладзейкі посвіст у руху. І пачыналіся ігрышчы, безаглядныя, як некалі атакі, да світанку, а часам і на ўсё жыццё, гульбішчы. Разняволеныя вайной і безаблічнасцю смерці скаромныя прыпеўкі праціналі шматдзваляльны час, аціхлую, захлынутую запечанай кроўю цемру нябёс:

Эх, Сямёнаўна, ды баба хітрая.
Любіла Сталіна. Дала Гітлеру
Эх, Сямёнаўна, ды баба руская.
Юбка клёш, м...нда вузкая...

Рэхам сягалі ў далёкую яшчэ і да страты, да згубы сябе ўжо ўсёдазвальняльную будучыню. У наступнае стагоддзе, трэцяе тысячагоддзе, новы міленіум і новую эру. Невядома чаму, толькі надта ж месячны быў той час

на зямлі. Маладзік, поўня – не ў памяці. Неба ляжала ў пылавым прысаку зямлі – хоць іголкі збірай – і таксама карагодзіла, танчыла, спявала нават і на матчынай мове:

А Лявон Лявоніху любіў.
Ён ёй чаравічкі купіў.
Лявоніха – дзеўка ласкавая,
Чаравічкамі палясквала....

Не абыходзілася і без усёіснай у Беларусі полькі. Праўда з пытаннем, адкуль яна тут:

Ах ты, полька, дрысні, перні
І скажы з якой губерні?

Адказу ж пра яе месца жыхарства пачуць ніколі не ўдавалася. Усё патанала ў дрыжыках і рогаце зямлі, неба і распаленых целаў.

Такая ж абуджанасць і ўзбуджанасць спевамі і музыкай ахапіла і дзетдом. Праўда, больш толькі дзяўчынак старэйшай групы, паранена апантаных сіроцтвам і сумам невядомасці будучай самастойнасці.

З нічога і ніадкуль і дзетдом таксама займеў свой сапраўдны духавы аркестр, шыкоўны нямецкі акардэон і баян. І ён, Сімка-Серафімка, унадзіўся шыцца і віцца каля дзетдомаўскіх хворых на музыку хлопцаў. Як галодны цуцык каля недасяжных яму, але надзвычай прыцягальных костак. Імкнуў да самадзейных музыкаў і сам нешта музычна-спеўнае скавытаў, каўкаў, мармытаў і галёкаў. Да чаго аказаўся надта здатны і наблатыканы. Усур'ёз. Галасы акардэона, баяна, духавога аркестра ўводзілі яго ў ступар, апякалі агнём, полымя якога шугала па-над ім і ў ім. Зводзілі яго да плачу ўсім целам, крывава апякальнай слязы. Ён палаў, гарэў і біўся з агнём у сабе. Хаця аб тым ніхто не ведаў і не здагадваўся, таму што вонкі з яго вуснаў вылятала штосьці недалужнае, глумліва-блазнаватае, як і тады, калі дзяўчынкам малодшай – ягонай – групы надышла чарга ісці на памыўку ў лазню. Ён зухавата нешта, як яму здавалася, да месца, хаця і без музыкі, але музычна прыстойна пракаўкаў, накшталт:

Расцветалі венікі в парылке,
Поплылі туманы по реке.
Выходілі на берег ботінкі
На высоком дамском каблуке...

І ці не ў чаканні ўжо апладысментаў, сукенку скінуў і акуратненька, па-дзявочы, зусім як Серафімка, склаў. Тое ж самае прарабіў і з трусікамі – аж самому ад сваёй акуратнасці брыдка стала. І усё яшчэ вычакальна каўкаючы, падаўся да затуман паруючых уваходных дзвярэй непасрэдна ўжо ў лазню. А яны, Евы, што заўсёды згодна падкаўквалі яму, як язык страцілі, анямелі. І рукі ў іх адняло, збянтэжана, цішком, бокам, бокам ад яго, нібыта ён не іх ці заразны. Сімка, а на самой справе цалкам тады яшчэ Серафімка, няўцямна заазіраўся. Змеціў, звярына адчуў нешта не тое. Чамусьці ён выбіваецца, выпадае з заўжды прыхільнай да яго дзявочай чарады. Пэўна, на тую хвіліну ці не ўпершыню спрацавала, аказала сябе хлапчуковае, а можа, – ужо і мужчынскае. Мелася ўжо ж яно ў яго. Было, было. Выпіналася нешта вонкі. На што ў дзяўчынак і намёку няма. Нічога няма. Больш таго, нібыта тое яго нештачка ў іх было ўсярэдзіне. І толькі

ценюнькай, сарамліва сцятай шчылінкай аказвала сябе. Дзяўчаткі, скоса пазіраючы на яго, усе разам пачалі прыкрываць тую шчылінку далонькамі, як лодачку ветразямі на бела-аголенай рацэ яшчэ няпэўна дзявочых целаў.

Сімка, а тады ўсё яшчэ Серафімка, быў нездольны адразу і зразумець, што тут і да чаго, уражаны неспадзяванай навізною, агаломшана пазбаўлены звыкласці сваёй сутнасці. Горш і больш таго звярнуўся да дзяўчынкі, Франькі Літошык, якая не паспела, а мо і забылася схаваць сваё нічога, прыкрыць яго далонькамі, як птушка крыламі прыкрывае сваё яшчэ неаперанае птушанё.

– А дзе? – хітнуў ён убок гэтага птушаняці. – Як ты без гэтага? – Выставіў, пахваліўся сваім кранцікам.

Франька, заўсёды чырвоная тварам, пачырванела ўжо да немагчымасці, амаль да крыві, і адхіснулася ад яго ці мо ўсё ж ад яе – Серафімкі – як ён быў яшчэ ўпэўнены. Сімка па-сяброўску, цалкам па-дзявочы паспачуваў ёй:

– Няма? Згубіла? Адпаў? Не перажывай, мо яшчэ адрасце. Нельга ж, каб зусім не было.

Вось пасля такога шчырага спачування ўсё і пачалося. Як у Адама з Евай пад яблыняй, толькі наадварот. Еваў было надта ж багата, а Адам – а Сімка-Серафімка – на ўсіх іх адзін. І быў жахліва пагрозны голас над ім, надта ж падобны на загад: укрыжуй, распні, распні яго. І кожны голас з шматгалосага хору яшчэ ўчора яго таварак, падобны цвіку, бязлітасны, смяротна забойны.

Бразгалі, коўзаліся і лёталі тазікі і ручнікі, градам падала мыла. Рухава і бессаромна бела мільгала, крывілася і касавурылася ўжо непрыхаванае дзяўчаткамі іх нішто. Расыпаліся і вар'яцкі кружлялі, секлі па разлаваных патыліцах заплеценыя ў косы і распушчаныя валасы. Угневана разявіўшы рот дыхалі парай прыадчыненыя дзверы, распаленыя ў парыльні лазні камяні.

Паперлі дзевачкі Сімку, ужо відавочна і бясспрэчна Сімку, а не Серафімку, як выбракаваную выроду. Паперлі з лазні голенькім і самі неўсвядомлена такія ж, як папраўдзе Евы, – голенькія. Рай непрадказальна і бунтоўна пераўтварыўся ў пекла. І мелася ў ім усё, каб людзям паказаць і самім падзівіцца, раз'ятраныя малалеткі-ведзьмы, збянтэжаны непаўналетны грэшнік, памылкова трапіўшы туды Адам. І бег гэты наваяўлены грэшны Адам, як знарок, а мо незнарок, дзеля пакарання ці выпрабавання гадам засланы ў чужую яму Евіну раёвую пароду, да якой па сваёй ахвоце ці злому нагавору недаравальна прагнуў далучыцца. А ўслед яму раз'юшаныя Евы кідалі нядобрыя, выкрывальныя і зусім не раёвыя і не Евіныя словы, а некаторыя і тазікі.

Так было. Толькі на гэтым не скончылся. Стала пачаткам ужо Сімкі. Як гэткае ж, пэўна, было пачаткам таго ж Адама, спакушанага зламыснікам змеем у хмызах райскага саду. Нешта ўсё ж нялюдскае, няправільнае было: скрадзены сапсаваны рай, злыя ў ім Евы. І сам ён – ні Богу свечка, ні чорту кавяня. Выключна няправільны з тым, што меў ён і з чым абышлі дзяўчатак. Хтосьці ўсё ж пры дзяльбе, стварэнні людской пароды моцна памыліўся. Адным даў, а ў другіх адабраў. Крыўда лёсу. Так, што ім не толькі жыць – на двор хадзіць інакш, прысядаючы, наканавана – няма інструменту. Няшчасныя, няшчасныя Евы. Хаця так ім і трэба.

Крыху пазней, калі так-сяк усталявалася і супакоілася ўсё, што адбылося ў лазні, Сімка з вялікага спачування абяздоленасці дзяўчатак, спазнанага

ім сваім розумам, уласнага роздуму аб гэтым, вырашыў праверыць на свае вочы, даведацца, наколькі сапраўды няшчасныя яны. Ці можна ім жыць і хадзіць на двор без таго, што ёсць у яго. За глухой, без вокан, сцяной дзетдомаўскага дзявочага спальнага корпуса наладзіў выпрабаванне, своеасаблівае спаборніцтва. Праверку, як у яго і дзяўчатак гэта атрымліваецца, дзейнічае. Хто далей і спраўней здатны пусціць струмень.

Заяц трапацца не любіць, задумана – зроблена. Схаўрусаваліся разам з ім тры хлопчыкі і тры дзяўчаткі. Першая з дзевачак, Франька Літошык, да гэтага віду спорту аказалася непрыдатнай. Больш, стойваючы дыханне, ціхенька сапла, з умольным замілаваннем глядзела на Сімку. Чырванела, ды так, што струмень хутчэй мог быць крывавым, з твару яе. Яна толькі абмачыла штонікі, нават не паспела скінуць іх. Засаромелася і збегла.

З хлопчыкаў было больш толку, прынамсі, з аднаго з іх. Гэта былі браты блізняты па прозвішчы, адначасова і мянушцы, – Гарбузы. Сапраўдныя гарбузы. Жыватамі, азадкамі і галовамі – круглыя. Невядома толькі, якое начынне, якія гарбузікі меліся ў іх галавах, увогуле ці меліся, і якога кшталту. Яны, па-ўсім, паходзілі з паўсюдна пранікальнай пароды істот, людской, зверавай, птушынай. Пранікальнай, хоць і не шкадлівай. Да пары да часу ціхенька сядзелі ў сваіх таўстакурых скрынях-гарбузах на бульбяных палетках. І толькі ў пэўна выспелы час вынікалі, як нячысцікі з балота ці дрыгвы. І ніколі і нічога больш-менш значнага не абыходзілася без іх удзелу, край патрэбных часу і прасцягу чорнарабочых мінуўшчыны і будучыні.

Сімка адразу ж згарбузаваўся з імі. Але непасрэдна ўжо ў дзеянні адзін з блізнят схібіў. Ён быў з макрацоў – мачыўся ноччу ў ложку. Ён сказаў, што вычарпаўся. Яго брат выцягнуў са штонікаў ладны почап, але больш, пэўна, толькі напаказ, бо няздатны даць належны струмень. Ні далі, ні вышыні, ні напору. Імжа, а не залева. І больш з падлянкі, прагі зарабіць:

– Гані пайку з абеду, тады дам што трэба, – паставаіў ён умову Сімку.

Сімка адмовіўся ахвяраваць Гарбузу абедзенную пайку. Падмеўся ўжо даць яе аднаму з дзетдомаўскіх коней. Дый, як аказалася, і патрэбы не было патураць крыхаборству Гарбуза.

Назло і ў пакаранне яму, за яго і ўвесь хаўрус парупілася Манька Ржавая. Папраўдзе, ні з якога боку нікольні не ржавая, хутчэй залатая. Яе тварык кожын год выбухаў такім рыжмоццем вясновых дзьмухаўцоў вышэйшай залатой пробы, што і прасвета на ім не было. Абсыпаная золатам залатая дзяўчынка. Але бязлітасная дзетдомаўская дзятва абразліва, слепа наракла яе ржавай .

Вось гэтая ржавая ці залатая дзяўчынка прымружыла вочы, напружылася, сцяла, двума тонкімі пальчыкамі перашчыкнула сваю непрыкметную шчыліку па-снайперску пусціла такі далёкі струмень, што, як дасведчана сцвярджалі пазней усе ганебна няўдалыя ўдзельнікі спаборніцтваў, пацэліла і збіла на ляту страказу, якая на сваю пагібель заляцалася да выцягнутай сонцам з хваёвага бёрна сцяны адмерлую апошнюю бурштынавую кроплю колішняга жыцця – жывіцы. Парупілася Манька за ўсіх, ім такое і блізка, у сне нават не снілася.

Сімка толькі пакруціў галавой і, не без пагарды зірнуўшы на свой паніклы недамеркавы стручок, удавана ўсцешыў сябе:

– Нічога, нічога, ён яшчэ апраўдаецца і выправіцца. Якія яго гады...

І яшчэ раз пашкадаваў, што ён усё ж Сімка, а не Серафімка.

Аднак кропку ў іх спаборніцтве паставіла кастэлянка Ева Адамаўна. Як наўмысна цікавала за Сімкам:

– Гэта што, што гэта? – Яшчэ здаля залямантавала. – Рана пачынаеце зачапляцца, слязьмі закончыце...

Сімка паспрабаваў апраўдацца, што гэта ніякае не зачапленне, а такое спаборніцтва. Але кастэлянка завялася, не паверыла:

– Бачыла. Я бачыла такія спаборніцтвы і такіх адлётаў, ад якіх толькі байструкі-малалеткі.

– Мы не тыя адлёты і не байструкі, – пакрыўдзіўся Сімка. – Мы...

– Ведаю, ведаю. Вучоная, – сказала кастэлянка і заплакала. – Ідзіце, ідзіце ў палаты. Малыя вы яшчэ да такіх спаборніцтваў...

Ці не тады ён ачуўся і ўпэўніўся, што ён без дурняў, і да бабулі не хадзі, толькі Сімка, а ні ў якім разе не Серафімка. Толькі Сімка, хаця на ўсё і пра ўсё яго гаворка былая, Серафімкава: я пайшла, я ўзяла, я зрабіла. Інакш і памысліць не мог. Таму што ўсе свае гадкі пражыў менавіта як Серафіма. Дзякуючы гэтаму і выжыў. І вакол яго жылі адны толькі так званыя Серафімы, хоць і пад рознымі імёнамі – жанчыны.

Да дзетдома ён быў упэўнены ў тым што іншага роду людзей на свеце няма. Вайна выкаціла з яго глухой палескай вёскі і напамінак аб іншай, першай ці другой, палове чалавецтва. Лёс пажартаваў і здзекліва пакінуў, як на развод, аднаго яго з той паловы. Аднаго яго, што спазнаў толькі з носу ды ў рот, пад стол пешкі яшчэ вучыўся хадзіць. А яго – на працяг чалавечага роду. Вось такія мудрагелістыя забаўкі бязлітасна смяротных гульняў вайны. Звыклыя і бясконца, пажыццёва чалавечыя

Тады ў вёсцы, ці каля вёскі, а мо паблізу ў лесе, некага забілі: свайго, чужога, немца, партызана. Такі ўжо абавязак, работа такая ў вайны – нішчыць, забіваць тых, хто пры стрэльбе і без: бі сваіх, каб чужыя баяліся, бі чужых, каб перасцерагаліся пладзіцца свае. І ніхто і не ўведае, хто гэта каго выправіў на той свет. І ніхто не спазнае, дзе чыя магілка. Вінаватага, нявіннага... Бойка, смерць, бабуля безаблічная і непераборлівая... Зямля, дажджы час і воды аднолькава прымаюць і прыбіраюць кожнага, не пытаючыся прозвішчаў, паходжання. Звання. Быў бы чалавек харошы.

Адно толькі, патрэбен толькі той, хто апраўдваў яе існаванне. Вінаваты, нявінны – справа дзясятая. Каб ведалі і помнілі, і каб нікому не панадна было. Дзеля гэтага і патрэбен зямлі харошы чалавек. Яго шукаюць усе з сабакамі і са свечкамі. Няспынна, доўга. Пасля таго як той чалавек харошы даўно ўжо спрах. І, пэўна, па спрахласці не знаходзяць. Няма, нямашака яго, а на няма і суда няма. Толькі ўвогуле такая шукальная людская натура. Шукаць што было і чаго ніколі не было і быць не магло. Учарашні дзень і дзень уначы, а ўдзень – ноч. Шукаюць таго, хто яшчэ не нарадзіўся і таго хто ўжо на тым свеце. Шукаюць таго, хто ўжо даўно смярдзіць і яшчэ свежанькага – жывога і памерлага. Сякеру пад лаўкаю. І знаходзяць – таго, хто на відавоку: вунь жа яго хата стаіць. Вунь жа яго дзеці корпаюцца ў вулічным прысаку. І жонка падаткнуўшы спадніцу жне жыта. І сам ён, як толькі нарадзіўся, убачыў гэты белы свет, адразу ж пачаў чакаць. Калі яго знойдуць. Таму што нават заплюшчыўшы вочы, добра ведаюць, каго трэба шукаць і хто вінаваты.

І хлусяць, хлусяць, калі гавораць "вечная памяць" і "ніхто не забыты і нішто не забыта". Усё і ўсе перад смерцю роўныя і аднолькава пахавана-

забытыя. Так гэта, так. Хаця не зусім так – а за грошы. Памяць таксама смяротная і абіральна-згаворлівая. Таму і не ўсе перад ёй сапраўды такія ўжо роўныя. Ёсць жа яшчэ і раўнейшыя. Хаця на ўсіх, усяму беламу свету адзіны крыж. Такая ўжо зямная касавіца. Такая зямная сенажаць.

І ў той сенажаці нехта лёг на вечны спачын. Некага забілі каля вёскі, што да гэтага часу хавалася ў балотах, замкнутая і засцеражоная дрыгвой, багнай, непраходнымі барамі і дубровамі ды яшчэ ж рахманай памяркоўнасцю. Хутчэй, канечне, чужога, немца забілі. Грашылі на партызан, а мо... Сцяліся, стаіліся. Таму што партызан баяліся мо больш за немцаў – свае, вясковыя людзі, ад іх паратунку няма. Немцам што – шпіг, млека, яйка. Сваім жа ўсё – ад кароўкі, парсючка да кажуха.

Прыскочылі, наляцелі немцы, Карнікі на матацыклах і на нейкай тупарылай машыне. Усіх вяскоўцаў ад старога да малога сагналі на пагон, па якім дагэтуль заўсёдна выганялі тавар. Дзелавіта, хутка – па-сялянску толькі па-нямецку. Нікому не пагражалі, не білі. Усё прыстойненька, акуратна. Бабы, жанкі – у адзін бок. Мужчыны – у другі. Усіх, нават малалетак. А ён яшчэ нават не выправіўся, не дарос і да малалетак. Як заведзена ў вясковай хаце, асабліва пры нястачы, у ліхалецце – у сарочцы з кужалю. Як дзяўчынка – па пяты.

Хаця немец па ўсім і адчуў, што пад кужалем той доўгай дзявочай сарочкі, усё ж, падобна, засумняваўся, разбяры-паймі гэтых унтэрменшаў:

– Кіндэр – кнабе, мэдхен, ман? – спытаўся, прыглядаючыся да міжузроставай і такой жа міжполавай апраткі, звяртаючыся да дзеда, у якога Сімка жыў. І яшчэ аб нечым яго пытаючыся пра што, пэўна, мо і не хацеў, але мусіў пытацца.

Слоў было багата, Дзед ніводнага з іх не разумеў. Адчуў, дайшоў гадамі і розумам, гаворка не абы пра што – пра жыццё і смерць хлопчыка, тады яшчэ цалкам Сімкі. Яго аднагодак, манаў, аддзялілі, адціснулі ўжо да жанчын.

– Кіндэр, кнабе, мэдхен, ман... – Пакорліва паўтатыў дзед за карнікам. – Як па нашым, Серафіма, значыць, Сімка-Серафімка. Яна...

– Значыць Сімка-Серафімка, – пакрывіўся бобік-паліцай, што быў пры карніку і даў хлопчыку падсрачніка: – Жыві і не кашляй Сімка-Серафімка.

Стары Адам зрабіў апошні перад небыццём крок, перайшоў да мужчынаў.

А Сімку адагналі, далучылі да жанчын. Пры жанчынах ён пачаў жыць і далей – толькі адназнакава Серафімай. Адзіны ацалелы з мужчынскай пароды немаленькай вёскі, як свет, самой ў сабе і пры сабе, пэўна ж, маючы ў галаве, што так звядзецца тут увогуле чалавечы род.

Мужчынскую ж, Адамаву пароду загналі ў стайню, замкнулі завалай і падперлі яшчэ вароты бярвеннем. З металёвых каністраў мышынага колеру аблілі газай ці бензінам. Пагергеталі на нялюдскай мове. І падпалілі полымем з нейкіх па-вуцінаму тупаносых і рылатых дзюбаў. У кожнага з падпальшчыкаў у адмысловых заплечніках падобна, як у авечых ці конскіх стойлах хавалася незлічона вогненных коняў. І таму напал іх агню быў усёахопны, сягаў да неба, аблачын і зорак, калі яны на той час яшчэ не згарэлі. А толькі ад жаху і жудасці сусветна-галаснага панавання полымя, яго ўсёпаглынальнага лямансу і тагасветнай немасці жанчын, вясковага наваколля, сялянскіх хат і сіва-замшэлых вулічных платоў закладала вушы. Яму Сімку-Серафімку закладала. Ці не з таго, каб адбіцца, утаймаваць

і вынішчыць з сябе тое, што адбылося, ён заспяваў. Пачаў спяваць. Але пра гэта крыху пазней.

З цягам часу Сімка без напругі і суму прымірыўся са сваёй жаноцкасцю. Звык гаварыць і нават думаць пра сябе, нібыта ён папраўдзе дзяўчынка Серафімка: я пайшла, я ўзяла, я дала. Набраўся ад іх песняў, прыпевак і прымавак. Толькі чамусьці больш выкрывальных і асуджальных у бок мужчын – ці не менавіта з-за адсутнасці іх побач. Але змест яго не турбаваў і не бянтэжыў, як і словы, закладзеныя ў ім, сэнс якіх яму быў яшчэ незразумелы:

Маю мілку ранілі
Пасярод Германіі.
Замест кулі – куй ўваткнулі.
У лазарэт адправілі...

Спяваў прыгожа. Меў прыемны голас, і слыху не бракавала. Дый пачуццёва ўрастаў, зліваўся з тым, што спяваў, нібы яно нараджалася, жыло ў ім. А ён толькі даваў яму волю. Дазваляў услых гучаць з яго вуснаў. Агучваў, абвяшчаў свету сябе, як гэта робіць штосьчас немаўля:

Па блату, па блату
Спалілі немцы хату.
Пастроілі халупу,
Пахожу на залупу..

На пазіцыю дзевушка,
А с пазіцыі маць.
На пазіцыю – дзевушка,
А с пазіцыі – бл...дзь.

Тая яго песеннасць перарвалася, спынілася, праўда, часова, памянялася тады, калі перайначылася і яго жыццё, надышло вызваленне ад вайны. Родных у яго не было. Дзеда, як ужо казалася, немцы спалілі, бацька загінуў на фронце, маці памерла. Вёска даглядала, карміла, паіла яго падворна, як пастуха – па чарзе. Толькі пасвіць ці нават падпасваць яму не было каго. Не было кароў, немцы з партызанамі, вайна паела іх разам з усім, што вішчэла, кукарэкала і квактала. Дый і сам ён, Сімка-Серафімка, быў яшчэ малы. Самога яшчэ было трэба пасвіць і пасвіць – травы, крапівы, лебяды, нічога не кажучы пра шчаўе ўжо, не набярэшся.

І як толькі расцеплела, надышло лета, яго прывялі і здалі ў дзіцячы дом. Прымалі пад звыклым вёсцы і яму імем: Серафіма. Такіх здадзеных невядомымі чужымі людзьмі, а выпадала і роднымі, паўсюль было хоць плот гарадзі. І зазіраць, прыглядацца, дзе, што і як расло ў гэтай Серафімкі было некаму і некалі. Хаця мо проста паленавалася, папусцілася прыёмная камісія. Праверылі на каросту, лішай, вошы, трахому – і будзь здароў Серафімка. Добра яшчэ што хоць без паджопніка.

Серафімай ён і быў запісаны ў дзетдоме. Пайшоў, пасялілі ў дзявочую палату – малодшага ўзросту. Атабарыўся, асвойтаўся там. Толькі спяваць услых спачатку саромеўся. Сярод дзяўчатак былі такія, што яшчэ пальцы ў роце трымалі, няспынна смокчучы іх. Ён адчуў, што яго песні не такія, каб прылюдна іх гарлаць. Цалкам жа ачуўся і паразумнеў, калі нечакана і непажадана з Серафімы пераўтварыўся ў нешта зусім супрацьлеглае. У Серафіма. З дзяўчынкі ў хлопца. І адчуў сябе брыдкім і нячыстым.

Апаганеным. Балюча голым, як гад, што пад лета здзірае з сябе старую скуру, каб амаладзіцца.

Але такое амаладжэнне было яму – прышый кабыле хвост, а ў яе свой. Пакутліва, надрыўна, да самагубнай страты сябе, адчування здрады. Ён міжволі вяртаў сябе колішняга. Вяртанне ішло праз пень калоду, кульгава, праз забыццё. Забыццё сябе ў прасторы і часе, нібыта на гэтым свеце яго ніколі і не было. Затое нечакана прыгадвалася такое, чаго ён хацеў пазбавіцца. Ён помніў сябе ў гуках, словах песняў, якія няўцямна, невядома нават дзе, калі і каму спяваў. А мо і не спяваў, запамінаў, назапашваў і моўчкі насіў у сабе, як лёс насіў яго. Яго ўсё мацней і мацней, як маладое ваўчаня ў лес, цягнула страчанае разам з дзявоцтвам штосьці да жудасці страшнае і адначасова невытлумачальнае, што ён прагнуў вярнуць і баяўся, намагаўся забыць і збыць.

Ад разгубленасці і тугі, няпэўнасці існавання яго нечакана пазбавіла музыка, што, падобна, была ў ім і з ім мо нават тады, калі самога яго яшчэ не было. А цяпер у згрызотах самоты сталася ці не адзіным паратункам, сэнсам яго новай, знявечанай сутнасці. Ён рабіўся сам не свой ад таго, што срэбна ці мядзяна спараджалі альты, барытоны, тэнары і трубы духавых аркестраў, а асабліва ж баян. Кожны раз, калі чуў іх галасы, ён камянеў, заходзячыся як немаўля ад крыку ў сабе. Нябачна трымцеў целам. Дробненька варушыліся толькі вусны, нібыта паглынаў пачутае.

Акурат пад такі яго стоены неспакой, усёй яго напятай, прасякнутай музыкай натуры ён і ўтварыў тое, што ніколі не дазволілі б сабе ні Серафімка, ні нават Серафім. Не паспеў дзэтдомаўскі баяніст вольна ўздыхнуць ад баяна, зняў толькі яго з плеч, паставіў каля сябе, як Сімка падхапіўся з лавы ля ганка хлапечага корпуса дзетдома, аберуч ухапіў баян, прыкрыўся ім нібыта бранёю. І не хапатліва, нават лена, дробненька перабіраючы танклявымі ножкамі, пакрочыў у бок стайні. Зноў жа, нікольki не спяшаючыся, ні на каго не зважаючы.

Гэта была хада самаўпэўненага, спрактыкаванага гарадскога злодзея, на якім усё ж гарыць ужо шапка. А ён робіць выгляд, што гэта шапка зусім не яго, а калі яна на ім гарыць, то не пячэ. Так заўжды, па ўсім, носяць сябе, манячы ўсяму свету, самаўпэўненыя, што ні на ёсць заядла адпетыя злачынцы. Сцята адрачона пасля ўчыненага. Нароўні з імі могуць быць толькі прайдзісветы, выбітныя палітыкі, дэпутаты найвышэйшых рангаў ды ўсенародна абраныя прэзідэнты – амаль месіі. А яшчэ індыкі, якія толькі-толькі справілі шлюбны абавязак у сваім гарэме.

Дзе і калі прайшоў такую навуку, набыў такія веды Сімка, можна толькі гадаць. Падобна, гэта ў ім было прыроджанае, як і амаль тагасветная чароўнасць баяна, які ён нахабна навідавоку ўва ўсіх стырыў. Сутнасць і аснова баяна, як і любога інструмента, кожнай прылады, у якой былі прыхаваны гук, мова і гучанне, што надаваў ім чалавек, здольны разумець і размаўляць не толькі з сабе падобнымі, але і з светам, і нават з сусветам.

І праз нейкі час было падобна, што і Сімка валодаў такім умельствам. Паразумеўся з крадзеным баянам, з-за якога, седзячы, быў амаль нябачны – толькі рухавы віхорчык, кожны валасок паасобку, а ўсё астатняе ўжо не яго. Тагасветная нікеляваная ўсмешка акантоўкі мяхоў у сонечных праменьчыках, грэблівая, калі не здзеклівая, пад кожны палец падатлівая спружыннасць каляровых гузікаў, удых і выдых невядома чый і каго. А ўсё астатняе ўжо звыш, звыш – у голасе і гуках, якія ён, а хутчэй невядома і падсвядома хто і як утвараў. Але ўсё гэта потым, потым – у свой час.

Амаль як паветраны, плыў разам з Сімкам да дзетдомаўскай стайні баян. Дзетдомаўцы і дзетдомаўкі, што сядзелі каля баяніста, па першым часе як знямелі, нават не зварухнуліся, Толькі Франька Літошык неймаверна выбухнула чырванню ды Манька Ржавая, мо прадчуваючы штосьці, а мо з непасрэднасці і жвавасці натуры, падхапілася з лавы і запляскала ў ладкі, што атрымалася асабліва гучна з-за пануючай цішы.

Баяніст жа ачомаўся і пакульгаў па свой інструмент, калі Сімка ўжо рыпліва зачыняў за сабой дзверы стайні. Нагнаў, ухапіў яго на парозе. Толькі намерыўся адабраць баян, як Сімка ціха, але з абурэннем мовіў:

– Маё! – І гэта была не просьба, не ўмольванне, а сцвярджэнне.

Баяніст, пэўна, адчуў бясспрэчнасць моўленага і пагадзіўся:

– Адчуваю, бачу, разумею. Але ж гэта тваё вельмі цяжкое, непад’ёмнае. Не па тваіх гадах, не па ўзросце, а-а-а...

– Буду расці пад гэта а-а-а, – дапамог баяністу Сімка. – А так, упрыглядку, ён ужо звёў мяне.

– Прысушыў?

– Прысушыў, – тужліва і не без роспачы пагадзіўся Сімка.

– Бывае, надараецца.. З гэтым жывуць, але ад гэтага і паміраюць.

Не, зусім няпросты быў гэты малады і кульгавы дзетдомаўскі музыка. Але ж і Сімка не саступаў яму.

– Згодны, – адказаў ён. – Жадаю, хачу і прымаю добраахвотна. І няхай будзе як будзе. Ён мае рэха, а мо і наадварот.

На тым яны і паразумеліся.

Не. Не, зусім няпросты быў калечаны дзетдомаўскі музыка. Хоць мо ці не кожны, хто ацалеў, выжыў, напоўніцу паспытаўшы акупацыю і акупантаў, пахрышчаны вайной, так сябе паводзіў. А ў дадатак і кляймёны за сваю жывучасць, як выбракаваны сабака. Ён жа, музыка, хаця і не ваяваў са зброяй у руках, паходзіў з так званага, даволі шматлікага, атраду мінёраў. Падшыванцаў, што пасля вайны ды і ў вайну, каб пракарміцца, вытаплялі з мінаў тол глушыць рыбу. Рэкі і азёры, што яшчэ не зведалі даброт меліярацыі, былі шчодрымі на яе.

Яго міна, свая, чужынская, савецкая, нямецкая заўчасна выбухнула. Яму пашанцавала, знявечаны, але жывы застаўся. А колькі, колькі Васек, Лёнікаў ды Колек... Гэта было наканаванне, а часам і смяротны прысуд не толькі яму аднаму. Той мірны ўжо час быў няўчассем ці не ўсяму дапытліваму і дасціпнаму пакаленню, а не толькі здабытчыкам толу. Гнюсіла, трушчыла, у хвост і грыву нават перамога і сыход вайны, біла і ў роднай хаце, і па-за хатай, з-за вугла, як маланка пры ясным небе і пры сонцы, у так званы цыганскі дождж. Ці не само неба з сонцам збіралі даніну, спаганялі яе з жывых. Жывыя, асабліва дзеці, былі закладнікамі ўжо здавалася б міру. Вызваленыя, ацалелыя ад вайны бары, гаі, дубровы, палеткі працягвалі ваяваць. З чалавекам, з жыццём.

Мірны, без ахвяраў, свет быў толькі прывідам. Толькі мроіўся рэшце, парэшткам, ацалелых. Спраўджаных і няспраўджаных маці, бацькоў і іх асірацелых нашчадкаў. Таксама ж іх выхавацеляў. Усе яны, абяздоленыя, ляпіліся адно да аднаго, збіваліся і зрасталіся адным лёсам у адной абмежавана-абвужанай прасторы, у адным магілкавым для многіх часе. Аднолькава дыхалі перацятым, забітым і пахаваным мінулым. Няпэўным заўтра і сёння.

І гэта было не толькі горам, бядой, але і паратункам. Яднаннем няў-

часся, ліхалецця малых і старых, сіротаў іх апекуноў, выхавацеляў. Таму што апошнія, як гэта прызначана ім сёння, не выхоўвалі. Пазбаўленыя цяжару педагогікі, не дасведчаныя аб Песталоццях, Ушынскіх, Крупскіх. А да выбітнага знакамітага Спока было, як да зоркі: тысяча вёрст і лесам, лесам, хмызамі, і ўсё пёхам. Дзеці і дарослыя, выхаванцы і выхавацелі ведалі і трымаліся адвечнага, карэннага, колішняга, вяскова-сялянскага: жыць як набяжыць. З павагаю да ўсяго існага. Таму так хутка, не зважаючы на розніцу ва ўзросце і процілегласць быцця, без паблажлівасці, нароўні паразумеліся Сімка з дзетдомаўскім баяністам. Як паразумеліся сіраты-выхаванцы са сваімі выхавацелямі: жылі ж у адзін дзень і ў адным свеце. Гаварылі адной мовай. Праўда, у выхавацеляў мова змянялася, калі яны праводзілі палітінфармацыі па газетах таго часу. Але і тут выхаванцы іх разумелі: калі трэба, то трэба.

## II

Стаяла лета. Стаяла, ляжала, ляцела, бегла. Хутчэй усё ж бегла. Таму што лета ў тыя леты было яшчэ летам. У свой час яно надыходзіла. З ім рукаліся, гукаліся, на яго маліліся і прасілі не быць спякотным і гнілым

У меру, у меру, нічога не занадта, усяго партроху, як колісь. І неба, сонца, лета і памяркоўныя пад імі людзі тую колішнюю меру і ўсяго патроху ведалі. З гэтым засыналі і прачыналіся, каб быць – доўжыцца і працягвацца ў дабрадзейнай памяркоўнасці лета і летаў.

Стаяла лета ўсім, усяму існаму і сутнаму. Прадзіралася праз шчыліны паміж бярвеннямі старой стайні. Бруілася вострымі лёзамі сонечных праменняў, часам карагодліва-мітуслівых, але нечакана зыркіх іскрынкамі зляжалага тут праху і тлену мінулага. Развітальна, ці не шлюбна, пахла яшчэ леташнім, а мо і пазалеташнім, мурожным сенам і спажыўцамі яго – коньмі і валамі.

Дух ад валоў быў густы і цяжкі, абвалакальна-валовы. Потава-сялянскі, зямельна-глебавы. Палеткавы. З водарам хаты, далёкага, вечаровага сырадою з наплывам адвечнага вяскова-хатняга тлуму, заклапочанасці – дзіцячай, жаночай, гаспадарча-мужыцкай. Коні ж патыхалі ленай, шляхецка-вытанчанай вольнасцю, гарматным вайсковым маслам і таксама летам. Сенам, калі яно ўжо ці яшчэ ў копах, ветраным борам, маладымі хвойкамі, калі тыя ўпершыню цвітуць, дарогай з іхнімі ж, конскімі, яблыкамі. А яшчэ дымам і порахам, што назаўжды ўвайшлі ў іх кроў, прысталі да іх скуры, якую яны ўберагглі.

Хлопчык сярод бруення і буйства гэтых водараў, пахаў, подыхаў, іх бессаромнай распуснасці і адначасова сарамлівай сціпласці, то палаючы ў бурштынава-зыркім прамянёвым святле, то патухаючы ў апраметна-чорных іскрынках адгарэлага былога і будучага, сядзеў на гарышчы старадаўняй стайні, звесіўшы з даволі шырокага лазу ногі, склаўшы галаву на мяхі летне-лазовага колеру баяна. Амаль непазнавальны, нябачны пад тым баянам. Няісны. І ў той дрымотнай, але чуйнай няіснасці лавіў рэха сваёй прысутнасці, а мо і адсутнасці. Рэха сваёй існасці, якое апошнім часам пакінула, нібыта некуды збегла, пайшло ўпрочкі ад яго. Ён адчуваў сябе існым штодзень і нават штochас толькі імгненнямі, калі яму вельмі балела, торкала ў грудзях ад болю – агню, збітага пазногця і нечаканага нарыву на пятках – калі клаўся спаць. Засынаў і сніў такія жахі, што ўдзень баяўся нават і думаць аб іх. Сны смылелі адчужанасцю і няіснасцю яго на гэтым

свеце, прымусова сведчылі, што ён усё ж недзе ёсць, толькі невядома, на якім свеце, нікому нябачны. І яму там непамысна горка, самотна.

Непамыснасць і няпэўнасць выспеліліся ў ім і цяпер. Ён ці не цалкам выпаў з сённяшняга дня, яго г*у*каў, пахаў. Блукаў толькі ў рэху, прывідным рэху свайго кароткага, схаванага ў спавівальных туманах жыцця, на гэтую хвіліну цьмяна заручонага з колішнім нябытам старой, яшчэ панскай стайні, незлічоным мноствам яе гадоў і памерлых ценяў, сярод якіх ён каторы ўжо дзень хаваецца разам са сваім баянам, яго маўленнем, галашэннем і ўдавана прыкідлівай, падманнай пакорай і ціхмянасцю. Растае, расцякаецца па свеце, звужаным дзетдомаўскім наваколлі сумным трызненнем зняможаных ад гультайства ўздыхах валоў і коней, працяглым і цяжкім ад без’ярэмнага і незахамутанага стойлавага ўтрымання. Яднаўся з іх разняволеным пасопваннем, жаданнем поля, лесу, прасцягу і мо трошкі вясковага прымусу да працы.

Валоў пакінулі тут канаць пасля іх доўгай дарогі з Заходняй Прусіі да беларускага Палесся. Высакародны, племянны гурт нямецкага статку дастаўлялі самапёхам, у разлік рэпарацый, хоць нешта жывое за кошт сатвораных тут вялікай крыві і смерці. Валы цяжару той пасмяротнай платы не вытрымалі. На апошнім уздыху дасталіся дзетдому і дзетдомаўцам, сіротам. У сірот аказалася на дзіва лёгкая рука, на ажыўленне нават памерлых ужо – іх адметнасць на гэтым свеце: адраджаць, прайшоўшы самім праз смерць, тварыць жыццё.

Нечым падобны да валоў быў і лёс коней. Яны пазбеглі заўчаснае смерці, вытрымалі, выстаялі вайну на радзіме, дзе ўбачылі свет і жыццё. Але тут і зняможыліся. Пасля вызвалення роднага кута, у адрозненне ад людзей, конікі адмовіліся, не здолелі ісці змагацца далей, за чужую бацькаўшчыну. Адзін гняды, другі мышына-бялявы, буланы.У дзетдоме коней так і наракслі: шэра, машэра, не без павагі і любасці. Хаця іх сапраўднае вайсковае салдацкае імя Абраша і Фрыц. Фрыц акульгавеў, быў паранены ў нагу пры правядзенні аперацыі па канчатковаму вызваленню Беларусі – “Багратыён”. Абраша прайшоў праз тую аперацыю без стратаў і драпінак. Але занудзіўся, калі застаўся адзін, без свайго сябра-ворага, ці не семіта-паплечніка Абрашы. Пачаў на вачах каростава лушчыцца, чэзнуць і сохнуць. Верная франтавая прыкмета – не жылец. Іх абодвух, параднёных несумяшчальнасцю прозвішчаў, арыйца і бульбаша з яўрэйскім ухілам, ахвяравалі, падобна валам, толькі-толькі арганізаванаму дзетдому. Невядома, як, чым, жалем, сваёй прагай да жыцця, спагадай, памяццю жахаў ліхалецця, дзетдомаўцы паставілі абяздоленых і скалечаных на ногі.

Прусакі, нямецкія валы і айчынныя тутэйшыя конікі былі паселены ў адзін старажытны хлеў, яшчэ панскага часу, як і забудовы, так званыя карпусы, прадвызначаныя дзетдому і дзетдомаўцам. У тых карпусах пры пану месцілася яго чэлядзь. Белакаменны трохпавярховы панскі палац з вежай наверсе высіўся сярод вялікага парку, у якім раслі дзівосныя, сабраныя ці не з усяго свету дрэвы, занялі райкам партыі і райвыканкам. Суседства дзетдома і дзетдомаўцаў не з лепшых, як бяльмо на воку адных і другіх. Але сужыцельства было мірным, цярпімым. А дзетдомаўцам яшчэ і прывабным закрытасцю, патаемнасцю жыцця ўлады сёння і калісь. Узяць хаця б тыя дзівосныя паркавыя дрэвы. Кожны добра ведаў і ганарыўся, што яны ёсць і амаль побач. Але якія? І дзе гэтае побач? Гэта вымушала думаць, аб тым ці не роўныя яны былому пану і сённяшняй уладзе ў прыватным валоданні нечага адметнага і свайго. А яшчэ ім ад пана дастаўся шыкоўны

сад. Такі, што ўлетку вартаўніка даводзілася наймаць. Самі ж дзетдомаўцы, нават расперазаўшы пуза, аб'есці той сад былі няздольныя, якімі б вусенямі яны ні былі.

Вайна выйшла адсюль і пайшла, пакацілася на захад. Але пакінула, замініравала гэты край неверагоднай колькасцю недабіткаў-сірот. Іх, як неўзарваныя міны, збіралі і звозілі. Адных у шпіталі на лячэнне, другіх – у так званыя лясныя аздараўляльныя школы, у якіх яны ціха, смяротна сама-размінаваліся. А больш-менш некранутых, выбухова бяспечных, здаровых, размяркоўвалі па дзіцячых дамах, што па два тры меліся на кожны раён, пасёлак гарадскога тыпу і нават на вялікую вёску. Звычайных вясковых сірот у звычайны дзетдом, у якім трымалі толькі да чатырнаццаці год, да заканчэння сямі класаў. Сірот жа загінулых партызан і вайскоўцаў – у спецдзетдомы, да атрымання сярэдняй адукацыі. Такім чынам трапіў сюды, у спецдзетдом, і Сімка, дадаўся да скалечаных вайной коней і валоў. Абраў сабе прытулкам іх стайні, гэты хлопчык з баянам.

Абраў яшчэ без баяна і ў дзявочай існасці. Хутчэй неасэнсавана, пад-свядома, таму што ўсё ж цягнула яго да хлапечага, мужчынскага. Як цягнула дзяўчатак да жанчын, іх занятку, жыцця, справы. Хлопчыкаў жа – да мужчынскай вартасці, годнага ім занятку. Гэта сакрыта і прыхавана мелася ці не ў кожным з сірот бязбацькавічаў. Яны імкнуліся аднавіць перарванае дзяцінства, цягнуліся да страчанага, да дарослых. Да памяці маці з бацькам. Недалюбленыя, прагнулі ласкі, догляду. Узгадвалі, пе-раймалі іх звычкі, каб хаця ва ўспамінах адчуць, як матчына ці бацькава дарослая спагадлівая далонь дакранулася да іх галавы. І не знаходзячы, не адчуваючы той далані, заходзіліся ад самоты, шыліся ў адзіноту, сховішчы, схованкі. У прывідны і мройны, але свой, амаль пячорна-самотны свет. Каб хоць нечым, хоць крышачку ён нагадваў ім страчаную хату. Стваралі тое, чаго не зведалі, чаго прымусова былі пазбаўлены.

Рыхтуючыся пакінуць гарышча, ён старанна схаваў у сене баян, нібы сябе схаваў ці нават пахаваў. Шчытна зачыніў дошкамі лаз. І ўсё гэта ста-ранна, але не хапатліва, цішком. Вучоны дзетдомам, звыклы да патаемнай азіральнай абачлівасці нават праз няпэўнасць свайго імя і полу.

Па чарзе абышоў валоў і конікаў. Як плату за прытулак, Абрашу і Фрыцу даў па драбку цукру ад учарашняй вячэры, добра замурзаных у кішэні і не без патаемнага жадання з'есці самому. Волікам – па захаванай ад абеду пайцы крута пасоленага хлеба. Так было заведзена яшчэ з таго дня, калі ён з баянам і баяністам зачыніўся ў стайні. Што яны там рабілі, пра што гаварылі, назаўсёды засталося паміж імі. Толькі праз нейкі час стайня і дзетдомаўскі панадворак прарэзліва загаласілі баянам. Плачам, стогнам і шалам яго. Такая разлягалася музыка, што было боязна і за волікаў, і за конікаў, моташна ўсяму свету.

Прусакі-волікі падобна былі глухія на хаця б нейкую палескую гавор-ку, тым больш музычную. Бязмоўныя, засвоілі толькі цоб ды цабе, што значыць направа, налева. Тубыльцы ж палешукі Фрыц і Абраша, звыклыя да какафоніі вайны, музычных спеваў кацюш і ванюш, пэўна ж, бедныя, ніколі не чулі, уявіць сабе не маглі старадаўніх, яшчэ да вайны забытых гаворак і мелодый катрынак, нюхалак табакерак і ўсякіх іншых на сёння нябожчыкаў. А стайня ажывіла, з таго свету падняла і прымусіла іх слухаць і гаварыць. Ды так гучна, палка, смалена і пражана. Зямно і нябесна, па-тутэйшаму і па-іншаземнаму. Па-жыдоўску, па-старабеларуску, па-арыйску. І яшчэ нейкаму, мо нават і незямному.

Абраша, калі Сімка пачынаў іграць, сам не ведаючы што, – хутчэй падобна панадворкавае, прабойна панылае і скрушлівае, як плач з таго свету, – ускідваў угару да злому цяжкую яўрэйскую галаву, ускладаў шыю на жэрдку загарадкі. І аціхаў, як некуды сыходзіў. На краёчку яго вока набрыньвла сляза. Амаль як і ў чалавека. І ў той глыбінна-змутнелай слязіне выразна адбівалася ціхамірнае пасля фронту ўбоства стойлавага ўтрымання. Па ўсім гэта нагадвала сум сабакі пад плач скрыпкі, што склаў галаву на лапы пад кустом маёвага цвіцення бэзу адно толькі заставалася непраясненым, ці раняў Абраша тую сваю слязу на сенавую пацяруху, ці яна ў ім спякалася і выгарала пасля апошняга слізгу смыка па струнах местачковай скрыпкі. Зацемкі не пакідалі канюшні.

З Фрыцам падчас Сімкавай музыкі адбывалася ўсё наадварот. Як толькі нейкая непрадказальная нота Сімкавага баяна трапляла яму ў вуха, вочы яго асалавела шалелі, ён пачынаў дурэць і буяніць. Грыз жэрдкі да шчап'я. Біў падкаванымі капытамі сцены так, што яны скаланаліся, наравіў трапіць і ўбок Абрашу. Ржаў, як жарабец на світальнай расе. Ускідваў галаву, грыву і хвост так, што яны чорнымі цыганскімі пырскамі заліпалі і ападалі ў паўзмрок хлява. Магутнай грудзінай налягаў на агарожу, пнуўся выламіцца са стойла на волю. Што находзіла на яго конскі розум у той час, даводзілася толькі разводзіць рукамі. Стары конюх, добрага веку дзед у такіх выпадках хітаў галавой і казаў:

– Сатана... Сатана... Глядзі ты, мерын жа сівы, стары з'езджаны саветамі і немцамі, вайной, біты. А хоцца... хоцца...

І было незразумела, каму ён гэта казаў, каму з іх, конюху ці каню хоцца.

А Сімка як выпаў з навакольнага жыцця, мучыў, зводзіў да вар'яцтва дзетдомаўскі баян зранку і да самага вечара. На змярканні толькі выходзіў са стайні, але без баяна. Хаця іншым разам пад руку з баяністам.

Баян канчаткова пасяліўся на гарышчы стайні ў сене, як птушка ў кубле. А стайня з тае пары пераўтварылася ці не ў музычную вучэльню. Дзённа, да сутоння, а то і ў поўным ужо змроку дзёрла глотку то сабачым вальсам, то дзіцячай няўцешнасцю пугачоў, брыдкім драўляным шоргатам дзяргачоў. Часам поўнілася, залівалася чароўнай бесклапотнасцю салаўёў, што ўжо амаль збылі сваё салаўінае, – лета ж, лета – далучыліся цалкам да сямейных вераб'ёў, з якіх і паходзілі, а цяпер, пасля атухлай белай радасці цвіцення чаромхі, аціхлі, насалоджваючыся прыгажосцю новай пары года, чакаючы вясну.

Але салаўіная сцішаная супакоенасць зусім не тычылася Сімкі, хаця ён страціў голаснасць, гучнасць прысутнасці сваіх жа равеснікаў і хаўруснікаў. Відавочна адбіўся ад іх, адасобіўся, больш не пацяшаў непатрэбшчынай прыпевак. Пазбавіўся нават лёгкай, з вераб'іным падскокам, хады. У яго нова набытай ступе ці не кожны крок быў азначаны роздумам, што свяціўся і ў вачах. Быў заўважны і ў нечакана ўзніклай запаволенасці рухаў.

Большую частку свайго дзетдомаўскага існавання Сімка цяпер бавіў у стайні, сярод абыякавых да яго валоў, коней, маўклівых і хуткіх ластавак, якія гнездаваліся ў паўзмроку ў сваёй карункавай ляпніне на сухіх патрэсканых бэльках. Такіх жа маўклівых іх птушанят, якія яшчэ ў прадчуванні толькі ежы, з'яўлення са змроку, як з таго свету, маці, выцягваліся насустрач ёй рухавымі шэрымі шыйкамі, шырока зявілі жоўценькія роцікі. Але ўголас не азываліся. Мо баяліся выкрыцца, а мо надта паважалі м*у*зыку і музыканта, нястомнага пры баяне.

Яго неаднойчы знянацку прыхоплівалі пры ім старэйшыя хлопцы і

выхавацелі. Сілай выводзілі з хлява. Намерваліся адабраць і баян. Ад чаго ён вар'яцеў і шалеў. З неверагодным спрытам вызваляўся ад самых учэпістых рук і знікаў, хаваўся пад бокам Фрыца ці Абрашы, абаронены іх капытамі. Яго ўпартасць і зацятасць тлумачыліся не толькі адным захапленнем непадпарадкаванага яму яшчэ голасу баяна. Усё было бясспрэчна так. Але ў гэтым таксама мелася нешта трохі – а мо і багата чаго – іншага, невыказнага і невытлумачальнага. У дзівосна-непрадказальнай патаемнасці баяна была стоена неверагодная сіла, моц. Нікім не разгаданыя, але ўсім добра вядомыя і знаёмыя. У тым ліку і яму, Сімку. Не выключана, ён сам здаўна быў носьбітам, пачынаўся з гэтага неасэнсавана-падсвядомага. Адмаўляў яму, імкнуўся пазбавіцца і адначасова назаўсёды паяднацца з ім. Пераліць сябе ў існавальныя, а мо і неіснавальныя гукі мінулага, будучага, што былі нададзены баяну. Гукі, што не толькі шчымліва ўсцешвалі яго, але абуджалі жах і апякалі.

Яго адразу ж пасля лазні перасялілі, а хутчэй выгналі з палаты малодшых дзяўчатак у пакой такога ж узросту хлопчыкаў. Ева Адамаўна пераапранула яго ў хлапечае. Апранаха не надта, штонікі, з якіх ён выпадаў, замест сукенкі ў гарошак. Але ў такі ж гарошак выдала і сарочку. Падзівілася на яго пераўтварэнні з Серафімы ў Серафіма. Пэўна, пераўтварэнне ёй спадабалася. Раздобрылася і дала шчотачку на доўгай пластмасавай ручцы са шчэццю, пульхную і пахкую мятай каробачку. Сімка ўжо ведаў, што гэта і навошта. Але наўмысна закапыліў губы і прыкінуўся блазнам:

– Што гэта і навошта?

– Зубы чысціць табе.

– Гэта каб я сам сабе і зубы начышчаў. Я яшчэ здольны начысціць іх і некаму іншаму.

– Што з цябе возьмеш. Зубы чысцяць сабе, каб у старасці мог і ўкусіць нешта, як малады сабака.

– Не сабака, але і ў старасці пакусаю некага. Укушу, – і ўкусіў кастэлянку. Не да крыві, але добра. Атрымаў па зубах і быў задаволены. Аддзячыў, адпомсціў за страту дзявоцкасці і прымусовага пераўвасаблення ў хлопца. Ён ужо звыкся з Серафімай, нарачонацю яе прозвішча. А тут на табе. Адбылося нешта больш істотнае, чым тое, што прыдаецца і надаецца, прырастае да чалавека разам з імем. Падвоенасць ці дваістаць, пра якую ў вёсцы здаўна старыя людзі кажуць: тут бабуля надвая гадала. Таму што такое падваенне схавана існуе ў кожным з людзей, не зважаючы на тое ў дадзены момант мужчына ён ці жанчына. Што нябачна прыжываецца, спажываецца з малаком маці кожнай істотай, нават жывёльнага паходжання. Перадаецца нашчадкам праз вякі, стагоддзі ці не паветрана, самой зямлёй, з нябыту яшчэ, з часу зацяжаранага намі ж, нашай сутнасцю, абіральнай і прадвызначанасцю нябёс, блакіт і сум якіх вечны. Які паўсюль і неадольна, апакаліптычна, яскрава выкрыўся сёння на прасцягу ўсёй планеты. Калі жыццё стала ракам, як нікому не дазволена. Дзядамі і бацькамі не дазволена нават бохан хлеба пакласці на стол дагары нагамі – скарынкай на стол.

Кожная зямная істота – недзе ўсё ж не дагледзеў Творца, спатыкнуўшыся на другім, а падобна, на першым інстынкце – носіць у сабе два пачаткі. Пакутуе ад нязбытасці аднаго з іх. Скнарная і хцівая натура вянца прыроды патрабуе ўсё і адразу, чаго не дадзена. І – ні сініцы ў руках, ні журава паміж ног. Адны толькі пакуты ад нязбытасці. Хворы, хворы чалавек на кручонасць, прагнасць сваёй натуры, на самога сябе, расшчэпленасць падобна мірнаму атаму, які сёння ў кожным, у кожнай на зямлі хаце.

Хворы і Сімка. Толькі зусім не на гэта. Хварэе ад цэласнасці. Непадзельнасці, немагчымасці разлучацца з тым, што ўжо было, адбылося і магло працягваць быць. Але нечакана, непрадказальна, каб не сказаць гвалтоўна, перарвалася. Ён тужліва марнеў ад гэтага, сумаваў аб межава разведзеным мінулым. Па дзяўчынках, з якімі спаў у адной палаце, а то і ў адным ложку, па іх паўсядзённай, прыроджанай спагадзе і мяккасці, нават па тым, як яны ходзяць па малой патрэбе на двор... Там, у страчаным мінулым дзявоцтве, засталіся яго дух і пах. Нявінна неасэнсаваны яшчэ, лёгкі, як подых ветру з-пад галоўкі рамонка ў квеце. Хаця часам злёгку праклёўвалася і зусім адрознае ад гэтага. Тлумна гаркавае, ці не першастворанае яго і іх прабацькамі, Сімкі і дзяўчынак, што мімаволі засціла ім вочы. Першароднае, усёіснае. Папераджальна-засцерагальнае абяцанне непазбежнасці заляцанняў, цноты і будучай грэшнасці.

У хлапечым, хаця яшчэ таксама малалеткавым пакоі, трэ было звыкацца з зусім іншым. І не толькі знешнім, пахамі, духам і дыхам. З інакшай пастаноўкай усёй жыткі, што было незаўсёды прымальна. Трохі непамысна, а часам і брыдка. Ад смярдзючасці матрацаў шматлікіх пісуноў. Яны, пісуны, ці дакладней пісухі, меліся і ў дзявочай палаце, але меней. Ды і пісаліся дзяўчынкі, падобна, больш стрымана, акуратна. Да ўсяго, у хлапечай палаце панаваў дух сілы. Ці не кожны шпінгалет імкнуўся ўзяць вярхушку, камандзірыцца. Кулакамі браў верх і яму ўслугоўвала ўся малеча. Так званыя шасцёркі-падпявалы, дробныя палатныя сексоты, шакалы, шакаляты і крахаборы.

Вось чаму Сімка імкнуў у адзіноту коней, валоў, з якімі ён быў нароўні і ў згодзе амаль як да гэтага з дзяўчынкамі. Чараваўся непазнавальнасцю, што хавалася ў трафейным замежным баяне. Прагнуў спазнаць яго мову.

Да лепшага, горшага, яго зноў перасялілі з палаты малалетак у палату старэйшых хлопцаў, што стаялі ўжо на мяжы развітання з дзетдомам. Змянілі месцажыхарства з-за яго бясконцых выбрыкаў, якія палохалі выхавацеляў. Сыход не толькі ў стайню, немаведама куды: быў, быў, сядзеў гаварыў, нагою хістаў і як праз зямлю праваліўся. Няма, няма, хаця знешне ёсць. Толькі нямы, нерухомы, невідушча ці не на той свет уталопіўся вачыма – маўчыць і не кратаецца. Хоць пальцам тыцкай. Хоць кол на галаве чашы. Здранцвеласць, як у нябожчыка, касцяная, выпручаная. І гэта ўдзень, пры сонцы. А што ўначы творыцца. Яго палічылі за дурыка, а больш за лунаціка.

Лунацікаў у дзетдоме за дзіва не прымалі. Чамусьці адразу ў той пасляваенны час па вёсках, пасёлках іх развялося нямала, нават залішне. Пэўна, ад боязі, як тлумачылі вясковыя шаптухі, "ад спэлаху", але больш падобна ад нетрымання вайны, жадання сысці ад яе хоць на Месяц, хоць да чорту на рогі. І яны сыходзілі. У месячныя ночы прачыналіся, як тыя ж нябожчыкі ў сваіх магілах, уставалі з ложкаў. Пакідалі пакоі, чагосьці шукалі, сукалі пальцамі як пралі кудзелю, праменька, нібыта цвікі, хадзілі па сценах карпусоў. Падымаліся на самы іх вільчык. Садзіліся каля канька, зазыўна і прасвятлёна талопіліся на жоўты бубен Месяца ці на яго цененькі серпік. І толькі што не вылі па-ваўчынаму. Дырэктар дзетдома і выхавацелі строга наказвалі не агукваць іх у такі малітоўны час, не зваць па імю. Інакш прыдзе ў сябе, ацяміцца і грымнецца долу. З канцом. І не ад болю падзення, ад разрыву сэрца. Сэрца ў іх, у лунацікаў, крохкае, слабое, ніколькі не тутэйшае. Не зямное.

Вось чаму Сімку і пасялялі сярод старэйшых хлопцаў. Дзеля прыгляду

за ім, калі падзярэцца на страху. Толькі Сімка і ў сне не мог сасніць такога. Ніколькі не быў ён лунацікам. Хаця, безумоўна, нейкім чынам знаўся з Месяцам, быў месячнай пароды. Параднёнасць яскрава аказвала сябе ў маладзік і поўню, хаця ён гэтага і не ведаў. Поўня асаджавала яго, набліжала да зямлі – абзямлячвала, як ён гаварыў ужо ў сталасці. Маладзік жа надаваў лёгкасці, вымушаў нешта рабіць, рухацца і нават ці не лётаць. Ляцець невядома куды і навошта, як павуцінне ў бабіна лета, як павучок на павуціне ў блакітна-аціхлай бездані неба. Менавіта тады ён збягаў. Хаваўся, зацята і ўтраплёна шыўся ў хлеў і нават носам не патыкаўся з яго. Не выпускаў з рук баяна, весяліў ці здзекваўся з усяго жывога там. І наваколля, якое, падобна, ужо здзекавалася з яго, вывяргаючы ў нябыт, неіснавальнасць непадатнай еднасці з баянам і неверагоднай прагі займець такую еднасць. Чаму ён і трымаўся хлява, кватарантам сярод яго бязмоўных насельнікаў.

Але ж надышоў час, калі гэта хлеўная музычная еднасць парушылася. Сімка пад уздыхі валоў і коней, касыя лёты ластавак, развітальна рыпнуў дзвярыма і разам з баянам пакінуў стайню. Сеў на лаву пры ганку – верандзе галоўнага дзетдомаўскага корпуса, у якім жылі старэйшыя, перадвыпускныя, хлопцы і дзяўчаты.

Веранда была адметная тым, што яна адным рогам выходзіла на скрыжаванне дзвюх дарог. Першая, шырокая, выбрукаваная чырвоным каменем, ішла невядома адкуль, з цалкам незнаёмага дзетдомаўцам жыцця. Міма іх дома, патанала сярод пасялковых спрэс аднапавярховых драўляных хатаў, прысадаў, абягала базарную плошчу, сцягнутую ў адно пупавінамі глухіх завулкаў, атожылкамі шматлікіх сцежак, якія адымалі, але адначасова і надавалі пасялковаму котлішчу нешта вартае і разумнае. Другая з дарог, вузейшая, з дашчаным тратуарам, у дзірвановай мураве і курынай слепаце, тулілася да платоў са штыкетніку, выскоквала ўваходам з таўшчэзнай пабеленай мураванай аркі са збітымі літаркамі прозвішча былога пана, які, пэўна, і ўзводзіў гэтую арку ды і ўсё іншае тут. Некалі чалядныя будынкі, якія сталіся дзетдомам, сад, парк і мураваны белакаменны палац пасярод яго, дзе месціліся цяпер райкам і райвыканкам, куды амаль няспынна сустрэчна і спадарожна цягнуліся людзі: не зарастала народная сцежка.

Ці не менавіта гэтаму клопатнаму руху ў другой палове дня, бліжэй да вечара і іграў Сімка сваю музыку. І некаторыя з прахожых пад яе нават збіваліся з нагі, ускідвалі ўгару вочы. Але бачылі толькі бялявую, сівенька-вожыкаву галаву музыкі ды зелянкава-перлінавы водбліск планак, мяхоў і кантоў баяна. Сам жа баяніст падобна жужаліцы, хаваўся, засланёны ім, ні на каго і ні на што не звяртаў увагі, як яго і не існавала, што было бясконца ўдавана, падманна, як у сапраўдных музык, што ігралі не толькі сабе, а і слухачам. Сімка быў яшчэ далёкі ад такога ўмельства, што ўсё ж часцей і больш надае сам інструмент, але мімаволі адрачона-чуйна прыслухоўваўся нават да пераклiку вечаровых цвыркуноў. А больш да самога сябе. Да дрыготкага, мо нават незаўсёды адчувальнага ім, раствaральнага ў светлай смузе лета, рэха сваёй музыкі. Далёкі розгалас самога сябе пад сонцам, небам – у свеце, а мо і сусвеце.

Пальцы самі сабой з ціхім шолахам ападаючага з дрэў ссохлага ліста, шамаценнем і сокатам гадзюкі, што адпаўзае ў восеньскія, жухлаватыя ўжо асокі, плылі, бегалі па каляровых пстрычках-гузіках баяна. Хуценька, імгненна з неўспрымальным на вуха пошчакам яшчаркі, што ў ліхую хвіліну на бугры, выспе жвіру адкідвае смарагдава-вёрткі хвост, імгненна

знаходзілі і націскалі адзін-адзіны гук-усхліп, стогн, плач, захлынальна вітаў і славіў лязовую пяшчоту сонечнага праменя прабеглы летні ветрык. Бласлаўлялі і хуценька-хуценька беглі далей, нябачна воку. Беспамылкова, як сараканожка размяркоўвае свае ногі па зямлі ці па лісці бярозы, вольхі, таполі, не дазваляючы ім спыніцца і стаць спажывай шпаку, дразду, вераб'ю.

Але найбольш здзіўлялі і ўражвалі Сімкавы вочы, страшылі нават: што ў той жа паабедаўшай ці намеранай паабедаць гадзюкі, павернутыя незразумела на каго і куды, ці яшчаркі, ужо аслупянела-бясхвостай, – лупата і пуката нерухомыя, нібыта загрузлыя на валізе галавы падкалоднага гада, бяззрокавыя, апярэдзіўшыя ўласны рух. Вочы бяздоння, невымернага глыбу віра, таму цьмяна бесколерныя. Бо за колерам віру не ўсачыць, так там ускаламучана, але чыста, без парушынкі круціцца, незваротна паглынаецца ўсё, што толькі набліжаецца да калаўроту віра, сталёва-стылага. Гэта было ніколькі не ўласціва Сімку пры яго неверагоднай яшчэ зранку ртуцевай рухавасці, нібыта жывога чорціка з цвіком у адным месцы.

Але, як ні дзіўна, у гэтай самазгубнай, самазнішчальнай растваральнасці да непрытомнай страты сябе, у ім увесь час ёрзала ці нават зводзіла з глузду неадчэпная думка. Шкадаванне невядома каго і чаго, такі ж няпэўны смутак і адчуванне ўласнай непаўнавартасці. Непаўнавартасці з таго часу, калі ён перастаў быць Серафімкай, пачаў звацца, лічыцца Серафімам. З дзяўчынкі пераўтварыўся ў хлопца. З гэтай перакуленасцю ён усё ж нешта страціў, назаўсёды згубіў. Схібіў і некаму здрадзіў, мо той жа, што ўжо зжылася з ім, як аказалася, неіснавальнай Серафімцы. Не, ён ніколькі не супраць быць Серафімам, ды толькі і адрынутую Серафімку шкада. Вось яна ў чым вінаватая? Справа была ў ім. І яшчэ ў некім нябачным і неапазнаным. Не, нешта зусім не па-людску на зямлі ці на небе.

Няправільна ўсё ж створана жыццё на белым свеце нейкім невядомым яму, пра каго ён і думаць не дазваляў сабе, яшчэ да дзетдому, будучы Серафімай, баяўся. А цяпер вось стаў Серафімам, асмялеў. Хаця і неасэнсавана, падсвядома дзяліўся з баянам, спавядаўся аднаму толькі яму. Таму што яму, баяну, можна, можна ўсё, чаго ён, Сімка, да сённяшняга дня баіцца, душыць у сабе, гоніць прэч. Хоча застацца жывым. Усім жа іншым нават здалёку пра гэта ні чуць, ні ведаць забаронена. Як і ён не пагаджаецца, змагаецца са сваім веданнем. Доўга адмаўляў яму нават праблісscore у сабе. Але яно гналася і гналася за ім. Сімкам і Серафімкай. І, здаецца, дагнала.

Гвалтам змусіла прызнаць: было. Было тое, чаго не можа быць нідзе і ніколі. Што па-за жыццём і па-за чалавекам. Па-за ім, Сімкам і Серафімкай, нават па-за баянам. Хаця баянам гэта ўжо даўно зведана.

Зведана, хаўтурна-жалобна, вясельна-шлюбна асвячона і агалошана ўсяму свету. Нараджэнне, паміранне. І ўсё праз кроў, пакуты, боль, агонь, крык.

І, Божа, як жа гарэў той ні чалавечы і ні звярыны, па ўсім, мёртвы ўжо крык у калгаснай стайні. Неспасціжны зямным розумам. Ён сыходзіў, браў пачатак ці не ад самой зямлі, маленькім яе лапіку, на якой стаяла конская калгасная стадола. Нібы насамрэч там, пад зямлёй, у апраметнай чэрці варылі смалу і грэшнікаў у той смале. У аграмадных, на ўсіх чалавекаў ці нават усё чалавецтва катлах. Агонь пад імі праведна набрыньваў кроўю, браўся чырванню жывога і раз'юшанага жару. Ад чаго зямная смала буркліва, сярдзіта і смердна ўскіпала, бралася бурбалкамі, скавытала і лопалася.

Сама зямля не вытрымлівала. Гарачкава трэскалася і развярзалася. Гулка, самазабойна-выбухова біла ў грудзі і ўлонне сама сабе.

Адмаўляла сабе ў адвечным працягу, свядомасці. Заканчвалася паглынальнай крывавай чырванню нябыту, знішчэннем агнём. Галашэннем, крыкам, енкам і стогнам спалоханага полымя. Чалавечы жывы крык гарэў сінім і рдзяным полымем, накінутым пад гарлянку неба спуджаным ахвосцем, ламанымі рагамі сцягоў, штандараў, бляклай чырванню зношаных жаночых хустак, піянерскіх гальштукаў. Умольным сполахам цягнуўся да нябёс, да некага, хто хаваўся ў іх. І не дацягваўся. Неба разам з тым, хто наглядальнікам стаіўся там, маўчала. Нема і абыякава трымалі і прымалі гаручы крык.

Моўчкі спажывалі, злізвалі нечалавечую ліхаманкавую мітуслівасць пазнакаў існасці – сцягоў, штандараў, рагоў, хустак, піянерскіх гальштукаў. Іх каляровасць у нябеснай, пазаземнай ужо высі, блякла пераўтваралася ў прасветлена-празрыстую слязу. А потым і ў жалобную туманова-кручаную сукравічную бель. Злівалася з аблачынкай, што адно толькі вечнымі ўцёкамі, бегамі захоўвала сябе. Губляла прытомнасць, плакала нябеснымі слязьмі толькі тады, калі няўсцерп поўнілася, зацяжарвала гаручым крыкам зямлі.

Сімка ж баянам ствараў і памнажаў той крык. Нібы вымагаўся яго данесці да таго, хто, падобна, сузіральна і маўкліва хаваўся менавіта ў ім, у Сімку, як спажываў яго, калі яшчэ сам ён не выгарэў у тым крыку. Не згубіўся і не згубіў існавальнай сутнасці, у першую чаргу самога сябе. А як вынік і яго Сімкі-Серафімкі, да якога з яго баянам на дзетдомаўскай верандзе з аднаго боку трапятка тулілася Ржавая Манька, а з другога пунсова млела Літошык Франька. Дурэлі непадалёку абодва Гарбузы. І па незарастаючай народнай сцежцы ішлі і ішлі ў напрамку панскага палаца людзі. Бо там, у парку, месцілася пасялковая танцпляцоўка, і духавы аркестр ужо медна выпрабоўваў трубы лёсу ПГТ – пасёлка гарадскога тыпу.

А з другога боку корпуса, дзе месціўся склад, у паўзмроку яго скарбаў, сярод спакуслівых пахаў свежага хлеба і пернікаў, цукерак-падушачак, нянаскага паху цукерак соевых і шакаладных, у каляровай і водарнай нават на пагляд папяровай абгортцы – у фанціках – адмерла скураным подыху абутку і сарамлівым павеве баваўнянай і ваўнянай апраткі, як у згушчаным сухім лупінні тулілася да стала кастэлянка. Слухала баян, слухала ўсім сваім мажным целам, што часам дрыготка страпяналася, цякла, падобна млела, тварам, на якім у дзве каляінкі прабягалі сляды высахлых ручаінак. А вочы зацэнена хаваліся пад вільготнымі вейкамі. Асабліва, калі яе позірк датыкаўся да хлопчыка, які стоена застыў на падлозе наводдаль ад стала. Дзіўнаватага нават на пагляд хлопчыка ў прымерлым паўзмроку склада.

Тварык, вочкі не без думкі і розуму, але не з тутэйшых. Як яны некуды пайшлі, пабеглі. І ішлі, беглі. І ніяк не маглі дасягнуць гэтага некуды. Не жадалі вярнуцца і назад. Хлопчык аказваўся нібыта закаркаваным сам у сабе, пазбаўлены часу, месца, маці і гэтага свету – у самоце сваёй журбы, тугі, што ледзь-ледзь цьмяна прабіваліся вонкі з напаўпатушанага бляску маларухомых, амаль нерухомых, засяроджаных у неабсяжнасці, нікому нябачных даляглядаў зрэнак вачэй, непрабіўна далёкіх, замглёных светаў.

Напрыканцы ўсё ж трэба давесці, што Сімка ўрэшце рэшт дамогся адказу на пытанне аб вытоку і ўтоку ці – адкуль і куды. З вытоку ва ўток, адтуль і сюды, як усё існае і сутнае на нашым белым-белым свеце.

Увосень ён разам з Гарбузамі, Франькай Літошык і Манькай Ржавай закопвалі ў стайні яблыкі, каб яны захаваліся да Новага году. Яблыкі з

колішняга панскага, а цяпер іх, дзетдомаўскага, саду. Не абы-якія – антонаўку. Хаця былы панскі сад быў багаты на мноства гатункаў яблыкаў: пепенкі, пуцінкі, жытнікі, шлапакі і нават райскія наскрозь чырвоныя, хаця і невялічкія яблычкі. Але найлепш трымаліся да Новага году антоны старадаўняга мясцовага гутунку, якіх тады яшчэ не звялі наваяўленыя, падкаваныя і адукаваныя бальшавізмам дойліды, пераўтваральнікі прыроды, шматлікія Мічурыны ды Лысенкі. Звялі і палепшылі так, што некалі паўсюдныя і капейкавыя антонаўкі зніклі, як праз зямлю праваліліся і на той свет услед за панамі пайшлі. У дзяржаўных крамах днём з агнём іх не знайсці, а на базары ў прыватніка – пяць даляраў за кіло. І гэта калі яшчэ пашанцуе на іх натрапіць.

Дык вось, з дазволу і ўхвалы Абрашы ды Фрыца, Цоб і Цоба – харошыя хлопцы, прыязныя – Сімка са сваім хаўрусам рыхтавалі ў стайні капец пад свае святочныя зімовыя антонаўкі. Хацелі ўжо выслаць дно і з бакоў капца жытнай саломай – антонаўка чамусьці была асабліва схільная да такога ўкрывання. Ды Сімка спатыкнуўся рукамі ў яме на цэглу. Гэта было няправільна. Захаванню Антонаўкі камень, цэгла бракавалі. Сімка пачаў дставаць цагліну на выкід. Але натрапіў на мноства цаглін, на мур. Пачалі яго разбіраць, селі на скляпенне, пячорна-даўгі мураваны калідор. Ён пачынаўся аднекуль з панскага палаца, а цяпер райкама і райвыканкама, цягнуў да дзетдомаўскага падворку, дзе са сталоўкі цёкам бегла брудная дзетдомаўская вада, атожылкам да яе дадавалася вада з палаца і бегла далей. Праз іх вуліцу Інтэрнацыянальную некуды ўжо за пасёлак, у калгасныя палі.

Мураваным калідорам усе пяцёра дапялі да сляпога, без вокан і дзвярэй, падвала панскага палаца. Ні выйсця, ні праходу далей, адны толькі тынкаваныя ды павапленыя голыя сцены. Але сярод тых сценаў, усутыч з імі бачком улёжку безліч зялёных закаркаваных, залітых цёмна рудым сургучом, з нейкім вадкім змесцівам, бутэлек.

Ніводную з іх культурна адкаркаваць не здолелі. Палавінкай цагліны адбілі гарлянку. Панюхалі пальцамі паспыталі. Гарбузы, не паспелі яшчэ сысці з бутэлькі газам, выплюхнуцца пенай паўстагоддзя закаркаванага панскага часу, адразу ж каўтанулі з яе. Што з іх возьмеш – гарбузы. Добра так прыпалі і каўтанулі, як належыць гарбузам. І чорт іх не ўзяў – жывыя. І вочы ажывелі, і твары праяснілся, чырванню пайшлі. Таму да змесціва ў бутэльках ахвотна прыпалі і ўсе астатнія. Пайшло. Ды як яшчэ пайшло, бежкі пабегла. Не магло не пайсці вытрыманае паўвека панскае віно. Ішло доўга ці не ўсяму дзетдому. Выхавацелькі толькі дзіву даваліся. Выхаванцы, іх выхоўваеш, а яны такія паблажліва вясёлыя ды лагодныя. Не здагадваліся, нічога не ведалі пра выток і ўток, дапытлівасць падшыванцаў-бязбацькавічаў, краю якой яны і самі не ведалі. Таму што прайшлі, ацалелі ў бязмежжы бяскрайнасці, спазналі ўсё пра выток і ўток.

*Вёска Пціч часоў каранавірусу.*

Валер Ягораў



...Шчасце – гэта што?
Калі не ведаеш, што такое боль
Або, калі ён прайшоў...

# Палёты ў сне

*1*

Выстава Дабужынскага
Весела і сумна
Я нарадзіўся, ён памёр

*2*

Я мару лётаць, як птушкі
Але не хачу харчавацца чарвякамі
Кім жа быць у наступным жыцці?

*3*

Сняжынкі не спяшаліся сустрэцца з Зямлёй
Вечнасць гэта імгненне
У якім ты быў закаханы

*4*

Калі я лётаў на дэльтаплане

Увесь час было страшна
Пакуль не пасябраваў з ветрам

*5*

Падчас прагулкі
Мой сабака з’еў жывую жабу
Сварыцца ці хваліць?

*6*

Калі мяне абпальвае агонь
Мне нават прыемна
Страшна калі агонь абпальвае блізкіх

*7*

Са мной пачалі размаўляць каты
Я думаю, што разумею іх
Але чаму ўраган паламаў нашую акацыю?

*8*

У цішыні нараджаюцца вобразы
Пакуль я разважаў, мае яны або чужыя,
Котка прынесла на ганак мышку

*9*

Мажны мужчына вядзе на ланцужку
Маленькага вясёлага сабачку
Апошні дзень лета

*10*

Мяне надрукавалі ў часопісе
Радасна і страшна
Гэта нагадвае падарожжа ў будучыню

*11*

Форма і пустата
Два бакі адной рэальнасці
Лівень напоўніў яму выкапаную ўчора

*12*

Ёсць краіны, дзе заўсёднае лета
А мы тут жывем пад Богам
З якой нагі Ён устане

*13*

Усе сумныя, калі доўга няма сонца
А калі ёсць – не да яго
Мой сабачка шчаслівы, калі я выходжу раніцай на ганак

***14***

Мае каты пералавілі ўсіх птушак на падворку
Пішуць, што колькасць буслоў
Павялічылася ў дзесяць разоў

***15***

Калі для мяне сонца заходзіць
То для кагосьці яно ўзыходзіць
Я хачу ведаць гэтага чалавека

***16***

Я лётаю ў сне
Хоць я і не птушка
Але ж сон – таксама маё жыццё

***17***

Я хацеў скласці вершы
Якія падабаліся б усім
Але тады я застануся адзін на Зямлі

***18***

Шчасце – гэта што?
Калі не ведаеш, што такое боль
Або калі ён прайшоў

***19***

Дождж гарачым летам – гэта радасць
Дождж зімой – гэта смутак
А дождж пра гэта ведае?

***20***

Што такое народ?
Адзінства – не на загад
Жураўліны клін ляціць дадому

***21***

Маланка – асляпляе і забівае
Гром – аглушае і палохае
Цікавая шлюбная пара

***22***

Ісці супраць моцнага ветру
Заўсёды цяжка
Але птушкі і самалёты ўзлятаюць супраць ветру

***23***

Мой маленькі сабачка ўлюбёна глядзіць на мяне
Думаю, што яго любоў не меншая ад маёй
Колькасць любові не залежыць ад памеру

Марыя Сцяфанава



...штоночы дзяўчынцы будзе сніцца маці,
і, прачнуўшыся, дзіця будзе басанож бегчы
да акна: раптам мамка па яе прыехала?...

# Верачка і Ганначка

***Два апавяданні***

### Верачка

Ледзь толькі гарэзлівыя праменьчыкі вераснёўскага сонейка заказыталі па Вераччыных веечках, як дзяўчынка расплюшчыла свае заспаныя вачаняты і агледзела пусты пакойчык: Таццянчынага заплечнічка на лаўцы не было. Значыць, сястрычка пабегла ўжо ў школу. Не было і мамы, якая яшчэ ўчора ўвечары кудысьці падалася, сказаўшы, што хутка прыйдзе. Але ж дзяўчо ведала, што гэтае яе "хутка" можа расцягнуцца на некалькі дзён.

У свае пяць гадочкаў Верачка многае ўмела цярпець. Цярпела страх, калі прыходзілася начаваць у гэтай старэнькай хатцы на ўскрайку сяла без маці. Тады трэба было толькі на ложку, закінутым лахманамі, шчыльненька прыціснуцца да сястрычкі Таццянкі, і страх як быццам бы кудысьці знікаў.

І холад цярпець было няцяжка: дзяўчынкі прыцягвалі з двара сучча, і старэйшая на два гады Таццянка падпальвала яго ў печы. Потым сястрычкі ставілі на печку кубачак з вадою, і, калі ў ім з'яўляліся смешныя бурбалкі, кідалі туды галінкі маліны, як рабіла мама. Так атрымліваўся чай. Вельмі смачна яго піць з батонам. А з пячэннем – дык яшчэ смачней! Але цяпер пячэння не было, а есці ж так хацелася!

Цяжэй за ўсё цярпець голад. Цярпіш-цярпіш, а потым жывот пачынае балець. І галава. І калі ўжо зусім не вытрываць, сястрычкі падыходзілі да веснічак цёткі Ганны, што жыла насупраць. Не, Верачка з Таццянкай нічога не прасілі, бо мамка, як даведаецца, будзе сварыцца і нават адлупцаваць можа. Дзяўчынкі проста стаялі, выглядаючы гаспадыню. Бывала, доўга прыходзілася стаяць, пакуль цётка Ганна (добрая душа!) не заўважыць іх і не вынесе таўканіцы са смажанымі шкваркамі. О, як жа гэта смачна!

– Добра Таццянцы! – уздыхнула Верачка. – Ёй ужо сем год, і яе ўзялі ў школу.

І Верачцы нясцерпна хацелася хутчэй вырасці, каб таксама пайсці ў школу. У школу, дзе даюць есці. Таццянка штораз расказвае, чым там школьнікаў кормяць. Суп з кашаю яна сама там з'ядае, а булачкі, вафлі і пячэнне Верачцы прыносіць.

– Каб жа гэта хутчэй мяне ў школу запісалі! – думала Верачка.

Разам з Таццянкай яна ўжо ўсе літары вывучыла. Словы чытаць, праўда, яшчэ не атрымлівалася, але ж Верачка стараецца. Стараецца і чакае, пакуль ёй споўніцца шэсць год. Цікава, і як гэта гады лічацца? У гэтую вёску Верачка прыехала з мамкай і Таццянкай летам. Лета прайшло, а Верачцы ўсё яшчэ толькі пяць. І калі ж гэта ўжо шэсць будзе?

Так, Верачка многа ўжо што разумее. Толькі аднаго ніяк не ўцяміць, чаго гэта ў Міколкі Міхалёвага з Волечкай, што жывуць за дзве хаты ад іх, мама нікуды не знікае і заўсёды дома? І тата з імі разам жыве. А Вераччын тата, як мамка кажа, сабакам сена косіць. І чаму ж ён гэтак доўга косіць? Але ж самае дзіўнае тое, што Міколкавыя бацькі ніколі не б'юцца. І нават не сварацца! Як так можа быць?

І яшчэ Міколку і Волечцы купляюць розныя цацкі: машынкі, лялькі, канструктар. Ого, колькі ў іх усяго! Нядаўна нават веласіпед купілі. А Верачка забаўляецца толькі з бутэлечнымі коркамі. А ляльку яна сама сабе зрабіла: пустую бутэльку абматала анучкай, намалявала вочкі, і атрымалася лялька Каця.

Не можа яшчэ Верачка, колькі ні думала, пакуль зразумець, чаму гэта вяскоўцы называюць іх з Таццянкай "алкашыхінымі", калі яны (Верачка ж добра ведала сваё прозвішча!) Цябукі?

І яшчэ Верачка ніяк не можа ўцяміць, чаму маці так абураецца на жанчыну-міліцыянера і настаўніцу, якія некалькі разоў заходзілі да іх і наказвалі, каб мамка ўладкавалася на работу і прыбралася ў хаце, а калі ж маці не возьмецца за розум, то дзяцей (гэта, значыцца, Верачку з Таццянкай) забяруць у інтэрнат. Пры гэтых людзях матуля абяцала выправіцца, а ледзь толькі яны выходзілі за парог, як адразу пачынала крычаць і лаяцца:

– Ды пайшлі вы ўсе, сволачы!

А Верачцы дык і настаўніца, і жанчына-міліцыянер спадабаліся, бо размаўлялі яны спакойна і кожны раз частавалі дзяўчынак цукеркамі. Прычым не простымі, а шакаладнымі.

Верачка злезла з ложка і патупала да стала, жадаючы знайсці там штонебудзь пад'есці. Але ж акрамя хрыбта селядца на брудным стале больш

нічога не было. Была, праўда, яшчэ шалупіна цыбуліны, але ж яна зусім нясмачная. Устаўшы на дыбачкі, Верачка дацягнулася да пустой бутэлькі з-пад віна:

– Шкада, што маці з дзядзькамі гэтак мала ўчора выпілі.

Дзяўчо ведала, што, калі больш бутэлек у краму здаеш, то за іх больш капеек даюць.

– Каб жа яшчэ хоць адна пляшка была! – падумала Верачка. – Тады за дзве бутэлькі прадаўшчыца не толькі хлеба дасць, а яшчэ і кількі. А можа нават і трошкі цукерак выйдзе.

Стаўшы на каленкі, дзяўчынка абшнырыла ўсё пад сталом і шафай, але больш пляшак нідзе не было.

– Прыйдзецца з Кацяй развітацца, – вырашыла Верачка. – Нічога, потым як-небудзь зраблю сабе другую.

Раскруціўшы любімую ляльку, Верачка, якой апранацца не патрэбна было (у чым хадзіла, у тым і спала), хуценька нацягнула боцікі і подбегам накіравалася да сельскай крамы. Сёння ў краме за дзве бутэлькі шакаладных цукерак не дадуць, бо на іх многа грошай трэба. Але ж затое нешакаладных выйдзе больш. Верачка і сама пачастуецца, і пакіне Таццянцы, якая хутка са школы прыйдзе.

Эх, каб жа хутчэй ужо і Верачцы ў школу!

## Ганначка

### *1*

Дрэвы і хмызнякі яшчэ не адфарсілі сваімі рознакаляровымі сукенкамі і не адкурлыкалі, развітваючыся з роднымі мясцінамі, журавы. Удзень вераснёўскае сонейка яшчэ радавала сваім цяплом, але ж халады пацíху падступалі. Асабліва гэта адчувалася ўночы, і маці Ганначкі, каб не замерзнуць, падрыхтавала лежбішча: у роў накідала сасновых лапак, сухога лісця і паклала стары матрац, што знайшла недзе на сметніку. Адтуль жа прыцягнула ватоўку і коўдру, а зверху ўсю гэтую лежню накрыла галінамі, заслала тоўстай плёнкай і закідала ігліцай. З выгляду такое прыстасаванне хутчэй нагадвала звярыную нару, чым чалавечае жытло, але ж другога свайго вугла ў Ганначкі з маці тут не было.

Калісьці раней яны жылі ва Украіне ў старой бабулінай хатцы, каля якой быў вялікі сад. О, як цікава там было Ганначцы бавіць час разам з Алесікам і Лідачкай, якія жылі па-суседску! Да старой грушы-дзічкі была прывязаная вяроўка, за якую яны чапляліся і гойдаліся. Бывала, і на дрэвы залазілі – латошылі вішні і белы наліў. А найчасцей забаўляліся ў хованкі ў зарасніку парэчак і маліннiку, што раскінуўся ўздоўж плота. Праўда, хавацца трэба было асцярожна, каб аб крапіву не апячыся.

Вось Ганначка так цалюткі дзень і прападала на двары, бо ў хаце, дзе яна жыла з мамкай, часта збіралася шумная кампанія – пілі, курылі ды мацюкаліся. Не раз і да бойкі даходзіла. А аднойчы ў час сваркі адзін з выпівох пырнуў другога нажом, і пасля таго міліцыянеры сталі збіраць дакументы, каб адабраць Ганначку ад маці. А тая забрала дачку і – на ўцёкі.

Спачатку жабравалі ў электрычках, на вакзалах і кірмашах, і вось ужо з лета прыжыліся тут, на гэтым ускрайчыку ляска каля беларускай вёскі Першамайская.

– Зручнае месца! – задаволена адзначыла маці.

І сапраўды: на сметнік, што быў зусім побач, штотыдзень прывозілі з

мясакамбіната і сыраробнага завода забракаваную прадукцыю. Маці з яшчэ некалькімі бамжамі, якія тут жа ў лесе зрабілі сабе зямлянку, разбіралі скрынкі з каўбасой, смятанай, сырам і ёгуртам, а потым елі, нахвальваючы дармавую правізію, ды здзіўляліся: чаго ж гэта такое дабро выкідваюць?

Ганначка вельмі сумавала па бабулінай хатцы, па Алесіку і Лідачцы, з якімі было цікава гуляць. А тут дзяўчынцы зусім не было з кім забаўляцца. Адзіным сябрам стаў Жуля – кульгавы сабака, што прыбіўся. І спаць з Жулем было куды цяплей.

Маці цэлымі днямі ўсё недзе валачылася і вярталася амаль кожны раз нецвярозая. У такім стане яна то вясёлая была і смяялася, а найчасцей дык плакала і, прыцiскаючы да сябе Ганначку, прыгаворвала:

– Ну, чаму ж я такая няшчасная?

– Мамка, а ты не пі!

– Ага, не пі! А як жа тады жыць?

Ганначка сапраўды яшчэ не ведала, як на самай справе трэба жыць, але ж жыць тут, у лесе, ёй зусім не хацелася. Колькі ўжо разоў яна ўгаворвала маці вярнуцца ў свой дом ва Украіну, але ж маці – ні ў якую. І яшчэ дзяўчо вельмі хацела, каб яе мама была прыгожай. У цвярозым стане яна была звычайнай мамкай, а як нап’ецца, дык станавілася зусім брыдкай. І сваім дзіцячым розумам шасцігадовая Ганначка зразумела, што ва ўсім вінаватая гарэлка. Чаму ж толькі маці гэтак яе любіць? Гарэлка ж зусім нясмачная і нават горкая. Дзяўчо ў гэтым сама пераканалася, калі аднойчы маці дала ёй пакаштаваць гэтае пітво, сказаўшы за сталом сваёй кампаніі:

– Хай прывыкае.

## *2*

Вечарэла. Ганначка сядзела на пянёчку каля свайго так званага жытла і, чакаючы маці, усё ўглядалася на дарогу. Раптам Жуля, які ляжаў каля ног дзяўчынкі, ускочыў, натапырыў вушы і забрахаў – на дарозе паказалася машына. Аб’ехаўшы вакол сметніка, яна спынілася, і з яе павыходзілі людзі ў форме, Ганначка кінулася ў лес, крыкнуўшы Жулю так, як заўсёды крычала маці пры аблаве:

– Уцякай! Мянцяры!

Малая хутка дабегла да бярэзнічка, але ў ляску дзіцячыя ножкі сталі чапляцца за высокую траву, карчы, і, спатыкнуўшыся, Ганначка ўпала. Не паспела яна падняцца, як яе ўжо падхапілі дужыя рукі:

– Ну, што, зайчык? Куды ты скачаш?

– Я не зайчык, я – Ганначка.

– О, дык наш зайчык умее не толькі скакаць, але яшчэ і размаўляць! – зірнуўшы ў спалоханыя вачаняты дзіцяці, сказаў міліцыянер і ўсміхнуўся.

І Ганначка чамусьці таксама ў адказ усміхнулася. Ёй здалося, што гэты “мянцяра” зусім не страшны і што яго можна не баяцца.

– Я цябе не пакрыўджу, не бойся, – супакоіў міліцыянер, несучы Ганначку ў машыну. – Вось зараз мы паедзем з табою ў аддзяленне і разбярэмся. Нельга ж, каб такая прыгожая дзяўчынка і жыла на сметніку, так?

– Угу, – шмыгнуўшы носікам, згадзілася Ганначка.

## *3*

– Ніна Сяргееўна, – памочнік дзяжурнага райаддзела міліцыі, трымаючы за руку дзяўчынку, адчыніў дзверы ў кабінет начальніка інспекцыі

па справах непаўналетніх. – У час рэйду па бамжах каля Першамайскага сметніка знайшлі гэтае дзіця. Вось рапарт.

– А дарослых там не было?

– Нікога.

– Трэба прачасаць лясок каля звалкі яшчэ раз – не можа ж такое дзіця быць само.

– Зробім.

Пакінуўшы дзяўчынку, памочнік дзяжурнага выйшаў, а тая нікуды не ўцякала, не крычала і не плакала, а так і стаяла моўчкі на парозе, перабіраючы свае брудныя пальчыкі. Здавалася, гэтае дзіця сышло з экрана ваеннай кінастужкі: ускудлачаныя пасмачкі русых валасоў выбіваліся з-пад шэрай хустачкі, завязанай на галаве па-бабску (вугалочкам уверсе), вялікая па памеры куртка з закатанымі амаль да самых локцяў рукавамі, незразумела якога колеру даўгаватая спаднічка, калготкі і стаптаныя чаравічкі. З мурзатага тварыку пазіралі светлыя вачаняты. Пазіралі і стрымана чакалі, што ж скажа гэтая з зорачкамі на пагонах цёця, у якой чамусьці завільгатнелі вочы.

– Як цябе зваць? – Ніна Сяргееўна падышла і прысела перад дзяўчынкай.

– Ганначка.

– Вось што, Ганначка. Давай спачатку памыем табе тварык і ручкі і сходзім у кафетэрый.

– А што там?

– Ты ніколі не была ў кафетэрыі?

– Не.

– Ну, тады пойдзем і паглядзім.

Да кафетэрыя дайшлі хутка, бо знаходзіўся ён у прадуктовым магазіне, што быў побач каля аддзела міліцыі. Ніна Сяргееўна падвяла дзяўчынку да вітрыны з падсветкай, на якой прыгожа па талерках з сурвэткамі былі раскладзеныя піроржныя розных гатункаў:

– Ну, Ганначка, выбірай, што ты хочаш.

Дзяўчынка бы аслупянела і шырока раскрытымі вачанятамі здзіўлена глядзела на прысмакі. Не, яна не выбірала, яна проста ўважліва разглядала ўсе гэтыя прадаўгаватыя брусочкі, памазаныя нечым белым, ружовым, жоўценькім і карычненым, маленькія булачкі з ружачкамі і зялёнымі пялёсткамі. Было яшчэ нешта падобнае да перакручаных невялікіх палачак, злёгку пасыпаныя нечым белым, бы снегам. Прадаўшчыца, акінуўшы позіркам малую, спытала ў Ніны Сяргееўны, якая час ад часу прыводзіла сюды бядовых дзетак:

– Ваша?

– Наша, – згодна кіўнула маёр міліцыі. – Дайце нам чаю і прапануйце што-небудзь з піржаных.

– Вазьміце кошык з суфле і трубачку з крэмам – свежыя, нядаўна прывезлі.

– Давайце.

Ніна Сяргееўна ўсадзіла Ганначку за стол, а сама села насупраць:

– Давай, еш.

Дзяўчынка, узяўшы стакан дзвюма ручкамі, стала прагна піць чай, а да прысмакаў нават не дакранулася.

– А чаго ж ты піржныя не ясі? – Ніна Сяргееўна бліжэй падсунула талерачку.

– А... гэта ядуць? – здзівілася дзяўчо.

– Канечне. Гэта смачна. Еш!

Ганначка спачатку язычком лізнула суфле – спадабалася. І далей стала хуценька адкусваць смакату і запіваць чаем. Гледзячы на Ганначку, Ніне Сяргееўне не патрэбна было ўдакладняць, як жылося гэтаму дзіцяці, якое за шэсць год свайго існавання не бачыла вітрыны ў магазіне і не ведала, што такое піроўнае.

Матчына любоў, што ахоўвае нас на працягу ўсяго нашага жыцця, – сапраўдныя крылы, якія трымаюць кожнага з нас. І для бацькоў самы бясцэнны скарб – дзеці. Яны – і надзея бацькоўская, і гонар. Бачыць, як расце дачушка ці сынок і робіць першыя свае крокі, як пазнае гэты свет – сапраўднае шчасце. Але ж, як аказваецца, на жаль, не для ўсіх.

Ганначцы не пашанцавала з маці, і цяпер прыйдзецца, уладкаваўшы спачатку дзяўчынку ў дзіцячае аддзяленне райбальніцы, збіраць дакументы не толькі на яе адабранне, але і на пазбаўленне маці бацькоўскіх правоў. А потым Ганначку чакае дзіцячы дом. Але ці ж гэта горш, чым жыць у лесе?

***4***

Вярнуўшыся ў кабінет, Ніна Сяргееўна пачала афармляць патрэбныя дакументы, а Ганначку пасадзіла побач, паклаўшы перад ёю аловак і ліст паперы. Закусіўшы ніжнюю губку, дзяўчынка стала старанна маляваць. Некалькі палачак – і дрэўца гатова. А вось і другое. І яшчэ.

“Мусіць, малюе лясок, дзе была яе бярложка”, – глянуўшы на малюнак, падумала Ніна Сяргееўна.

А потым дзяўчынка намалявала адзін маленькі кружочак з дзвюма кропачкамі і дзвюма вугалочкамі збоку і большы кружок, а ад большага – кручаную маленькую лінію і чатыры палачкі знізу.

– Хто гэта ў цябе такі? – спытала Ніна Сяргееўна.

– Жуля, – адказала Ганначка.

Дзіця малявала тое, што было для яго найбольш дарагім. У гэты момант на калідоры пачуўся жаночы абураны голас, і дзверы расчыніў усё той жа памочнік дзяжурнага:

– Пры паўторным аб’ездзе на сметніку затрымалі вось гэтую жанчыну.

А тая, убачыўшы Ганначку, з прычытаннем кінулася да яе:

– Мая ты дочачка! Нічога не бойся – я з табою!

– А я і не баюся, – сур’ёзна адказала малая.

– Мянцяры праклятыя! Аддайце маё дзіця! – працягвала крычаць раз’юшаная жанчына.

Ганначка хуценька злезла са стула і падышла да маці:

– Мама, сядай і паслухай мяне.

Жанчына паслухмяна села на стул і зноў запрычытала:

– А мая ды дочачка! Чаму ж я такая няшчасная?

– Не раві! – Ганначка стала выціраць сваімі далонькамі матчыныя п’яныя слёзы і, запраўляючы той пад хустку растрапаныя валасы, зусім па-даросламу павучала: – Ідзі хату зарабляй, а я пакуль пажыву ў дзіцячым доме. А ты потым мяне забярэш. Чуеш? Не раві!

Шасцігадовае дзіця вучыла розуму сваю шалапутную маці і гатова было ісці на выпрабаванні, каб толькі мама стала сапраўднай. Цёплы і чысты дзетдом прытуліць Ганначку і зацягне ў другое жыццё – з клопатам і любоўю. Але ж штоночы дзяўчынцы будзе сніцца маці, і, прачнуўшыся, дзіця будзе басанож бегчы да акна: раптам мамка па яе прыехала?

Каб жа гэтыя спадзяванні Ганначкі ды спраўдзіліся!

дэбют

Настасся Казак



...Няшмат часу маем,
Паміж похвай і пахаваннем...

# Лічбавая Ева

* * *

Я быццам бура,
Бо разбурыць усё вакол,
Часам, хочацца.
Я бура, быццам,
Мне выць бы, ды нельга,
Бо трэба трымаць аблічча
Ў асабістых акалічнасцях.
Замест думак – адны выклічнікі
І чорная магія
Белых вершаў
З чырвоных вуснаў.
Няхай пуста бы,
Няхай бы
Лаяла лепей на малаялам.

* * *

Я – лічбавая Ева.
Венера, якая з’явілася
З пены для ванны.
На фота прывабная,
Мабыць,
Прывабная і ў жыцці.
Аматарка апытанак
Пра: “Хто ты ёсць з «Гары Потэра»?”,
Згараю ад адчування
Пацалункаў у патыліцу,
Уначы.
Часам крычу, часам і рагачу
Пяць хвілін.
Люблю раніцай капучына
І відэа пра дыктатуру
Ў Паўночнай Карэі
Ці Кампучыі.
Чыясьці
Сучасная
Чыясьці
Жанчына.
Я – лічбавая Ева,
Мудрагелістая Гела.
Гелі для душа –
Маё захапленне.
У палоне грамадскага спажывання –
Я буду жывая.

* * *

Кожны дзень выдумляю ўсё,
Бо без драмы жыццё –
Змарнавана.
Завядзі, калі ласка, мяне ў касцёл,
І пакінь ля храмавай брамы.
Хай царкоўнікі гоняць з мяне пачвар,
Псіхалогія – псеўданавука
Мінулага веку.
Пацалуй мяне.
Няхай лепей гарыць увесь твар,
Чым ў галаве
Ствараецца пекла.

* * *

Салодкія колкія вусны
З тытунёвым смакам.
Вырай, напэўна, дома,
Бо мой хтосьці знешне нагадвае Ісуса.
Але ж я сама –
Ці то Саламея,
Ці то Магдалена,
Занадта прыземленая,
Асабліва пасля прагляду фільмаў
Барочных.
Паўночных падзей
Прагну,
Прагнуся і працягну
Пад тваім адзеннем
Свае валасы.

* * *

Паніка ад сутнасці жыцця,
І адсутнасці альтэрнатывы,
Мая сучыная сутнасць з'ела табе ўвесь мозг,
Калі казала, што трэба бегчы ад гэтага сучаснага,
А ты казаў, што палепшылася жыццё
Наша з табой
Уласнае.
Уладар майго спакою.
Майго болю
Загойвальнік.
Цела гэтага, калі ласка,
Не пакінь у адзіноце,
Але ж ведаў ты, што я – цемра,
Калі браў мяне?
Цераскрайняя
Цераз зубы цаджу словы,
Бо ўвогуле не люблю людзей.

* * *

Кожны дзень падымаюся з ложка –
Нібы ўваскрэсла.
Бо я павінна,
Бо я дарослая.
Слоў узнёслых

Увогуле
Не маю
Наконт ажыўлення каго-небудзь
Іншага.
Амаль кожнай раніцай я –
Нібыта нявольны
Лазар.
Даруй, Іешуа.

* * *

Часам маленькія “Садом і Гаморка”
У нашай каморцы.
Зручней будзе дастаць да сэрца, калі
распрануцца.
Жаданне суцешыцца згублена ў фотаздымках.
Лепш, чым слязьмі захлынуцца, –
Патану ў тваіх абдымках.

* * *

Няшмат часу маем,
Паміж похвай і пахаваннем.
Схаваюся
Сярод гучных алітэрацый і
Чужога спакою,
Бо свайго няма.
Мару
Пра
Дзікае паляванне,
Ад досвітку
Да світання.
Каб стомленасць сцерла сонца.

Крысцінэ Нёстлінгер



...часам бывалі дні, калі хацелася апрануць што-небудзь чырвонае...

# Конрад, альбо Хлопчык з кансервавай бляшанкі

***Урывак з рамана***

*Пераклад з нямецкай Арцёма АРАШОНКА.*

Спадарыня Барталоцы сядзела ў крэсле-гушкалцы і снедала. Яна выпіла чатыры кубкі кавы, з'ела тры булачкі з маслам і мёдам, дзве вірлатыя яечні, лусту чорнага хлеба з вяндлінай і сырам, лусту белага хлеба з паштэтам з гусінай пячонкі. Па прычыне таго, што спадарыня Барталоцы падчас сняданку заўсёды гушкалася – крэслы-гушкалкі ж для гэтага і створаны, то на яе халаце абавязкова з'яўляліся карычневыя плямы ад кавы і жоўтыя яечныя разводы. Акрамя гэтага за каўнер траплялі крошкі ад булачак і хлеба.

Потым спадарыня Барталоцы ўставала і скакала па кватэры на адной назе, пакуль усе крошкі не павысыпаюцца з-пад халата. Затым яна аблізвала свае ліпкія ад мёду пальцы і прыгаворвала сама сабе: "Любае дзіця, цяпер трэба памыцца, апрануць чыстае адзенне і брацца за працу... Ну, хуценька!"

Калі спадарыня Барталоцы размаўляла сама з сабой, то заўсёды звярталася да сябе: “Любае дзіця”.

У часы, калі спадарыня Барталоцы сапраўды была яшчэ дзіцём, мама заўжды казала ёй: “Любае дзіця, ідзі рабіць хатняе заданне! Любае дзіця, вытры посуд! Любае дзіця, замаўчы!”

Пазней, калі спадарыня Барталоцы ўжо больш не была дзіцём, яе муж, спадар Барталоцы, таксама казаў ёй: “Любае дзіця, прыгатуй мне абед! Любае дзіця, прышый мне гузік на штанах! Любае дзіця, памый падлогу!”

Спадарыня Барталоцы прызвычаілася выконваць заданні і загады толькі, калі ёй нехта гаварыў: “Любае дзіця”. Маці яе ўжо даўно памерла, а спадар Барталоцы бясследна знік; чаму, гэта нікога не датычылася, справа асабістая. У рэшце рэшт у спадарыні Барталоцы не было нікога, хто б ёй, акрамя яе самой, гаварыў: “Любае дзіця”.

Спадарыня Барталоцы пайшла ў ванны пакой. Ёй захацелася прыняць утульную, гарачую ванную. Але там на бяду плавалі залатыя рыбкі – сем маленькіх і чатыры вялікія. Спадарыня Барталоцы прынесла іх учора з акварыума і выпусціла ў ванную, бо ёй падумалася, што рыбкам трэба змяніць воднае асяроддзе. “У кожнага чалавека, – думала спадарыня Барталоцы, – ёсць адпачынак, ёсць падарожжы”. А залатыя рыбкі, бядотныя стварэнні, вымушаны ўвесь час плаваць туды-сюды, туды-сюды па сваім маленькім, круглым акварыуме.

Спадарыня Барталоцы вырашыла, што і цёпленькага душа будзе дастаткова (у ванным пакоі была душавая кабінка). На жаль, дзверы кабінкі часта зашчамляліся. Але сёння яны не адчыняліся, бо спадарыня Барталоцы нацягнула ад іх да вакна чатыры вяроўкі для бялізны і развесіла сохнуць свае джынсы і баваўняныя пуловеры. Яшчэ адна гурба джынсаў і пуловераў чакала сціркі ў ракавіне.

“Што ж, любае дзіця, хімічныя ачышчальныя сродкі ніхто не адмяняў”, – сказала спадарыня Барталоцы, стоячы перад люстэркам, выцягнула з шафы вялізную бутэльку і ватны дыск. Яна плюхнула з бутэлькі ружовай вадкасці на ватны дыск і рупліва пачала церці твар. На дыску з’явіліся стракатыя разводы – ружовыя ад макіяжу, чырвоныя ад памады, чорныя ад тушы для веек, карычневыя ад алоўка для броваў, зялёныя ад ценяў для павек і цёмна-сінія ад падводкі для вачэй. Пры гэтым яна заўважыла, што туба з тушшу для веек амаль апусцела. Каб не забыцца, спадарыня Барталоцы памадай накрэсліла на белай кафлі вялікі надпіс:

*КУПІЦЬ ТУШ ДЛЯ ВЕЕК!!!*

Потым яна ўзяла губку і сцерла стары надпіс “КУПІЦЬ ТУАЛЕТНУЮ ПАПЕРУ”, бо ўчора купіла.

Перад тым, як выйсці з ваннага пакоя, спадарыня Барталоцы зірнула яшчэ раз у люстэрка, бо ёй хацелася ведаць, як яна выглядае – маладой, ці старой? Бо ў яе здараліся так званыя “маладыя” і “старыя” дні. Сёння ў спадарыні Барталоцы быў “малады” дзень. Яна была задаволеная сваім тварам. “Настолькі маладая, наколькі адчуваю, настолькі прыгожая, наколькі гэта магчыма”, – з пахвалой прамармытала яна. Усе зморшчынкі вакол вачэй і вуснаў зніклі пад ружовым макіяжам.

Пра свой узрост спадарыня Барталоцы нікому не гаварыла, таму ніхто і не ведаў, колькі ёй год.

Векапомная спадарыня Маер – суседка – гаварыла пра спадарыню Барталоцы: “Маладая спадарыня Барталоцы”.

Унук найшаноўнай спадарыні Маер, маленькі Міха, гаварыў: "Старая спадарыня Барталоцы".

Спадар Эган, які гандляваў у аптэцы парашкамі, пілюлямі, мазямі і ад чытання рэцэптаў займеў на ілбе дзве глыбокія зморшчыны, гаварыў: "Берта Барталоцы – жанчына самага лепшага ўзросту!"

Спадар Эган быў мужчынам самага лепшага ўзросту – яму было пяцьдзясят пяць гадоў. Двойчы на тыдзень ён "дружыў" са спадарыняй Барталоцы. Раз на тыдзень ён прыходзіў да яе ў госці, раз – яна да яго. Потым яны хадзілі ў кіно альбо тэатр, потым вячэралі разам, потым пілі віно, потым хадзілі ў кавярні. Двойчы на тыдзень спадар Эган гаварыў спадарыні Барталоцы: "Бертачка", а спадарыня Барталоцы яму: "Эганюшачка". Але, калі потым яны бачыліся на вуліцы – у іншыя дні – альбо, калі спадарыня Барталоцы заходзіла ў аптэку купіць сіроп ад кашлю, яна гаварыла яму: "Пан магістр", а ён ёй: "Міласцівая пані". Карацей, у іншыя дні ўсе размовы паміж імі сканчваліся.

Дарэчы, дні "дружбы" заўсёды былі па суботах і аўторках.

Пасля агледзінаў перад люстэркам спадарыня Барталоцы вярнулася ў гасцёўню, зноў села ў крэсла-гушкалку, запаліла цыгару і аддалася развагам, ці варта пачынаць працу зараз, ці можа, пайсці па крамах, ці лепш за ўсё залезці пад цёплую коўдру і трошкі паспаць. І толькі яна падумала пра ложак, у дзверы пазванілі. Званілі настойліва, гучна. Спадарыня Барталоцы здрыганулася ад страху. Званілі так, як гэта робяць толькі паштальёны, тэлефаністы і пажарныя.

Спадарыня Барталоцы паклала цыгару на сподак з кветкавым малюнкам і пайшла адчыняць дзверы. Яна спадзявалася, што "званаром" быў паштальён, які прынёс грашовы перавод. Спадарыня Барталоцы заўсёды чакала паштальёна з грашовымі пераводамі, і сапраўды паштальён заўсёды прыносіў грошы.

Тысячу шылінгаў, дзве тысячы шылінгаў і нават – пяць тысяч шылінгаў. У залежнасці ад памеру дывана, які прадаваўся ў спадарыні Барталоцы.

На бланку ў такім выпадку значылася наступнае:

**ФІРМА "БАРТАЛОЦЫ І КАМПАНІЯ"**

***Ручное ткацтва***

У склад фірмы "Барталоцы і кампанія" ўваходзіла толькі сама Берта Барталоцы. Слова "кампанія" яна дадала, каб на дзелавых паперах усё выглядала больш вытанчана і салідна.

Спадарыня Барталоцы ткала самыя прыгожыя і самыя стракатыя дываны ва ўсім горадзе. Гандляры дыванамі і мэбляй, якія займаліся рэалізацыяй яе дываноў, заўсёды запэўнівалі пакупнікоў: "Спадарыня Барталоцы – мастачка! Сапраўдны талент! Яе дываны – гэта маленькія шэдэўры, таму яны і каштуюць так дорага!"

(Насамрэч гандляры дываноў і мэбляй бралі з пакупнікоў грошай у тры разы больш, чым яны плацілі спадарыні Барталоцы, вось чаму дываны былі такімі дарагімі).

"Званаром" сапраўды аказаўся паштальён, але ён прыйшоў без грашовага пераводу. Ён прынёс пасылку. Ён бесперапынна пыхцеў і выціраў пот з ілба.

"Чорт! Цяжкая штуковіна! – прамовіў паштальён і паказаў рукой на белы пакунак. – Кілаграмаў дваццаць важыць, не менш!"

Паштальён зацягнуў пасылку праз вітальню на кухню, а спадарыня Барталоцы распісалася ў квітанцыі і дала паштальёну пяць шылінгаў "на чай". Паштальён прамовіў:

– Да пабачэння!
– Да пабачэння! – адказала спадарыня Барталоцы і праводзіла паштальёна да дзвярэй.

Потым яна прынесла з гасцёўні цыгару і села на кухоннае крэсла перад пасылкай, абгорнутай у белую паперу. Спадарыня Барталоцы правяла пальцамі па сваіх бялютка афарбаваных валасах, паглядзела на нябесна-блакітныя пазногці і задумалася.

“Ваўняныя ніткі, – падумала яна. – Не-не, гэта не воўна! Ніткі столькі не важаць. Такая пасылка з ніткамі пацягне максімум кілаграмаў на пяць-шэсць”.

Спадарыня Барталоцы ўстала з крэсла і абышла вакол пасылкі. Яна хацела знайсці інфармацыю пра адпраўшчыка. Але не было нічога. Нічога яна не знайшла нават, калі акуратна перакуліла пасылку, зазірнуўшы на ніжні бок ўпакоўкі.

– Любае дзіця, – строга прамовіла сама сабе спадарыня Барталоцы. – Любае дзіця, прыслухайся да свайго сумлення!

Справа была ў тым, што спадарыня Барталоцы мела бяскрыўдную апантанасць: больш за ўсё на свеце сэрца радавалі розныя зніжкавыя купоны і бланкі замоваў, спецпрапановы і пробнікі. Калі ёй у якой-небудзь кнізе, газеце альбо часопісе на вочы трапляўся такі купон ці бланк замоў, яна адразу ж выразала ці выдзірала, пісала хуценька свой адрас і адпраўляла па пошце. Яна настолькі была апантанай гэтымі бланкамі і купонамі, што нават ніколі задумвалася, ці патрэбная ёй тая ці іншая рэч. З-за апантанасці Берта Берталоцы пераключылася на самыя дзіўныя рэчы, напрыклад ёй прыслалі аднойчы энцыклапедыю “Жывёлы свету” у сямнаццаці тамах, стос шэрых вязаных шкарпэтак для мужчын, пластмасавы чайны сервіз на дваццаць чатыры персоны, падпіску на газету “Рыбагадоўля” і ў дадатак на “Культуру нудызму”. Акрамя гэтага яшчэ: турэцкі кававы млынок (але не для размолу кававага зерня, а ў якасці настольнага дэкаратыўнага свяцільніка), дзясятак сямейных трусоў з ангоры валатоўскага памеру і дзевяць будысцкіх малітоўных барабанаў. Але без перабольшання самым дзіўным з таго, што заказвала і атрымлівала спадарыня Барталоцы, быў дыван. Калі паштальён прынёс шалёна дарагі дыван з агідным кветкавым арнаментам, яна расплакалася ад сваёй апантанасці і заракліся больш ніколі (ніколі!) не заказваць тавары па пошце. Але калі ты сапраўды апантаны чалавек, то адбываецца вось што: на наступны дзень спадарыня Барталоцы зноў запоўніла бланк замоў:

*Замаўляю*
*Накладным плацяжом свабодны ад паштовых збораў*
*тавар 144 (прапісам: сто сорак чатыры)*
*Чайныя лыжачкі, пасярэбраныя*

І спадарыня Барталоцы зноў прыслухалася да свайго сумлення. Яе сумленне было амаль бездакорна спакойным. Акрамя бясплатнага пакеціка з пяцю макаронінамі ў форме елачак, пробніка мюсляў “Рэформа” ёй успомнілася толькі спецзамова на храміраваныя кнопкі, вастрагубцы і штанцавальны разак. Але гэтая спецзамова не магла важыць дваццаць кілаграм. А бясплатныя пробнікі – спадарыня Барталоцы ведала гэта дакладна – важаць максімум грамаў сто.

“Можа... – спадарыня Барталоцы задумалася. – Можа, гэтая пасылка ад майго дзядзечкі Алоіза. Напэўна, ён прыслаў нешта мне на дзень нараджэння. Нарэшце, за трыццаць год, гэты добры чалавек вырашыў зрабіць падарунак на мой дзень нараджэння. Калі ён адважыўся на такі крок цяпер, то цалкам верагодна, што і паслаў дваццаць кілаграмаў!

Спадарыня Барталоцы ўзяла садовыя нажніцы і разрэзала вяроўкі на пасылцы. Потым яна абадрала белую паперу, пад ёй была аграмадная кардонная скрыня. Спадарыня Барталоцы зняла накрыўку. Скрыня да краёў была напоўнена нябесна-блакітнымі, мяккімі стружкамі. На іх ляжаў блакітны канверт. Ён быў падпісаны “Для спадарыні Берты Барталоцы”. Літары былі надрукаваны роўненька, на электрычнай пішучай машынцы з сакавітай капіравальнай стужкай. У добрага дзядзечкі Алоіза не было пішучай машынкі, акрамя гэтага, імя “Берта” ён пісаў праз “э”.

Спадарыня Барталоцы раскрыла канверт, выцягнула напалам складзены аркуш і пачала чытаць:

*Паважаная спадарыня Барталоцы,*

*Разам з гэтым пісьмом высылаем замоўлены Вамі тавар. Нам вельмі шкада, што затрымаліся з дастаўкай, але гэта адбылося з-за зменаў у працэсе вытворчасці. Няручнасці ў выніку такіх зменаў ліквідаваць мы можам толькі цяпер.*

*Калі ў Вас – на што мы не спадзяемся – больш няма патрэбы ў нашым тавары, Вы, безумоўна, маеце права неадкладна вярнуць у наш адрас атрыманую пасылку без аплаты паштовых збораў; але звяртаем Вашу ўвагу, што мы з-за патрабаванняў гігіены, прымаем толькі закрытыя бляшанкі.*

Унізе стаяў подпіс, які можна было прачытаць і як “Гунберт”, і як “Гоберт”, і як “Монберт”.

Далей ішоў наступны тэкст: “ТАВАР У БЕЗДАКОРНЫМ СТАНЕ, ПЕРАД АДПРАЎКАЙ З ПРАДРЫЕМСТВА ПРАЙШОЎ ПРАВЕРКУ”.

Спадарыня Барталоцы паклала канверт з пісьмом на кухонны стол, схілілася на скрыняй і пачала разграбаць нябесна-блакітныя стружкі. Пад імі яна адчула, што знаходзіцца нешта гладкае, цвёрдае і халоднае. Яна выграбла са скрыні ўсе стружкі: на святле ў срэбным ззянні зіхацела кансерва вялікіх памераў. Па вышыні кансервавая бляшанка была прыкладна як мужчынскі парасон, а ў дыяметры – як ствол трыццацігадовага бука. На кансерве адсутнічала этыкетка. Толькі блакітны кружок збоку, памерам прыкладна ў дзесяцішылінгавую манету. Каля верхняй накрыўкі быў надпіс “ВЕРХ”, каля ніжняй – “НІЗ”, на баку бляшанкі быў надпіс “Дакументы на ўнутраным баку”.

Спадарыня Барталоцы выкаціла бляшанку са скрыні і акуратна паставіла так, каб, “НІЗ” быў унізе, а “ВЕРХ” – уверсе. Яна пастукала па сценцы, па гуку было чуваць, што бляшанка даволі пустая.

– Значыць, гэта не салат з садавіны, – прамармытала Берта Барталоцы, задумалася і працягнула: – Напэўна, папкорн.

Папкорн спадарыня Барталоцы вельмі любіла. Але, калі яна прыгледзелася да кансервы, у галаве мільганула думка, што ўнутры не магло быць ніякага папкорна. У ёй увогуле нічога не магло быць вадкага ці рассыпістага, бо пасярэдзіне сценкі ішла паласа, на якой вісела бляшанае колца. Калі пацягнуць за гэтае колца, паласа адрываецца, і бляшанка распадаецца на дзве часткі. Унутры павінна быць нешта цвёрдае!

–Ялавічная тушонка, – прашаптала спадарыня Барталоцы і ўзялася за бляшанае колца.

Ялавічную тушонку спадарыня Батралоцы любіла яшчэ больш чым папкорн. Дваццаць кілаграм ялавічнай тушонкі – кубаметр, ён дакладна не памясціўся б у яе лядоўні. Спадарыня Барталоцы падумала: “Ах, не бяда, аддам кілаграм Эгану, кілаграм – найшаноўнай спадарыні Маер, мальцу Міху – два, а добраму дзядзечку Алоізу пашлю экспрэсам тры кілаграмы. Няхай ведае, што я думаю пра яго больш, чым ён – пра мяне. І ўрэшце рэшт – цэлы тыдзень не трэба будзе хадзіць у краму. Буду есці тушонку на сняданак, абед і вячэру”.

Спадарыня Барталоцы пацягнула за бляшанае колца.

– Любае дзіця, не чапай, можа атрымацца крывабока, – прашаптаў ёй нехта на левае вуха.

– Любае дзіця, адкрый жа гэтую дзіўную бляшанку, – прашаптаў ёй нехта на правае вуха.

Але спадарыня не ўспрыняла гэтыя словы ўсур'ёз, яна падумала, што гэта гучаў яе ўнутраны голас. Мінімум пяць сантыметраў бляшанай паласы ўжо адарваліся. Спадарыня Барталоцы пацягнула за колца далей. Знутры пачуўся дзіўны, шыпячы шум. Калі спадарыня Барталоцы цалкам адарвала паласу, верхняя частка бляшанкі коса навісла над ніжняй. Пакой напоўніўся пахам карболавай кіслаты, бальніцы і азону, як пасля дажджу.

– Пахне не як тушонка. Ну калі гэта не тушонка, чорт яе пабяры... – прашаптала спадарыня Барталоцы і зняла верхнюю частку бляшанкі.

На шчасце, кухоннае крэсла стаяла акурат за спадарыняй Барталоцы, ёй апанаваў пякучая жудасць. Яе цела пачало калаціць ад кончыкаў за імгненне пасівелых валасоў да светла-зялёных пазногцяў на нагах, галава закружылася, ногі падкасіліся і спадарыня Барталоцы плюхнулася на кухоннае крэсла.

У кансерве на кукішках сядзела істота. Яна павіталася: "Добры дзень, дарагая мама!"

Калі спадарыняй Барталоцы апаноўвала сапраўдная жудасць, яе не проста пачынала калаціць і кружыць галаву, а ў яе перад вачамі мігцелі залатыя зорачкі ў пяшчотным фіялетавым мроіве. Гэтым разам спадарыняй Бартлалоцы апанавала найсапраўднейшая жудасць. Перад вачыма кружылі залатыя зорачкі, а пасярод фіялетавага мроіва стаяла кансерва, а ў ёй сядзеў зморшчаны карлік. Тысячы зморшчын пакрывалі яго галаву, ручкі, шыю і грудзі. Карлік падняўся (цяпер магчыма было бачыць яго жывот – яго таксама пакрывалі зморшчыны) і сказаў: "Мамачка, пажыўны сродак знаходзіцца пад накрыўкай!"

Спадарыня Барталоцы пахітала галавой і працерла павекі – ёй хацелася разагнаць гэтыя зорачкі і фіялетавае мроіва. Зорачкі амаль зніклі і праз фіялетавае мроіва яна ўбачыла на ўнутраным баку кансервавай накрыўкі блакітны мяшок. На мяшку была этыкетка "ПАЖЫЎНЫ СРОДАК", а ўнізе – дробнымі літарамі інструкцыя: "Растварыць у чатырох літрах цеплаватай вады і адразу выліць на змесціва кансервы пасля яе адкрыцця".

На верхнім вугле мяшка знаходзілася стрэлачка і надпіс: "Адрываць тут". Спадарыня Барталоцы адарвала вугал акуратна па стрэлачцы.

"Будзе добра, калі ты пасппяшаеш", – прамовіў карлік. – Без пажыўнага сродку я доўга не пражыву на адкрытым паветры".

Спадарыня Барталоцы ўстала з крэсла. Падлога пад нагамі хісталася. Спадарыня Барталоцы выцягнула з-пад рукамыйніка ружовае пластмасавае вядро, падставіла пад кран і павярнула пераключальнік на "горача" (Пераключальнік быў даволі старым, таму, калі яго паварочвалі на "горача", з крана лілася летняя вада). Яна ўзяла збанок, пра які дакладна ведала, што ў ім змяшчаецца акурат паўлітра вады, напоўніла вядро і дадала ў адпаведнасці з інструкцыяй пажыўны сродак. Пажыўны сродак меў чорна-карычневы колер. Спадарыня Барталоцы размяшала змесціва ў вядры. Вада афарбавалася ў светла-карычневы колер.

Спадарыня Барталоцы пачала павольна выліваць светла-карычневую вадкасць на галаву зморшчанага карліка. Яна чакала, што раствор пральецца душам, частка застанецца на донцы бляшанкі, частка пральецца на падлогу. Але адбылося інакш... Скура карліка ўбірала ўсю светла-карычневую вадкасць,

рабілася на вачах усё больш гладкай і гладкай, карлік паступова ператвараўся ў абсалютна звычайнае дзіцё.

Калі спадарыня Барталоцы выліла ўсе чатыры літры, у бляшанцы стаяў хлопчык, якому на выгляд магчыма было даць гадоў сем. У яго была здаровая, мяккая, гладкая, загарэлая скура, ружовыя шчокі, блакітныя вочы, бялюткія малочныя зубы і пшанічныя кудзеркі. Дарэчы, ён быў абсалютны голы.

Хлопчык выйшаў з бляшанкі. Ён працягнуў спадарыні Барталоцы блакітны канверт. Спадарыня Барталоцы ўзяла яго ў рукі. Ён зроблены быў з пластыка і запячатаны па краях. На ім чорнымі літарамі ішоў надпіс “ДАКУМЕНТЫ”.

Спадарыня Барталоцы ўзяла садовыя нажніцы і разрэзала канверт па штрых-лініі. У канверце ляжалі пасведчанне аб нараджэнні, сертыфікат грамадзянства і даведка аб зробленых прышчэпках.

У пасведчанні аб нараджэнні значылася:

**Бацька**: *Конрад Аўгуст Барталоцы*
**Маці**: *Берта Барталоцы*
**Дата нараджэння**: *23.10.1967*
**Месца нараджэння**: *невядома*

Сертыфікатам аб грамадзянстве пацвярджалася, што Конрад Барталоцы, сын Конрада Аўгуста і Берты Барталоцы меў аўстрыйскае грамадзянства.

А даведка аб прышчэпках інфармавала, што Конрад быў прышчэплены ад шкарлятыны, коклюшу, адзёру, туберкулёзу, тыфу, дызентэрыі, дыфтэрыі, слупняку і воспы. Яшчэ спадарыня Барталоцы знайшла ў канверце аркуш звычайнай цвёрдай паперы з абарваным краем. Друкаванымі літарамі, блакітным атрамантам на ім было напісана:

*Дарагія бацькі,*
*Гэтай пасылкай рэалізуем Вашыя доўгачаканыя мары.*
*Мы – стваральнікі – жадаем Вам шчасця і радасці з Вашым нашчадкам.*
*Няхай ён напоўніць Ваша жыццё радасцю, спраўдзіць Вашы чаканні.*
*Наша фірма прыклала ўсе намаганні, каб Вы гарантавана атрымалі Вашага доўгачаканага, радаснага, прыгожага нашчадка. Цяпер і Вы выканайце свой абавязак!*
*Для Вас гэта будзе няцяжка, бо нашы вырабы надзвычай лёгкія ў абыходзе і выхаванні, дзякуючы нашаму высокаразвітому вытворчаму працэсу, мы пазбеглі прыродных памылак і недахопаў.*
*На заканчэнне яшчэ адна просьба!*
*Ваш нашчадак сканструяваны так, што акрамя ўвагі і догляду яму патрабуецца шчырая любоў.*
*Не забывайцеся пра гэта, калі ласка!*
*Шчасця і радасці ў будучыні жадае Вам...*
*<Нрзб>*

– Што ты не ведала? – спытаў Конрад.

– Ну... Што цябе вось так... Прышлюць пасылкай.

– Нас адпраўляюць толькі па замове!

Спадарыня Барталоцы пачула ў голасе Конрада ноткі папроку.

– А мо ў аддзеле даставак памыліліся?

Спадарыня Барталоцы пачула ў голасе Конрада ноткі смутку.

– Не! Не! – усхапілася спадарыня Барталоцы. – У аддзеле даставак не зрабілі ніякай памылкі. Усё правільна. Толькі... Толькі... Я не ведала, што ты з’явішся менавіта сёння. Я думала дзён праз восем ці праз два тыдні!

– Ты радая, што я – тут, мамачка? – спытаў Конрад.

Спадарыня Барталоцы паглядзела на Конрада. “Яму патрэбная любоў, – падумала яна. – Безумоўна! Любоў патрэбная кожнаму! І ён такі мілы! Такі мілы, як Эган, і такі мілы, як найшаноўная Маер. І ён больш мілы, чым Міха, унук найшаноўнай Маер, гэтага не аспрэчыць. І канечне я замовіла яго калісьці. І вось – ён тут! І цяпер яму патрэбная любоў!”

– Так, я вельмі радая, што ты тут, – адказала спадарыня Барталоцы.

Конрад усміхнуўся. Ён сказаў, што стаміўся падчас адкрывання кансервавай бляшанкі. Адкрыванне адабрала шмат сілаў. Ён спытаў, ці можна яму цяпер трошкі паспаць – гадзіны дзве-тры. Гэта было прадпісана інструкцыяй. Іначай недасыпанне можа нанесці шкоду здароўю.

Спадарыня Барталоцы адвяла Конрада ў спальню, прыбрала са свайго ложка газеты, часопісы, каробкі ад кексаў і шакаладных цукерак, змахнула крошкі з прасціны і ўзбіла падушку.

Конрад лёг у ложак. Спадарыня Барталоцы накрыла Конрада коўдрай і ён адразу заснуў. Перад тым, як заснуць, Конрад усміхнуўся і прамовіў: “Дабранач, мая дарагая мама!” – і тут спадарыня Барталоцы адчула, што шчыра любіць Конрада.

Яна апусціла на вокнах жалюзі і ціхенька, на дыбачках, выйшла са спальні. Ціха шчоўкнула клямка дзвярэй у спальню. Спадарыня Барталоцы села ў крэсла-гушкалку і выцягнула з драўлянай скрыні тоўстую цыгару. Вельмі хацелася курыць. Цыгары супакойвалі нервы. Спадарыня Барталоцы зрабіла тры глыбокія зацяжкі, пяшчотна-фіялетавае мроіва знікла. Спадарыня Барталоцы зрабіла яшчэ тры зацяжкі, у думках яна перанеслася ў даўно мінулыя часы, калі яны яшчэ жылі разам са спадаром Барталоцы, яны сапраўды хацелі мець дзіцё.

“Але не магу ўспомніць, каб я калісьці замаўляла дзіця”, – разважала спадарыня Барталоцы.

“Але ты і не помніш, як замовіла цэнтнер рэйсшын, – працягвала ўнутраны дыялог спадарыня Барталоцы, абуралася: – Але рэйсшына – гэта іншае, гэта не дзеці! Такія незвычайныя замовы я памятала б”.

“Тыбецкія малітоўныя барабаны – што можа быць яшчэ больш незвычайным?! – парыравала сама сабе спадарыня Барталоцы. – Але ты таксама забыла!”

Спадарыня Барталоцы яшчэ доўга спрачалася сама з сабою. У рэшце рэшт яна знайшла кансэнсус і пастанавіла, што, напэўна, гэтую замову даўно зрабіў спадар Барталоцы. Напэўна, хацеў зрабіць прыемны сюрпрыз. Спадарыня Барталоцы трошкі супакоілася – спадар Барталоцы ніколі ў жыцці не рабіў прыемных сюрпрызаў.

Калі спадарыня Барталоцы амаль дакурыла цыгару, у галаве ўзнік успамін – шмат гадоў таму спадар Барталоцы мінімум на працягу трох дзён штодня пытаўся, ці не прыйшла яму пасылка.

“Так! Так! – узрадвалася спадарыня Барталоцы. – Сапраўды! Гэта было менавіта тады! Так-так!”

(Але спадарыня Барталоцы істотна памылялася: насамрэч спадар Барталоцы чакаў кнігу – “Тлумачэнне сноў у Старажытным Егіпце”. І нарэшце ён яе атрымаў).

Спадарыня Барталоцы выцягнула свой кашалёк, партманет, скураны кісет і пластмасавы партсігар. У кашальку ляжала некалькі манет, у партманеце – тысяча шылінгаў, адкладзеныя, каб заплаціць за кватэру, у скураным кісеце – сярэбраныя юбілейныя чвартакі і паўшылінгі для калекцыі, а ў

пластмасавым партсігары – чатыры блакітныя купюры па тысячы шылінгаў на пільныя патрэбы.

“Любае дзіця, цяпер такіх патрэбаў будзе болей”, – ціха прашаптала спадарыня Барталоцы. Яна зняла халат, павесіла яго ў ванным пакоі, зняла з вяроўкі джынсы, узяла бавоўняны швэдар і апранулася. Джынсы вакол бліскавічнай зашпількі і вышэй, каля пояса былі яшчэ вільготныя. Да таго ж яны былі непрасаванымі, пакамечанымі, у складках – больш нідзе такіх джынсаў не ўбачыш. Швэдар з “колцамі” таксама быў непрасаваным і амаль выйшаў з моды.

“Калі апрануць паліто наверх, – разважала спадарыня Барталоцы, – ніхто і не ўбачыць”.

У спадарыні Барталоцы было адно-адзінае паліто. Паліто – на падкладцы, са светла-шэрага трусінага футра. На вуліцы было цёпла, таму спадарыня Барталоцы з задавальненнем яго апранула.

“Да трусінага паліто пасуе трусіная шапка”, – падумала спадарыня Барталоцы і насунула на галаву аграмадную шапку-аблавуху. Потым схапіла чатыры тысячы шылінгаў, запхнула іх у партманет, партманет – у кісет, а кісет – у торбачку, пазваніла ў таксі і выйшла з дому.

Спадарыня Барталоцы сказала таксісту: “Едзем у горад”. У горадзе, у якім жыла спадарыня Барталоцы, калі гаварылі едзем “у горад” – гэта азначала “у стары горад”, дзе знаходзіліся раскошныя, дарагія і рэспектабельныя крамы.

На календары быў пачатак кастрычніка – сярэдзіна восені, але надвор’е стаяла цёплае. Калі быць больш дакладным – плюс дваццаць два градусы ў ценю. Спадарыня Барталоцы спацела пад паліто, а людзі з цікаўнасцю глядзелі на яе футравую шапку. Тое, што людзі глядзяць з цікаўнасцю, спадарыня Барталоцы прызвычаілася. Яна часта апранала якую-небудзь рэч, з-за якой на спадарыню Барталоцы людзі глядзелі як на дзівачку. Яна не ўгадвала ні з надвор’ем, ні з нагодай. Напрыклад, спадарыня Барталоцы ішла гуляць у тэніс у чорных нагавіцах, у оперу апранала джынсы, да малочніцы яна магла зайсці ў шаўковым вячэрнім уборы, а ў кіно – у касцюме для скалалазвання.

“Ты хочаш гэтак людзей падражніць?” – зрабіў ёй аднойчы заўвагу Эган, аптэкар.

Але гэта было не так. Спадарыня Барталоцы нікога не хацела раздражняць. Яна проста брала з шафы тую рэч, якая першай траплялася ёй пад руку. А часам бывалі дні, калі хацелася апрануць што-небудзь чырвонае спераду, вось касцюм для скалалазвання дзеля гэтага і пасаваў, бо таксама быў чырвоным.

Спадарыня Барталоцы за гадзіну беганіны па гарадскіх крамах патраціла ўсе чатыры тысячы шылінгаў, цяпер у яе руках былі дзевяць вялізных пакетаў поўных дзіцячага адзення. Яна купіла трусы з майкамі, шкарпэткі, швэдры з малюнкамі і вышыванкамі, вельветавыя нагавіцы, скураныя нагавіцы, рэмень і шоўкавую кашулю з Індыі. Яшчэ яна купіла тры пары сандаляў: ружова-чырвоныя з фіялетавымі ўстаўкамі. Адна пара была 30-га памеру, другая – 31-га, а трэцяя – 32-га.

“Якія-небудзь яму падыдуць”, – падумала спадарыня Барталоцы. А яшчэ яна купіла Конраду кепі з нябесна-блакітнай скуры, залатым арнаментам па баках, маленькім, залатым званочкам наверсе. Таксама яна купіла куртку, сшытую з рознакаляровых кавалачкаў.

Спадарыня Барталоцы выдаткавала шмат грошай, таму цяпер вырашыла эканоміць, дадому яна паехала не на таксі, а пайшла пешкі. Трамваі яна цярпець не магла. Калі яна праходзіла побач з крамай цацак, у яе галаве мільганула

думка, што трэба неадкладна дзіцяці купіць цацкі; спадарыня Барталоцы выцягнула з торбачкі партманет, дастала з яго тысячу шылінгаў, якія прызначаліся на аплату кватэры, і купіла вялікі набор канструктара, маленькага плюшавага мядзведзя і кніжку з малюнкамі, скакалку і пластмасавы пісталет, ляльку, якая ўмела гаварыць “МАМА”, адну марыянетку на вяровачках і адну пальчыкавую марыянетку.

Калі спадарыня Барталоцы праходзіла побач з крамай мэблі, то пахаладзела ад страху, яна ўспомніла, што Конраду небходна купіць ложак. Яна выцягнула скураны кісет і падлічыла сярэбраныя манеты – дзесяць паўшылінгаў і восем чвартакоў – агулам атрымалася семсот пяцьдзясят шылінгаў. Спадарыня Барталоцы ўвайшла ў краму і падышла да ложка. Чырвоны ложак з зялёным матрацам, на якім былі намаляваныя белыя сланы, быў самым дарагім у краме.

Спадарыня Барталоцы разлічылася срэбранымі манетамі і прадавец пабяцаў даставіць ложак разам з матрацам ужо сёння, пасля абеду.

Калі спадарыня Барталоцы падыходзіла да свайго дому, то ўспомніла, што яшчэ трэба купіць Конраду розных ласункаў і марожанае. Яна выцягнула з торбачкі кашалёк і купіла ў пекара кулёк цукерак з нугой, кулёк смажанага міндалю, сямейную ўпакоўку малінавага марожанага, тузін жуек і жэлейных чарвячкоў.

Калі спадарыня Барталоцы вярнулася дадому, Конрад ўжо не спаў. Ён стаяў, загорнуты ў прасціну, і глядзеў на вуліцу.

– Добрай раніцы, мама, – узрадаваўся Конрад.

Спадарыня Барталоцы кінула на падлогу набітыя да краёў адзінаццаць пакетаў, вышмыгнула хуценька з паліто, шпурнула на стол шапку-аблавуху і выцерла пот з ілба.

– Добры дзень, Конрад, – адказала яна і задумалася, што, напэўна існуюць больш правільныя словы вітання з сямігадовым хлопчыкам, ці, можа, лепш яго пацалаваць. Ці хаця б абняць. Ці паляпаць па плячы. (Яна ж не ведала, як абыходзіцца з сямігадовымі хлопчыкамі). Векапомная спадарыня Маер – спадарыня Барталоцы на ўласныя вочы часцяком бачыла – падымала ўнука Міху і цалавала ў абедзве шчакі. Спадарыня Барталоцы таксама падышла да Конрада і прыўзняла яго – цяпер яны былі тварам у твар.

Конрад разгублена глядзеў на яе. Раптам спадарыні Барталоцы падалося, што Конрад не хоча, каб яго цалавалі. Яна зноў паставіла яго на падлогу. Конрад усё яшчэ глядзеў на спадарыню Барталоцы.

– Навошта ты мяне падымала, а потым паставіла назад? – пацікавіўся Конрад.

– Я хацела цябе пацалаваць, – адказала спадарыня Барталоцы, – Але не ведаю, ці маю права...

– Бацькі цалуюць дзяцей тады, – адказаў Конрад, – калі яны паводзяць сябе паслухмяна.

Конрад аблізнуўся, наморшчыў лоб і заплюшчыў вочы. Было бачна, што ён разважае. Праз некаторы час ён загаварыў, разглядаючы прасціну, у якую быў загорнуты: “Я быў дома адзін, я нічога не разбіў, нічога не зламаў. Прасціну сцягнуў з матрацу і захутаўся – вось і ўсё, але спадзяюся, я не зрабіў нічога дрэннага! Было трошкі халодна, я хацеў сагрэцца.

– Ты не зрабіў нічога дрэннага, – супакоіла яго спадарыня Барталоцы.

– Тады, я думаю, ты можаш мяне пацалаваць, – адказаў Конрад.

Спадарыня Барталоцы ўзняла Конрада, наблізіла да сябе і пацалавала, спачатку – у левую шчаку, а потым – у правую. Шчокі Конрада былі цёплыя,

мяккія і пяшчотныя, спадарыня Барталоцы адчула, што ёй было вельмі прыемна цалаваць Конрада. Таму яна зноў пацалавала яго ў левую і правую шчаку і паставіла зноў на падлогу. Потым яна пачала распакоўваць пакупкі.

– Падабаецца? – спытала яна і выцягнула з пакета футболку з вышытым матыльком.

– Падабаецца? – спытала яна зноў і выцягнула з пакета папружку з ялавічнай скуры са спражкай у выглядзе галавы быка.

Кожны раз, калі спадарыня Барталоцы даставала з пакета новую рэч, Конрад толькі моўчкі ківаў. Але ён ківаў без настрою і спадарыня Барталоцы гэта натуральна заўважыла.

– Думаю, – прамовіла яна з прыкрасцю. – Табе гэта ўсё не зусім падабаецца.

– Не, – ветліва адказаў Конрад. – Не. Калі табе падабаецца, я буду насіць з задавальненнем.

– Табе абавязкова павінна спадабацца, – узрадавалася спадарыня Барталоцы. – Прымерай, калі ласка, вось гэта!..

Конрад адказаў ад нерашучасці: “Ну, я не ведаю, што зараз модна... Толькі...”

– Што “толькі”?

– Толькі... – Конрад зноў замоўк.

– Што “толькі”? Ну гавары!..

– Добра, калі хочаш, я скажу, – адказаў Конрад. – Я доўга стаяў каля вакна і бачыў на вуліцы шмат дзяцей прыкладна майго ўзросту, але на іх было іншае адзенне!

– І што на іх было адзета?

– Светла-карычневыя нагавіцы і кашулі ў клетачку або ў палосачку, а зверху – сінія або карычневыя курткі!

– Людзі – занудныя да жахаў! – усклікнула спадарыня Барталоцы. – У іх няма аніякай фантазіі! Хочуць мець усё, як ва ўсіх, яны баяцца рызыкаваць!

Спадарыня Барталоцы стукнула сябе кулаком у грудзі – туды, дзе на яе ваўняным швэдары красаваліся ружовы алень і зялёная котка на фоне аграмаднага залатога сонца.

– Бачыш? – працягнула спадарыня Барталоцы. – У мяне таксама ёсць экстравагантныя рэчы, якія іншыя людзі не носяць. Гэтае сонца, і аленя з коткай, я намалявала тэкстыльнымі фарбавальнікамі сама. Больш ніхто ў свеце не мае такога швэдра, і я ганаруся гэтым! Хораша, праўда?..

– Не ведаю... – адказаў Конрад.

Спадарыня Барталоцы цяжка ўздыхнула, а потым прамовіла: “Добра. Добра. Я зразумела... Усе людзі – не такія як я. Яны іншыя і маюць на гэта права. Калі хочаш, я заўтра пайду і куплю табе сінія нагавіцы, кашулю ў клетачку і сінюю куртку, добра?”

Конрад адмоўна заматляў галавой і растлумачыў, што гэта марнаванне грошай, што ў гэтым няма пільнай патрэбы. Ён апрануў трусы з майкай у бела-чырвоную клетачку, нацягнуў футболку са стракатым матыльком, вельветавыя нагавіцы з зялёнымі сэрцайкамі на каленях, зашпіліў быкагаловую спражку на папружцы і насунуў на галаву светла-блакітнае кепі са званочкам.

– Ты чароўна выглядаеш, галава ідзе кругам ад такой прыгажосці! – ускрыкнула спадарыня Берталоцы ад шчырага захаплення. – Ты – самае прыгожае дзіця, якое я бачыла ў сваім жыцці.

Спадарыня Барталоцы захацела падвесці Конрада да вялікага люстэрка ў вітальні.

– Хадзем, – сказала яна. – Сам у люстры пабачыш, які ты – прыгажун.

– Дзякуй, не трэба, – адказаў Конрад. – Сямігадовыя хлопчыкі павінны глядзецца ў люсэтрка толькі, калі мыюць галаву і чысцяць зубы, інакшай яны робяцца ганарыстымі і самазадаволенымі.

– Прабач, – прамармытала спадарыня Барталоцы і раптам успомніўшы пра малінавае марожанае, крыкнула. – Божачкі, яно ж растае!

Яна пабегла на кухню, выцягнула з пакета вялікую ўпакоўку з марожаным і лыжкай паклала салодкае змесціва на шкляны паднос. Потым выцягнула з кухоннай шафы бляшаную скрыню. У бляшанай скрыні прадаўгаватыя, танюткія вафлі. Спадарыня Барталоцы ўзяла і паўтыкала іх у марожанае – атрымалася прыгожа, нібы вожык з даўгімі калючкамі. Яна ўзяла шкляны паднос і панесла салодкага вожыка ў гасцёўню.

– Паглядзі, – звярнулася спадарыня Барталоцы да Конрада. – Табе спадабаецца, паспрабуй. Гэта неверагодны ласунак!

– Марожанае ж ядуць толькі летам, ці не так? – спытаў Конрад.

– Хто гэта прыдумаў?! – ускрыкнула спадарыня Барталоцы. – Яго можна есці кожны дзень! Мне асабліва падабаецца есці марожанае зімой. Самая смаката гэта, калі падае снег!

– Але марожанае ядуць толькі на дэсерт, ці не так? – зноў спытаў Конрад.

– Даруй, душа мая, – усхапілася спадарыня Барталоцы. – Я зусім забылася, што ты галодны. Зараз я прыгатую бутэрброды з вяндлінай, адвару яйкі, і зраблю салат з агуркоў. Добра?

– Я не галодны, – растлумачыў Конрад. – Пажыўнога раствору хапае на дваццаць шэсць гадзін. Я не ўпэўнены, ці можна есці марожанае на абсалютна пусты страўнік.

– Чорт падзяры! Чаму ты заўсёды пытаешся, што табе можна, а чаго нельга?

– Сямігадовы хлопчык павінен задаваць пытанні! – адказаў Конрад.

– А я зусім не ведаю, што можна сямігадоваму хлопчыку, а што сямігадоваму хлопчыку нельга, – разгублена прамовіла спадарыня Барталоцы.

– Тады сёння абыдземся без марожанага, – сказаў Конрад. – А заўтра ты спытаеш у каго-небудзь, як можна есці марожанае. Добра?

Спадарыня Барталоцы ледзь заўважна кіўнула, яна не мела аніякага паняцця, у каго яна можа спытаць. Яна была абсалютна разгубленая і з-за гэтай адчайнай бездапаможнасці яна з’ела ўсё марожанае і ўсе вафлі, ад гэтага пачало ныць у жываце і з’явілася пякотка.

А Конрад увесь час, пакуль яна ела, сядзеў насупраць і глядзеў. Некалькі разоў спадарыня Барталоцы рабіла перапынкі ў праглынанні марожанага і падсоўвала Конраду пад нос то вафлю, то лыжачку с марожаным, прыгаворваючы: “Ну ты хоць паспрабуй!” – Але Конрад адмоўна хітаў галавой.

Калі спадарыня Барталоцы скончыла, Конрад пацікавіўся ў яе, чым ён можа дапагчы ёй у хатніх справах – посуд памыць, дываны прапыласосіць, смецце выкінуць.

– Гэта табе ў радасць? – спытала спадарыня Барталоцы Конрада.

– У радасць? Не ведаю, – адказаў Конрад. – Але сямігадовы хлопчык у стане дапамагчы, гэта яго абавязак пазбавіць маму дробных гаспадарчых турботаў.

– Ага-ага. Так-так. Безумоўна, – адказала спадарыня Барталоцы, а сама падумала, што ў сметніцы свабоднага месца яшчэ дастаткова і пылу не так ужо шмат, і чыстага посуду – калі шчыра прызнацца – талерак з лыжкамі, кубкаў са збанкамі яшчэ досыць у шафе, лепей бы Конрад пагуляў з новымі цацкамі.

Конрад узяў вялікую каробку з канструктарам, зняў накрыўку і пачаў разглядаць.

– Якія цудоўныя, каляровыя дэталькі! – сказаў ён.

Спадарыня Барталоцы ўздыхнула з палёгкай.

– З іх можна пабудаваць замак, ці нават цягнік, ратушу, альбо нават самалёт, – растлумачыла яна.

Конрад зачыніў накрыўку набора канструктара, узяў яго пад паху і запытаўся:

– Дзе мне можна пагуляць?

– Дзе? – спадарыня Барталоцы не зразумела пытання.

– Я меў на ўвазе, дзе мой куток для гульняў?

Спадарыня Барталоцы ніколі ў жыцці ні пра якія куткі для гульняў не чула, але Конрад ёй растлумачыў, што ў дзяцей бываць альбо куткі для гульняў альбо цэлыя дзіцячыя пакоі. Па прычыне, што ў кватэры спадарыні Барталоцы не было дзіцячага пакою, Конрад папрасіў паказаць, дзе будзе яго куток для гульняў.

Спадарыня Барталоцы задумалася. У кватэры была гасцёўня, кабінет, спальня, кухня, вітальня і ванная – кожны пакой меў чатыры куты. У выніку атрымлівалася дваццаць чатыры куты.

– Можаш заняць любы кут, які табе падабаецца альбо гуляць ва ўсіх дваццаці чатырох, калі пажадаеш, – сказала спадарыня Барталоцы. – Можаш гуляць і пасярод пакоя.

– Дзякуй вялікі, але мне і кута дастаткова, – адказаў Конрад.

– Ну, тады сам выбірай, – сказала спадарыня Барталоцы.

– Дзе менш за ўсё я буду перашкаджаць?

– Каму перашкаджаць? – здзівілася спадарыня Барталоцы.

– Табе!

– Ты мне зусім не перашкаджаеш. Праўда, не перашкаджаеш! Па мне – гуляй, дзе хочаш.

– Тады я выбіраю вось гэты кут, – Конрад паказаў на закуток паміж вакном і дзвярамі ў вітальню. – Можна?

Спадарыня Барталоцы кіўнула на знак згоды. Конрад паставіў набор канструктара на падлогу, зняў накрыўку і пачаў разглядаць дэталькі.

– Я купіла яшчэ процьму іншых рэчаў, – сказала спадарыня Барталоцы. – Паглядзі! Вось плюшавы мядзведзік, вось лялька, вось кніжка з малюнкамі...

Конрад перапыніў яе: "Думаю, лепш і больш рацыянальна для сямігадовага хлопчыка бесперапынная гульня з адным аб'ектам – канцэнтрацыя на гэтым аб'екце. Іначай гэта негатыўна паўплывае на нервовую сістэму.

– Прабач, калі ласка, я пра гэта не падумала, – спадарыня Барталоцы пачала запінацца. Яна сабрала ўсе цацкі, што купіла, назад у пакет і паставіла ў кут побач з дзвярамі ў вітальню. Ляльку, якая ўмела гаварыць "мама", таксама.

– Гэта для мяне? – пацікавіўся Конрад, а, калі спадарыня Барталоцы кіўнула ў адказ, працягнуў. – Але я – сямігадовы хлопчык!

– Хіба лялька, якая ўмее гаварыць "мама", не для сямігадовых хлопчыкаў? – спытала спадарыня Барталоцы.

– Лялькі – гэта для сямігадовых дзяўчынак! – патлумачыў Конрад.

Спадарыня Барталоцы ўзняла ляльку з падлогі:

– Шкада, – прамармытала спадарыня Барталоцы. – Яна такая прыгожанькая!

Спадарыня Барталоцы паправіла брэнзлі на ляльцы, паказытала па жывоціку і вырашыла, што падарыць яе маленькай дзяўчынцы, што жыла паверхам ніжэй. Дзяўчынку звалі Кіці.

Конрад ставіў дэталь на дэталь – ён будаваў спічастую, вытанчаную вежу палаца.

– Конрад, – пачала спадарыня Барталоцы. – Мне трэба трошкі папрацаваць. Неабходна сплесці мінімум тры сантыметры дывана. Можна я пакіну цябе тут сам-насам? Альбо, калі хочаш, бяры канструктар з сабой і пойдзем у кабінет, каб ты не адчуваў сябе ў адзіноце.

Конрад займаўся тым, што ўзводзіў другую вежу палаца.

– Не, дзякуй, – адказаў Конрад. – Я тут пабуду. Мяне папярэдзілі, што ты працуеш. Нам гаварылі, што ў сучасным свеце, большасць мам працуе. І таксама нам тлумачылі, што існуюць дзеці, якія жывуць з бабулямі, і існуюць дзеці, якія ходзяць у групы падоўжанага дня, і ёсць таксама так званыя безнаглядныя дзеці!

– Святыя нябёсы, – ледзь чутна прашаптала спадарыня Барталоцы. Яе зноў збілі з панталыку.

Яна пайшла ў кабінет, села за ткацкі станок і пачала плесці дыван з зіхоткіх чырвоных, прыемна-фіялетавых і атрутна-зялёных нітак, абсалютна забыўшыся пра неверагодна дзіўнае дзіця, якое зараз у закутку гасцёўні будуе з канструктара палац. Калі спадарыня Барталоцы пляла дываны, яна ні пра што іншае не магла думаць. Верагодна, з-за гэтага дываны атрымліваліся такімі прыгожымі.

За пляценнем дывана спадарыня Барталоцы не заўважыла, як праляцеў час. У кабінет прыйшоў Конрад. Спадарыня Барталоцы паглядзела на Конрада, а потым на гадзіннік – быў вечар.

– Божа мой! Ты ж прагаладаўся! – спужана ўсклікнула спадарыня Барталоцы.

– Трошачкі! Не зараз, – адказаў Конрад. – Насамрэч, я па іншай прычыне прыйшоў. Я хачу праспяваць якую-небудзь песеньку. Але ў мяне няма аніякага ўяўлення, якія песні спяваюць сямігадовыя хлопчыкі. Да гэтага мяне не падрыхтавалі. Але я, магчыма, няўважліва слухаў.

– Скажы, калі ласка, – спадарыню Барталоцы распірала ад цікаўнасці. – Што гэта значыць цябе падрыхтоўвалі? Як гэта адбывалася? Хто цябе рыхтаваў?

Конрад маўчаў.

– З табой займаліся настаўнікі? Ці гэта былі нейкія супрацоўнікі? Ты заўсёды быў такім зморшчаным? Даруй... Маю на ўвазе такім зморшчаным, пакуль я не абліла цябе пажыўным растворам.

Конрад працягваў маўчаць.

– Ты не хочаш пра гэта гаварыць?

– Я магу расказаць пра гэта толькі ў крайнім выпадку. Зараз такі выпадак?

– Не, – адказала спадарыня Барталоцы. – Канечне, гэта не крайні выпадак.

Яна зноў пачала ўспамінаць, якія песні спявалі ў яе дзяцінстве.

Спачатку ёй успомніўся пачатак песні: "Хто сыр на вакзал прыкаціў?"

(Але далей тэкст яна не памятала).

Потым яна прыгадала песню: "Жыў-быў папугайка, ён разбіраўся ў каляровых яйках".

(Але далей тэкст яна таксама не памятала).

Тут яна ўспомніла: "Ідзе па вуліцы Луліла, аранжавае кепі і боты начапіла. Міла-міла!" і раптам да яе дайшло, што гэта былі ніякія не дзіцячыя песні, а шлягеры, якія напявалі дарослыя, калі яна была маленькай. Але нарэшце ў памяці ўсплылі дзіцячыя песенькі: "Гары Віла прыйшоў да Ніла вымыць ногі ад персіла", потым "На дне глыбокага мора, на дне глыбокага мора цешчачка родная спіць" і яшчэ "Сядзелі мы ў кавярні ўдвох, а елі за дзесяцярох".

Спадарыня Барталоцы пачала спяваць адну песеньку за другой, на душы зрабілася весела, і яна заспявала: “Стаяў салдат на горцы, і атрымаў пад зад. Трах-бах, скаціўся з горкі, у роце з лебяды салат!”

Калі спадарыня Барталоцы заспявала “Цётухна пана Маера”, старанна выводзячы “Вяртаўся пан Маер дадому, праз ноч і густы туман”, яна заўважыла, што Конрад пабялеў ад страху, і чым больш яна спявала, тым бялейшым рабіўся ён. Але яна падумала, што наступная страфа больш вясёлая і павінна спадабацца Конраду і працягнула: – Ляцеў на бочцы Маер ды скончыўся бензін, убачылі французы: “Дык гэта ж цэпелін!” Узялі дубальтоўкі, ускочылі з кустоў. – Трах-бах, застаўся наш пан Маер без бочкі і трусоў!”

Цяпер Конрад стаяў аслупянелы ад страху, белы-белы, нібы прасціна. Спадарыня Барталоцы заўважыла гэта. Каб неяк яго падбадзёрыць яна заспявала яшчэ: “На вядры стаіць гняздо, дзядзька ловіць там ё-ё ”.

Тут Конрад расплакаўся.

– Конрад! Што з табой? – спадарыня Барталоцы ўскочыла, выцягнула з кішэні нагавіцаў насоўку і выцерла слёзы на шчоках Конрада.

Конрад усхліпнуў: “Я рыдаю, бо не ведаю, што мне трэба рабіць: сямігадовыя хлопчыкі павінны слухаць уважліва, калі іх мамы нешта гавораць, распавядаюць альбо спяваюць. Але сямігадовыя хлопчыкі павінны не слухаць, калі гавораць альбо расказваюць, альбо спяваюць непрыстойнасці!

– Я спявала непрыстойнае? – спадарыня Барталоцы вельмі спужалася.

Конрад кіўнуў. Спадарыня Барталоцы паклялася Конраду больш ніколі не расказваць альбо спяваць непрыстойнасці. Конрад адразу перастаў усхліпваць. І тут у дзверы кватэры пазванілі. Званілі не так, як гэта робяць паштальёны альбо пажарныя, а званілі вельмі далікатна – тры разы – так званіў толькі аптэкар Эган. Была акурат субота – “дзень дружбы”.

– Ах, Эган, я амаль забылася пра яго! – усхапілася спадарыня Барталоцы і пабегла да дзвярэй, каб адчыніць, зачапілася локцем за шафу ў вітальні, і ўжо захацела вылаяцца “Чорт падзяры!”, але стрымала злосць, каб не засмучаць Конрада.

Спадар Эган быў апрануты ў чорны касцюм, на шыі быў павязаны шэры гальштук, а ў руках красаваўся букет фіялак.

– У мяне два цудоўныя квіткі ў оперу! – прамовіў спадар Эган.

– А ў мяне цудоўны сын. Адзін! – адказала спадарыня Барталоцы.

– Другі рад, партэр, пасярэдзіне... – раптам спадар Эган замоўк і ўтаропіўся на спадарыню Барталоцы са здзіўленнем. – Як-як? Што Вы сказалі?

У гэты момант у вітальню ўвайшоў Конрад. Ён падышоў спадара Эгана, пакланіўся, працягнуў руку ў знак вітання і прамовіў: “Добры вечар, паважанаму спадару!”

– Гэта мой сын, – сказала спадарыня Барталоцы. – Яму сем гадоў і яго завуць Конрад.

Спадар Эган у імгненне вока збялеў, зрабіўся яшчэ больш белым, чым Конрад ад непрыстойных песняў. У спадарыні Барталоцы з’явілася адчуванне, што неабходна ўсё растлумачыць спадару Эгану. Але яна не хацела рабіць гэтага пры Конрадзе, таму сказала: “Конрад, душа мая, думаю, зараз пачнецца дзіцячая перадача па тэлевізары”.

– Файна! – адказаў Конрад і брава прамаршыраваў у гасцёўню.

Спадарыня Барталоцы крыкнула ўслед: “Спачатку ўключы самую верхнюю кнопку, потым націсні трэцюю кнопку знізу, потым...”

– Дзякуй, я ведаю, – крыкнуў з гасцёўні Конрад у адказ. – Уключаць тэлевізар нас вучылі.

Спадарыня Барталоцы са спадаром Эганам пайшлі на кухню, кожны ўзяў цыгару, запалілі, а спадарыня Барталоцы паставіла кававарку на газавую пліту і пра ўсё расказала. Калі кававарка закіпела, яе аповед быў завершаны, і калі апошняя кропля кавы прасачылася праз фільтр, спадар Эган усё яшчэ не мог паверыць ва ўсю гэтую гісторыю. Ён паверыў толькі тады, калі спадарыня Барталоцы паказала яму пустую бляшанку, пакет ад пажыўнога сродку і дакументы разам з пісьмом.

– Фатальна! – прамовіў Эган. – У вышэйшай ступені фатальна!

Спадарыня Барталоцы кіўнула на знак згоды. Спадар Эган уважліва паглядзеў на насы сваіх лакіраваных вугальна-крумкачова-чорных туфляў.

– Усе сабраліся? – пачуўся з гасцёўні голас тэлевізійнага чалавечка. – Та-а-а-к, – нерашуча адазваўся Конрад. “Тааааaак!” – зараўлі ў адказ сотні дзяцей у студыі.

– Ну скажы хоць што-небудзь, Эганчык! – прамовіла спадарыня Барталоцы.

– Адпраў яго назад, – прашаптаў спадар Эган.

– Як табе не сорамна! – яшчэ больш ціха прашаптала спадарыня Барталоцы, узяла спадара Эгана за руку, выцягнула з крэсла і пацягнула з кухні да дзвярэй у гасцёўню. – Ты толькі паглядзі на яго, – прашаптала спадарыня Барталоцы.

Спадар Эган зірнуў у гасцёўню, на экране тэлевізара з’явіўся пластмасавы кракадзіл з зялёным грабеньчыкам, фіялетавым хвастом і чырвонымі гузікамі-вочкамі, ён краўся за шчуплым чалавечкам у чырвоным капялюшыку, які нічога не падазраваў.

Перад тэлевізарам сядзеў Конрад. На галаве ў яго была светла-блакітная кепка са званочкам. Вочы і рот былі шырока раскрытыя ад цікаўнасці, указальным пальцам правай рукі ён цёр кончык носа. Вушы гарэлі пунсовым колерам, а бялявыя валасы тырчалі кудзеркамі з-пад кепкі. Конрад выглядаў як цалкам абаяльнае, прывабнае малое дзіця, якому неабходны былі клопат і любоў.

– Ну? – прашаптала спадарыня Барталоцы.

– Не, – прамармытаў прабачлівым тонам спадар Эган. – Такога хлопца не варта адпраўляць назад.

– І я пра гэта, – адказала спадарыня Барталоцы.

На экране тэлевізара шчуплы чалавечак у чырвоным капялюшыку цяпер зацята змагаўся з пластмасавым кракадзілам, дзеці ў студыі гарлалі, як статак малпаў. Конрад перастаў церці нос, падняўся і прамовіў:

– Небарака! Няшчасны кракадзіл! – потым падышоў да тэлевізара і выключыў. Кракадзіл распластаў усе свае чатыры лапы, і ў гэты момант карцінка на тэлевізары знікла.

– Табе не падабаецца лялечны тэатр? – пацікавіўся спадар Эган.

(У часы спадара Эгана, калі ён быў маленькім хлопчыкам, ён на дух не выносіў лялечныя тэатры).

– Жывёл трэба берагчы! – адказаў Конрад.

– Але, Конрад, гэта ж кракадзіл! – запярэчыла спадарыня Барталоцы. – Гэта злая жывёла! Ён жарэ людзей, праглынае іх цалкам сваёй вялікай пашчай.

– А гэты кракадзіл з тэлевізара, – патлумачыў Конрад, – хацеў толькі спаць. А чалавечак у чырвоным капялюшыку разбудзіў яго, бо ён працягла і гучна хроп.

– Але кракадзіл краўся за ім! – адказала спадарыня Барталоцы. (Калі яна была маленькай дзяўчынкай, ёй вельмі падабаўся лялечны тэатр).

– Але я думаю, – адказаў Конрад. – Жывёлы не ведаюць, што нельга красціся ззаду.

– Так, але... – спадарыня Барталоцы запнулася.

– Па тэрыторыі дзікіх жывёл чалавечак у чырвоным капялюшыку павінен быў перасоўвацца ў спецыяльна прыстасаваным аўтамабілі! – заявіў Конрад. – Гэта больш бяспечна і для кракадзіла, і для чалавечка.

– Так, але... – спадарыня Барталоцы зноў запнулася.

– Ніякіх “але”! – голас спадара Эгана гучаў вельмі ўзрадавана. – Аніякіх “але”! Хлопчык мае рацыю! Хлопчык для свайго ўзросту неверагодна разумны!

Спадар Эган глядзеў на Конрада са шчырым замілаваненнем. Спадар Эган ніколі не глядзеў на дзяцей ні з шчырым замілаваннем, ні проста з замілаваннем.

Замілаванне спадара Эгана перарасло ў захапленне і тут Конрад спытаў:

– Час позні. Можна я пайду спаць?

– Ты ўжо стаміўся? – спытала спадарыня Барталоцы.

– Гэта не мае значэння, – адказаў Конрад. – Большасць дзяцей яшчэ не стамляецца, калі надыходзіць час класціся спаць.

Спадарыня Барталоцы пра “час класціся спаць” ведала столькі ж, колькі і пра “час, калі можна есці марожанае”. Яна ўспомніла, што, калі была маленькай дзяўчынкай і яе хацелі адправіць у ложак, яна вішчала як рэзаная, а потым яшчэ доўга лямантавала пад коўдрай. Таму спадарыня Барталоцы сказала Конраду: “Можаш гуляць, колькі пажадаеш. Ты сам адчуеш, калі табе трэба будзе ісці спаць!” – І калі яна гэта сказала, то ўспомніла, што дзіцячы ложак яшчэ не даставілі: – Усё вельмі проста. Ты пойдзеш спаць, калі прывязуць твой ложак”. Конрад пагадзіўся з гэтым.

Надышоў вечар, але Конрад не адчуваў голаду.

– Хочаш цукерачку? – спытала спадарыня Барталоцы.

– Позна вечарам, перад тым, як класціся спаць – есці цукеркі – гэта вельмі-вельмі шкодна.

Але спадарыня Барталоцы паднесла яму да рота шакаладную цукерку з малінава-марцыпанавай начынкай і міндалём зверху. Яна трымала цукерку перад ротам Конрада, пакуль ён яго не раскрыў – імгненне і цукерка знікла ў роце.

– Бертачка, ты не разумееш! – абурыўся спадар Эган. – Хлопчык разумнейшы за цябе! Радуйся, што ў цябе такое дзіця, якое разумее, што цукар шкодны для зубной эмалі!

Спадарыня Барталоцы нешта прамармытала ў адказ, гэта гучала як “парпа-парурам”. Яна паглядзела на Конрада. Яна хацела ўбачыць, як на яго твары заззяе ўсмешка радасці ад з’едзенай смачнай цукеркі. Але ўсмешка не з’явілася. Наадварот. Твар Конрада пахмурнеў, ён праглынуў цукерку і прамовіў: “Дзякуй! Смачна! Але мне цяжка...”

– Ды не, Конрад! – сказала спадарыня Барталоцы і засмяялася. – Ад адной цукеркі страўніку цяжка не будзе, для гэтага трэба кулёк цукерак з’есці!

Конрад адмоўна пахітаў галавой і растлумачыў, што яму цяжка не ў страўніку, а на душы, бо есці цукеркі перад сном – забаронена. Ад усяго забароненага яму рабілася цяжка. Гэтаму яго навучылі. А потым ён дадаў, што да сённяшняга дня ганарыўся ўменнем валодаць сабой пры забароненых рэчах, бо гэта было адной з найважнейшых вучэбных дысцыплін у аддзеле “Мантажу і фінальнай дапрацоўкі”. Конрад заявіў: “Гэтая дысцыпліна называлася – урок “Пачуццё вінаватасці”, а дзеці з кансервавых бляшанак, якія кепска ведалі гэты прадмет, не мелі права пакінуць межы фабрыкі”, –

і раптам Конрад змоўк, ён спужаўся, ён не меў права гаварыць пра фабрыку, толькі ў крайнім выпадку.

– Жахліва, – прашаптала спадарыня Барталоцы.

Спадар Эган падскочыў ад захаплення: "Гэта самы цудоўны хлопчык, якога я бачу ў сваім жыцці! Калі б усе дзеці былі такія, я б ужо даўно меў свайго! Такі выхаваны, добры, прыстойны сямігадовы хлопчык – гэта бальзам для душы!"

– Эганёшачка, ты – дурань! – сказала спадарыня Барталоцы.

Але спадар Эган не чуў гэтага, ён з захапленнем працягваў гаварыць пра Конрада.

Спадар Эган гаварыў яшчэ доўга, ні на секунду не перапыняўся, замаўчаў толькі, калі прывезлі з крамы дзіцячы ложак. Але потым зноў загаварыў: гаварыў, калі спадарыня Барталоцы апранала на падушкі навалачкі, гаварыў, калі яна засцілала прасціну на матрац, гаварыў, калі яна распраўляла самую прыгожую і мяккую коўдру, якая ў яе была, у падкоўдраніку. Ён доўга гаварыў пра тое, што такія цудоўныя, выхаваныя дзеці, як Конрад, цяпер рэдкасць і такім дзецям патрабуецца клопат, лепшы клопат, чым магла даць спадарыня Барталоцы.

Спадарыня Барталоцы кіўнула на знак згоды – яна яго абсалютна не слухала, адстаронена ўзбівала падушкі і коўдру. Але пасля таго, як яна пачула ў яго бясконцай прамове тры разы запар слова "Бацька", яна перастала ківаць у адказ. Яна пацягнула дзіцячы ложак у спальню і крыкнула: "Хвіліначку, Эганёшка!" – потым вярнулася, села ў крэсла-гушкалку насупраць Эгана і спытала: "Слухай, Эганяша, што ты там казаў наконт бацькі?"

– Я гаварыў, што яму тэрмінова патрэбны бацька, – адказаў спадар Эган.

– У яго ёсць бацька! – закрычала спадарыня Барталоцы. – І гэты бацька пазначаны ў пасведчанні аб нараджэнні! Конрад Аўгуст Барталоцы! Ён – бацька!

– Калі ён яго бацька, – на ілбе спадара Эгана з'явіліся чатыры глыбокія зморшчыны. – Тады ён павінен вярнуцца і заняцца выхаваннем гэтага цудоўнага дзіцяці. Урэшце рэшт – гэта яго абавязак!

Гэтыя словы раз'юшылі спадарыню Барталоцы. Яна закрычала, што спадар Конрад Аўгуст ёй абсалютна не патрэбны. У мінулым яна паслала гэтага Конрада Аўгуста туды, куды Макар цялят не ганяў, і цяпер яе былы муж, напэўна, грэецца на сонейку ў тых мясцінах – там яму самае месца.

– Тады хтосьці павінен заняць месца бацькі. Я... – пачаў спадар Эган, але раптам прыціх, бо ў дзвярах ў гасцёўню стаяў Конрад. Ён спытаў, дзе можна памыцца і дзе знаходзіцца яго зубная шчотка.

Зубной шчоткі для Конрада не было. Спадарыня Барталоцы цяжка ўздыхнула, ёй спачатку трэба прыбраць з ракавіны джынсы і світар, каб Конрад мог памыцца.

– Пачакай трошачкі, – сказала яна Конраду. – Я зараз хуценька прыбяру ў ваннай!

Яна яшчэ тройчы цяжка ўздыхнула, зрабіла такі выгляд, што ўзнікала пачуццё спачування, бо прыбіранне для спадарыні Барталоцы было самым жахлівым заняткам у свеце.

Калі спадарыня Барталоцы вярнулася ў гасцёўню, спадар Эган і Конрад сядзелі разам на канапе і смяяліся.

– Цяпер я – яго бацька, – заявіў спадар Эган. – Конрад згодны.

Конрад кіўнуў. Спадарыня Барталоцы паглядзела на Эгана, потым – на Конрада, цяжка ўздыхнула і сказала: "Добра, мне гэта таксама падыходзіць!"

Насамрэч гэта ёй не падыходзіла. Па-першае, яна абсалютна не была ўпэўненая, што сямігадоваму хлопчыку патрэбны быў бацька. Па-другое, яна была ўпэўненая, што, калі і патрэбны быў бацька, то не такі сумны, нязграбны пацурбалак, як Эган! На яе думку, Эган падыходзіў на ролю "сябра выхаднога дня", але ніяк не бацькі!

Але Конрад так задаволена ўсміхаўся, што яна толькі паўтарыла: "Добра, мне гэта таксама падыходзіць!"

Пазней, калі Конрад ужо заснуў, спадар Эган і спадарыня Барталоцы сядзелі ў гасцёўні – у размове спадарыня Барталоцы наўмысна называла яго "Анёлак". У спадара Эгана ў шклянцы было наліта трошкі віскі і шмат содавай, а спадарыня Барталоцы піла вішнёўку.

– Заўтра табе трэба схадзіць у школу і запісаць Эгана ў першы клас, – прамовіў спадар Эган.

– Заўтра – нядзеля, – адказала спадарыня Барталоцы. – Ва ўсіх школах – выхадны.

– Тады – паслязаўтра, – працягнуў Эган. Ён шалёна радаваўся свайму будучаму бацькоўскаму шчасцю, уяўляў, як Конрад будзе прыносіць дадому толькі выдатныя адзнакі – адну за другой. Спадарыня Барталоцы не адчувала аніякіх радасных спадзяванняў наконт будучых адзнак Конрада. Ёй хацелася паглядзець дэтэктыў па тэлевізары, але спадар Эган спыніў яе: "Кінь ты гэтую лухту! Мне неабходна сказаць табе пару слоў, размова сур'ёзная!"

Спадарыня Барталоцы выключыла тэлевізар і ўважліва слухала Эгана. Пару слоў сур'ёзнай размовы ператварыліся ў тысячы слоў – калі ён скончыў, было далёка за поўнач.

Спадарыня Барталоцы пазяхнула і прамовіла: "Бывай, Эганёша!" – аддала ключы ад кватэры і ціхенька, каб не разбудзіць Конрада, пайшла ў спальню. Спадарыня Барталоцы настолькі стамілася, што не магла заснуць, а яшчэ словы сур'ёзнай размовы са спадаром Эганам круціліся ў галаве: "Табе карэнным чынам неабходна змяніцца, трэба быць больш арганізаванай і ветлівай, больш даваць волю сваім мацярынскім пачуццям! Ты павінна цяпер быць больш саліднай, не трэба бегаць па ўсім горадзе ў дзівацкіх апранахах! Ты павінна навесці ў доме парадак, гатаваць ежу і сачыць, што ты гаворыш сямігадоваму хлопчыку. Ты павінна гаварыць, што добра і што карысна!"

Ты павінна, ты павінна, ты павінна!

Калі гэты спіс патрабаванняў пракруціўся ў яе галаве прыкладна дзве тысячы разоў, усе тысячы слоў спадара Эгана раcталі, і спадарыня Барталоцы заснула. Але нават у сне яна пакутліва стагнала і мармытала: "Ты павінна, ты павінна..."

Раніцай спадарыня Барталоцы прачнулася раней звычайнага. Яна працёрла вочы і зірнула на ложак Конрада. Ложак стаяў пусты.

Пераклад зроблены з выдання:
*Christine Nöstlinger, Konrad oder das Kind aus der Konservenbüchse,*
*Verlag Friedrich Oetinger. Hamburg, 2015, 157 Seiten.*

Адам Глобус



…раскажы мне, як чалавек есць цукеркі, –
і я скажу табе, хто ён такі…

# Лявон

## *Словы пра рокера Лявона Вольскага*

### Абаяльнасць

У Лявона Вольскага ёсць прыродная абаяльнасць і мастакоўскі артыстызм. Таму ў нашым простым свеце, дзе ўсе добрыя знаёмыя і адно да аднаго звяртаюцца на «ты», Лявон можа без усялякай напругі звяртацца да людзей на «Вы». Яму пасуе гэткая выхаванасць і *grzeczność*, калі хочаце. Некаторыя з нас спрабавалі пераходзіць з простанароднага «ты» на артыстычнае «Вы», але ж далёка не ва ўсіх гэта атрымлівалася. Лягчэй тыкаць, а вось выкаць ужо цяжкавата, бо «Вы» можа прагучаць занадта салодка ці задужа лісліва і выклікаць прыкрасць. Трэба мець добры слых, каб патрапіць у натуральнае «Вы». Лявон патрапляе. Мае слых.

Калі я аднойчы пачуў, як пяцігадовы сын майго сябра Франусь крычаў сваёй маці: «Ірка, жэрці давай! Бульбу фры хачу і колу з лёдам!» – мне згадаўся выхаваны рокер Лявон, яго заўсёднае «Вы» і яго артыстычныя бацькі – Артур ды Святлана, якія змаглі перадаць у спадчыну свайму таленавітаму сыну мастацкую абаяльнасць.

## Віно

Выдатна помніцца ўсё першае: урок, цыгарэта, чарка гарэлкі, пацалунак... Пра апошняе звычайна і не згадваюць, бо не лічаць апошні пацалунак за апошні, як і апошнюю праспяваную песню ніхто не называе апошняй. Спадзяванне на працяг, на лепшае заўтра, на будучы сезон – у нашай крыві. Можа, таму для мяне вельмі каштоўны ўспамін пра апошнюю бутэльку віна, якую мы выпілі разам з Лявонам Вольскім.

У пачатку дзевяностых быў залаты час для Беларусі. Усе ўсё стваралі. Пісаліся новыя кнігі, гралася новая музыка, гучалі новыя песні, утвараліся новыя партыі, адчыняліся радыёстанцыі і тэлеканалы, запачаткоўваліся новыя выдавецтвы – беларускі свет абнаўляўся. Кожнае новае пачынанне адзначалася шумным банкетам. Можна было ісці па вуліцы – і трапіць на банкет.

Так аднойчы я крочыў па вуліцы Максіма Багдановіча і сустрэў знаёмых, якія збіраліся адзначаць стварэнне новай радыёстанцыі. Журналістка Жанна ўзначаліла новае свабоднае радыё. З ёй я на старым радыё вёў хіт-парад, таму Жанна і запрасіла мяне на банкет. Пасадзілі мяне паміж жонкай мультыплікатара Ленкіна і рокерам Лявонам. Жонка мультыплікатара ўсміхалася, ды так шырока і прыязна, што мне захацелася выпіць мацаванага віна. Так здараецца, што ў цёплы сонечны чэрвеньскі вечар хочацца выпіць многа самага таннага віна.

Разам з Лявонам і Алегам Дземідовічам мы схадзілі на піўзавод. Там мясцілася маленькая крамка, дзе пустыя піўныя бутэлькі абменьвалі на поўныя – з півам і танным віном. У крамцы мы набралі віна, купілі за грошы. У залаты час можна было дамаўляцца – і мы дамовіліся набраць віна за грошы, а не за пустыя бутэлькі.

Пілі мы доўга. Мы пілі і спявалі. Лявон граў на гітары, а мы спявалі. Спявала журналістка Жанна і жонка мультыплікатара Ленкіна, спявалі Алег Дземідовіч і Юрась Ляўкоў. Пачатак дзевяностых – пявучы час. Мы так наспяваліся ў той вечар, што раніцай мне стала зусім кепска. Мне было так блага і млосна, што я даў сабе слова кінуць піць віно. Так, я з тых, хто дае сабе слова і яго трымае. Даў слова, што больш ніколі не зраблю ніводнага глытка таннага віна. Чарніла, вінчык, чырвоненькае, барматуха застаюцца ў маім мінулым.

Слова я стрымаў. Праз гадоў дзесяць я спытаў у Алега Дземідовіча, як і калі ён кінуў піць. Як жа моцна я здзівіўся, калі пачуў, што апошні раз ён піў віно разам са мной. Запамінальны атрымаўся банкет... Пасля яго і я, і Лявон яшчэ крыху выпівалі: Лявон – лёгкае, а я – моцнае. Пазней я, як і Дземідовіч, назаўжды завязаў з п'янкамі. Час стаў невясёлы, няспеўны, нестваральны. У такі час патрэбныя асцярожнасць, стрыманасць і цвярозасць, у такі час лепш не піць.

## Выступленні

Выступаць з Лявонам Вольскім на адной сцэне небяспечна. Зрэшты, як і са мной выступаць рызыкоўна. Мы можам не тое сказаць, не пра тое заспяваць і не тых, каго трэба, пахваліць. Яшчэ мы можам пажартаваць і пасмяяцца, паіранізаваць, пасцябацца – і спадабацца людзям. Мы вясёлыя. Мы шмат разоў стаялі на адной сцэне і нешта казалі ў адзін мікрафон.

Першы раз я выступіў разам з Лявонам, калі ён спяваў у рок-гурце «Мроя», ішла вясна 1985-га. Дзяржава зрабіла выгляд, што ўсім мастакам і музыкам можна выходзіць на вуліцу і спяваць свае песні, чытаць свае вершы, выстаўляць свае карціны і танцаваць. Можна? Выдатна! Мы выйшлі і выставілі карціны, і прачыталі вершы, і праспявалі песні.

Наша выступленне ў Траецкім прадмесці скончылася для мяне сумнаваценька. Цэнзары выбралі менавіта мяне для публічнага прыніжэння: яны забаранілі выдавецтву прадаваць маю першую кнігу вершаў «Груд». Увесь наклад парэзалі на лапшу і здалі ў макулатуру. Лявону, з яго «Мрояй», таксама забаранялі выступаць. Звычайна за пару гадзін да канцэрта прыходзілі электрыкі ў цывільным і абясточвалі сцэну. Лявон Вольскі прымаў гэта стаічна. Незадаволенасць ён хаваў за жартам: «Зноў ток скончыўся. Трэба пачакаць, пакуль новы падвязуць!» Фанаты «Мроі», Лявона і рок-н-ролу ўсё цудоўна разумелі...

Ёсць мы, і ёсць яны. Яны заўсёды будуць блакіраваць, адключаць, перашкаджаць, забараняць, разбураць; а мы будзем ствараць, маляваць, спяваць, выдаваць кніжкі і танцаваць. З таго першага выступлення ў Траецкім праляцела трыццаць пяць гадоў, але ў тутэйшым свеце не так шмат чаго змянілася, бо ўсё яшчэ небяспечна выступаць на адной сцэне з Лявонам Вольскім. І гэта мяне моцна радуе. Як і цябе, спадзяюся.

## Маштаб

Сказаць табе, што такое рок-н-рол? Скажу. Ты прыходзіш на рок-канцэрт у шэрым незашпіленым шыкоўным палітоне. Ні адна паскуда цябе не спыняе. Ты ідзеш праз гаманлівы і рухавы натоўп. Ты прадзіраешся да сцэны. Заскокваеш на яе. Гурт валіць рок-н-рол. Грае так, што ў слухачоў галовы адрываюцца. Фронтмэн крычыць. Ён крычыць пра важнае, пра самае важнае і патрэбнае. Ты здымаеш з сябе палітон і пачынаеш круціць яго над галавой. Ты танцуеш на сцэне і круціш над галавой палітон. Ты... Добра, гэта не ты танцуеш на сцэне і не ты размахваеш палітонам. Гэта я танцую, а Ігар Варашкевіч крычыць пра важнае і патрэбнае. Я, танцуючы, сыходжу за сцэну, затанцоўваю ў цемру і бачу там дзяўчыну. «Ты хто? – пытаюся – І што ты тут робіш?» – «Я – дзяўчына Лявона Вольскага!» – усміхаецца. Не веру. Перапытваю ў Алега Дземідовіча, а ён смяецца: «Так. Гэта Анечка – дзяўчына Лявоніса...»

Для ўсіх слухачоў, гледачоў і рок-н-рольшчыкаў той вечар мала чым запомніўся. Рокеры адыгралі канцэрт, народ паспяваў, патанцаваў, выпіў, адпачыў і павесяліўся. Мне ж вечар з раскручваннем палітона помніцца дэталёва, бо менавіта за сцэнай у час знаёмства з Анечкай я заўважыў, адчуў і зразумеў, што ў рокераў адбылася змена маштабаў. Раней рок быў стадыённым, манументальным, глабальным, а цяпер ён стаў рэгіянальным, карчомным, зрабіўся клубным і барным. Яшчэ ўчора можна было выйсці на рок-сцэну і паміж выступленнямі гуртоў крыкнуць: «Я стану вашым прэзідэнтам!» Учора было можна, а цяпер нельга, бо наша рок-сцэна змянілася, трансфармавалася, зменшылася. Месца Амерыкі, Брытаніі і Аўстраліі ў тутэйшых рокераў заняла Польшча ды Расея. Замест глабалізму і касмізму з іх пацяклі народнасць і правінцыйная краёвасць. Так супала, што сімвалам змены маштабаў у рок-н-роле для мяне стала дзяўчына Лявона Вольскага – Анечка – залатая паненка рэгіянальнасці. Яна прыйшла ў рок-тусоўку, а я з яе сышоў. І больш не танцаваў на сцэне, не высоўваўся ў прэзідэнты і не круціў над галавою дарагі палітон.

## Чамаданчык

На шматлюднай тусоўцы я ўбачыў Лявона з невялічкім акуратным чорным чамаданчыкам. Той чамаданчык меў манкую прывабнасць, і мне захацелася патрымаць яго ў руцэ, узважыць, памахаць ім, зазірнуць усярэдзіну, адным словам, пазабаўляцца мне заманулася.

«Лявоніс, дай чамаданчык!» – папрасіў я. Ён сумеўся і, зірнуўшы ў зямлю, адказаў: «Не магу! Я ў вобразе. Чамаданчык – частка майго сцэнічнага перса-

нажа. Аддам яго табе – разваліцца персанаж і я выпаду з вобраза, а ў мяне да выступлення засталося нейкіх пяць хвілін!» – «Разумею...» Сапраўды...

Тады я зрабіў для сябе адкрыццё: Лявон старанна рыхтуе свой сцэнічны вобраз. Ён можа стаць змагаром з бел-чырвона-белым тварам, можа зрабіцца замбаком, які паўстаў з пекла, можа стаць амерыканскім каўбоем, піратам Карыбскага мора, фанатам «Нірваны», растаманам, хіпаном ці прайдзісветам з прываблівым чамаданчыкам. Лявон на беларускай рок-сцэне самы вялікі майстар пераўвасабленняў. Змяняецца час – і змяняюцца вобразы, створаныя Лявонам. Сачыць за імі – адно задавальненне, бо вобразы здзіўляюць і ты ніколі не ведаеш, якога новага героя заўтра пакажа рок-артыст Лявон Вольскі.

## «Калідор»

Лявон Вольскі – рок-паэт. Як і кожны паэт, ён «не самотны, бо кнігу мае». Тая кніга называецца «Калідор». Друкавалася яна невялічкім накладам у правінцыі, выходзіла ў далёкім 1993 годзе, таму зараз «Калідор» цяжка знайсці нават у вялікіх бібліятэках.

Пакажу табе свой любімы верш Лявона цалкам. Зазвычай крытыкі цытуюць кавалкі твораў, мне гэта не падабаецца. Не стану я рэзаць верш на кавалкі. Чытайма:

***ЧЫРВОНАЕ ШКЕЛЬЦА***

Пачатак вясны
неадчувальны.
Ляснулі дзьверы.
Я знайшоў на асфальце
чырвонае шкельца.

Я выходжу з аднаго будынка
і заходжу ў другі.
Гэтак увесь дзень.
Учора я знайшоў на асфальце
чырвонае шкельца.

Зь неба падае сьнегадождж.
Вецер. Вільгаць. Слота.
У адным зь бясконцых будынкаў
я згубіў
чырвонае шкельца.

У паэзію Лявон увайшоў разам з сябрамі рок-паэтамі: Анемподам – Міхалам Анемпадыставым, Філам – Феліксам Аксёнцавым, Бабковым, Кнышом, Сысам і Сапач. Пра беларускую рок-паэзію яшчэ напішуцца добрыя словы, а я для аматараў жартаў нагадаю псеўданімы, пад якімі Вольскі надрукаваў вершы ў зборніку «Калідор»: Лявон Гамонскі, Гамон Кастольскі, Кастусь Ляванец, Валюсь Лявонскі, Кастон Кастусец, Лявось Гальскі, Гамусь Вальманец, Лятусь Магальскі, Саткусь Маганец, Кастусь Гаманец...

Верш «Чырвонае шкельца» падпісаны Лявонам Вольскім. Хто б сумняваўся! У найлепшага верша мусіць быць і найлепшы аўтар.

## Праекты

Лявон – мастак з праектамі. Іх у яго шмат розных: рок-гурт «Мроя», рок-гурт N.R.M., гурт «Крамбамбуля», рок-спектакль «Народны альбом», праект актуальных куплетаў «Саўка ды Грышка», вершы, сабраныя ў кнігу «Калідор», апавяданні, выдадзеныя ў кнізе «Міларусь», коміксы, намаляваныя ў часопіс «Бярозка»...

«Нам трэба падумаць і нешта зрабіць разам...» – кажа мне Лявон пры сустрэчы. Пагаджаюся, бо Лявон Вольскі – надзейны паплечнік у праектах.

«З Міхалам Анемпадыставым мы збіраліся зрабіць альбом з песнямі пра мора... Адкладалі на заўтра і даадкладаліся. Міхал памёр, і альбома пра мора не будзе...» – кажа Лявон. І мы маўчым, думаем, што б такое важнае і вартае зрабіць разам.

Як для мяне, дык самае вартае і важнае, што мы рабілі разам, – кнігі для дзяцей пра выбітных мастакоў. Кнігі пра Казіміра Малевіча, Марка Шагала, Хаіма Суціна, Восіпа Цадкіна, пра Віцебскую і Парыжскую мастацкія школы Беларусі. Лявон Вольскі і Андрэй Хадановіч пісалі ў тыя кнігі вершы, а я – казкі.

Пра Марка Шагала ў Лявона атрымалася так:

Шагала ведаюць у свеце
Усе – дарослыя і дзеці.
Паехаў з Віцебска ў Парыж ён
І там дабраўся да вяршыняў.
Вісяць ягоныя карціны
І ў Нью-Ёрку, і ў Афінах.
Ад Барселоны да Шанхая
Усе ў захапленні ад Шагала.
Але заўжды ты мусіш помніць:
Шагал – ён віцебскі, наш, хлопец.

Рабіць кнігі для дзяцей – ганаровы абавязак кожнага літаратара, але ж трэба і дарослых радаваць. Сумна, што не будзе праекта з песнямі пра мора... А можа...

## Барселона

Патэлефанаваў мне Лявон, дамовіліся з ім пра сустрэчу, і ён завітаў у майстэрню, каб распытаць у мяне пра Барселону. Каму іншаму я не стаў бы расказваць пра найлепшыя мясціны ў гэтым фантастычным горадзе. Нарасказваўся. Пакажаш чалавеку цудоўны куток у казачнай Каталоніі, а ён з'ездзіць туды, паходзіць, паглядзіць і выкажацца: «Дрэнь – твая Барселона! Я ж думаў, там сапраўды нешта надзвычайнае, а замест казкі бачу брудны паўднёвы горад, напоўнены дурнаватымі турыстамі, потнымі злодзеямі і крыклівымі нахабамі...» Пасля пачутай абразы ў бок Барселоны мне доўгі час ні з кім не хочацца пра яе гаварыць. Нашто карміць свінню апельсінамі? Марнатраўства адно. Так і расказваць пра Барселону варта толькі тым, хто цябе разумее і яе ацэніць.

Лявон Вольскі з тых, хто мяне разумее. Таму і расказаў я яму пра барселонскіх апосталаў: Пікаса, Гаўдзі. Міро. Расказаў пра праспекты Паралель і Дыяганаль, пра порт і вуліцу Рамбла. Лявон з'ездзіў у Барселону з жонкай Анечкай. Барселона ім спадабалася, так ён мне потым сказаў... Лявон умее быць удзячным, што важна, прынамсі – для мяне.

## Аўтапартрэт

У падземных пераходах я не кідаю грошы жабракам і музыкам. У мяне ёсць іншыя месцы для ахвяраванняў. Калі я бачу чужую бяду, то адразу згадваю розныя праблемы родных і блізкіх. Дапамагаю найперш сваім і лічу гэта натуральным.

Праўда, здараюцца і выключэнні. Калі чую ў падземным пераходзе сваю песню ці песню Лявона, я ўзнагароджваю музыку грашыма. Зразумела, што ў падобным выпадку я эгаістычна ўзвышаю і сябе. Так, узвышаю, але не толькі сябе. Звычайна вулічныя музыкі выконваюць песню «Тры чарапахі» або «Госці», выбраныя з безлічы Лявонавых кампазіцый. Каб я быў вулічным гітарыстам і спяваў у падземных пераходах, дык узяў бы іншую, спяваў бы песенны аўтапартрэт Лявона «Я рок-музыкант»:

Я не люблю шыкоўных баляў.
Я не прыхільнік эстэцтва.
Мне не даспадобы духоўны гандаль
І талент, які прадаецца.

Я не люблю салодкіх спеваў
І песень рэстаранны варыянт.
Я з тых, хто не шкадуе свае нервы,
Я рок-музыкант.

*Прыпеў: (2 разы)*
Я рок-музыкант старых традыцый.
Гэта не прызванне, гэта пазіцыя!
(...)

Я не шукаю славы таннай,
Я пяю не для грошай.
Я хачу застацца салдатам,
Салдатам цяжкага року.

І нішто ўжо мяне не зменіць,
Думаць і граць буду толькі так.
Я хачу памерці на сцэне.
Я рок-музыкант.

Унікальнасць аўтапартрэтнай рок-кампазіцыі мне паказаў Аляксей Казлоўскі з гурта «Сузор'е». На фестывалі «Тры колеры» ён падышоў да сяброў журы і праспяваў прыпеў:

Я рок-музыкант старых традыцый.
Гэта не прызванне, гэта пазіцыя!

Ён разы тры праспяваў «Я рок-музыкант», а потым сказаў: «Гэта лепшае, што я пачуў на фестывалі... Гэта проста супер!»

## Карціна

Заможны заказчык папрасіў Лявона Вольскага напісаць для яго гарадскі краявід. Ад падобных заказаў мастакі не адмаўляюцца, тым больш што Лявон заўсёды ахвяраваў вольны час і на жывапіс. Таго часу ў паспяховага рок-музыканта не так і шмат. Жывапісам Лявон займаўся нячаста, а таму і не ведаў, колькі трэба папрасіць за свежую карціну.

Каб не прадаць яе танна, ён патэлефанаваў аднакурсніку па мастакоўскім вучылішчы – Сержыку і папытаўся ў яго пра кошты на краявіды, напісаныя алеем на палатне. Сержык узрадаваўся, пачуўшы Лявонаў голас, але замаркоціўся ад пытання пра кошты на карціны. Ён так занудзіўся, што сказаў: «Лявон, ты лепш спявай, а карціны табе пісаць не трэба. Карціны няхай іншыя напішуць...» Давялося Лявону Вольскаму ісці ў мастацкі салон, каб паглядзець цэны на сучасны жывапіс.

## Палац Рэспублікі

Рускі рокер Юра Шаўчук у гады маладосці неяк сказаў журналісту Славіку Ахроменку, што ён ніколі нічога кепскага не скажа пра тых, хто выконвае рок-музыку. Тады рок быў пад забаронай, тады яшчэ не выпусцілі рускіх рокераў на Чырвоную плошчу ў Маскве і не ўзнагароджвалі іх медалямі ў Крамлі. Тады я

ледзь не прыняў гэтыя словы Шаўчука за такую патрэбную ўсім праўду. Я нават быў блізкі да таго, каб перастаць крытыкаваць розных ушлёпкаў з гітарамі.

Словы Шаўчука пра добрае стаўленне да братоў па сцэне я надрукаваў, нават ведаючы пра іх памылковасць. Большасць рускіх рокераў даўно сапсаваліся, сапселі і згнілі. Мала хто з іх дапамагаў беларускім рок-музыкам, калі тых пачалі забараняць. Выступленні Лявона Вольскага, Ігара Варашкевіча, Касі Камоцкай, Змітра Вайцюшкевіча ў Беларусі забаранялі і забаранялі. Іх забаранялі за мову, за палітыку, за сацыяльную праблемнасць, за крытыку ўлады... Красамоўны факт – ніводны беларускі рокер не выступіў на сцэне Палаца Рэспублікі. Бог мой, якая толькі дрэнь не спявала і не высцёбвалася на той сцэне! Такое адчуванне, што там адспявала, адкрыўлялася і адтанчыла ўся брыда з усяго свету.

Чаму я так кажу пра артыстаў? Ёсць у мяне жудасны прыклад Гарыка Сукачова, які спяваў у Палацы Рэспублікі, калі мы – тутэйшыя – выносілі з падземных пераходаў параненых і глядзелі ў твары людзей, забітых падчас тэракта ў мінскім метрапалітэне 11 красавіка 2011 года. Не браты мне такія Гарыкі... Ведаю, людзі прасілі Сукачова спыніць канцэрт. Не спыніў, Сука...

Сам я ніколі не быў у канцэртнай зале Палаца. Не быў, бо даў сабе слова, што не зайду туды, дзе забаронена спяваць Лявону. Нашто мне ісці ў месца, дзе забаронена спяваць нашы песні, мае песні?

Цяпер пра светлае... Упэўнены, што канцэрт Лявона Вольскага ў Палацы Рэспублікі адбудзецца абавязкова.

## Пафас

Няма нічога больш агіднага за фальшывы пафас. Палітыкі і эстраднікі будуюць кар'еры менавіта на такім фальшаку, які ў афіцыйных выданнях называюць папулізмам. Яны ў нас за дабрыню, святло, справядлівасць, свабоду, роўнасць, братэрства... Яны супраць зла, гвалту, цемрашальства... Яны на словах больш святыя, чым сам *Pontifex Romanus*. Таму так цяжка напісаць шчырую пафасную кампазіцыю, так цяжка скласці праўдзівы пафасны верш і цяжка зрабіць пафаснае запамінальнае выступленне.

Зрабіць тое можна толькі ў адпаведны час. Ён прыходзіць, абвастраюцца зрок і слых. Ты пачынаеш бачыць і чуць, пачынаеш адрозніваць фальш ад шчырасці, святло ад цемры і дабро ад зла. Амаль дваццаць гадоў у Беларусі цягнуўся застой, у якім панавалі стома, вяласць і абыякавасць. Еўрамайдан у Кіеве скалануў свет. Пафас зноў зрабіўся запатрабаваным. Ён спатрэбіўся, каб падтрымаць крымскіх татараў, пасля таго, як было задушана іх вызваленчае паўстанне. Ён запатрабаваны на вайне за Украіну. Быў ён запатрабаваны і на святкаваннях стагоддзя з дня абвяшчэння беларускай незалежнасці. Шмат хто з нашых музыкаў і паэтаў напісаў пераканаўчыя пафасныя творы, але найлепш гэта атрымалася ў Лявона.

## Цукеркі

Раскажы мне, як чалавек есць цукеркі, – і я скажу табе, хто ён такі... Можна з гэткага боку падысці да напісання літаратурнага партрэта, а можна зайсці з супрацьлеглага: апісаць, як чалавек есць шакаладную цукерку, а чытач сам прыдумае яго іншыя паводзіны, уявіць яго кулінарныя захапленні і любімыя пачастункі.

Я сустрэў Лявона, які еў шакаладныя цукеркі, у падземным пераходзе пад пляцам Перамогі. Ішоў ён павольна-павольна, у адной руцэ трымаў каробачку, у другой – цукерачку. Ён еў цукерачку з асалодай, як падлетак. Побач з Лявонам павольна-павольна ішла ягоная сяброўка Янка, яна таксама ела цукерку, як падлетак. Лявон і Янка выглядалі закаханымі падлеткамі, якія на апошнія грошы купілі

сабе каробачку шакаладных цукерак. Яны і мне прапанавалі пачаставацца, але я вырашыў не парушаць іх шакаладны інтым сваёй доўгай прысутнасцю. Падзякаваў за прапанаваны пачастунак і сышоў, радуючыся простаму цукерачнаму шчасцю.

## Дзятліковіч

Літаратар Віктар Дзятліковіч прапанаваў мне паўдзельнічаць у праекце – зрабіць кнігу «Іх Мроя. Іх N.R.M.». Ён пісаў тую кнігу і фінансаваў яе выданне, а я мусіў арганізаваць яе друк. У нейкі момант я падумаў, што лепш зрабіць кнігу пра Лявона Вольскага, бо такі праект мне бачыўся больш паспяховым, больш актуальным і перспектыўным. Кніга пра рок-гурт «Мроя» выглядала мемуарнай, яна не зусім адпавядала нашай футурыстычнай музычнай тусоўцы. Дзятліковічу я сваіх думак не выказаў, бо мне прапаноўвалася тэхнічная, а не творчая праца. Нашто прытарможваць працэс? Сэнс? Няхай з'явіцца кніга пра гурты, а пазней, калі зоркі складуцца патрэбным чынам, выйдзе кніга і пра Лявона. У кожным разе, дзве кнігі пра беларускі рок-н-рол лепей за адну.

Неўзабаве «Іх Мроя. Іх N.R.M.» пабачыла свет. Мы з Віктарам не вельмі спадзяваліся на вялікую ўдзячнасць герояў кнігі, але не думалі, што некаторыя з іх пачнуць нам пагражаць судамі за «хлусню і скажэнне фактаў». Да судоў, дзякуй Богу, справа не дайшла, бо кніга атрымалася, скажу проста, кампліментарнай. Ну і фактычных памылак у ёй, з майго, рэдактарскага пункта погляду, не было. Размовы, што вяліся вакол кнігі «Іх Мроя. Іх N.R.M.», пераканалі мяне ў правільнасці намеру рабіць кнігу пра Лявона Вольскага. Ён, будучы рэальным лідарам, ніколі не цягнуў коўдру папулярнасці на сябе. Наадварот, ён рабіў усё, каб падзяліцца ўласнымі здольнасцямі і поспехам з іншымі. Лявон – творца шчодры. Кнігу пра яго абавязкова нехта некалі напіша, можа, нават той жа Віктар Дзятліковіч.

## Індульгенцыя

Усе ўсіх крытыкуюць. Несупынна. Усе ведаюць адказы на самыя цяжкія пытанні... Што рабіць? Як перамагаць? Дзе знайсці шчасце? Здаецца, што спыніць крытыканства немагчыма. Ты ж і сам ведаеш: як лепш, дзе памылкі, хто вінаваты. Сказаць сабе «Стоп, крытыкан!» цяжка. Разумею. Таму я не адзін дзень думаў, як спыніцца і перастаць крытыкаваць іншых творцаў. Прыдумалася індульгенцыя. Бяру і выдаю паэту ўяўную індульгенцыю ад Адама Глобуса. Паэт можа рабіць што і як захоча, а я не стану яго крытыкаваць.

Сам я не люблю трасянку, мне ад яе робіцца млосна. Калі чую ад каго-небудзь «Лупіце на трасянцы!», мне хочацца скуру злупіць з такога агітатара. Ёсць толькі два чалавекі, якім я згодны дараваць трасянку: Марыя Мартысевіч і Лявон Вольскі. Чаму? Таму што я выпісаў ім індульгенцыі.

У мяне бывае добры настрой, і тады я кажу: «Лявону Вольскаму можна ўсё! Выдаю яму індульгенцыю!» Можа падацца, што індульгенцыі я выдаю лёгка. Не! За ўсё сваё доўгае жыццё я выдаў іх толькі тры. Іх атрымалі: Лявон, Марыйка і Лёнік Тарасевіч. І ўсё! Не стану казаць, што гэта найлепшыя творцы ў нашай роднай Беларусі, але для мяне яны адметныя тым, што я забараніў сабе іх крытыкаваць. Гэта досыць цяжка. Не люблю правінцыю, не люблю фестываль «Басовішча» (не з'ездзіў на яго ніводнага разу), не люблю сармацкі партрэт... Я шмат чаго не люблю з таго, што любяць і культывуюць Лявон, Марыйка і Лёнік. Пэўна, і яны не прымаюць многія з маіх каштоўнасцяў. Свет дзівосны, бо разнастайны. У іх – адзін, у мяне – другі, і для мяне важна прыняць іх свет цалкам, без выняткаў. Прыняць і зразумець.

Уладзімір Ліпскі



...Аддавай.
Дары.
Рабі дабро.
Светла жыві...

# Каранацыя душы

***Споведзі***

## Баюся – не баюся

**Баюся** пустых дзён.

Яны адлятаюць у беззваротны вырай. Яны – белыя кропкі ў пражытай яве. Яны – беспаветраная прастора, у якой можна раптоўна сканаць.

**Не баюся** сабак-г*а*ўкалаў.

Пабрэшуць, ахрыпнуць ды пачнуць хвастом віляць, вінавата ў вочы зазіраць.

**Баюся** сумных вачэй.

Асабліва – на фотах могілкавых пліт. Пад імі ляжаць непрачытаныя кнігі. Якія ж мы ўсе недарэкі, няўцямы, трындунцы да тых, хто побач. І жывыя!

**Не баюся** маланкавай навальніцы.

Пабліскае. Пагрыміць. Паплачацца. І пойдзе сваёй дарогай, у сваю далячынь. Гэтак жа і ў чалавечай яве.Ператрывай. Перацярпі. І бура нягод праміне. Адчуеш свежасць дыхання.

**Баюся** пакрыўдзіць малога.

Ён жа, пакрыўджаны, вырасце і пачне помсціць ды шкодзіць іншым. Не забывайма: нават адна слязінка Дзіцяці здольна ўскалыхнуць увесь свет.

**Не баюся** праўдзівых слоў.

Яны лечаць, а не калечаць. Яны колкія, але ёмкія. Імі ачышчаецца душа. Праўда, як дым, вочы слепіць, як агонь, сэрца апякае, але ж затое волю гартуе, характар гаючай расой прамывае.

**Баюся** няверных.

Нават у народнай песні спяваецца: "Ой, не аддай мяне маці за нявернага..." Дужа пагана на душы, калі няверными выяўляюцца сваякі, сябры, суседзі, саслужыўцы. Усе на літару "С" – сіпла сіпяць, слаўна майструюць сваё сіло. Супакойвае, што няверным забяспечаны шлях у пекла.

**Не баюся** ночы.

Біблейская мудрасць падказвае: усе мы не сыны ночы, а сыны дня. Ноччу мы ўсе раўня, улагоднікі падушкі, коўдры. І толькі розныя сны наведваюць нас, бо самі мы неаднакавыя, штучныя чалавекі.

**Баюся** страціць нектар зямнога раю.

Нектар шукаюць, здабываюць рупныя пчолкі. Цалюткі дзянёчак зумкаюць каля кветкавых раслін. А здабычу нясуць у вулей, каб самім жыць, каб лекаваць людзей. Як не адкрыеш старажытную міфалогію, богі наталяюцца напіткам нектару. Вераць, ён забяспечыць ім бяссмерце. А мой нектар – чалавечнасць. Не згубіць, не збядніць, не страціць высокае званне Чалавека. Застацца ім ва ўсіх праявах жыцця!

**Не баюся** адзін хадзіць па лесе.

Даўно паверыў, што прырода вакол мяне – дабрадзейка. Дрэвы – сябры: дуб моц дорыць, бяроза вочы лашчыць, ліпа настрой надае, асіна легенды нашэптвае, сасна залатым цяплом саграваe, елка ёлкай прапануе стаць. Лясныя дары – спевы птушак, крамяныя баравікі, зорачкі суніц, пацеркі брусніц, лузанчыкі арэхаў. Лес – мой лекар, мая адпачывальня.

**Баюся** рыбку з кручка ўпусціць.

А раптам яна была залатой? А раптам загаварыла б чалавечым голасам? Што папрасіў бы ў чараўніцы? Каб усё, што маю, ніхто не адабраў. Каб лапцямі не тапталіся па маім гонары.

**Не баюся** абжорства.

З ваеннага маленства Мама вучыла ашчадна есці скібачку хлеба. Калі крошка ўпала, падымі, павініся. Еш, што даюць. Не забудзь падзякаваць за наедак. Так і раблю!

**Баюся**, каб свечка жыцця зарана не згасла.

Калі гэтага не асцерагацца, то можна раней смерці памерці. Жыві і радуйся, чалавек, кожнаму імгненню жыцця. За яго і трымайся!

**Не баюся** адзіноты.

Хай яе баяцца плеткары, ананімы, сквапнікі, гвалтаўнікі, злодзеі, хабарнікі, нелюдзі. Калі я адзін, я не адзін. Са мною, у думках і ў сэрцы, усе, каго люблю і паважаю. Нават мёртвых не пакідаю. Сваёй памяццю доўжу іх век. І хачу, каб гэты ланцужок памяці быў бясконцым.

**Баюся** гадзюкі ядавітай.

Паўзе, атруту нясе. Не ведаеш, пад якой калодай вартуе цябе, што на розуме ў яе. Страшна, што людзі самахоць прыдумляюць і вырабляюць атрутную зброю. Каго знішчаць збіраемся? Падобных да сябе?

**Не баюся** начальства высокага.

Яно не вечнае. А жыць з ім трэба па адных і тых жа законах: не ўкрадзі, не падмані, не злоўжывай, не хітры, не лайдач. Дык гэтаму ўсяму мяне навучылі Мама і Тата. Жыву і працую сумленна. Няма падстаў для боязі.

**Баюся** пажараў.

Дужа асела ў памяці, як гарэла ў вайну наша вёска Шоўкавічы. Асабліва зырка агонь віхраваў над бацькавай хатай. Палыхалі яго бандарскія вырабы, дровы, маміна кудзеля, мае цацкі. Барвовыя языкі полымя, а над імі – чорна-сівыя клубы дыму. Той далёкі страх калашмаціць мае сэрцы па сёння.

**Не баюся** вытыркнуць нос на мароз.

У адну з дзіцячых зімаў на спор лізнуў марозны малаток. Язычок імгненна прыліп да металу. Ледзь разнялі мае абдымкі з жалезам. А як толькі снег сыходзіў, бегаў басанож паўсюль ажно да глыбокай восені. Такая загартоўка ўсяліла веру – не дрэйфіць перад марозам, а наталяцца яго ядраным падбадзёрлівым паветрам.

**Баюся** страціць надзею.

Ёсць меркаванне, што надзея – мой і твой зямны компас. І калі яна памірае, то ўсім уцехам каюк. Пачынаецца імклівы спуск з вышыні, якую здолеў узяць. Дык вось жа чаму перад сном, спавядаючыся за пражыты дзень, прашу ў Бога яшчэ хаця б адзін дзянёчак райскай явы. А ў ім абяцаю мець светлы настрой і жаданне рабіць дабро. Іншага нам не дадзена!

**Не баюся** баяцца.

Зусім бясстрашным быць проста немагчыма. Можна мець смеласць, адвагу, мужнасць. Праяўляць геройства ў пэўных жыццёвых падзеях. Але каб пастаянна жыць у бясстрашшы, зусім не палохацца небяспек, такое нармальнаму, не звіхнутаму розуму проста немагчыма. Дык вось чаму не варта палохацца боязі. Яна – не прыкмета слабасці, палахлівасці. Яна – асцярога ад бяды, дурных нечаканасцяў. А беражонага, кажуць, аберагае сам Бог.

## Веру – не веру

**Веру**, што Зямля круглая.

Куды б ні ішоў, што б ні рабіў, колькі б ні жыў – вяртаешся “на кругі свая”. Кругаверць у порах года, у днях тыдня, у гадзіннікавых стрэлках, у колах, абручах, пярсцёнках. Круг – сімвал пэўнай мяжы, завершанай абмежаванасці.

У дзяцінстве марыў выйсці з нашых Шоўкавічаў па сцяжынцы праз Дуброву, трапіць праз Вузнаж, Гагалі, Горваль у Рэчыцу. Пасля – у Гомель, адтуль – у Чарнігаў. За Украінай, Малдовай – праехаць па ўсёй Еўропе, пераадолець акіян, перасекчы Амерыку, зноў акіян і па ўсёй даўжэзнай Расіі вярнуцца праз Оршу, Жлобін, Светлагорск у свае мілыя Шоўкавічы. Такой вандроўкі не здзейсніў за першыя восемдзесят гадоў жыцця. Ды ўсё-ткі веру, каб сабраць усе вёрсты майго жыцця, то якраз атрымаўся б зямны шлях па кругу нашай планеты.

**Не веру** сіноптыкам і палітыкам.

Першыя могуць дакладна сказаць пра надвор’е толькі ў канцы дня.

Другія апантана вераць, што толькі яны правільна жывуць, стратэгічна думаюць, плённа вырашаюць праблемы. А жыццё выстаўляе свае адзнакі. І часта зусім процілеглыя.

Сіноптыкі і палітыкі, усяліце веру ў маю душу. Не дайце зняверыцца маім спадчыннікам.

**Веру**, што іду да веры.

Напісаў свае трыццаць тры малітвы. І паверыў, што існуе нейкі вышэйшы розум, нечая высокая воля. Яны і кіруюць намі, і вядуць да веры. А калі не ісці іх дарогай, то жыццё на зямлі становіцца пустым.

**Не веру** ў пагібель папяровай кнігі.

Слова знаёміць, знітоўвае людзей. Вуснае слова жыве разам з чалавекам, з ім і памірае. А пісьмовае – сягае ў вечнасць. Яго можна агучваць, ажыўляць,

вяртаць з небыцця. Кніга да таго ж мацуе мускулы душы, акрыляе розум. Кніга – трэнажор, элексір нашай чалавечнасці, наш духоўны скарб.

**Веру** – зло заўсёды будзе пакарана.

Калі не адразу, то праз гады яно раскрыецца, і той, хто яго ўчыніў, панясе заслужаную кару.

Мама некалі распавядала такую байку. Два мужыкі забілі ў лесе свайго таварыша. Сведкаў не было. Толькі ў небе праляцелі над месцам трагедыі журавы. Адзін з катаў з'яхіднічаў: "Вунь паляцелі Іванавы сведкі". Іх ахвяру звалі Іванам. Праз шмат гадоў сядзяць на вясковай лаве старыя, а ў небе ляціць жураўліны клін. Адзін з былых забойцаў пазубаскаліў: "О, Іванавы сведкі ляцяць". Запозненае прызнанне і раскрыла тайну забойства.

Зло можа адрыгнуцца на спадчынніках у іншых радаводных каленах. Зло не падлягае забыццю, сціранню часам, вымыванню з памяці.

**Не веру**, што жанчыны другасныя сярод людзей.

Яны не з рабрыны Адама. Яны, як Святы Дух, першымі адкрылі нашу планету і зачалі на ёй жыццё.

У свеце ўсё самае значнае жаночага роду – вада, зямля, кніга, пчала, хата, карова, кура, зарплата, пенсія, гарэлка... Жаночая Вясна – адкрывае зямлю, расквечвае яе, дорыць надзею. Жаночая Зіма – хавае зямлю пад белай коўдрай, беражэ яе, карміцельку, пад белай коўдрай, для спадчыннікаў Адама і Евы.

Жанчыны – верныя каханкі, святыя мамы, цярплівыя жонкі, мудрыя выхавацелі, а ў любой прафесіі – таленавітыя стараценлі. Дык ці могуць такія быць другаснымі?

**Веру** ў заўтрашні дзень.

А без такой веры ці варта жыць сёння?

Сакрэт даўгалецця – у памяці прайшоўшых дзён, гадоў. Чым болей іх назбіраецца, тым вартасней век чалавека. Жыццё – не тыя дні, што прамільгнулі, а тыя, што аселі ў памяці.

**Не веру**, што кусаюць нас толькі камарыхі.

А што ж у пару паляванняў робяць іх "мужыкі": піва п'юць, загараюць, у карты гуляюць? А мо чакаюць, пакуль іх жонкі кровушкі назбіраюць? Тады яны нап'юцца і пачнуць ухажорыць, як у "Дударыках" Анатоля Грачанікава:

Нізка ў полі
Травы гнуцца,
І да самай да зары
Навакол мяне віюцца
Жаніхі, як камары...

Камарэча – аднаго поля семя. Дык вось жа чаму і прыдворная камарылля з даўніх часоў пляце інтрыгі ў сваіх карыслівых мэтах. А творчыя гурты спяваюць і танчаць "Камарынскую". Ды так спрытна, што ніводзін камар носа не падточыць.

**Веру** ў прымаўку: што аддаў, тое і тваё.

Аддаў своечасова пазыку, прыходзь па новую.

Аддаў сыну, дачцы пяшчоту, атрымаеш ад іх ласку і спагаду на ўсё жыццё. І нават пасля.

Аддаў сябру сваю вернасць, яна абавязкова вернецца ад яго да цябе, як вяртаюцца з выраю акрыленыя птушкі.

Аддаў каханай сэрца, яна падорыць табе сваё, трапяткое і вернае.

Аддаў пот душы сваёй любімай рабоце, чакай прызнання, узнагарод, павагі. А гэта ўзвышае тваю чалавечую годнасць.

Аддавай. Дары. Рабі дабро. Светла жыві. І з табою заўжды кожную ночку будзе глядзець прыемныя сны сама Пані Лагода.

**Не веру** ваўкалакам.

О, гэтыя людзі-пярэваратні адно страхоцце. То ён табе ласкава ў вочы зазірае, то падножку падставіць. Ад такога можна чакаць чаго заўгодна.

Сустракаліся ваўкалакі і на маім шляху. На словах ляпеча пра павагу, на справе – рассявае лухту пра цябе. Адной рукой каву налівае, другой рукой паклёп шлёпае.

Кажуць, мядзведзь некалі чалавекам быў. Вывернуў кажух поўсцю наверх, каб напалохаць Святога, дык з таго часу і ходзіць на чатырох. Зімою лапу смокча ў бярлозе. Каб мая воля, усіх ваўкалакаў сабраў бы ў вальеру і бясплатна паказваў бы, як людзям не трэба жыць.

**Веру**, што ў кожным мозгу ёсць розум.

Нехта з армянскіх сяброў збаіў сваю народную байку. Варона сабрала варанятаў і пачала павучаць: "Дзеці мае, будзьце заўсёды пільнымі, бойцеся чалавека. І асабліва таго, які нагінаецца, каб падняць камень". Птушаняты амаль хорам пытаюцца: "Матулька, а што нам рабіць, калі чалавек загадзя узяў камень у руку?" Маці адказала: "Ну, цяпер я ведаю, што вы не загінеце".

Гэтая разумная байка як бы пра дурных варон. Але чаму дужа багата людзей, якія паводзяць, паступаюць інакш? Усё таму, што маючы мазгі, не закладваюць у гэты прыродны рэактар атамнае паліва – розум. Вось і кажуць мудрыя беларусы: "Маеш галаву, то май і розум; не сілай б'юцца, а розумам; па адзенні сустракаюць, а па розуму праводзяць; без розуму галава – кацёл".

Трэба зразумець, паверыць, што мазгі, як і пчаліныя соты з мёдам, трэба рупна напаўняць гаючым розумам. А гэта вялікая, акрыленая праца. Стань пчолкай, павер у сябе, чалавек!

**Не веру**, што павукі жывуць, каб толькі муху злавіць.

Павук-ткач не вельмі геглы з віду: пузёнак, як бочачка, ногі, як граблі, галава, як булава. А робіць жа гарбун сеткі – адно заглядзенне. Павуцінка да павуцінкі, круг за кругам і вымайстроўвае такі абрус, што на ім з ухвалаю адпачывае сонечны промнік, ранішняя расінка, нябесная дажджынка, чулліві ветрык. І мушка ці камарык часам хочуць пагайдацца на павуковым гамаку. Іх гулі заканчваюцца абедам гаспадара. А пасля ён зноў выштукоўвае новыя ўзоры, якія падабаюцца чалавеку, промніку, расінцы, дажджынцы, ветрыку і ... мушцы.

**Веру** ў тое, што мамы не паміраюць.

Бо чаму ж мая Мама з'яўляецца ў снах, каб папярэдзіць пра бяду, каб усміхнуцца, калі мне дужа добра на душы?

Чаму, калі ўдару малатком не па цвіку, а па пальцу, крычу: "Мама!.."?

Калі хварэю, гару ад тэмпературы, вымольваю ў Мамы паратунку, дапамогі?

У памяці, у сэрцы кажынны дзянёчак нашу Маму. Яе партрэт, як іконка, – у маім рабочым кабінеце, перад адпачывальным ложкам. Яна са мною, пакуль буду дыхаць. Дзецям і ўнукам наказваю помніць маю святую маму Марыю, якая падаравала мне, а, значыць, і ім, самае дарагое ў свеце – жыццё!

## Умею – не ўмею

**Умею** працагаліць.

Хто навучыў? Бацькі!

"Сынок, паеў сунічак? Смачныя? Цяпер вазьмі граблі, бяжы на сенакос, парастрэсвай траву, якую раніцай скасіў..."

"Сынок, выспаўся? От і будзь здаровенькі. Можа б, вядзерца вады прынёс з калодзежа..."

Тата і Мама не загадвалі, а прасілі. Як жа адмовіць ім?

А калі падрос, сам здагадваўся, чым падсабіць бацькам у хаце, у агародзе, у двары. У дзявятым класе на лета мне выдалі "Працоўную кніжку калгасніка". З подпісамі і пячаткамі дырэктара школы Сакалоўскага і старшыні калгаса Кар-

лоўскага. Кожненькі дзень выходзіў на працу: араў, касіў, гроб сена, падцягваў копы да стога, пасвіў кароў...

Усе мае рабочыя выхады фіксаваў сваім подпісам наш брыгадзір Валік Бельскі.

Удзячны ўсім, хто прывучаў працаголіць. Гэта навука ці не галоўнае ва ўсім маім свядомым жыцці. Дзецям і ўнукам даклярую народную мудрасць: “Хто працуе, той і мае”, “Маннай кашай з неба сыты не будзеш”, “Не той харош, хто прыгож, а той харош, хто для дзела гож”, “Хто працуе, таму і шанцуе”.

**Не ўмею** апускаць рукі.

Пра рукі шмат выслоўяў. Можна працаваць абы з рук. Бывае, чалавек адбіваецца ад добрых рук, усё ў яго валіцца з рук, грэе рукі на чужым, дае волю рукам, з рук вон дрэнны, нячысты на руку, не сваімі рукамі жар заграбае...

Для мяне самае страшнае, ганебнае – апусціць рукі. А гэта што? Стаць пасіўным, завянуць, страціць бадзёрасць, жаданне лётаць. Апусціць рукі тое ж, што і скласці крылы, падтуліць хвост, прызямліцца.

Не хачу, не жадаю, не цярплю апускаць рукі ні пры якіх бурах, навальніцах, перунах. Хай усе нягоды разбіваюцца аб мур майго сумлення.

**Умею** слухаць бывалых ды мудрых.

Ад умелага майго слухання нарадзіліся дакументальныя аповесці пра кампазітара Ігара Лучанка, артыстку Марыю Захарэвіч, акадэміка Віктара Парфёнава, аграрыя Рыгора Бабчанку, рэжысёра Валерыя Анісенку, легендарную гераіню вайны Зінаіду Тусналобаву-Марчанка...

Уменне слухаць, выслухваць заклалі ў мяне Мама Марыя, і яе сястра Анюта, Агата. Як жа яны ўважліва, далікатна слухалі, калі я нешта апавядаў ім. Не зводзілі вачэй з мяне, міла ўсміхаліся, асцярожна перапытвалі. Даверліва паважалі мае словы. Бачылі ўва мне шчырасць і як бы раўню сабе.

Прыёмамі сваіх настаўніц спаўна карыстаўся, калі гутарыў з выбітнымі асобамі сваіх кніг.

Умела слухаць ды на вус матаць – мае плённыя ўрокі жыцця.

**Не ўмею** лапці плесці.

Хаця бацька цярпліва вучыў рабіць гэты абутак. Хаця я ахвотна насіў яго і ў школу, і ў грыбы, і на сенакос. А вось плесці лапці, як і плесці інтрыгі, не асвоіў і не ўмею.

Лапці, як і шмат што іншае, беларусы даўно здалі ў музеі. А вось гонар, белая чысціня, вернасць свайму “чароўнаму балоту” – вечны наш скарб. І я даражу ім! Мы, беларусы, аніколі не здадзім гэты скарб у музей.

**Умею** чужыя слёзы выціраць.

Гэта раблю ўжо трыццаць гадоў, працуючы ў Беларускім дзіцячым фондзе. Горкія слёзы сіротаў, хворых, пакрыўджаных лёсам дзяцей балюча адгукаюцца ў маім сэрцы. Слабыя, параненыя, маладзенькія душы павінны мець свайго заступніка.

Ці плачу сам? Плачу! Але імкнуся, каб маіх сухіх слёз ніхто не бачыў, не адчуваў. Дабрачыннікі, як і лекары, плачуць потайкам.

**Не ўмею** крыўдзіць крыўдлівага.

Яго лёс пакараў бачыць, адчуваць крыўду там, дзе яе няма. Дык навошта ж падліваць масла ў агонь?

А вось сапраўднага крыўдліўца, які праяўляе брудныя ўчынкі ці то словамі, ці то дзеямі – ненавіджу. Боль і горыч нашу ў сэрцы на такіх пачвараў. І не стамляюся быць у кроўнай крыўдзе. Такі я “дабрадзей” для некаторых людзей.

**Умею** жыць без грошай.

Грошай даўней людзі не мелі. І жылі! Пазычалі. Мяняліся. Выручалі адзін аднаго. І ўсё гэта знітоўвала людзей у адно цэлае – сям’ю, радавод, паселішча, грамаду, племя, народ.

Калі з’явіліся грашовыя знакі, народ прыдумаў свае тармазы: будзем мы,

будуць і грошы; хто не мае, той не траціць, той спакойна спіць; багаты – хто нікому не вінаваты...

А я жыву па-свойму: у мяне грошай мала, але я самы багаты чалавек на свеце, умею цешыцца тымі сродкамі, якія ёсць.

Наш зямляк, паэт Ігар Шклярэўскі хораша напісаў пра грошы, і я з ім згодны:

Дай мне все: я не стану богаче.
Все возьми: я не стану бедней...

**Не ўмею** на свінні ездзіць.

У дзяцінстве, калі пасвіў рохкалаў, паспрабаваў у свой двор уехаць верхам на рабой. Вішчэла, матлялася па баках, пакуль не скінула мяне, пастушка.

З таго часу – толькі на сваіх дваіх, на сваім веласіпедзе, на сваёй машыне. На ўсіх астатніх рухавіках – па білецiку, па талону, па жэтону. І не дазваляю, каб на мне пад'язджалі, мной кіравалі ды зацуглівалі.

**Умею** сябраваць.

Сябар для мяне – спадарожнік жыцця, як блізкі родзіч, скарб душы, падарунак лёсу.

Цаню ў сябра адпрыродную сціпласць, непаказную інтэлігентнасць, шчырую дабрыню, здольнасць дзяліцца радасцямі і бедамі, спагадай і жалем. А яшчэ – уменнем спачуваць, дараваць, памагаць, змагацца за сябра. Веру: свайго сябра нельга адкрыта ўшчуваць, бо гэтым самым робіш балюча не толькі яму, а і самому сабе.

Сэрца маё нястомна плача па тых сябрах, хто ўжо ў высокіх нябёсах. А тым, хто яшчэ на зямлі, згадваю тужлівую фразу пісьменніка Валянціна Тараса. Стаім з ім каля сажалкі на Лысай Гары. Ён курыць, і праз дым чарговай зацяжкі раптам прызнаецца: "Во, Уладзімір, дажыўся. Няма каму нават патэлефанаваць..."

Беражыма адзін аднаго пакуль дыхаем!

**Не ўмею** жыць толькі для сябе.

Грэбці да сябе – эгаістычнае жыццё. Яно роўнае смерці.

Трэба ўсвядоміць: спачатку ты жывеш дзеля тых, хто цябе нарадзіў. Яны злучаны з табой пупавінамі.

Далей жывеш для тых, каго сам нарадзіў. З імі – пакуль гарыць твая свечка.

Далей пачынаеш уздымацца да Айчыны і разумееш, што свае здольнасці і талент ты павінен пакласці на яе алтар. Каб доўжыліся ў ёй жыццё, воля, прыгоствы, каб твайму роду не было зводу.

Адчуй гімн у сваё душы, павер у сябе і здолей спець сваю песню для людзей. Ды веруй, што калі-небудзь хто-небудзь абавязкова падхопіць тваю мелодыю.

**Умею** ваяваць за сваю, беларускую мову.

Прыклад таму – мае 41 год служэння "Вясёлцы", Дзецям, Мове.

Наша выпакутаваная мова плача, просіць, шукае заступнікаў, абаронцаў. Наша напеўнае Слова пакладзена ў падмурак нацыі. Дабудаваць велічны храм дзяржаўнасці – гонар усіх пакаленняў беларусаў.

Хай натхніць іх на гэта мудрасць вялікага італьянца Аліг'еры Дантэ:

"Я асуджаю на вечную ганьбу тых зламыснікаў Італіі, якія ўсхваляюць чужую народную мову і пагарджаюць сваёй. Я сцвярджаю, што заахвочваюць іх да таго пяць паскудных прычын. Першая – слепата, якая шкодзіць распазнаць здольнасці чалавека; другая – хітрая адгаворка; трэцяя – сквапнае славалюбства; чацвёртая – меркаванне, поўнае зайздрасці; пятая і апошняя – подласць духа, маладушша... Родная мова была саўдзельніцай майго зачацця і, такім чынам, адной з прычын майго быцця".

**Не ўмею** браць пад казырок.

Тыя, хто бяруць пад казырок, найчасцей і кажуць словы згоды: "Ёсць! Слу-

хаюся!..” Паслухмянства – не заўсёды прыкмета пакоры, вернасці, праўдзівасці. Страшна, калі паслухмянства сляпое, пачварнае, злачыннае.

Чалавек сумлення, у якім бы званні, пры якой бы пасадзе ні быў, па якой бы спецыяльнасці ні рупіўся, ва ўсіх жыццёвых калізіях павінен мець волю сказаць: “Гонар маю!” Чалавек гонару бяздумна пад казырок не возьме.

**Умею** слухаць Дзяцей, чужых і сваіх.

Аднойчы спытаў у дзетсадаўца Антоніка: “Што ўмеюць твае рукі? Што “зварыла” галава за твае гады жыцця?”

Антонік змоўк, задумаўся, пасур’ёзнеў ураз і даў такі адказ:

– Умею ўсе словы гаварыць. Не ўмею кашу варыць.

– Умею пазіраць на неба. Не ўмею адрэзаць хлеба.

– Умею есці грушы. Не ўмею мыць вушы.

– Умею лопаць апельсіны. Не ўмею купляць іх у магазіне.

– Умею катацца з горкі. Не ўмею лічыць зоркі.

– Умею схапіць камара за нос. Не ўмею злавіць муху за хвост.

– Умею хавацца за сланамі. Не ўмею трымаць язык за зубамі.

– Умею ў халадзільнік лазіць. Не ўмею з сястрычкай ладзіць.

– Умею тэлевізар глядзець. Не ўмею за сталом сядзець.

– Умею хрумстаць цукеркі. Не ўмею карыстацца сякеркай.

– Умею ў цырк хадзіць. Не ўмею траву касіць.

– Умею казкі выдумляць. Не ўмею іх запісаць.

– Умею робатаў маляваць. Не ўмею іх у космас запускаць.

– Умею ў хаце вэрхал учыняць. Не ўмею ключом дзверы адчыняць.

– Умею талеркі мыць. Не ўмею гузіка прышыць.

– Умею спаць. Не ўмею ад пчол уцякаць.

– Умею з дзецьмі гуляць. Не ўмею задачы рашаць.

– Умею трымаць рыбу ў руцэ. Не ўмею плаваць у рацэ.

– Умею да дзесяці лічыць. Не ўмею без мамы і таты жыць...

Слухаў я ды ўсміхаўся. І зрабіў такі прысуд:

– Хвалю, Антонік, ты стараўся! Што ўмееш – проста цуд. І вельмі радуе мяне – няўмельствы ведаеш свае.

*(Заканчэнне будзе).*

Уладзімір Мароз



…і ўбачыў я
новае неба
і новую зямлю…

# Новая зямля Якуба Коласа і Новае неба Казіміра Малевіча

Азарэнні бываюць не толькі ў навуцы – у культуры таксама. Назапашваецца крытычная маса роздумаў, разваг, назіранняў па пэўнай тэме, пэўнай асобе – і ў прадвызначаны час прыходзіць адкрыццё. Яно не бывае нечаканым, яно падрыхтавана тваім думаннем, але ўсё роўна яго з'яўленне – справа невытлумачальная, містычная, метафізічная. Магчыма, ты проста выбраны праваднікам, праз якога гэта павінна быць сказана? Толькі застаецца зафіксаваць, пакласці вынік прасвятлення на паперу. Бо мала што каму прыходзіць у галаў, а потым гэтак жа і вылятае адтуль. А запісанае ўжо не знікне.

Вось і цяпер. Падсвядома муляла, што "Новая Зямля", увасобленая ў аднайменнай геніяльнай паэме Якуба Коласа, у нашай культуры ёсць, а "Новага Неба" – няма. Як турзала і тое, што Казімір Малевіч выдае на самотніка, адзінотніка беларускага мастацтва, культуры. Як кажуць, не ад свету гэтага. Але ў пэўны момант, калі ніякага прадвесця, акрамя таго, што гэта быў дзень

Дабравешчання (7 сакавіка 2019 года), і не чакалася-прадбачылася, яно і прыйшло. Гэта ж вельмі проста! Калі Якуб Колас – Новая Зямля, то Новае Неба – Казімір Малевіч! Цяпер радок з “Адкрыцця святога Іаана Багаслова”, што па-грэцку ёсць Апакаліпсіс, “І ўбачыў я новае неба і новую зямлю; бо ранейшае неба і ранейшая зямля мінулі, і мора ўжо няма” атрымаў для мяне паўнату ўвасаблення ў беларускім мастацтве. Казімір Малевіч перастаў быць самотнікам-адзінотнікам, а стаў упоруч з Якубам Коласам. Абодва яны шукалі новага неба і новай зямлі, будучага іншабыцця чалавека (рэфлексіі раю) у новым зямным і нябесным Іерусаліме, дзе сасмягламу будзе дадзена напіцца з крыніцы вады жывой. І ўсё астатняе дадзена, неспасцігальнае розумам чалавечым, але адчутае інтуіцыяй творцаў.

З гэтага моманту, як цяпер любяць гаварыць, – з падрабязнасцямі. Слова “рай” у перакладзе з арабскай мовы абазначае “з усіх бакоў агароджанае месца”. Сядзібы дзяцінства Костуся Міцкевіча, будучага Якуба Коласа, – Акінчыцы, Ласток, Альбуць, Смольня, – быццам райскія куточкі на зямлі. А гэта ж цэлыя пятнаццаць гадоў жыцця! Арганічнага ды і бесклапотнага жыцця ў суладдзі са сваёй душой і прыродай. Але што будзе пасля ляснога раю? Назвай паэмы Колас свядома адсылае нас да Новага Запавету, да Апакаліпсіса. Словы “новая зямля” паклікалі рух думкі паэта ад незваротнага раю дзяцінства да пошукаў новых сэнсаў, даляглядаў, лепшага жыцця.

Варта думаць, што ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі добра выкладалі “Закон Божы”. Канстанцін Міцкевіч не толькі чытаў Евангелле, але і задумваўся над тэкстам і сэнсам Святога Пісання. Дарэчы, нідзе ў творах Коласа не відаць антыхрысціянскіх ці нават атэістычных матываў, вернікам ён заставаўся, на мой погляд, ўсё сваё жыццё. Таму і шукаў тую новую зямлю, дзе чалавеку добра, як у раі. Шукаў, можа, спачатку для сябе ў стане асэнсавання ўласнай унікальнасці, але потым, калі з творчым узвышэннем прыйшло асэнсаванне спалучанасці са сваім краем, і для ўсёй Беларусі, якая драматычнай гісторыяй выпакутавала сваё адраджэнне.

Хрысціянскі сэнс паэмы “Новая зямля” яшчэ слаба акцэнтуецца ў беларускім літаратуразнаўстве, шырэй – філасофіі. У гэтым рэчышчы можна згадаць толькі тэксты Уладзіміра Конана, нашага выбітнага філосафа, дзе аб хрысціянскай філасофіі жыцця ў творчасці Якуба Коласа, эсхаталагічных матывах у яго паэзіі гутарка вядзецца адпаведна сэнсу і мастацкай вышыні твора. А навідавоку стала трымаецца быццам бы раз і назаўсёды пастаўленае азначэнне паэмы як “энцыклапедыі жыцця беларускага сялянства”, дзе ў мастацкіх абліччах паўстаюць родныя і блізкія паэту людзі, іх спрадвечны лад жыцця, імкненне мець уласны кавалак зямлі, свой кут. Сапраўды, на першы погляд здаецца, дзе тут канкрэтна хрысціянскія развагі ці рэфлексіі? Адказ просты – акрамя таго, што Якуб Колас дае разгадку ў хрысціянскай назве, прычым узятай з самай загадкавай кнігі “Новага запавету”, якой ёсць Апакаліпсіс, сутнасць у тым, што паэт, гаворачы выключна аб сваім, змог выказаць агульначалавечае, датычнае хрысціянскай цывілізацыі, да якой належыць і Беларусь.

“Новую зямлю” можна адкрываць і чытаць з любой старонкі, з любога радка. Уласна, як і Евангелле. Сутнасць у геніяльнасці паэмы, яе эстэтычнай вышыні, непаўторнай мове, нязмушанай плыні слоў і вобразаў, якая стварае ўражанне, што гэта вышэй таго, што можа быць напісана чалавекам. Пры тым не забываймася, што вядзецца аб маладой беларускай літаратуры, а ўжо якая вышыня і глыбіня! Меў рацыю Уладзімір Конан, калі адзначаў недальнабачнасць нашаніўскага крытыка: “Вацлаў Ластоўскі арыентаваў беларускую літаратуру на агульнаэўрапейскі эстэтычны ўзровень творчасці. Але ж ён прагледзеў або не зразумеў мастацкія адкрыцці стваральнікаў клясычнай паэзіі (Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча), якія былі на ўзроўні лепшых узораў эўрапейскай паэзіі”. Так што

не трэба нам прыбядняцца, калі гаворым аб сваёй літаратуры, мастацтве, шырэй – культуры. А неразуменне, няведанне, неасэнсаванне не ёсць аргументам.

Гэтая тэза напоўніцу тычыцца і творчасці Казіміра Малевіча. Так здарылася, што маё заглыбленне ў іншасвет вялікага майстра адбылося не ў часе напісання нізкі вясёлкавых санетаў “Антытэза Малевічу”, не падчас працы над літаратурным сцэнарыем дакументальнага фільма “УНОВИС” і не ў пару працы над карцінай, здымкамі, а пазней, постфактум – таямніца супрэматызму не адпускае, кліча прагу яе развязання. Калі пісаўся сцэнарый, у пэўны момант прыйшла форма кінаэсэ і адпаведны змест. Я акцэнтаваў, што варта выйсці за звыклую дзяжурную рэфлексію толькі “Чорнага квадрата” нашага геніяльнага мастака. Бо ў Малевіча быў і чорны круг, і чорны крыж. А таксама квадрат, круг і крыж чырвоныя і белыя. Ад гэтага з’явілася драматургія: квадрат – уласна мастацтва, творчасць, круг – месца нараджэння, родная зямля, тыя гарады і весі, куды закідваў лёс мастака, крыж – лёс творцы, жыццё. І крыж для мяне быў вельмі важны, бо Казімір быў вернікам (“Бог не скінуты...”), у гэтым сэнсе пра яго можна сказаць тое ж, што і пра Якуба Коласа (хоць у царкву ці касцёл ні адзін з іх у савецкі час, натуральна, не хадзіў). А колеры – адценні розных сэнсаў быцця і іншабыцця.

Фільм пайшоў, як бывае ў рэальнасці, крыху іншым шляхам. Адмысловага акцэнту на тым, што Казімір Малевіч – беларускі мастак, не рабілася. Усё і так зразумела з кантэксту стужкі. Але тут можна зацеміць, што асабіста для мяне развязванне гэтага пытання адназначнае: вытокі роду з традыцыйна беларускім прозвішчам Малевіч у Беларусі – вёска Малева на Нясвіжчыне ці Капыльшчына. Думаецца, што для дасведчаных маіх супляменнікаў факт беларускага паходжання мастака ўжо не выклікае сумневу. Тым больш са з’яўленнем у беларускай культурнай прасторы фізіка Ігара Малевіча і яго кнігі “Казімір Малевіч. Узыходжанне на крыж лёсу”. Тым, хто яшчэ сумняваецца, нагадаю таксама аб яскрава выяўленых бел-чырвона-белых палосках у творах “Кампазіцыя (1932)”, “Чырвоная конніца” (1932), “Чырвоны дом”. Але з тымі, хто думае не так, спрачацца не буду. Проста адсылаю да вельмі трапнага азначэння постаці мастака з яго містыфікацыяй свайго жыццёвага шляху, якое зрабіў наш слынны Уладзімір Конан: “К. Малевіч належаў да той часткі беларускага радаводу, якая мела нават не дзве (як герой аповесці М. Гарэцкага “Дзве душы”), а тры душы: “закваска” беларуская, замешаная па-польску, а спечана па-руску”.

Толькі найперш не беларускае паходжанне прывязвае мастака да Беларусі, галоўнае тут – культурны кантэкст. Найважна, што супрэматызм нарадзіўся на беларускай зямлі. Гэта сталася ў час Першай сусветнай вайны, калі Казімір Малевіч служыў у інтэнданцкім палку недалёка ад Смаргоні, побач з мястэчкамі Крывічы і Княгінін, на лініі Смаргонь-Нарач-Паставы-Браслаў. Нумары супрэматычных кампазіцый – гэта пазначэнне дня знаходжання мастака на вайне (сцвярджэнне Ігара Малевіча). Зразумела, што “супрэмусы” народжаны ваеннымі ўзрушэннямі, часам катастрофы, калапсу, адпаведна – апакаліптычнымі настроямі. Але якраз як пошук выйсця ў постапакаліптычную прастору. Архіважна і тое, што супрэматызм арганізацыйна (аб’яднанне УНОВІС – зацвярджальнікі новага мастацтва) аформіўся таксама на нашай зямлі, у старажытным беларускім горадзе Віцебску, дзе Казімір Малевіч замкнуў кола сваіх мастацкіх пошукаў.

Калі глядзець на нашу дзяржаву як суб’ект гісторыі (а гэта адзіна правільны і аб’ектыўны пункт гледжання ў варунках незалежнай Рэспублікі Беларусь), то ўсё, што адбывалася на беларускіх землях, мы павінны бясспрэчна лічыць часткай нашай гісторыі і культуры. Той жа энцыклапедычны прынцып, прыняты ва ўсім свеце, тычыцца і знакавых постацяў, якія нарадзіліся ў Беларусі ці зрабілі важкі даробак тут. Таму неаспрэчна, што супрэматызм Малевіча і феномен мастацкага жыцця ў Віцебску ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя – неад’емны і

важкі складнік беларускай культуры. У пацверджанне вышэйазначанага нагадаю ўстойлівы выраз “Энцыклапедыя зрабіла Францыю”. І згадаю, як быў прыемна здзіўлены, нават уражаны, калі ў музеі сучаснага мастацтва ў Нью-Ёрку ўбачыў карціну Марка Шагала, дзе пад прозвішчам быў надпіс “Беларусь - Францыя”. Вось, падумалася, абсалютна аб’ектыўны энцыклапедычны падыход. І не трэба ўзаемных прэтэнзій, каму належыць тая ці іншая асоба.

Што самае дзіўнае, феномен супрэматызму і УНОВІС, нараджэнне адной з адметных форм сучаснага авангарднага мастацтва якраз на беларускіх землях – з’ява невыпадковая. У кантэксце зместу гэтага эсэ яшчэ раз адзначым вядомую ісціну, што ў Госпада нічога выпадковага не бывае. У пасляслоўі да сваёй фундаментальнай кнігі “Храмы і манастыры Беларусі 19 стагоддзя ў складзе Расійскай імперыі. Перастварэнне спадчыны” даследчык архітэктурнай спадчыны Беларусі, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук, доктар архітэктуры Інэса Слюнькова адзначае, што “Тэхналогія архітэктуры XIX стагоддзя быццам прадказвала займальную гульню з прадметна-беспрадметным і павяртанне на трансфармацыю мастацкай формы, якая стала маніфестам будучага мастацтва авангарда”. То бок перастварэнне, перакадзіроўка функцыянальнага і вобразна-сімвалічнага зместу архітэктурнага ландшафта ў Беларусі ў XIX стагоддзі (перабудова храмаў) угрунтавала магчымасць эксперыменту ў мастацтве, якая найбольш яскрава праявілася ў Віцебску. Так што зусім не на голым месцы ўзнік у беларускай культурнай прасторы супрэматызм.

Удакладнім для сябе аб цэнтрах сусветнага авангарда. Францыя – кубізм, сюррэалізм; Італія – футурызм; Расія – абстракцыянізм, канструктывізм; Германія – экспрэсіянізм. Нарэшце, Беларусь – супрэматызм. Прынамсі, так пазначана ў Вікіпедыях. Прыемная кампанія, калі гаварыць жаргоннай мовай. Але што цікава, усе вышэйазначаныя накірункі ёсць проста фармальнымі пошукамі – можна іх працягваць, можна і не пераймацца гэтым. А супрэматызм – нешта вышэй аднаго з накірункаў авангарднага мастацтва, гэта ўжо спроба філасофіі. Нездарма і сёння, праз сто гадоў адпачатку, у свеце існуюць больш за трыста груповак паслядоўнікаў Малевіча і супрэматызму. Ганарыцца беларусам дакладна ёсць чым.

Дзеля лірычнага адступлення згадаю, што сярод шматлікіх меркаванняў пра Малевіча, супрэматызм можна сустрэць і проста дзіўную логіку. У тэксце аднаго беларускага пісьменніка прачытаў наконт таго, ці беларускія мастакі Шагал і Малевіч? Дык вось, першы – беларускі, бо на карцінах можна пазнаць Віцебск. А другі – не, бо ў яго супрэмах Беларусі не відаць. Дык што, беларус не можа прыдумаць і ўвасобіць нешта незвычайнае, высокае, планетарнае, новае? Ну, не можа такое зрабіць беларус у лапцях, таму і Малевіч – не беларус. Логіка, якая прыніжае, у скрайнім выпадку, асабіста мяне.

Але вернемся да галоўнага сэнсу нашых развагаў. Кожны вялікі майстра мастацтва сваёй творчасцю кліча да новага жыцця, спрабуе заглянуць за небакрай відочнага, падняцца да высокага духоўнага ідэалу. Пацвярджэннем гэтага з’яўляецца і творчасць Казіміра Малевіча. Яго супрэмусы (квадрат, крыж, круг, супрэматычныя кампазіцыі) – спроба заглянуць у космас, у наасферу, у іншасвет. Як гаварыў сам мастак, “Плывіце! Белая вольная бездань, бясконцасць перад намі!” “Каралём завоблачных прастораў” называла мастака і адна з яго вучаніц Ніна Коган.

Складанасць развагаў пра Малевіча ў тым, што яго творы няпроста, а то і немагчыма разгадаць – бо няма аналогій сэнсу. Як зазначае ў згаданай кнізе Ігар Малевіч: “Сэнс кожнай работы Казіміра амаль недаступны пры першым пpаглядзе. Спачатку знікае поле наўпроставых аналогій. Шматзначнасць і шматдумнасць прыходзяць пасля. Разуменне яго работ і сёння ў кожнага вельмі асабістае. Але яно, тым не менш, заўсёды ўгрунтавана на ўзрушэнні, новых ведах і бясконцасці пластоў адкрываемага сэнсу – сэнсу часу, прасторы і, несумненна, глыбокага

сэнсу формы". Сам мастак усведамляў такую магчымасць неразумення яго супрэматычных твораў, таму спрабаваў і ў слове выявіць свае пошукі асноў быцця, спрабаваў вербальна патлумачыць выхад за межы бачнай рэчаіснасці. Але гэта былі не заўсёды ўдалыя спробы даказаць лагічнымі довадамі і паняццямі тое, што адкрывалася яму ў мастацкай інтуіцыі. Таму і сёння кожны можа адкрыць у творчасці Казіміра Малевіча нешта сваё.

Думанне гэтага тэксту нарадзіла ў мяне парадаксальную здагадку. А што, калі супрэмусы Казіміра Малевіча ёсць спробай адлюстравання душы чалавека падчас яе існавання ў наасферы, у Новым небе? Сапраўды, гэта ж пытанне – як уявіць душу чалавека пасля сканчэння яго зямнога існавання? Душы розныя, як розныя людзі, у целах якіх яны месціліся. Думаў так ці не думаў мастак, але яго колеравыя кампазіцыі можна суаднесці са спробай паказаць душу. Паказаць адметнымі колерамі, разнастайнымі адметнымі геаметрычнымі фігурамі. І гэта ўсё ў бязважкай прасторы космасу. Якраз сродкамі нефігуратыўнага мастацтва, бо ў наасферы нічога фігуратыўнага няма. Што там ёсць і ў якім выглядзе, нікому невядома, але ж паспрабаваць уявіць можна. У Малевіча, на мой погляд, атрымалася так. Бясспрэчна адно – думаў ён аб Новым небе, іначай супрэматызм не змог бы перарасці проста авангардны накірунак у мастацтве і дарасці да філасофіі, якая і сёння выклікае пачуццё і будзіць думку.

Згадайма яго апошнюю віцебскую брашуру "Бог не скінуты: мастацтва, царква, фабрыка" (1922). Як лічыць Уладзімір Конан, мастак-філосаф хацеў сказаць: канчатковая мэта культуры ў шырокім сэнсе гэтага паняцця, уключаючы вытворчасць, навуку, мастацтва, – перадоленне матэрыяльнасці, выхад да чыста духоўнага, па аналогіі з рэлігійным ідэалам, – анёльскага, дасканалага быцця. Мастацтва і ёсць перадусім шляхам да боскай дасканаласці: гэтым шляхам ідуць творцы. Фабрыка імкнецца ў будучыні вызваліць чалавека ад матэрыі. У сваю чаргу царква хоча вызваліць душу ад цела – грэшнай матэрыі. У нябесным Раі для душы застанецца толькі малітва. Усе шляхі вядуць да адной мэты – дасканаласці ў боскім спакоі, а чалавека – да бессмяротнасці. А гэта значыць "Бог не скінуты, усё ідзе да Бога як абсалютнага быцця".

Усё ідзе да Новай зямлі і Новага неба, як вярнуліся б мы да згаданых напачатку слоў з "Адкрыцця святога Іаана Багаслова". І гэта хацелі выразіць у сваіх творах двое вялікіх творцаў, двое людзей аднаго веку, якія стаялі каля вытокаў новага беларускага мастацтва ў пачатку XX стагоддзя. Паэт і мастак, кожны сваім шляхам і сваімі сродкамі, але з адной надзеяй, калі прадоўжыць цытату з Апакаліпсісу: "І ўтрэ Бог кожную слязу з вачэй іх, і смерці ўжо не будзе; ні плачу, ні енку, ні болю ўжо не будзе; бо ранейшае мінула".

Павал Абрамовіч



...надышоў час назваць
асабісты рэкорд Коласа як грыбніка...

# «Баравікі мне часта сняцца...»

***Якуб Колас на грыбных ростанях***

Ёсць людзі, якія не ўяўляюць сваё жыццё без мора альбо гор. І калі яны доўгі час пазбаўлены любых сэрцу мясцінаў, то пачынаюць цяжка хварэць.

Да ліку такіх людзей належаў і Якуб Колас.

Сын лесніка, ён не ўяўляў сваё жыццё без лесу. Але лес насамрэч быў для яго толькі *пралогам,* уводнаю часткаю. У адзіноце, быццам мастак падчас ставарэння твора, Колас уваходзіў у лес, каб потым памкнуцца далей.

Так пачыналася *асноўная гісторыя,* уся *фабула* якой складалася пераважна з пошукаў грыбоў.

## Баравікі ў творах і ў снах

Шукаў і збіраў Колас пераважна баравікі. І сваіх персанажаў да гэтага занятку заахвоціў.

*"Для яго* [Андрэя Лабановіча. – *Заўв. аўт.*] *не было болей пры-*

*емнага занятку, як хадзіць па баравінах і шукаць баравікі. <...> Ды што за баравікі! А якое чыстае і звонкае паветра ў летнюю раніцу! Гукнеш, дык здаецца, што хвойкі пераклікаюцца адна з другою і кожная падае свой голас. А якая радасць для сапраўднага грыбніка, калі насунешся на мнагалікую сям'ю featureнага ўзросту чорных, з адценнем срэбранага налёту на маладых пругкіх шапках, ладных, ні з чым не параўнаных баравікоў! Усё тады забываеш на свеце, нават жандарскага ротмістра"* ("На ростанях").

Вялікі грыбны род баравікоў (міколагі налічваюць каля 300 відаў), які не можа існаваць без лясных дрэваў, усхвалены Коласам таксама ў вершах.

У тых мясцінах Коласавай паэзіі, дзе растуць баравікі, ззяе радасць жыцця, гучыць бадзёры рытм, вее мастацкай свежасцю. Баравікам, як вядома, патрэбны палітыя дажджом сонечныя ўзгоркі, каб расці.

*Чорнагаловыя, удалыя,*
*Баравічкі мае любыя!*
*Якою слаўнаю сям'ёю*
*Вы ўстаяце перада мною!*
*Я помню летнія часіны*
*І вас, грыбныя баравіны!*
*Ранюткі час. Нідзе нікога,*
*Між дрэў звіваецца дарога,*
*А па дарозе ты з кашом*
*У лес шыбуеш ціхачом...*

У іншым месцы аўтабіяграфічнай паэмы "Новая зямля", адкуль узята гэтая цытата, Колас прызнаецца, што *"Мне не даюць грыбы спакою // Баравікі мне часта сняцца..."*

Адзін з самых уплывовых сучасных спецыялістаў па снах і іх дэшыфроўцы, амерыканскі пастар і псіхатэрапеўт Дэвід Лоф кажа, што ядомыя грыбы бачаць у снах людзі, якімі валодае вялікае і светлае пачуццё, і калі чалавек збірае грыбы, яго чакае шчасце. А Настрадамус у сваім сонніку адзначае, што бачыць менавіта белыя грыбы ёсць абяцаннем поспеху.

Згадкі пра тое, што яму сняцца баравікі, прысутнічаюць не толькі ў мастацкіх творах, але і ў прыватным ліставанні Коласа.

Як высвятляецца, "грыбныя" сны пісьменнік бачыў тады, калі аніяк не мог патрапіць у лес ці наогул быў далёка ад родных мясцінаў.

*"Сегодня снился мне лес и белые грибы. Соскучился по лесу..."* – пісаў Колас мастацтвазнаўцу Антону Усу ў красавіку 1943 года. Гэты ліст быў адпраўлены з Ташкенту, дзе Колас апынуўся падчас вайны.

Сам пісьменнік, як бачна, тлумачыць свой сон простым сумам па лясах Беларусі і адзначае, што "война принимает затяжной характер".

Але сон Коласа збудзецца – роўна праз год ён пабачыць радзіму.

Магчыма, сны сапраўды не падманваюць, як і соннікі. Да прыкладу, Ванга сцвярджала, што белыя грыбы ў снах абяцаюць чалавеку гэткую радасць, на якую ён нават не разлічваў.

## Лісты пра грыбы да маленькага сына

Як і кожны грыбнік, Колас мог доўга і з веданнем справы размаўляць пра грыбы, найперш пра баравікі. Аднак падобныя размовы ён вёў толькі з самымі блізкімі людзьмі. І толькі іх запрашаў у лес на сумеснае "ціхае паляванне".

Так, у 1923 годзе Колас паехаў у Слуцк на курсы настаўнікаў, каб чытаць лекцыі па граматыцы і методыцы выкладання беларускай мовы.

Трэба адзначыць, што пісьменнік заўсёды кепска пачуваўся, калі быў вымушаны пакідаць сваю сям'ю і родныя мясціны. Нават, калі адсутнічаў тыдзень ці два.

У Слуцку 40-гадовы Колас таксама сумаваў, што адчувальна па ягоных лістах

да жонкі. Ён марыў, як хутка вернецца ў Менск і адразу выправіцца па грыбы з Юрыям, сваім другім сынам.

*“Ах, мой мілы Юрачка! Калі вярнуся дадому... пойдзем з табою ў лес грыбы збіраць, возьмем таксама маму, бо яна добрая, слаўная, мілая, харошая; праўда, сынок?”* – пытаўся Колас.

Падобныя прапановы 6-гадоваму сыну, спавітыя бацькоўскай любоўю і клопатам, ён рабіў амаль у кожным лісце са Слуцка: *“Я хачу, каб ты паправіўся за гэты час, бо калі не паправішся, то не будзе як узяць цябе ў лес грыбы збіраць”.*

Ці вось яшчэ адзін тагачасны ліст – цяпер са зваротам да жонкі Марыі: *“Ну, як прыеду, то пойдзем з табою ў лес на рэвізію баравікоў”.*

Гэтыя абяцанні пісьменнік выканаў.

## Баравічкі як сыночкі

Сапраўдная грыбная жарсць жыла ў сэрцы Коласа. Хаваць яе ад людзей, у тым ліку чытачоў, ён не збіраўся.

Баравікі былі для пісьменніка, без перабольшванняў, крытэрам паўнавартаснага жыцця.

*“Што ж у вас там? Ці многа назбіралі грыбоў? Ці ёсць яны цяпер?”* – пытаўся ён у жонкі (ліст ад 23.08.1926 г.). Тое ж пытанне – да свайго дзязькі Ігнася: *“Як там вы гадуецеся? Ці многа нагатавалі баравікоў?”* (ліст ад 13.09.1946 г.).

Іншым разам нястомны клопат Коласа пра грыбы апярэджваў ягоныя думкі аб уласнай сям’і. Так, у адным з лістоў да жонкі чытаем: *“Мілыя баравічкі! А яны так часта прыходзілі на думкі мне. Як жа твае здароўе? Як жывуць сыночкі мае?”* (ліст ад 08.07.1924 г.).

Грыбы тут нібыта зачын у былінах. Да таго ж два іранічныя сказы пра баравікі прыхоўваюць пяшчоту Коласа як мужа і бацькі.

І прыгледзьцеся: словы “баравічкі” і “сыночкі” – назоўнікі, ласкава “паменшаныя” паводле аднаго прынцыпу. Гэта часткі мазаікі, якія кладуцца ў адну агульную карціну жыцця. Светлага зямнога жыцця, немагчымага без родных істотаў і рэчаў.

Праз чвэрць стагоддзя змучанага стратамі і хваробамі Коласа ахопіць адчай. І мілай гульні з важкімі для яго словамі больш не будзе. Пісьменнік паставіць іх поруч, адно за адным, нібыта ў тэстаменце. І коска будзе не падзелам, не мяжою – яна выразна пазначыць аднародныя члены сказа: *“Я ўжо не адчуваю радасці жыцця, а проста ў сілу інерцыі тапчу зямлю. Шкода мне сыноў, баравікоў, дзеля якіх яшчэ хочацца пажыць колькі гадоў”* (ліст да Міхася Лынькова ад 27.10.1947 г.).

Аднак гэта будзе пазней, калі ўжо не будзе ў жывых ні жонкі Марыі, ні сярэдняга сына... Юрый Міцкевіч пойдзе на вайну і загіне; свайму бацьку 24-гадовы юнак паспее даслаць толькі два лісты. Кожны з іх будзе пачынацца словамі “Дарагі Тата”.

## У пошуках ідэальнага баравіка

Згадкі пра грыбы ў лістах да сям’і былі абавязковымі, але кароценькімі. А вось, да прыкладу, у ліставанні Коласа з паэтам і перакладчыкам Сяргеем Гарадзецкім баравікі “займалі” больш месца, чым іх супольныя літаратурныя справы і клопаты.

Іншым разам Колас вымушаны быў тлумачыць сёе-тое пра грыбное сямейства Boletus свайму сябры:

*“Дубовики – первые весенние грибы. Они называются у нас “выплывальниками”, “колосовиками”: появление первых белых грибов совпадает с периодом, когда рожь выпускает колосья”* (ліст ад 16.06.1938 г.).

Існуе некалькі версіяў, чаму Канстанцін Міцкевіч узяў сабе псеўданім Якуб Колас. Цалкам магчыма, што выбар прозвішча тлумачыцца насамрэч ягонай жарсцю – зборам каласавікоў (баравікоў).

Калі Колас упершыню наведаў дом Гарадзецкага ў Ленінградзе, яго пачаставалі белымі грыбамі. Відавочна, Сяргей і Анна Гарадзецкія ўжо ведалі, чым дагадзіць беларускаму літаратару. Ён аддаў належнае прыгатаванай страве.

З таго часу Колас пачаў рэгулярна слаць Гарадзецкаму пасылкі з баравікамі альбо перадаваць іх пры асабістых сустрэчах. Пачалося нават прыхаванае суперніцтва. Колас упарта жадаў знайсці такія баравікі, якія б па сваіх якасцях значна пераўзышлі ўсе астатнія. І тыя, якімі частаваў яго Гарадзецкі, і тыя, якія сам Колас ужо прэзентаваў яму.

*"Я послал тебе грамматику, которую ты уже, должно быть, получил. Вслед за грамматикой на помощь подойдут и белорусские боровики. И эти боровики меня не удовлетворяют. Но я все же хочу доказать тебе со временем, что я пришлю тебе таких боровиков, которыми останусь доволен и я"* (ліст ад 22.03.1937 г.).

Надышоў час назваць асабісты рэкорд Коласа як грыбніка. Вось ён: каля 400 штук за дзень; месца збору: лясы каля Балачанкі, вёскі пад Пухавічамі.

Пісьменнік, відавочна, не перабольшваў – не той ён быў чалавек.

## Пакуль Купала спіць на траве…

Не ўсе блізкія людзі падзялялі захапленне літаратара баравікамі. Нават самы лепшы сябра – Янка Купала, якога Колас нязменна называў "мой дарагі Янка" і з якім найчасцей выпраўляўся ў лес. Падчас гэтых сумесных вандровак Купала дэманстраваў абыякавасць да грыбоў.

Так, у часе адной лясной вандроўкі – у самы грыбны сезон! – пясняр збіраў зуброўку (верагодна, з дапамогай гэтай травы, якая таксама ёсць моцным антысептыкам, Купала лекаваў свае шматлікія хваробы).

Апынуўшыся ў лесе, Купала іншым разам проста спаў на зямлі, пакуль ягоны сябра паляваў на баравікі.

Аднойчы той "лясны сон" вылез Купалу бокам. Напрыканцы красавіка 1938 года ён моцна застудзіўся, а потым доўга змагаўся з плеўрытам і запаленнем правага лёгкага.

Сапраўды, знаёмыя і сябры Коласа па-рознаму ставіліся да ягонай жарсці. Але ўсе яны цудоўна разумелі, што як рыбе патрэбна вада, так і Коласу неабходны рэгулярныя паходы па грыбы.

*"З поўдня, ці, правільней будзе сказаць, з усходняга поўдня, прыехаў Колас. Сядзіць у Клязьме і думае пра баравікі (...) Ад думак і суму крыху схуднеў. Але маркі не здае: дуж ва ўсім як дуб",* – пісаў у снежні 1943 года Міхась Лынькоў у лісце да Пімена Панчанкі.

## Вялікія планы на лета

Што магло пазбавіць Коласа раўнавагі і спакою, акром злыбедаў?

Пісьменнік прызнаваўся, што ягоны настрой цалкам залежыць ад надвор'я. Таму ён усюды браў з сабой барометр, які называў "нязменным спадарожнікам жыцця".

Але Колас не быў метэазалежным, як цяпер кажуць. На здароўі пісьменніка адмоўна адбівалася толькі тое надвор'е, якое не спрыяла грыбам, – альбо празмерна халоднае, альбо празмерна засушлівае. Аб ягоным надыходзе Коласа папярэджваў барометр.

Затое, калі летам праходзілі дажджы, маркоту літаратара як рукой здымала.

*"Теперь дорога барометра изменилась, поэтому изменилось мое самочувствие и настроение. С 11 июля пошли дожди, и все повеселело. Сейчас появились грибы... <...> Я забросил рыболовство и круто взял курс на лес. Хожу по лесу, ищу боровики и размышляю, обдумываю свою поэму, а это много значит",* – радасна паведамляў Колас Гарадзецкаму (ліст ад 02.08.1940 г.).

Калі б не нудотная праца – бясконцыя справы ў Акадэміі навук БССР і

паседжанні ў Маскве, – Колас, верагодна, збудаваў бы сабе дом каля пушчы і жыў бы пераважна там, цалкам прысвяціўшы сябе літаратурнай творчасці.

Але ў варунках, калі перад савецкімі пісьменнікамі *"разгортвалася вялікая і прыўкрасная праца"* (цытата з выступа Максіма Горкага на паседжанні аргкамітэта Саюза пісьменнікаў СССР 7 верасня 1933 года), вольны час Колас меў зболышага толькі летам. І выдаткоўваць яго ён імкнуўся пераважна толькі на літаратуру і збіранне грыбоў.

*"Я збіраюся паехаць у разведку туды ж, у Беразіно* [вёска на беразе Свіслачы ў Пухавіцкім раёне Менскай вобласці. – *Заўв. аўт.*], *каб наняць на лета хату. Мясціна мне падабаецца. Шмат жоўтага пяску і маладога хваёвага лесу, у якім павінна быць многа баравікоў. Чакаю толькі, калі трохі будзе вальней",* – пісаў Колас Пятрусю Глебку (ліст ад 13.04.1938 г.).

Аднак аўрал на працы здараўся і летам. Ці адпачынак перакрэслівала хвароба. Так, у ліпені 1938 года Коласа напаткала запаленне лёгкіх – узнёслыя планы наконт лета, пра якія вясною ён распавядаў Глебку, былі скасаваныя. Цяжкая хвароба не збіралася адступаць нават напачатку восені.

*"Так и ушло все лето, мое самое лучшее время в году. Мне даже не удалось ни разу поехать в мои любимые леса и пособирать боровиков. Вот и все о себе",* – са скрухаю паведамляў Колас паэтцы Святлане Сомавай (ліст ад 20.09.1948 г.).

Няўмольны час іншым разам імкліва набіраў разбег, падначальваў сабе ўсё жыццё. І тады Колас марыў ужо не пра "грыбное" лета, а хаця б пра вольныя выходныя ці нават часінку, якую можна было б прысвяціць баравікам.

Паскораны рытм жыцця, які ўплывае на збор грыбоў, знайшоў адлюстраванне ў творах Коласа. Напрыклад, у паэме "Рыбакова хата" (1941–1947 гады):

*Ці ў лес дубовы на хвілінку,*
*Калі ён трапіцца грыбны.*
*Баравікоў збяруць яны*
*Ды едуць далей без упынку.*

## "Перадай беларускаму небу..."

Колас быў здольны да самакантролю, аналізу сваіх думак, пачуццяў і ўчынкаў. Ён выдатна разумеў, чым ёсць для яго грыбы.

*"Вось ужо другі год, як не збіраю я баравікоў. Усякі скажа, што я кажу глупства, што баравікі ў такі час* [час вайны. – Заўв. аўт.]... *гаварыць аб іх – проста не паважаць тае справы, якая займае ўсіх на свеце . <...> А калі я кажу пра баравікі, то я хачу сказаць аб маёй вялікай тузе па роднай зямлі",* – тлумачыў Колас Міхасю Лынькову (ліст ад 19.08.1942 г.).

Праз сем гадоў у лісце да Глебкі з санаторыя Колас, стомлены разлукай з радзімай, таксама не будзе стрымліваць свае пачуцці. З уласцівай яму шчырасцю ён ізноў скажа пра ролю баравікоў – цяпер не ва ўласным жыцці, а ў адносінах да Беларусі: *"Моцна цалую цябе. Перадай беларускаму небу, каб яно было ласкавым у дачыненні да нашай зямлі, да нашых лясоў і прынесла ім вялікі ўраджай грыбоў"* (ліст ад 02.03.1949 г.).

Для Коласа баравікі былі не толькі сімвалам дабрабыту і еднасці з прыродаю, але і сімвалам роднай краіны. Ураджай грыбоў ён успрымаў як падарунак неба, знак ягонай ласкі да Беларусі. Калі лёс выштурхоўваў Коласа з радзімы, ён непакоіўся, і тады, нібыта на паратунак, да пісьменніка прыходзілі "грыбныя" сны – сны пра магчымасць шчасця.

Але ўсё гэта на паверхні. Выпраўляючыся па баравікі, Колас адначасова пачынаў літаратурна-мастацкія пошукі, паглыбляўся ў роздум аб уласных творах, *"а гэта шмат значыць"*. Відавочна, толькі тут, а не за пісьменніцкім сталом, ён адчуваў моцны прыліў творчай энергіі. Справа жыцця (літаратура) і захапленне жыцця (грыбы) рабіліся адным цэлым.

Васіль Жуковіч



...любоў да Бацькаўшчыны і трывога за яе лёс тут праходзіць скразною лініяй...

# Сёмая вышыня

## *Рэцэнзія на кнігу Леаніда Левановіча*

***Леанід Левановіч. Міленіум. Раман, апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 344 с.***

Напрыканцы верасня пазамінулага года пошта прынесла мне пасылку для душы – ёмістую кнігу Леаніда Левановіча. На вокладцы, на якой пераважае фіялетавы колер, пад яскравай стужкаю вясёлкі прачыталася слова з буйных белых літараў “МІЛЕНІУМ”, а пад ім – удакладненне: раман, апавяданні. Кніга з аўтографам. Унізе – каардынат: в. Пятрылава. На асобным аркушы паперы Лёня чатырма сказамі выклаў істотнае: ”... заманулася даслаць табе кніжку “Міленіум”, бо невядома, калі змагу быць у горадзе. На жаль, маё вясковае жыццё не спрыяе сустрэчам з сябрамі. Усё мае плюсы і мінусы. А іншы раз так хочацца сустрэцца, пагаварыць пра жыццё-быццё”.

Жыццё ў вёсачцы на Вілейшчыне, дзе пісьменнік шмат гадоў не здымаецца з якара, вымагае безліч клопатаў, асабліва калі ўлічыць, што, апроч гароду і саду, дбайны гаспадар мае пчальнік і гадуе сякую-такую “мясную” жыўнасць. А ўсё жывое патрабуе




догляду. Узімку ж мусова клапаціцца пра дровы, цёплую печ, надзейную зімоўку пчолаў і г.д. Словам, на кожным кроку там, у вясковай стыхіі, патрабуюцца нястомныя рукі, бо канвеер чорнае працы рухаецца няспынна. Адарвацца ад гаспадаркі, каб завітаць да сяброў, што аселі пераважна ў сталіцы, складана. Затое... Калі казаць пра галоўнае ў жыцці творцы, то безумоўны плюс у тым, што вечарамі ён, далёкі ад шуму-тлуму гарадскога, можа засяродзіць увагу на сваіх рукапісах, натхнёны прыродаю, з якой штодня знаходзіцца сам-насам. "Самая чистая радость, радость природы" – заўважыў для сучаснікаў і нашчадкаў яснапалянскі бог прозы Леў Талстой. Генію самую чыстую радасць давала найперш прырода радзімы. Вядомае ягонае прызнанне: "Без своей Ясной Поляны я трудно могу себе представить Россию и моё отношение к ней". У Міхаіла Шолахава была свая жыццядайная радасць – станіца Вёшанская, дзе ён ствараў шэдэўры.

Для многіх беларусаў мілы родны кут аказаўся страчаным. Цяжкая доля дасталася і Леаніду Левановічу: яго родныя Клеявічы на Магілёўшчыне знішчыў "мірны атам", які апынуўся смертаносным... Яго бацькоўская хата ў радыяцыйнай зоне ўрасла ў зямлю, пад вокнамі разросся збуялы палын з крапівой і бур'яном. Тады компас душы творцы беспамылкова паказаў на Пятрылава. Тут пісьменнік ажыццявіў смелыя творчыя праекты, тут і сёмую вышыню адолеў – стварыў заключны раман рэкорднага не толькі ў нашай нацыянальнай літаратуры **сямікніжжа.**

Беларускаму чытачу даўно вядомыя хрыстаматыйныя глыбы: трылогія "На ростанях" Якуба Коласа і "Палеская хроніка" Івана Мележа – раманы "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Завеі, снежань". Яшчэ адна трылогія – раманы "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя" і "Свой дом" – на рахунку нашага сучасніка Генрыха Далідовіча. Вячаслаў Адамчык – аўтар чатырох раманаў. Ягоная тэтралогія склалася з раманаў "Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца", "Голас крыві брата твайго".

Як жа ў Леаніда Левановіча ўзнікла смелая задума ажно сямікніжжа? Неяк прачытаў я ў перыёдыцы, што яму даў прыклад Уільям Фолкнер, стваральнік шасці кніг аднаго цыклу. Я ўдакладніў, ці так гэта. Леанід пацвердзіў факт, пры гэтым дадаў, што Фолкнер – адзін з яго любімых творцаў.

Наш празаік, ні ў кога не запазычваючы якіх-небудзь мастацкіх сродкаў, няўрымсліва і глыбока ўзорваў гістарычную рэчаіснасць свайго краю; ад шчырага аратага да шчодрага сейбіта – адзін крок (зрэшты, у творчых асобаў якасці аратага і сейбіта пераплятаюцца, яны двухадзіныя): распачалася "Прыдняпроўская хроніка", першы яе раман "Шчыглы"(1986). Кніга – пра тое перажытае, што не проста прасілася ў душу, а ламалася ў яе – пра жыццё ў спаленай вёсцы, пра галоднае дзяцінства пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў. Заўважу: каб надаць твору маштабную прывязку да тагачасных падзей, аўтар паміж раздзеламі цытуе сёе-тое з "Перапіскі Сталіна з Рузвельтам і Чэрчылем".

Два наступныя раманы "Дняпроўскае хронікі" "Паводка сярод зімы" і "Дзікая ружа" распавядаюць – адпаведна – пра падзеі 1949-50-х гадоў і 1953 года, пасля смерці Сталіна.

Чацвёртая "хранікальная" кніга "Сіняе лета" – час касмічнага палёту Гагарына. Зразумелая эйфарыя ў грамадстве: зямляне здзейснілі першы крок у космас! І зразумелы прыўзняты настрой у галоўных герояў Андрэя Сахуты ды маладой жонкі Ады: у іх мядовы месяц...

У пятым рамане "Бесядзь цячэ ў акіян" аўтар вядзе сваіх герояў па жыцці ў

такі перыяд, які неўзабаве будзе названы застойным. Між тым Бесядзь спрадвечна нясе свае воды ў далёкі спрадвечны акіян; прырода не ведае застою.

"Палыновы вецер" – шостая кніга вядомай хронікі – пра жыццё ў радыяцыйнай зоне пасля чарнобыльскай катастрофы. Тут зусім побач і буйнейшая эпахальная геапалітычная катастрофа ў заскарузлай савецкай рэпрэсіўнай сістэме, з яе камуністычнай утопіяй, – распад "нерушимого" СССР.

Сваю сёмую вышыню "Дняпроўскай хронікі" Леанід Левановіч узяў, стварыўшы раман "Міленіум". Ягоныя персанажы працягваюць жыць у зоне радыяцыі, на зло Чарнобылю актыўна "займаюцца любоўю" і працай на зямлі, хочуць не выжываць, а жыць паўнакроўным жыццём, каб зону радыяцыі ператварыць у зону радасці. Ад выхаду ў свет "Шчыглоў" у 1986 годзе да выхаду "Міленіума" (2019) прайшло 33 гады (цэлае зямное жыццё Ісуса Хрыста). Цягам такога адрэзку свайго жыцця пісьменнік ішоў да запаветнае мэты.

Раман, названы, у адрозненне ад усіх папярэдніх, нязвычна для слыху беларуса, атрымаўся ўнікальны. Па-першае, ён завяршае сямікніжжа, а па-другое, адрозніваецца ад папярэдніх як фабулай, так і сродкамі яе развіцця. Дакументальная аснова шэрагу эпізодаў, фактаў ніколькі не замінала яму стацца мастацкім творам. У гэтым неардынарным творы ўзнаўляюцца падзеі 1999 і 2000 гадоў, рубяжа прамінулых і новага тысячагоддзяў.

Аднаму з герояў рамана Пятру Махавікову падаравалі на Новы год нататнік-штодзённік. Пятро даў сабе слова – штодня рабіць занатоўкі, бо двухтысячны год незвычайны. Абяцанае Пятро здзейсніў... І вось 12 раздзелаў "Міленіума" – гэта дзённік, поўны размаітых думак і пачуццяў бывалага чалавека. Пятро, сын лесніка, колішні ваенны лётчык, па стане здароўя камісаваны з войска, пазней аграном, пасля тэлевізійны журналіст-аграрнік і ўрэшце галоўны рэдактар выдавецтва. Ягоныя занатоўкі розныя па сваіх памерах. Асабліва грунтоўныя запісы ў лістападзе-снежні друхтысячнага, калі Штаты выбіралі прэзідэнта, і 156 мільёнаў выбаршчыкаў амаль сорак дзён не ведалі, каго абралі Прэзідэнтам: дэмакрата Альберта Гора ці рэспубліканца Джорджа Буша. Пятро тады ўпершыню завітаў у Амерыку ў госці да сваёй дачкі. Там яго моцна ўразіў прэзідэнцкі марафон, гранічна дэмакратычная выбарчая працэдура. Доўга лічылі й пералічвалі бюлетэні, засядаў Вярхоўны суд, і ўрэшце рэшт перавагай у адзін (!) голас суддзі Буш перамог і займеў пасаду Прэзідэнта ЗША.

Цікава, як трактуе сам Леанід Левановіч месца дзённікавых нататак Пятра Махавікова ў рамане, бо гэта датычыцца будовы арыгінальнага выдання. На тое ён і раманіст, каб выказаць думку вобразна: "Слова Пятро стрымаў, у выніку нарадзіўся адмысловы дзённікавы раман з 12 раздзелаў, які стаўся стрыжнем кнігі, вакол яго, нібы вінаградная лаза, абвіваюцца астатнія 16 раздзелаў твора".

Мне імпануе, што заключны раман "Дняпроўскай хронікі" Леаніда Левановіча выйшаў у прэстыжным выдавецтве "Кнігазбор". Пачынаецца ён проста і натуральна. З першае старонкі дыхае лагода. Лагода радкоў Уладзіміра Дубоўкі, узятых аўтарам у якасці эпіграфа. Крылатае чатырохрадкоўе пачынаецца метафарычна: "О Беларусь, мая шыпшына..." Лагода аўтарскіх радкоў пра ядранае маёвае ранне і аднаго з галоўных герояў у ролі касца: "Сонца яшчэ не выкацілася з-за лесу, калі Андрэй Сахута ўзяў пад паветкай касу і пакіраваў у сад, махануў некалькі разоў – маладая сакаўная трава рэзалася лёгка, хоць касу сёлета яшчэ не кляпаў. Увечары ўчора трохі касіў на двары – збіў ржаўчыну, якая асела каля пяткі касы за даўжэзную нашу зіму. Раз каса не кляпаная, дык трэба часцей яе мянташыць. Прайшоў два пракосы, адчуў цеплыню паміж крыл-лапатак. Падалося, што і ў галаве перастала шумець, як шумела, калі прачнуўся".

Як бачым, аўтар умела паказвае свайго героя ў новай ролі. Калі б нехта не чытаў раней кніжак Леаніда Левановіча з "Дняпроўскай хронікі", а ўзяўся

чытаць “Міленіум”, то з першага абзаца першай старонкі зразумеў бы: Андрэй Сахута – чалавек ужо немалады. Так, і ёсць, у рамане мы сустракаем яго ў першую пенсіянерскую вясну, яму – 61 год. Пакінуў пасаду намесніка міністра аховы прыроды і навакольнага асяроддзя, як ні адгаворвалі і жонка, і міністр. Ягоная дзейнасць у міністэрстве “не прыносіла радасці, не давала маральнага задавальнення”: ён, вопытны чыноўнік, разумеў, што бальшыня ягоных запланаваных так званых мерапрыемстваў будзе жыць толькі на паперы...

Сахута – гаспадар дбайлівы, чалавек памяркоўны, разважлівы, ніколечкі непадобны да нейкага зазнайкі, фанабэрыстага верхагляда ці зашкурэлага партыйца-функцыянера. Ён любіць не толькі касіць, а й заслухацца, як салоўка заліваецца на ўсе лады: “Нуй пявун! Хіба не цуд прыроды!” І Якуба Коласа можа працытаваць: “А нашча чарачку кульнуць // Усё адно, што ў рай зірнуць”. Чуйны да ўсяго жывога, ён можа зняць капялюш і накрыць яйкі, каб не астылі, пакуль квактуха падзяўбе зерня, пап’е вады і вернецца выседжваць куранят. Больш за тое, Андрэй поіць з рота слабенькае куранятка, ахрышчанае Рудзікам, а калі яно ўхапіла дзюбкаю казюрку, узрадаваўся, як дзіця, нядаўні намеснік міністра: “Малайчына! Будзеш жыць!” У Андрэя Сахуты жонка Ада, маці дачкі і сына, яна таксама клапоціцца пра сямейны дабрабыт. Помніцца, калі муж сказаў, што ідзе сячы дровы, яна адказала: – Добра. А я – у грады. Трава забівае агурочкі.

Аднак не ўсё проста і гладка ў лёсе Андрэя. Няраз успамінаў ён сваё позняе, на дзіва гарачае каханне. У памяці паўставала Паліна, якая вярнула яго да жыцця, дала крылы перажыць катастрофу. Леанід Левановіч не скупа распавядае пра гэта. Перадгісторыя захаплення Палінай даволі драматычная. Сахута быў партыйным ідэолагам, калі (пасля жнівеньскага путчу 1991 года) ляснула КПСС. Раптоўнае беспрацоўе, бясконцыя дакоры жонкі – гэта быў цяжкі ўдар. Самыя нахабныя з нядаўніх партыйных функцыянераў кінуліся ў камерцыю, заняліся прыхватызацыяй. Андрэй Сахута аказаўся адсунутым на ўзбочыну жыцця. Усе былыя сябры, апрача Пятра Махавікова, абарвалі з ім усялякія сувязі – кожны гроб пад сябе. І самае крыўднае – штодня даймала жонка: сядзіш, чакаеш з мора пагоды, даўно табе казала – кідай балбатню, шукай іншую працу. О, як ненавідзеў ён тады Аду! Жыццё з ёй здавалася адам. Узнікалі думкі нават пра суіцыд.

Ён пайшоў працаваць шараговым ляснічым у радыяцыйнай зоне. Але ад уедлівай Ады не было ратунку, працягвала балюча дапякаць: “...разумныя людзі ўцякаюць з радыяцыйнай зоны, а ты кінуўся, бы ў вір з галавой, пакінуў сям’ю, жонку”. Калі ж Андрэй падняўся на пасаду дырэктара лясгасу, “Ада заспявала іншым голасам: мілы, дарагі, каханы, цяпер ты можаш перайсці ў міністэрства, і мы зноў будзем разам”. А гэткага шчасця яму зусім не хацелася: у сэрцы ўжо ўладарыла Паліна. “І кожная сустрэча з ёй была святам. Святам душы і цела. Аказалася, што і Андрэй, і Паліна былі поўныя нерастрачанай ласкі і пяшчоты”. Разгарэлася іхняе каханне з першым снежаньскім снегам таго крызіснага 91-га. У Сахуты нават узнікла было жаданне збудаваць свой дом на маляўнічым беразе Бесядзі. Ён прыглядаўся да любімай мясціны, аднаго разу ў кампаніі з сябрам Дзмітрыем Акулічам і паэтам Алесем Пісьмянковым там расклалі цяпельца, зварылі юшку. Гучалі дасціпныя жарты, беларускія песні, вершы. Каларытна распавядае пісьменнік, асабліва – пра непрыдуманага героя – Алеся Пісьмянкова: “У Алеся русявы чуб, аржаны вус, натхнёны твар і густы басавіты голас (адзін кароткі сказ, а які дакладны вобраз! – *В.Ж.*). Слухаць ягоныя вершы было прыемна і цікава. Ён чытаў пра суседнюю вёску Белы Камень, дзе выпаў самы белы, самы чысты снег, пра вясну і чаромху, пра бярозавы венік, які лечыць ад стомы, млосці, скрухі, злосці. “Ода бярозаваму веніку” моцна ўразіла Андрэя, заўзятага аматара лазні. Ён абняў па-зямляцку таленавітага паэта”.

Каханне Андрэя з Палінай бясхмарным было да прадвесня. Пранюхала Ада,

што яе муж завёў каханку, сустрэлася з саперніцай, дырэктаркай школы ў раённым цэнтры. Сахута сказаў ёй цвёрда: едзь дамоў. Не лямантуй, не смяшы людзей, а калі хочаш разводу, дык я гатовы, хоць зараз... Аднак на развод ён не падаў, адгаварыла Паліна: у цябе дзеці, унукі, з жонкай пражыў цэлае жыццё. Не хачу будаваць сваё шчасце на руінах іншай сям'і, мне хопіць таго, што ў нас было. Успаміны будуць грэць мяне да скону. Словам, трохкутнік створаны Л. Левановічам ідэальны. Каханне з Палінай засталося ва ўспамінах, яе высакароднасць вярнула Андрэя ў сям'ю.

Пятро Махавікоў, былы тэлежурналіст і нядаўні галоўны рэдактар, усе падзеі і факты ўзважвае аналітычным розумам. 1 студзеня 2000-га ён занатоўвае: "Нечакана, неспадзявана, датэрмінова пайшоў у адстаўку Барыс Ельцын". Расіянам раіў галасаваць за Пуціна. "Расіяне – народ даверлівы, падумаюць, што з Пуціным "всё пойдёт путём", – піша Пятро. – Пажывем – пабачым". Пра Гарбачова мяркуе як пра асобу ўнікальную і разумее: стаўленне да яго вельмі не адназначнае. "Люта ненавідзіць Гарбачова Андрэй Сахута", – піша ён. – І гэта зразумела: як можа былы сакратар абкама па ідэалогіі, якому так добра жылося, ставіцца да чалавека, які пазбавіў яго грашавітай пасады..., персанальнай "Волгі". Але Пятра хвалюе не толькі сябра лёс, найперш – лёс краіны: за тое, што Беларусь стала самастойнай, незалежнай, трэба дзякаваць Гарбачову". (Мы цяпер ведаем, якая яна незалежная, але шанец быў і ёсць...) У Махавікова ўвесь час пульсуе крытычная думка. Вось ён што занатаваў 7 красавіка: "Учора Лукашэнка праводзіў нараду-накачку перад пасяўной. Дапытваў губернатараў, як школьнікаў. Каб паказаць, які ён разумны, усё ведае, які патрабавальны". А 16 жніўня Пятро назваў яго вялікім папулістам. Пятро, стаўшы пенсіянерам, не зрабіўся халодным сузіральнікам, а застаўся энергічным, дзейсным і цікаўным, шмат чытае, жыва цікавіцца ўсім, што адбываецца на радзіме. Аднойчы ў нататніку ён занатаваў: "Слухаў па радыё перадачу пра часопіс "Полымя". Старэйшы часопіс ледзьве дыхае: наклад каля трох тысяч. У савецкі час было стабільна – 11-12 тысяч. А цяпер у чатыры разы меней. Вось табе і адраджэнне. Задушыла, затаптала ўлада ўсё беларускае. І галоўны таптун – кіраўнік дзяржавы. Дзе яшчэ такое ёсць?" Падобна на тое, што Леанід Левановіч Пятра Махавікова "змаляваў" з сябе. Тое, пра што Махавікоў штодня піша ў нататніку (як на радзіме, так і ў далёкай Амерыцы), хвалюе не толькі яго, хвалюе мноства суайчыннікаў. І не толькі.

Раман "Міленіум" вылучаецца пазнавальнасцю. Тут, напрыклад, апавядаецца пра віднага вучонага, акадэміка Гаўрылу Гарэцкага і яго брата Максіма, класіка беларускай літаратуры, расстралянага катамі савецкага рэпрэсіўнага рэжыму, пра Барыса Кіта, славутага навукоўца, які вынайшаў паліва для амерыканскіх касмічных ракетаў. Яшчэ пра шэраг выбітных сыноў Беларусі.

"Міленіум", паміж іншага, можа зацікавіць маладых пчаляроў, яны знойдуць тут нямала карыснага. Пісьменнік сваім героям перадаў процьму каштоўных назіранняў з жыцця пчолаў, падзяліўся сваім багатым досведам шматвопытнага пчаляра. Апроч таго, прыемна залюбавацца тым, як цешыцца чыясьці блізкая душа: "Як цвіце грэчка! Над бела-ружовым палеткам да поўдня весела гудуць пчолы" (менавіта **весела,** несціхана, нястомна**,** аптымістычна яны гудуць. – *В.Ж.*); "Цяплынь, святлынь, пчаліны гуд. Для пчаляра – гэта найлепшая музыка. Колькі радасці ў гэтым пчаліным звоне!"; "На верасовых палянах уладарыць пчаліны звон. Нездарма людзі кажуць: ідзеш па лесе – верасок пераступі. Грэх таптаць мёдадайную кветку"... А як прыгожа гаворыцца пра выдатны прадукт: "Цёмны лясны мёд – гэта цуд прыроды. Гаючы, духмяны, каларыйны, у ім уся табліца Мендзялеева".

Кніга Леаніда Левановіча можа стацца сваёю ў маладых сем'ях, для якіх каштоўны досвед сталых людзей, а таксама ў дачнікаў, якія любяць гаспадарыць і

ў хаце, і ў гародзе, і ў садзе, шчыраваць на рыбалцы, у грыбах ды ягадах. Яна можа прывабіць і гарачых прыхільнікаў лазні, і аматараў актыўнага эратычнага дзейства. Дарэчы, пра секс тут гамонкі частыя і, так бы мовіць, аголеныя. (Пісьменнік не паленаваўся распавесці і пра тое, як "топча" леў ільвіцу і – з асаблівым смакам – як вераб'іха дагадзіла вераб'ю). Ды ёсць і дужа далікатныя эпізоды, кшталту вось гэтага: "Раптам ляснуў пярун, быццам раскалолася неба акурат над нашай хатай. Ева спалохана прыхінулася да мяне, моцна абняла. І мы горача цалаваліся пры святле маланак. А чым яшчэ займаліся, пра гэта не скажу".

Коратка – пра мову. Радуе, што аўтар ужывае натуральныя для роднай мовы словы, якіх няма ў слоўніках савецкага часу: вітальня, слухаўка, прыбіральня. Уражваюць і дыялектныя – назоўнік *плечавень* (здаравяка), дзеясловы *чабурэхнуць (вады ў лазні), матыкаваць (бульбу)* ды іншыя. Рэжа слых "Жыгулёнак". Калі ўжо аніяк нельга без такой расейскай маркі, то можна сказаць "Жыгуль". (Не так даўно трывалі мы на шыльдах "Зубронак", "Лябяжы", але дайшло: гэта ж не па-беларуску!)

Аднак час надышоў сказаць пра галоўнае: хто б ні быў чытач Левановіча – інтэлігент, рабочы, селянін, службоўца, – кніга "Міленіум", відаць, сталася ў ягонай сям'і настольнаю, калі ён патрыёт Беларусі, роднае мовы, нашае флоры і фаўны, калі ён неабыякавы да беларускае культуры, гісторыі, памяці народнае, да пытання пра незалежнасць краіны. Бо любоў да Бацькаўшчыны і трывога за яе лёс тут праходзіць скразною лініяй.

***

Прыемна да ўсяго сказанага дадаць: імя пісьменніка Леаніда Левановіча вядомае не толькі ў Беларусі. Прывяду такі факт: рэдакцыя нью-ёркскай газеты "Беларус" напачатку 2020 года віншавала яго, аўтара "Міленіума", "з важкім творчым набыткам", называючы яго сваім "сталым аўтарам" і "адным з самых знакамітых беларускіх пісьменнікаў". У газеце таксама названыя некаторыя прэміі, якімі ён уганараваны: літаратурная прэмія імя Івана Мележа, прэмія Федэрацыі прафсаюзаў, прэмія "Залаты Купідон". Насамрэч творчасць Л. Левановіча знаёмая чытачам Амерыкі. Назаву некалькі важкіх публікацыяў: у 2015-м выдавецтва *The Edwin Mellen Press* надрукавала кнігу *The Liguidators Wife* (Ліквідатарава жонка). У 2016-м у гэтым жа выдавецтве пабачыла свет кніга *Bitter Wurmwood Wind* (Вецер з горыччу палыну). Пераклад на ангельскую мову здзейсніў Ігар Казак, сын знакамітага на эміграцыі беларускага паэта Рыгора Крушыны. Левановіч друкуецца ў часопісе "US-BELARUS. OBSERVER", які выдае Ганаровы консул Беларусі ў Амерыцы Майкл Маргуліс. Ведаюць Левановіча і чытачы нью-ёркскай "Дэвідзонгазеты", і, безумоўна, беларусы свету, бо ён часта друкуе аповеды і эсэ ў газеце "Беларус".

Застаецца пажадаць выбітнаму празаіку, сябру СБП, у неспакойным творчым моры-акіяне сем футаў пад кілем! У юнацтве ён служыў на Балтыйскім флоце і ведае, што гэта – добрае пажаданне.

# Нашыя аўтары

**Абрамовіч Павал** – крытык. Аўтар літаратурна-крытычных тэкстаў для друкаваных і электронных СМІ, сярод якіх «Наша Ніва», «Arche», «Дзеяслоў», «Радыё «Свабода», «Белорусский журнал», агенцтва «Интерфакс-Запад» і інш. Аўтар кнігі «Мой спосаб чытання». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданаве. Жыве ў Мінску.

**Арашонак Арцём** – паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг «Сэнр'ю» і «Суткі без цябе». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Віцебску, дзе і жыве.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015), прэміі імя Ежы Гедройца (2018). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Вольскі Лявон** – музыкант, літаратар, мастак. Заснавальнік гуртоў «Мроя», «N.R.M.», «Крамбамбуля». Таксама граў і спяваў у гуртах «Новае Неба» і «Zet». Аўтар кніг вершаў «Калідор» і «Фотаальбом», кнігі прозы «Міларусь», п'есы «Народны альбом» (разам з Міхалам Анемпадыставым). Лаўрэат шматлікіх музычных прэмій ды фестываляў. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме харааства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Захарэвіч Зміцер** – паэт, бард. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Вершы друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. Аўтар трох электронных зборнікаў паэзіі. Лаўрэат «Фэсту аднаго верша» (2015). Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Казак Настасся** – паэтка. Скончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Вучаніца Школы крэатыўнага пісьма Адама Глобуса «Літара». Прымала ўдзел у паэтычных мерапрыемствах «Вечар» і «Літкава». Нарадзілася ў 1996 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічыах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Я. Маўра (1993), імя В. Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001) і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Мароз Уладзімір** — празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Нёстлінгер Крысцінэ** – аўстрыйская дзіцячая пісьменніца. Аўтарка больш як 100 кніг, сярод якіх «Ляці-ляці, майскі хрушчык», «Дзіця на абмен», «Вялікі спадар і чорны сабака», «Два тыдні ў траўні». Кнігі Нёстлінгер перакладзены на 38 моў, у тым ліку – беларускую («Карл з тэлевізара», а таксама «Бывай, Агуркові кароль!», якая прынесла пісьменніцы сусветную вядомасць). Лаўрэатка прэміі імя Х.К. Андэрсена (1984), прэміі памяці А. Ліндгрэн (2003). Нарадзілася ў 1936 годзе ў Вене. Памерла ў 2018 годзе.

**Някляеў Уладзімір** – паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сідарук Ігар** – паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сцяфанава Марыя** – паэтка, празаік, драматург. Двойчы лаўрэатка рэспубліканскага літаратурнага конкурса «Мая міліцыя» (1978, 1979). Аўтарка кнігі «Школьный театр». Нарадзілася ў 1954 годзе ў Мінску. Жыве ў Бярозе на Берасцейшчыне.

**Хадановіч Андрэй** – паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё», «Школа травы» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017), прэміі Наталлі Арсенневай (2019) і інш. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ягораў Валерый** – паэт, матэматык. Заснавальнік кампаніі ПУП «Сакрамент IT», якая займаецца распрацоўкамі ў галіне штучнага інтэлекту. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў г.п. Краснаполле на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

***POETRY***

**Andrej Khadanovič.** If We Make It to the Thaw... *Poems.*
**Ihar Sidaruk.** They Sew Our Mouths with Wire. *Poems.*
**Zmicier Zakharevič.** White Music. *Poems.*
**Valer Jahoraŭ.** Dreams of Flying. *Poetic Miniatures.*

***PROSE***

**Uładzimir Niaklajeŭ.** Gei ben-Hinnom. *A novel. (Continuation).*
**Uładzimer Arłoŭ.** Summer. *An excerpt from the novel.*
**Viktar Kaźko.** Simka-Sierafimka-2. *From the cycle "Lonkas, Vaśkas, Vałodźkas".*
**Maryja Sciafanava.** Verachka and Hannachka. *Short stories.*

***DEBUT***

**Nastassia Kazak.** Digital Eva. *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**Christine Nöstlinger.** Conrad: The Factory-Made Boy. *An excerpt from the novel. Translated by Arciom Arašonak.*

***ART***

**Adam Hłobus.** Lavon. *Words about rock musician Lavon Volski.*

***NOTES***

**Uładzimir Lipski.** Coronation of the Soul. *Confessions.*

***ESSAYS***

**Uładzimir Maroz.** The New Land of Yakub Kołas and the New Sky of Kazimir Malevich.
**Paval Abramovič.** "I Often Dream of Penny Buns..." *Yakub Kołas at a Mushroom Crossroads.*

***BOOKRONCLE***

**Vasil Žukovič.** The Seventh Height. *A review to the book by Leanid Levanovič.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

## Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2020 годзе:

***«Паэзія».*** **Міхал БАРАНОЎСКІ. За нізку вершаў «Ахова птушак Бацькаўшчыны», №105.**

***«Проза».*** **Сяргей РУБЛЕЎСКІ. За апавяданні «Дзень першы, дзень святочны...», №108.**

***«Дэбют».*** **Кася ІОФЕ. За нізку вершаў «Акварэль у клетачку», №109.**







**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў!**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.